Падпісны індэкс: **74813**
Чытайце «Дзеяслоў» у Інтэрнэце: **dziejaslou.by, facebook.com/dziejaslou**



Ілюстрацыі на вокладцы:
на 1-й стар.: Хаім Суцін, «Манастыр ордэна капуцынаў у Сэры», 1920;
на 4-й стар.: партрэт Хаіма Суціна пэндзля Амедэа Мадыльяні, 1917.




Пасведчанне аб рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 631 ад 28 жніўня 2009 г., выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Заснавальнік — ГА «Літаратурна-мастацкі фонд «Нёман».
Юрыдычны адрас: вул. Кузьмы Чорнага, 18–2, 220012, Мінск.



Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31–906, 220012, Мінск.
e-mail: dzieja@tut.by
www.dziejaslou.by
Тэл.: 354-80-91.



Здадзена ў набор 25.02.2022 г. Падпісана да друку 25.03.2022 г.
Фармат 70x108 1/16. Папера афсетная. Друк афсетны.
Аб'ём — 22 ул.-выд. арк. Наклад 400 асобнікаў. Заказ №

Паліграфічнае выкананне: сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Медысонт».
№ 2/34 ад 23.12.2013, ЛП № 02330/20 ад 18.12.2013.
Вул. Смалячкова, 9-113, 220005, Мінск.

Кошт нумара – па дамове.
Для чытачоў, старэйшых за 16 гадоў. 16+

№2 (117)
/сакавік-красавік/ 2022

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Мікола Гіль



...грамадою і сваю незалежную, вольную і прыгожую дзяржаву збудуем, дзе будзе добра ўсім добрым людзям рознага звання і прыналежнасці...

# Дамова

***Невелікодны аповед-байка***

Герой майго цалкам, як кажуць, рэалістычнага і разам з тым усё ж трошкі і дзівоснага аповеду – Раман Карпавіч Савасцей. Спытаеце, хто ён? А ніхто ўжо. Як сам пра сябе кажа, адстаўной казы барабаншчык. А калі папраўдзе – пенсіянер са стажам, і немалым ужо, бо Раману Карпавічу, дзякаваць Богу ці каму там іншаму, семдзесят з гакам.

Дарэчы, сам ён не любіць, калі яго называюць гэтак – Раман Карпавіч. І зусім не пасля таго, як аднойчы яго хтосьці жартам назваў Сазанам Карпавічам. Зрэшты, і падстаў для такога жарту не было б, калі б мы, беларусы, перакананы Раман Савасцей, не малпавалі расейшчыны. На добры стары лад да яго павінны былі б звяртацца спадар Раман ці спадар Савасцей, а дзеці і людзі маладзейшага веку – проста дзядзька Раман. На жаль, засмучаўся герой майго аповеду, пераранялі беларусы, забыўшыся на свае звычаі, расейскую форму зваротку. У Расеі ж яна сталася параджэннем шмат-

вяковага рабства-прыгонніцтва, у выніку чаго паноў велічалі “отчеством”, а дваровых і ўсіх іншых бяспраўных людцаў узнагароджвалі ўжо нават не імёнамі, а мянушкамі-клічкамі, нібы тое быдла ці сабаку – Філька, Цішка, Ягорка, Яшка...

Раман Савасцей, быў час, не думаў пра гэта і нешта падобнае да гэтага. Рос ён, гадаваўся, як і ўсе простыя савецкія людзі, у тагачаснай атмасферы афіцыйнай дружбы народаў і міжнароднага братэрства. Ёсць, існуе ў Савецкім Саюзе БССР, дык, значыцца, ён, Раман Савасцей, – беларус. На гэтым усё і сканчалася. Чым беларус адрозніваецца ад таго ж суседа-ўкраінца ці, скажам, рускага – пытання такога не паўставала. Наадварот, усё падводзілася пад адзін назоўнік: каб ніякіх адрозненняў не было наогул. Навошта гэтая дзяльба-цераспалосіца? Савецкі чалавек – от і досыць, гэтым усё і сказана.

І Раман Савасцей верыў, пагаджаўся: а й праўда досыць, больш анічога і не трэба. Яно нават і клопату праз тое менш. Усё аднолькавае, агульнае для ўсіх: і мова, і апратка, і жыллё, і звычаі. Тым больш, што панятак “савецкі чалавек” гучаў не проста звычна, а ганарова. Бо савецкі чалавек – не раб і нават не рабацяга нейкі, а – дзівіцеся, пралетарыі свету! – паўнапраўны і адзіны гаспадар вялікай, неабсяжнай краіны, што разлеглася “с южных гор до северных морей”. Ну, а што гэтаму гаспадару жывецца акурат як нікчэмнаму, пагарджанаму рабу, – пра гэта не тое што сказаць каму нельга было, але й падумаць нават. І Раман Савасцей, як і большасць ягоных знаёмцаў і незнаёмцаў, і не думаў. Бо поруч з усім іншым жыў у душы і страх, няхай сабе не надта і ўцямны. Зрэшты, уцямнасці гэтае ставала на тое, каб разумець, што трэба трымаць язык за зубамі, не вытыркацца і не лезці, куды не трэба, не спрачацца з начальствам і не дамагацца праўды і справядлівасці, бо інакш можаш лёгка і неўпрыкмет трапіць туды, куды і Макар цялят не ганяў, а то і далей.

З гэтым і жыў Раман Савасцей ад немаўляцкіх дзён да старасці, лічы. Скончыў школу, пайшоўшы ў першы клас у год вызвалення. Не быў выдатнікам, але і не двоечнікам. У інстытут не патрапіў – нават і не спрабаваў, ведаючы, што спадзеву мала. Падаўся ў тэхнікум, не надта выбіраючы і яго. У выніку пайшоў у людзі, ці лепш сказаць – на свой хлеб – улікова-бухгалтарскім работнікам. Пачынаў звычайным рахункаводам у калгасе. Пасля арміі трошкі праўдаю, а больш няпраўдаю ўбіўся ў Мінск. Спачатку не ў саму сталіцу, а ў прыгарад яе – у Бараўляны, у вучгас колішняга Інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі. Адтуль ужо праз некалькі гадоў перабраўся ў Мінск. Рабіў на розных заводах і фабрыках, падменьваў часам і галоўных бухгалтараў – досвед і вопыт з гадамі займеў немалыя, але і на пенсію пайшоў практычна шараговым бухгалтарам, бо вышэйшай адукацыі не дапяў, а без яе з кожным годам перспектывы і самага малога кар’ернага росту ўсё больш зводзіліся да нуля. Само сабою, паспеў – ужо ў Мінску – ажаніцца, займець двух сыноў, атрымаць на чатырох чалавек у рэшце рэшт трохпакаёвую “хрушчоўку”.

І пасля ўсё ішло, здаецца, звычным размераным шляхам: выраслі, вывучыліся сыны (абодва скончылі, апярэдзіўшы ў гэтым бацьку, універсітэт), пажаніліся, зрабілі Рамана Савасцея дзедам, падарыўшы яму ўнука і ўнучку. Усё, паводле выслоўя, як у людзей. Нават і лецішча ў вёсцы, на былым бацькоўскім котлішчы, таксама мае, на якім дзеці і ўнукі (зноў жа, як і ў людзей) бываюць гады ў рады, калі толькі раптам ускінецца ахвота

пахвастацца ў лазні і сасмажыць шашлыкі, і дзе ад вясны да позняе восені завіхаюцца ў градах і цяплічках адно сам ён, Раман Савасцей, ды ягоная троху маладзейшая спадарожніца – бадай, і яе варта тут назваць – Жана Аўксенцьеўна.

Ішло, а хутчэй кацілася (бо ўсё ж неяк надта хутка прамінула) гэтак вось жыццё героя майго аповеду, і нішто, здавалася, не паказвала на нейкія крутыя перамены ў ім. Ды, папраўдзе, нейкіх вонкавых змен ці перамен і не адбылося, калі не мець на ўвазе падзей 1991-га, 1994-га і пазнейшых гадоў. Перамены адбыліся, так бы мовіць, унутраныя, у самім Рамане Савасцею. У ягонай душы. Нават, калі хочаце, у светапоглядзе. Адбыліся нечакана, раптоўна і, што ці не самае важнае, рашуча і беспаваротна...

Тым восеньскім днём апынуўся ён паблізу могілак, якія ўсе ў Мінску завуць Маскоўскімі, хоць афіцыйная іх назва – Усходнія. Паехаў Раман Савасцей на той канец праспекта ў гаспадарчы магазін: шукаў для кухні, на замену старой, счарнелай і абабітай, новую ракавіну. Перад тым абышоў некалькі магазінаў і нідзе яе не знайшоў. Не было той злашчаснай ракавіны і там, у "Гаставарах" непадалёк ад могілак. Выйшаў ён з магазіна і прыпыніўся ў одуме, што рабіць, куды можна сёння яшчэ падацца ў сваіх пошуках. І міжволі звярнуў увагу, што нешта надта ж шмат людзей кіруецца акурат у бок могілак. Не стрымаўся, папытаў у нейкага маладзёна, куды гэта і чаго валіць столькі народу. Пачуў у адказ... пра нейкіх дзядоў. Спачатку быў не дацяміў, што за дзяды, а пасля дайшло: гэта ж акурат сёння восеньскія Дзяды, дзень памінання памерлых.

У родных Раману Савасцею мясцінах людзі хадзілі ў адведкі да памерлых родзічаў і сваякоў на Радаўніцу, што ў другі аўторак пасля Вялікадня. Раней мо і на Дзяды хадзілі, але ён таго ўжо не ведае. Прынамсі, ні ад маці, ні ад каго са старэйшых вяскоўцаў не чуў пра тое. Нарадзіўся ён акурат у год "самай дэмакратычнай у свеце" Сталінскай Канстытуцыі (гэтак, з вялікай літары, пісалі тады абодва словы), калі савецкі лад добра-такі ўсталяваўся, калі і папраўдзе, як у той песні, "усё пайшло на новы лад" і старыя звычкі практычна адышлі ў нябыт. Ні будучы малым (да вайны), ні падлеткам не бачыў Раман Савасцей (пэўна ўсё ж лепш будзе называць яго так, як яму самому падабаецца – спадар Раман ці дзядзька Савасцей), каб хто з вяскоўцаў, да прыкладу, маліўся. Адно ўлетку сорак першага пракацілася па вёсках хваля ўсеагульнага запозненага хрышчэння ўжо бадай што звычна раней няхрышчаных дзяцей. Казалі, што такіх немцы будуць расстрэльваць. Вось і везлі адусюль, з блізкіх і далёкіх вёсак, у райцэнтр, дзе ацалела адзіная на ўсю акругу царква, дзяцей самага螺нага ўзросту, часам нават пятнаццацігадовых, каб ахрысціць іх і тым самым ахаваць ад бяды. Карацей кажучы, жыццё было чыста савецкае – галоднае і галотнае, але вясёлае, з песнямі ды пастаноўкамі ў клубе, з лозунгамі і дэманстрацыямі. Месца для Дзядоў у ім, само сабою, ужо не было. А тут раптам, на шостым дзясятку гадоў, спадару Раману наўрэліся, як казала маці і як ён услед за ёю гаварыў, таемныя і незразумелыя Дзяды. І гэтак яму кінулася гэта ў галаву, што ўзяў ды пайшоў туды, куды па адным і купкамі ледзь не валам валілі людзі, найбольш маладзейшага веку, але нямала і сталых, нават, можна ўжо сказаць, і старых, як сам ён.

Спадар Раман амаль дадыбваў ужо да ўвахода на могілкі, як пачалося нешта незразумелае і нечаканае. З усіх бакоў, адусюль, адкуль толькі іх столькі і адразу ўзялося, наляцелі міліцыянеры і салдаты і пачалі хапаць

хлапцоў і дзяўчат, скручваць ім рукі, валачы, падганяючы дубінкамі і тумакамі, да машын. Усчаліся крыкі, енкі, лямант. Не верачы вачам і вушам сваім, не цямячы, што гэта вакол творыцца, спадар Раман разгубіўся. Паспрабаваў даць, як кажуць, ходу назад, ды не атрымалася: натоўп панёс яго зусім у другі бок, наперад. І так шпарка, што неўзабаве ён апынуўся ўжо ажно за могілкамі, бадай што ў полі. І тут нарэшце пачаў даходзіць да памяці, сёе-тое бачыць і чуць.

Найперш кінулася ў галаву тое, што людзі вакол, сярод якіх ён гэтак неспадзявана для сябе апынуўся, гаварылі пераважна па-беларуску, прытым не гэтак, як ён сам і многія з тых, каго ён ведаў і з кім стасункаваўся, а правільна, літаратурна, прыгожа. Гэта яго ўразіла. Раней не даводзілася яму быць сярод такіх людзей. Ён, бадай што, не думаў і не ўяўляў, мо нават і не верыў, што такія ёсць і што іх гэтак шмат. Прытым гэта былі пераважна маладыя хлопцы і дзяўчаты, многія амаль што падлеткі, хутчэй за ўсё вучні яшчэ, нават не студэнты. І размаўлялі яны між сабою не змушана, не прыдурняючыся, а натуральна, выдавала на тое, што яны звыклі акурат гэтак стасункавацца між сабою, а не інакш.

І нечакана, неспадзеўна да спадара Рамана дайшло, што, папраўдзе, так яно павінна было б і быць з усімі людзьмі ў Беларусі. Калі мы беларусы, завіравалі ў галаве думкі, дык між сабою нам і наканавана, належыць боскім лёсам зносіцца пры дапамозе беларускае мовы. Паўсюль у свеце гэтак і ёсць: немцы між сабою – па-нямецку, французы – па-французску, палякі – па-польску. І толькі адны беларусы – як нейкія вырадкі, толькі ў нас усё не як у людзей. І толькі мы быццам саромеемся сваёй мовы і ахвотна, пры першае ж магчымасці цураемся яе. Не задумваючыся пры гэтым. Маўляў, гэтак прынята ўжо, усе так робяць, дык чаго я буду ўпарціцца і выстаўляцца, ці ж я лепшы, за ўсіх астатніх разумнейшы. Ат, як усе, гэтак і я.

А чаму? – ці то сам у сябе, ці то ў кагосьці спытаў, прытым ці не са здзіўленнем, Раман Савасцей. Хто і калі ўбіў гэта ў нашы галовы? Чаму мы ўсе гэтак лёгка і дружна пагадзіліся з гэтым? Ці ж гаворыць усё гэта за нас як за людзей пэўнай нацыянальнасці, як за асобны народ, які, як і іншыя народы, таксама мае ўсё сваё, што належыць мець народу?

Дзядзька Савасцей (ды тады яшчэ Раман Карпавіч Савасцей) усё не мог ачомацца. І паспрабуй тут ачомацца! Аказваецца, пражыўшы ў Мінску больш чым трыццаць гадоў, ён не ведае роднага ўжо для яго і ягоных дзяцей горада. Аказваецца, ёсць і во гэткі Мінск – цалкам беларускамоўны. І, што самае галоўнае, папраўдзе блізкі і родны яму. Якраз усведамленне гэтага найперш і найбольш усцешыла яго, нейкім незразумелым, але тым не менш патаемным і добрым пачуццём сагрэла душу.

І ён пайшоў за гэтымі людзьмі, нязнанымі ім дасюль мінчукамі, гэтак неспадзеўна і раптоўна адчуўшы сваю ўласную еднасць з імі. Ішоў па полі, каб неўзабаве разам з усімі ўкленчыць ці то ў малітве за памерлых і змардаваных, ці то ў клятве за светлую будучыню Беларусі. Сыпаўся з неба дробны, яшчэ не зімовы, а чыста восеньскі сняжок, але ён не заўважаў яго. Як не заўважаў і пасля, стоячы ў шчыльным, плячо ў плячо, натоўпе ў Курапатах, пад шатамі соснаў, слухаючы нязвычныя для вуха, але надта ж кранальныя для душы і сэрца, запамінальныя для розуму словы прамоўцаў пра жудасныя расправы з бязвіннымі людзьмі, што чыніліся тут сталінскімі апрычнікамі ў перадваенныя гады, пра святую і

вечную памяць незлічоных ахвяр, пра тое, што тут, у Курапатах, з часам, калі Беларусь будзе вольнай і незалежнай краінай, паўстане годны гэтай памяці мемарыял...

Вось з таго позневосеньскага дня 1988 года, з таго яшчэ па ўсіх сваіх праявах і адметнасцях чыста савецкага часу і пачаліся згаданыя вышэй перамены ў жыцці майго героя. І не такія малыя, як можа каму падацца. У душы Рамана Карпавіча Савасцея адбыўся, калі гаварыць па вялікім рахунку, сапраўды карэнны пераварот, ці лепш, бадай, сказаць – рэвалюцыя. На свет, па-сутнасці, нарадзіўся новы чалавек. Не беларус паводле пашпарта (тады ў пашпартах пазначалася нацыянальнасць уладальніка), а сапраўдны, паводле, так бы мовіць, свайго самаўсведамлення і самавыяўлення. Нарадзіўся спадар Раман, ці, для нейкага іншага выпадку, дзядзька Савасцей.

Перш-наперш ён пачаў цікавіцца публікацыямі і літаратурай нацыянальна-адраджэнцкага зместу, выпісаў, на ўздзіў сям'і і суседзяў, пісьменніцкі штотыднёвік "Літаратура і мастацтва", сачыў за афішамі і стараўся патрапіць на вечарыны, прысвечаныя падзеям і датам з гісторыі і культуры Беларусі, хадзіў на мітынгі і імпрэзы ўзніклых неўзабаве нацыянальна-дэмакратычных рухаў і партый. І, вядома ж, паўсюль і з усімі сам загаварыў па-беларуску.

У сям'і гэты ягоны крок успрынялі спакойна. Жонка бадай што наогул не зрэагавала. Сама яна, нарадзіўшыся і вырасшы ў лагойскай вёсцы, гаварыла на трасянцы, прытым бліжэйшай да беларускай, чым да рускай мовы, толькі часам, пры нагодзе, калі не хацела выстаўляць на паказ сваю вясковасць, старалася "русіць" па-сапраўднаму. Спадар Раман, маючы на працы ўвесь час справу з паперамі, хай сабе і посна-ўліковымі, змушаны быў больш трымацца рускай мовы і паступова прызвычаіўся выказвацца на ёй амаль правільна, прынамсі – досыць прыстойна. Але – толькі на працы. Дома ж у маўленчым рэжыме кантраляваў сябе не надта строга. Аднак жа на трасянку не пераходзіў. Хатняе паслабленне маўленчага рэжыму часцей выяўлялася ў тым, што спадар Раман прамаўляў па-беларуску цэлыя сказы, кшталту пажаданняў ці просьбаў, а яшчэ ў тым, што ўстаўляў у гаворку па-руску беларускія прымаўкі і прыказкі, упадабаныя калісь радкі і асобныя выразы ці словы з вершаў і баек паэтаў. Сыны ж – адзін к таму часу ўжо быў студэнтам, а другі хадзіў у дзявяты клас – бацьку з ходу падтрымалі: атмасфера перыяду гарбачоўскай перабудовы рабіла сваё, дабратворна ўплываючы найперш на моладзь. У прыватнасці, ідэі дэмакратызацыі жыцця наогул і нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі чуйней і вастрэй успрымаліся акурат моладдзю, у першую чаргу, вядома, студэнцкай і вучнёўскай. У выніку ў сям'і Савасцеяў неўзабаве ўсталявалася, можна сказаць, беларускамоўная аўра.

На працы ж раптоўную і рашучую "беларусізацыю" спадара Рамана ўспрынялі не адразу і не ўсе. Сёй-той, асабліва на пачатку, спрабаваў пацвельвацца, нават перакрыўляць-перадражніваць ягоныя словы, а то і злавацца-абурацца: маўляў, што за выбрыкі, дзеля чаго, каму гэта трэба... Ды нечакана яго актыўна і прыязна падтрымала каляжанка, ад якой спадар Раман менш за ўсё чакаў не тое што падтрымкі, а нават і звычайнага паразумення. Гэта была чыстакроўная, як кажуць, расейка, родам, здаецца, з Разаншчыны. У Беларусь жанчына патрапіла разам з мужам-вайскоўцам, таксама расейцам. Дык от яна пасля аднаго з наскокаў на Савасцея абру-

селага да непрымання ўсяго роднага беларуса сказала: “А мне нравится! Не всегда понятно, но – красиво! Намного красивее, чем по-польски. И занятно как-то. Вы, Роман Карпович, не обращайте на них внимания, разговаривайте по-белорусски. Хоть это будет говорить о том, что мы живём в Белорусии, а не непонятно где...” Асабліва даспадобы былі спадарыні Фраловай (такое прозвішча мела каляжанка) Савасцеевы застольныя прымаўкі. Раней, яшчэ, здаецца, зусім нядаўна, работнікі аддзела хадзілі абедаць у сталоўку, а цяпер гэта стала не па кішэні. Перакусвалі тым, што прынеслі з дому, тут жа, у аддзеле. І спадар Раман, быццам жадаючы дадаць усім апетыту, раз-пораз прыгаворваў: “Чалавек галодны ні на што не годны”, “Якая яда, такая й хада”, “Вялікі кусок дзярэ раток”, “Не дораг абед, а дораг прывет”, “Смачна было, ды блізка дно”, “Дзе каша і аладка, там будзе й грамадка”, “Адзін з’еш хоць вала – адна хвала, а як станеш з людзьмі есць – будзеш мець чэсць”... Гэткія прыгаворкі прымалі нават і тыя надта “рускія” тубыльцы, якія найбольш крывіліся і абураліся “прыдурваннем” калегі Савасцея.

Новым інтарэсам, а разам з ім і новым зместам напоўнілася жыццё спадара Рамана. У 1990 годзе ён стаў членам групы падтрымкі кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР, вядомага ў краіне паэта. Некалькі вечароў, пасля працы, а ў выхадныя і ўдзень спадар Раман абыходзіў кватэры мінчукоў, агітуючы іх насельнікаў галасаваць акурат за гэтага кандыдата. І быў рады, што амаль паўсюль людзі сустракалі яго ветліва, прыязна, уважліва выслухоўвалі, задавалі нямала пытанняў. Значыць, людзі пакрысе адтайваюць душою, скідваюць з плячэй шматгадовую прыніжанасць, пазбаўляюцца такога ж шматгадовага страху.

У 1991 годзе спадар Раман уступіў у Беларускую сацыял-дэмакратычную грамаду. Першапачаткова трошкі вагаўся, куды падацца: у БНФ ці ў Грамаду? Пераважыла Грамада. Мэты і задачы ў абедзвюх партый пазначаліся нібы адны і тыя ж, ды ўсё ж... У першай яго трохі бянтэжыла само слова фронт. Ну які фронт? Прычым тут фронт? Супраць каго? Зноў супраць белых? Ці, можа, ужо супраць чырвоных? Зусім іншы дух і змест у слова грамада. Сваё гэта слова, наскае, роднае. Беларусы адвеку ўсё рабілі акурат грамадою. Грамадою лес валілі, ляда ўздымалі, жыта сеялі, малацілі, касілі, студні капалі, хаты ставілі. Што ні вазьмі – усё грамадою. От грамадою і сваю незалежную, вольную і прыгожую дзяржаву збудуем, дзе будзе добра ўсім добрым людзям рознага звання і прыналежнасці. Таму і стаў Савасцей грамадоўцам. Са спадзевам на тое, што Грамада ў хуткім часе стане галоўнай партыяй Беларусі, якая і павядзе за сабой увесь працоўны беларускі люд, якая ўзначаліць усенародную працу па адбудове нашай незалежнай тысячагадовай дзяржавы.

Ды, на жаль, спадзевам тым не дадзена было здзейсніцца. Памёр, нечакана і раптоўна, мудры і аўтарытэтны аднаўленец і стваральнік Грамады, а ягоныя пераемнікі вельмі ж хутка давялі партыю да развалу. Не партыю яны бачылі ў сабе, а сябе ў партыі, аказаліся ўсяго толькі каліфамі на час, амбіцыйнымі самаўлюбёнцамі. Тое ж здарылася і з Фронтам. Бяссілле, імпатэнтнасць іх найбольш ярка праявіліся ў час выбараў першага прэзідэнта Беларусі. Выключылі з выбарчай барацьбы найбольш вартага і верагоднага на погляд Савасцея пераможцу Генадзя Карпенку, пакінуўшы народ практычна без выбару. Выбары былі, другія за ўсю гісторыі Беларусі, сапраўды свабодныя, а выбіраць не было з каго. Ніхто з канкурэнтаў дырэк-

тара саўгаса не мог яму супрацьстаяць. Адзін – бо савецкі, камуністычны чыноўнік, які глядзеў адно ў бок Масквы і веры якому не было ў людзей аніякай. Другі – нядаўні кіраўнік дзяржавы, які страціў пасаду проста-такі анекдатычным чынам, выявіў сваю поўную бездапаможнасць штосьці вырашаць разумна і прынцыпова, а не падменьваць яе пустапарожняй балбатнёй, бесхрыбетнасцю і, да ўсяго, неразумнаю ўпартасцю. Трэці – бо зашораны, апантаны антыкамуніст і антырасеец, прытым яшчэ і каталік, які замест таго, каб прыхаваць гэта, прылюдна дэманстраваў сябе ў касцёле, быццам не цямячы, што на той час беларусы ў масе сваёй не маглі зрабіць свой выбар на карысць верніка польскага касцёла (апошні, на жаль, быў і ёсць у Беларусі акурат польскім).

Спадар Раман асабіста сам галасаваў і агітаваў галасаваць іншых (сяброў, сваякоў, знаёмых) за другога – Шушкевіча. Як кажуць, выбіраў меншае зло сярод большых. А Шушкевіч, пры ўсёй ягонай нерашучасці і недальнабачнасці, воляю лёсу ці выпадку быў усё ж “белавежскім зубрам”, меў арэол ліквідатара “імперыі зла” Савецкага Саюза і стваральніка СНГ, да ўсяго выяўляў сябе нацыянальна-свядомым беларусам. І Савасцей быў, вядома, засмучаны вынікамі першага тура. Настолькі, што галасаваць у другім туры не пайшоў наогул. Не хацеў хоць нейкім чынам удзельнічаць ва ўжо неаспрэчным прыходзе да ўлады таго, каго не хацела і не магла прыняць душа: калі і не ворага, дык відочнага нядобразычліўца беларушчыны.

Не памыляўся спадар Раман, як і сотні тысяч, мо нават і не адзін мільён іншых беларусаў, калі дапускаў, што з выбраннем такога ППРБ (гэтая абрэвіятура чамусьці лёгка асацыявалася ў яго з ПТР, якое было на ўзбраенні яшчэ і тады, калі Раман Савасцей адслужваў абавязковую вайсковую) лёс краіны з назваю Беларусь можа прыдбаць трагічны накірунак. Як ні горка гэта ўсведамляць, так і сталася. Усе зробленыя яшчэ ў апошнія гады савецкай улады і ў першыя гады незалежнасці захады і крокі па шляху нацыянальнага адраджэння Беларусі былі адменены, спынены, ліквідаваны, закансерваваны, а то і вернуты практычна ўсе колішнія савецкія парадкі і ўстаноўкі, выбудавана яшчэ больш жорсткая і адмысловая, чым за савецкім часам, выканаўча-ўладная чыноўніцкая вертыкаль. Пасля трох-чатырох гадоў сапраўды дэмакратычнага жыцця ў краіне зноў запанаваў колішні аўтарытарны рэжым, толькі крыху іншага, ніжэйшага, так бы мовіць, калгасна-саўгаснага рангу ці кшталту. Да ўлады, бачыў спадар Раман, прыйшлі не былыя выкшталцоныя камуністычныя бонзы з чырвонымі дыпломамі, а серадначкі, нават троечнікі, амаль спрэс выпускнікі правінцыяльных інстытутаў (пасла названых па модзе ўніверсітэтамі) і славутай сельгасакадэміі. Краіну ахінула атмасфера ўсеагульнага абсурду і прафанацыі ва ўсіх галінах эканомікі, грамадска-сацыяльнага жыцця, навукі, інфармацыі, адукацыі, культуры, спорту ўрэшце. Уражанне такое, часта думаў герой аповеду, што краіна, а разам з ёю народ наш жыве не ў рэальным свеце, а ў нейкім прыдуманым, паралельным, віртуальным, дзе ўсё добра, складна, дарэчна, хораша, нават выдатна і слаўна, што ў самым цэнтры Еўропы створана і бездакорна, а самае галоўнае – стабільна функцыянуе найшчаслівая, найбагатая, наймагутная ва ўсіх адносінах народная рэспубліка, вось толькі свет чамусьці не хоча гэтага заўважаць, прымаць і захапляцца.

Найбольшы ж абсурд тычыцца мовы карэннага, тытульнага народа

гэтай квітнеючай рэспублікі, – беларускай мовы. З-за яе гаротнага стану найперш баліць душа і ные сэрца ў спадара Рамана. У незалежнай, суверэннай Рэспубліцы Беларусь улада ўмудрылася правесці рэферэндум, каб пазбавіць яе статуса дзяржаўнай. І правяла, і пазбавіла. Бо толькі якому-небудзь апошняму ёлупню ці яшчэ хіба заклятаму ворагу беларушчыны незразумела, што ў рэальнай нашай сітуацыі беларуская мова не можа канкурыраваць нароўні з рускай, што першая абавязкова і беспаваротна асуджана ў такіх варунках на выцясненне з усіх сфер ужытку, ліквідацыю і канчатковае знішчэнне.

Гэта і адбываецца на нашых вачах, горка ўздыхае вось ужо амаль паўтара дзясятка гадоў стары Савасцей. Беларуская мова ў краіне з назваю Рэспубліка Беларусь сёння ўсяго толькі нешта кшталту этнаграфічнае акрасы, поруч з саламяным павуком ды гліняным саганком. Яна фактычна апынулася ў тым жа становішчы, у якім была ў царскай Расіі: жыла ў гаворцы вясковых тубыльцаў і дапускалася да ўжытку ў навуковых публікацыях фальклорна-этнаграфічнага характару. Спадар Раман часта прыгадвае чытанае аднойчы выказванне Мураўёва-вешальніка пасля падаўлення паўстання на Беларусі 1863-64 гадоў: “Тое, што не дарабіў тут рускі штык, даробяць руская царква, рускі чыноўнік і руская школа”. Царква, чыноўнікі і школа дараблялі мураўёўскую справу не адно дзесяцігоддзе. Але дзіўная штука: расейскія каланізатары быццам бы вынішчалі на Беларусі пальшчызну, ды тым самым не спрыялі адраджэнню беларушчыны, а насаджалі расейшчыну. Пасля тое ж рабілі бальшавікі, няхай сабе ўжо пад шыльдаю інтэрнацыяналізму. А сёння іх справу з поспехам працягваюць свае манкурты і янычары. Спадару Раману ажно ўжо проста гідка слухаць цынічную хлусню пра росквіт беларускай культуры ў апошнія гады. Пра які росквіт можа ісці гаворка, калі з дзяржаўнага ўжытку начыста выкінута мова беларускага народа? Самае жахлівае, што амаль паўсюдна рускамоўнай стала на Беларусі школа. Міністр адукацыі без крупінкі сораму гаворыць ажно пра дваццаць (!) працэнтаў школ, якія нібыта навучаюць дзяцей на беларускай мове. Але ж стары і неаднойчы стрэляны верабей Раман Савасцей ведае, што гэта пераважна невялікія, так званыя калісь малакамплектныя вясковыя школы. Да таго ж, калі папраўдзе, дык і яны не зусім беларускамоўныя, бо сёння аніхто і нідзе не прытрымліваецца колішняга савецкага адзінага моўнага школьнага рэжыму. Сёння ў тых нібыта беларускамоўных школках беларуская мова ў самым лепшым выпадку прысутнічае адно на ўроках, а па-за імі паўсюль пануе тая ж фактычна адзіная сапраўды дзяржаўная руская мова. А, між тым, школа – асноўная, падмуркавая цаглінка жыццядзейнага моўнага дома любога народа. Без школы на роднай мове ў народа няма будучыні. Стары рахункавод Савасцей гэта разумее. А вось спадар (не, хутчэй – гаспадзін) міністр народнай адукацыі чамусьці не разумее. Парадокс? Абсурд? О, колькі гэтакіх парадоксаў і абсурдаў падносіць нам сённяшні нанатэхналагічны час!

Спадар Раман даўно ўжо, кажучы сабе гэтак у думках, не пасміхваецца. Грэшна стала пасміхвацца. Гэта ж тое самае, што скакаць на кладах продкаў. А ён ужо ўсё часцей і часцей думае акурат пра гэтыя самыя клады. Пасля сямідзесяці нельга не думаць. Калі верыць статыстычным паказчыкам, дык ён, Раман Савасцей, зажыўся на гэтым свеце. Сярэдні век мужчын у квітнеючай Рэспубліцы Беларусь – шэсцьдзесят два гады,

а ён ужо восьмы дзясятак размяняў. Ды што там статыстыка! Ён і без яе ведае, што нахабна парушае беларускія стабільныя стандарты. Часам азірнецца назад, прыгадае сяброў і знаёмцаў прыкладна аднаго з ім веку і – жахнецца: амаль нікога не засталося, усе надта нейк недарэчна дружненька адышлі ў лепшы свет. А ён вось яшчэ на гэтым. І пакідаць яго Савасцею, не ў крыўду аднагодкам кажучы, не хочацца. Надта ж прагне душа затрымацца тут, дачакацца нейкіх лепшых змен, нейкае прасветліны ў лёсах дзяцей і ўнукаў. Быць таго не можа, што кон нашага народа такі жорсткі і бязлітасны, што стаіць ён на краі бездані. Не заслужыў ён гэтага сваёй цярплівасцю, ціхмянасцю, памяркоўнасцю, працавітасцю, ветласцю, душэўнай спагадлівасцю і сардэчнай дабрынёю.

Першыя гады “новай эпохі” спадар Савасцей актыўнічаў на, так бы мовіць, грамадскім фронце: хадзіў на мітынгі і шэсці, на іншыя апазіцыйныя мерапрыемствы. Ды з часам актыўнасць гэтая пачала мізарнець. І зусім не таму, што двойчы ці тройчы яму добра-такі перападала ад дубінак “ахоўнікаў беларускай рэвалюцыі”, а неяк і немалы штраф вымушаны быў заплаціць. На гэта спадар Раман мог бы асабліва і не зважаць: ведаў, куды ішоў і чым рызыкаваў. Пачалі адольваць сумненні іншага плану, гнятлівыя думкі ад адчування, нават ці не прадчування нейкае нібы асуджанасці, безнадзейнасці справы дэмакратызацыі ў краіне і нацыянальнага адраджэння Беларусі. Прынамсі, на доўгія і доўгія гады, бо без прымусу ўладу з рук не выпусціць нізавошта. А сілы, якая прымусіла б яго пайсці на гэта, няма і ніштo не гаворыць пра тое, што яна хутка з’явіцца. Тыя, хто рэпрэзентуе сябе лідарамі апазіцыі, ужо бадай і не ставяць перад сабою мэты калі-небудзь прыйсці да ўлады, задавольваючыся статусам “вечнага апазіцыянера”. Зрэшты, іх можна нават зразумець. Створаная ў краіне сістэма амаль начыста пазбавіла апазіцыю магчымасцей працаваць, весці ў грамадстве растлумачальную і арганізацыйную работу. Што ў гэткіх умовах застаецца? Імітаваць такую працу, а ў выніку атрымліваць сякія-такія фінансавыя субсідыі і гранты, што дазваляе досыць бязбедна жыць, ездзіць у багатыя замежныя краіны самім і вучыць, уладкоўваць там сваіх дзяцей. Неяк неўпрыкмет спадар Раман пакрысе адыходзіў ад сваёй калісь такой дарагой і паважанай Грамады, а неўзабаве і зусім сышоў.

Падупаў духам спадар Раман яшчэ ў дзевяноста восьмым, калі яму споўнілася шэсцьдзясят і калі яго тут жа, з ходу, выперлі на пенсію. Аказаўся ён зусім не падрыхтаваным да гэтага, хоць быццам і сам меркаваў зрабіць акурат гэтак. Але гэта раней, яшчэ за савецкім часам, калі ведаў, што на пенсіі будзе яму гарантавана сапраўды спакойнае і бязбеднае жыццё. Тады Раман Карпавіч, бадай што, чакаў таго часу. А калі сапраўды ён надышоў, сітуацыя карэнным чынам змянілася. Спадар Раман пасля выхаду на пенсію адразу ж адчуў сябе жабраком. І з кожным годам гэтае адчуванне адно абвастралася. Сталася так, што пенсію яму пачалі прыносіць дадому. Ён аб такой ласцы не прасіў, але, дурань, і не адмовіўся. Калі б атрымліваў пенсію, як раней казалі, у сберкасе, мо даўмеўся б штомесяц нейкі рубель-другі пакідаць на рахунку – за гады нешта, пэўна, сабралася б. А прынесеныя дадому грошы znікалі хуценька і без знаку, як вада пасля летняга дажджу. Нястача іх зрабілася заўсёднай. Ледзь хапала грошай на харчы ды на аплату кватэры. Добра яшчэ, што парупіліся з жонкай у свой час пра бялізну, адзенне і абутак. Бо калі б трэба было траціцца і на гэта, наогул былі б кранты.

За савецкім часам спадар Раман таксама не быў надта багатым, аднак жа капейкі не лічыў, нават сёе-тое адкладваў, як людзі па звычцы казалі і тады, на чорны дзень. Назбіралася на ашчаднай кніжцы няшмат, нейкія тры тысячы, якія ляснулі ў памятным дзевяноста першым. Шкада было, вядома, аднак жа ўсё на свеце забываецца, паступова забылася і гэтая страта. Ды начыста пра яе забыць не давала сама ж новая ўлада – частымі гаворкамі пра кампенсацыю колішніх савецкіх укладаў. Пасміхваўся горка Савасцей з тых абяцанак-цацанак. Хто, на прамілы Бог, кампенсуе? Новыя мільянеры, што невядома адкуль гэтак раптоўна з'явіліся? Гаспадары казачных палацаў і замкаў вакол Мінска і іншых гарадоў? Дык гэта ж яны ўсіх і абрабавалі, абадралі, як ліпку, мільёны такіх вось, як і ён. Шырэй падстаўляй кішэнь!

Тым не менш, калі спадару Раману пераваліла за семдзесят, ён атрымаў ліст, у якім яго запрашалі зайсці ў банк "по вопросу компенсации вклада". Здзівіўся Савасцей, але – пайшоў. Падаў у акенца запрашэнне. Дзяўчына зірнула ў яго і спытала: "Будете получать?" Ён кіўнуў. Неўзабаве яна падала яму паперку з просьбаю паставіць свой подпіс. Распісваючыся, зірнуў, колькі ж яму адвалілі сённяшніх за тры тысячы колішніх. Кінуліся ў вочы лічбы 1 і 5. Падумаў – паўтара мільёна? Няшмат, вядома, ды, як кажуць, з паршывай авечкі хоць воўны касмыль. І якое ж было расчараванне, калі тыя адзінка і пяцёрка азначалі ўсяго толькі пятнаццаць тысяч! Хацеў Савасцей адмовіцца, ды дзяўчына за шклом ледзь не ў слёзы: маўляў, вы ж распісаліся, што згодны, я ўсё аформіла, рахунак закрыла... Плюнуў ён і цішком падаўся на вуліцу. Ішоў і хацелася яму, каб быў звычны, мацюкацца ўголас. Не ад крыўды і жалю – яны забыліся ўжо, а – ад страшэннае, незаслужанае абразы! Мала што абрабавалі, дык яшчэ гэтак напляваць яму ў душу. За тры тысячы савецкіх рублёў ён мог бы набыць усе восем тэлевізараў, палову жыгуля, румынскі мэблевы гарнітур ажно з шаснаццаці прадметаў... А сёння яму, бы апошняму бамжу, тыцнулі на дзве пляшкі самай таннай гарэлкі. Не, думаў спадар Раман, брыдучы дахаты, мо і была калі-небудзь такая ж несправядлівая ўлада, ды такой подлай, па ўсім, не было...

Час ад часу пенсіі павялічваліся, але цэны і жыллёва-камунальныя кошты раслі куды хутчэй, і спадар Савасцей не-не ды канстатаваў з сумам, што ніщто гэтак не прыгнятае і не прыніжае чалавека, як беднасць. Але-але, і гэтая якасць жыцця не ў малой ступені таксама паўплывала на ягонае самапачуванне грамадзяніна. Беднасць ці абвастрае ў людзях азлобленасць і вяўнічасць, ці, наадварот, спараджае пакору і абыякавасць. Спадар Савасцей з жалем адчуваў, што належыць да апошніх. Ён ніколі не быў ні зласліўцам, ні ваяўнічым, заўсёды быў схільны да таго, каб усё вырашаць ціхамірна і справядліва. Хоць, здаецца, не быў раней і абыякавым, тым больш пакорлівым. Ды, зноў жа, гэта – раней, калі жыццё ішло раз і назаўсёды вызначанымі каляінамі. А зараз дзе і якім чынам праявіць сваю неабыякавасць, сцвердзіць сваю чалавечую годнасць і непакорлівасць? Ага, паспрабуй толькі – адразу ўведаеш, дзе ракі зімуюць!

Ды, можа, віна тут не аднае беднасці. Мо найбольш прыніжае, абязвольвае чалавека, змушае яго апускаць крылле беспрасветнасць, бесперспектыўнасць, тупіковасць жыцця. І не так яго ўласнага, як жыцця роднай краіны, роднага народа. Пра самога сябе спадар Раман бадай што ўжо і не думае. Што тут, зрэшты, думаць? Жыццё, як ні лічы, пражыта. Добра,

блага, але – пражыта. Засталося, як кажуць, нуль цэлых і нуль дзясятых. Ну, мо не зусім нулі, мо пашчасціць яшчэ на нейкія адзінкі ці двойкі. Шкадаваць яму аб чым-небудзь асабліва няма прычын. Дзякаваць Богу, і сам яшчэ на нагах, і жонка пакуль што ў сіле, вядзе рэй і дома, і на лецішчы. І за дзяцей яму не сорамна – выраслі разумнымі і дарэчнымі, і ўнук з унучкаю не засмучаюць дзеда з бабай. Жыві, Рамане, і не шманай! Дык жа – не! Смокча душу, несупынна і неадступна, нейкі смоўж нэндзы, дайце веры, з-за гаротнага стану Беларусі. Жыў калісь бяздумна, дык папраўдзе не шманаў. А собіла задумацца, дык і прапала некуды тое нешмананне.

Спадар Раман разумее, што не выпадкова гэта. З чытанага за апошнія гады ведае, што цягам немалога ўжо часу, цэлых стагоддзяў, такая быццам доля беларуса – акурат нэндзіцца. Былі ўзлёты, ды, на жаль, надта ж кароткачасовыя – у дваццатыя ды ў дзевяностыя гады мінулага стагоддзя. І абодва разы ўзлёты тыя жорстка, бязлітасна абарвала адна і тая ж д’ябальская сіла. Першы раз, як ні старалася яна рэзаць беларушчыну на нашай зямлі пад самы корань, усё ж не змагла вынішчыць яе дарэшты. Шмат гадоў спатрэбілася Беларусі, яе народу на тое, каб акрыяць і заявіць аб сваім праве на незалежнасць. Ды зноў была аддадзена каманда: “Асадзі назад!” Прытым не проста каманда затармазіць, прыпыніць рух нашага народа да нацыянальна-культурнага і дзяржаўнага адраджэння, а ліквідаваць, адкінуць, знішчыць усе пазнакі яго, паставіць апошнюю кропку ў трагічным лёсе Беларусі. І робіцца гэта як ніколі раней подла і цынічна: нібыта рукамі саміх жа беларусаў, нібыта паводле іх уласнага волевыяўлення, дзеля чаго быў ініцыяваны і праведзены ганебны рэферэндум.

Амаль пяць з паловай дзесяцігоддзяў жыцця спадара Савасцея пазначаны савецкім часам. Не праклінае і не бэсціць ён тыя дзесяцігоддзі – усё адно ўжо нічога ні вярнуць, ні змяніць. Нейкія згадкі прыносяць нават радасць і ўцеху – усё ж там прайшла ягоная маладосць. Ды куды часцей яны прыносяць боль і смутак. Цяпер ён ведае, які той час быў бяздушны, бязлітасны, жорсткі да чалавека. А яшчэ – колькі тады было хлусні, падману і фальшу! Хлусня была ў аснове ўсяго, што гаварылася і рабілася ў краіне перамогшага сацыялізму. Часам пачне думаць і ўспамінаць, дык ажно месца сабе не знаходзіць ад сораму, горычы і болю: як яны трывалі ўсё тое, як наогул маглі жыць, працаваць, адпачываць і нават весяліцца ва ўмовах той усеагульнай, проста-такі татальнай савецкай хлусні, а перадусім – страху.

А пасля схамянецца, вернецца думкаю ў сённяшні дзень – і пачуццё сораму, горычы і болю адно ўзрасце. Тады людзі жылі ў няведанні, ім змалку ўбівалі ў галовы хлусню пад маркаю праўды.

А цяпер, сёння? За гады перабудовы, за першыя гады набытай краінай незалежнасці ў людзей на многае расплюшчыліся вочы, не толькі моладзь, але і старэйшыя пакаленні са згаладалай прагаю зажадалі праўды і справядлівасці, павагі і абароны іх правоў і чалавечай годнасці. А з чым сутыкнуліся? З той жа хлуснёю, з тым жа падманам, з тым жа фальшам, з той жа бессаромнай балбатнёю і безадказнымі абяцанкамі, хіба толькі больш цынічнымі, чым раней, бо – непрыхаванымі, відочнымі, незакамуфляванымі пастулатамі так і не прыдуманай дасюль новай дзяржаўнай ідэалогіі. А перадусім, як і раней, у краіне зноў запанаваў страх.

Вось таму і смокча душу старога Савасцея смоўж згаданай вышэй нэндзы. Сам ён, вядома, сяк-так дажыве і ў атмасферы гэтай савецка-калгаснай

паранойі. А дзеці, унукі? Як ім жыць, што рабіць? За мяжу з’язджаць, як шмат хто робіць? Прыстасоўвацца? Ні старэйшы, ні малодшы сыны, ведае пэўна, Беларусі не выракуцца. Не ўмеюць яны і прыстасоўвацца. У выніку жывуць з плеч у печ і з разладам у душы, бо абодва, не прымаючы розумам і сэрцам існуючы рэжым, тым не менш вымушаны працаваць у дзяржаўных установах (адзін у школе, другі – у НДІ) –трэба ж неяк жыць, утрымліваць сям’ю. З-за дзяцей найперш і нэндзіцца стары Савасцей. Самому яму выпала доля амаль усё жыццё пражыць у паняверцы, дык і дзецям, па ўсім, свеціць тое ж самае.

А тады ж, як над Домам урада залунаў нацыянальны сцяг, здавалася, што мара беларусаў заняць свой пачэсны пасад між народамі ў рэшце рэшт здзейснілася. У салодкіх лятунках і светлых надзеях жыла ў той час душа спадара Рамана. Хораша думалася пра будучыню Беларусі пад гаспадарскім прыглядам саміх беларусаў. Людзі акрыяюць, развінуць плечы, на ўсю моц уключаць у работу свой разумовы і фізічны патэнцыял. І праз нейкі час не пазнаць будзе нашай дарагой сэрцу Бацькаўшчыны – яна стане не паказной, а сапраўды зялёнай, дагледжанай, упарадкаванай, усё ў ёй будзе даведзена да ладу, зроблена з думкаю пра чалавека – каб яму жылося тут добра, зручна і ўтульна. Беларусь бачылася цывілізаванай еўрапейскай краінай кшталту Чэхіі, дзе ўмеюць не пагарджаць і чужым, але дзе найперш шануюць і зберагаюць сваё, бо толькі акурат гэтым сваім і праз сваё кожны народ і цікавы іншым народам. Дык жа прэзідэнтамі той самай Чэхіі былі, да прыкладу, сусветна вядомыя вучоны-славіст Масарык і драматург Гавэл – не абы каму давяраў народ кіраваць краінай. А калі наш народ дарасце да такой адказнасці, да такога разумення сваёй ролі і паводзін?

На жаль, не дадзена нашаму цяляці ваўка спаймаці. Як раптоўна і неспадзеўна пачалося ўсё ў 1991-м, гэтак жа раптоўна, але ўжо не неспадзеўна, усё і скончылася. Вярнуліся ў краіну, ужо ў маленькую, пад новай назвай Рэспубліка Беларусь, ранейшыя вялікадзяржаўныя хлусня, фальш і страх. І чым далей, тым болей – як у прымаўцы пра лес і дровы. І з кожным разам прыбаўлялася нэндзы ў душы спадара Рамана. Куды ні кінь – усюды, як кажуць, клін. Раней пры знаёмстве людзі з задавальненнем называлі сваю спецыяльнасць: інжынер, настаўнік, урач, токар, геолаг... Цяпер жа не надта ахвотна і не надта ўцямна кажуць: прадпрымальнік нібыта, сяк-так перабіваюся, вартаўнік, ахоўнік, беспрацоўны... І гэтак цягам амаль дваццаці гадоў. Некалькі пакаленняў практычна не маюць спецыяльнасці. Народ дыскваліфікуецца, папраўдзе ж дэградуе – і псіхалагічна, і культурна, і маральна, і сацыяльна. А вертыкальшчыкам рознага рангу на ўсё гэта начхаць. Для іх народ наогул быдла. Адпаведна і адносяцца яны да людзей, як да быдла. Нібы стары, даўні час вярнуўся: пан (князь, граф) раскашуе ў замку, а конюх спіць побач з канём на стайні... Хіба ж апошні будзе ўдзельнічаць, прытым свядома, у нейкіх выбарах? Яму й думка такая ў галаву не прыйдзе!

Апошнія гады ад ранняе вясны да позняе восені жыў спадар Раман амаль невылазна на лецішчы. Вёў, як сам сабе казаў, раслiннае жыццё – па аналогіі з аднайменнай назвай перадачы расійскага тэлебачання, якую часам глядзеў, бо гаворка там круцілася вакол так званых дачных раслін. Ды ўрэшце перастаў глядзець: абурала і выклікала агіду тое, што аб’ектамі для перадач былі штораз надта ж шыкоўныя дачы-палацы сучасных зла-

дзюганаў-мільянераў, тых самых наваспечаных паноў-прыгоннікаў. Раслінным жыццё сваё называў усё ж найперш таму, што жыў, можна сказаць, бяздумна, акурат як тая расліна: пасадзілі яе – яна і расце сабе. Гэтак, бадай што, жыў і ён. Нейкія грамадскія клопаты яго там мала турбавалі. Быццам паверыў нарэшце ў моднае апошнім часам выслоўе: вартасць жыцця – у самім жыцці. От ён і жыў. Проста жыў. Хадзіў, дыхаў, глядзеў, слухаў, адчуваў, успрымаў...

Папраўдзе ж, на лецішчы ў спадара Савасцея штодня знаходзіўся нейкі занятак: то нешта трэба паліць, прапалоць, апырскаць, то ў садку траву скасіць, дроў насекчы, вады ў лазню панасіць, трэшчыну ў падмурку замазаць растворам, падмесці ў хаце і ля ганку ў двары... А пяток зімовых месяцаў, якія даводзілася праводзіць у гарадской кватэры, работы практычна не было. Адзіны занятак – пачытаць у аўторак і пятніцу “Народную волю” ды паглядзець навіны па тэлевізары. Праўда, сумаваць асабліва не даводзілася – такой “раскошы” не давала малая ўнучка. Як прыйдзе з садка, дык усе яе гульні, аж пакуль маці не пакліча класціся спаць, у дзеда-бабіным пакоі. Ды нават і малая шчабятуха, якую дзед Раман любіць і песціць без меры, не ратавала ад нэндзы.

І, пэўна, нястача і гэтая самая душэўная нэндза схілілі, а пакрысе і прыахвоцілі яго да гульні ў тэлелатарэі. Пабачыў неяк па тэлевізары тыражы “Суперлато” і “Вашага лато” і быў уражаны буйнымі і шматлікімі выйгрышамі. А вядома ж, старое – як малое. От і яму захацелася пагуляць. І раз купіў білецікі, і два, і тры. Колькі разоў выйграваў па пяцьсем тысяч – вяртаў затрачаныя на набыццё білетаў рублі, не больш, але працягваў гуляць. Латарэя – гэта, пэўна, таксама свайго роду наркотык: засмоктвае. Уцягнуўся і спадар Раман. Жонка ўжо і сварыцца на яго – навошта грошы на вецер выкідвае, а ён усё роўна: пойдзе на шпацыр ці ў краму, дык заадно і спакусліва-звабныя білецікі купіць.

З выйгрышамі ж, нават дробнымі, яму шанцавала чамусьці ўсё радзей. Правяраў білеты часцей за ўсё разам з унучкай. Часам яна нават і закрэслівала тыя нумары, якія гучалі з экрана тэлевізара. Незакрэсленыя абводзіў кружком і казаў: “Зноў дзірка ад абаранка”. Унучка папраўляла: “Дык жа не адна дзірка, дзед, а тры!” Але-але, здараліся і тры дзіркі, і чатыры, аднойчы ж выпалі і ўсе пяць. Спадар Раман ужо не-не ды амаль збянтэжана паўтараў: “Няйнакш як хто начараваў! Чартаўшчына нейкая!” Яно быццам і праўда. Дзесяць, а то і ўсе пятнаццаць бочачак дастануць з мяшэчка латарэйныя красуні, а спадар Раман не паставіць у сваім білеціку ніводнага крыжыка – няма супадзенняў. Блізкія нумары, ды не тыя. Часта ж блізкасць тая проста здзеклівая. Скажам, выцягнута бочачка з нумарам “50”, а ў ягоным білеце стаяць “49” і “51”. І гэтак і раз, і два, і пяць разоў запар. Сапраўды, ці ж не чары, не д’ябальшчына нейкая?! А бачыў жа, што людзі – выйграюць, прытым не нейкія там пяць тысяч рублёў, што выпадала і на яго долю, а сотні тысяч і мільёны, нават дзясяткі і сотні мільёнаў, а таксама шыкоўныя аўтамабілі і новыя кватэры.

Кватэра акурат і была самай запаветнай мараю спадара Савасцея. Бачылі яны з жонкай, адчувалі, што сын і нявестка вельмі хацелі б жыць асобна. Не крыўдавалі яны на дзяцей за гэта, хоць, папраўдзе, трошкі і не разумелі. Успаміналі сваю маладосць. Як яны тады зайздросцілі тым сваім знаёмцам-равеснікам, якія жылі з бацькамі! Тыя былі вольнымі казакамі: не было ў іх аніякіх праблем схадзіць у кіно і ў тэатр, у госці

ці яшчэ куды – было на каго пакінуць дзяцей. А колькі і яшчэ клопатаў бралі на сябе бацькі: і ў кватэры прыбраць, і есці наварыць, і бялізну ды посуд перамыць. Яны ж, Раман са сваёй Жанаю, колькі гадоў не ведалі ні кіно, ні тэатра, ні канцэрта якога: дзеці не пускалі. Не рызыкавалі яны падавацца з малымі дзецьмі і на поўдзень у час адпачынку, у выніку спадар Раман Чорнага мора так і не зведаў, адно з вагона цягніка, калі ехаў у кіславодскі санаторый, пабачыў краёк Азоўскага. Трошкі непамысна ім было і з іншае прычыны. Чаму дзеці не разумеюць, што і яны, бацькі іхнія, таксама мо хацелі б у старасці пажыць асобна, у цішыні і спакоі? Чаму не падумаюць, што старому чалавеку хочацца і днём прылегчы на хвіліну, і раніцай не падхопліваца ледзь свет? Дзясятак гадоў назад яшчэ можна было б, бадай, размяняць іхнюю трохпакаёўку на нейкія дзве кватэркі, а зараз і думаць пра тое не выпадае. А трыццаці-сарака тысяч долараў для даплаты ні ў іх, ні ў сына з нявесткай няма і не будзе. Сітуацыя, як цяпер любяць казаць, тупіковая. Вось таму і снавалася, не пакідала Савасцея думка-мара здабыць жаданую кватэрку праз латарэю. А чым чорт не жартуе? Латарэя і ёсць латарэя: а раптам? Усё ж можа быць. Верагоднасць малая, вядома, але ж яна існуе. Вунь: людзі ж выйграюць! Дык чаму б і яму не аказацца ў іх ліку?! Перад Новым годам яго Аўксенцьеўна купіла на кухню насценны каляндар. Расійскі, вядома, беларускіх не знайсці. (На колішніх "крэсах уходніх" пад Польшчай можна было беларускі каляндар выдаць, а ў нібыта незалежнай Беларусі зрабіць гэта не пад сілу.) Дык на тым расійскім календары з вавёрачкай выдрукаваны радок з Мацвея святога дабравесця: "І ўсяго, чаго ні папросіце ў малітве з вераю, атрымаеце". У апошнія гады да царквы пачалі далучаць людзей гэтак жа настырна, амаль гвалтоўна, як пасля рэвалюцыі адлучалі, аднак жа ў спадара Рамана стасункі з верай і малітвай так і не склаліся, застаўся ён, як выказаўся найвысокі начальнік, праваслаўным атэістам. Тым не менш, Богу грашыць спадар Раман не мае намераў, як не меў і раней. Значыцца, і ён мае права на Боскую ласку. Прынамсі, спадзеў на яе.

З другога боку, падтрымліваўся гэты спадзеў і, бадай што, антыбоскімі сіламі – прыхільнікамі і адэптамі мамоны. Плоймаю пайшлі, плынямі паплылі парады і рэкамендацыі тэарэтыкаў і практыкаў капіталізму, найперш амерыканскага, як самага паспяховага, наконт метадаў і спосабаў хуткага і лёгкага абагачэння. Самы просты і даступны для ўсіх даверлівых і наіўных такі: трэба верыць, моцна жадаць удачы – і яна абавязкова прыйдзе. Вось і спадар Раман спакусіўся, клюнуў на прынаду: а мо й праўда? Слова ж, кажуць, не толькі інфармуе, але і ўплывае, валодае стваральнай, дзейнай сілай. Шмат разоў скажы сабе: "Я выйграю! Выйграю! Выйграю!" – і папраўдзе выйграеш...

Не ўголас, а сам сабе, і не так усур'ёз, як жартам, казаў гэтыя словы спадар Раман, закрэсліваючы ў білеціку нумары, што супадалі з нумарамі дастаованых з мяшэчка бочачак, ды канчалася ўсё тымі ж дзіркамі ад абаранкаў. Адзін тыдзень казаў, другі, трэці, пяты. А пасля плюнуў і ляпнуў ці не ў злосці ўжо, мо нават трошкі і ў роспачы:

– Хоць ты каму, чорту таму самаму, душу прадай! Толькі дзе таго чорта знайсці?

– А я тут.

Спадар Раман скалануўся. Хоць трошку і тугавухім стаў ён апошнім

часам (нашкодзіў сабе бензакасой ды дрэваапрацоўчым станком на лецішчы), аднак жа выразна пачуў чыйсьці голас. І машынальна, ні аб чым пакуль не думаючы, спытаў:

– Хто?

– Нехта, як ты кажаш. Чорт той самы.

Спадар Раман крутнуў галавой, сказаў сам сабе:

– Дажыўся, стары дурань: з чортам загаварыў! Добра хоць, што ўнучка адлучылася, не чула. Праўду жонка кажа: дабром гэта не скончыцца, давядзе мяне нячыстая сіла!

– А чыстая да чаго давяла?

Савасцей замёр. Пасядзеў гэтак хвіліну-другую. Потым ляпнуў сябе па баках, па сцёгнах, азірнуўся: дома ён, не звар'яцеў? Быццам не. Але ж ён чуў, прытым зусім выразна чуў пытанне. Ён нават з ходу хацеў адказаць, што чыстая – сіла, няйначай? – да жабрацтва яго давяла. Не адказаў толькі таму, што – паспеў схамянуцца, падумаць аб тым, што ці й напраўду не звар'яцеў ён.

Ды не паспеў спадар Раман як след абмацаць і праэкзаменаваць сябе, як пачуў:

– Дык чаго маўчыш? Навошта ты мяне клікаў? Грошай захацеў?

Тут ужо хацеў Савасцей і раззлавацца немаведама на каго, мо найперш на самога сябе, ды нечакана пасміхнуўся: а й папраўдзе дагуляўся, галюцынацыі пачаліся, толькі гукавыя чамусь. Вось табе, Рамане, і гульня! Дык і пагуляй! Гуляў там, пагуляй і тут, не бянтэжся і не саромейся – балазе, унучкі побач няма. От і сказаў, пэўна ж, уголас:

– А хто іх не хоча, грошай? Нябожчык і то вунь колькі патрабуе!

– Ну, не апраўдвайся, ты ж яшчэ не нябожчык.

– Я й не апраўдваюся. Гэта к слову.

– А навошта табе грошы? Маладому дык на гулі, на дзевак. А старому?

– На кватэру, калі табе гэтак пільна трэба ведаць.

– Сабе дамоўку ты ўжо купляць не будзеш, жонка ці дзеці купяць.

– Не пра тую дамоўку памоўка. Сам жа казаў, што я не нябожчык яшчэ.

– Даруй, зблазнаваў трошкі. Ну, добра. А калі я памагу, чым адплаціш?

– Дык у цябе ж, мусіць, пэўная такса ёсць?

– Ёсць, вядома. Адна і заўсёдная: душа чалавечая. Аддасі, не пашкадуеш?

– Што яе шкадаваць! Абрабаваная яна, мая душа, як і душа ўсяго нашага народа. Яшчэ вунь калі паэт сказаў: “І душу тваю абакралі, – у ёй нават мовы няма...”

– Але ж разам з душой аддасі і жыццё. Яго таксама не шкада?

– А што за жыццё без надзеі? Недарэмна ж сказана: чалавек жыве, пакуль спадзяецца.

– Усе вы так кажаце, пакуль не прыпячэ. А прыйдзе пара, дык і ўзмоліцеся: Божа мой, Божанька, дай яшчэ хоць гадок, хоць адно летца, хоць адзін дзянёк сонейка ўбачыць!..

– Ну, а ты як думаў? Па-чалавечы гэта. І я, мусіць, такую ж курну зацягну. Хоць, калі папраўдзе, дзеля таго найперш, каб пабачыць ды ўпэўніцца, што дзецям, унукам свеціць іншая, лепшая доля.

– Якія вы, людзі, аднак выкрутлівыя!

– Дык гэта ж ты нас і робіш такімі. Ці ж хіба не ты нашаптаў-убіў у галовы ўга як многім людцам: хочаш жыць – умей круціцца? Чаго ж цяпер папракаеш?

– Не навучыў бы, дык не выжылі б! З Божанькам сваім гладзенька ды чысценька не ўсё і не заўсёды атрымліваецца.

– Атрымлівалася б, калі б ты пад нагамі не круціўся!

– Чаго ж клікаў мяне ў такім разе? Як нявыкрутка, тады і я патрэбен, так?

– Хто і калі цябе клікаў! Сам пішчом у душу, а перадусім па яе лезеш, насланнём, неадпрэчным назолам ліпнеш.

– Няпраўда твая. Я толькі на покліч чалавечы з'яўляюся. Няхай нават на самы ціхі, безгалосы, але – на покліч. Я лепш за вас цаню вашу ж прымаўку аб тым, што нязваны госць горш за татарына.

– Хопіць балантэсіць попусту. Кажы ўжо, што рабіць трэба, ды зматвайся – насмярдзеў тут.

– Не смурод гэта. Серны водар – дзеля прафілактыкі.

– Святы Божа, святы-крэпкі, і ты баішся грыпу?

– Гм, я... А чаму не падумаеш, што дзеля тваёй бяспекі?

– Таксама мне – прыяцель знайшоўся!

– Няўдзячныя вы ўсе, мне гэта вядома, таму і не крыўдую. Дык што, дамовіліся?

– Наконт чаго?

– Ото цэ да! Забыўся ўжо? Я табе – выйгрыш, ты мне – душу!

– А-а, ты пра гэта... Дык а што, кантракт трэба падпісваць, ці так абыдзецца?

– Мы не бюракраты. Гэта вы, людзі, паперак напладзілі столькі, што патанаеце ўжо ў іх. Я на слова веру.

– Дык і калі... забярэш? – спадар Савасцей выціснуў з сябе апошняе слова пасля невялікае паўзы: гульня гульнёю, але стаўка ўсё ж занадта сур'ёзная – душа, ды прытым жывая.

Голас азваўся чамусьці таксама з невялікай затрымкаю:

– Ну... Пасля таго, як выйграеш джэк-пот і кватэру.

– Адразу ж? У той самы дзень?

– Ага, што я казаў?! Яшчэ й не прыпякло, а ўжо ўзмаліўся? Каб жа гэта, Божа, яшчэ пажыць трошачкі?

– Што ты па-дурному прыдзіраешся? Павінен жа я ведаць, ці не?

– Божанька ваш такога ведання не дае.

– Ты ж не Божанька! Тфу!

– Не, вядома. Але таму магу й сказаць, калі.

– І калі ж?

– Ну, скажам, праз год.

– Пасля выйгрышу?

– Але.

– Ну й чорт з табой, хай будзе па-твойму.

– Гм, са мной... А мо я й сам чорт? Ды, як у вас кажуць, Бог з табой! Выйгравай свае мільёны і не памінай... ліхам! Ха-ха-ха!

Прахапіўся спадар Раман, расплюшчыў вочы, павярнуў галаву ўверхуніз, управа-ўлева, шыю пальцамі з аднаго боку і з другога пацёр, агледзеўся. Перад ім экран тэлевізара свеціцца, але ўжо там не тыраж "Суперлато", а, здаецца, навіны паказваюць. Падумаў са здзіўленнем: няўжо ён так па-сапраўднаму прыдрамнуў, што ажно сон гэткі прысніў? Тут жа прыгадалася, што зусім нядаўна ці ў той жа "Народнай волі", ці ў "Саўбелцы" (якую час ад часу купляе сын дзеля тыднёвай праграмы тэлебачання і

старонкамі якой мінскі Якубовіч ажыццяўляе сярод людзей амаль такую ж сатанінскую – русіфікатарскую – дзейнасць, як маскоўскі сваім “Полем цудаў”– душагубную) чытаў, што вучоныя пераканаўча даказалі: сны не маюць аніякага прарочага ці нейкага іншага сакральнага сэнсу. Прыгадалася тая інфармацыя проста так, бо ведаў ён гэта даўным-даўно і без пацвярджэння нядаўнімі даследаваннямі англійскіх, здаецца, навукоўцаў. Таму пастараўся не засяроджвацца на гэтым ці то сне, ці то трызненні. Ці мала што можа прымроіцца-звярсціся? Або! Самае рознае глупства-недарэчнасць. Ці ж не было такога з ім? Бывала, прачнецца і доўга супакоіцца не можа, бо перад гэтым снілася нешта надта ж агіднае, паскуднае. Што – і прыгадаць не можа, а настрой тым сном сапсаваны надоўга.

Цяпер жа хапіла ў спадара Рамана розуму не толькі на тое, каб не засяроджвацца, але і трошкі з сябе пасмяяцца, нават пакпіць. Ківаў галавой і казаў бязгучна: “Ах ты, стары боўдзіла, падахвоціўся душу прадаць! Каму яна патрэбна, твая збалелая да гарчэчы душа? Яна нават і чорту на спажыву не пойдзе – не атруціцца, дык падавіцца. Атупеў ты, Савасцей, канчаткова. Не памятаеш ўжо самага істотнага: чорт спакушае і купляе толькі маладыя душы, якія можна нейкім чынам пусціць ва ўжытак. Так што – плюнь і забудзь на гэты свой сон-трызненне, а заадно і на гульню. Час жа зразумець нарэшце, што грошы валодаюць уласцівасцю прыцягваць грошы, таму й ручыць звычайна людзям грашавітым. Ці ты й папраўдзе спадзяешся, што твая жабрачая пенсія раптам прывабіць мільёны?!”

Так і зрабіў спадар Раман, але – толькі напалову. Недарэчны сон сцёр з памяці, а вось білецікі “Вашага лато” і “Суперлато” працягваў па звычцы купляць, і суботнімі ды нядзельнымі вечарамі разам з унучкай лавіў з экрана нумары тыражных бочачак. Удачы, як і раней, не было, штораз выйграваў адно “дзіркі ад абаранкаў”. Засмучаўся не надта, бо даўно настроіў сябе на філасофскі лад: маўляў, гульня ёсць гульня, тым больш – пасіўная, у якой ты практычна не бярэш ніякага ўдзелу, акрамя таго, што набываеш білецік. Больш пачынала турбаваць іншае: засмучэнні, перажыванні ўнучкі. Пры нейкім чарговым пройгрышы малая ледзь слязу не пусціла. Другім разам нечакана спытала: “Дзед, а ты падзелішся са мной грашыма, калі выйграеш?” Савасцей падумаў: “Эге, трэба канчаць, калі гэтак. Прынамсі, унучкі побач не павінна быць, хай яе душа як мага даўжэй застаецца анёльскай”. І прымусіў сябе не хадзіць і не купляць білеты ці не двух чарговых тыражоў. А потым зноў, але ўжо адзін, без малой памочніцы, лавіў з тэлевізара – найперш вачыма, бо стаў недачуваць – нумары тыражных бочачак.

І вось аднойчы, звычна кажучы сам сабе “міма” ці “ёсць такі” і закрэсліваючы супалы нумар, спадар Раман знячэўку адчуў нейкі ўнутраны штуршок. Чаго б гэта? Што здарылася? Не паспеў уцяміць, а вока ўжо схапіла скрыжаваную карцінку білета і ацаніла яе: толькі адзін нумар застаўся незакрэсленым. Сэрца, старое ўжо і не надта здаровае, затрымцела, усё цела, з галавы да ног, аблілося потам: а раптам? Дзяўчына на экране апускае ў мяшэчак руку, шукае-выбірае там бочачку, нарэшце вымае і аддае вядучаму. Той працягвае руку з ёю ў напрамку тэлекамеры, і спадар Раман не так чуе, як бачыць: нумар – ягоны! Стоп-гульня! Савасцей спрытна, не па гадах шустра ўскоквае з крэсла, падбягае да тэлевізара, узіраецца ў нумар выйгрышнага білета. Памылкі няма: гэта нумар білета, які ён трымае ў руцэ! Выйгрыш – джэк-пот і аднапакаёвая кватэра! Сума выйгрышу ў

рублях – амаль чатырыста тысяч рублёў! Памкнуўся яшчэ раз убачыць нумар на экране, ды яго ўжо няма. Там вядучы крычма віншуе ўладальніка буйнога выйгрышу, і ўсе ў студыі дружна пляскаюць у ладкі. Віншуюць незнаёмца, які набыў шчаслівы білет у Мінску ці Мінскай вобласці. І толькі ён, спадар Раман, ведае, хто гэты шчаслівец, і ад няўцямнага, пакуль што зусім не асэнсаванага ўсведамлення гэтага, у якім больш, бадай, нявер'я, чым веры, ён нейк неразумна, па-блазенску ўсміхаецца...

Што было потым? Нявер'е жонкі, дзяцей, нявестак, унука і ўнучкі. Усе яны, адно за адным, дружненька папасміхваліся, нават папаздзекваліся з бацькі і дзеда, каб пасля гэтак жа дружненька анямець, а затым зарадавацца і... пачаць дзяліць грошы. Было і тое, што паказваюць на экране ў час кожнага тыражу: урачыстае ўручэнне сертыфікату на грошы і ключоў ад кватэры з шампанскім і кветкамі. А яшчэ потым – мэбліроўка новай кватэры і шчаслівыя пярэбары ў яе з гаманкім і песенным застоллем.

Былі і іншыя клопаты, звязаныя з нечаканай, хоць і вельмі жаданай неардынарнай падзеяй, – як і кватэрныя, пераважна радасныя, прыемныя. І ў тых клопатах надзвычай хутка, як ніколі раней, скончылася вясна і прабегла лета, у якое лецішча Савасцеяў упершыню было бадай што занядбана. Неяк не выпадала спадару Раману і ягонай Аўксенцьеўне сядзець там невылазна і вылізваць грады ды цяплічкі – клопаты, звязаныя з вялікімі (як для іх) грашыма, часта зрывалі іх з лецішча, гналі ў горад. Зрэшты, ці не ўпершыню за многія гады самаахвярнае шчыраванне-корпанне ў зямлі чамусьці падалося ім не такім ужо і неабходна-важным. Дайшло да таго, што Жана Аўксенцьеўна неяк сказала, хоць і не надта ўпэўнена: “Мо і праўду людзі кажуць, што больш тут траціш, чым атрымліваеш: занадта дарагі выходзіць вырашчаны тут памідор і агурок...” Спадар Раман прамаўчаў, бо ведаў тое даўно. Само сабою, аўчынка вырабу не варта, але ж – сваё, не вырашчанае, а ўласнымі рукамі выпешчанае, а таму нібыта і смачнейшае, саладзейшае, больш апетытнае і карыснае. Ды і само корпанне ў зямлі – яно ж быццам не прыгнятае, а наадварот, радуе, усцешвае і суцешвае, супакойвае, праганяе прэч тужлівыя старэчыя думкі...

Само сабою, быў рады спадар Савасцей неспадзяванай, аднак жа надта жаданай кватэрцы. У старым веку добра мець асобны, ціхі і зручны, прытулак. Ды ўсё ж радасць была зусім не той, як калісь, шмат гадоў таму назад, калі атрымаў сваю першую ў жыцці з усімі выгодамі, як тады казалі, жылплошчу. Была яна куды горшай, чым гэтая – няшчасная хрушчоўка з метровым калідорчыкам і сумешчанымі ваннай і туалетам. Ды радасць у душы была невымерна большая. На сёмым небе лунала душа! Цяпер жа найбольш рады быў радасцю дзяцей. Вельмі ж хацелі яны жыць асобна ад іх, бацькоў! І жаданне іх знячэўку спраўдзілася. Вось яны, сын з нявесткаю, сапраўды радаваліся і не хавалі гэтага. То й дзякаваць Богу, усцешліва думалі спадар Раман і ягоная Жана Аўксенцьеўна. Дзяцінае шчасце – гэта найбольшае і іхняе шчасце, расчульваліся старыя. Зрэдчасу адведваючы дзяцей, расчульваліся амаль да слёз яшчэ і з той прычыны, што ўнучка штораз прасіла іх вярнуцца назад, у свой пакой.

Карацей кажучы, прыватнае жыццё спадара Савасцея вырулілася нечакана на такія рэйкі, што заставалася адно – гнаць прэч частыя і гнятлівыя думкі аб смерці. Разумеў: пасля сямідзесяці развязка, як кажуць, можа адбыцца ў любую хвіліну. Але ж чалавек, пэўна, толькі таму й жыве, што не думае аб непазбежным канцы. Прынамсі, калі й думае, дык – як пра

нешта вельмі далёкае, малаверагоднае, датычнае некага іншага, а не яго асабіста. Спадар Раман выключэннем тут не быў. Цьфу на сляпіцу тую! Забіваць галаву глупствам ён не будзе. Жывецца пакуль – то й добра. То й думаць трэба пра жывое. Пра дзяцей, унукаў, пра іх будучыню. А якой яна будзе, цалкам залежыць ад таго, калі злы дух сыдзе з небасхілу Бацькаўшчыны. Толькі тады скончыцца час самадурства і вернецца ў краіну верхавенства закону. А найперш – зноў абудзіцца беларушчына, пачнецца рэальнае і ўжо ўсеабдымнае, надзейна акрэсленае будаўніцтва акурат беларускага нацыянальнага дома. Спадару Раману вельмі хочацца дажыць да такой пары. А там і памерці можна. І думаючы гэтак, стары Савасцей прыгадваў дваццацігадовага земляка-партызана, які не адзін раз казаў не толькі на людзях, але нават і сваёй маці: "Эх, сустрэць бы, абняць першага байца Чырвонай Арміі, а там і загінуць не страшна!" І ён, быццам напрарочыўшы сабе, загінуў у апошнім партызанскім баі, калі ўжо разам з чырвонаармейцамі народныя мсціўцы вызвалялі ад фашысцкіх акупантаў райцэнтр...

Хутка скончылася тое не надта запоўненае дачнымі клопатамі лета, прамінула і зіма, ужо нязвычна для апошніх двух, а мо нават і трох дзясяткаў гадоў снежная і марозная. У красавіку, недзе ў сярэдзіне яго, калі сышоў снег і апала паводка, спадар Раман выбраўся на лецішча. Меркаваў, толькі – у адведкі. Але, усцешаны ласкавым, амаль па-летняму сонечным прыгрэвам і тым, што і ў двары, і на агародзе было ўжо бадай суха, парашыў застацца, балазе сякіх-такіх харчоў па даўняй, ці не сялянскай яшчэ, запаслівасці з сабой узяў. Жана Аўксенцьеўна, якой паведаміў па мабільніку аб гэтым сваім намеры, пачала была адгаворваць – маўляў, чаго гарачку пораш, яшчэ ранавата, хата за зіму настыла, не дай Бог прастудзішся, будзе табе тады радасць ад твайго ненагляднага лецішча, а пасля махнула рукой: "Ат, рабі як хочаш! Цябе ж не пераканаеш..."

Некалькі дзён пракорпаўся ён на лецішчы. Падгроб і спаліў леташняе лісце, падмёў двор і сцежкі-дарожкі да лазні, свіронка, прыбіральні, падрамантаваў цяплічкі. Само сабою, добранька прагрэў хату, злёгку, каб была цёплая вада, выпаліў раз-другі і ў лазні. Харчоў дакупіў у вясковай краме, у якой па цяперашнім часе быў амаль што гарадскі так званы асартымент.

І аднойчы, на заходзе сонца ўжо, збіраючыся вячэраць, нечакана прыгадаў той свой леташні, на здзіўленне прарочы, сон. Сцепануўся, уцяміўшы раптам, што сёння акурат тая самая дата – мінуўся роўна год з таго дня. Зрабілася чамусьці непамысна. Паспрабаваў, здаецца, усміхнуцца, нават рэзкавата павёў туд-сюд плячыма, бы хочучы атрэсці з сябе штосьці лішняе, натрушанае. Амаль з дакорам сказаў сам сабе: "Ах, Рамане-Рамане, і ты пад канец здурнеў, паверыў у нячыстую сілу? І не сорамна, не брыдка табе? Жыццё пражыў вольным ад прымхаў чалавекам, ніколі і думкі ні пра што такое не дапускаў, а цяпер – што змянілася? Не паддавайся, старэча! Ты ж ведаеш, у жыцці надзвычай шмат супадзенняў, самых нечаканых і неверагодных. Але ўсяго толькі супадзенняў, Рамане! Супакойся, вазьмі свае традыцыйныя за вячэраю кроплі ды паглядзі самыя праўдзівыя і самыя цікавыя ў свеце тэленавіны з абавязковым удзелам самага разумнага і дасціпнага каментатара. Паглядзі і – не абурайся, а пасмейся. Хай і горка, але – пасмейся. Вось і забудзеш на ўсіх астатніх д'яблаў, падд'яблаў і малых чарцянят!"

Спадар Раман гэтак і зрабіў. Наліў чарачку (трыццаць грамулек, не адзін

раз вымераў дакладна) гарэліцы, прыгатаванай не з цукрам, а з фруктозай (паверыў вычытанаму дзесьці, што гэта не павышае цукар у крыві і змяншае халестэрын), з'еў сардэльку з аўсянкай, выпіў кубачак малака і, ямчэй усеўшыся ў мяккім фатэлі, утаропіўся ў экран дачнага "Віцязя". Якраз пачыналіся навіны. І пачаліся яны з рэпартажу пра паездку-палёт ППРБ з інспекцыяй ходу веснавой сяўбы на калгасных (і сёння – менавіта калгасных!) палетках. З так званымі імправізаванымі прэс-канферэнцыямі для журналістаў на завяршэнне, з надзвычайным шчыраваннем і палётам фантазіі галоўнага распавядальніка-каментатара. Глядзеў, слухаў гэтае калгаснае шоу спадар Раман, часам, бадай, нават захапляўся віртуознасцю слоўных выкрунтасаў, але ўжо нічому не здзіўляўся і не абураўся, бо – абрыдла, бо рабіць тое было бескарысна, а толькі зрэдку пасміхваўся, а сяды-тады не стрымліваўся і рагатаў. Найталенавіцейшы чалавек, думаў спадар Раман. Нешта ад Цыцэрона, нешта ад Уладзіміра Ільіча, нешта ад Мікіты Сяргеевіча...

Глядзеў, слухаў стары Савасцей, седзячы перад экрама "Віцязя", і не заўважыў, як задрамаў, паспеўшы перад тым падумаць, што на павадзе ў нейкага чорта ці іншага якога нячысціка ён не пойдзе...

Жана Аўксенцьеўна пазваніла, як заўсёды, як штодня, недзе каля дзесяці гадзін вечара, кладучыся спаць. Мабільнік мужаў маўчаў. Падумала: "Напэўна, выйшаў перад сном, а мабільнік у хаце пакінуў..." Перазваніла праз паўгадзіны. Налічыла дзесяць, а мо і больш доўгіх гудкоў – яе Раман не адгукаўся. Жана Аўксенцьеўна ўстрывожылася...

*2010 г.*

Людміла Паўлікава-Хейдарава



...Сапраўдны боль не расстаецца з намі,
дзе праўдзе быць, калі не ў нас саміх?..

# ...Я пайду, абніму сваю кошку

## *ЧАЛАВЕК НЕ НАРАДЖАЕЦЦА ЧАЛАВЕКАМ*

Глядзець у вочы сонцу не пажадана нікому.
Глядзець у вочы людзям не ўсе маюць моц.
Глядзець у вочы жыццю здольныя адзінкі.
Глядзець у вочы лёсу не ўмее ніхто.

Ты пакладаешся на свой розум?
Хіба ты разумнейшы ад светабудовы?
Тады не губляй часу, будуй сваю.
Але тут кошка нараджаецца кошкай.
Бэз нараджаецца бэзам.
І цвіль – цвіллю.
Адзіна чалавек не нараджаецца чалавекам.
Яго неабходна выхаваць чалавекам.
І нават калі цябе не выхавалі...
Гэта быў не твой выбар.

Ты пакладаешся на свой розум?
Хіба ты разумнейшы ад сваіх настаўнікаў,
якія вучылі цябе імёнам рэчаў?
Тады знайдзі іншае спасціжэнне свету,
бо ў нашым свеце ўсё мае сваё найменне.
Але найменне не вызначае сутнасць існага
і таму не можа быць ісцінай.
Ісціна нямая ў гэтым свеце.
Тут нават імя тваё не належыць табе.
Гэта быў не твой выбар.

Ты пакладаешся на свой розум?
Хіба ты разумнейшы ад таго,
хто вучыў цябе жорсткасці?
Тады стукні яго, што маеш моцы,
няхай ведае, што ты навучыўся.
Калі тваю краіну пераўтвараюць у загон,
не абавязкова рабіцца жывёлай.
За цябе многае выбіралі на гэтым свеце.
Гэта быў не твой выбар.

Час не выпраўляе памылкі.
...Я пайду, абніму сваю кошку.

* * *

я часам сумую па смерці, мама
маё жыццё ўсё болей нагадвае
кубак кавы, якая пакрысе астывае
дождж, куды ні глянь, дождж
нястрымны плач маёй краіны
над пахаваннем годнасці і шчырасці
над знявечанымі самападманам
над самаабвешчанымі праведнікамі
палітыкай, важнейшай ад людзей
часам робіцца так балюча і крыўдна
што болей я не магу ўлезці ў словы,
як у цесную скарэлую адзежыну
я, маленькая жанчына, якая працуе
п’ю маю горкую астылую каву,
п’ю маю неўтаймоўную ноч адзіноты
потым я стану на край гэтай ночы
каб напоўніць непераможным сонцам
мае параненыя грудзі і ісці да людзей.

## *ГОРКІ РАКАВІНАК*

Гульня ўяўлення.
Гульня розуму.
Гульня ў жыццё.
Гульня.
Усё жыццё.

...Вясновы вецер п’яна хістаецца,
чапляючыся да трапяткой бярозкі,
якая ўпершыню надзела завушніцы.
На прасеках між балотных купінак
цёмная вада падрабляецца пад неба.
У зацененым кустоўем азярцы
плыве між аблокаў сонечная лотаць.
На залатым дне рачулкі Бяглянкі,
тояцца хуткія, палахлівыя цені,
выслізгваючы з-пад ног фарэлямі.
Шляхам да Бярэзіны лясная Бяглянка
забягае на лужок дзядулевай сядзібы,
каб рассыпаць на ім жоўтавокія казяльцы,
вясёлыя на позірк і нечакана горкія на смак...

...Горкія на смак...

...Не зарастае ў татавым чэрапе дзірачка,
у якой засеў ад вайны асколак снарада.
Лётае чаўнок бабуліных кроснаў,
што самавіта пагрукваюць у будучыню.
Чырвоным па беламу ткуцца на ручніках
таямнічыя сімвалы народнага быцця.
Мой час саліруе на шасціструннай гітары,
якую заглушае то звон дзіцячай рэхвы,
то басавітыя гудкі паравозаў, ці параходаў,
якія цягнуць па рацэ доўгія баржы
з асляпляльна белым пяском.
Чуюцца рэзкія крыкі берагавых ластавак,
якія выбіраюць для гнёздаў стромыя схілы.
Гучаць цыганскія спевы вандроўных табараў,
што летуюць на беразе Бярэзіны,
усеяным на плыткаводдзі жамчужніцамі.
Пасля сыходу табара ад рачных жамчужніц
застаюцца адзіна горкі ракавінак...

...Горкі ракавінак...

У Пакроўскай царкве Дзяржынска
са святых абразоў цячэ сапраўдная кроў.
Дзяжурны святар заступае дарогу – забаронена.
Няхай. Паэты моляцца сваімі вершамі.
Дома на насценным календары кухні
святочныя дні пазначаныя чырвоным колерам.
Мне робіцца страшна глядзець на іх.
Чырвоны колер сцякае са святочных дзён,
напоеных пралітай за іх крывёю.
Барацьба за жыццё вымагае смерці...

...Жыццё вымагае смерці...

...Мой зніклы дзядуля нечакана знайшоўся
ў Кнізе ахвяраў бальшавіцкага тэрору
Кемераўскай вобласці.
На ўскрайку Менску
палююць на людзей, што ідуць
аддаць паклон памяці забітым.
Маўчаць званы храма на пагорку,
пазіраючы звысоку на зямное пекла.
Гаротнае свята ашуканага жыцця.
Маўклівае свята знявечанага жыцця.
Маўчанне няспраўджанай ісціны.
маўчанне ашаломленай адзіноты,
маўчанне раструшчанага позірку.
маўчанне, схаванае ў плачы існага.
Як абязболіць маўчанне?

...Абязболіць маўчанне...

...Я адтуль – з горкага смаку
жаўтавокіх казяльцоў,
з ластавак берагавых,
якія выбіраюць крутыя схілы,
з асколку ў татавым чэрапе,
з Кнігі памяці майго дзядулі,
з бабуліных кроснаў, што дагэтуль
ткуць маю долю на Млечным Шляху.
Я, тая, што з пустых ракавінак
ад рачных жамчужніц,
са святочных дзён,
напоеных чалавечай крывёю,
з маўчання званоў,
якое немагчыма абязболіць.
Што можна знайсці звонку
з таго, што не знайшоў у самім сабе?..

...Што не знайшоў у самім сабе...
...Я пайду, абніму сваю кошку.

* * *

*Антаніне Хатэнка*

Ёсць боль, як бег, што захлынае дых,
яго не залячыць ні яваю, ні снамі.
Сапраўдны боль не расстаецца з намі,
дзе праўдзе быць, калі не ў нас саміх?..

## ГАЛІНКА ДЛЯ ПТУШКІ

У свеце,
дзе смерць – адзіная праўда,
дзе ўсё праходзіць,
дзе ўсё, што зрабіў ты з іншым,
будуць рабіць з табой,
ты будзеш змагаецца з тым,
што некалі абраў сам.
Бог магутны і справядлівы.
Калі ты шукаеш шляхоў да Яго,
паднімайся.
Унізе шматлюдна.
І дно перапоўнена.
Гэты свет – не месца для вечнасці.

Страла, што працяла птушку,
раней магла быць галінкай,
на якой яна спявала.
Няма таго, хто глядзеў на мяне,
хто ўзяў мяне і адчуў,
што гэта лёгка.
Мы вольныя ўзяць
толькі тое, што ўзялі.
Мы аддаем адзіна тое,
з чым не расстаемся.
Усе шляхі майго сэрца
скіраваныя ў твой бок.
Аднак няма дарог да цябе.

Пакуль мары чакаюць,
рэчаіснасць рупіцца
над іх разбурэннем.

Не вінаваць ні сэрца, ні кветку,
што раптам завянуць.
Напэўна, гэта садоўнік
няўмела клапаціўся пра іх.
Не журыся.
Як гіне шчасце,
Так гінуць і нягоды.
Ты заслугоўваеш таго,
што лепшае ад мяне...
...Я пайду, абніму сваю кошку.

## ***ПАДАНАК БЕЛАГА НАЛІВУ***

Жыццё – дарога з прыпынкамі,
дзе кожны з іх – не канец дарогі.
Ты ўварваўся, ламаючы мары,
разбіваючы каваныя шчыты лёсу.
Ты не памятаў, што ўжо выходзіў
на гэтым прыпынку вечнасці.
Паміж намі горад нафты,
ураганы Атлантыкі і зорны космас.
Ты молішся ў сваім доме, бо не верыш,
што Бог жыве ў нейкім Храме.
Зараз тваё сонца пацірае свае заспаныя вочы,
а маё хіліцца на захад.
Вецер катурхае паданак белага наліву
на гарачым асфальце.
Вясёлка шукае, куды апусціць другую нагу
сярод сталічных небачосаў.
Не трэба пытацца ў мяне, дзе я зараз.
Душа замірае невядома дзе.
Я шукала твае вочы ў снах мінулага
і руку тваю ў цемнаце будучыні.
Мары пра цябе састарэлі і міла ўсміхаюцца,
не памятаючы чаму...
Жыццё нагадвае лабірынт
з мноствам пераплеценых дарог.
Толькі адна з іх вядзе да правільных дзвярэй:
дзвярэй у рэчаіснасць.
Хто крадзе рэчаіснасць,
заманьваючы нас у мінулае і ў будучае?..

...Я стамілася...
...Дзе б мы ні танчылі сваё жыццё,
мы танчым на парэштках саміх сябе...
...Я пайду, абніму сваю кошку.

* * *

Ты жывеш у Віфлееме.
І хаця для душы
няма ні часу, ні адлегласці,
пакуты праведнікаў сведчаць,
што мы жывем у час цудаў,
бо і д'яблам такое
не прыйшло б у галаву:
людзі ў сваёй злобе
пераўзышлі нячыстую сілу.

Ты жывеш у Віфлееме.
Час няўлоўны.
Калі хочаш сустрэцца,
пераступі парог у сёння.
Ты не ўмееш дараваць.
Ты паведаміў свету,
што жыццё дае ўрокі бясплатна.
Так.
Але мы скармліваем
гэтай велічнай і хіжай
Птушцы Жыццяў
плоць сваіх жыццяў.

Ты жывеш у Віфлееме.
Абнімі дзіця ў самім сабе.
Яму страшна.
Магчыма, што часам,
каб адкрыцца гэтаму свету,
варта павярнуцца да яго спінай.
Усе мы жабракі ў каханні.
Не журыся.
У гэтым свеце нічога не губляецца.
У тым ці іншым abліччы
ўсё вяртаецца да цябе...
...Я пайду, абніму сваю кошку.

## *СОНЕЧНАЯ САЛАМАНДРА*

Сонца маё! Ты дорыш мне жыццё!
Дзень, у які я сумую па табе,
Я сумую па жаданні жыць.

Ты казаў мне, што языкі полымя,
якія танчаць у маім каміне –
саламандры Вогненага свету.

Ты казаў, што насельнікі Сонца
не ўсведамляюць сябе на Зямлі.
Заварожана гляджу на іхні танец.

Мне здаецца, што сёння
я была сонечнай саламандрай
у тваіх абдымках.

***SALE***

***1***

мінулася лета
цяпер чакаць яго восем месяцаў
і ўсё ж такі гэта будзе значна меней
чым чакаць цябе месяц

***2***

гучыць стары іржавы голас з мамінай пласцінкі
хвалі нашага мора падаюць на бераг мінулага
я малюю нашыя сустрэчы на тваіх слядах
там восень паволі губляе лісце з маіх рук
на тваіх плячах адпачываюць пералётныя птушкі
і падаюць кроплі дажджу з падараваных табой астраў
душа правальваецца некуды і цяжка гаварыць...

***3***

каханне зрывае з нас не апратку, а скуру
ты застаўся ў леце, а ў нас ужо зацяжныя дажджы
і злыя парывы халоднага ветру плююцца ў твар
кроплямі, сарванымі з мёртвага лісця дрэваў
жыву, як быццам я ніколі не чакала цябе на зямлі
як быццам ніколі не трапляла ў сутарэнні тваіх вачэй
я купіла хрызантэмы, у іх можна добра схаваць слёзы
у той дзень, калі каханне зробіцца бессэнсоўным
нас распрададуць...

* * *

Усе вышыні бяруцца з бою
адвагай, працай душы і цела,
апроч адной, дзе стаешся цэлым...
...Мне не хапае тваёй любові...
У чэзлай памяці сноў з табою,
у шызай замеці слоў і думак
на ўздых адзіны, на паратунак
мне не хапае тваёй любові.

Так кормяць птушку да страты волі,
так прабіраецца шчуп у сэрца,
каб жыць на свеце і каб памерці,
мне не хапае тваёй любові.

Да страты розуму, страты мовы
у кожны міг, дараваны лёсам,
не точым лёзы – ідзем па лёзах.
Мне не хапае тваёй любові...

* * *

*наладжаны ловы*
*і шчасця пакуты*
*я п'ю твае словы*
*хоць знаю – атрута*

Сатана ад пачатку быў шчыры
і паведаміў, што ўвядзе ў зман.
Ты з пакалення, памяшанага
на мячы, спевах, шопінгу, забаўках...
Аднойчы ты прызнаўся мне ў каханні,
а потым сказаў, што ненавідзіш мяне.
Ну што ж... на гэтым свеце і забіваюць
адзіна за тое, што чалавек вольны.

Заставайся са сваёй нянавісцю,
ты знайшоў тое, што шукаў.
Мне ўсё адно, з табой, або без цябе
жыццё будзе працягвацца.
Калі ты запытаешся, што забіла маё каханне,
я адкажу: гэта зрабіў ты, цябе не было,
калі мне болей ад усяго быў патрэбны ты.
...Я захацела забыць цябе...

...Я захоўваю шмат старых запісных кніжак,
хаця патрэбныя кантакты даўно занесены
ў кампутар і мабільныя гаджаты.
Сёння я шукала адно імя, імя таго,
хто даражэйшы ад усіх на свеце,
і не знайшла яго ні ў мінулым,
ні ў сапраўдным, ні ў будучым часе...
Ёсць тыя, хто застаецца ў сэрцы без дазволу.
І тады яно пампуе боль, а не кроў.

...Я пайду, абніму сваю кошку...

* * *

... Балюча адрываць ад душы тое,
што даўно прырасло да яе.
Нават і тады, калі яно цябе ела...

* * *

Свет быў тут. І нідзе. Без дарог. Не ўцячы і не збочыць.
Не сціхалі дажджы, заглушаючы небныя спевы.
Часам мроіўся ты... Сохлі вусны і вочы.
Часам мроіўся дзень... І хавалася ноч, нібы звер, за завесай залевы...

На зары я вярталася ў дом свой здзічэлым калматым рэхам.
І суседскі, звычайна маўклівы, спаважны пёс
абазваўся знячэўку заўзятым, кульгавым брэхам,
свой ланцуг абрываючы. Вось яно... *Salve libertas**, лёс!

...Толькі кружыцца голаў, як лісце, што падала з дрэваў
пад ногі ўспамінам аб леце на гэтым свеце ў перадыху залевы...

---

* Прывітанне, свабода *(лац.)*.

## *ЦВЫРКУНОВАЯ НОЧ*

...Ці ведае вада куды бяжыць?
Вада робіцца парам пры нагрэве.
Вада застывае пры нізкіх тэмпературах.
Вада ў сваёй чысціні не змяняе колер...
Ці ведае кроў навошта бяжыць?
Кроў запякаецца, калі спыняе свой бег.
Кроў застывае, калі спыняе свой бег.
Кроў робіцца чорнай, калі спыняе свой бег...

...Мы задымлялі ладан на агні апраметнай.
Вечар нахіляўся над намі, даруючы пах нафты і серы,
і ўзносіла Зямля подых начных фіялак да Марса.
Ранкам на словах малітвы крывавілі ранкі на маіх губах,
незагойныя ад пацалункаў твайго недаверу.
А ўдзень імжэлі вочы мае, распятыя адзінотай
на небнай адасобленасці зямных абразоў.
Ты палуднаваў хлебам з арахісавым алеем.
Паслухай, у мяне ёсць для цябе заечы хлеб,
за якім дзяўчынкай збягала я на лыжах
у цнатлівую казку аснежанага лесу...

...Бывае, што вершы чапляюцца за мяне,
як маленькія дзеці за рукі ці спадніцу маці.
Ім страшна не пражыць сваё жыццё.
А чалавек не баіцца пражыць не сваё жыццё,
хітруе, падрабляецца пад густ іншых.
Бывае ад вершаў цяжка. Але самі вершы не маюць вагі.
Вершы – душы, загнаныя ў клеткі чалавечых моваў,
дзе кожнае слова – пульхір выхаванай свядомасці.
У нашым свеце, што створаны божышчным словам,
кожны сваводнай воляй стварае свой будучы свет...

...Я скраду цябе з ікон, на якіх распятыя мае вочы,
з малітваў, што крывавяць ранкамі ад тваіх пацалункаў,
з твайго свету, што пахне нафтай і серай,
з усіх тваіх шляхоў і бездаражы, якія ўцякаюць ад мяне.
Я скраду цябе з кола абыякавай вечнасці,
што сталася пульсуючай кропкай, на якой
ты спатыкаешся ў кожным тваім нараджэнні,
каб упасці ў абняцце вільготнага ўлоння жыцця
і згарэць да попелу гэтай цвыркуновай ночы,
дзе мае гарачыя пальцы кранаюцца тваіх чорных смочак...
...Я пайду, абніму сваю кошку.

* * *

Няйначай заўтра быць дажджу.
Душа стамілася. Да плачу.
Ёсць крыж. І дзякаваць крыжу.
А як іначай?..

Апошні ліст з бярозкі ўпаў.
Такая выйшла незадача.
Канае восені запал.
А як іначай?..

Да неба не знайсці драбін.
Я адпачну, каб толькі ўбачыць
У снезе чырвань арабін.
Бо як іначай?..

*Менск, 1.11.21 г.*

Мікола Адам



...ніводная нармальная дзяўчына...
ніколі не будзе складаць вершы...

# Паэт і Паэтка

***Аповесць***

Хударлявы, сярэдняга веку Паэт не спаў. Яго высокая постаць, здавалася, нерухомай свечкай тырчала ў вачніцы ночы, што тапіла ў сабе, бы ў балоцістай твані, прыціхлую, сцішэлую кватэру, стомленую дзённымі турботамі і клопатам. Апошнім часам сон пазбягаў Паэта, а калі прыходзіў, то зусім ненадоўга. Ціўкне вераб'ём па-над вухам і скокне некуды ў нябачную пустэчу: не злавіць, не адшукаць яго ні там, ні дзе-небудзь яшчэ. Звычайна Паэт пісаў менавіта па начах. Вершы прыносілі сны рыхтык заўзятыя грыбнікі поўныя кошыкі лісічак і баравікоў. Адно бяры ды запісвай. Тады Паэт вылузваўся з падобных на слізкую тканіну сноў, раздзіраў іх пасярэдзіне, пакідаючы магчымасць вярнуцца, і спяшаўся да пісьмовага стала, што сумаваў пад зашторaным акном адданым, заўсёды гатовым быць карысным сабакам, запальваў настольную лямпу, сядаў ва ўтульны фатэль, разгортваў агульны вучнёўскі сшытак у краткі, падбіраў

са стала асадку і... пісаў. Спяшаючыся, захлынаючыся ў вобразах, бы ў чортавым віры. Затым ставіў кропку і зноў лягаў. І спаў ужо бы пшаніцу прадаўшы да самага ранку, пакуль яго не будзіла сонца, якое патрапляла ў кватэру нават праз зашторанае акно, бо для сонца нічога немагчымага не існавала, тым больш што шторы ніколі не перашкаджалі сонцу прабівацца праз іх з-за ўласнай празрыстасці і вясёлай каляровасці. Тым не менш каторую ўжо ноч Паэт не спаў, але і не пісаў таксама. Не мог пісаць, як не мог і спаць. Ды не толькі сны адказвалі за яго працаздольнасць. Сны ўсяго выконвалі функцыю каталізатара, поштурха да творчасці. Яны слугавалі, але не Паэту, як ён памылкова лічыў пэўны час. За імі стаяла Муза. Менавіта Муза каардынавала дзейнасць сноў Паэта, удыхала ў кожны сон частачку сябе, і з гэтых частачак Паэт ляпіў Паэзію на старонках сшытка ў краткі, нібы аплікацыю. Паэт не збіраўся быць Паэтам. З дзяцінства ён рыхтаваў сябе да палёту ў космас. Не ўяўнага, не ў фантастычных вобразах і ў звышнатуральных намаганнях думкі, хоць, так, дзякуючы і фантастычным раманам таксама, якія чытаў запоем, глытаў, нібы ўпадабаны абрыкосавы сок. Паэт не сумняваўся ва ўласных здольнасцях і вартасцях, каб папоўніць сабой пантэон славутых касманаўтаў, аднак здароўе яго ўсё ж не дазволіла ажыццявіцца мары. Расчараванне захліснула шыю Паэта вяроўкай, сціснула яе ў тугі вузел і выбіла жыццё з-пад ног, бы зэдлік з-пад асуджанага да павешання. Ён не хацеў жыць далей непаўнавартасным, сваё нездаровае, як высветлілася, здароўе адчуваў кожным капілярам цела як заганнасць, чужароднасць, пракажонасць. Насамрэч збіраўся пазбавіцца жыцця, хоць космас не адпускаў яго ад сябе, а з яшчэ большай сілай вабіў і шматабяцальна падміргваў, быццам жаданая дзяўчына, якая ўвесь час дражніла і раптам вырашыла аддацца. Вось тады і з'явілася Муза. Той самай жаданай дзяўчынай, якая аддалася. Выйшла з ценю ў куце над ложкам, дзе пад самай столлю заўжды сядзеў на сплеценым з павуціны дыванку вялікі павук, якога Паэт ніколі не чапаў і амаль не заўважаў. Сядзіць там, і няхай сядзіць, нікому ж не перашкаджае. Дзіўная рэч, але з узнікненнем Музы адбылося знікненне павука. Ці не Муза і была тым павуком, сачыла за ім зверху, вывучала, пакуль не прыйшоў тэрмін заявіць пра сябе і адкрыцца Паэту, паведаміць яму, хто ён на самой справе і дзеля чаго прыйшоў у гэты свет? Нярэдка Паэт пытаўся ў самога сябе, але ніколі не запытаў Музу. Яна адзіная, хто зразумеў яго і падтрымаў у часы роспачы, нявер'я і дэпрэсіўнага стану. Ахутала цяплом, увагай і спагадай, накіравала ў патрэбнае для яго, па яе меркаванні, ручво. Паэт давяраў Музе, а Муза Паэту. Напэўна, яна і зляпіла з Паэта Паэта. Як аплікацыю. І мела на яго ўсе правы.

На жаль, Муза не належала сабе ў той ступені, якой бы ёй хацелася. Гэтаксама, як сны слугавалі Музе, так і яна слугавала Паэзіі, якая выкарыстоўвала Муз выключна дзеля ўласных эгаістычных мэтаў па падпарадкаванні сабе любімай паэтаў – усіх і кожнага. Быццам Клеапатра, Паэзія насалоджвалася паэтамі і выпівала іх жыцці, як яйкі, на сняданак, каб вечна заставацца маладой і прыгожай. Яна была своеасаблівым варыянтам графа Дракулы, дакладней, графіняй ці, нават больш, імператрыцай, здатнай на самыя розныя пераўтварэнні: ад цнатлівай дзяўчынкі сельскага разліву да непрыступнай арыстакратычнай дзівы. На любы смак і густ. Мянялася, не разважаючы, абы звабіць, спакусіць і паглынуць, а затым задаволенай сытай ільвіцай вярнуцца на трон, той самы трон, што ўзвёў для яе дацкі казачнік Андэрсан, аднойчы назваўшы Снежнай Каралевай, бо, па сутнасці,

Паэзія Снежнай Каралевай і з’яўлялася, дазваляла сябе любіць і кахаць, але сама нікога не любіла і не кахала. Ніколі.

Муза Паэта не жадала, каб яе абраннік трапіў да Паэзіі на сняданак. Ці не ўпершыню за ўсё існаванне Літаратуры Муза адмовілася падпарадкавацца няпісаным яе правілам, што дзіўна і незразумела, бо Паэт, па праўдзе кажучы, не хапаў зор з неба і не абяцаў вырасці ў перспектыве ў кагосьці кшталту Пушкіна, Коласа, Стуса, Сыса, Уітмена, Бадлера, Гінзберга... Ён увогуле мог не вырасці ні ў кога, нават у самога сябе. Тым не менш Муза ўпарта супрацiўлялася Паэзіі і хавала ад яе Паэта, рызыкуючы патрапіць у няміласць, адкуль і да дыскваліфікацыі было недалёка. Так, Муза пагаджалася, што здольнасці Паэта выглядалі не вельмі і асабліва разлічваць на іх не мела сэнсу, а значыць, і Паэзіі ён быў ні да чога. Аднак толькі Муза ведала, што Паэт на самай справе адно прытвараецца пасрэдным творцам, бо менавіта яна ўнушыла яму паводзіць сябе падобным чынам, каб не страціць яго, каб ён належаў толькі ёй. Ці не ўявіла часам Муза сябе нечым большым за тое, чым ёсць? Ці не пабачыла сябе на месцы Паэзіі? Самой Паэзіяй? Новай Паэзіяй? Падобныя думкі, так, наведвалі Музу, але яна не імкнулася да бунту – бязлітаснага і бяссэнсавага – і не збіралася Паэзію пасунуць з яе п’едэстала. Яна была Музай, а не вампірам. Створанай дапамагаць паэтам і натхняць іх, а не нішчыць. Да таго ж маладой і захопленай, мо таму і здатнай на неўласцівыя Музам учынкі. Яна схавала Паэта ад усюдыісных вачэй Паэзіі ў акадэмічных ведах, на першы погляд, нудотных, нецікавых і нікому непатрэбных. Інакш кажучы, зрабіла яго спачатку студэнтам-філолагам сталічнага ўніверсітэта, потым аспірантам гэтага ж універсітэта, затым выкладчыкам таго ж універсітэта з паступовым прафесійным ростам ад дацэнта да прафесара, загадчыка кафедрай, дэкана і рэктара.

Паэту падабалася вучыцца. У адрозненне ад яго аднакурснікаў. Тыя, здавалася, зусім не збіраліся прысвяціць свае лёсы філалогіі. Іх цікавіла жыццё ва ўсіх яго праявах з абавязковымі алкаголем, танцамі і сэксам, нічога агульнага з навукай. Паэта яны называлі сухаром, бо той не падтрымліваў іх імпэту да “пражыгання” жыцця. У яго не было ніводнага сябра. Затое мелася Муза, якая чакала дома цярпліва і пакорліва, бы пакаёўка-рабыня. Так, Муза чакала Паэта, але ў тым, што яна была яго рабыняй, Паэт глыбока памыляўся. Хутчэй ён быў яе рабом, гатовым па першым патрабаванні выканаць любы загад. Зрэшты, загадвала Муза яму толькі адно: пісаць. Па начах, праз сны. І не загадвала, а лашчыла слых неверагодна прыемным шэптам. Нярэдка зранку Паэт прачынаўся і не памятаў, што ўставаў сярод ночы, каб пісаць вершы. Калі ён сыходзіў з кватэры ва ўніверсітэт, Муза чытала іх уголас маўклівай, але вельмі ўважлівай кватэры, яе супольніцы па выкраданні вершаў Паэта і ўтойванні іх ад Паэзіі. Муза адзіная валодала скарбам Паэта, самім Паэтам і ні з кім не жадала яго дзяліць. Маладая, неразумная.

Паэтка першыя свае гады ад дня нараджэння жыла бадай што ў цяплічных умовах. Бацькі не маглі надыхацца дзяўчынкай і літаральна здзьмухвалі з яе пыл рэчаіснасці, што асядаў нябачнымі буднямі, выпуклымі выхаднымі, сонечнымі святамі і страшнымі трывожнымі начамі на тварык і плечы малой. Яна была цудам, не іначай, нябёсамі падораным бацькам, якія ўжо і не спадзяваліся, страцілі надзею, як страчваюць жыццё, на шчасце

застацца ў гэтым свеце не адным. Калі Паэтка нарадзілася, бацька ўжо меў за плячыма больш за пяцьдзясят гадоў, а маці, маладзейшая за яго на дзесяць гадоў, усё яшчэ не верыла, што нарадзіла. Яна нават не верыла, што цяжарная, да апошняга. Не верыла нават, калі нараджала. Ёй здавалася, што тое адбываецца не з ёю. Маці лічыла іх з бацькам бяздзетнасць пакараннем за прафесійную дзейнасць. Ён служыў катам, расстрэльваў асуджаных на смерць вязняў; яна рабіла аборты ўсім дзяўчаткам і жанчынкам, якія не жадалі радаваць свет новымі жыццямі, ніколі іх не асуджала, але і не шкадавала, калі тыя раптам сыходзілі крывёй ці невылечна захворвалі. У якуюсь хвіліну падчас родаў маці адчула, што Паэтцы пагражае смяротная небяспека, і папрасіла доктара, калі што якое, ратаваць не яе, а дзяўчынку. Зрэшты, абышлося без эксцэсаў. Паэтка нарадзілася здаровенькай, цікаўнай піскляўкай, што пастулова ператварылася ў сапраўдную прынцэсу, надзвычайна прыгожую і разумную. Прынамсі, так сцвярджалі бацькі, нягледзячы на іх прафесійную дзейнасць, вельмі паважаныя і заможныя людзі ў горадзе. Жылі яны ў доме, у самай сярэдзіне яго, з Цэнтральнай кнігарняй унізе, што стаяў у шэрагу іншых дамоў уздоўж галоўнай вуліцы сталіцы, праз якую горад прапускаў бясконцую плынь рознага кшталту матораў, як сардэчных, так і механічных. Паэтку бацькі і апраналі як прынцэсу, з гонарам паказвалі знаёмым, суседзям і калегам, быццам жывую ляльку, ладзілі цэлыя выставы з яе ўдзелам. Нярэдка Паэтка апыналася ў такія хвіліны на крэсле з нагамі, нібы на падмостках, што рабіла яе вышэй за прысутных, і чытала вершы, як сапраўдная артыстка, не свае, звычайна, але з адчуваннем уласнай прысутнасці ў іх, чым даводзіла слухачоў і гледачоў да слёз. Яе пранікліві і не па ўзросце дарослы голас браў у палон кожнага, хто яго чуў хоць аднойчы. Бездакорнай чысціні тварык з выразна акрэсленымі правільнымі рысамі і сінімі-сінімі, нібы фарбаванымі вочкамі ў золаце бліскучых кудзерак, што рассыпаліся па плячах сапраўднымі каштоўнасцямі, нікога не пакідаў абыякавым. Ад яе нельга было адвесці вачэй, пакуль яна сама таго не дазваляла. Прысутнасць маленькай Паэткі, якая яшчэ паэткай не была і нават не задумвалася пра ўласную будучыню, тым не менш, здавалася, стварае ў той мясцовасці, дзе апынулася, своеасаблівую аўру казачнасці і чараўніцтва. Аднак казка гэтая аказалася нетрывалаю і хісткаю, як падвясны мост. Аднойчы хворым прастуджаным вечарам, адхвастаным ветрам і дажджом быццам у пакаранне за немач, бацькі Паэткі загінулі ў аўтакатастрофе. Слізкі асфальт і дрэнная бачнасць на дарозе з-за непагадзі не дазволілі бацьку Паэткі, які кіраваў машынай (ён і маці вярталіся з дачы дадому, дзе іх чакала Паэтка пад наглядам нянькі, везлі малой вырашчаныя на ўласным гародзе кавуны), справіцца з кіраваннем. На адным з паваротаў машыну занесла, перавярнула шэсць разоў запар праз сябе, выварочваючы вантробы і транты, ды ўціснула бокам у старую, але трывалую таполю з варонамі на ёй, нібы заселеную імі, як інтэрнат. Вароны ў тую ж секунду незадаволена закаркалі, устрывожана прыўзляцелі з наседжаных месцаў ды вярнуліся да назад, зразумеўшы, што ім нічога не пагражае. А потым машына ўспыхнула. Зарана супакоеныя вароны, не ўсе, зразумела, але патрапілі на язык да агню, што лізаў ствол таполі, быццам каханак, які вырашыў залашчыць каханую да смерці, а там хоць трава не расці. Зрэшты, бацькі Паэткі гэтага не бачылі. Яны памерлі яшчэ да таго, як агонь наладзіў уласны бенефіс.

Жыццё Паэткі змянілася ўмомант пасля смерці бацькоў. І яна прыняла яго з усмешкай стоіка, нібы першая ахвяра хрысціянства, кінутая ў клетку да разлаваных і галодных ільвоў. Сямігадовай дзяўчынцы прызначылі апекуноў у асобах матчынага старэйшага брата і яго жонкі ды адправілі на пмж у пгт на памежжы з Расіяй, дзе жыў з сям'ёй яе дзядзька. Ён таксама, як і маці Паэткі, быў доктарам, праўда, зубным, меў у цэнтры паселішча офіс і кабінет, у якім практыкаваў сваё даволі прыбытковае ўменне па лекаванні зубоў за грошы. Гаспадаркай (куры, гусі, індыкі, трусы, свінні, сабакі, вялікі гарод і сад) у двары двухпавярховага драўлянага, абкладзенага звонку белай цэглай катэджа займалася жонка, прынамсі, да з'яўлення ў яе доме непаўналетняй сваячкі, якую жанчына ўзненавідзела з першага позірку, а чаго, і сама б не адказала, калі б хто спытаў. Нянавісць жанчыны да Паэткі ўзмацнялася з кожным днём, расла, нібы ракавая пухліна ў мозгу, асабліва пасля таго, як не ўдалося прадаць сталічную кватэру загінулых сваякоў, што па завяшчанні, паспелі-такі, нібы прадчувалі бяду, скласці неабходны дакумент, належала іх дачцэ і да яе паўналецця ніхто не меў права распараджацца маёмасцю. Хіба што здаць у часовае карыстанне з улікам абавязковай дамовы дзеля аплаты падаткаў на карысць дзяржавы. Зразумела, кватэру здалі, ахвочых хапала, а лішніх грошай, як вядома, не бывае, да таго ж яны яшчэ і не пахнуць.

Дзядзькава жонка адпомсціла Паэтцы за няўдачу з продажам кватэры, якую ў думках адразу ж і прадала, і патраціла ўжо грошы, атрыманыя за яе ва ўяўленні, з імпэтам злой мачахі з казкі пра Папялушку. У Папялушкі Паэтку і прызначыла. Усе рэчы дзяўчынкі падзяліла паміж сваімі дзвюма дачкамі-пагодкамі, адна з якіх была равесніцай Паэткі, былой іх уласніцы не пакінула ніводнай. Яе гардэроб запоўніла старым, дзе-нідзе парваным, дзе-нідзе замалым для Паэткі адзеннем і абуткам, што абы-як паскідала ў груваcткую камоду ў былой кладоўцы за кухняй, дзе дзяўчынку і пасяліла. Камода тая доўгі час замяняла Паэтцы ложак. Дзядзька не цікавіўся адносінамі да пляменніцы сваёй сям'і, аднак, калі б Паэтка паскардзілася яму на несправядлівае да сябе стаўленне, магчыма, нешта б зрабіў дзеля яе. Але Паэтка маўчала, таму дзядзька лічыў, што малую ўсё задавальняе. Дзядзькава жонка, раздражнёная маўчаннем дзяўчынкі, унушыла ёй, што тая ім вінная за прытулак, дах над галавой, цяпло і ежу. Штодзень пыталася ў яе, якім чынам малая будзе расплачвацца за дабро, атрыманае ёю ў сям'і, якая зрабіла ласку і не пакінула адну або ў інтэрнаце?.. Падобнымі размовамі падштурхнула Паэтку да працы ў двары перад школай (звычайнай і бясплатнай, дачок сваіх вазіла ў раён, у платную гімназію) і пасля заняткаў. Іншымі словамі, выкарыстала як парабчанку. Зрэшты, Паэтцы падабалася важдацца з трусамі, куранятамі, гусянятамі... Тады жанчына абавязала Паэтку яшчэ і гатаваць сняданкі для ўсіх хатніх, прычым для дачок яе асобна і па асаблівым меню, ды прыслугоўваць, пакуль тыя не паядуць. Каб паснедаць самой, звычайна, часу не заставалася. Паэтка сілкавалася прыхапкам і на хаду, ды тым не менш заставалася заўжды вясёлай і жыццярадаснай.

Школа Паэтцы падабалася. Гэтаксама, як і вучыцца ў ёй. Кожны прадмет усміхаўся ёй на ўроках усмешкай чашырскага ката ў паветры, добразычліва і даверліва. Кожны прадмет яна цалавала сваёй усмешкай у адказ, таму не дзіўна, што скончыла школу з залатым медалём. У адрозненне ад стрыечных сясцёр сваіх, якіх дарагая платная гімназія выпусціла ў свет, здавалася,

выспяткам пад зад каленам ды яшчэ абмацюкала на дарожку. Яны таксама ненавідзелі Паэтку за ўласныя непасьпяховасць, няўважлівасць і глупства. Лічылі, што гэта яна вінаватая ў іх непрыдатнасці да вучобы з-за сняданкаў, у якія быццам бы адмыслова падмешвала зелле для атрафіі мозгу. Маці дзяўчат, як звычайна, падтрымала. Утраіх яны паскардзіліся на Паэтку гаспадару дома, які спачатку асалапеў ад бязглуздзіцы абвінавачвання, затым раззлаваўся на сапраўды недалёкасць дачок і жонкі, потым затупаў на іх нагамі, накрычаў, насварыўся і сышоў з хаты да палюбоўніцы, у наяўнасці якой жонка з дочкамі таксама абвінавацілі Паэтку. Прыгажосць апошняй, зноў жа, з'яўлялася нагодай для рознага кшталту абвінавачванняў з боку сваячак. Яны напраўду лічылі прыгажосць Паэткі, якая яшчэ і розумам аказалася не абдзеленая, несправядлівай, недапушчальнай, падазронай і непрымальнай. Не іначай, у сіротку ўсяліўся Д'ябал. Доказ прысутнасці Д'ябла ў целе Паэткі адшукаўся вельмі хутка ў выглядзе некалькіх нататнікаў, што хаваліся ў камодзе на самым донцы яе, спрэс спісаных вершамі, ды не проста вершамі, а вершамі на мове, якую сёстры з маці сваёй ненавідзелі больш за любоў да жыцця. Дакладна, д'ябальшчына. Маці стрыечных сясцёр Паэткі ад самага пачатку з'яўлення дзяўчынкі ў яе хаце заўважыла, што з тою нешта не так. Ніводная нармальная дзяўчына, па яе меркаванні, ніколі не будзе складаць вершы, бо, па-першае, гэта непрактычна, па-другое, ненармальна, па-трэцяе, зняважліва і абразліва для прытуліўшых і пашкадаваўшых сірату, тым больш на мове, якою ніхто не размаўляе, якую і мовай, дакладней, языком, цяжка назваць. Ды нават на языку нармальная дзяўчына ніколі не будзе складаць вершы, каб, у першую чаргу, не абняславіць сям'ю і сябе ў сям'і, бо складанне вершаў лёс недасканалых маральных пачвараў, якім усё адно нічога ў жыцці не свеціць. Жанчына пашкадавала сябе, бо што скажуць людзі, калі даведаюцца пра Паэтку, выхаваную ў яе доме?!. Гэта ж ужо ніколі не адмыцца!

Паэтка сапраўды складала вершы. Паэзія прыйшла да яе аднойчы ўначы і пацалавала ў вочы. Чымсьці яна нагадвала Фею-хросную з казкі пра Папялушку. З часам Паэтка ўпэўнілася, што не памылілася з параўнаннем. Паэзія сапраўды аберагала і ратавала дзяўчыну ад жыццёвых нягод, бур і сумётаў. Падказвала і паказвала, як разумець свет не наўпрост, а праз мастацкую вобразнасць, каб любіць яго напоўніцу, калі не кахаць.

Паэтка зачытвалася чужымі вершамі, захоплена ўсклівала ад найбольш упадабаных радкоў. Узбуджанае сэрца яе трымцела ў тыя хвіліны, як ад палёту на арэлях. Дыханне перахоплівала ці то ад нястачы паветра, ці то, наадварот, ад яго звышнаяўнасці. І казытала ў паднябенні нябачнай саломінкай эстэтычнае задавальненне. Прозвішчы паэтаў, чые вершы Паэтка чытала, большасць з якіх ведала на памяць і неаднаразова прамаўляла іх уголас вятрам, палям, лясам, небу ды сонцу, калі сыходзіла з дому, каб адасобіцца дзеля ўласнай творчасці ад хатніх спраў, таксама гучалі як вершы. Іх Паэтка шаптала, нібы мантру альбо замову, замаўляла сабе будучыню. З яе вуснаў зляталі прозвішчы Сафо, Віён, Рэмбо, Бадлер, Верлен, Апалінэр, дэ Бавуар, Брантэ, Ахматава, Гумілёў, Цвятаева, Блок, Ахмадуліна, Міцкевіч, Шымборска, Стус, Кастэнка, Купала, Сыс, Янішчыц, але не падалі на зямлю, каб некалі прарасці палеткамі, а ўзляталі і, як матылькі, кружлялі вакол галавы, утваралі своеасаблівы арэол, махалі крыламі і ззялі вясёлкавым святлом, асвятлялі душу Паэткі, дабраслаўлялі на шлях, ужо падказаны і паказаны Паэзіяй.

...І тым не менш, вершы Паэта друкаваліся ў сталічнай перыёдыцы, нават асобнымі кніжкамі выходзілі, прычым не без поспеху. Яны мала чым адрозніваліся ад засілля сярэдняй паршывасці прадукцыі іншых графаманаў, якія лічылі сябе геніямі і не хавалі гэтага ні ад кога, выглядалі не горшымі, але і не лепшымі, затое не заставаліся незаўважанымі, не адсоўваліся ўбок і не збіралі там пыл незаслужана забытымі. Пасрэдна правільныя творцы і іх творы папулярызаваліся і падаваліся крытыкамі як боршч, у якім стаяла лыжка, на стол да гэтаксама выверанага да секунды абеду, зразумелага і стабільнага. Вершы Паэта, што друкаваліся з безліччу іншых вершаў іншых паэтаў, якраз зразумелымі і былі, без небяспечнага падтэксту, што шыфраваўся паміж радкоў, без другога дна, без той шалёнай вобразнасці, з-за якой Паэзія паглынала паэтаў, спальвала іх жыўцом, што выносіла чытачу мозг нябачнай стрэльбай, падобнай на тую, якой скарысталіся Хэмінгуэй, Вінаградаў ды некаторыя ім падобныя. Муза дазваляла Паэту цешыцца гульнёй у Паэта, бо, па вялікім рахунку, вершы яго сапраўды выглядалі няблага на фоне астатніх, тым больш у асяроддзі сярэднестатыстычных абывацеляў, для якіх вершамі з'яўлялася ўсё тое, што ў рыфму. Да таго ж ён так кранальна звяртаўся да прыдуманай лірычнай гераіні, што амаль кожная жанчына, пачуўшая або прачытаўшая радкі Паэта, успрымала іх як зварот непасрэдна да яе. Дый назіральнасць яго захапляла: замалёўкі пра прыроду і поры года разляталіся, як піражкі, у афарызмы, устойлівыя выразы і цытаты. За апошняе Паэта недалюблівалі калегі, бо таксама хацелі, каб іх словы разбіраў народ гарачымі, ды з пылу, з жару, праўда, у вочы ніколі не казалі яму пра сваю нелюбоў. Зрэшты, ніхто з іх ніколі і нікому не казаў у вочы пра сваю нелюбоў адзін да аднаго. Ненавідзелі ціха і моўчкі, бо інтэлігентна выхаваны творца інакш не можа. Слабаваты ён для адкрытага супраціву, цягліцы не там і не так нарошчваў, дый рахіт у душы. Паэт, аднак, у гэтым плане адрозніваўся ад асноўнай масы творчай інтэлігенцыі, нягледзячы на тое, што не патрапіў у касманаўты менавіта па нездавальняючым стане здароўя. Яго ванітавала падчас трэніровак ва ўяўнай бязважкасці з-за парушанага вестыбулярнага апарата, як ванітавала на ўсіх каруселях, арэлях ды заднім багажніку веласіпеда. Але цягліцы адгадаваў бясспрэчныя і небяспечныя для акаляючых. Ён вельмі любіў кінатворчасць Сталоне, Шварцэнегера, Ван Дама і Дольфа, таму і захапіўся фізічнай эстэтыкай уласнага цела ды каб мазгі не засушыліся як гербарый. «Яму б грузчыкам працаваць дзе-небудзь у порце, а не вершы пісаць ды кніжкі чытаць упярэмешку з лекцыямі», – нярэдка чуў Паэт у кулуарах універсітэта з вуснаў студэнтаў. Але не крыўдзіўся, наадварот, усміхаўся задаволена.

Неўзабаве на словы Паэта кампазітары пачалі накладаць музыку, спевакі з томнымі позіркамі какаіністаў заспявалі вершы Паэта, закохваючы жанчын яшчэ больш у прыдуманыя ім радкі, у прыдуманага імі яго. У вольны ад асноўнай працы час Паэт выступаў запрошаным госцем на заводах, фабрыках, прадпрыемствах рознага кшталту, падпісваў кнігі, прымаў падарункі і прэміі, нават ажаніўся. Муза, якая па-ранейшаму прыхоўвала лепшыя рэчы Паэта падалей ад Паэзіі, спачатку наструнілася ад з'яўлення законнай жонкі ў жыцці Паэта, але хутка зразумела, што тая ёй не суперніца, і супакоілася, дэманстратыўна не заўважала Бібліятэкарку. Менавіта на Бібліятэкарцы Паэт і ажаніўся, што цалкам лагічна. Не з кранаўшчыцай жа ці з матарысткай яму было жыццё сваё паядноўваць.

З Бібліятэкаркай Паэт пазнаёміўся падчас чарговай сваёй сустрэчы з чытачамі ў адной з бібліятэк сталіцы. Тады ўпершыню не ён трымаў аўдыторыю і заахвочваў слухаць сябе (а заахвочваць умеў, бо валодаў заварожваючым тэмбрам голасу, які ў сукупнасці з атлетычным целаскладам і тэкстам, што прамаўляўся, ствараў своеасаблівую гіпнатычную аўру, якой скараліся кожны ці кожная, хто трапляў у радыус яго ўвагі, таму і лекцыі Паэта студэнты рэдка калі прапускалі), наадварот, апынуўся ў ролі слухача і гледача. Дзеля Паэта была наладжана цэлая выстава з удзелам школьнікаў старэйшых класаў, якія па яго вершах стварылі даволі цікавае відовішча, падчас прагляду якога Паэт нават расчуліўся. Сапраўды, выстава атрымалася кранальна-шчымлівая, у духу галівудскіх псіхалагічных драм, аўтарам і рэжысёрам якой была якраз будучая жонка Паэта. Ён пасля таксама чытаў вершы і бясплатна ўсім прысутным падпісаў свае кнігі. Бібліятэкарка, з наіўным выразам вачэй, але самым нахабным чынам папрасіла Паэта правесці яе, калі, зразумела, той меў час, пасля заканчэння сустрэчы. Яна ад самой сябе не чакала падобнай смеласці, аднак чамусьці не сумнявалася, што Паэт падтрымае яе просьбу, да таго ж, у любым выпадку, нічога не страчвала. Жыла Бібліятэкарка непадалёк ад бібліятэкі, у якой працавала, у здымнай аднапакаёўцы высоткі, падобнай на кукурузу, таму дарога абодвух не стаміла, наадварот, падалася закароткай. Паэт не хацеў сыходзіць ад Бібліятэкаркі, з якой, як ні з кім, яму было лёгка, прынамсі, у той момант. Бібліятэкарка таксама адчувала неабходнасць у працягу наладжвання стасункаў з Паэтам, інакш чаго было затрымліваць яго пасля сустрэчы ў бібліятэцы. Яны не зговорваліся, але думалі аднолькава. Прыцягненне, што адчувалі абое адно да аднаго, злізала абавязковыя ў такіх сітуацыях нязручныя моманты, як аматар салодкага крэму з торта, не стрымліваючы сябе і не чакаючы дазволу. Ліфт нязмушана падняў на сёмы паверх, чырванеючы, праўда, за бессаромныя пацалункі, якімі жарсна абменьваліся пасажыры, упрыгожваючы сцены фантастычнымі кветкамі гукаў. Кватэра гасцінна адчыніла дзверы, якія Паэт зачыніў нагой, бо ўсе астатнія часткі цела былі занятыя Бібліятэкаркай. Яны не запальвалі святла, бо святло выпраменьвалі самі, хоць да ложка рухаліся навобмацак. І Паэта, і Бібліятэкарку нічога не цікавіла і не хвалявала, акрамя вуснаў і дотыкаў адно да аднаго, пранікання аднаго ў другога, валодання адным другім і наадварот. Затым пачаліся спатканні, абавязковыя ў кветкава-цукеркавы перыяд, жаданне падабацца і цешыцца захапленнем партнёра, жаданне схаваць заганныя якасці куды падалей, як брудную бялізну, жаданне здавацца цікавейшым, разумнейшым, дасціпнейшым за тое, што мелася на самой справе. Бібліятэкарка называла Паэта Майстрам па аналогіі з булгакаўскім персанажам, хоць раман не чытала, але паглядзела ад няма чаго рабіць расійскі серыял па рамане, нават недзе адшукала шапачку з надпісам «Майстар», як у фільме, і падаравала Паэту. Казала, што Паэт у гэтай шапачцы яе надзвычайна ўзбуджае. Да самага вяселля Бібліятэкарка хавала ад Паэта наяўнасць пазашлюбнага шасцігадовага сына, які выхоўваўся дзедам з бабай у глыбіні Палесся. Яна хацела за Паэта замуж і не хацела адначасова, таму не казала, што мела дзіця, якому шукала бацьку. Ці здатны Паэт стаць бацькам яе сыну? Ці здатны Паэт увогуле стаць бацькам? З аднаго боку Паэт быў даволі перспектыўным чалавекам, сацыяльна абароненым, стабільным, самавітым. З іншага – Паэтам, што не вельмі падабалася Бібліятэкарцы, бо творчасць у яго заўжды будзе на

першым месцы, а не яна, тым больш яе сын. Канечне, можна паспрабаваць змяніць Паэта, каб усе яго думкі круціліся вакол яе, Бібліятэкаркі, тым больш што яна мела сродак маніпуляцыі ім, а значыць, каб не страціць яе, Паэт мусіць падпарадкавацца новым правілам жыццёвай гульні. У інакшым выпадку Бібліятэкарка адлучыць яго, як царква адлучыла Льва Талстога. Рашэннем сваім яна вельмі рассмяшыла Музу Паэта.

Увогуле Бібліятэкарка кнігі не любіла і чытала іх рэдка, па неабходнасці. У нелюбові да кніг вінаваціла бацьку, якога без кнігі ў руках, паўсюль дзе толькі можна, не памятала. Замест таго, каб займацца сям'ёй і дзецьмі, клапаціцца, выхоўваць, абараняць родных ад рэчаіснасці, ён, здавалася, адмыслова збягаў ад яе ў прыдуманы, неіснуючы свет раманаў. Напэўна, калі б мог, калі б адшукаў пралаз, каб не вяртацца адтуль, не вярнуўся б. Бацька з усімі сваімі кнігамі раздражняў Бібліятэкарку, раздражнялі кнігі, на якія ён спускаў большасць заробку, калі не ўвесь, ды яшчэ прыхопліваў матчын. Як толькі маці цярпела яго?!. Аб бацькавы кнігі Бібліятэкарка ўвесь час спатыкалася, яны запаўнялі сабою ўсю вольную прастору ў хаце, быццам вірус, натыкалася на іх нават у прыбіральні. Яны патрабавальна пазіралі на Бібліятэкарку паразітамі, але з выглядам арыстакратаў, якім яна павінна была служыць.

Так, Бібліятэкарка працавала ў бібліятэцы, аднак з кнігамі спраў не мела. Яна адказвала за інфармацыйны партал сайта бібліятэкі, які запаўняла навінавым кантэнтам. Душу адводзіла наладжваннем рознага кшталту мерапрыемстваў, як запланаваных адміністрацыяй бібліятэкі, так і пазапланавых, ды правядзеннем іх. Спадзявалася пасродкам мерапрыемстваў, на якія прыходзілі цікавыя і паважныя людзі, уладкаваць асабістае жыццё, прынамсі, вельмі разлічвала на тое. Па адукацыі яна была рэжысёрам масавых святаў, па заканчэнні ўніверсітэта яе чакала размеркаванне на радзіму, дзе вышэй загадчыцы сельскага клуба ёй нічога не свяціла. У лепшым выпадку. Перспектыва аказацца засмоктанай, быццам балотнай тванню, у палескую глуш, упадобіцца жывому трупу ў адкрытай дамавіне правінцыі, патрапіць пад аб'юз абавязковага мужа-дэгенерата-трактарыста-п'янтоса ды заплысці тлушчам, як качка, ад пастаяннай цяжарнасці – не вяршыня яе надзей на будучыню і спадзяванняў. Таму Бібліятэкарка загадзя паклапацілася, каб застацца ў сталіцы і ўхапілася за першы ж варыянт, прапанаваны лёсам, баючыся праз мноства магчымых варыянтаў, калі будзе перабіраць іх, апынуцца ля разбітага карыта, як тая старая з пушкінскай казкі. І ўсё б нічога, ды нагуляла, пакуль атрымлівала адукацыю, дзіця, незапланаванае, непатрэбнае, несвоечасовае, да таго ж праз выпадковы, нічога нявартьі сэкс з такім самым нявартым і нікчэмным аднакурснікам па п'яні. Аднакурснік адразу адмовіўся ад яе, як пачуў пра цяжарнасць, ён нават не памятаў, што пераспаў з дзяўчынай. Спарон Бібліятэкарка зрабіць пабаялася, бо грэх. Зрэшты, бацькі не пакінулі ў бядзе, забралі дзіця, нічым ні разу не папракнуўшы дачку. Маўляў, мы прыглядзім за ўнукам, а ты, доня, давай, трымайся, шукай сваё шчасце. Бацька нават здзівіў: ахвяраваў кнігамі дзеля немаўляці. Бібліятэкарка не ведала, ці пакрыўдзіцца на яго, ці, наадварот, парадавацца за сына, бо ёй бацька ніколі столькі ўвагі не ўдзяляў, колькі цяпер унуку. Падумаўшы, яна ўстрымалася ад каментароў. Сабе даражэй. Яшчэ абурыцца і прагоніць з хаты разам з прыплодам. Супакоеная тым, што дзіця прыстроена, Бібліятэкарка вярнулася ў сталіцу ў спадзеве замацавацца і пусціць у ёй

карані чароўным бэзам. Ды ўсё неяк міма. Пакуль на гарызонце не з’явіўся Паэт. Ён прапанаваў ёй руку і сэрца ў шумным рэстаране ў самым цэнтры сталіцы пад музыку адмыслова замоўленых дзеля гэтай урачыстай справы музыкаў з вядомага вакальна-інструментальнага калектыву. Нават укленчыў перад ёй у той момант. Бібліятэкарка адчула сябе багіняй, якая ўхапіла Бога за бараду, і, вядома, зрабіла ласку Паэту, тым больш што рэстаран пазіраў на яе вачыма наведнікаў ды персаналу з захапленнем і, магчыма, зайздрасцю. Ён запляскаў і захлынуўся ў авацыях ёй. Паэт падняўся з каленяў, падхапіў Бібліятэкарку на рукі ды закружыў у дзікім і жарсным танцы кахання. «Ню-ню», – зморшчыла носік Муза Паэта, якая сядзела за суседнім столікам, падзяляючы яго з Паэзіяй і Прозай, што бессаромна і безразважна жлукцілі віно навыперадкі, быццам паспрачаліся на інтарэс: хто каго перап’е.

Тым часам Паэтка вярнулася ў сталіцу і пасялілася ў кватэры сваіх бацькоў, якую загадзя падрыхтаваў да прыезду пляменніцы яе дзядзька, а дзядзькава каханка літаральна вылізала памяшканне так, што тое ззяла, бы сонца, і нават ганарылася ідэальнай чысцінёй. Кватаранты, якія жылі ў кватэры, з разуменнем аднесліся да высялення, папярэджаныя за месяц, і не стварылі тых магчымых праблем, да якіх, зрэшты, дзядзька быў падрыхтаваны. Інтэлігентная выхаваная сям’я іншаземцаў (менавіта іншаземцы здымалі кватэру Паэткі, пакуль яна расла, як па раскладзе змяняючыся раз на год; здавалася, кватэра адмыслова абірала сабе жыльцоў, ніводнага разу не пашкадаваўшы пра тое), далікатна і своечасова перабралася ў іншае месца жыхарства. Дзядзька з каханкай, якія таксама жылі ў сталіцы (дзядзька прадаў бізнэс у правінцыі, наладзіў яго ў сталіцы, справа атрымалася вельмі прыбытковай, бо зубы такая рэч, патрэбная ўсім, і купіў неблагую кватэрку, якую яго каханка ператварыла ва ўтульную і зацішную норку, куды хацелася вяртацца), сустрэлі Паэтку на чыгуначным вакзале і прывезлі ў кватэру на ўласным аўто. Паэтка выглядала сур’ёзна і сканцэнтравана, хоць ледзьве стрымлівала сябе, каб не скакаць гарэзлівым цікаўным кацянём ад аднаго акна машыны да другога, разглядаючы славутасці і людзей, якія заставаліся па-за шклом аўтамабіля. Супакойвала, аднак, сябе тым, што ў яе наперадзе цэлае жыццё і яна ўсё паспее.

Пасля каморкі за кухняй у доме дзядзькавай жонкі кватэра падалася Паэтцы сапраўдным палацам, і гэты палац належаў ёй адной. Паэтка нават разгубілася, калі пераступіла парог кватэры. Ёй не верылася, што яна не спала, і папрасіла дзядзьку ўшчыкнуць яе, каб прачнуцца. Ушчыкнула Паэтку дзядзькава каханка. Дзяўчына ўскрыкнула ад раптоўнага болю, падобнага на ўкол, які хутка прайшоў, і ўсміхнулася: усё, што з ёю адбывалася, адбывалася ў рэчаіснасці. Дзядзькава каханка паказала Паэтцы кухню, адчыніла лядоўню, набітую прадуктамі, сказала: на першы час хопіць. Дзядзька працягнуў нейкія паперы падпісаць, каб Паэтка змагла напоўніцу карыстацца спадчынай бацькоў, у тым ліку банкаўскім рахункам, адкрытым на яе імя. Па ўсім выходзіла, што Паэтка аказалася даволі заможнай дзяўчынай. Яна ўявіла твары стрыечных сясцёр і іх маці ў момант падпісання папер, іх з’едзеныя ад прыкрасці і без таго ледзь заўважныя губы і вочы, заштрыхаваныя кратамі зайздрасці. Утраіх яны шыпелі, як кобры, праводзячы, дакладней, выпраўджваючы Паэтку з хаты, жадалі ёй не даехаць да вакзала і перакуліцца дзе-небудзь па дарозе разам

з усімі пасажырамі аўтобуса, што павязе яе, і ўспыхнуць сінім полымем, каб і следу не засталося ні ад Паэткі, ні ад пасажыраў, хоць тыя былі ні ў чым не вінаватыя. Зрэшты, і Паэтка ні ў чым не правінілася перад стрыечнымі сёстрамі і іх маці, хіба толькі тым, што нарадзілася. А яны не спыняліся ў праклёнах і навыперадкі, дзівуючы адна другую, прарочылі Паэтцы няшчасці, беды, невылечныя хваробы і смерць, бо паэткам, не тое што паэтам, не месца ў прыстойным грамадстве. Яны не сумняваліся, што Паэтка стане прастытуткай, наркаманкай, садаміткай, шызафрэнічкай, алкагалічкай і здохне дзе-небудзь у канаве, бо, па іх меркаванні, гэта доля ўсіх паэтаў. Ведаючы наперад свой заўчасны непрывабны канец, Паэтка мусіла, зноў жа па меркаванні яе стрыечных сясцёр і іх маці, адмовіцца ад спадчыны, якой яна нявартa апрыёры, на карысць тых, хто яе прытуліў, вырасціў і выхаваў, бо вартыя якраз яны і ім гэта больш патрэбна. Яны нават чакалі, чакалі да апошняга, што Паэтка адумаецца і аддзячыць ім за дабро. Ва ўсякім выпадку яна мусіла адмовіцца ад усяго, што належала ёй, па логіцы, вядомай толькі дзядзькавай жонцы, бо так было б правільна. Паэтка мусіла, зноў жа па логіцы дзядзькавай жонкі, падумаць пра сваіх сясцёр, пра іх будучыню, бо яе будучыня, яшчэ не пачаўшыся, ужо змыта ва ўнітаз. Тады Паэтка ўпершыню вымавіла словы, якімі прынцыпова не карысталася, але не пашкадавала, што яны сарваліся з яе вуснаў. «Ведаеце, што, – сказала яна, – ідзіце на ...!» І ўпершыню дзязькавай жонцы не было чым адказаць. Яна толькі міргала, як святлафор, вачыма і тварам, а дочкі яе смяяліся так, нібы ім пальчык паказалі. Зрэшты, Паэтка нічога гэтага не бачыла і не чула, бо ўжо знаходзілася далёка ад сваіх сваячак нават у думках.

Яна падпісала дакументы, якія гарантавалі фінансавую свабоду і незалежнасць ад соцыуму, і засталася ў кватэры загінулых бацькоў адна. Дзядзька з каханкай сышлі, каб больш ніколі не з'явіцца ў жыцці дзяўчыны. Паэтка быццам наноў знаёмілася з кватэрай, вялікай, трохпакаёвай, з балконам-лоджыяй, што апаясваў кожны пакой і, зашклёны ды дагледжаны, бы цяпліца, мог таксама называцца пакоем, чацвёртым. Паэтка выявіла яшчэ і пяты пакой, больш падобны на кладоўку, хутчэй за ўсё і сапраўды кладоўку, зверху да нізу, бы грузавая фура, напакаваную кнігамі, што адначасова ўзрадавала і засмуціла дзяўчыну, бо з кнігамі нельга абыходзіцца падобным чынам, нельга з іх рабіць вязняў і замыкаць у турме, няхай турма тая не зусім сапраўдная, сутнасці ўсё адно не мяняе. Кнігі мусяць упрыгожваць і дапаўняць чалавечае жыццё на кніжных паліцах ці ў кніжных шафах за шклом, як найкаштоўнейшы скарб, а кватэра мусіць імі ганарыцца і ў першую чаргу хваліцца імі перад самой сабой, не кажучы ўжо пра гасцей, калі, вядома, госці аднаго кола з уласнікам кватэры. У доме цёткі Паэтка не мела кніг, яна ўвогуле там нічога свайго не мела. Кнігі брала ў бібліятэцы, але ведала, што аднойчы і ў яе будзе столькі ж кніг, колькі змяшчала бібліятэка, у якую хадзіла, калі не больш. Уадначассе жаданне спраўдзілася. Для кніг Паэтка вылучыла асобны пакой, вызваліла яго спачатку ад усяго лішняга, а лішнім было ўсё, і замовіла стэлаж, такі, які б абшыў сабою пакой нібы шпалерамі. Пакуль стэлаж рабілі і ўзводзілі, разбірала кнігі, размяркоўвала іх па краінах, па алфавіце з прозвішчаў аўтараў, па жанрах ды відах і цешылася кожнай, віталася з кожнай, як з жывой, і кожную адорвала добразычлівай усмешкай. Дзеля гэтага ёй давялося вызваліць яшчэ адзін пакой, дакладней, пасунуць усю мэблю ў адзін кут. Паэтка нават есці забывала, захопленая наладжваннем стасункаў

з кнігамі. Затым, калі стэлаж прызыўна заўсміхаўся з кожнага кута, як толькі што пабудаваны інтэрнат, сотамі-кватэркамі, з задавальненнем іх засяляліла кнігамі, што ўдзячна шапацелі старонкамі. Паэтка выразна чула падзяку кожнай. Шэпт кніг яшчэ доўга чуўся ў пакоі, пакуль яны не абвыклі да новага жытла і не прыцерліся адна да адной. У гэты ж пакой Паэтка змясціла вялікі пісьмовы стол з чырвонага дрэва, адметны тоўстай стальніцай і трыма пукатымі шуфлядкамі справа, прысунуўшы яго пад акно; скураны мяккі фатэль з высокай спінкай у пару да стала; скураную канапу; вокны завесіла чырвонымі фіранкамі. Пакой назвала кабінетам і амаль увесь час, які праводзіла ў кватэры, па вялікім рахунку аддавала яму, нават спала ў ім, забываючы пра спальню, якую таксама абнавіла пад свой густ. Пакой, адведзены пад гасцёўню, з тэлевізарам, карцінамі на сценах і выкшталцонай мэбляй пачуваўся бедным сваяком, бо госці ў кватэру не прыходзілі, іх прыход увогуле здаваўся нечым фантастычным, а Паэтка быццам ігнаравала яго сваёй увагай, аднак дазволіла яму існаваць, бо палічыла рана ці позна патрэбным. Выходзіла з дому яна рэдка, захопленая кнігамі і іх чытаннем, наталялася імі, бы пазбаўленая з дзяцінства салодкіх прысмакаў, і пісала, натхнёная прачытаным. Ва ўласным кабінеце ўласнай кватэры ёй ніхто не перашкаджаў ствараць свой свет. Паэзія, якая нябачнай феяй-хроснай прысутнічала поруч і ласавалася вобразамі Паэткі, яе думкамі і рыфмамі, адчувала сябе ў кабінеце як дома і, тым не менш, сачыла за яе станам, як фізічным, так і духоўным. Калі не на вуліцу, то на балкон праветрыцца адпраўляла Паэтку абавязковыя некалькі разоў па паўгадзіны. Зрэшты, нярэдка Паэтка праводзіла на балконе і больш часу, адчыняла вокны, сядала ў загадзя прынесены фатэль з нагамі і слухала горад, насалоджвалася яго рознагалоссем, бы акапэльным спевам славутага музычнага калектыву, альбо глядзела ў неба, асабліва начное, а неба глядзела ў яе. Іх пераглядкі нараджалі ў грудзях Паэткі нешта надзвычайнае. Узнікала такое адчуванне, што неба дзялілася з Паэткай нечым такім патаемным і інтымным, пра што не распавядала нікому, а вось ёй даверылася, і, дзякуючы гэтаму даверу, творчасць Паэткі раскрывалася, як бутон. Прынамсі, так ёй падавалася.

Паэтка пісала сэрцам, не маючы той базы ведаў, якая быццам бы патрэбна для кожнага, хто павязаў свой лёс з Літаратурай. Апекаваная непасрэдна Паэзіяй і кнігамі паэтаў, якія чытала, якімі захаплялася і натхнялася, яна пракладала ўласны шлях навобмацак праз бруд і шэрасць будзённага жыцця, своеасаблівай кладкай чысціні і наіўнасці, большай за тое, кладкай гэтай і з'яўлялася. Тым не менш не адмаўляла неабходнасці акадэмічных ведаў. Паэтка збіралася паступаць пасля школы вучыцца на пісьменніцу, аднак цётка перашкодзіла, адмыслова затрымала, нагружала хатняй працай, каб дзяўчына не тое што не паспела падаць дакументы ва ўніверсітэт, увогуле не мела часу, ніякага, на здзяйсненне будучыні. Будучыня належала выключна дочкам цёткі. Але ці спраўдзілася будучыня для іх, Паэтка не ведала дый не хацела ведаць Так, яна аказалася ў сталіцы, але запозна для паступлення, прынамсі, у гэтым годзе, што, натуральна, засмуціла Паэтку, ды ўсё ж ненадоўга. Яна мела год, цэлы год падрыхтавацца да наступнай уступнай кампаніі, які, да таго ж, садзейнічаў і большаму знаёмству з горадам, пазнанню яго і абавязковаму сяброўству з ім. Паэтка не сумнявалася, што пасябруе з ім усур'ёз і надоўга.

Яна выйшла на вуліцу ў пару спальвання апалай лістоты, падрыхтаваўшы да друку першы зборнік вершаў, у які патрапілі далёка не ўсе яе творы. Паэтка вельмі крытычна аднеслася да адбору і бязлітасна адсейвала тыя вершы, якія, на яе думку, не дацягвалі да той мелодыі, што была закладзена ў зборніку, што гучала ў яе галаве. Да вершаў Паэтка ставілася як да музыкі і адчувала кожную фальшывую ноту ў іх, нібы прафесійная вакалістка. Яна не правіла той верш, які фальшывіў, пазбаўлялася ад яго назаўжды, не шкадуючы, каб ён не перашкаджаў агульнаму гучанню. Ніколі не вярталася да забракаванага верша, каб нейкім чынам рэабілітаваць яго ці вылекаваць. Хіба што думку, закладзеную ў няўдалым вершы, занатоўвала ў адмысловы нататнік, каб, магчыма, вярнуцца да яе калі-небудзь. Але не вярталася. Зборнік Паэткі не меў ніякага дачынення да кахання, да інтымнай лірыкі, да пачуццёвасці. Напэўна, таму, што Паэтка пакуль нікога не кахала і пра каханне ведала адно з прачытаных кніг ды прагледжаных фільмаў. Пісаць пра непаспытанае, неперажытае, неадчутае яна не магла сабе дазволіць, хоць прыдумаць, вядома, усё што заўгодна, тое ж каханне, напрыклад, да Багдановіча ці Караткевіча, і паверыць у яго нічога не замінала. Але гэта будзе няпраўда. І не шчыра. Нягледзячы на тое, што сапраўды любіла Багдановіча і Караткевіча, дакладней, іх творчасць. А гэта не адно і тое ж. Зборнік Паэткі сваім унутраным зместам нагадваў айсберг, праз які затануў «Тытанік». Яна адмыслова дамагалася ад кожнага вобраза, кожнага радка жорсткага непахіснага холаду, які б апякаў чытача мацней за невыносна пякельнае полымя. І пакуль не апяклася сама, нават адскочыла з ускрыкам, быццам і сапраўды апяклася аб лёд, не прыпыняла адбор і шліфоўку задуманага.

Ёй патрэбен быў адпачынак пасля няпростай і напружанай працы над словам, таму яна і зрабіла крок насустрач сталіцы, якая амаль ніколі не спала, у спадзеве на гасціннасць горада і добры прыём. Аднак такіх, як Паэтка, сталіца не любіла, не разумела, не чула, не бачыла і ўсяляк пазбягала, што дзіўна ды, тым не менш, бясспрэчна. Вельмі хутка Паэтка заўважыла падабенства сталіцы з цёткай, што засталася на ўзбочыне яе жыцця перапоўненымі валізамі. Адчуўшы гэта, Паэтка наструнілася лёскай, нахохлілася вераб'ём. Ёй карцела павярнуцца да горада спінай і бегчы назад, у кватэру, да яе ратавальных сцен і адданых кніг, кніг, якія ніколі не здрадзяць і не зробяць балюча. І ўсё ж стрымалася, спыніла саму сябе, каб паглядзець сталіцы вочы ў вочы і прымусіць лічыцца з сабой. Ганарліва прыўзняла галаву і ўпэўненай хадою рушыла наперад, бы й сапраўды айсберг на «Тытанік». Паэтка ніколі не схіліць перад горадам галаву і не апусціць вочы долу. Гэта ён стане на калені перад Паэткай і будзе лізаць яе ступні, як сабака. Менавіта так і ніяк інакш. Яна не дазволіць сабе ператварыцца ў шэрых заклапочаных, прыгнечаных, баязлівых, дэпрэсіўных мінакоў, якія сляпымі кратамі ішлі насустрач праспектам, такім самым шэрым, абыякавым і прыгнечаным.

Перад вяселлем Бібліятэкарка павезла Паэта ў глыбіню Палесся знаёміць з бацькамі, чаго, у прынцыпе, не жадала, але мусіла падпарадкавацца агульнапрынятым нормам паводзінаў, прадугледжаным на падобныя выпадкі. Паэт таксама ехаць не хацеў, праўда, па іншых прычынах, з-за якіх і ў касманаўты не трапіў. З-за гэтых прычын ён і не быў нідзе далей сталіцы. Нават думка пра магчымае падарожжа выклікала ў арганізме

Паэта панічны настрой і гістэрыку, што выліваліся ў ваніты і панос. Арганізм Паэта ўсяляк супрацівіўся перасоўванню свайго гаспадара, калі тое перасоўванне хоць троху адхілялася ад звычнага яго маршруту. Тое, што ён сарамаціў і ганьбіў Паэта бунтам, хутчэй, беспадстаўным, чым абумоўленым адносна будучых падзей, да ўвагі не браў, бо ў першую чаргу дбаў пра сябе. Каб Паэт не патрапіў у нязручнае становішча – мусіў падпарадкавацца свайму арганізму, без якога, нягледзячы на тое, што як бы гаспадар, усё ж нуль без палачкі. Не хочаш абняславіцца: сядзі дома, пішы вершы, рыхтуйся да чарговых лекцый. Навошта табе Бібліятэкарка, ды яшчэ яе глыбіня Палесся?! Нам і без яе добра.

Страўнік з самага вечара напярэдадні паездкі заявіў аб незадавальненні наконт рашэння Паэта і ганяў яго ўсю ноч да ранку з прыбіральні ў прыбіральню, як нававбранца на пляцы. Лекі, якія б дапамаглі ўтаймаваць шалёнасць арганізму, не дзейнічалі. Таксічнасць страўніка знішчала пігулкі, не пакідаючы ад іх следу. Яны быццам у кіслаце раствараліся. Тым не менш нявыспаны, стомлены, бледны, з чырвонымі ад напружання вачыма Паэт прымусіў адправіць сябе на чыгуначны вакзал. Адмовіцца ён не мог. Страўнік па-ранейшаму бурчэў. Ён крыху супакоўся, калі Паэт ужо апынуўся ў вагоне разам з Бібліятэкаркай, а цягнік вырушыў у дарогу. Бібліятэкарка быццам бы не заўважыла зморанага стану Паэта. Альбо заўважыла, але тактоўна змаўчала. Зрэшты, гэта нічога б не змяніла, бо Паэт ніколі б не прызнаўся ёй пра свае праблемы з уласным арганізмам. Сядзеў ён як на іголках, бо страўнік усё ж не дазваляў забыць пра яго. Трываў Паэт здзекі з сябе, пакуль трывалася, затым бег у прыбіральню ў канцы вагона, дзе, як узнагароду, атрымліваў паслабленне на некаторы час. Вяртаўся чырвоны ад сораму, але з настроем пафігіста. Бібліятэкарка па-ранейшаму яго не турбавала нетактоўнымі пытаннямі, аднак адорвала позіркам, у якім Паэт бачыў яе падтрымку і разуменне. На самой справе Бібліятэкарка ведала, што адбываецца з Паэтам. Ну толькі сляпы не заўважыў бы яго стану, які, па праўдзе кажучы, выклікаў смех, не зларадны, вядома, але тым не менш. Бібліятэкарка ўвесь час знаходжання поруч з Паэтам у вагоне і назіраючы за яго барацьбой з самім сабой, намаганнем не страціць твар, ледзь стрымлівала сябе, каб не зарагатаць. Калі Паэт збягаў у прыбіральню, смех вырываўся з Бібліятэкаркі і запаўняў купэ цалкам. Добра, што ў гэтым купэ ехалі толькі яны ўдваіх. Натуральна, з кім не бывае падобнага кшталту нязручнасцяў, аднак калі не з табой, але на тваіх вачах – гэта сапраўды смешна. Тым больш што Паэт, змагаючыся з арганізмам, вельмі нагадваў Чарлі Чапліна.

Страўнік прыпыніў даставаць Паэта толькі напрыканцы дарогі, што прывяла нарэшце ў двор бацькоў Бібліятэкаркі. Ды ў двары з Паэтам адбылася новая прыгода. Яго дастаў сабака, які вылецеў з будкі клубком ярасці і ўкусіў за нагу крыху ніжэй калена. Паэт паморшчыўся і болю ад укусу спачатку не адчуў, нават зрабіў выгляд, што нічога страшнага не адбылося, што сабака не зачапіў яго, аднак з цягам часу боль уназе назаляў не горш за страўнік, праўда, у прыбіральню не ганяў. Тым не менш пра ўкус сабакі Паэт таксама змаўчаў.

Наяўнасць сына ў Бібліятэкаркі (бялявага, акулярыстага, хударлявага шасцігодкі), які нехаця з'явіўся на ганку, каб пздароўкацца з гасцямі, а затым адразу ўцёк падалей ад дарослых, непрыемна ўразіла Паэта. Непрыемна з-за таго, што яна не сказала яму пра сына ні слова. Уразіла

яшчэ і тое, што хлопчык зусім не абрадаваўся маці, не кінуўся да яе з усіх ног, не прылашчыўся. Наадварот, пазіраў на яе дзікуном, ухіліўся ад абдымкаў з ёю, тым больш ад пацалункаў. Зрэшты, Бібліятэкарку тое не засмуціла, як заўважыў Паэт. А вось бацькі Бібліятэкаркі сустрэлі дачку з будучым зяцем вельмі цёпла.

Яны падрыхтаваліся да сустрэчы гасцей вельмі грунтоўна, як да сапраўднага вяселля, нагатавалі столькі страў, што стол, здавалася, трэсне ад цяжару ежы і напояў самага рознага гатунку. Да яго страшна было набліжацца, каб сапраўды неасцярожным рухам не ўчыніць катастрофы, а яшчэ таму, што стол паходзіў на выставу, прызначаную выключна для сузірання. У самым цэнтры стала на бліскучым вялікім сподку залацілася цэлае смажанае парася, з рота якога тырчэла гронка зялёнага буйнога вінаграду. Паабапал яго абступалі глыбокія вазы з каляровага шкла, у якіх застылі прывабнай масай селядзец пад футрам, салат «Аліўе», салат з памідораў і гуркоў у смятане, салат з крабавых палачак і кукурузы, мясны салат і квашаная капуста. У гліняных, таксама глыбокіх, місках нудзіліся варэнікі з картопляй, з суніцамі, лянівыя варэнікі, катлеты, адвараныя і абсмажаныя курыныя кумпячкі і свіныя скабачкі. У прадаўгаватым празрыстым шкляным посудзе, падобным да чаўноў, як асобны від мастацтва, чакалі сваёй долі адмыслова парэзаная каўбаса розных гатункаў разам з пальцам пханай, шынка, сала, марынаваныя лісічкі і баравікі. У адным куце дымілася адвараная бульба, толькі што знятая з пліты. Бярозавы сок, квас і віно хатняга вырабніцтва змяшчаліся ў мудрагелістых бутэльках працы мясцовага майстра-шкловыдзімальшчыка, што ўпрыгожвалі стол і надоўга затрымлівалі цікаўныя позіркі на сабе.

Пусты страўнік Паэта адразу адгукнуўся вясёлай песняй на ўбачанае ў прадчуванні свята. Вочы разбягаліся, бы прусакі, бо не ведалі, з чаго пачаць, на чым спыніцца. Хацелася ўсяго і памногу, каб насалодзіцца смакам. Бацька Бібліятэкаркі разліў віно па келіхах і агучыў тост: «Быць дабру», які з'яўляўся яго нязменнай прамовай на кожным застоллі, увесь час паўтараўся, але ні разу нікому не надакучыў, у тым ліку і на вяселлі, якога Паэт амаль не памятаў з-за неразборліва ўжытага алкаголю ў нялічанай колькасці. Чамусьці на ўласным вяселлі яму захацелася напіцца, хоць аматарам выпіць і закусіць ён сябе не лічыў. Хутчэй за ўсё гэта было нервовае альбо падсвядомае разуменне памылкі, якую выпраўляць непапраўна спазніўся. Яго пакарабацілі паводзіны Бібліятэкаркі і за бацькоўскім сталом, і пазней, калі збіраліся пакідаць глыбіню Палесся. Жанчына забараняла сыну сядзець за адным сталом з дарослымі, хоць, па праўдзе кажучы, мала мела на тое правоў. Ды хай бы сядзеў, нікому ж не перашкаджаў. Наколькі Паэт зразумеў, Бібліятэкарка бачыла сына гады ў рады. Хлопчык выхоўваўся выключна дзедам з бабай і слухаўся толькі іх, што раздражняла жанчыну і злавала. Асабліва раззлавала яе адмова сына ехаць разам з ёю ў сталіцу і жыць сям'ёй з Паэтам. Хлопчык запярэчыў катэгарычна, распсіхаваўся, закаціў такую гістэрыку, якая напалохала не адно Паэта. Малы выглядаў быццам апанаваны Д'яблам, не жадаючы змяняць звыклы парадак рэчаў, які яго маці бязлітасна разбурала. Паэт разумеў хлопца і параіў Бібліятэкарцы прыслухацца да сына. У адказ яна ўжо на яго накінулася фурыяй. Маўляў, Паэту зручна, каб яе сын заставаўся ў глыбіні Палесся і вочы не мазоліў, бо ўвогуле яму непатрэбен. Нагаварыла столькі, што ў яе бацькоў вочы палезлі на

лоб. Паэт жа проста перастаў з ёю размаўляць. У сталіцу вярталіся ў зацятым маўчанні. І, хоць Бібліятэкарка не паехала на здымную кватэру, у якой да таго часу ўжо пасялілася сяброўка, з выглядам пакрыўджанай, абражанай і незразуметай, палеглі ў розных пакоях Паэтавай кватэры. Аднак сярод ночы Бібліятэкарка прыйшла да Паэта падзяліць яго ложак. Ёй было адзінока і холадна і хацелася пяшчоты, і шалёнага сэксу, і ўвагі Паэта, і яго жарснага шэпту, што кахае яе.

Ноч іх прымірыла. Паэту падабалася блізкасць з Бібліятэкаркай, таму ён дараваў ёй усё, хоць тая ніколі не адчувала за сабой віны, ніколі не прызнавала сябе ў чымсьці вінаватай.

Вось і на вяселлі сказала яму, што ён яе не кахае, калі так жлукціць гарэлку, быццам п'е ў апошні раз, быццам развітваецца з гарэлкай назаўжды. Што ж, яна мела рацыю. Паэт сапраўды развітваўся такім чынам з самім сабой, з сабой мінулым, хаваў яго, нібы знаходзіўся не на вяселлі, а на хаўтурах, бо наперадзе чужое жыццё, не яго, жыццё Бібліятэкаркі і яе сына, у якім ён усяго толькі прыдатак.

Дажджлівым ветраным днём, які з шаленствам шызоіднага маньяка нападаў на голыя кволыя дрэвы, што пакорліва гнуліся пад ім да зямлі, але расчароўвалі сваёй бязмоўнай пакорлівасцю, і ён з адчайнай апантанасцю кідаўся на людзей, Паэтка выйшла з дому. Шлях яе ляжаў у галоўнае выдавецтва сталіцы, куды яна вырашыла занесці вершы. Звычайна, доўга вагалася, наіўна лічыла, што яе творы, мабыць, як і яна сама, яшчэ не дасягнулі таго ўзроўню, які прымаюць належным чынам у паважаных рэдакцыях. Аднак Паэзія запэўніла Паэтку ў адваротным і параіла не гушкацца з творчасцю, бы з немаўлём, якое не паказваюць чужым вачам, каб не сурочыць. Кожны творца мусіць быць пачутым, тым больш такі, як Паэтка. Прыйшоў час заявіць пра сябе, і толькі выдавецтва магло дапамагчы гучна заявіць аб тым. Расхрыстаны і быццам п'яны дзень адразу прычапіўся да Паэткі, не паспела яна адысці ад пад'езда колькі крокаў. Назолай лез у твар з мокрымі пацалункамі, абліваў прыгаршчамі дажджу, мармытаў нешта неразборлівае ўвушшу ветрам, намагаўся праслізнуць знобкасцю пад паліто, каб памацаць грудзі. Не адставаў да самага метро, нягледзячы на ігнараванне цалкам шчырых заляцанняў яго да Паэткі. Тая была сканцэнтравана на зусім іншых інтарэсах, таму і не заўважала захадаў дня, хоць той усё адно не адставаў. Ён сустрэў Паэтку, нібы вылічыў, дзе яна выйдзе, нібы падслухаў яе думкі, на паўдарозе да шматпавярховага будынка, у якім (нараўне з міністэрскімі офісамі рознага кшталту і значнасці) галоўнае выдавецтва сталіцы займала цэлы паверх. Дажджлівы ветраны дзень, азірнуўшыся на будынак, раптам зразумеў, куды імкнулася Паэтка, і пацішэў, праўда, не дапяў, навошта ёй туды. Ён не хацеў верыць, што такая маладая і прыгожая дзяўчына ўжо мела статус дзяржаўнага чалавека. Нагода задумацца. Разгубленасць настойлівага пераследніка паспрыяла бесперашкоднаму руху Паэткі ў будынак. Ахова на першым паверсе строга папытала ў Паэткі, куды яна і навошта. Дзяўчына адказала, і яе прапусцілі да ліфтаў, адным з якіх яна паднялася на патрэбны паверх з доўгім-доўгім калідорам і мноствам дзвярэй уздоўж яго. Паэтка разгубілася, бо не так уяўляла сабе выдавецтва. Яно падавалася ёй карнавалам, а на справе аказалася сумным, шэрым, маўклівым шляхам у нікуды. Расчараванне ледзь не развярнула Паэтку на 180 градусаў, ды

ўсё ж прыродная жаночая цікаўнасць падштурхнула прайсціся калідорам і хаця б азнаёміцца з таблічкамі на дзвярах. Таблічкі яе зацікавілі больш за выдавецтва. Чытаючы і разглядаючы таблічкі, Паэтка неўзабаве апынулася каля дзвярэй прыёмнай, а там – і ў кабінеце дырэктара. Той сядзеў адзін у даволі вялікім памяшканні за доўгім дыхтоўным сталом, паабапал якога стаялі такія ж дыхтоўныя крэслы з высокімі спінкамі і барвовымі аксамітавымі сядушкамі, але сталом пустым ці, хутчэй, запоўненым ідэальнай чысцінёй, сталом, што належаў чалавеку, імаверна, памяшанаму на чысціні. Кніжная прадукцыя выдавецтва знаходзілася ў шафе за шклом леваруч ад стала дырэктара, праваруч акно на ўсю сцяну, быццам тэлевізар, транслявала жыццё за ім. Сцяна за спінай дырэктара нагадвала галерэю з дыпломаў і ўзнагарод рознага кшталту, атрыманых выдавецтвам за дасягненні перад дзяржавай, мімімішна і кранальна дагледжаная. Дырэктар, цыбаты ды хударлявы, знешне падобны да ваўка з мультфільма «Ну, пачакай!», нерухома сядзеў за сталом з задавальненнем ад уласнай значнасці. Ён відавочна і напаказ кайфаваў ад свайго становішча: проста сядзець, глядзець у столь і нічога не рабіць. Напэўна, падобным чынам ён адседжваў бы ўсе працоўныя дні, быццам на небе побач з Богам, каб яго не турбавалі, таму з непрыхаваным здзіўленнем утаропіўся ў Паэтку, якая застыла на парозе дакучлівым напамінам пра зямныя справы.

Яму адразу Паэтка не спадабалася. Як толькі загаварыла. Колькі ўжо дырэктар галоўнага выдавецтва сталіцы пабачыў і пачуў гэтых утрапёных гарачых дзяўчат, упэўненых у сваёй непаўторнасці і геніяльнасці... Лепш бы выходзілі замуж і дзяцей нараджалі, каб палепшыць дэмаграфічную сітуацыю ў краіне, большая б карысць была. Тым больш у сённяшні час, калі паэзія як такая нікому непатрэбна, а таму напісанне вершаў – суцэльнае марнатраўства, бяссэнсавае глупства і цалкам непрыбытковая прадукцыя. Каму, як не яму, дырэктару галоўнага выдаветва сталіцы, ведаць гэта. Але ж не растлумачыш, бо ніхто не слухае і не чуе. Як не хацела ні чуць, ні слухаць Паэтка.

Тым не менш дырэктар галоўнага выдавецтва сталіцы намагаўся, няхай і лянотна, нават стомлена, з такім выглядам, нібы ўсю ноч і палову дня разгружаў вагоны ў лонданскіх доках, данесці да яе думку пра бесперспектыўнасць жадання дзяўчыны стварыць сабе імя ў айчыннай літаратуры ды ў літаратуры агулам. Ён таксама пісаў вершы і ведаў не па чутках пра жорсткасць Паэзіі і няўдзячнасць натоўпу, так званага народа, якому не было ніякай справы да паэтаў, які не чытаў кніг, тым больш не трымаў іх у сваіх дамах. Магчыма, дырэктар казаў слушныя рэчы, і ў іншай сітуацыі Паэтка нават прыслухалася б да яго слоў, але ў той момант яны не пераканалі яе, да таго ж Паэзія была яе феяй-хроснай. Расчараванне на твары Паэткі запунсавела румянцам, што дырэктар палічыў за ўласную перамогу: пазбавіўся без асаблівых высілкаў канкурэнткі. Ён сапраўды ставіўся да моладзі, што складала вершы, перадузята, не бачыў і не хацеў бачыць патэнцыялу ў ёй, не жадаў з'яўлення новых імёнаў, бо яны б захмарылі яго імя, а сябе, як паэта, дырэктар галоўнага выдавецтва сталіцы вельмі любіў і прылічаў да пантэону класікаў. Ды памыляўся наконт румянцу Паэткі. Дзяўчыну абурыла адмова наяўнасці ў яе таленту, выказаная мімаходзь, нядбайна, але з цвердалобасцю кансерватара, упэўненага, што кожнае яго слова панацэя, таму яна расчырванелася. Дырэктар дазваляў сабе распараджацца лёсам Паэткі, нібы быў Богам, не

пазнаёміўшыся ні з адным яе радком. Ён нават тасёмкі з двума банцікамі не развязаў на тэчцы, што Паэтка паклала перад ім на стол, нават не дакрануўся да тэчкі ні пальцам, ні позіркам. Быццам Ванга, загадзя ведаў, што нічога цікавага ў тэчцы не пабачыць, баючыся, на самой справе, пабачыць уласную нікчэмнасць праз яе змесціва.

Пры жаданні Паэтка магла купіць гэтае выдавецтва з усімі яго вантробамі і косткамі, з усімі яго запазычанасцямі, нават будынак, калі б захацела, змагла б купіць, з кожным міністэрствам і з кожным яго супрацоўнікам, пра што дырэктар, зразумела, не ведаў і ведаць не мог, інакш па-іншаму б паставіўся да наведніцы. Праўда, ён прамармытаў, што можа разгледзець рукапіс Паэткі на платнай аснове, разумеючы, аднак, недарэчнасць прапановы. Паэтка рэзка і нават неяк пагардліва, як яму падалося, адпрэчыла яе. Тым не менш, падобныя прапановы вельмі часта аўтары прымалі і згаджаліся на супрацоўніцтва з выдавецтвам, ахвяруючы ўласныя грошы на выданне сваіх жа кніг. Дырэктар любіў такіх аўтараў, бо, як правіла, творы іх не пераўзыходзілі яго творы мастацкай вартасцю.

Паэтка моўчкі забрала рукапіс і выйшла з кабінета дырэктара, не зачыніўшы за сабой дзверы. Няхай сам падымецца і падбае пра іх закрыццё. А яе нага больш ніколі не пераступіць парог кабінета дырэктара галоўнага выдавецтва сталіцы, крывадушнага, няшчырага, змрочнага, нават калі на калені перад ёй стане і будзе маліць аб увазе Паэткі. І такі час абавязкова настане.

Яна выйшла на вуліцу. Дзень чакаў яе на лаўцы насупраць, прагнаўшы дождж і вецер, ацверазелы і насцярожаны, як колі. Паэтка ледзь не ўпала, адпусціўшы сябе пасля напругі, перажытай у кабінеце дырэктара галоўнага выдавецтва сталіцы. Дзень яе падхапіў на рукі і загайдаў, бы на арэлях. Ён цешыўся, што памыліўся, што Паэтка засталася вернай сабе, што нічога дзяржаўнага ў ёй па-ранейшаму не было і не магло быць. Ну не канец жа свету, што адмовіла гэтае выдавецтва. Ды гары яно гарам! Не першае, не апошняе. Абавязкова знойдзецца тое выдавецтва, якое разгледзіць у Паэтцы Паэтку без яе грошай.

Яна паверыла дню і дазволіла яму праводзіць сябе дадому, дзе чакала Паэзія. Гайдалася ў крэсле-гайданцы, адмыслова набытым для яе Паэткай, дакладней, замоўленым у штукара-майстра з глыбіні Палесся. Паэзія абняла Паэтку і павіншавала з першым урокам жыцця ў літаратурным свеце, наладжаным спецыяльна, каб Паэтка разумела, што свет той не такі прыгожы, як яна ўяўляла яго сабе. Прыгожыя творы, а тое, што вакол іх, – серпентарый. Паэтка слухала Паэзію, міжволі згаджалася, але не верыла словам феі-хроснай пра Літаратуру, не хацела верыць, што яна такая адваротная. А калі ўсё ж такая, Паэтка верне ёй прыгажосць, бо тая таго вартая. Падзяліўшы рукапіс на некалькі нізак, дзяўчына разаслала вершы па часопісных рэдакцыях. Уласна з гэтага і трэба было пачынаць, ну а выйшла – як выйшла, і за тое дзякуй.

Стасункі з сынам Бібліятэкаркі ў Паэта не складваліся, нягледзячы на ўсе яго захады. Хлопчыку ён вылучыў асобны пакой у кватэры, абсталяваў па найвышэйшых дзіцячых стандартах, намагаўся размаўляць з малым як з дарослым і ў той жа час прыдумляў розныя агульныя для іх абдвух гульні. Марна. Хлопец не ішоў на кантакт. Да гульняў ставіўся абыякава, пазіраў на Паэта як на адсталага і не прыхоўваў адмоўнага стаўлення

да яго. Магчыма, што і ненавідзеў Паэта. Зрэшты, і з маці паводзіў сябе не лепшым чынам. Праўда, яе слухаўся. Не хочучы, з-пад палкі, але рабіў тое, што ад яго патрабавала Бібліятэкарка. На зло Паэту пасынак нярэдка сярод ночы прыбягаў у спальню дарослых і клаўся побач з маці, бо, маўляў, баяўся заставацца адзін, бо, маўляў, прысніўся страшны сон, паўтарэння якога баяўся. Паэт сыходзіў у кабінет, бо не мог дзяліць ложак і жонку разам з яе сынам. Бібліятэкарка з кожным днём губляла павагу і цікавасць да Паэта, у якога не атрымлівалася самае, на яе думку, простае: паразумецца з дзіцём. Яе раздражнялі адносіны Паэта з хлопчыкам, ці, інакш, адсутнасць усякіх адносін, на якія так спадзявалася. Бібліятэкарка меркавала, што выбітнаму чалавеку, якім уяўляўся ёй Паэт, падуладна ўсё, тым больш зацікавіць сабой і палюбіць сябе маленькага чалавека. З побытам таксама, як заўважыла Бібліятэкарка, Паэт не сябраваў. Так, ён умеў забіваць цвікі, укручваць шрубкі, пыласосіць і мыць падлогу, чысціць ванну, нават разбіраўся ў сантэхніцы, але не рабіў таго, пакуль пальцам не ткнеш перад яго носам у праблему, як кацяня, што яшчэ не ўмее само есці малако са сподку, пыскай у тое малако. Бібліятэкарку спачатку засмуціла падобнае стаўленне Паэта да побыту, потым раззлавала, а затым абразіла. Ёй здавалася, што ён наўмысна нічога не заўважаў з таго, што яна заўважала ўвесь час. Разуменне адваротнага перавярнула з ног на галаву стаўленне да яго. Цалкам сур'ёзна Бібліятэкарка вырашыла, што Паэт ажаніўся з ёй толькі з адной мэтай: спаць, то бок кахацца. Без варыянтаў. Увесь дзень ён лятаў недзе ў паднябессі пасродкам кніг, лекцый і вершаў, не зважаючы ні на яе, ні на малога, а пад вечар прызямляўся па ўзнагароду, якую ні каліва не заслугоўваў. Дасягненне павагі Паэта недзе там, дзе Бібліятэкарка ніколі не была і не будзе, адпрэчваліся ёю з лёгкасцю недасведчанасці, прычым недасведчанасці наўмыснай, бо яе ніякім бокам не тычылася. Ён павінен быў ёй, павінен сям'і ў першую чаргу, а не камусьці яшчэ. Паэт, на думку Біблятэкаркі, ёй здраджваў, бо ніколі не ставіў яе на першае месца ў сваім жыцці, як абяцаў у загсе, тым самым зневажаў яе. Навошта жаніўся, калі па-ранейшаму нежывыя літары, якіх ні памацаць, ні пацалаваць немагчыма, запаўнялі яго галаву і сэрца?.. Бібліятэкарка шчасна забылася, што менавіта яна і ажаніла Паэта на сабе з эгаістычных мэт, каб заслупавацца ў сталіцы. Яна ні каліва не сумнявалася, што знойдзе магчымасць кіраваць Паэтам, перафарматаваць пад сябе, аднак той не паддаваўся па той простай прычыне, што разгадаў яе, няхай і позна, і зразумеў яе матывы, у якіх кахання ніколі не было. Магчыма, калі б Бібліятэкарка кахала Паэта, ён перайначыў бы сваё жыццё, аднак ёю кіравала іншае. Так, ён ажаніўся, але спадзяваўся дапамагчы хлопчыку, сыну Бібліятэкаркі, якому, на жаль, як высветлілася, яго дапамога не спатрэбілася. Яны абое – сын і маці – нагадвалі Паэту вампіраў, таму ён нават дамоў не хацеў вяртацца пасля працы ва ўніверсітэце, тым больш што жонка абмежавала яго ў сэксе. Пускала да сябе толькі тады, калі, на яе думку, Паэт заслугоўваў, што здаралася вельмі рэдка, або пад уздзеяннем алкаголю. Тады яна сама кідалася на Паэта і патрабавала, каб ён яе ўзяў. Вядома, Паэт не адмаўляў, але Бібліятэкарка не часта ўсцешвала яго падобнай радасцю. Звычкі напівацца яна не мела і спіртное ўжывала ў выключных выпадках. Ён мог бы браць Бібліятэкарку сілай, усё ж яна была яго жонкай, але лічыў тое варварствам. Праўда, аднойчы не стрымаўся пасля чарговай з ёю сваркі, ды быў спынены такім грэблівым позіркам, што адчуў сябе выпэцканым у бруд, ад якога тыдзень не мог адмыцца.

Да жыцця з Паэтам Бібліятэкарка лічыла ўсіх творчых людзей феерверкамі, з якімі весела і цікава праходзіў час, пра што сведчылі мерапрыемствы, што яна наладжвала ў бібліятэцы, дзе працавала, і часткова мела рацыю. Чым далей ты ад творцы, тым менш пасля расчароўваешся ў ім, калі, наадварот, не захапляешся з яшчэ большай сілай. Выходзячы замуж за Паэта, Бібліятэкарка не сумнявалася ў штодзённым свяце, бо а як інакш, калі муж яе Паэт? Яна забылася, а мо і не задумвалася ніколі пра творчы працэс, у якім Паэт знаходзіўся, які любіў і ненавідзеў, бо, дзякуючы яму, пакутваў і насалоджваўся адначасна роздумамі і вынікамі роздумаў. З гэтага працэсу ён ненадоўга выходзіў у свет, бы ў сад, усцешаны чарговай перамогай над самім сабой, менавіта таму і здаваўся вясёлым, лёгкім на ўздым і трапнае слова чалавекам-феерверкам. Магчыма, Бібліятэкарка не атаясамлівала Паэта з яго творамі. Магчыма, яна думала, што творы не пішуцца, многія гадамі, праз тытанічную напружаную працу мозгу, а здараюцца па ўзмаху чароўнай палачкі ці пякуцца, як блінцы. Яна не верыла, што на напісанне кніг творцам ахвяруецца жыццё і здароўе, інакш іх не было б у такой бязмежнай колькасці. Панурасць Паэта, зануранасць у сябе па першым часе прымала за падман уласнага зроку, а калі прыгледзелася – пабачыла, што ён быў заўжды такі. Тады Бібліятэкарка задумалася, а ці не падобны і астатнія пісьменнікі да яе мужа? І калі гэта так – як жа яна памылялася на іх конт! Як памыляліся на іх конт іншыя людзі, захопленыя літаратурай, як, напрыклад, бацька Бібліятэкаркі! Яна патэлефанавала яму, каб упэўніцца ў сваёй здагадцы, аднак бацька аспрэчыў высновы дачкі і параіў не займацца глупствам. Бібліятэкарка, тым не менш, засталася пры сваім меркаванні, бо бацька быў апантаны кнігамі і служыў літаратуры, няхай у якасці чытача, але са сляпой і рабскай адданасцю, што падобна было хутчэй на вар'яцтва, чым на звычайную захопленасць ці любоў. Яго варта было б паказаць псіхатэрапеўту заадно з зяцем. Яны абодва выклікалі жаль, праўда, жаль, датычны бацькі, гучаў сапраўды жаласна, як паранены лебедзь, а жаль, што ўзнік да Паэта, крычаў крыкам абсалютнага зла. І што ім не жылося, як усім? Абавязкова трэба ўперціся ў сцяну і біцца аб яе галавой?..

У Паэта не было адказаў на гэтыя пытанні, як і на пытанне, навошта яму столькі кніг, ёсць жа бібліятэкі? Дзеля чаго захламляць кватэру тысячамі кніг, многія з якіх так і застануцца непрачытанымі? Яна не супраць кніг у хаце, але не ў такой жа колькасці! Хапіла б тых, да якіх можна час ад часу вяртацца і перачытваць, калі ну зусім без кніг ніяк...

Слухаць балбатню Бібліятэкаркі пра кнігі і іх ролю ў паўсядзённым жыцці чалавека Паэт не мог сабе дазволіць, бо баяўся за яе жыццё. Баяўся не стрымацца і прыдушыць незнарок. Таму сыходзіў з дому на паветра, каб яно ўтаймавала і супакоіла, прымірыла з рэчаіснасцю ў асобе жонкі, праўда, без яе ўдзелу, тым больш што і інтымная блізкасць з ёю яму не свяціла бліжэйшым часам.

Паэт выходзіў на галоўны праспект сталіцы, якая быццам бы ніколі не спала, але на справе супярэчыла самой сабе. Прынамсі, праспект, па якім Паэт няспешна крочыў у пару паўночы ці крыху пазней, не выглядаў бадзёрым аматарам начных гульняў і забавак. Бязлюдны, з рэдкім паўсонным транспартам ён нагадваў архітэктурны макет у праекцыйным бюро больш за архітэктурны помнік з каменя і арматуры, праўда, добра асветлены ліхтарамі і падсветкай над праезнай часткай.

Паэту падабалася цішыня і нерухомасць праспекта. Яго начная

пустэльнасць не палохала, а вабіла. Гук крокаў Паэта нагадваў своеасаблівы рэчытатыў, што прамаўляўся ўпэўнена і рытмічна, без збояў і фальшу. Ногі ў такія моманты, быццам самі, без дазволу, вялі ў раён Чырвоных ліхтароў, які сапраўды не спаў, але і асабліва не вытыркаўся, заставаўся ў ценю. Паэту падабалася там. Ён адкрыў яго для сябе яшчэ ў юнацтве, калі пакутваў на вугрыстую скуру... І ад першага, і ад другога пазбавілі насельніцы раёна Чырвоных ліхтароў, якія дакладна ведалі, што рабіць у падобных выпадках і як. Сярод іх Паэт адпачываў душой, задавальняючы цела.

Першым мужчынам Паэткі быў... Джарэд Лета. Так, так, той самы галівудскі прыгажун з «Байцоўскага клуба» і «Аляксандра», будучы Джокер з фільмаў пра Харлі Квін і фронтмэн культавага рок-гурта, на канцэрт якога, калі гурт прыехаў у сталіцу Сінявокай з новай-старой праграмай, дзяўчына і трапіла. Яна не насілася з цнатлівасцю па горадзе, пазіцыянуючы яе як нешта звышнатуральнае і дзівоснае, што дастанецца шчасліваму абранніку лёсу ў якасці чароўнага падарунка, але і не шукала ўдзень са свечкай вартых гэтага падарунка. Тым не менш хацела закахацца, марыла пра каханне, пра сустрэчу з адзіным і непаўторным, з якім паяднаецца душой і целам назаўжды. Ды штосьці каханне як быццам ігнаравала жаданне Паэткі, як той Бог, да якога звяртаешся-звяртаешся ў малітвах пра палёгку, а той усё не чуе і не чуе. Мо аглух за тысячы гадоў існавання? Нічога не можа быць вечным. Вось і Бог сапсаваўся. Падобныя думкі нярэдка ўзнікалі ў галаве Паэткі, але не палохалі яе. Яна не Леў Талстой, каб царква адлучыла за ерась, да таго ж ерассю цалкам сур'ёзна лічыла царкву. Зрэшты, ад яе меркавання нікому не было ні холадна, ні спякотна, бо ўголас яго не прамаўляла: не было нагоды дый бессэнсоўна. А вось на каханне крыўдзілася. Бо было за што, бо «девушка созрела», як некалі спявала Земфіра. Да таго часу, да таго моманту з Джарэдам Лета Паэтка ўжо ўвайшла ў сталічную багему абраных і вядомых у вузкім коле праз парадны ўваход дзякуючы публікацыі вершаў з асабіста ёю раскіданай уласнай кнігі ва ўсіх літаратурных часопісах сталіцы, кожны з якіх змясціў творы Паэткі ў пераднавагоднім нумары, каб парадаваць чытача сапраўдным святочным падарункам. Вершы Паэткі адразу выклікалі ажыятаж сярод крытыкаў і аматараў слова. Сярэдзіннага меркавання пра яе творчасць ніякага не ўзнікла. Ёю ці адкрыта захапляліся, ці адкрыта ганьбілі ад зайздрасці, але ўсё адно захапляліся. Паэзія, фея-хросная Паэткі, адзначала перамогу і піла шампанскае ў тайне ад Паэткі разам з патрэбнымі, як яна лічыла, людзьмі, што Паэтцы не зашкодзяць у будучым. Дзяўчыну клікалі на паэтычныя семінары, паэтычныя сустрэчы, інтэрв'ю, прасілі, нават патрабавалі новых вершаў з эксклюзіўным правам на адзінаасобнае валоданне яе талентам. Неўзабаве дырэктар галоўнага выдавецтва сталіцы патэлефанаваў, прабачыўся і прапанаваў пачаць знаёмства нанова, забыўшы на рознагалоссе, што адбылося ў мінулым, каб спраўдзіцца ў сённяшнім. Паэтка яму не прабачыла і не захацела аднаўлення стасункаў, якіх і не было, тым больш што падпісала дамову з невялікім, але вельмі перспектыўным выдавецтвам на выданне першых яе пяці кніг. Зрэшты, яна б і без падпісання дамовы з гэтым выдавецтвам не мела б нічога агульнага з галоўным выдавецтвам сталіцы. Прынцыпова. Дзяўчаты (школьніцы і студэнткі), нават жанчыны вучылі вершы Паэткі

на памяць. Яе паэзію ўключылі ў абавязковае вывучэнне па прадмеце «Найноўшая айчынная літаратура». Хлопцы і мужчыны з мастацкага асяроддзя спрабавалі Паэтку закадрыць, але нікому з іх яна не верыла, бо яны хацелі менавіта закадрыць яе, а не пакахаць, бо кахалі выключна сябе і нават мелі б сябе, калі б з'явілася такая магчымасць. Таму з'яленне на гарызонце Джарэда Лета выявілася цалкам заканамерным, хоць адмыслова аддавацца яму Паэтка не планавала. Яна планавала трапіць на яго канцэрт, а затым у грымёрку, каб проста паразмаўляць. Усё ж Паэтка разумела, хто яна, а хто Джарэд. Грошы дзяўчыны адчынялі перад ёй любыя дзверы.

Джарэд Лета выглядаў яшчэ прыгажэйшым, чым на экране. Ён вельмі здзівіўся Паэтцы ў грымёрцы, куды вярнуўся пасля канцэрта незадаволены выступам і раззлаваны, але не на сябе. За тое, што дрэнна гучаў, вінаваціў мясцовых гукавікоў і, магчыма, меў рацыю. Спачатку Паэтку ён не заўважыў, таму ў запале шаленства ламаў мэблю і біў люстэркі ў грымёрцы, нікога не саромеючыся. Абудзіў яго нечаканы дзявочы ўскрык з кута памяшкання. Аскепак люстэрка параніў Паэтцы руку, якая крывяніла проста на вачах. Джарэд Лета адразу аслупянеў, пабачыўшы чужаніцу, а затым кінуўся да дзяўчыны, каб спыніць кроў. Зразумела, што ён на каленях прасіў дараваць яму, ва ўсякім разе так распавядала Паэтка феіхроснай, калі вярнулася дамоў. Пытаўся, чым можа выправіць сваю віну. Паэтка нясмела намякнула, бо зразумела, што вось ён, той адзіны абраннік, каму дастанецца яе скарб, праўда, з агаворкай, што яна не такая. Джарэд Лета ўсміхнуўся, прамовіў: «Ды ладна», і выканаў жаданне дзяўчыны, быццам джын з лямпы. У лямпу потым і шуснуў, у тым сэнсе, што зваліў у свой Галівуд.

Верыць альбо не верыць Паэзіі ў інтымную сувязь Паэткі з Джарэдам Лета – справа толькі яе. Па вялікім рахунку Паэтку гэта мала хвалявала, аднак, тым не менш, у якасці доказу яна паказала зробленае з «зоркай» на развітанне сэлфі, у якім дзяўчына і амерыканскі прыгажун, абое аголеныя, усміхаліся на камеру, прычым усміхаліся, здавалася, не толькі іх твары, але і грудзі. Паэзія злёгку паморшчылася, бо не прывыкла да падобнай адкрытасці душы і цела, але ўпэўнілася ў адным: Паэтка не хлусіла, ніколі і нікому, якімі б фантастычнымі яе аповеды не выглядалі. Не хлусіла яна і ў творчасці. Тэматыка, настрой і вобразнасць яе вершаў змяніліся. Знешняя холаднасць іх растала, бы лёд у шклянцы з віскі. Кожны верш Паэткі нагадваў пачуццёвы жарсны маналог лірычнай гераіні, якая то танула, зацягнутая ў вір, то засмоктвалася ў твань ці зыбучыя пяскі, то скакала проста з месца ў зоры, то пралівалася дажджом, то спавівалася ў кокан, то скоўвалася ланцугамі, то крычала болем і выла адзінокай ваўчыцай, то стагнала і памірала ў сутаргах задавальнення плоцкага кахання. Пасля сустрэчы з Джарэдам Лета яна адкрыла для сябе сэкс як кнігу і стала найадданейшай яе чытачкай, якая, тым не менш, жадала перапісаць тую кнігу наноў праз літары, рыфмы і вобразы. Выкарыстоўваючы партнёраў па ложку дзеля чарговага паэтычнага раздзела, ставячыся да кожнага з іх як да чарговага раздзела, Паэтка стварала новую літаратуру, падчас чытання якой быў бы магчымы сапраўдны аргазм, пры гэтым ніводнага пошлага слова, ніводнага слова, якое б прынізіла ці абразіла Паэзію або чытача, не дазволіла сабе ва ўжыванні. Яна чытала іх на літаратурніках уголас, але ў такой цішыні, што чуваць было сэрцабіццё аўдыторыі. Кожны, хто прыходзіў паслухаць яе, не прапускаў ніводнага слова, каб не застацца

абдзеленым тым задавальненнем, якое яны неслі ў сабе. На сустрэчы з Паэткай запісваліся загадзя як жадаючыя слухаць яе, так і прадстаўнікі лакацый, зацікаўленыя ва ўласнай будучыні. Так, яна нікога не кахала ў стэрэатыпным разуменні гэтага стану, сэрца яе заставалася вольным, але і плоцкае каханне падавала так, што яно здавалася тым самым чаканым і жаданым. І, зноў жа, не хлусіла. Яна проста не ўмела. Проста дзялілася адчуваннямі, якія валодалі магічнай сутнасцю, не іначай. Ці проста былі Паэзіяй.

Аднойчы Паэтка выпадкова, як яна думала, трапіла ў майстэрню эксцэнтрычнай і эпатажнай Мастачкі, мясцовай, але з сусветным імем, чые карціны за мяжой прадаваліся ў сумах з дзевяццю нулямі. Мастачка наладзіла ў сваёй майстэрні чарговую выставу, куды патраплялі далёка не простыя людзі, але наладзіла выключна дзеля Паэткі, дамовіўшыся праз агульных знаёмых, каб тыя прывялі дзяўчыну да яе. Тым больш, што большасць карцін ці, хутчэй, эцюдаў адлюстроўвалі менавіта Паэтку і былі напісаныя альбо з фота, альбо праз фантазію аўтаркі. Ды ўсё ж не жаданне напісаць партрэт з натуры, хоць і яно таксама прысутнічала, валодала Мастачкай: жаданне валодаць непасрэдна Паэткай, якой, між іншым, працы Мастачкі не спадабаліся, ніводная не зачапіла і не кранулася душы. На карцінах Мастачкі Паэтка выглядала бяздушнай, што было не так. Паэтка не ведала матываў Мастачкі ў напісанні партрэтаў падобнага кшталту, але дапускала, што тая мела права бачыць яе такой, таму і засталася ў майстэрні Мастачкі пасля выставы, калі госці разышліся, да таго ж Мастачка папрасіла яе застацца.

Яна была прыгожай, дагледжанай жанчынай бальзакаўскага ўзросту з азіяцкімі рысамі твару. Кітайская чорная вінтажная сукенка ў стылі Цыпаа з каўняром-стойкай вельмі ёй пасавала і выгодна падкрэслівала кожны выгін ейнага цела. Першае, што прапанавала Паэтцы, – выпіць віна і разняволіцца, пазбавіцца такім чынам ад сур'ёзнасці і цвярозасці выставы. Паэтка пагадзілася. Яна не разумела, дзеля чаго засталася з Мастачкай сам-насам у вялікай майстэрні, аднак невядомасць тая не палохала, хутчэй інтрыгавала.

Інтрыгі, як такой, не адбылося. Мастачка ўсяго толькі хацела напісаць партрэт Паэткі, якая, пачуўшы гэта, нават расчаравалася. Навошта тады ствараць таямнічасць і прапаноўваць віно, калі можна было дамовіцца праз тэлефанаванне. Яна ледзь не сышла. Мастачка спыніла Паэтку, нагадаўшы, што тая не выпіла віна, якое мусіць выпіць, калі віно разліта па келіхах, і адразу прапанавала выпіць на брудэршафт, каб унікнуць магчымых непаразуменняў паміж імі ў далейшым. Паэтка не зусім зразумела, што Мастачка мела на ўвазе, гаворачы пра магчымыя непаразуменні, але пагадзілася з яе прапановай, хоць віна не любіла ні ў якім выглядзе. Брудэршафт патрабаваў пацалунку, але Мастачка дазволіла Паэтцы парушыць звычай, калі не хацела цалавацца, праўда, з умовай, што дзяўчына ўсё адно будзе вінна ёй пацалунак. Паэтка паціснула плячыма і зноў сабралася сысці. Тады Мастачка прызналася, што выстава адмыслова была наладжана ёю дзеля сустрэчы з Паэткай, каб сапраўды напісаць яе партрэт ці хаця б зрабіць накіды, з якіх у больш спакойнай абстаноўцы стварыць нешта незвычайнае, у чым не сумнявалася. Мастачка парушыла ўсе графікі і абавязацельствы перад іншымі кліентамі за мяжой і прыляцела ў Сінявокую з Нью-Ёрка на

два дні. Партрэт, які напіша Мастачка, і ў інтарэсах Паэткі таксама, магчымасць паглыблення яе творчасці праз творчасць Мастачкі ў вялікі свет. Яны абедзве патрэбны адна адной, прынамсі ў канкрэтна дадзены момант.

Мастачка палохала Паэтку сваёй утрапёнасцю ці нават апантанасцю ёю. Яна заўважыла гэта па позірку жанчыны падчас брудэршафта, позірку ваўка на Чырвоны Каптурык перад тым, як яе з'есці. Аднак не з'есць жа яна яе на самой справе.

Яны падышлі да шафы-купэ, што быццам бы тулілася ў куце майстэрні, якая насамрэч аказалася прасторным памяшканнем з далікатна засланым ложкам пад акном, перасоўным гардэробам з тузінам убораў пад цэлафанам, скураной канапай ля сцяны насупраць ложка, мальбертам пасярэдзіне пакоя і ноччу ў акне, што зазірала праз гэтае акно ўнутр цікаўнымі, як ніколі, зоркамі. Уборы прызначаліся Паэтцы. Менавіта ў іх, апранутых па чарзе на голае цела Паэткі, Мастачка мела намер яе маляваць. Распранала і апранала дзяўчыну сама, бо толькі яна як аўтар ведала, якім чынам павінна сесці на Паэтцы тое ці іншае адзенне. Пры гэтым падчас пераапранання абавязкова і зусім невыпадкова краналася пальцамі і далонямі аголенасці Паэткі. Дзяўчына кожны раз уздрыгвала ад дотыкаў Мастачкі, а Мастачка дрыжэла, стрымліваючы ўзбуджанасць, выкліканую творчым працэсам, як меркавала Паэтка, адбягала да мальберта, варажыла на ватмане рознакаляровымі алоўкамі рэзкімі і хуткімі рухамі. У выніку Паэтка стамілася і лёгка напрыканцы пагадзілася маляваць сябе цалкам аголеную ды амаль скораную сном, а потым зусім не супрацівілася, калі Мастачка прыядналася да яе ў ложку і занялася вывучэннем ейнага цела пасродкам сваіх вуснаў і языка. Блізкасць з Мастачкай Паэтцы не спадабалася. Ніколі зноў інтыму з іншай жанчынай яна не паўтарыла, як і не даравала Мастачцы яе паводзінаў з ёю. У першую чаргу таму, што напомніла Паэтцы яе ж, Паэтку, у дачыненні да тых мужчын, з якімі спала, каб потым выкарыстаць атрыманы досвед з імі ў творчасці. Мастачка, як і Паэтка, выкарыстоўвала дзеля творчасці жанчын, у моманты інтымнай блізкасці з якімі цалкам ігнаруючы іх жаданні і адчуванні. Нечым яе карціны нагадвалі працы Барыса Валеджа, толькі ў кірунку не фэнтэзі, а хутчэй кіберпанку. Партрэты Паэткі, напісаныя Мастачкай, з'явіліся праз дзевяць месяцаў пасля першай і апошняй сустрэчы жанчын. На ўсіх партрэтах Мастачка адлюстравала Паэтку без галавы, замяніўшы галаву Паэткі паэтычнымі вобразамі, каб перадаць стан Паэзіі ў розных праявах жыцця і развіцця Паэзіі. Паэтка атаясамлівалася Мастачкай непасрэдна з Паэзіяй, цыкл пра якую яна даўно марыла напісаць, але не было падыходзячай натуры і праца адкладалася ды адкладалася на нявызначаны тэрмін. Пакуль у літаратуру не ўварвалася Паэтка. Менавіта ў ёй Мастачка ўбачыла прататып сваёй гераіні. Цікава, што б сказала Паэзія на гэты конт? Паэтка яе не пытала. Яна адчувала сябе выкарыстанай, ашуканай і недасведчанай. Дзяўчына сапраўды мала што разумела ў выяўленчым мастацтве, дый у гісторыі літаратуры плавала няўпэўненым адзінокім падлеткам на плыце пасярод акіяна. Ёй патрабаваліся сістэматычныя акадэмічныя веды, як ніколі, бо тых, што яна назапасіла праз самаадукацыю, катастрафічна не хапала. Яна гэта разумела. Яна гэта прыняла. І паступіла ва ўніверсітэт, дзе патрапіла на курс да Паэта.

Адным зімовым марозным ранкам Бібліятэкарка таксама вырашыла стаць пісьменніцай, распачаўшы ўласную творчую дзейнасць не з вершаў, як яе муж Паэт, а адразу з рамана. Нічога складанага ў напісанні рамана яна не бачыла, сядай ды пішы слова за словам так, быццам распавядаеш нейкую гісторыю сяброўцы, і не сумнявалася ў поспеху. Гэта ж не рыфмы ды вобразы паэтычныя прыдумляць, дзякуючы чаму нядоўга і галаву зламаць. Проза, па меркаванні Бібліятэкаркі, не патрабавала асаблівай напругі мозгу, тым больш напісаная па-руску, языком, зразумелым усім і кожнаму. Мову, якой пісаў Паэт, яна не тое што ненавідзела, не, але не лічыла вартай пісьменніцкага дару, ставілася як да другаснай, недасканалай, калгаснай, месца якой мусіла заставацца ў сельскай мясцовасці і больш нідзе, дый там варта было б дзяржаве даўно ўжо ачалавечыць так званае тутэйшае маўленне, якім нават у страшным сне ўявіць не магла, напісаныя, напрыклад, «Вайну і мір» ці «Знесеных ветрам». Так, у школьныя часы і ў студэнцкія гады Бібліятэкарка чытала творы, напісаныя мовай, але чытала мусова і, па праўдзе кажучы, мала што ў іх цяміла, да таго ж амаль усе яны распавядалі пра гаротную сялянскую долю ды рэвалюцыю. Падобныя тэмы ў літаратуры наводзілі на Бібліятэкарку нуду. Іншая справа, калі чытала пра Анжаліку (яна прачытала ўвесь цыкл, бо ў глыбіні Палесся нічога цікавага не адбывалася, а захапляцца сокамі цаліны ці засценкамі малінавак або людзьмі на балоце, як захапляўся бацька, нават пад прымусам не здолела). Яна напіша не горшы раман, калі не лепшы за прыгоды Анжалікі. Дзіўна, што раней не ўзнікла жаданне пісаць. Зрэшты, не дзіўна, улічваючы яе стаўленне да кніг. Калі б не выйшла замуж за Паэта, наўрад ці адчула б сверб творчасці ў абодвух скронях. Яна хацела давесці мужу на прыкладзе ненапісанага яшчэ і нават не пачатага рамана, свайго рамана, які абавязкова стане бестселерам, без варыянтаў, ён разыдзецца па ўсім рускамоўным свеце вялікім накладам і будзе зачытвацца да дзірак толькі таму, што напісаны па-руску, а значыць, зразумелым, без нікому непатрэбнай мовы і паэтычнай вобразнасці, пра якую так дбае Паэт і разумее яе толькі сам і больш ніхто. Бібліятэкарка свята верыла ў тое, што калі яна мала што разумела не толькі ў паэзіі Паэта, але ўвогуле ў паэзіі, то і ўсе астатнія людзі таксама нічога ў гэтым не разумелі, за выключэннем быццам бы абраных. Аднак калі паэзія для абраных, навошта тады яна? Гэта ж бяссэнсавае глупства!..

Пісала Бібліятэкарка на працы ў вольныя хвіліны і падчас абеду, Паэту, аднак, не казала пакуль што. Яна агаломшыць яго пазней. Рэакцыю правярала на каляжанках. Яна пачала ім чытаць асобныя раздзелы, калі знаходзілася недзе пасярэдзіне напісанага. Натуральна, водгукі атрымала хвалебныя і захопленыя. Яшчэ б! «Усё як у жыцці!» – казалі ёй сяброўкі, жадалі хутчэйшага заканчэння працы і выхаду кнігі, прэзентацыю якой правядуць абавязкова ў сценах бібліятэкі, якая ўзрасціла новае імя ў літаратуры.

Акрыленая падтрымкай бібліятэкі, Бібліятэкарка перадвясновым душным вечарам паклала на стол Паэта рукапіс свайго рамана, каб ён, вядома, прачытаў яго, здзівіўся таленту жонкі, захапіўся ім і ўзнагародзіў уладальніцу яго прыемнымі для слыху одамі, ва ўзнікненні якіх не сумнявалася. Яна нават дазволіць яму падзяліць з ёй ложак...

Паэт шчыра намагаўся ў рамане жонкі адшукаць сярод нагрувашчаных там літар талент, якога не было. Муза Паэта, якая зазірала ў твор

Бібліятэкаркі з-за спіны Паэта, бязлітасна хіхікала, шкадуючы, аднак, жанчыну, бо тая цалкам сур'ёзна ўжо бачыла сябе наяве, а не ў сне, вядомай пісьменніцай і членам саюза пісьменнікаў Сінявокай, новым адкрыццём і лаўрэаткай дзяржаўных літаратурных прэмій.

Яна накінулася на Паэта раз'ятранай фурыяй, калі ён сказаў, што на жаль, раман яе нічога нявартьі, але параіў звярнуцца, каб упэўніцца ў яго рацыі, да любога іншага пісьменніка. Бібліятэкарка не паверыла аніводнаму слову Паэта, яна не сумнявалася, што ён раскрытыкаваў яе раман з зайздрасці, з негатыўнага стаўлення да русского языка, з уласных комплексаў, выкліканых творчай убогасцю і махлярствам, што бэзам расквітнелі на яго галаве, як рогі ў раганосца, якім ён не пераставаў быць ніколі... Міжвольная агаворка не супыніла Бібліятэкарку, яна не заўважыла яе і працягвала абліваць брудам Паэта, выплюхваючы яго з уяўнай балеі проста яму ў твар. Зрэшты, Паэт яе ўжо не слухаў. Усё, што трэба было, ён пачуў.

Боль, які пабачыла Бібліятэкарка ў вачах Паэта, задаволіў яе. А чаго ён хацеў, калі першы здрадзіў? Не яна наставіла яму рогі. Яна ўсяго толькі паквіталася з ім. Чыста па-жаночы Бібліятэкарцы было цікава, куды сыходзіў Паэт пасля чарговай сямейнай сваркі і забароны нават дакранацца да жончынага цела ды бавіўся так доўга. Аднаго разу яна прасачыла за ім: не адставала да самага раёна Чырвоных ліхтароў, у якім ён растварыўся, бы здань ад павеву ветру. Уведанае Бібліятэкарку раззлавала, абразіла і захапіла аднachасова. Які вынаходлівы аказаўся Паэт. Яна, застаючыся адна ў халоднай пасцелі, перажывае за яго, думае, што ён нервы разладжаныя збірае наноў ды падвязвае іх на грыфе свядомасці, бы гітарныя струны праз хірургічнае ўмяшальніцтва ночы, караючы яго адмовай у сэксе, карае і сябе таксама, а ён сыходзіць ад яе, законнай жонкі, па суцяшэнне да прастытутак! Якая пахабшчына! Якая непавага да сябе, не да яе, бо атрымлівае тое суцяшэнне, несапраўднае, найгранае, мусовае, за грошы. І гэта Паэт?!. Зрэшты, яго дзеянні развязваюць рукі і Бібліятэкарцы. Яна таксама не манашка і не святая, каб чакаць з неба надвор'я, да таго ж надвор'я, магчыма, хворага на якія-небудзь пранцы. З яе знешнасцю (а знешнасцю Бібліятэкарка сапраўды валодала не абы-якой, ёй бы ў кінаактрысы – радаваць і спакушаць гледачоў, на гэта і разлічвала, калі вучылася ў кульку, ды, на вялікі жаль, кіно не з'яўлялася прыярытэтным для Сінявокай, якая ўвогуле не звяртала на яго ўвагі, захоплена пляскаючы ў ладкі дэгенератыўнаму спорту, а ў Маскву, па шчасце, ехаць не адважылася, каб не апынуцца там, куды збягаў ад яе Паэт) адно свісні, чарга ўзнікне адразу. Яна завяла палюбоўнікаў, але хутчэй на перспектыву, як катоў, задавальнення з імі ніякага не атрымлівала, хіба што зусім крыху, і ў гэтым вінаваціла Паэта, бо толькі ён яе задавальняў, бо толькі ён яе адчуваў і, што ні кажы, з'яўляўся ідэальным партнёрам. У моманты блізкасці з іншымі мужчынамі Бібліятэкарка ненавідзела Паэта, і ненавідзела люта, бо мусіла карыстацца сурагатам. Зрэшты, супакойвала сябе, Паэт таксама карыстаўся сурагатам у раёне Чырвоных ліхтароў, і ненавідзела яго яшчэ больш, а заадно і сябе, бо ў любым выпадку прайгравала, а прызнаваць уласную віну не магла і не хацела, каб хоць штосьці змяніць да лепшага.

Сярод любоўнікаў (іх было тры) Бібліятэкаркі вядучае месца займаў Празаік, аднаго веку з Паэтам, канфарміст і дзяржаўны дзеяч, які пісаў выключна па-руску, а пісьменнікаў, якія пісалі на мове, не ўспрымаў

ніякім чынам: яны для яго нават не існавалі (у будучым ён больш за ўсіх радаваўся, калі згуртаванне аматараў мовы ліквідавалі, і прапаноўваў кожнага носьбіта мовы таксама ліквідаваць). Жанатым Празаік ніколі не быў, бо, як прызнаваўся ў адным з інтэрв'ю, не меў часу на глупствы, але прыгожых жанчын любіў і разбіраўся ў прыгажосці. Прыгожыя жанчыны таксама Празаіка любілі, але ў большай ступені за яго раманы, якія выдаваліся галоўным чынам у Маскве штогод. Блізкае з ім знаёмства расчароўвала, бо ў будзённым жыцці Празаік аказваўся вельмі непрыемным чалавекам, зласлівым, пошасным і недалёкім. Напэўна, усю прыгажосць розуму выплюхваў у раманы. Менавіта пра яго Бібліятэкарка і распавяла Паэту, менавіта яму яна і пакажа свой шэдэўр. І тады Паэт не стрымаўся. Не, не ўдарыў. Ды лепш бы ўдарыў, на ўдар Бібліятэкарка недзе на падсвядомым узроўні і разлічвала, сэпсіс, што ўзнік у іх стасунках, рассмактаўся б і, магчыма, адбылася б рэмісія, шанец на паразуменне, на новы пачатак. Бібліятэкарка давала гэты шанец і сабе, і Паэту. Ён сказаў, што Празаік, менавіта Празаік, вялікі аматар русского языка, ніколі не даруе Бібліятэкарцы яе непісьменнасці, бо трэба быць зусім недалёкім чалавекам, каб слова «кофе» ўжываць на працягу ўсяго твора ў сярэднім родзе, паўтараючы і дэкларуючы гэта штораз. Бібліятэкарка рассмяялася Паэту ў твар, бо яна дакладна ведала, што «кофе», як і «молоко», як і «какао», *слова родственные*, а значыць, сярэдняга роду. Але цікава, якога ж роду «кофе» па меркаванні Паэта? Няўжо мужчынскага?..

Паэт не адказаў і зноў замоўк. Бібліятэкарка здавалася яму неадэкватнай. І чым далей, тым больш. Аднак ён і падумаць не мог, што яна такім чынам адчайна змагалася за іх агульнае мінулае, сённяшняе і будучае. Па нейкай вычварнай логіцы супярэчыла яму, ні з чым не згаджалася, але верыла, што ўсё робіць правільна.

Бібліятэкарка замоўкла, спыненая смехам сына, які застыў у прагале дзвярэй пакоя і пляскаў у ладкі. Смех яго здаваўся гістэрычным і ненатуральным, твар выглядаў, як маска на Хэлаўін. Аднак Бібліятэкарка памылялася наконт хлопчыка, калі думала, што той адрэагаваў падобным чынам дзеля таго, каб прымірыць маці з айчымам. На самой справе яны абое сваімі гучнагаварыцелямі, так ён называў іх галасы, перашкаджалі яму – не, не рабіць урокі, ламаючы галаву над хатнімі практыкаваннямі, а гуляць у Бэтмэна на кампутары. Выкрыкі дарослых за сценкай перакрывалі гукі гульні, ён амаль нічога не чуў з дынамікаў пад маніторам. Тым не менш з'яўленне малога выклікала пачуццё сораму як у Бібліятэкаркі, так і ў Паэта. Хлопец вярнуўся да прыпыненай гульні, яго маці і яе муж засталіся ў гасцёўні, ахопленыя сорамам і крыўдай адно да аднаго, быццам полымем. Яны застылі ненатуральнымі постацямі (як у дзіцячай гульні іх дзяцінства, распаўсюджанай ва ўсіх дзіцячых садках савецкага часу) у супрацьлеглых кутах памяшкання, зацятыя, бы звязаныя, маўчаннем. Ва ўсякім выпадку маўчаннем знешнім, бо дыялог іх, унутраны дыялог, які чулі толькі яны, працягваўся. Паэт быццам пытаўся ў жонкі, дзеля чаго яна напісала раман, патрабаваў ад яе простага адказу на простае пытанне. Бібліятэкарка і рада б адказаць, але адказу не знаходзіла, патрэбнага, пераканаўчага адказу, і несла штосьці аддалена падобнае, тое, што прыходзіла першым на язык, абы гаварыць і не дазволіць Паэту ўзяць над ёй верх. Тады ён пачаў казаць пра творчасць, пра сутнасць творчасці ў яго разуменні, з чым Бібліятэкарка катэгарычна не пагаджалася, бо не

лічыла творчасць вартай таго, каб загінуць дзеля яе. Навошта тады займацца творчасцю, калі тая замест удзячнасці ўвесь час шукае пралазы, капае іх, як крот, каб аўтару, які ахвяраваў дзеля яе жыццём, зрабіць як мага больш балюча, а потым яшчэ і пасмяяцца згары над ямай, куды сама ж аўтара і запраторыць. Гэта ненармальна, вычварна і псіхічна нездарова. Паэт зноў паўтарыў пытанне, зададзенае жонцы вышэй, дык навошта яна ўсё ж напісала раман, калі творчасць нявартая яе ўвагі. Бібліятэкарка адказала, што творчасць, яе творчасць не такая сука, значыць, як творчасць Паэта. Творчасць Бібліятэкаркі лёгкая на ўздым дзяўчынка, якой была сама Бібліятэкарка ў дзяцінстве. Як да дзяўчынкі Бібліятэкарка і ставіцца да яе. Паэтава ж творчасць вельмі нагадвае даміну з клуба аматараў БДСМ. Прынамсі, такое адчуванне ўзнікае пасля яго слоў пра яе. Паэт запярэчыў, што жанчына, як і заўжды, перакруціла кожнае яго слова, не зразумела, не пачула, не дачула ці ўвогуле не хацела ні зразумець, ні пачуць. Тады, у сваю чаргу запярэчыла Бібліятэкарка, Паэту варта выказвацца ясней, а яна што пачула, тое і пачула. Кожны пісьменнік, уздыхнуў Паэт і цярпліва пачаў спачатку, імкнецца сваёй творчасцю дасягнуць нейкай вышэйшай мэты сутнасці жыцця, зразумець яго прыроду, навошта ён тут, дацягнуцца да Бога і паздароўкацца як з роўным, убачыць і перадаць праз сябе, падзяліцца з іншымі тым, што іншыя ніколі не пабачаць, не адчуюць і не зразумеюць без яго дапамогі, без яго творчасці... Занадта складана гэта, адзначыла Бібліятэкарка, для ўсіх іншых, якім у прынцыпе нецікава, паздароўкаешся ты з Богам ці не, ім нават нецікава, ёсць ты на гэтым свеце альбо няма цябе, акрамя, хіба што, такіх самых, як ты, імя якім – адзінкі, а гонару, тым не менш, на мільёны. Звычайным людзям глыбока напляваць на вашы пакуты, на ваша ахвярапрынашэнне саміх сябе на алтар творчасці. Ніхто гэтага не заўважыць, не тое што ўбачыць. Больш за тое, імкненне кожнага пісьменніка пераўзысці кожнага іншага пісьменніка, патрэбнае толькі ім і больш нікому, нагадвае «Галодныя гульні», ёсць такі фільм, а імкненне пераўзысці самога сябе, дзеля чаго толькі невядома, падобна на пакарэнне непакораных вяршынь. У такім разе Бібліятэкарцы шкада Паэта. Яму застаецца толькі ўзысці, нарэшце, на свой Эверэст і здохнуць там аднаму, бо нават за каханне, прычым каханне несапраўднае, даводзіцца плаціць грошы, калі ўжо і жонцы непатрэбны.

Ёй такога шчасця не трэба. Яна пісала не таму, што мела нейкія там заваёўніцкія планы па спакушэнні Бога і ўкладванні яго ў ложак. Яна проста распавядала гісторыю, распавядала яе на паперы так, як распавяла б пры размове з сяброўкамі дзе-небудзь, не важна дзе, з нагоды і без. Таму яе раман будуць чытаць, а вершы Паэта – не. Прынамсі не масава. Таму што прасцей трэба быць. У запале супрацьстаяння Паэту Бібліятэкарка забылася, што яго вершы, на самай справе, не далёка сышлі ад яе рамана. Пра іншыя ж яго вершы яна не ведала, як пакуль не ведаў і сам Паэт. Пра іх ведала яго Муза, менавіта да іх Паэт і імкнуўся, менавіта імі меў намер паздароўкацца з Богам і згарэць у жарсных абдымках жар-птушкі Паэзіі. Праўда, Муза Паэта гэтага не хацела, таму і атрымаў Паэт тое, што атрымаў у асобах жонкі і яе сына.

Яны паглядзелі адно на аднаго з аднолькавым адчуваннем страты і жалю. Позіркі іх быццам патаналі ў вачах адно аднаго. Іх пацягнула насустрач некалькімі няўпэўненымі крокамі. І, можа, варта было б каханню даць ім яшчэ шанец, апошні, на паразуменне. Але каханне да таго часу пакінула

Паэта і Бібліятэкарку. Пакінула іх значна раней, расчараванае не ў іх, у сабе, у сваёй памылцы з імі. Паэт прайшоў міма Бібліятэкаркі і выйшаў у ноч. Яна не азірнулася, падышла да акна, усміхнулася ночы і паказала ёй сярэдні палец.

Ноч, да якой Паэт выйшаў з дому, бы да сяброўкі дзяцінства, каб тая падтрымала яго ў цяжкую хвіліну разгубленасці і расчаравання, не падвяла, зрэшты, як і заўсёды. Яна абняла Паэта проста і без слоў, але быццам казала, нічога, усё мінецца і забудзецца, ішла поруч праспектам сталіцы і здавалася такой светлай, нават празрыстай, што нагадвала белую ноч Пецярбурга, у якім Паэт ніколі не быў, дый наўрад ці трапіць з-за панічных атак страўніка. Тым не менш уяўленне перанесла яго ў твор Дастаеўскага, што не вельмі спадабалася ночы, аднак, падумаўшы, яна даравала Паэту прафесійную слабасць да параўнанняў, зноў-такі, як заўжды. Што ні кажы, а творчыя людзі, асабліва паэты, вельмі любілі яе, таму яна даравала ім усё. Цішыня гэтым разам недзе забавілася. Прынамсі, адсутнасць яе назіралася ў неасветленых ці дрэнна асветленых вулачках, што струменіліся ва ўсе бакі ад праспекта каменнымі капілярамі. З адной такой пачуліся хуткія крокі, што выбівалі стук абцасамі па брукаванцы і, хутчэй за ўсё, належалі ўцякачцы ад чагосьці ці, напэўна, кагосьці. Так і ёсць. Следам за далікатнымі гукамі жаночага абутку пачуліся плоскія, але шумныя крокі ўпэўненых у сабе мужчынскіх чаравікаў, што належалі, як вызначыў Паэт на слых, тром чалавекам. З'явіліся і іх галасы. «Стой, сука!», «Дагонім, горш будзе!», «А мы дагонім!» – прагучала досыць блізка. У той самы момант у вулачку, каля якой спыніўся Паэт, зацікаўлены гукамі, забегла ўладальніца дробных крокаў, імкнучыся, бы матылёк на полымя, да святла, што выпраменьваў праспект, у спадзеве на яго ратунак. Наўрад ці б ён дапамог дзяўчыне, бязлюдны і маўклівы, але надзея, як вядома, памірае апошняй. Задыханая, распатланая, расхрыстаная, з сэрцам, здавалася, не ў грудзях, а ў руках, што трапятала спалоханым зайчанём, яна слепа, а мо і сапраўды не бачыла, наляцела на Паэта, які паспяшаўся супакоіць уцякачку добразычлівым, як яму самому падалося, позіркам і цёплымі абдымкамі, поўнымі даверу. Але напалохаў дзяўчыну яшчэ больш. Не выключана, што яна палічыла яго хаўруснікам праследнікаў, якога, зрэшты, зусім не чакала сустрэць на сваім шляху. З яе грудзей вырваўся стогн, поўны смяротнага адчаю і суцэльнай безнадзейнасці, які, не інакш, паспрыяў выпусціць сэрца з рук, нібы мяч, ды абмякнуць безжыццёвай істотай на руках сапраўды ратаўніка памылкова, аднак, успрынятага за ката.

Тым часам падаспелі праследнікі дзяўчыны, падобныя да худых галодных ваўкоў, чыя здабыча, загнаная дзеля ўласнай спажывы, нечаканым чынам апынулася ў руках мядзведзя, чыю прысутнасць ніхто не прадбачыў дый прадбачыць не мог. Кожным сваім хіжым позіркам, кожнай сваёй напружанай цягліцай, кожным сваім смярдзючым подыхам «ваўкі» далі зразумець «мядзведзю», што не здадуцца без бою. Гэта іх здабыча і проста так яны яе не аддадуць.

Паэт перадаў дзяўчыну з рук на рукі ночы і папрасіў пакуль прыгледзець за ёй ды адшукаць яе сэрца, якое не магло нікуды далёка закаціцца. Ноч паабяцала Паэту падбаць пра дзяўчыну. Тады ён смела рушыў да ворагаў.

Яны адскочылі, але не ад спалоху, хутчэй, а каб зманеўраваць і напасці ўсім разам адным скокам, паваліць на зямлю ды адфігачыць нагамі,

каб жыццё малінай не здавалася, каб тое жыццё, дакладней, яго рэшту «мядзведзь» правёў, у лепшым выпадку, на інвалідным вазку. Бліснулі фінкі ў руках і кастэты, заціснутыя між пальцаў.

«Ваўкі» сапраўды накінуліся на «мядзведзя» скопам. Ён здзіраў іх з сябе разам з уласнай скурай і шпурляў спінамі аб сцены. Быццам каўчукавыя, тыя выгіналіся і кідаліся з яшчэ большай лютасцю. Яны не шкадавалі Паэта. У іх нават думкі не ўзнікла даць задні ход. Паэт не меў вялікага байцоўскага досведу, ён увогуле лічыў, што чалавека біць нельга, таму ўдары, якімі ён узнагароджваў нападнікаў, выклікалі боль, але не фізічны, а пакутлівы ў душы. Тым не менш, раз'юшваўся і ён. Дый хто б не раз'юшыўся на яго месцы, калі б атрымаў некалькі нажавых раненняў і страшэнных udaraў кастэтам у спіну і галаву. Ён зароў сапраўдным мядзведзем і больш сябе не стрымліваў.

«Ваўкі» нерухома застылі на зямлі, якая з вампірскай смагай прысмакталася да іх ран і наталялася іх сокам праз каменні бруку.

Паэт таксама не ўстаяў на нагах і споўз, абапіраючыся спінай на сцяну дома, што быў міжвольным сведкам бойкі, да той жа зямлі, выпрастаў ногі наперад. Дыхаць было цяжка.

Ноч не ведала, што рабіць, каго ратаваць і як. Мітусілася бескарысным паветрам між Паэтам і дзяўчынай.

Паэтка (а гэта была менавіта яна) з жудасцю і вялікім захапленнем сачыла за бойкай, чыя магнетычная сіла прыкавала яе, як свайго вязня, да сцяны, каб дзяўчына нават не варухнулася і не прапусціла ні секунды “бенефісу”, але і дзеля адзінай глядачкі таксама, хоць звычайна пазбягала чужых вачэй. Гэта яе малодшы брат бой паміраў без увагі, вялікіх грошай, славы і ўспышак фота- ды тэлекамер. Бойка пагарджала братам за яго прадажнасць, крывадушнасць, фальш і пыхлівасць, нават ненавідзела за тое, чаго прагла сама, але праз уласную недальнабачнасць спазнілася аказацца на месцы брата. Прысутнасць Паэткі акрыліла яе. Бойка пастаралася не напалохаць дзяўчыну, а выклікаць пачуццё суперажывання да аднаго з удзельнікаў па аналогіі з тэатральнай пастаноўкай. І ў яе атрымалася. Ніколі ў жыцці Паэтка не бачыла падобнага відовішча, тым больш так блізка. Звычайнае кола яе знаёмых хлопцаў і мужчын абмяжоўвалася інфантыльнымі летуценнікамі, жанчынападобнымі ці анёлападобнымі істотамі, якія не ведалі самі, што рабілі на зямлі, і нават мухі не маглі пакрыўдзіць. І сапраўды, далёка не кожны паэт мог пахваліцца ўдзелам у якіх-небудзь сілавых сутычках ці мерапрыемствах, хаця б спартыўных спаборніцтвах. Бо яны былі вышэй гэтага і лічылі тых, хто наносіць фізічную шкоду каму-небудзь, імбецыламі і ў некаторай ступені мелі рацыю. Паэтка таксама пазбягала стасункаў з людзьмі, непадобнымі на яе, чыё светаўспрыманне кардынальна адрознівалася ад яе светаўспрымання. Яна не хацела і ніколі не мела жадання зразумець іх ці пераканаць у адваротным. Кожнаму сваё. Менавіта таму дзяўчыну моцна, непрыемна ўразілі паводзіны «ваўкоў» у дачыненні да яе. Яна іх не чапала, ішла сабе дамоў, кіруючы з інтэрната (дзе забавілася ў аднакурсніц, якія наўмысна паклікалі не проста ў госці, а, як высветлілася, на літаратурнік, што ператварыўся ў чарговы паэтычны вечар самой Паэткі; таксоўку потым вырашыла не выклікаць, бо ісці было не вельмі далёка, да таго ж любіла хадзіць пешшу горадам, які пачынаў ёй усё больш і больш падабацца) праз футбольны стадыён, так бліжэй, да праспекта, калі тыя выскачылі з кустоў сапраўды, бы ваўкі да Чырвонага Каптурка ў лесе. Пачалі прыставаць,

спачатку словамі, з банальнымі прапановамі разбавіць сваёй прысутнасцю іх мужчынскі трыялет, казалі няўклюдныя кампліменты пра яе харостві, затым нехта з іх прыклаўся даволі балюча далонню да сядніц. Паэтка не адказвала, ніяк не рэагавала, моўчкі ішла наперад. Тады спадарожнікі вырашылі, што яна грэбуе іх прысутнасцю і пачалі пагражаць, што навучаць прыстойным манерам. Паэтка прыспешыла крок, «ваўкі» таксама. Яны ўжо не стрымлівалі сябе і смела краналіся рук дзяўчыны, цела яе, нехта тарганууў за валасы. Ёй хацелася заплакаць, нават плакаць наўзрыд з-за таго, што гэта не сон, што гэта адбывалася з ёю. Яна вельмі спалохалася і баялася зрабіць штосьці, што справакуе спадарожнікаў на рашучыя дзеянні, якія, не саромеючыся ўжо, яны галасна абмяркоўвалі і страшэнна пры гэтым іржалі. Рогат «ваўкоў» падштурхнуў дзяўчыну да ўцёкаў, чаго ніхто з іх не прадбачыў. Яны не сумняваліся, што ахвяра даўно ў іх руках. З'яўленне Паэта таксама ніхто не прадбачыў. «Ваўкі» пераацанілі ўласныя магчымасці, ашукалі сябе і атрымалі тое, што заслугоўвалі, хоць, натуральна, на бойку з «мядзведзем» не разлічвалі. Проста не пашанцавала. Так бывае. Затое пашанцавала Паэтцы, чыё сэрца ноч вярнула на месца ў той момант, калі Паэт выпростваў ногі, трымаючы скрываўленую руку на жываце, адкуль сачылася кроў. Паэтка ўдыхала напоўніцу паветра шырока адкрытым ротам, быццам наталяла ім смагу. Пры святле ліхтароў яна пазнала ў ратаўніку свайго выкладчыка з універсітэта. Паэт таксама пазнаў сваю лепшую студэнтку, якая кінулася да яго з імпэтам і жаданнем дапамагчы хоць чым-небудзь. Вочы дзяўчыны выпраменьвалі цяпло ўдзячнасці і спагады. Яна пацягнулася рукой у кішэню па тэлефон, каб выклікаць «хуткую», але не знайшла яго. Хутчэй за ўсё згубіла падчас бегу. Паэт жа не карыстаўся мабільнай сувяззю прынцыпова. Зрэшты, словамі пра свае раны як пра драпіны, ён на некаторы час супакоіў Паэтку. Яго хапіла дзяўчыне, каб сканцэнтравацца і прадумаць далейшыя дзеянні.

Паэтка прывяла Паэта ў сваю кватэру. Дом, у якім яна жыла, якраз знаходзіўся за сто метраў ад таго месца, дзе яны знаходзіліся перад тым. Наўрад ці б Паэтка адолела гэтую адлегласць бегам, уцякаючы ад праследнікаў, якія, несумненна, дагналі б дзяўчыну, бо беглі хутчэй за яе, таму дапамога Паэта, чыё раптоўнае з'яўленне на іх дарозе інакш як цудам не назавеш, – прыйшлася вельмі дарэчы. Яна не пытала, што ён рабіў пасярод ночы ў самым цэнтры сталіцы, хоць цікаўнасць яе не драмала і прыслухоўвалася да кожнага ўдыху і выдыху Паэта, быццам тыя маглі якімсьці чынам задаволіць інтарэс, тым больш што Паэт маўчаў. Мужна трываў боль, крочыў следам за Паэткай, якая шчабятала дарогай, не спыняючы плынь слоў ні на секунду, каб той не завострываў увагі на раненні, адцягваўся на яе. Паэтка дакладна ведала, што ў падобных выпадках, у выпадках з раненнямі, параненаму трэба загаворваць зубы, каб ён больш слухаў нечы голас, а не голас раны, то бок свой голас, голас свайго цела, акупаваны болем. Да таго ж была вінная яму. Хто ведае, чым бы скончылася для яе гэтая ноч, калі б не ён. Магчыма, Паэт выратаваў дзяўчыне жыццё, нават падарыў новае. Паэтка балабоніла пра вечар у інтэрнаце, распавядала пра аднакурсніц, малявала словамі іх партрэты, якія, сапраўды, зацікавілі Паэта і на пэўны час прымусілі забыць пра боль у жываце. На самой справе ён ужо прызвычаіўся да яго. Ну, і ўсё ж заставаўся мужчынам, якому не да твару было выказваць слабасць, што, зрэшты, Паэтка зразумела адразу, хоць і не падзяляла яго думак. Аднак

ёй падабалася, што ён не стагнаў, не выклікаў наўмысна жаль да сябе і, увогуле, ішоў упэўнена, усміхаўся бадзёра, і ўсмешкай сваёй падбадзёрваў дзяўчыну. І не скажаш, што яму балюча, што атрымаў раненне, калі не прыглядацца да рукі ў чырвоных плямах на жываце.

Раны аказаліся неглыбокімі і страху не выклікалі. Паэтка адзначыла гэта, калі прамыла іх у ванным пакоі сваёй кватэры. Крыві, праўда, шмат выцякла, але тое не бяда. Адляжыцца, адпачне, і ўсё будзе добра. Яна і без дактароў апрацавала пашкоджаныя месцы на жываце Паэта ды наклала павязку, з вялікім і непрыхаваным задавальненнем дакранаючыся да мускулістага торсу параненага, да дужых, таксама мускулістых рук. Цікава, колькі яму гадоў? На выгляд недзе пад сорак. Яшчэ ўчора Паэтка не звяртала ніякай увагі на Паэта, бо той знаходзіўся па-за зонай яе інтарэсаў, да таго ж быў выкладчыкам, да абліччаў якіх дзяўчына ўвогуле не прыглядалася, бо не мела ў тым патрэбы. Яны заставаліся для яе бязлікімі. Паэтка ведала яго імя і лічыла гэтага ведання дастатковым. Так, яна хадзіла на ўсе яго лекцыі, актыўна працавала на практычных занятках, як у школе. Цікавасць ён ніякую, асабіста для яе, не выклікаў. Паэтка не ведала, што Паэт – Паэт толькі з-за ўласнага літаратурнага густу. Калі б вершы Паэта хоць крыху падобны былі на яго мускулы, то, магчыма, інакш бы яна паводзіла сябе з ім ва ўніверсітэце. Вершаў Паэта дзяўчына не чытала толькі з гэтае прычыны. А вось Паэт ведаў кожны верш Паэткі. Яго мозг аўтаматычна запамінаў падобныя рэчы, няхай бескантрольна і бессістэмна, але ствараў у галаве Паэта лепшую паэтычную анталогію ўсіх часоў і народаў. І вось парадокс, сваіх вершаў ён не памятаў, прынамсі тых, якія былі надрукаваныя. Пра тыя, што кантралявала яго Муза, Паэт у прынцыпе не памятаў, што яны былі ці ёсць. Пазней іх знойдзе Паэтка. Яны агаломшаць яе так, як агаломшвае геніяльная музыка... Але тое будзе потым, пакуль жа дзяўчына паслала Паэту ў гасцёўні, хоць той цалкам сур'ёзна зазбіраўся дадому. Яна яго не адпусціла. Дакладней, не адпусціла Паэзія, пазнаўшы ў ім фаварыта той Музы, якая сваёй непаслухмянасцю ўздымала нервы не адно Паэзіі і ўтойвала Паэта, нібы той быў яе ўласнасцю, забыўшы, што кожны паэт, нават самы нікчэмны, уласнасць Паэзіі.

Паэзія жыла ў вялікім пакоі кватэры Паэткі, пра які тая нічога не ведала. Пакой хутчэй нагадваў кватэру ў кватэры, чым уласна пакой, нават своеасаблівы лофт, размешчаны за адным з кніжных стэлажоў працоўнага кабінета Паэткі, што нярэдка замяняў дзяўчыне і спальню. Менавіта туды прывялі Музу Паэта дзве музы, у чые абавязкі ўваходзілі, акрамя як прыслужваць Паэзіі, яшчэ і службова-сілавыя. Яны былі свайго роду паэтычнымі паліцэйскімі ў тыя моманты, калі таго патрабавала ад іх Паэзія. У свой час музы-паліцэйскія таксама мелі ў падапечных творчыя натуры, чый ліміт на смерць, аднак, пераўзышоў вызначаны тэрмін у разы, таму іх назаўжды пазбавілі магчымасці працаваць з натурай, што іх, зрэшты, ніколькі не засмуціла. Наадварот, у новых іпастасях яны адчулі сябе больш запатрабаванымі і значнымі. Стараннасць, якую праяўлялі ў давераных справах, недатычных творчасці, ішла ад душы. Ім падабалася карная, у некаторай ступені, дзейнасць. І хоць Муза не супраціўлялася, бо не мела асаблівага сэнсу (у кватэру Паэткі прыйшла не пад прымусам, бо куды яе Паэт, туды і яна, ведаючы наперад, што яе чакае, аднак не збягаць жа,

дый навошта?), ёй скруцілі рукі і моцна, балюча штурхалі. Паэта яна не вінавацілa. Хто ж ведаў, што ён добраахвотна апынецца ў самым логаве Паэзіі, ад якога яна яго аберагала, праз непрадугледжаны збег абставін. Вінавацілa сябе, бо мусіла прадбачыць нешта падобнае і падрыхтавацца, але разняволілася, не паспела. Умешвацца ж у ход падзей як чалавек, на жаль, не магла, не мела права, не валодала той магіяй, якая дазваляла калі-нікалі некаторым музам здзяйсняць подзвігі дзеля творцы, а не дзеля Паэзіі. Тым не менш зрабіла тое, што зрабіла. Яе так моцна штурхнулі ззаду ў пакоі Паэзіі, што яна не ўтрымалася на нагах, паваліліся на калені ды яшчэ праехалася на іх па падлозе, пакуль носам не ўткнулася ў ногі Паэзіі. Тая сядзела ў вялікім фатэлі, падобным на трон, абабітым чырвоным аксамітам, непрыступная, каменная і халодная, бы Снежная Каралева. Яна нахілілася, каб узняць твар Музы Паэта за падбароддзе ўгару і бачыць яе вочы. Што Паэзія хацела ў іх разгледзець ці ўгледзець? Страх, раскаянне, шкадобу, маленне аб дараванні? Муза не баялася і не збіралася ні аб чым прасіць, прынамсі за сябе. Відавочна, Паэзія была расчараваная ёю і тым, што не пабачыла жаданага ў яе вачах. Непакорлівасць Музы Паэта раздражняла Паэзію. Яна выклікала неадольнае жаданне ўдарыць яе, і не проста ўдарыць, а біць, пакуль не стоміцца рука, біць да крыві, пакуль кроў не пачне распырсквацца па памяшканні, пакуль не запырскае пакой цалкам і ўсіх, хто ў ім знаходзіцца. Паэзія не любіла непакорлівых муз, бо з-за іх губляла кантроль над падкантрольнымі музам паэтамі, дзякуючы якім заставалася маладой і прыўкраснай. Кожны паэт, які выпадаў з зору яе ўвагі, забіраў у Паэзіі часцінкі яе прыгажосці і маладосці. Пашкоджанні, вядома, яна атрымлівала несмяртэльныя, але адчувальныя і непрыемныя. Так, яна кампенсавала іх жыццямі маладых паэтаў, выпівала, як віно, наталялася, бы апантаная смагай, і здабывала з тае нагоды больш, чым губляла. Аднак баланс усё адно парушаўся. Паэзія ж за балансам сачыла з імпэтам і жарсцю закаханых, бо яе прыгажосць і была тым балансам. Муза Паэта здзейсніла злачынства ў адносінах да Паэзіі, прыхавала яго сапраўдны талент дзеля ўласных карыслівых мэт, за што мусіла адказаць і панесці заслужанае пакаранне. І ўсё ж зразумець матывы Музы Паэзія паспрабавала, прынамсі дзеля таго, каб прыняць канчатковае рашэнне па яе выраку, хоць дакладна ведала, што ніводнае слова асуджанай не кране і не зачэпіць сэрца, якога яна не мела. Паэзія выкшталцона карысталася чужымі сэрцамі і пачуццямі, тое самае патрабавалася і ад муз, натхняць творцаў на стварэнне шэдэўраў у славу Паэзіі, застаючыся пры гэтым бесстароннімі, бо ў іх канстытуцыі не закладзена ніводнага жарснага пачуцця ні да людзей, ні да любой іншай жывой істоты. Яны былі тым самым, што і анёлы – рахункаводамі жыцця і смерці.

– Адкажы мне на адно простае пытанне, – звярнулася Паэзія да Музы Паэта, свідруючы яе строгім позіркам, – навошта ты гэта зрабіла?

– Зрабіла што? – стомлена адказала пытаннем на пытанне тая, але не асуджана, хутчэй дзёрзка.

– Ты не разумееш, пра што мова?

– Зусім.

– Але ж ты не недалёкая?

– Вырашаць гэта не вам.

– А каму?

– Дакладна не вам.

– Не падабаецца мне наша з табой размова.
– Не я яе распачала.
– Добра. Давай спачатку.
– Як пажадаеце.
– Навошта ты гэта зрабіла?
– Зрабіла што?
– Здрадзіла.
– Каму?
– Мне. Нам усім.
– Наадварот. Гэта вы здраджваеце самой сабе, а нас, муз, ператвараеце ў сваіх хаўруснiц. І вам не сорамна?
– Ты паглядзі, як яна загаварыла, смаркачка!
– Кожная муза нараджаецца з пачуццём прыўкраснага, каб несці ў свет прыгажосць і чараўніцтва, каб натхняць цікавых прыгожых людзей на прыгажосць і чараўніцтва, пакуль не трапляе да вас, дэфармуецца і стае быццам бясполай, быццам стэрылізаванай і мёртвай у той бяздушнай прыгажосці, якою надзяляеце вы, перад тым, як адправіць яе да вамі ж абранага паэта. Кожная муза, апрацаваная вамі, – гэта пачварны люстраны адбітак вас самой, пазбаўлены ўсялякіх пачуццяў і адчуванняў, ваш саглядатай, віж і даносчык...
– Маўчаць!
– Не падабаецца? У адрозненне ад іншых за вашай незямной, як вы лічыце, прыгажосцю, я бачу пачварнае аблічча хворай на адзіноту, высахлай і аб'едзенай ветрам муміі...
– Ды як ты можаш?!.
– Магу. Яшчэ як магу. Бо я Муза! Сапраўдная Муза, якая не страціла сябе і можа адчуваць...
– Нядоўга. Нядоўга табе засталося адчуваць. І хворая на самой справе не я, а ты. Але я цябе вылечу.
– Наўрад. Ніхто больш не будзе ўказваць мне, як жыць і кім мне быць.
– Гэта не твае словы. Дзе ты іх панабіралася? Так дазваляе выказвацца сабе толькі чалавек.
– Менавіта.
– Няўжо ты хочаш стаць чалавекам?
– І стану. І вы не перашкодзіце мне. Бо калі Муза вырашае сама стаць чалавекам, Паэзія не мае права ёй супярэчыць.
– Што ты гэтым і каму хочаш давесці?
– Нічога. І нікому.
– А, здагадалася, каханне. Ён жа стары для цябе! Дый не пазнае цябе, бо ніколі цябе не бачыў.
– Значыць, хутка пабачыць.
– Ты сур'ёзна? Закахалася ў паэта? Шкада мне цябе ў такім разе.
– А мне вас.
– Гэта чаму ж?
– Таму што Паэт для вас страчаны назаўжды.
– Гэта мы яшчэ паглядзім.
Паэзія кіўнула музам-прыслужніцам, каб тыя вызвалілі памяшканне і Паэзію ад Музы, якая больш не належала да іх агульнага арыстакратычнага клану, і забыла пра яе існаванне. Шкада, што суд над Музай не адбыўся, Паэзія б на ім выглядала шыкоўна ў новым уборы, прыдбаным па выпадку.

Каторую ўжо ноч Паэт не спаў, але і не пісаў таксама. Не мог пісаць, як не мог і спаць. Ды не толькі сны адказвалі за яго працаздольнасць. Сны ўсяго выконвалі функцыю каталізатара, поштурха да творчасці. Яны слугавалі, але не Паэту, як ён памылкова лічыў пэўны час. За імі стаяла Муза. Менавіта Муза каардынавала дзейнасць сноў Паэта, удыхала ў кожны сон частачку сябе, і з гэтых частачак Паэт ляпіў Паэзію на старонках сшытка ў краткі, нібы аплікацыю. Як толькі сшытак яго, пра які ён нічога не памятаў, не ведаў, адкуль той узяўся, калі ўзнік, спісаны, тым не менш, вершамі, што належалі менавіта яму і больш нікому (почырк, стыль, палітра вобразаў відавочна Паэтавы), знайшла Паэтка, – стасункі з творчасцю адразу прыпыніліся. Ці, можа, раней, проста ён не заўважыў, што раней? Паэт не мог выціснуць з сябе ані слова, як ні напружваўся, быццам у адначассе страціў голас і магчымасць мысліць. І адбылося гэта якраз у тую ноч, калі ён упершыню апынуўся ў кватэры Паэткі. Так, дакладна. Яна была ў захапленні ад Паэтавых вершаў у сшытку і не хавала гэтага, дый Паэт таксама падзяляў яе настрой. Не верыў самому сабе, што іх напісаў не хтосьці іншы, а ён. Напэўна, з-за іх ён і не мог больш пісаць, бо як нешта пасрэднае рыфмаваць пасля сапраўды шэдэўраў, якія з'явіліся самым невядомым і таямнічым чынам, але, тым не менш, былі яго. Гэта пацвердзілі і літаратуразнаўцы, і крытыкі пасля выхаду вершаў у друку, на чым настаяла Паэтка. Не, яны не спалі разам, нават ніводнага разу не пацалаваліся. Паэтка здала Паэту пакой у сваёй кватэры на той час, пакуль ён разбярэцца з сямейнымі праблемамі. Разам з дзяўчынай ён тады вярнуўся дамоў, ужо дамовіўшыся, што пераедзе да яе. Адно папрасіў дапамагчы яму з рэчамі. Не як грузчыку, зразумела, як дарадцу, каб узяць сапраўды вартыя паперы, а не цягнуць у чужую хату вазы макулатуры. Сярод папер Паэтка і адшукала Паэтаў скарб. Бібліятэкарка, жонка Паэта, на дзіва спакойна паставілася да рашэння мужа пажыць асобна адно ад аднаго. Нешта падобнае яна і чакала ад Паэта, таму падрыхтавалася, праўда, з'язджаць з Паэтавай кватэры не збіралася і пры разводзе прэтэндавала на палову яго маёмасці. Раман яе праз пратэкцыю Празаіка ўзяло галоўнае выдавецтва сталіцы. Калі ён выйшаў асобнай кнігай – яго расхапалі, бы гарачыя піражкі, а Бібліятэкарку прынялі ў Саюз пісьменнікаў. Яе аблічча доўгі час не сыходзіла з білбордаў уздоўж магістраляў і з экранаў тэлевізараў як літаратурнага прарыву года і надзеі сучаснага айчыннага пісьменства. Неўзабаве Бібліятэкарка займела ўласную перадачу на сталічным тэлебачанні і кватэру ў прэстыжным раёне горада. Ад Паэтавай маёмасці яна літасціва адмовілася на яго карысць, і сам Паэт быў ёй непатрэбны. На яго яна глядзела ўжо як на лузера.

На заўтра ў Паэта і Паэткі, ужо на сёння, запланаваны мерапрыемствы: прэзентацыя новай кнігі Паэткі і творчы вечар Паэта, прысвечаны яго саракагадоваму дню нараджэння і пятнаццацігадовай гадавіне творчасці. Так атрымалася, што абодва мерапрыемства прызначаны на адну і тую ж гадзіну, праўда, у супрацьлеглых будынках: Паэтку чакаў павільён Палаца мастацтваў, Паэта – хацелася б верыць – бібліятэка № 5.

...Яго нават не здзівіла, што на вечар ніхто не прыйшоў. З сыходам Музы, з моманту марных намаганняў заставацца Паэтам, калі вершы не пішуцца і, як прадчуваў, не напішуцца больш ніколі, ён адчуваў сябе лішнім і выпадковым чалавекам у літаратуры, тым больш для Паэзіі. Нягледзячы на тыя шыкоўныя творы ў сшытку, а мо і насуперак ім. Паэт больш за

паўгадзіны сядзеў у пустым памяшканні, вылучаным адміністрацыяй бібліятэкі пад пляцоўку сустрэчы Паэта з чытачамі, і сумна ўсміхаўся. Супрацоўнікі бібліятэкі не непакоілі яго. Яны мелі зацверджаны наверсе план мерапрыемстваў, па якім Паэт меў поўнае права займаць вылучанае пад яго памяшканне паўтары гадзіны. А што ён там рабіў, няхай і адзін сядзеў, гэта не іх справа.

Раптоўна і нечакана ў памяшканне ўварвалася, бы павеў свежага ветру, дзяўчына з вінаватым выглядам твару, што нібы выбачаўся за спазненне. На пустую аўдыторыю яна не звярнула ніякай увагі, бо запоўніла яе цалкам сабою. Гэта была Муза, якая стала чалавекам дзеля кахання да чалавека, няхай і Паэта, які з вялікай удзячнасцю чытаў ёй адной вершы, тыя самыя вершы, што яна хавала ад Паэзіі і кожны ведала на памяць.

*2021*

Сяржук Сыс



...Над плынню неабсяжнае ракі
хачу, каб словы гэтыя пачулі...

# Мой апошні – на шчасце – грошык

* * *

З Дняпра пачынаецца час
балючага асэнсавання
сыходу туды, дзе нас
не ведалі да выгнання.

З Дняпра пачынаецца шлях,
складзены з пазлаў сумненняў,
скамечаных апранах,
шэрых кашлатых ценяў.

З Дняпра пачынаецца ўсё –
а больш не было нічога...
Праз камяні ды асцё
намацваю ў свет дарогу.

## МУРАШ

Уявіў на імгненне сябе мурашом:
Адзінокім, зляканым і кволым,
У якога дашчэнту раструшчылі дом,
І нікога-нікога наўкола.

Прадзіраюся лісцем апалым ледзь-ледзь,
Лапкі б'ю аб бярвёны ігліцы.
Вось яшчэ б і смарагдавы мох здалець,
Каб да новага дому прабіцца.

Сілаў мала зусім, каб мурашнік знайсці,
Некрануты звярынаю злосцю...
І калі не загіну ў дрымучым трысці –
Папрашуся да вас, вашамосці.

* * *

Закапаю на полі ў раллю
Свой апошні – на шчасце – грошык,
На сняданак мух налаўлю,
На абед – камароў ды мошак.

Пабрыду скрозь імшары-лясы,
Усё роўна: арол ці рэшка.
Вып'ю кроплю гаючай расы
Са слязінай уперамешку.

Пад карчы ў хмызнякі зазірну,
На начлег да вужоў папрашуся.
Зноўку ў сне крычу пра вайну,
Пра пабоішча ў Беларусі.

Новы дзень будзе поўным надзей,
І падзей, і людзей харошых...
І ў стакроць стане мне даражэй –
Мой апошні – на шчасце – грошык.

* * *

Плывеш, плывеш, а берага няма,
вада і неба – рысаю адчаю...
Дык што, усё было дарма,
і вера больш мяне не выручае?

Саслаблі рукі, хоць бы круг які
выратавальны хвалі мне шпурнулі...
Над плынню неабсяжнае ракі
хачу, каб словы гэтыя пачулі.

### *У СЕЙМЕ*

Сяджу ў Сейме,
увесь непрыступны і важны,
Цешуся плынню ракі,
жыццём, якое плюхае блізка.
А спёка апоўдні невыносная проста, ажно –
галава мая гарыць
і ў вачах каляровыя пырскі.
Сяджу-засядаю,
замкі з пяску праектую,
Адзінагалосна ў Сейме
прымаю дэкрэты...
Ды раптам хваля ліхая
замкі мае зруйнуе,
Ізноў неакрэслена ўсё,
І, можа, не варта болей аб гэтым...

* * *

Стаўлю кропку нетаропка,
Аркушок паперы ўбок.
Я заўжды баюся кропкі:
Потым што? Зноў слоў клубок?

Таямніцаў выцінанкі
Тку ў нязведаны сюжэт...
Вось пішу, а гляну ранкам:
“Ну які з цябе паэт?”

### *АРЭЛІ*

Аддаляюся – набліжаюся,
набліжаюся – аддаляюся
неба і зямля, зямля і неба
чаргуюцца – чуецца...
то не нейкі там маятнік Фуко
а мудрыя як гэты свет арэлі
якія прыводзіць у рух
хіба што пульсацыя
блізкага сэрца

## *КАРПАЦКАЯ ПОЎНЯ*

Па-над вадаспадам разгульвала поўня,
Ды так нетаропка, ды так самавіта...
Хадзіла і палкія сыпала промні,
Што пырскі патоку гарэлі нібыта.

І так захацелася раптам дадому,
Да ціхае плыні, да люстраў-азёраў...
Даруйце, сябры, не жадаў я нікому,
Ні купінак гневу, ні злосці, ні гора!

* * *

Сцямнела. Стаю на гаўбцы, гэткі здань-чалавек,
Чытаю насупраць: “Квіткова крамниця”
У атачэнні брутальных неонаў-аптэк...
І людзі ў аптэках, а ў краме – кветак паліцы.

Пайду і набуду хоць сціплы букет хрызантэм,
Хаця, ну каму прэзентую я познія краскі...
Сабе? То няхай гэта будзе таемны татэм
Для міру, любові і ласкі...

## *КАТАСТРАФІЧНА*

Да словаў гарнуцца, да водараў цела,
кранаць іх, нібыта лязо, асцярожна,
дуэль нашых воч, смяротна, нясмела –
вышэйшая ёсць насалода... а можна?

Яшчэ валасоў тваіх пасмай гуляцца
табу, ці дазволена судакрананне?
Застанься собою, без рэінкарнацый
на момант які, не жанчынай – адхланнем.

Не проста самотна, а катастрафічна
упіўся атрутнай сваёй адзінотай...
Я, можа, кажу нешта і нелагічна,
але паміраю дакладна, не потым.

І справа не ў ложку зусім, а ў размове,
аб тым, што казаць іншы раз немагчыма.
Ну што, паспрабуем, калі ты гатова,
Адолець удвух нашы доўгія зімы...

## ДОМ

*Ахвярую Алене Прыходзька*

Дом, будуй-не-будуй, аніколі не будзе тваім,
А сваёй назавеш, як пашчасціць, хіба дамавіну.
Курані і харомы, і хаты – усё гэта дым...
І яны недзе ў прысаку памяці згінуць.

Дом знайсці – нібы донара з роднай крывёй,
І яна ад пагібелі, можа, ўратуе імгнення.
Не хваліся ніколі: “Вось гэты дом – мой”,
Бо хіба што сябры – найтрывалыя сцены.

Трэба шмат пераджыць і згубіць па жыцці,
Ноч пражыць у сумёце зімою,
Каб дайшло – дом ты можаш знайсці
У сябрах, што яшчэ засталіся з табою.

---

“Дзеяслоўцы” шчыра віншуюць
нашага даўняга сябра і аўтара
шаноўнага **Сержука СЫСА** з шасцідзесяцігоддзем
і зычаць яму моцнага здароўя, душэўнае трываласці,
Божае ласкі і натхнення на новыя выдатныя творы!

Ігар Сідарук



…займацца агульнадзяржаўнай справай
павелічэння нараджальнасці
і паляпшэння дэмаграфічнай сітуацыі
ў любым месцы і ў любы час…

# Кантракт

***Нізка апаведаў***

## Вушы

Калі Міхал Наўроцкі дачытаў апошнюю старонку рамана Алеся Аркуша “Захоп Беларусі марсіянамі”, на вуліцы было цёмна. Ён яшчэ пасядзеў, упароўшы пальцы ў валасы, магчыма, перажываючы за захопленую Беларусь ды перабіраючы сваё. Невядома ад чаго, але на душы рабілася ўсё трывожней. А за вакном – цямней...

Міхал узняўся, падышоў да вакна. Раскінуўшы рукі крыж-на-крыж, хапянуў за краі штораў ды рэзка зашморгнуў. І раптам адчуў, што ў пальцах нешта засталося. Не, гэта былі не абрыўкі парчовай тканіны. Нечыя ладненькія, маленькія вушы трымаў Міхал Наўроцкі ў сваіх руках.

“Ото маеш!” – падумаў ён, разглядваючы вушы ў прыцемках.

Не даючы веры вачам, Міхал перасек пакой па дыя-

ганалі, пстрыкнуў выключальнікам. І ўжо ў яркім электрычным святле пераканаўся: ён трымае сапраўдныя чалавечыя вушы. Наўроцкі зноў падышоў да вакна, ледзь не міліметр за міліметрам агледзеў краі зашморгнутых штораў. Шторы, аднак, былі цэлыя. Краі былі акуратна падрубленыя, паверхня гладка-шорсткая, аніякіх табе дзірак, надрываў, псавання. Тым не менш у руках Наўроцкага заставаліся вушы, вырваныя толькі што менавіта адсюль, з гэных праклятых штораў.

“Каб я так жыў! – усё меней разумеў сітуацыю гаспадар кватэркі, аматар чытва сучасных беларускіх аўтараў. – “Чые ж гэта вушы, панове?!”

Каб развагі цяклі не так нервова, ён перамясціўся на куханьку, дзе ўздоўж вольнай сцяны месціліся клеткі з сэнсам і матэрыяльным увасабленнем ўсяго ягонага жыцця – хвалістымі папугайчыкамі. Папугайчыкі заверашчалі, калі пабачылі свайго гаспадара, аднак той прыкрыкнуў:

– А ну ціха, шпаннё галапузае!

Можа, папугайчыкі пакрыўдзіліся на галапузых, аднак прыціхлі, зноў сталі кляваць свае птушыныя камбікармы.

Міхал запаліў газ пад гарбатнікам ды стаў успамінаць, раскручваць клубок прамінулых падзеяў.

Па-першае, Наўроцкі на гэтым часе быў абсалютным цвярознікам. Таму версія з’яўлення адарваных вушэй на глебе нястрымнага банкетавання адразу адпадала. Хоць іншым разам ён мог зазірнуць у бліжэйшы барчок “Хмельны Аўлас”, каб заказаць халодны выдатнейшы чорна-парэчкавы морс, які тут рабілі адмыслова са свежых ягадаў, а болей з надзеяй (а раптам?!) падчапіць-пазнаёміцца з якой кралечкай-бландзінёшкай, паколькі Міхал быў не толькі абсалютовым цвярознікам, але даўно – такім жа закаранелым халасцяком.

І, о так, учора атрымалася. Яна сама падсела бліжэй, як толькі адчула гарачую хвалю мужчынскай увагі. Хоць Наўроцкі імкнуўся рабіць выгляд, што гэная ўвішная, зграбная, залаціста-памадная бландзіністая змяючка яму абсалютна пофіг.

– Адзін? – паказала белыя прыгожыя зубкі змяючка.

– Ага... – звыш-інтэлектуальна адказаў дзёрзкаму выразу дэкальтэ незнаёміцы Міхал.

– Што так? – пасунулася тая локаць у локаць.

– Ды так... – па-ранейшаму вёў адмысловую гутарку з гарачым дэкальтэ Наўроцкі. – Няма з кім сёння.

– Морс?.. – узяла запацелую шклянку Міхала бландзінёха і ўмакнула туды панадлівы пальчык. Міхал адчуў, што гэтак жа запацеў у яго плацдарм паверх копрыку.

– Так, парэчкі тут... добрыя. – ён вырашыў карэнным чынам пераламаць сітуацыю. – Але вам... табе... магу і каньяк.

– Хм!.. – незнаёміца выгнулася, хіжа-галавакружна закідаючы галаву ды прабіваючы навылёт вочы Наўроцкага сойчыкамі з-пад дэкальтэ, дзе спявалі адысееўскімі сірэнамі пругкія грудкі без станіку. – Давай!

І яны далі... Ды так, што ложак у той вечар у кватэры Наўроцкага і рыпеў, і рагатаў, і жаліўся, і плакаў. Антуанэта (так звалі бландзінёху) пасля таго, як ложак адрагатаў-адплакаў некалькі звышскладаных партыяў, хацела абавязкова здзейсніць сеанс аральнага сексу, седзячы, бы марак у сядле, на ўнітазе (“Даўно, а ты ж мой папугайчык, марыла!”). Толькі партыя перад гэтым аказалася й напраўду для Міхала такой звышскладанай, што

мара Антуанэты была адкладзеная да лепшых часінаў. Галоўнае, што па ўзаемнай згодзе.

Гарбатнік закіпеў, і з вільготным парочкам па кухні Наўроцкага канчаткова развеяліся пахі касметыкі ўчарашняе выпадкова-жаданае візіцёркі ды іхняга нястрымнага сексу. Не, блін, гэта былі яўна не вушы Антуанеты. Не мог іх адарваць... Ні ўчора вечарам, ні сёння пагатоў – ну дакладна не была яна там за шторамі, калі іх зашморгнуў Міхал. Дый заверашчала б бландзінёха канкрэтна – зрабі такое.

Міхал на ўсякі выпадак перабег-такі ў пакой, зноў апасліва зазірнуў за шторы. А раптам? Раптам яна там стаіць да гэтай пары?! За шторамі нікога не было. Што ж тады гэта было?!

Наўроцкі кінуў погляд на кніжку з “марсіянамі”. Чакай, кніжка... Тыдзень таму, як ён зайшоў у мясцовую кнігарню. За прылаўкам, на сваім звыклым месцы, сядзеў сівавалосы Мікіта Саўронавіч, і вушы ягоныя свяціліся ў сонечных промнях, якія падалі наўскос ад вітрыны.

Міхал пачаў успамінаць, як павітаўся, пацікавіўся здароўем, спытаў, што новага. Новага ў Мікіты Саўрасавіча нічога не было, не лічачы сына-боўдзілы, які ў чарговы раз загрымеў у пастарунак за з’яўленне ў публічным месцы ў непрыстойным выглядзе. Але тое было ўжо даўно не новае...

Міхал агледзеўся, пашыбаваў да палічкі з навінкамі. Пагартаў пару глянцавых часопісаў з гламурнымі дзеўкамі, перабраў дэтэктыўчыкі ў мяккіх вокладках, узважыў чарговую “цаглінку” фэнтэзі Ніла Гэймана ды спыніў-такі канчатковы выбар на “Марсіянах” А. Аркуша. Штосьці такое ўжо чытаў гэтага, як пісалі некаторыя крытыкі, “беларускага клясыка сучаснай прозы”. Таму спадзяваўся, што і новы твор сучаснага *клясыка* яго не расчаруе.

Ужо пры разліку Наўроцкі зноў звярнуў увагу на ружовыя вушы кнігарніка ў промнях сонца на захадзе, пабачыў крывяныя пражылкі ды сівыя валаскі, якія рэдка віліся па мочках і ніжэй. “Цікава, а можа, вушы – гэта маленькія крылы, якія былі раней вялікімі, а потым у працэсе эвалюцыі паступова атрафаваліся? – раптам падумалася. – І цяпер, каб паляцець, трэба часта-часта замахаць вушамі, і, можа, чалавек адарвецца-такі ад зямлі?!”

Відаць, адчуўшы такі пільны пагляд, Мікіта Саўрасавіч запытальна ўскінуў вочы.

– Штосьці яшчэ?

– А, не... – мармытнуў Міхал.

І, асэнсаваўшы сябе зноў у сваёй кватэрцы за кубкам так ні разу і не адпітай гарбаты, успомніў: вушэй сталаму прадаўцу кнігарні ён усё-такі не адрываў.

“Тады чые ж, чачэнская твая душа, вушы?!”

І, падумаўшы, прычым тут да душы яшчэ нейкія чачэнцы, зноў занурыўся ва ўспаміны.

Гэтым разам Міхалу ўспомнілася гарачае лета дваццаці... а можа, і дваццаціпяцігадовай даўніны, як ён працаваў у раённай газеце “Буравеснік пераменаў”.

У тыя гады... так, ён піў, бы чорны бот, усё, што знаходзіў на адлегласці дзённай хады няўрымслівага карэспандэнта. Успомніўся дзень, калі яго выпадкова зачынілі аднаго ў кабінеце журналюгі-калегі. Ды як, дапіўшы да донца трохлітровіка рэшты самагону, бы ртуццю наліты цэп, Наўроцкі

вырашыў з кабінета рэцiраваццa. А паколькі рэдакцыя “Буравесніка” месцілася на другім паверсе мясцовай друкарні, а вокны кабінету выходзілі на дах падсобнага прыбуданчыка, то п’янотны ў макаўку Міхал на гэты дах праз расчыненае вакно і выйшаў. А потым, падкасіўшыся, як здароў быў згрымбамболіўся ўніз. Дакладна пацэліўшы паміж разабраных друкарскіх станкоў, страляючых у неба вострымі іржава-сталёвымі стрыжнямі ўжо не рабочых агрэгатаў. Упадзі Міхал на некалькі сантыметраў лявей ці правей – і вiсеў бы ён цяпер на адным з гэтых стрыжняў, як наколаты жук на шпільцы энтамолага-калекцыянера. А так – толькі тонкая юшачка цюрчэла па вуху накачанага самагонкай летуна.

“Можа, гэтыя вушы – адтуль, з мазгахмельнага таго жыцця па маладосці? – глядзеў Наўроцкі на лыжачку, з якой кропелькамі капала гарбата ў кубак, ды раз-пораз кідаючы позірк на вушы, якія неабвержным фактам нядаўняга абрывання ляжалі перад ім на стале. – Але як?!. Прафесар, які развітваў мяне тады з алкаголем, казаў, што могуць быць зрэдзьчас галюцынацыі ды мроіскі розныя... Маўляў, на мозг можа накатваць туга па спірытусу ў арганізме. Але ж вушы – во! Ляжаць! Не галюны і не мроі!”

...Ды мрояй накаціў чарговы ўспамін, яшчэ ранейшы ад рэдакцыйных палётаў з даху. У той год... Наўроцкі піў так, што калі вяртаўся тлумнай ноччу ці пад зморную раніцу дахаты, у тугі шызы дым закручваліся й гарэлі дрэвы, твары рэдкіх мінакоў ператвараліся ў варанячыя пашчы, а зямля раз-пораз уздыблівалася зверам ды біла дакладна ў лабешнік. Жонка Таццяна... плакала, маліла, сварылася, малаціла вострымі кулачкамі ў ягоныя абыякавыя да ўсяго грудзі. А, не, не да ўсяго: у грудзях смылела і хацелася – о, Божа! як жа хацелася!.. – выпіць.

І на раніцу – болей! Міхал кляўся, бажыўся, што ўсё, завязвае, учора ў апошні раз, што сёння будзе як шкло. А ідучы дахаты, зноў паварочваў да бара “Кляновы квас”, нібы ногі самі вялі туды. Там, у “Кляновым квасе”, знайшла Таццяна шклянога Наўроцкага і ў той вечар, калі на зваротным шляху іх пераняла маўклівая свалата, запатрабавала грошы. Міхал узбычыўся, пагражаючы ўсіх забіць. І адразу страціў пярэднія два зубы, паколькі старшой свалаты з адмашкі ўрэзаў кастэтам. Потым яны дубасілі іх нагамі, не шкадуючы абаіх, не зважаючы, што ў жанчыны падазрона выпінае жывот...

Праз некалькі дзён, у жаночай кансультацыі, Міхал здалёк назіраў, як урач – мажны мужчына з зачэсаным назад няскораным віхрам, нешта даводзіў ягонай Таццяне. А тая ўнурана стаяла, цярэбячы ў руках чорны рэнтгенаўскі здымак, і то адчайна, то з надзеяй ўздымала вочы на доктара.

Гарбата даўно астыла. Верашчанулі ды змоўклі папугайчыкі. Наўроцкі глядзеў ды глядзеў на вушы, якія па-ранейшаму ляжалі перад ім. Вось так – прывіднымі перавёртышамі, са скручанымі ручкамі-ножкамі, злучаючыся з вадкай туманнасцю, выглядалі на УГД у чэраве былой жонкі іхнія будучыя двайняты. Да размовы з урачом – уладальнікам няскораных віхраў.

Ён яшчэ крыху паглядзеў на вушы, а потым, падхапіўшы, укінуў у маленькую каструльку, падставіў пад струмень халоднай вады ды бразнуў на газавую пліту. Яшчэ праз паўгадзіны Наўроцкі адарваныя ўласнаручна ад штораў вушы з’еў.

Ды даў трошкі падзяўбаць сваім папугайчыкам.

## Цвік у вока

Сержык Лабаданскі падышоў да люстэрка, прынараwіўся, усміхнуўся ды з адмашкі ўсадзіў сабе ў вока цвік.

– Зачот! – ацаніў ён зробленае, ані не зважаючы на вадкасць і сукравіцу, якія сцякалі па сківіцы. – Без прамашкі й дубляў!

Сержык нарэшце адарваўся ад люстэрка. Снедалася са смакам. Яечня была ўмалочаная мігам, гарбата падалася асабліва водарнай і моцнай. Адкінуўшыся ад стала, яшчэ раз зірнуў у люстэрка, падміргнуў жывым вокам і, пачапіўшы на плечы маднецкі пільчачок, выйшаў прэч.

Ідучы ходнікам праз натоўп, Лабаданскі стараўся ўсміхацца мінакам. І не толькі мінакам, але і варонам, якія зрэдзьчас кружлялі над галавой. Так ён прайшоў метраў дзвесце, а можа, болей. І раптам адчуў дыскамфорт. Нібыта сталі пакусваць за сойчыкі зусім не сэксуальныя мурашы. Яшчэ не разумеючы, адкуль што ўзялося, Сержык звярнуў на іншую вулку. Але і там мурашы не пакідалі ў спакоі. Нешта было не так.

– Ды што ж такое, тваю маць удуплянскую! – вылаяўся Серж, калі чарговы мінак прывідам пацёгся далей скрозь яго. – Ну, людзі! Ну, дзевачкі! Вы мяне здзіўляеце!

І Лабаданскі штурхануў дзверы закусачнай “Піва і кілбасы”, маршрут да якой трымаў у галаве ўвесь час, толькі сам сабе не прызнаваўся.

Хоць была яшчэ раніца, у “Піве і кілбасах” было тлумна. Пахла катамі, мужчынскім потам і варанымі ракамі. За стойкай шчыравала ўвішная дзявота Мірыям Кіпрэнская... ці Крыпінская – на зацёртым цэтліку сіні надпіс, набраны на танным прынтэры, было не разабраць. Урэшце, тое для Сержа было не важна. Галоўнае, ён ведаў, як маладзенечкую ўладарку закусак пад піва завуць.

– Міра, раніцы добрай, – павітаўся з Мірыям, якая разлівала чарговы паўтузін белапеннага.

– А, здароў, Серж! – мімаходзь акінула яго вокам дзяўчына. – Табе два, як заўсёды?

– Не, сёння тры! – і Лабаданскі ледзь не паклаўся на прылавак перад Мірыям Кіпрэнскай... ці Крыпінскай, абы толькі гэная лярвотачка пабачыла, што сёння ён – візіцёр у закусачнай зусім не адмысловы...

– Добра, тры дык тры.

І Мірыям звыкла крутнула кранцік. Пенны струмень зацурчэў у куфаль. На пульхную губку дзяўчыны села тлустая муха, і яна здзьмухнула яе, як дакучную, аднак непазбежную перашкоду. Муха пераляцела на цвік Сержыка. Адчуўшы смачны спажыў ад сукравіцы, папаўзла ўніз... аднак той таксама ад яе адмахнуўся.

– Усё? Ці яшчэ што? – Мірыям пасунула Сержу ягоныя тры куфлі. І адразу, не дачакаўшыся адказу, павярнула твар да чарговага заўсёдніка. – Вам?..

– Усё? Не, блін, нармальна! – раптам узвіўся Сержык. – Да што табе, Мірка, заляпіла сёння? Не бачыш?!

– Што я не бачу? – па-ранейшаму не глядзела на яго дзявота. – Не перашкаджаў бы ты тут...

– А во, во што! – Сержык указальным пальцам левай рукі ледзь не ўбіваў у самую глыбіню вачніцы свой цвік, размахваючы заціснутым у правай куфлем. – Цвік у мяне. У воку, между прочым! Даўно ты бачыла, Міра, мужчынаў з цвіком у воку?!

Мірыям з-пад ілба зірканула на Лабаданскага, зусім не ахвочая да інтэлектуальных размоваў.

– І што?..

– Як што?! – сербануў Серж піва. Глыток аказаўся завялікім, ён заперхаў, стаў давіцца, аднак здолеў выдыхнуць у твар гэтай змяючкі: – Я ж не да іх сюды прыйшоў, у тваю ж кастратную дывізію!

Мужычкі, якім спачатку не было справы да іхняга дыспутавання, раптам насупіліся, крэкнулі:

– Ты давай, адвальвай, калі сваё ўзяў!

– І праўда, зашыйся ўжо, мужык? Чаго ты лезеш са сваім цвіком?

– Не дуры бабе галавы, ты, ёлуп казанскі!

– Я – ёлуп казанскі?! – павярнуўся на рэпліку Сержык, аднак ягоны запал перахапіла гаспадыня “Піва і кілбасаў”:

– Так, што? Цвік у воку, гаварыш? І што? Трэба цяпер на ўсю піўнэрыю гарлаць? А можа, у мяне на дупе скула? На самым ачку села?! – Мірыям выцерла брудным ручнічком рукі ды прыбіла на прылаўку чарговую надакучную муху.

– О, пакажы!

– Што пакажы?

– Скулу сваю.

– Што?!

– Ну... На дупе. Я ж табе цвік у сваім воку паказаў, – палагоднеў Лабаданскі. – Цяпер ты сваю скулу пакажы. Справядліва. Вылучаемся сярод іншых. Будзем адмыслоўцамі сярод шэрай біямасы.

І тут, не паспела Мірыям адкрыць рот, каб адказаць на апошнія словы нахабы-цвіканосца, як з дальняга кутка закусачнай паўстаў гіганцкі Дрон Мамонька. Відаць, штосьці варухнулася ў ягонай галаве пры апошніх словах Лабаданскага пра “шэрую біямасу”. Дрон пасунуўся на Сержыка, па маршруце мамонькавай хады да яго далучыліся іншыя прадстаўнікі піўнарскага кантынгенту. Яшчэ праз хвілю ляцеў адмысловец з закусачнай нагамі наперад, бы чорная варона, якая пераблытала карту палётаў, забыўшы разам і навыкі аэранавігацыі.

– Убачу яшчэ тут – уганю ў зямлю па плешку, бы твой цвік зас...аны! – прамовіў мястачковы гігант ды бразнуў дзвярыма за распластаным на асфальце Лабаданскім.

Серж, ані не зважаючы на гузы ды сінякі, узняўся рачкі, пальчыкамі пакратаў цвік у воку: ці не дай бог зрушыўся ён там ці выпаў. Цвік быў на месцы. Аднак зусім не на месцы была душа Лабанданскага. Яна патрабавала сатысфакцыі, помсты, адпору. Сержык падхапіўся, акінуў поглядам прыналежную мясцовасць. Цераз дарогу ад “Піва і кілбасаў” стаяў чорны мэрс, у салоне не было нікога, акром вялізнага сабакі. Сабака сядзеў на заднім сядзенні, высунуўшы морду праз апушчанае да самага нізу шкло ды высалапіўшы язык. Сабака паміраў ад духноцця.

– О, дзела! Будзе вам зараз чарговы зачот! Без прамашкі й дубляў! Струною ў шыхт, сукі! О то я вам зараз у...бу! Ото ўмандзячу! Убздзючу, як бобікаў! Бач, цвік вам не падабаецца!

І Сержык, выкрыкваючы ваяўнічыя лозунгі ды бздурныя мацюкі, перасек крывой траекторыяй вулку, тыграм падскочыў да машыны і з дурной, нечалавечай сілай хапянуў сабаку проста за вушы ды выдраў з салона, бы кавалак мяса.

– А-а, прэч, кабяліна га...нажэрная! Парву, млядзь! Заб’ю, як вішнёвую костачку!

Крутануўшыся, Серж адпусціў сабачыя вушы ды адкінуў псяюгу прэч. Сабака бразнуўся аб асфальт, і Сержык уманточыў чаравікам яму так, што ад псіны, можна сказаць, засталося толькі скуголле, рыкі ды енкі. Чаму гэты страшэнны, вялізны сабака не кінуўся на Лабаданскага? Відаць, адчуў, пабачыў у чалавечых вачах такую лютасць, што ягоныя мышцы адзеравянелі, а сабачае сэрца працяў пячорна-звярыны страх. Таму ён толькі паскугольваў, лежачы на асфальце, калі Сержык віжам закінуўся ў салон, за галавою і тулавам падцягнуў ногі, каб ужо праз імгненне быць за рулём чорнага мэрса.

І хоць часцей за ўсё ключ запальвання тырчыць на належным месцы толькі ў дэтэктыўных фільмах, аднак у нашым аповедзе таксама тырчаў, дзе і павінен быць. Лабаданскі зарагатаў ды штосілы правярнуў ключ запальвання. Ён уціснуў па плешку газу, машына ўзраўла, і Серж апусціў ручнік.

І ў той момант, калі ў закусачнай Дрон Мамонька, ягоны шкетаваты прыяцель Грынь Салапончык і яшчэ парачка заўсёднікаў ламалі клешні падсмярдзелых ракаў ды бавілі час барадатымі показкамі, з боку дарогі ў “Піва і кілбасы” ўляцеў чорны “мэрс”. З ашалелым за рулём Сержам Лабаданскім, прабіўшы сцяну навылёт. Раты мужыкоў паехалі ўніз, а іхнія вочы яшчэ паспелі праводзіць траекторыю вылету Лабаданскага з-за рулявога кола да нямытых плафонаў цьмяных люстраў пад столлю, потым да супрацьлеглай сцяны, ад яе – да сцяны за іхнімі спінамі і нарэшце проста да аблітага півам прылаўка, за якім у гэты час, як і мужычкі, застыла Мірка Кіпрэнская... ці Крыпінская, якая гэтак жа ўважліва назірала за палётам. Нарэшце цела бразнулася пад прылавак, у паветра ўзняліся тонкія аблачынкі пылу, а разам з імі – і праведная душа Сержыка.

Раты ў мужыкоў і Міркі закрыліся адначасова, але цяпер ў вачах дзяўчыны стаяла праўдзівае адлюстраванне душы Лабаданскага.

– Ну што, Мірыямка, ну што, мая дзевачка! – загаварыла душа Сержыка з ёю. – Цяпер ты мяне цэніш, цяпер ты мяне шануеш?

Душа Лабаданскага так і слалася перад Міркай, так і хацела прасачыцца ў вочы, у валасы, скрозь разрэз фірмовага халаціка і куды там яшчэ можна было прасачыцца душы няўрымслівага летуна на “мэрсэдэсах”.

– Вой, зноў тут, – працадзіла скрозь зубы “дзевачка”, праціраючы бруднай анучай куфаль. – Сказала ўжо: мяшаеш!..

– Гэта я мяшаю?! – белы дым душы Сержыка набрыняў струпянелым колерам. – Як я магу мяшаць, калі я ўжо і не чалавек нават! Наадварот! Паглядзі! Я цяпер... во як!

І Серж, хоць і быў бесцялеснай душой, вырваў куфаль з рук Міркі, паднёс да крану, крутануў. Піва палілося куды трэба, але ён заткнуў кранавую адтуліну, і струмень ладна асвяжыў твары Дрона Мамонькі ды іншых ягоных сябрыдлаў. Абліты Мамон зноў хацеў грозна паўстаць на крыўдзіцеля, толькі той, а дакладней, душа ягоная ўзнеслася да нямытых плафонаў высока пад столь.

– Ну што, Мірка! Бачыш?! Адмысловае і неперадавальнае?! Хіба не такі табе трэба?..

– Прытырак. – зрабіла выснову Кіпрэнская. – У прыбіральню мне

трэба. З раніцы не хадзіла. – Яна зірканула на душу Лабаданскага. – Як за мной паляціш – здам у міліцыю.

І Мірка падалася ў падсобкі закусачнай.

Сержыкава душа і напраўду хацела спачатку паляцець за Міркаю, каб гэта жа да канца агаліцца і зліцца ўсім душэўным інтымам з ачарсцвелай абранніцай ягонага сэрца. Толькі перспектыва быць і там не зразуметым – усё-ткі спыніла, і Серж прыняў зусім іншае рашэнне.

Прычым, як потым аказалася, лёсавырашальнае.

Ён раптам пабачыў, што на месцы, дзе ён яшчэ чвэрць гадзіны таму сядзеў сапраўдным чалавекам, па-ранейшаму стаяць ягоныя недапітыя два куфлі піва. Празаічнае шкадаванне варухнулася ў самай глыбіні... кхм, ну так! – душы Сержа. “Я ж за гэтае піва грошы заплаціў! – падумаў. – А возьмуць і выльюць. Ці хто дап’е...”

І сапраўды, не паспела душа Сержыка боўтнуцца ў светла-жоўтую вадкасць, каб напоўніцу наталіцца па праву набытым хмельным каламесам, як з падсобкі вярнулася Мірка Кіпрэнская, згрэбла са стойкі безгаспадарчыя куфлі ды шуганула іхняе змесціва ў мойку за прысценкам. Піва пачало сцякаць праз дзірачкі ў ракавіне ў каналізацыю. Сержыкава душа, злітая з вадкасцю, запанікавала, паколькі аніяк не магла адасобіцца ад “Крыніцы Класічнае”, калі верыць тым цэтлікам, што пачэпленыя на пенным агрэгаце закусачнай. Такога бясслаўнага канца Лабаданскаму не хацелася, таму самыя інтэлектуальныя закуточкі ягонай душы шукалі выйсця. І знайшлі.

Разам з душою ў каналізацыю сцякала чорная муха, якая трапіла ў піва, калі куфлі месціліся яшчэ на стойцы. Не маючы ні хвілі разважаць, душа спружынілася, спраецыравалася, сканцэнтравалася... – ды ўвайшла ў цела мухі якраз у момант, калі тая з апошнімі кроплямі піва ўжо ледзь-ледзь не праваліліся ў жахлівую дзірку мыйні.

І як толькі адбылося зліццё, муха (ці, блін, Серж?!) ажыла, акрыяла ды, радасна забзычэўшы, узвілася ў паветра. Нават мокрыя ад піва крылцы не былі перашкодай. Скруціўшы ў паветры пераможніцкае мушынае tango, муха-Серж пераляцеў да таго месца, для надзяляла чарговай пеністасцю заўсёднікаў нескароная Мірыям.

– Збзязж цьтдзьбе жзажзавыз, ззы бзжы бзе жыж ззе – жзіжжа! Бзыць зза бжзізе! – мухай закруціўся Сержык перад тварам Кіпрэнскай, хочучы сказаць: “Я ж табе гаварыў, што быць не як усе – сіла! Выходзь за мяне!” Але, круцячыся, ён раптам адчуў, што ягонае бзыканне – зусім мушынае, драбноткае, людскім-вухам-не-разабранае, і гэная курвалётачка Кіпрэнская... ці Крыпінская – не чуе.

Тады пачаў гарлаць што ёсць сілы:

– Бзы нзе дзядззыы, зжо збзязж бзужха! З бзужххахм дзы джоджы зьвхяджэдз, зі ўджх джмядзе джаджат дзяджыць! (“Ты не глядзі, што я муха! З мухай ты горы звернеш, і ў мяне нават стаіць!”)

Але якім чынам у мухі стаіць – пабачыць Мірка так і не змагла. Паколькі спачатку адмахнулася ад надакучлівае заразы, а потым, калі тая не думала адчапляцца, схапіла брудненькі ручнічок ды са смакам разгваздала муху па металёвым падносе з палехскімі малюнкамі.

І засталіся ад Лабаданскага – толькі кроў і бруд ды дробненькія яечкі будучых ненароджаных мушанятак. Ага, яшчэ вялізны сталёвы цвік, які так і ляжаў у ракавіне з таго моманту, як душа Сержа ледзь не прасачылася ў каналізацыю.

* * *

Ужо дома, адпрацаваўшы ў “Піве і кілбасах” ды разуўшыся, Мірыям Крыпінская падышла да люстэрка, акінула сябе крытычным позіркам. А потым дастала з радыкюльчыка цвік, прымерыла яго да самусенькага свайго вока ды... Адкінула прэч, гмыкнуўшы.

## Іголка

– Тваю ж маць! – вылаяўся Кастусь Ведрыш, калі, падшываючы штонікі малодшаму Мірыку, з чарговым праколам зламаў іголку. – Усё, блін, апошняя...

Трэ было штосьці рабіць. Штонікі ў Мірыка былі аднюткія. Урэшце, як і ў старэйшай Настусі – сукенка. Яна на дзяўчынцы таксама была шытая-перашытая, але трымалася. А вось штонікі на Мірыку – ніяк.

Учора яны зноў паехалі па шве, і калі так пакінуць – малы будзе хадзіць з голай дупкай. Пра бялізну яны забылі яшчэ тады, калі адгрымела чарговая ядзерная вайна і зноў усё стала цяжэй за золата. Соль, мыла, запалкі, лекі, тканіна, лялькі для дзяцей і лёзы для дарослых. Не гаворачы пра іголкі. Хто меў іх запас, быў багацей за Крэза. А ў кагосьці не было ніводнай...

Такім небаракам даводзілася або хадзіць у рыззі, або ісці ў пазычкі да тых, хто быў з іголкамі. І плаціць. Дорага. Грашыма – яшчэ нічога, іншым разам аддавалі апошняе. Місу, з якой елі ўсёй сям’ёй (калі, вядома, было што ядомае...), свечку, папругу, яшчэ добрую батарэйку ад ліхтарыка. Жанчыны – тыя маглі прапанаваць сябе. Як і мужчыны. Трымальнікі іголак хоць і мелі ад таго бакшышу добры прырост, давалі іх неахвотна. Паколькі здаралася, што іголкі ламаліся. (Як толькі што зламалася ў Кастуся Ведрыша). І хоць у такім выпадку пазычальнік меў страшэнныя штрафныя санкцыі – самую ж іголку не вернеш, а значыць, усе запасы багацця раставалі як “га!”

Кастусь устаў з падлогі зямлянкі, змрочна агледзеўся. Нібы хацеў у сырым, прапахлым тленам і экскрэментамі буданчыку знайсці нейкую замену швейнаму прыстасаванню. Ці пабачыць раптам новыя штанёхі для Мірыка. Ні новых штаноў, ні чым можна было падрабіць старыя, аднак, не пабачыў. Дзеці, якія даўно развучыліся гаварыць, дакладней, гаварыць проста так, без дай прычыны, як шчабечуць у шчаслівыя часіны свайго жыцця дзеці, туліліся на ложку – на паленцах, засланых аблезлым покрывам.

– Татка, што там? – спытала Настуся, хоць вялізныя вачаняткі даўно ўгледзелі, што там.

– Ай, фігова, – унураны Кастусь стаяў да іх спінай. – Іголка зламалася. А ў Мірыка – штаны... Палезлі...

Двухгадовы Мірык, пачуўшы сваё імя, устаў на паляняках, павярнуўся, паглядзеў на тату. А потым, відаць, зразумеўшы, што ежы зараз аніякай не будзе, зноў паваліўся набок ды стаў смактаць пальчык.

– А калі да дзядзі Андрэя схадзіць? Можа, дасць?.. – прашаптала Наста.

– Дасць, дасць! – злаваўся і на свет, і на Бога Кастусь. – А што я дам? Няма ж, блін, нічога!

– Ну, папрасі! Пазыч... Потым прыдумаем што. Хочаш, я схаджу папрашу?

– Не трэба. Сядзі ўжо. Сходзіць яна...

– А што, і папрашу! – Наста насупілася. – Калі сам не можаш... Я маленькая, мяне паслухае. І, можа, зраблю яму там...

Кастусь азірнуўся, тузануўся да Насты:

– Што ты збіраешся яму рабіць?! Яшчэ толкам ср...ку сабе падцерці не можаш, а ўжо – зрабіць! – Ведрыш штурхануў Насту, яна ўпала побач з Мірыкам. – Сядзіце тут! І каб ціха!

І Кастусь, схапіўшы нейкае падабенства рэспіратара, выйшаў вонкі.

Андрэй Чвэрба жыў ад зямлянкі Ведрышаў недалёка. Крокаў дзвесце хады. Таксама без жонкі. Памерла яна нядаўна: страшэнныя, атрутныя апёкі даканалі яе. У Чвэрбы засталася малая, на год старэйшая за Насту. Дзяўчынкі былі нават нечым падобныя. І ў той, і ў той – русявыя рэдкія кудзерыкі, тонкія пальчыкі, выпіраючыя бугаркамі скулкі. Толькі ў Гэлькі (так звалі дзяўчынку Чвэрбы) – не было аднаго вока.

І хоць аднаногія, аднарукія, бязвухія, спляжаныя ды скручаныя паразнаму людзі даўно сталі звычайным малюнкам дня, усё роўна: для Кастуся Ведрыша прывыкнуць бачыць пакалечаных дзяцей было цяжка.

Таму ён паглядзеў неяк убок, калі важкі лаз у бліндаж адсунула аднавокая Гэля, ды спытаў:

– Бацька тут?

– Ага, тут. Татачка! – танклява пазвала Гэлька ў цемру. – Выйдзі. Тут прыйшлі...

– Чаго табе? – не вітаючыся, паглядзеў Андрэй Чвэрба з-пад лоба на візітанта.

– Здароў, Андрэй. – Ведрышу хацелася праваліцца скрозь зямлю. Не прыдумаўшы нічога лепшага, пачаў пальцамі церабіць край кашулі.

– Ну?..

– Я... Разумееш, такая справа. Я тут Мірыку штаны... рамантаваў. Зусім знасіліся. А штонікі апошнія. Болей няма. Ну і... іголка ў мяне... зламалася.

– Ну?.. – паўтарыў Чвэрба, нібы не разумеючы, да чаго ўсё ідзе. Было бачна, што ён наталяўся працэсам.

– Так пазыч, калі ласка, – зіркануў Кастусь на гаспадара даволі ладнага бліндажа. – Няма болей. – “Не галадуеш ты, аднак. Вунь храпка, бы ў коніка”. А ўслых сказаў: – Я вярну. Хутка. Дашыю зараз і адразу прынясу. Праўда, няма чым табе цяпер... То пацярпі, калі можаш. Я тут на паляванне... днямі. Усё, што падстрэлю, – твая палова.

– Кхм!.. – кашлянуў Чвэрба. – Паляванне, кажаш. І палова. А як не ўловіш?

– Улаўлю, Андрэйка. Як так не ўлаўлю?! – пераконваў болей самога сябе, чым субяседніка, які так і стаяў на бліндажным парозе ў накінутым на голы торс шынялі, Кастусь. – Яшчэ не было такога, каб з пустымі рукамі. Заўсёды нешта... А як жа. Дзеці... Яны ж есці хочуць. Улаўлю, улаўлю, не сумнявайся!

Андрэй Чвэрба, які да гэтага няўдала хаваў агіду да просьбіта, маўчаў. Кастусь сцяўся, напружыўся, чакаў адказу.

– Ладна, Канстанцый. Будзе табе іголка. На якую гадзіну дам. Прынясеш сёння! І палявання твайго – не палова, а тры чвэрці. Сабе яшчэ наловіш... Пацукоў чорнахвостых! – рагатнуў, а болей ашчэрыўся Ведрыш.

– Ой, дзякуй табе, Андрэйка! Прынясу, прынясу, ото зараз і прынясу! –

Кастусь гатовы быў плюнуць сабе ў вочы: за прыніжэнне, жаласныя просьбы, драбноцтва.

– Чакай, – спыніў ягоныя сабачыя дзякі Андрэй. – І глядзі. Як зломіш – пашкадуеш той дзень, калі надумаў прыйсці сюды. Я не жартую, – бялкі вачэй Чвэрбы закрывавіліся. – Ясна?

– Ясна, – візітант наўскос сустрэўся з паглядам Чвэрбы. Яму было радасна ад таго, што ўгаварыў гаспадара, і жудасна ад ягоных змрочных словаў. Затое будзе мець аж на цэлую гадзіну іголку. Спраўдную, вострую, сталёвую іголку.

Чвэрба павярнуўся ў бліндажную цемру.

– Малая, прынясі іголку! Тую, што ў трусіную лапку ўткнутая.

У глыбіні пачулася корпанне, і аднавокая Гэлька выйшла да мужчынаў. У руках яна трымала вялікую іголку. Трымала асцярожна, каб не выпусціць ці не зрабіць што. Андрэй варухнуў брывом, паказваючы, каб дала іголку госцю. Тая так і зрабіла.

– Дзякуй, Андрэй, дзякуй! Я хутка, я зараз! – і Ведрыш ухапіўся за іголку (“бы галадаморны сабака за костку” – можна было б напісаць, ды падобны склад яўна схіліцца да дрэннага густу).

– Давай, майструй... свае штануленцыі. І чакаю!.. Тры чвэрці.

Андрэй прыцягнуў Гэльку да сябе, паклаў на худзенькі плячук руку ды свідраваў паглядам постаць Ведрыша, які мкнуўся як мага хутчэй пакінуць гэтае змрочнае бліндажнае жытло.

– Ага, ага!.. Усё як вырашылі. Чакай! – ужо на хаду нацягваў на пераноссе шматкі свайго рэспіратара Кастусь, міжволі думаючы, што тут дыхалася зусім не лягчэй, чым на вуліцы.

З Мірыкавымі штонікамі ён справіўся хутка. Праўда, замест ніткі была тонкая рыбалоўная лёска, якая невядома адкуль узялася. Але гэта было яшчэ й лепш. Лёска – больш трывалая, швы даўжэй трымацца будуць.

– Ну вось, Мірзаед! Трымай свае штануленцыі! – задаволена крутануў у паветры Кастусь штонікі Мірыка. – І глядзі, каб болей не рваў! А то... хвост табе адарву! Разам з носам!..

Мірык паглядзеў на бацьку, але, відаць, зразумеўшы, што той жартуе, усміхнуўся. Потым узяў штаны ды пасунуў ножкі ў калашыны.

– Дай, дапамагу, – падсунулася Наста, але малы адвярнуўся, каб, значыць, сам.

Кастусь, з усмешкаю назіраючы за дзецьмі, раптам убачыў пад пахай у дачкі даволі вялікую дзірку ў сукенцы. “Во, блін! А яна як паспела? Можа, толькі што? А калі раней – дык чаго не гаварыла?” Але, зразумеўшы, што малая, можа, і хацела сказаць, ды, ведаючы, што бацька зламаў апошнюю іголку, змаўчала, адагнаў падобныя думкі прэч.

– Настуська, а здымі-ка сукеначку сваю. Пакуль ёсць у нас іголачка – давай і табе падшыю.

– Ну, давай... – пагадзілася Наста ды сцягнула праз галаву сукенку.

Задаволены тым, што ўсё добра складваецца, Кастусь паддзеў іголачкай апранашку Насты.

– Таат... Гама. Хасу.., – раптам раскрыў рота Мірык, паказваючы пальчыкам. Кастусь, успомніўшы, што тры чвэрці з улову ад палявання пойдзе Андрэю Чвэрбу за пазычку, сціснуў іголку, і... яна – зламалася.

А з іголкай – пераламаўся і свет Кастуся Ведрыша.

* * *

– Так, Канстанцый, слухай сюды. За іголку я табе магу пераламаць рукі ці шыю. І нічога мне за гэта не будзе. Не той час... І хрэн хто ўведае. Ды я добры, жыві. Але, – Чвэрба наблізіў твар да Ведрыша, дыхнуўшы на яго часныком і півам: – Вазьму вока. Не тваё. Вока дарослага тут не дапамога. Каго з малых тваіх – тут ужо сам выбірай. Трэба ж табе неяк аддзячыць... за іголачку. Вось Гэльцы маёй і будзе... абноўка. Знаю ўрача аднаго... Зробіць.

– Якое вока? Ты што?! – Кастусь не даваў веры вушам. – Я табе што хочаш... Я табе хоць усе паляванні...

– У ср...ку ўсунь свае паляванні! – раптам збарвініўся Чвэрба. – Як іголку ўсунуў! Я табе сказаў, што! А будзеш тут выпендры свае пендрыць – уманточу паміж вачэй. Ото гэтым!.. – І Андрэй адарваў ад бліндажнага стала важкую сякерку, якой да прыходу Ведрыша разбіраў ладны кавалак мяса. – Так што выбар ясны. Або сякерай табе ў лабешню, або нясі вока... У тваіх малых, калі ўсе іх скласці, – дык і замнога. Ажно чатыры. Ну цяпер будзе тры. Таксама камплект, уга! – рагатнуў, а болей адрыгнуў Чвэрба.

– Ты разумееш, што ты гаворыш, Андрэй?! – Кастусю здавалася, што ўсё гэта адбываецца не з ім, не тут, не ў гэтую эпоху. Што няма ніякіх зямлянак і бліндажоў, што не было аніякае ядзернае вайны, што іхнія дзеці, усмешлівыя і шчаслівыя, носяцца па травяністых паплавах пад сінім небам, з кавалачкамі цукровых, сакавітых кавуноў, і кавуновыя кроплі ляцяць на твары, на кашулі, на пралятаючыя міма белыя аблачыны... – Ну што, што ты такое гаворыш, га?!.

– Я дзела, дзела гавару, таварыш херовы паляўнічы!.. – не апускаў сякерку гаспадар. – Нясі, што сказаў!.. Або... – ён абвёў лязом сякеры паветра вакол сябе. – Але першы варыянт – выгаднейшы. І сам капціць неба па-ранейшаму будзеш, і маляцтва тваё – не засірацее заўчасна.

Кастусь маўчаў. У жаху, разгубленасці, бяссіллі.

– Усё, пайшоў! – штурхануў яго Чвэрба. – І каб доўга не думаў, заўтра па абедзе быў тут. Спадзяюся, не пусты... млядзь! – працэдзіў мацюк Андрэй, бы жаваў нясмачную, прагорклую воблу.

Што было далей? А што было далей. Не буду прысвячаць вас у падрабязнасці таго, як Кастусь Ведрыш, да сябе не падобны, вярнуўся дахаты. Як не зводзіла з яго пагляду, нібы ўсё зразумела, Наста. Як правёў ён жахлівую, зморную ноч, варочаючыся на рыззі ў куце сваім, раз-пораз ускокваючы ды кусаючы кулакі да чорных крывавістых сінякоў. Апушчу і думкі ягоныя, у якіх выбіраў пакутна: аддаць Чвэрбу самога сябе, хай ужо забівае насмерць свалотна-паскуднае – і што тады з малымі гэтымі, га?.. Ці ўсё-такі вока дзіцяці? І калі вока – дык чыё? Мірыка? Гэта з-за ягоных штаноў усё гэтак выйшла: іголка зламалася, і ў пазычкі да Чвэрбы пайшоў. Ці Насты? Каб не яна, каб не сукенка ейная – то цэлай бы засталася Андрэева вострая маёмасць, не здарылася б падобнага гадства.

І Кастусь выбіраў, Кастусь прыкідваў. Па-ранейшаму хапаў ротам абкусаныя кулакі ды нешта вымольваў у здушнага паветра імкліва пралятаючай ночы.

А па абедзе наступнага дня...

Ён прыцёгся ў Чвэрбаў бліндаж і паставіў на стольчык шкляны паўлітровы слоічак – той самы, які даў яму напярэдадні гаспадар. З

адмысловым растворам, які не даваў пашкоджаным тканкам адмерці на працягу нейкага часу. Вочка Настусі плавала ў растворы. Вочка, болей падобнае да бялка невялічкага птушынага яйка, чым на сапраўднае чалавечае вока.

– Ну ты даў! – цмокнуў Андрэй, уздымаючы слоічак над галавой у цьмяным святле бліндажнага люку. – Ото, Канстлей, ты й разлічыўся! А я думаў, кіла ў цябе тонкая!

Чвэрба акуратна паставіў слоічак на палічку з фатаграфіяй былой жонкі.

– Усё, спісана. Можаш валіць.

Чорны, як хмарнае неба, Ведрыш маўчаў. Ён глядзеў і глядзеў на густую шчэць таго, хто стаяў насупраць. “Цікава, калі б яна зараз гарэла, ці так бы ты верашчаў, як...”

– Ну што ўтаропіўся? Я сказаў, дыбай адсюль! Ага, і можаш, як што, па іголачкі прыходзіць.

Кастусь Ведрыш яшчэ пастаяў.

Потым выйшаў і, хістаючыся, пайшоў да пагорка.

Да таго месца, дзе ў ціхія дні, калі вецер не дзьмуў з боку гарадскіх руінаў, даносячы ёдкія, атрутныя пахі разбуранай цывілізацыі, ён смажыў упаляваную дзічыну. Для сябе і сваіх дзетак.

У небе паліла, смажыла і, здавалася, вечна будзе паліць бязлітаснае сонца.

## Кантракт

У нашу кантору прыйшла афіцыйная папера. Як і належыць, з гербавымі пячаткамі, з кур’ерам, пад роспіс. Паперай аказаўся кантракт, які належала падпісаць усім членам фірмы.

Так абвесціў на лятучцы наш бос – Рыгор Капітонавіч Палтарацкі. Лятучка выйшла не запланаванай – з прычыны прыходу гэтай самай дэпешы.

– Так, панове, – урачыста кашлянуў Палтарацкі. – Папера не абы-якая, папрашу, калі ласка, нашу Людачку азнаёміць.

Сакратарка Людачка ўзнялася з крэсла, з-пад караценькай спаднічкі мільганулі карункі чорных панчошак. Ох, Людачка, і калі ўжо я да цябе дабяруся?!.

– “...У сувязі з рэзкім скарачэннем насельніцтва ў краіне і агульным пагаршэннем дэмаграфічнай сітуацыі, а таксама з асноўнымі напрамкамі дзяржаўнай палітыкі, якая скіраваная на...” – між тым чытала Людачка, страляючы грудкамі то ўправа, то ўлева на прысутных, – “...мабілізаваць усе сілы, вынайсці рэзервы ды сканцэнтраваць рэсурсы...” – Блін! Я не мог адарваць вачэй ні ад гэтых страляючых грудак (а Людачка, бы знарок, любіла насіць абсалютна празрыстыя станікі), ні ад гэтай спаднічкі, закліканай абуджаць мужчынскую фантазію на працягу доўгай марафонскай дыстанцыі, – “...абавязаць кожнага члена фірмы “Электрышн энд Кампанейшэн”... падпісаць дадзены кантракт і няўхільна яго выконваць”.

Так... толькі цяпер я пачаў услухоўвацца ў тыя мілотныя гукі, якія ліліся з раточка банцікам сакратаркі. Абавязкі па кантракце і праўда вымалёўваліся не зусім ардынарнымі. Калі не сказаць болей. Гэтая дзіўная папера прадпісвала “...займацца агульнадзяржаўнай справай павелічэння нараджальнасці і паляпшэння дэмаграфічнай сітуацыі ў любым месцы і

ў любы час, незалежна ад абставінаў, роду заняткаў, графіку дзяжурстваў і сямейнага становішча".

Таксама былі прадугледжаныя розныя заахвочванні й пакаранні. Напрыклад, сярод першых былі дазвол трымаць дадатковыя кайданкі на рабочым стале, уручэнне значка "Ганаровы дэмаграфіст", пазачарговы запіс на прафесійную камеру хатняга порна, атрыманне пасылак з-за мяжы з "...прыстасаваннямі, стымулюючымі й паляпшаючымі фізіялогію полавага акту" і яшчэ з добры тузін螺знага смакоцтва. Не гаворачы пра банальныя дадатковыя адпачынкі й пазачарговае медычнае абследаванне.

З пакараннямі, праўда, было нашмат сур'ёзней. Так, за ўхіленне ад выканання ганаровых абавязкаў можна было не толькі пазбавіцца прэміяльных ці зарплаты, але й нават вылецець з работы, патрапіць у маючую рэгулярна выходзіць перадачу "Агіда нацыі", загрымець у выпраўленчы лагер на трыццаць, а то й на ўсе дзевяноста сутак, быць прыкручаным да слупа плявання, якія таксама неўзабаве павінны з'явіцца пасярод цэнтральных пляцаў кожнага населенага пункта краіны...

Ад падобных абавязкаў вызваляліся толькі невылечна хворыя, людзі з небяспечнымі хваробамі, якія перадаюцца ў спадчыну, а таксама поўныя імпа... кхм!, гаворачы мовай прысланай паперы, "...фізічныя асобы, не здольныя выконваць свае рэпрадуктыўныя функцыі".

Людачка аж расчырванелася, пакуль дачытала кантракт да канца. І, расчырванелая, выглядала яшчэ болей вабным яблычкам, чым звычайна.

– "Кантракт бестэрміновы, аб тэрмінах яго заканчэння будзе паведамлена дадаткова", – нарэшце скончыла сакратарка.

Усе маўчалі, пераварваючы пачутае. На тварах чыталася рознае: у кагосьці блукала на вуснах цікаўнасць, хтосьці лучыў у паветра непрыхаваную агіду, камусьці не верылася ў даволі нестандартную сітуацыю, якая складвалася ў канторы з прыходам гербавай паперы.

– То мы цяпер што, як трусы, усе трахацца будзем?! – прамовіў урэшце наш брамнік шаноўны дзядок Мікіта, які застаўся рабіць у "Электрышн энд Кампанейшэн" і пасля выхаду на пенсійны адпачынак. Дзядок быў увішны і мог падкруціць свайго вуса над якой разяўнай маладзічкай яшчэ ого як!

– Ну, Мікіта Калінкавіч, – супакоіў брамніка бос. – Навошта вы так? Прыйшла папера, дзяржаўны загад. Значыць, будзем выконваць.

– Вы як сабе хочаце, а я пра такі загад і слухаць не хачу! – пляснула аб стол тэчкай з квартальнымі справаздачамі галоўны бухгалтар Алёна Рыфеншталь. – Што гэта за палітыка такая – на рабочых месцах любадзействам займацца? І папера якая прыйшла... Вы праверылі, Рыгор Капітонавіч? Можа, фальшыўка? Жарты канкурэнтаў ці гэных... замежных?..

– Праверыў, – падсунуў да сабе бліжэй стос кантрактных копій Палтарацкі – на кожнага супрацоўніка фірмы. – Кожны аддзел, кожная гаспадарка, кожнае прадпрыемства і ўстанова – па ўсёй краіне падобныя кантракты атрымалі. Так што... Разважаць не выпадае, трэба выконваць.

– Ну то, можа, і добрая справа! – ажывіўся той-сёй з мужчынаў. – Удыхнем у нашыя распрацоўкі і планы агеньчыку!

– Вой, глядзіце, каб той агонь не патух занадта рана! – усміхнулася маладзенькая-немаладзенькая, а жанчына з добрым запасам пораху праграмістка Тася Маслоўская. – Качагары вы нашыя!

– Думаеш, не раскачагарым? Ды хоць зараз! – завёўся Макс Шугалей – хлапец, нядаўні студэнт, якога, аднак, прасунула ў кантору сакратарка Людачка па блату. Бо спецыяліст ён быў так сабе, але міма жанчынаў “Электрышн энд Кампанейшэн” прайсці абыякава маладзёну давалася цяжка...

– Я сказаў, ціха! – ляснуў далонню аб стол шэф. – Хто не хоча падпісваць – ваша справа. – Ён зіркануў на галоўную бухгалтарку. – Толькі тады пішыце адразу заяву. Звольню без затрымкі. Інакш – сам адсюль палячу, ведаю... – Шэф крыху падумаў. Потым павярнуўся да мяне: – Ну а ты што скажаш, шаноўны наш канструктар?

Я разгубіўся: мая сціплая пасада не мела тае вагі, каб, значыць, даваць важкія парады на падобных лятучках. Аднак, каб не выказваць сваё меркаванне занадта ясна (а яно пакуль надта ж было станоўчым), я толькі пацiснуў плячыма:

– Ну, гэта ж усё-такі дзяржаўная палітыка. А які дурань будзе супраць дзяржавы?

Я стараўся захоўваць строгасць у голасе і трымацца адпаведна сітуацыі. Але, відаць, цела занадта гучна спявала пераможную песню прадчування вялікай спажывы. Паколькі большасць з жанчын толькі гмыкнула, і ў кабінеце боса зноў узняўся гоман. Мужчынскія галасы змяшаліся з жаночымі:

– Не, нармальна! Каму – палітыка, а каму – блуд і сорам!

– Цікава, а як вы гэта ўяўляеце? Вось так, проста на рабочым месцы, можна кожнай задраць спадніцу і?..

– Ага, дзе ж тыя спадніцы? Вы ж амаль усе ў штанах ходзіце!

– А нябось, жаночыя з мужчынскімі не пераблытаеце!

– Ясна, не пераблытаем, усё-такі афіцыйная палітыка!..

– Так, так, і я парушаць законы не збіраюся, – устрэла пасярод гоману сакратарка Людачка. – Магу хоць зараз пачаць... – і яна ўзялася танклявымі пальчыкамі за верхні гузічак сваёй празрыста-блакітнай кашулі.

– Аднак, Людачка, пачакай! – перапыніў шэф, уладным жэстам паказваючы, каб усе сціхлі. – Паспеем яшчэ... Усё, скончана размова.

І ўсе супрацоўнікі “Электрышн энд Кампанейшэн” кантракт – падпісалі. За выключэннем галоўнага бухгалтара Алёны Рыфеншталь. Якую з наступнага дня на фірме болей ніхто не бачыў. Праўда, ніхто болей не бачыў яе і ва ўсім горадзе. Адразу з новымі павевамі папаўзлі чуткі, нібы створаныя адмысловыя каманды актыўнага “ўздзеяння” на тых, хто выконваць тыя павевы рашуча адмаўляецца, і што лёс такіх бунтароў – незайздросны... Ды не будзем надта заглыбляцца ў прыроду падобных чутак, а вернемся да асноўнай канвы майго аповеда.

...Ужо дома, стоячы пад душам, адзначыў: асноўны інструмент выканання адказнага дзяржаўнага кантракта знаходзіцца ў абсалютна рабочым, нястомным і безадмоўным стане. Праўда, крыху той стан збіваў з вывераната рытму халасцяцкі побыт і не вельмі рэгулярнае ды іншым разам абсалютна не здаровае харчаванне, і гэткі ж таксама не рэгулярны, спантанны ды выпадковы секс. Затое абсалютна здаровы ва ўсіх адносінах, ужо мне паверце. Ладна, паверыць ці не – справа вашая; а з душа я выйшаў у бадзёрым і баявым настроі.

Яшчэ не ведаючы пра тое, колькі доўгіх бясконцых дзён будзе доўжыцца гэты бой і чым усё скончыцца.

І – о так! – спачатку ўсё ішло добра. Калі не сказаць выдатна. Калі не сказаць – суперкласна! Работа ў "Электрышн энд Кампанейшэн" ператварылася ў бясконцыя бонусы, асалоду, бінга! Раніца пачыналася з дакладна акрэсленых кантрактных спраў, пераходзіла ў дзённыя дзеянні па кантракце і заканчвалася вечаровымі кантрактнымі падагульненнямі. Можна сказаць і так: справа была пастаўленая на паток. На жыццядайны, урачысты, аптымістычны паток. Сілы надавала і тое, што мы – не проста ствараем бясконцае свята для плоці, а далучаныя да важнага працэсу, звышадказнага моманту: карэннай папраўкі агульна-дэмаграфічнай сітуацыі. У краіне, дзе так вольна сее семя чалавек!

І сеялася тое семя, і ўваходзіла ва ўрадлівыя, сакавітыя, гатовыя налівацца, пладзіць і рэпрадуцыраваць нівы нашых жанчын; і зноў напаўняла сабой стромкія, цвёрдыя рэзервуары; і зноў мкнулася вонкі, з напорам і ясным вектарам, з канкрэтным намерам застацца ў цёплым, вільготным улонні, каб абярнуцца нарэшце плодам, няхай пакуль толькі завяззю маленечкага, пульсуючага плодзіка – будучага вялікага чалавека, гордага прадаўжальніка ўсіх неўміручых і мудрых, выпакутаваных на працягу доўгіх стагоддзяў, традыцыяў нашай цвёрда стаячай, як вечны курган, дзяржавы.

І, вядома, мой уваход у рабочы рытм пачынаўся з візіту ў прыёмную да сакратаркі Людачкі. Паколькі, калі твой зорны час надыходзіць – які сэнс ад яго адварочвацца ці не доўжыць бясконца?! Праз некалькі дзён такіх візітаў масіўны стол сакратаркі з чырвонага дрэва пачаў падазрона хістацца, як і сама яна, але заставалася задаволенай агульным вытворчым працэсам і самім жыццём, як ніколі.

Бо ж не адзін я быў гатовы дзень і ноч рапартаваць ад таго стала, што ў агульную справу дададзена яшчэ адна важкая кропля.

Наогул, увагі не бракавала ўсім. Мужчыны сталі падобныя да ільвоў, якія без стомы палююць лепшую сваю здабычу. Жанчыны нібы сышлі з вокладак гламурных часопісаў, "забыўшы" між старонак адзенне. Паказчыкі "Электрышн энд Кампанейшэн" ляцелі... катастрафічна ўніз. Але з чарговага выкліку ў прадстаўніцтва кіруючай адміністрацыі наш бос Рыгор Капітонавіч вярнуўся задаволены і бліскучы, бы навюткі ювелірны выраб: наша фірма атрымала афіцыйную падзяку за беззаганнае выкананне найпершага па дзяржаўнай важнасці Кантракта і прэмію ў такім памеры, што, каб зарабіць такія грошы, нам спатрэбіўся б цэлы год.

А потым... Потым усё раптам змянілася. Першым выдыхўся наш спецыяліст-маладзён Макс Шугалей. Ну, не змог ён неяк ранкам прыступіць да выканання адказных сваіх абавязкаў – і ўсё. За ім сышоў з дыстанцыі брамнік дзядок Мікіта Калінкавіч. За ім – галоўны інжынер Мікалай Ізотаў. За Ізотавым – наладчыкі энергетычных сістэм Стас Чарніцкі і Ігар Карнялюк. А потым мужчынская частка фірмы вырубілася, абясточылася, абсела ўся пагатоў. За адзіным выключэннем. І гэтым выключэннем – быў я.

А значыць, мой зорны час пераходзіў у стадыю няспыннага палярнага ззяння.

Толькі такая думка жыла ў маёй галаве нядоўга.

Паколькі абавязкі, якія мусіла выконваць уся мужчынская частка "Электрышн энд Кампанейшэн", цяпер ляглі выключна на мае плечы. Дакладней, зусім не на плечы, а на іншы, даволі чуллівы да рэзкіх зменаў рабочых рытмаў орган.

Але быў кантракт, быў даведзены кіруючай адміністрацыяй план, быў графік канкрэтных замераў і вынікаў. Якія апошнім часам надта ж плавалі сінусоідай – з прычыны адзіна-здольнага выканаўцы хоць якім-небудзь чынам дадаваць паказчыкі ў той графік.

І які я здзіраю з калідорнай сцяны першым, калі ўрэшце мае чырвоныя ад няспынных сексуальна-марафонскіх дыстанцый вочы ператвараюцца ў чорныя. Я не ведаю, што яшчэ ў маіх чорных вачах. У люстэрка сябе не бачу. Затое...

Затое выдатна бачу зашклёны пажарны гідрант у сцяне і ладную сякерку над брызентавым шлангам.

Я чвэхаю локцем па шкле, яно сыплецца, і ў наступны міг сякерка нібы зрастаецца са мною.

Сакратарка Людачка не паспявае сцяміць, што адбываецца, як ейнае цела расколваецца напалову, да тонкіх празрыстых майткоў і чорных карункаў сексуальных панчошак. Перад гэтым, праўда, яна страшэнна верашчыць, і бос Рыгор Палтарацкі выскоквае з кабінета ў прыёмную якраз у той момант, як сякера прасякае цела сакратаркі да тых самых панчошак. Твар Палтарацкага выпальвае жах, бос імпульсіўна хапае канцылярскі ножык. І атрымлівае адпаведна такі сталёвы імпульс ад пажарнай сякеры, што струмені крыві адразу ператвараюць у барвова-чырвоныя яшчэ імгненне таму абсалютна бялюткія аркушы паперы на стале сакратаркі.

Хтосьці ўлятае ў прыёмную, трое ці чацвёра мужчынаў хочуць на мяне накінуцца, ды яны не ўлічваюць таго, што калі чалавек ужо забіў – ён забраў сілу забітых. У паветра ляцяць шматкі скуры і валасоў, пырскі крыві, часткі адзення і костак.

Я акідваю позіркам целы канаючых, хлапянуўшы вады з графінчыка, пераводжу дых ды мкну з прыёмнай разабрацца з астатнімі.

І я разбіраюся.

З мужчынамі – за тое, што яны, сучарныя падлы!, так рана сканалі, што звалілі-саскочылі, пашкадавалі каштоўных сперматазоідаў на с...аны гэны кантракт!..; з жанчынамі – што, лярвоткі вы нашы расфарбаваныя, касметыкай вас не кармі ды хлеба вам не давай – вам мала і мала! Ды яшчэ невядома, што вам падабаецца болей – ножкі на плечы закідваць ці дзяцей нараджаць? Хто толькі саміх вас на свет нараджаў? Каб сканалі вы ўсе тут і спухлі! Каб задыхнуліся, як пацукі халерныя! Каб вас бл... душным бздухам разадрала!..

Здаецца, я крычу гэта ўслых. Цяжка асэнсаваць, крычыш ты ці толькі думаеш, калі валіш направа й налева, калі чвэхаеш гэтую крохкую плоць, калі сячэш, сячэш і сячэш!

Апошняе цела валіцца пад кампутарны стол, і я апускаюся побач. Сякера ў руках гарачая. Ад крыві, ад наліплых чалавечых ашмёткаў. Нічога не хочацца. А, не – хочацца! Піць. Толькі гэтым разам – зусім не вады. Я ўспамінаю, што ў кабінеце Палтарацкага ёсць сейфік, дзе ён трымае... выбачайце, трымаў набор бутэлечак. Што ж, чарачка фірмовага замежнага каньячку будзе цяпер ў самы раз.

Ключы ад сейфіка ляжаць у стале боса. Замок, аднак, яшчэ і пад кодам. Перабіраю такія-сякія лічбы, потым успамінаю дату дня нараджэння сакратаркі Людачкі і... праз міг усміхаюся ў расчыненыя дзверцы сейфа. Рознакаляровае шкло бутэлечак усміхаецца мне настустрач. А за імі – цьмяна блішчыць яшчэ нешта, важкае і сталёва-халоднае...

Я выпіваю вялікую чарку каньяку “Martell” нагбом.

А потым падцягваю да сябе афіцыйную тэчку. Выцягваю адтуль апошні аркуш ды пакідаю размашысты надпіс: “Кантракт лічыць скасаваным з прычыны фізічнай адсутнасці выканаўцаў”.

Маёй апошняй кропкай у кантракце быў сухі стрэл у скронь.

## Яны яшчэ цяўкаюць

Гражэта і Вальжына сядзелі за адной партай. І былі адзінымі выдатніцамі ў 4 “Б” класе. Ну, так атрымалася. Былі яшчэ хлопчыкі ды дзяўчынкі, якія стараліся ўга як!, але гэтыя дзве сяброўкі пераплюнулі ўсіх. Ну, не ў літаральным сэнсе, вядома. Яны былі прыстойныя. Ні на ўроках, ні пасля не пляваліся. Старанна вучыліся і нават спісваць нікому не давалі.

Затое адна адной – дапамагалі, ды яшчэ як! Бывала, Вальжынка ледзьледзь запнецца, адказваючы матэматыку, як Гражэтка расшчаперыць паасабліваму пальчыкі свае, не адрываючы іх ад паверхні парты. Ага, угледзіць тое сяброўка, счытваючы ў гэткіх кодавых знаках патрэбны адказ.

Або на дыктанце – ужо Гражэта ну не ведае, якую напісаць правільна літару. Ціхехенька тады штурхане Вальжынку ў бок, і суседка адгорне ціха рукаўчык камізэлькі і кончыкам асадкі пакажа правільную.

Ясная рэч, на вачах строгай настаўніцы рабіць падобнае было рызыкоўна. Але дзяўчынкі былі выдатніцы вопытныя і ўмелі зрабіць усё так, каб камар носа не падтачыў.

Затое як яны радаваліся, калі нехта з іх атрымліваў запаветную “дзясятку”! Асабліва па пятніцах. Гэта былі і скокі, калі быў перапынак, і падскокі, калі йшоў яшчэ ўрок, і радасны пераможніцкі віскат, аднак даволі прыстойны, каб ніхто не падумаў, што яны дзікія. Калі ж настаўніца была зусім строгая і цярпець не магла падобных выбрыкаў, тады паціскалі адна адной рукі, хаваючы іх пад парты.

О, калі ж урокі заканчваліся, і Вальжына з Гражэтай беглі дахаты, тады яны давалі сабе волю напоўніцу! У неба ляцелі партфельчыкі, вецер падкідваў падолы сукенак, а самі дзяўчынкі ледзь не плакалі ад невыказнага шчасця – такая асалода ад выдатных адзнакаў перапаўняла іх.

– Гражэтка, ура! Мы зноў гэта зрабілі!

– Ха-ха-ха, Вальжынка! Уцерлі насы ўсім!

– Так! Дзясятка па геаграфіі! А я нават не рыхтавалася!..

– А ў мяне цэлых дзве! Белмова і матэматыка!..

– Значыць, усяго будзе тры!

Яны, узяўшыся за рукі, беглі далей.

І з тою ж асалодай на наступныя выходныя прыязджалі ў вёску да бабулі Вальжыны. Бабуля Хрыста радасна сустракала дзяўчынак, частавала блінцамі з вішнёвым сочывам, тоўчаным макам і мёдам, з усмешкаю слухала, як яны хваліліся апошнімі дасягненнямі. А потым пакідала адных, паколькі яшчэ, хоць і пенсіянерка, працавала на ферме. Бо рабочых рук, як заўсёды, не хапала. Асабліва такіх залатых, як у бабулі Хрысты.

І такі ж залаты час наступаў нарэшце для Вальжынкі з Гражэткай. Яны на момант заміралі, па-змоўніцу глядзелі адна на адну, у вачах запальваліся жарынкі. Ціха ступаючы цераз увесь двор, нібы іх тут мог заўважыць

нехта староннi, нарэшце iшлi ў пуню. I тут, пасля яркага дзённага святла, на момант замiралi, прыплюшчыўшы вочы.

Як пахла тут сенам! А яшчэ... – мышамi, павутой, сухiмi мятлiкамi; да гэтых пахаў прымешваўся водар невядома як заляцелай сюды старой восеньскай лiстоты, струхлелых бэлек i авечай мачы. Недзе пад бэлькай свяцiўся маленькi павучок у тонкiм сонечным промнi, якi прабiўся скрозь шчылiну. У такiх жа промнях пералiваўся ў паветры тонкi пылок, нiбы тут быў паказ нейкай старой фiльмы...

Прывыкаючы паволi да паўзмроку, дзяўчынкi нарэшце бачылi, што хацелi. У самых цёмным куточку пунi, у сенным гняздзечку, цёмна-рудая котка кармiла кацянятаў. Котка акацiлася не так даўно, i пухнатыя камячкi былi яшчэ маленечкiя, iхнiя вузенькiя вачаняткi ледзь-ледзь расплюшчылiся. Некаторыя з кацянятаў, якiя не маглi дацягнуцца да сасочкаў коткi, адчайна цяўкалi, i тады рудая мацi старалася iх лiзнуць у пыску цi ўздоўж поўсцi. Каб падбадзёрыць, падаць знак, што яна побач, што ўсё будзе добра.

Ага, гэтым разам рудая котка акацiлася ажно дванаццаццю кацянятамi – яшчэ нiколi не прыносiла яна столькi прыплоду. Праўда, нашы дзяўчынкi ўжо прыязджалi ў мiнулыя выходныя i... Але забягаю наперад.

– Ну што?! – нецярплiва ўзрадавалася Вальжынка. – За сяброўства i добрыя адзнакi? Асаблiва па пятнiцах!..

– За сяброўства i добрыя адзнакi! – хiтнула галавой Гражэтка. – Так!

I дзяўчынкi, анi не марудзячы, кiнулiся да кацiнага гняздзечка. Рудая котка ўскочыла, злосна сыкнула, кацяняты, якiя не паспелi адарвацца ад ейных набрынялых малаком саскоў, бобiнкамi асыпалiся долу.

– Псiк, гадаўка! – падбiла нагой котку Гражэтка. – Пайшла!

Котка адляцела да пустога авечага загону, зноў сыкнула, поўсць на ёй уздыбiлася. Аднак дзяўчаткi ведалi ўсе ейныя манеўры, таму патрапленай пад руку кацюбачкай шуганулi, выгналi яе прэч з пунi, накiнуўшы знутры вялiзны кручок.

А потым дружна схапiлi за хвасты кожная па кацяняцi, узнялi iх высока над галовамi i – чвэхнулi што ёсць моцы аб бярвеннi падлогi.

– За сяброўства i добрыя адзнакi! – зноў гвазданула сваiм кацянём аб падлогу Вальжына.

– За сяброўства i добрыя адзнакi! – з яшчэ смачнейшым замахам не адставала ад яе Гражэта.

– За сяброўства i добрыя адзнакi!

– За сяброўства i добрыя адзнакi!

I яны бiлi й бiлi кацянятак аб падлогу, ажно пакуль не ўпацелi.

Кацяняты ў руках выдатнiц спачатку верашчалi, потым цяўкалi цiшэй, а потым i зусiм сцiхлi, хоць з кожным ударам аб дрэва выдавалi ў сусвет зацяты, перадсмяротны гук.

– А о так! – хокнула Гражэтка сваiм кацянём аб сценку пунi. Галоўка няшчаснай жывёлiнкi храснула, бы яечае шкарлупiнне. Пырскi крывi паляцелi на сценку, на акуратныя фрызуры дзяўчынак.

– О, ё-маё! Яно яшчэ цяўкае! – здзiвiлася Гражэтка, калi пабачыла, што разгвэзджанае i адкiнутае ў кут кацянё спрабуе такi варушыцца i цяўкае, цяўкае, нiбы зацiснутая бярвеннем птушка.

– А о так! – гвазданула абцасiкам сваiм новенькiх туфелек па кацяняцi Вальжынка. – О так! О так! – I яна бiла i бiла ножкаю па кацяняцi, пакуль ад яго не засталося, можна сказаць, нават мокрага месца.

На хвілю перавёўшы дых, Гражынка зноў кінулася да гняздзечка.

– То яшчэ ж адное за матэматыку!

І чарговае кацянё ўзляцела ў паветра...

Рудая котка, якая мяўкала, драпалася кіпцямі за дзвярыма пуні, кідаючыся і адлятаючы прэч, раптам сціхла. Яна лягла пысаю ў пясок і толькі часта-часта дыхала, спрабуючы хоць як зазірнуць у чорны правал, дзе яшчэ дыхалі, яшчэ жылі, яшчэ цяўкалі яе сем кацянятаў.

Свае дзве выдатныя пятніцкія адзнакі госцейкі-дзеўчынёшкі ўжо адзначылі ў мінулыя выходныя.

“А што ж будзе, калі кацяняты закончацца?” – раптам прыйшло адначасна ім у галовы.

“Ай, што-небудзь прыдумаем!” – гэтак жа адначасна адмахнуліся ад думак яны.

І, пабраўшыся за рукі, пабеглі ад пуні да хаты бабулі Хрысты. Яна хутка прыйдзе на абед і зноў пачастуе іх смачным – залацістай яечняй са скваркамі, ухвошчанай зелянінай. Сма-ка-та!

*Кобрынь*

Андрэй Сцепанюк



...ці чакаем мы яшчэ?
што хтосьці за нас зробіць
усё што нам самім
зрабіць трэба непазбежна...

# Дом з літар

## *EXITUS LETALIS*

натоўп не дае магчымасці
затрымацца і разабрацца
хто бязвінны
хто вінаваты
хто заслугоўвае памілавання
а каму ў вочы гляне смерць

смерць як знак прыпынку
mors, mortem
латынь не перадае нахабнасці
гэтага слова

ніхто не глядзіць на яго значэнне
а разважае аб чым думаюць тыя
якім трэба стаяць і глядзець у вочы

зялёная пасцель пакошаных лугоў
закладзеныя камянямі і асфальтам дарогі
якія вядуць у добра вядомае месца

распні яго
павесь яго
забі яго
сумневаў няма
ёсць толькі месца ў слоўніку
*exitus letalis*

## АДЫХОДЫ

першы быў калі я пайшоў
а ты стаяла ў дзвярах
і ў маўчанні чакала

другі калі ты пайшла
а мне засталося глядзець
на тваю знікаючую постаць

трэці калі пайшлі мы разам
трымаючыся за рукі
перайшлі мяжу нечаканасці

чацвёрты будзе
калі з лесу вылезе воўк
і парве нашую будучыню

пяты маячыць удалечыні
усміхаецца чырванню зубоў
і гаворыць што чакае

шостага не будзе
тая што прыходзіць ноччу
не дазваляе развітацца

## АЎТОБУСНЫ ВОЎК

на аўтобусным прыпынку ў горадзе Б.
спаткаў я сумнага старога ваўка
ён чакаў таксама як я
аўтобуса ў невядомае

яго зліНялая поўсць выпадала
а лапы ледзь трымалі пахудзелае цела

з вачэй біла туга і абыякавасць
якія супадалі з настроем маёй душы

а памятаеш песні пра нас
не адкрываючы пашчы запытаў воўк
і Высоцкі і Качмарскі і другіх многа
славілі нашу адвагу і бадзёрасць

воўк яшчэ мацней паглыбіўся ў сябе
здавалася не чакае майго адказу
а чуе ў вушах тыя песні
якія славілі імя яго ватагі

і стралялі па нас заўсёды
нібыта баяліся нас людзі
а мы хацелі толькі жыць
на свабодзе ў сваіх зялёных лясах

на хвіліну адно яго вока заблішчала
і здавалася пабольшаў ён
а поўсць паяснела ад сонца
якога даўно ніхто ўжо не бачыў

я адкрыў рот каб сказаць яму
што і я шукаю свабоды
якую ўкралі ў мяне акупанты
што ўварваліся ў мой край

не паспеў таго вымавіць
на прыстанку спыніўся аўтобус
у якім сядзела трое пасажыраў
два ваўкі і адзін чалавек

паехалі мы разам у невядомае

### *БУДЗЕ*

не хапіла картак са сшытка каб запісаць жыццё
яно спаўнялася ў відэазапісе (новае ўжо на CD)
будучае ў невядомай праграме
аб якой не чуў нават кампутар

праз тысячы гадоў калі час затрымаецца
хтосьці загляне ў балотную капсулу
зацікавіцца яе зместам застылым
і знойдзе спосаб яе адкрыць

са здзіўлення пашырацца яго вочы
(калі хаця крыху будзе нагадваць чалавека)
а на твары ўзнікне шырокая ўсмешка
(калі будзе як вышэй)

не зразумее нічога з пабачанага
але пах картак нагадваць будзе дрэвы
якія застануцца назаўсёды
нават тады калі не будзе нічога

## ДОМ З ЛІТАР

пабудую табе дом з літар алфавіта нашай мовы
выкіну ўсе ётавыя каб не пагражалі канструкцыі
а ў падмурку выкарыстаю толькі мяккія і шыпячыя

вокны будуць у форме “о” а дзверы вялікай “Н”
у купальні будзеш плаваць пасярод мяккіх знакаў
а на кухню заходзіць разам са знакамі прыпынку

толькі не ведаю як апісаць дзіцячы пакой
у якім будзеш чакаць новага жыцця

не магу дабраць здавальняючай якасці
і знайсці на яе запіс адпаведных сродкаў

лезуць у галаву геаметрычныя фігуры
значэння якіх не разумею і не магу прачытаць

не застаецца нічога іншага як стварыць новую мову
у якой з’явіцца подых ветру на шчацэ і сляза ў вуснах

зразумееш яе толькі ты і тваё аксамітнае цела

я застануся ў пярэднім пакоі збудаваным з пытальнікаў

## КАНЦЭРТ ПАЖАДАННЯЎ

адвярні ад людзей нянавісць
пабудуй дарогу шчасця
якая будзе без канца
пачатку і сярэдзіны
споўні мары
і распусці воблакі над галавою
поўныя ясных хмар

дай быць дарослым
у гадоў шэсць і дзіцём
у пяцьдзесят дзевяць
самалётам які ляціць так высока
што ніхто не бачыць яго
і рыбай якую зловіць
белавалосая каралева

падары летні ранак
без адчування болю існавання
а толькі боль змучанага цела
і валасоў якія плачуць
з радасці што нарадзіліся
дай хаця на адну хвіліну забыць
што так не будзе

## *КУБАК МАЛАКА*

калі будзем сядзець за адным сталом
піць гарачае малако з аднаго кубка
запытаеш мяне ці яшчэ памятаю
смак першых спакусаў маладосці

ці памятаю сустрэчу з табою ў школе
нашыя першыя шпацыры над ракой
з якіх вярталіся мы поўныя будучыні
а вераб'і шчабяталі нам радасныя песні

адкажу што памятаю ўсё вельмі добра
нават пах тваіх шаўковых валасоў
цяпло рукі схаванай ў жоўтую пальчатку
усмешку і бляск тваіх сініх вачэй

будзем так вяртацца і адыходзіць
а малако з часам састыне як месца
у якім бачу тваю постаць, чую твае словы
цалую слязу якая засталася назаўсёды

## *МОРА І ГОРА*

мора не падмануць
яно вадой
                    вадой
                              вадой
і неабсяжнасцю краявіду
знаходзіць выхады з кожнага здарэння

напоўненае яно вадою
з пяском у змове
і дзецьмі якія будуюць замкі
на яго берагах

гора мае з ім столькі супольнага
што фанетычна яны як браты
адна невялікая літарка
мяняе сэнс іх існавання

гора саромеецца за свае паводзіны
але як ператвораная ў рапуху каралева
не можа апусціць сваёй абалонкі

і бывае што гора бярэ ў рукі мора
і пускае яго навеяныя ветрам хвалі
з сілаю мільёнаў валуноў
на бераг на якім дзеці збудавалі замкі

з-за нечаканасці і роспачы
ніхто не дадумваецца
што ёсць яшчэ хтосьці трэці
які вядзе руку гора ў мора
і глядзіць як гінуць яны разам
у магутнасці акіяну

## НА ЎСПАМІН СМЕРЦІ ПАЭТА СТАХУРЫ

закрытыя вокны не глядзяць
на раскіданую пасцель
і перакуленае пасярэдзіне пакоя крэсла

з напрамкаў застаецца той у невядомае
дзе можна будзе ўспомніць
душу паляка француза і мексіканца
злітую ў адно цела
піва выпітае з Брунам
і толькі раз пабачаныя Бясчады за імглой

старая Патэнгова на сняданак прынясе
кавалак хлеба з маргарынам
і кубак кавы з малаком або малака з кавай

паразмаўляем як адвечныя знаёмыя
аб тым што дарога не канчаецца
хаця ў кожную хвіліну відаць яе канец

не ўспомнім цягніка з вагонамі заспаных людзей
якія едуць на або з працы
і адначасова ненавідзяць час у якім давялося ім
быць часткай гісторыі

не будзе малітвы і адпявання
змучаныя і зморшчаныя жанчыны
занясуць труну з целам на могілкі
і кінуць у глыбокую яму
разам з канцом вяроўкі
якая з таго часу акажацца непатрэбнай

## НЕБА

прытуліцца да дрэва
пачакаць
адчуць смак цукровы
зямлі
з-за акуляраў не бачыць нічога
ні травы ні ветру
толькі пазнаваць асалоду
кончыкам языка
каштаваць сваю надзею
не запісаную
а зачараваную ў воблаках
дзяцінства
адчуваць сябе шчаслівым
усміхацца наркатычнаму сонцу
аб якім могуць толькі марыць
схаваныя ў цемры
а калі загляне месяц
выцягнуць да яго сінюю руку
прытуліцца да падушкі
з чырвоным арнаментам
на белым палатне
пачуць слязу
якая ўпала на яе калісь
і запісалася назаўсёды
і застацца хаця на хвіліну
хаця на адну хвіліну

## НОЧ І ЗОРКА

Марыя паглядзела са смуткам
на месца дзе ляжаў яе нованароджаны сын

Яна ўжо ведала або прадчувала
што не будзе так як быць можа
а будзе так як быць мае

Па шчацэ паплыла сляза
невялікая амаль нябачная
сляза якая не разумела адкуль і чаму
можа ад шчасця, можа з гора
а можа з непакою закалыханага
у мацярынскім сэрцы

За дзвярыма стаялі невядомыя людзі
якіх прывяла ў гэтае месца зорка
што сваім бляскам з ночы рабіла дзень

Сын не плакаў і ў сне ўсміхаўся
не будзіў яго брэх сабак
і штораз больш высакародныя галасы людзей

На парозе жыцця нікому апрача Марыі
не хацелася думаць аб будучыні
Толькі яна бачыла што ў натоўпе
за плячыма другіх схавалася
Смерць

## *ПРАТЭСТ*

падчас дэманстрацыі ў вядома невядомай справе
можа аборта або другой незразумеласці
паліцыянт у цывільным схапіў жанчыну маладую але не падлетка
і брутальна цягнуў яе ў закратаваны паліцэйскі самаход

ніхто не глядзеў у яе твар
усе з нездаровым зацікаўленнем глядзелі на яе цела
вабнае і румянае ад холаду дык была палова снежня
мінус пятнаццаць ці нават больш а яна была голая

ніхто не глядзеў у яе вочы і не бачыў усмешкі
і белай стужкі бліскучых зубоў
важным было што яе смочкі выстралілі ад холаду
а жаноцкасць не магла схавацца за невялікім узгоркам валасоў

крык ашалелага натоўпу залівае паветра
і незразумелымі былі словы якія плылі з вуснаў
замярзаючай жанчыны

толькі потым у паліцэйскіх пратаколах можна было
прачытаць яе словы
“я Маці Божая народжаная за дваццаць гадоў
перад паўстаннем вашага свету
у Іерусаліме або Сэфоріс як гаворыць вікіпедыя
жонка Іосіфа
маці Ісуса назаратчаніна што загінуў на гары
распятым за усё і за ўсіх
цяпер змагаюся за правы зняволеных думкай і за тых
якія не разумеюць”

адміністрацыйны пратакол не гаворыць нічога
аб паводзінах затрыманай
і нічога аб выглядзе яе вачэй і ўсмешцы
якая прамільгнула на яе вуснах
толькі сухое “затрыманая і перададзеная
да псіхіятрычнага назірання”

на снезе ў месцы дзе адбывалася дэманстрацыя
нехта знайшоў торбачку
дакументы гаварылі што яе ўладальніца Марыя
з замазаным прозвішчам
месцам пражывання народжаная у невядомым годзе
і невядомым месцы
на здымку з рознакаляровымі вачамі хаця здымак быў чорна-белы

## *РЫЦАР*

рыцару нельга маўчаць
рыцар бачыць як з гары на панадворак
з’язджаюцца брудныя і п’яныя ворагі

рыцар бярэ ў рукі меч
і адсякае двум першым вушы
разам з носам і барадою

кроў льецца па іх каленях
рыцар свістам свайго мяча
ломіць наступным косці
і кідае іх у пачырванелы пясок

рыцар чакае калі заўважыць
яго князёўна
кіне сваю белую хусцінку
а льняным ручніком
сатрэ пот з яго лба

чаму ты такі дурны
гаворыць раптам князёўна
ты пабіў усіх адважных
якія ехалі вызваліць мяне
з бацькавага палону

рыцару дваццаць гадоў
сем месяцаў і тры дні
не верыць ён у словы князёўны
бярэ ў рукі яе шыю і заціскае
сваімі сталёвымі пальцамі

вочы князёўны становяцца захадам
аранжавага сонца
глядзяць і не бачаць рыцаравай
усмешкі
схаванай на дарозе з усходу на захад

рыцар сядае на каня
і запісваецца на картках пажоўклай
гісторыі
героем сваіх часоў

рыцар стане каралём
калі на поўначы будзе ноч
а поўдзень прыблізіцца да ранку

## *СЁМЫ ДЗЕНЬ ПЕРШАГА МЕСЯЦА*

з часу які схаваны ў цемры ночы выму частку цела
і ўзнясу ў літургічнай малітве на хвалу ўсяго і ўсім
неакрэсленасць трывання не мае ніякага значэння як знакі
што сплываюць з твараў гледачоў і становяцца
тэатральнымі жэстамі

звыш за дзве тысячы гадоў затрыманыя
ў пясочным гадзінніку
могуць адвярнуцца ў кожную хвіліну і пацячы зноў уніз
не аглядаючыся на тое што ўжо было
а калі зноў будзе няхай будзе

усё толькі ноч і новыя народзіны з якіх магу зразумець
ясную вопратку
кароткія і натхняльныя словы
а некалі нават дабраню асірацелых людзей
якім выпадае жыць і быць сведкамі таго што здарылася
у часе калі ноч была святлом

## СОН ПАВОДЛЕ ВАЙДЫ

палажу галаву на твае калені і засну, не будзі мяне
хай трывае сон з каляровымі вобразамі як у кінафільме Вайды
са смуткам і настальгіяй, з пafваротам у маладосць
з успамінамі вырванымі з апавяданняў Івашкевіча

сон створаны на плёнцы, нерэальны але графічны
дык выкінуў яго з сябе выпускнік акадэміі мастацтваў
святочна-нядзельны сон які прыходзіць
пасля адпачынку ад напружанасці думак

ад панядзелка да суботы ідуць сны чорна-белыя
пазбаўленыя твараў, з тулавам пакручаным
вопраткай штодзённай і рэальнасцю не мастацкай як жыццё
не будзі мяне, няхай трывае кінасеанс

## СУСЕДЗІ

суседзі прыйшлі пасля
паглядзелі на заспетае
памаўчалі і напісалі пратакол
у якім прасілі памілавання

мы не ведалі чаго ён патрабуе
мы не чулі яго крыкаў і плачу
занятыя мы сваімі справамі
і праблемамі свайго жыцця

у канцы стаяў той які быў вінаватым
схаваны за плячыма другіх
нічога не гаварыў
стараўся быць невідочным

найбліжэйшы сусед сказаў
што ўсё гэта віна прыезджых
і што гэта яны знішчылі спакой
а потым пайшлі невядома куды

усе вырашылі падтрымаць найбліжэйшага
парвалі карткі з подпісамі
кінулі іх у вогнішча
якое распалілі каб было цяплей

суседзі не заўважылі як з цела
што вісела на пятлі высокай яблыні

вылятае душа ў сініх колерах
і накіроўваецца на захад

іх не цікавіла ўжо адбытае
закрычалі яны на многа галасоў
дык трэба будзе выпратаць панадворак
і накарміць жывёлу каб не здохла

яны ўжо забылі і спантанна выбралі трох
якіх паслалі з петыцыяй да ўлады
каб тая не будавала ім дарогу
па якой прыйдуць новыя невядомыя

душа ляцела штораз вышэй
з часам заіскрылася белым лебедзем
які назаўсёды адплываў з месца
якое яшчэ хвіліну раней было яму бацькаўшчынай

## ХОЛАД

замярзаю ад холаду тваіх рук
пранізлівасці твайго позірку
маўчання тваіх вуснаў

раблю крок у пухнатым снезе
з іскрынак марозу лаўлю сонца
кладу яго на лёд каб прайсці раку

нібыта іду да цябе снежнай
каб з сэрца твайго вырваць цяпло
і ногі разагрэць змучаныя хадой

толькі не ведаю ці не зломіцца крыга
не пацягне мяне ў бездань ледзяную
і баюся ісці а далей іду

аж скрыпенне пад нагой вушы мае пачуюць
пад шапкай цёплай заскавычуць
што бераг ужо такі далёкі

затрымаюся і стаяць буду
холад да мазгоў тупасцю пранікне
і чакаць буду і не дачакаюся

* * *

ад аднаго да двух ад пяці да ста ад тысячы да мільёна
і перад перапынкам затрымацца ў месцы незакончаным

паміж дастойных дамоў і камунальных кватэр у якіх жыве
неакрэсленая колькасць жыхароў табліцы множання

урок матэматыкі распісаны на калькулятары з блакітным экранам
перад тым як патрэбныя будуць рэпетыцыі з незразумелых
здарэнняў

і завяршальны вынік якога выдумаць не мог ніхто з планеты гэтай
на падставе і ў паслядоўнасці тэорыі незлічонасці жыцця

* * *

пабудую цябе з часу які жыве ўва мне
з бляску дня і недаканчанасці ночы
роўнага цікання гадзінніка
яго празрыстых стрэлак якім трэба затрымацца
толькі раз за ўвесь кругаварот на канцы
паміж другой і трэцяй малой
і дваццаць дзявятай а трыццатай вялікай

нечаканасцю і спеласцю цябе ахіну
пацалую ў вусны апаленыя сонцам
выпраўлю вяселле калі станеш варушыцца
і нагамі паказваць што час ісці
не затрымлівацца ў хадзе а ботамі
вытоптваць сцежкі і паказальнікі дарог ставіць
даказваючы як ператвараюцца
і бярозка і хвойка і ручай
як становяцца яны постацямі волатаў вялікіх
герояў слаўных і змагароў за айчыну сваю

толькі з часу цябе пабудую
і трывання што жыве ўва мне

* * *

я не разумею творчасці Тарасевіча кінула ты на адыходзе
не звяртаючы ўвагі пачуў я тыя словы ці не
я хачу каб колер меў змест і паказваў мне дарогу
па якой вядуць яго шматзначныя адценні

твае словы былі выразнымі а тулава адпавядала эмоцыям
якія хістаюць прамоўцамі на трыбуне падчас вялікай маніфестацыі

папраўдзе не гаварыла ты ўжо ні да мяне ні да пустога пакоя
словы выпалі з акна і сталі жыць сваім жыццём

не ведаў я ці слухаць далей ці пачаць сваю працу
а пасля абеда рэзюмэ твайго выступлення ўзнавіць па радыё
дык яшчэ ўчора размаўлялі мы аб восені і жоўтых колерах
якія ператвараюцца ў аранжавыя палосы лісцеападу

сёння адыходзіла ты без крыку і непатрэбных прэтэнзій
не пасылала мне сваіх капрызаў і загадак з упэўненасцю
што ніколі не зразумееш чаму чорнабеласць палатна
час ад часу лунае сілай праўды другіх колераў

## ЦІ ЖЫВЕМ?

ці жывем мы яшчэ?
ці толькі час ад часу
высоўваем нос
са шкарлупіны сваёй
нюхаем, смакуем
канцом языка цмокаем
і здаецца нам жывем

ці кахаем мы яшчэ?
сэрцам гарачым як хлеб
з печы выняты хвіліну раней
з мукі пшанічнай зроблены
рукамі жанчын прыгожых
і мужчын трывалых
у поглядах сваіх

ці шукаем мы яшчэ?
тых якія ворагамі нашымі
за хвіліну стануць
зброяй сваёй паганай
забіваць нас будуць
і бацькоў і матак і сыноў
і жонак і дочак нашых

ці верым мы яшчэ?
у сілу агромністую
якая возьме рукі нашы
і галовы і ногі і тулавы
і павядзе ў час шчаслівы
дзе страх далоў
а зорка нябесная палаць будзе

ці чакаем мы яшчэ?
што хтосьці за нас зробіць
усё што нам самім
зрабіць трэба непазбежна
з думкі нашай і слоў цвёрдых
на памяць аб тым
што тут мы былі

### ***ЧАЛАВЕК***

чалавек упаў нават зваліўся
чалавечая галава пачырванела ад крыві
кроў заліла тратуар па якім ішлі людзі

пісталет ляжаў на лавачцы
на якой ніхто не сядзеў
і ніхто не стаяў побач

ніхто не ведаў чаму пісталет страляў
ніхто не затрымаўся і не спытаў
усе пайшлі не ўсвядоміўшы

пісталет абвінавацілі ў забойстве
бо толькі ён быў сведкам
таго ўсяго што здарылася

суддзя не мае права памыліцца
суддзя ніколі не памыляецца
суддзя вырашыў што пісталет вінаваты

на пахаванне чалавека не прыйшоў ніхто
толькі самотны сабака
які быў удзячны за кроў з тратуара
сабака здох недзе праз месяц
не бачыў ужо пажару
які змяніў у попел турму

суддзя адчуваў што хтосьці за ім ходзіць
суддзя каб забяспечыцца
узяў з сабою пісталет

чалавек у выглядзе суддзі
ляжаў на тратуары
з галавою чырвонаю ад крыві

Канстанцін Касяк



...мяне самога не пакідае адчуванне таго, што я жыву чужым, не сваім жыццём...

# Самаізаляцыя

*Надыходзяць і такія часы,*
*калі нават звычайнаму літаратару*
*нічога не застаецца, як пісаць таемны дзённік.*
**Адам Глобус**

## Страх

– Ці пішаш нешта? – пытае нечакана сябар за куфлем піва. Звычайна мне не задаюць такіх пытанняў. Бывае, я нават сумняваюся ў тым, што хтосьці агулам чытае мае тэксты. Таму зняважліва называю іх пісулькамі.

Мы сядзім у звычайным менскім бары, гаворым пра неабавязковыя рэчы. Позні вечар, спакойная атмасфера, нікога больш. Побач завіхаецца афіцыянтка, ладненькая такая дзяўчына гадоў дваццаці. Рыхтуецца да закрыцця. А я на пытанне таварыша адказаць не спяшаюся. Спачатку трэба адказаць сабе самому.

Вядома, я пішу. Шмат. Друкую, праўда, мала. У асноўным публіцыстыку – артыкулы на сайтах і калонку

ў часопісе. Усё астатняе – у стол. Чаму? Відаць, баюся. Чаго? Простых рэчаў. Не вельмі хацелася б быць абсмяяным, неапублікаваным, непатрэбным, нягеглым, нявартым. Працягваць можна бясконца.

Страх – гэта вельмі моцны інстынкт. Ён можа перавышаць здаровы сэнс. І ў прынцыпе так і павінна быць. Але ў некаторых рэчах варта ўсё ж сябе пераадольваць. Бо ў іншым выпадку што застанецца? Спісаныя абразкамі сшыткі ды дзённікі. А каму яны будуць патрэбныя, калі аўтар ноўнэйм? Ды нікому! Хаця бывае, што і тэксты вядомых аўтараў забываюцца. Я такіх занядбаных багоў еўрапейскай літаратуры ведаю. Але паўтараць іхны лёс не хацеў бы.

– Хлопцы! Толькі вас чакаем! – кажа ладненькая афіцыянтка і ўсміхаецца. – Мы зачыніліся!

Наперадзе бязлюдны сонны Менск.

## Туман

Даўно такіх туманаў не бачыў, каб увесь горад зацягнула і ён ператварыўся ў прывід. Як з фільмаў жахаў. Тым больш, каб адбывалася гэта ўзімку. Каторы год нешта не тое з надвор'ем...

Я заблукаў, вяртаючыся дамоў. Не адразу зразумеў, у якім баку жыву. А такое рэдка бывае са мною: з дзяцінства добрая памяць.

Раней я любіў туман. Калі ён спускаўся на Нёман, мы, падшыванцы, беглі ў яго і забаўляліся там. Пужалі адзін аднаго. Самы эфектны спосаб – знайсці ўжо раскладзенае кімсьці на беразе вогнішча ды нацягаць з яго вугалля. Неблагія вочы монстра могуць атрымацца.

А яшчэ мне падабалася, калі мы збіраліся ля вогнішча ды распавядалі страшныя гісторыі. Часам досыць банальныя, як песні папулярнага ў той час «Короля и шута», але вяртацца дамоў потым было ўсё адно страшнавата.

Зараз мяне такім, натуральна, не ўразіш. Пэўна, цяпер не здзівіўся б, каб сустрэў таго монстра з пякельнымі вачыма на вуліцы. Так і ўяўляецца ён мне – вялізны такі, большы за мяне, чорны чалавек з вачыма, якія палаюць. Выходзіць з туману і моўчкі павольна крочыць у мой бок.

Але ў горадзе было пуста. Пахла свежасцю і цеплынёй. Рэдкія машыны не давалі застацца ў поўнай адзіноце. Горад усё яшчэ абжыты, і ў ім ёсць людзі.

## Бімшы

Кажуць, што з беларускай мовай усё будзе добра, калі гаварыць на ёй будуць не толькі прафесары, але і гопнікі.

Разам з цеплынёй на менскіх вуліцах з'явіліся ў нармальнай колькасці бімшы, якія просяць на выпіўку грошы. І добра, калі гэта падмагазіннік лакальнага маштабу. Але неяк прыкра іх *назіраць* у самым цэнтры горада. Многія з іх – гэта тыя, хто яшчэ ўчора быў нефармалам і тусаваўся ля сцяны Цоя. Я іх добра ведаю – каго толькі ў твар, а каго і па мянушцы. Так і не змаглі выйсці з гэтага стану – штодня піць, гуляць ды "аскаць" на выпіўку.

Сёння на Камсамольскай да мяне падышоў такі бімша, апрануты пад рокера з 90-х, і на чысцюткай беларускай мове папрасіў 60 капеек. Грошай

я, вядома, яму не даў. Бо незалежна ад мовы ён застаўся бімшам, які не хоча нармальным шляхам зарабляць на жыццё.

## Канцэрт

Многія здзіўляюцца, калі я кажу, што люблю малалюдныя канцэрты. На пару дзясяткаў чалавек, не болей. І яшчэ каб знаёмыя былі не толькі ў зале, але і на сцэне. Ідэальны варыянт – акустыка. Тады музыка не напружвае, але дапамагае занурыцца ў сябе. Здаецца, ты разам з людзьмі, але ўсё ж адзін.

Сесці за вольны столік, замовіць сабе кавы, гарбаты, а можа чаго мацней. Усё залежыць ад настрою. Побач падсаджваецца адзін з музыкаў. Вітаемся, размаўляем, зараз ён пойдзе рыхтавацца да выступу. Тым часам на сцэне два хлопцы ўжо граюць чыкагскі блюз. Іхнія спевы, гітары і губны гармонік пераносяць у атмасферу 1920-х гадоў. Прынамсі, мне ўяўляецца менавіта гэтая эпоха, калі чую блюз або джаз.

Слухаючы, магу і напісаць нешта. Ад нядаўняга часу пішу часцей у праграмы на смартфоне. Раней больш падабалася папера. Як Петэру Хандке – нобелеўскі лаўрэат таксама нібыта ўсё піша ад рукі. А яшчэ любіць гуляць па лесе і збіраць грыбы.

Шпацыры таксама маё, а вось грыбы – не вельмі. Пісаць ад рукі карысна, але справа вельмі непрактычная – потым жа яшчэ і набіраць даводзіцца. У тым ліку і з гэтай прычыны ў мяне без патрэбы ляжаць спісаныя сшыткі. Лянота. Не хочацца да іх вяртацца. Кожны раз адкладваю набор і рэдактуру “на потым”, але цяпер думаю, што гэтае «потым» можа ніколі ўжо і не прыйдзе.

Музыка – вечная катэгорыя. Нават калі цябе даўно няма, яна будзе працягваць сваё жыццё. Твае песні падхопяць іншыя. Тое самае з кнігамі, карцінамі і фільмамі – існуеш, пакуль ёсць запатрабаванасць і цікавасць. Гэта і ёсць шлях у вечнасць.

## Будні

Нічога дзіўнага і арыгінальнага ў маім жыцці не адбываецца: пяць дзён працую, два выходныя газую. Даўненька ўжо так не было, каб неяк іначай атрымлівалася. Звычайна сцэнар менавіта такі.

І я на ростанях: з аднаго боку мне ў прынцыпе падабаецца такі лад жыцця, а з іншага – я добра разумею, што насамрэч гэта шлях у нікуды. Так існуюць звычайна тыя, каго грэбліва называюць «овощами”. Хаця хто з нас выбітны? Усе мы ў пэўным сэнсе “гародніна”, бо няма ж такіх, хто не спіць, не хоча есці, не займаецца сэксам.

Абсалютная большасць часу – гэта будні. Нецікавыя шэрыя часіны, калі ты заняты манатоннай працай. І па вялікім рахунку не асабліва важна, якая яна – офісная або не. Усё адно ж херачыш без асаблівага задавальнення. Як некалі правільна напісаў Паланік у сваім «Байцоўскім клубе». Вельмі не люблю гэтую кнігу...

Калі-небудзь у мяне будзе іншы расклад. Я буду прысвячаць увесь свой вольны час літаратуры, весці дзённікі, друкавацца і пісаць, пісаць, пісаць. Але ж пакуль гэта толькі мара. Шчыры спадзеў на лепшае жыццё, якога я нібыта варты.

## Армейскі жым

У зале зрабіў армейскі *жым*, упершыню за доўгі час. Мо які год не падымаў перад сабою штангу, а тут трэнер загадаў. Не самае любімае практыкаванне, але ж за назву я яго вельмі шаную.

Выдатна разумею, што дысцыпліна – гэта зусім не пра мяне. Я надта непаслядоўны. Ніколі не служыў у войску, і ўжо, хутчэй за ўсё, не буду. Ды і спецыяльнасць мая паводле ваеннага білета зусім ужо грамадзянская – пісар справаводства. Але ж якая прыцягальная мілітарная эстэтыка! Увесь гэты антураж вайсковай справы. Калісьці менавіта з ёй я думаў звязаць свой лёс.

Калі ў чацвёртым класе пра нас здымалі фільм, сказаў на камеру, што хачу стаць прафесійным вайскоўцам. Думаў, альбо дэсатнікам, альбо лётчыкам. Тады мне здавалася, што гэта я, менавіта я і ніхто болей, той самы хлопчык з вядомага верша Купалы.

Яшчэ школьнікам пачаў насіць камуфляж. Піск моды ў той час – колер “Белая ноч”, як у злодзеяў з фільма “Скала”. Нешта нармальнае тады, а гэта быў самы пачатак нулявых, было не дастаць. Трэба было далёка ехаць і яшчэ пашукаць.

Камуфляж знаходзіўся звычайна на жданоўскім “Полі цудаў”, дзе можна было адшукаць усё, што хочаш. У школе за яго ўшчувалі настаўнікі.

“Тут у нас не Чечня!” – нервова крычала мне біялагіца з-за свайго стала кожны раз, калі я прыходзіў да яе на ўрок у вайсковых штанах і берцах. З імі таксама была бяда – нармальныя былі амаль недасягальнымі. Здабываліся ўсімі праўдамі і няпраўдамі праз знаёмых у міліцыі, войску ці яшчэ дзе.

Я і цяпер люблю стыль мілітары, ён заўжды будзе самым папулярным у маім гардэробе...

## Трамваі

Трамваі – самы лепшы від транспарту ў Менску, бо дазваляюць адчуць дух горада, глянуць на яго не спяшаючыся, без мітусні. Кажуць, што, каб пабачыць Вену, трэба праехаць па адмысловым трамвайным коле. У Менску няма свайго трамвайнага кола, але той рэйкавы спрут, які раскінуў на гарадской мапе свае жалезныя шчупальцы, дазваляе ўбачыць горад ва ўсёй ягонай красе.

На трамвайным шляху можна пабачыць усё тое, што не паказваюць турыстам. Акурат на гэтай думцы пад'ехаў мой трамвай. Я зайшоў у салон, развітаўся з дэпрэсіўным пралетарскім раёнам і, прытуліўшыся да вакна, уключыў музыку. Зайграла мая любімая “Summer time”. Заўжды трымаю на смартфоне альбом з лепшымі песнямі Луі Армстранга – слухаю іх, калі на душы пагана.

Трамвай крануўся з месца і паехаў пад ціхі і спакойны спеў па начным горадзе.

## Віскарык

– Выпіць хочаш? – пытае мяне Сашка са старту. Ён працуе дырэктарам у адной канторы, а паралельна займаецца яшчэ цэлай купаю справаў.

Адзін з самых модных і прасунутых маіх сяброў. Заўжды на хвалі, умее трымацца трэндаў. І вось вам прыклад: яшчэ не пайшла мода на “Айкас”, мала хто ў Менску наогул ведаў, што гэта, а ён іх ужо паліў.

– Не адмоўлюся! – адказваю яму.

– Віскар будзеш?

– Давай!

Ён павольна дастае з шафы каробачку, разрывае прыгожую абгортку, а ў каробачцы бутэлька. І два келіхі, адмыслова пад гэтае віскі. Адкрывае батл, прынюхваецца.

– Ведаеш, колькі каштуе? – пытае, разліваючы пітво па келіхах.

– Нават не ўяўляю! Пару дзясяткаў грыноў?

– Дзе там, дзядзя! Франклін цэлы, каб ты разумеў!

– Ого! – шчыра здзіўляюся ды бяру келіх у руку.

– Я яго для асаблівай нагоды трымаў. І сёння акурат такі выпадак!

– І што за нагода?

– Ты завітаў, даўно ж не бачыліся! Ну, будзьма!

Мы выпіваем. Віскі прыемна грэе нутро.

– Ну, як? Адчуваеш смак? – пытае гаспадар і пільна ўглядаецца ў мяне, чакаючы адказу.

– Адчуваю... – мармычу я, але насамрэч я слаба нешта адрозніваю. У страўніку ўжо плёхаецца літр нямецкага піва, якое я піў да гэтага, таму самельє з мяне сёння ўжо ніякі. Як, у прынцыпе, і заўжды. Не адрозніў бы я дарагое віскі ад таннага, нават калі б ён мне самага паршывага пойла наліў. А вось ром адрозніць магу нават пад газам...

Раніцай, калі прачнуўся, даслаў яму смс з вельмі кароткім тэкстам: “Віскі яўна было лішняе”.

## Ранак

Калі кладуся позна спаць, то з цяжкасцю прачынаюся. Яно і натуральна, бо хіба можна добра выспацца за пяць-шэсць гадзінаў, а тое і за чатыры, як часцяком у мяне бывае? Думаю, што не.

Калі ж кладуся спаць рана, як учора, то ўсё адно хачу спаць. І нічога з гэтым не магу зрабіць. Хаця раней, у часы юнацтва, усё было нармальна. Як быў малым, то зусім ранняй птушкай адчуваў сябе. Падымаўся часта, калі маці яшчэ спала, і сядаў на кухні глядзець ранішнія перадачы і мультфільмы. Яны звычайна ішлі цэлым блокам. І ўсё было цікавым, не тое, што цяпер.

Відаць, трэба аднаўляць гэтую звычку. Бо зараз я жыву ў рэжыме, калі нічога не паспяваю, але пры гэтым імкнуся ахапіць усё. Але ж на выхадзе атрымліваецца нуль. Вечна бягу за нечым недасяжным, а яно, як выяўляецца, мне нахрэн не патрэбнае. А вось звычка ўставаць рана трэба, нават вельмі.

## Сон

Бывае, мне сніцца адзін і той жа сон. Лакацыі ў ім ніколі не паўтараюцца, але сюжэт заўжды аднолькавы: я прачынаюся ў целе іншага чалавека.

Падымаюся, прымаю душ, збіраюся на працу, снедаю. Абдымаю дзяцей, якіх у мяне няма, цалую не сваю жонку, еду не ў свой офіс.

На працы раблю тое, што не асабліва люблю, а бывае, і не ўмею. На мяне крычыць нейкі незнаёмы мне начальнік, са мной фліртуе невядомая прыгажуня-сакратарка, не мае сябры завуць мяне ўвечары ў бар. І чым далей цягнецца гэты сон з чужым працоўным днём, тым болей да мяне пачынае даходзіць, што гэта не маё жыццё. І ў самы адказны момант, калі нехта ў мяне пытае, ці ўсё са мною добра, я прачынаюся.

Пасля такіх сноў я ўжо ў сваім жыцці цэлы дзень хаджу сам не свой. Думаю аб тым, што мне снілася. І галоўнае, што мяне сапраўды непакоіць, – ці можа чалавек аднойчы прачнуцца іншым чалавекам? З іншым жыццём, каштоўнасцямі і ўсім тым, што нажыта непасільнай працай? Напэўна, у будучыні, калі тэхналогіі дазволяць, такая функцыя будзе даступнай за нейкія там грошы.

Трэба завязваць з чытаннем раманаў Філіпа К. Дзіка...

## Планы

Кожны раз, калі я прачынаюся, думаю аб тым, што сёння акурат той дзень, калі я напішу геніяльны твор. Бывае нават, што цягам дня я прадумваю пакручастыя сюжэты, запамінальных герояў, яскравыя апісанні ды іншыя акалічнасці літаратурнай справы. Усё тое, за што вы любіце чытаць кнігі. Нешта нават складаецца ў планы і пачынае класціся на паперу. Але ж большасць тых планаў так і застаецца планамі.

Я люблю пісаць ад рукі яшчэ са школьных часоў. Нататнік у маім спісе каштоўнасцяў заўжды стаяў вышэй за ноўтбук. Магчыма таму, што памер адразу вызначаны і ты дакладна ведаеш, дзе будзе канец.

Японскі раманіст Юкіа Місіма пачынаў свае творы з апошняй фразы. Ён заўжды ведаў, чым скончыцца ягоны раман, апавяданне або эсэ. Можа быць таму і паспеў за жыццё так многа напісаць. Бо меў цвёрдую ўпэўненасць у тым, што і для чаго рабіць.

Каб стаць сапраўдным літаратарам, пісьменікам з вялікай літары, а не проста пісулькіным – трэба быць не толькі працавітым і мець талент. Гэта ўсё добра, але трэба яшчэ ўмець быць шчырым. Найперш з самім сабой. Добра ведаць свае плюсы і мінусы, светлыя і цёмныя бакі душы. Я перакананы, што любы чалавек выдатна ўсведамляе ўласныя "касякі", але ж далёка не кожны нават сам сабе можа прызнацца ў іх. Ад гэтага і пачынаюцца ўсе гэтыя неўрозы з псіхозамі.

Дзень мінае за працоўнымі справамі, вечар з сябрамі ў горадзе ці зале або проста дома. І сюжэты мае так і застаюцца недапісанымі, незавершанымі, няскончанымі. Як незакрытыя праграмы на кампе, вісяць яны недзе ў душы ды перагружаюць працэсар. А мяне самога не пакідае адчуванне таго, што я жыву чужым, не сваім жыццём.

Які мой цяперашні свет? Я і сам не ведаю. Усё ранейшае нібыта разбурылася і страціла актуальнасць. Раней я любіў усе гэтыя бясконцыя тусоўкі, мячык, рэгбі. На гэта і выдаткоўваў увесь свой вольны час. Абы каб быў *дзвіж*! Нават калі асабіста мне ён і не вельмі патрэбны. Літаратура, як у савецкія часы культура, – па рэшткавым прынцыпе. Таму ў мяне дагэтуль і не было кнігі.

Боль, расчараванні, страты – неад’емныя спадарожнікі нашага жыцця. Нікуды не падзенешся ад пачуцця банальнасці і адзіноты. Гэта нармальна. І вельмі важная якасць для літаратара. Бо каб добра пісаць, трэба шмат часу праводзіць у адзіноце.

## Той самы Маа

Тысячу гадоў не быў на начным кніжным кірмашы. А тут нешта накаціла настальгія – вырашыў схадзіць. Калісьці гэта было галоўнае месца, дзе я шукаў кніжныя навінкі. Але з часам неабходнасць такіх начных паходаў адпала сама сабою – цяпер жа столькі кнігарняў у сеціве, дзе можна замовіць і танней, і з дастаўкай, што і пераймацца не варта. Два клікі – маеш кнігу. Але калі вырашыў, то трэба рабіць – сабраўся ды пайшоў.

Сярод мноства кніжак мяне зацікавіла толькі біяграфія Маа Цзэдуна, яе і набыў за семдзесят капеек. Маа – персанаж цікавы. Добры паэт, які выдатна валодаў каліграфіяй. Сам ён характарызаваў сябе так: “Яшчэ да таго, як стаць марксістам, я ўжо быў кітайцам, а стаўшы марксістам, я не перастаў быць кітайцам”. Нешта падобнае казаў у 1920-я гады Антон Баліцкі, наркам асветы БССР, адзін з натхняльнікаў палітыкі беларусізацыі: “Спачатку я беларус, а толькі потым камуніст!”

Маа шмат чытаў, ніколі не стамляўся вучыцца і заўжды адказваў на жыццёвыя выклікі. Калі ягоныя камуністы ўзялі Пекін, то многія з іх, пераважна маладыя, спрабавалі прыкурваць ад лямпачак. Цёмныя людзі, якімі трэба было кіраваць.

Усе памятаюць ягоныя заплывы праз Янцзы, але мала хто ведае, што добра плаваць Маа навучыўся толькі ў 1950-я гады. То бок, калі ўжо быў у сталым узросце. Цягам некалькіх месяцаў па вечарах ён грыміраваўся і ехаў у басейн, дзе плаваў. Хацеў паказаць, што лідар усё яшчэ мае сілы.

## Сям’я

Час ляціць вельмі хутка. Здаецца, яшчэ зусім нядаўна чакана-нечакана мне патэлефанавала маці і сказала, што бабулі больш няма. А прайшло ўжо колькі гадоў...

Затым былі крама, труна, катафалк, могілкі. Мне так і не хапіла словаў, каб хаця б нешта сказаць на развітанне. Я проста моўчкі кінуў сваю жменю зямлі ў магілу, і на гэтым ўсё. Мо так нельга рабіць і варта было б усё ж хаця б нешта сказаць для парадку, але я не змог.

Потым былі доўгія роздумы сам-насам аб тым, што на аднаго блізкага мне чалавека стала меней. Засталося іх усяго два – маці і былая жонка. Жонка хай сабе і былая, але ўсё яшчэ застаецца для мяне вельмі блізкім чалавекам.

А было тры...

Сябры таксама важна, але сям’я ўсё ж перадусім, як ні круці! Я так доўга з гэтым змагаўся, ненавідзеў і адмаўляў, што ўрэшце апынуўся ў процілеглым лагеры.

Першаснае і галоўнае ў жыцці – гэта сям’я.

## Жывая мова

Мне вельмі пашэнціла, бо я заспеў яшчэ той час, калі ў вёсцы гаварылі па-беларуску.

Кожнае лета я чуў жывую беларускую мову ад бабулі. Мы прыязджалі да яе звычайна ў жніўні, калі ў маці быў адпачынак. Па іроніі лёсу бабуля роднай мовы не любіла, бо ўсё жыццё выкладала ў школе рускую мову і літаратуру. Таму і мне яна прывівала любоў да іх самымі рознымі спосабамі.

Шмат распавядала пра жыццё пісьменнікаў, мы разам вучылі на памяць вершы, а таксама пісалі дыктоўкі і сачыненні. Але мяне больш займала ейная гутарка. Дзіўная і незвычайная. Менавіта ад яе я пачуў упершыню такія словы, як *даўнейшы* і *муляе*. Здавалася б, ну словы і словы, але для мяне ў іх была нейкая загадка.

А ўжо потым я пачаў разумець, што яна гаворыць, як героі многіх твораў з беларускай літаратуры. Найперш, вядома, Якуба Коласа. Нічога дзіўнага ў гэтым няма – мясцовасць блізкая, гутарка падобная. Бабуля, дарэчы, казала, што бачыла яго.

Я і цяпер чую, як яна сварыцца на мяне і ў канцы кажа: “каб болей твае аднае нагі не было!”

## Людзі з мінулага

Не люблю сустракаць людзей з мінулага. Гаворка не пра сяброў ці таварышаў, з якімі проста даўно не бачыўся, а пра знаёмых. Скажам, меў нейкія справы, мо разам працаваў ці вучыўся, а потым у пэўны момант вашыя дарожкі разышліся ў розныя бакі. І часцей за ўсё вы сустракаецеся ў горадзе раптоўна, вітаецеся, пачынаеце гаварыць. Такія сустрэчы амаль заўжды выклікаюць у мяне раздражненне.

– Усё яшчэ працуеш настаўнікам у школе? – пытае ў мяне такі вось чалавек з мінулага.

– Даўно ўжо не... – адказваю, а сам у галаве пракручваю ўласнае жыццё.

– А дзе? – цікавіцца ён.

– Амаль дзесяць гадоў мінула, за пяць хвілінаў усяго і не распавядзеш!

– А я і не спяшаюся! – адказвае чалавек і ўсміхаецца.

Без асаблівага жадання распавядаю. Мне падаецца, што ў такой цікавасці ёсць нешта штучнае, ненатуральнае, пустое. Каб я жыў дзе ў лесе, пячоры, не меў сацыяльных сетак – гэта была б іншая справа. На скрайні выпадак, каб выехаў надоўга з краіны. А так – усё ж пад рукою...

Пагаварылі ды разбегліся. Чалавек з мінулага ў чарговы раз занатаваў нумар майго тэлефона, які ніколі не мяняўся. Занатаваў, каб зноў знікнуць на бліжэйшы дзясятак гадоў...

## Літаратура і мастацтва

Уладзімір Сарокін у фільме пра сябе распавядае, як яму падабалася сядзець на кухні, піць гарбату і глядзець у вакно – за ім шэрыя постаці ранкам цягнуліся на прыпынкі, каб дабрацца да сваіх станкоў.

“Літаратура і мастацтва, што можа быць лепей?” – задаецца рытарычным пытаннем Сарокін.

Я цалкам згодны з ім. Мне таксама падабаецца сядзець на кухні, піць зялёную кітайскую гарбату і пісаць. Праўда, дазволіць сабе не хадзіць на працу я пакуль не магу. Таму даводзіцца рабіць гэта позна ўвечары або наогул уночы. А такою парою рэдка хто цягнецца на працу. Хутчэй з яе.

А яшчэ бывае, што п'яныя студэнты крычаць па начах. "Халява, прыйдзі!" – найбольш распаўсюджаны вокліч. Часам іх ганяе міліцыя, а са сцяны суседняга будынка круглыя суткі ўсміхаецца вясёлы Ільіч.

А яшчэ хораша беспрытульным катам, якіх раскармілі суседзі па доме – цэлы дзень нічога не робяць і абсалютна не пераймаюцца з гэтага.

Але ім можна – яны ж коцікі.

## Менск

З Менскам у мяне агулам дзіўная гісторыя выйшла. У дзяцінстве, калі жыў на Ангарскай, я цярпець не мог горад. Увесь час мроіў адсюль з'ехаць. Мяне проста неверагодна раздражняла яго шэрасць і правінцыйнасць. І толькі перабраўшыся ў цэнтр, я насамрэч палюбіў Менск.

Многа гадоў лічу беларускую сталіцу адным з лепшых гарадоў у свеце. Чаму? Усё проста: горад мае вельмі пакручастую і драматычную гісторыю. Даўнейшых будынкаў бракуе, але ж тут вельмі камфортна.

Шырокія праспекты, сталінскі ампір, шмат паркаў. І самае галоўнае – тут няма людзей, бо ў асноўным яны лакалізаваныя ў спальніках. Гэта дазваляе творчаму чалавеку быць насамрэч занураным у сябе і не адрывацца на мітусню, якая пануе навокал.

Што раніцай, што ўвечары тут складана нарвацца на людзей. Яны як бы ёсць, яны побач, але ж не надакучваюць. І гэта вельмі цешыць. Мы жывем у двухмільённіку, аднак тлум для горада з такой колькасцю насельніцтва тут амаль незаўважны. Прынамсі, там, дзе бываю я, яго цяжка знайсці.

Натуральна, што нехта зараз можа сказаць, маўляў, Косцік, што за гон, а як жа Каменная Горка? Там я бываю гады ў рады, таму мне складана меркаваць.

Шырокія менскія вуліцы, паркі, скверы, праспекты мне прыносяць сапраўднае задавальненне. А яшчэ мне падаецца, што паваенны Менск – гэта аграменны помнік класавай няроўнасці, хаця і быў пабудаваны камуністамі. Але пра гэта я напішу як-небудзь іншым разам.

У Менску добра быць паэтам, пісьменнікам, музыкам, мастаком. Але, вядома, ёсць і свае мінусы: гэта не мегаполіс, а проста вялікая вёска, дзе ўсе ўсіх ведаюць. Не схаваешся, калі што. Людзям канфліктным складана з працай.

## Гісторыя і літаратура

Мяне шчыра засмучае, як часцяком абыходзяцца з гуманітарнымі навукамі. Найперш з гісторыяй і літаратурай. Калі чалавек абсалютна недасведчаны ў гісторыі, мае прафаннае ўяўленне аб ёй, але ж бярэцца разважаць і рабіць нейкія экспертныя высновы.

З літаратурай яшчэ прасцей – чэл банальна не чытае кніжкі, штосьці чуў пра аўтара, але лічыць, што можа на сур'ёзных шчах нешта там

меркаваць. Ці адразу голасам суддзі Дрэда выносіць прысуд усёй нашай літаратуры – “чытаць няма чаго!”

Ну гэта ж рэальна смешна...

Вы ж не бярэцеся гаварыць, скажам, пра запуск шатла ці нейкія там складаныя тэхналагічныя працэсы. Якога д’ябла вы тады лезеце сваімі нямытымі капытамі ў гісторыю? Што вы можаце ведаць пра сучасную беларускую літаратуру, ды і пра несучасную таксама, калі апошні раз чыталі нешта ў школе. Адкуль гэты пафас і пагарда?

Я даўно заўважыў, што пасля трэцяй чаркі размовы заходзяць акурат пра гісторыю або літаратуру. Заўважыў таму, што вельмі часта ў такіх гутарках-спрэчках стрэлкі элегантна пераводзяцца на мяне. Маўляў, з намі тут гісторык дыпламаваны, няхай рассудзіць. Або, як варыянт, з намі ж пісьменнік – няхай раскажа. А гаварыць не хочацца, бо гэта дыскусія сляпога з глухім.

Часта бачу, як пераймаюцца ў сеціве, маўляў, гісторыя не вучыць. А чаму? Бо людзі бяруць нейкія цікавыя, зручныя, прыдатныя (патрэбнае падкрэсліць) для сябе факты, нязручныя адкідаюць і інтэрпрэтуюць іх так, як лічаць патрэбным. З рэальнай жа гісторыяй такі падыход, як правіла, мае мала агульнага.

Гісторыя не вучыць, бо яе ўспрымаюць вельмі часта не як нейкі складаны і аб’ёмны працэс, дзе па вызначэнні не можа быць простых пытанняў і гэткіх жа простых адказаў, а як мульцік, дзе ёсць дрэнныя і добрыя, чорнае і белае. Па прынцыпе падабаецца/не падабаецца.

## Малады Гадар

Паглядзеў стужку “Малады Гадар”, якая атрымала пару гадоў таму шырокі розгалас і добрую рэкламу. Фактычна – гэта пераказ гісторыі кахання Гадара і акторкі Ганны Вяземскі, якая была ягонай другой жонкай. Яна грала галоўную ролю ў знакамітай “Кітаянцы”, на здымках якой яны і пазнаёміліся.

У фільме Гадар паказаны менавіта яе вачыма. Самотны аўтар, які чытае кніжкі, пакуль іншыя весяляцца і ўвесь час знаходзіцца ў пошуку чагосьці новага. І гісторыя кахання ад шчырага захаплення геніем да поўнага разрыву.

Мяркуючы па водгуках, многім не спадабаўся такі падыход. А як па мне, то цалкам нармалёва. Сэнс пераказваць ягоную біяграфію? Атрымалася б нудна і нецікава, як многія іншыя баёпікі. Маўляў, вось ён нарадзіўся, а вось пайшоў вучыцца, а тут ён захапіўся кіно і літаратурай. А потым май 1968-га, барыкады, моладзь на іх. Наўрад ці рэжысёр, які зрабіў рэвалюцыю ў кіно, заслугоўвае такой банальнасці.

У стужцы добра паказана, як разыходзяцца сцяжынкі двух блізкіх людзей. І як цяжка жыць з творчым чалавекам, які сапраўды хоча нешта сказаць свету, а ты ўсяго толькі хочаш тусавацца. Сумна, калі жанчыны сыходзяць ад такіх мужчынаў.

Ён, дарэчы, усё яшчэ жывы...

## Станкевіч

Прыгадаўся такі ўспамін пра пісьменніка Юрыя Станкевіча.

У 2016 годзе ў Менску прэзентавалі ягоны раман “Паўночны вецер для спелых пладоў”, які толькі пабачыў свет. І таварышы вырашылі прывезці аўтара на сустрэчу з чытачамі. Як вядома, Станкевіч не надта любіў прэзентацыі, як і агулам любую публічнасць. Ён удала абыходзіўся без яе, што, дарэчы, ёсць прызнаннем ягонага таленту. Бо кнігі прадаюцца і без асаблівай рэкламы.

Калі прывезлі Станкевіча, я выйшаў з кнігарні, каб сустрэць пісьменніка. І быў проста неверагодна ўражаны, калі той паціснуў мне руку. Ягоныя пытанні ўвялі мяне ў ступар, бо Станкевіч пачаў распытваць – як той, а як гэты, з тым сябруеш, а з гэтым, што пішаш, а што думаеш напісаць. Рэч у тым, што мы не бачыліся гадоў дзесяць. І я думаць не думаў, што ён хаця б неяк цікавіцца маёй творчасцю і так добра абазнаны ў тым, што я публікую.

Калі падчас прэзентацыі ў яго нехта спытаў, маўляў, каго з маладых самі чытаеце, каго можаце параіць, то Станкевіч не асабліва задумваючыся сказаў, кінуўшы погляд у мой бок:

– А вось, Кастусь стаіць, яго і чытайце!

## Барада

Шчыра зайздрошчу нашым класікам. Кожны раз думаю пра гэта, калі гляджуся раніцай у люстэрка. Рэч у тым, што ў мяне не растуць ні вусы, ні барада. Бяда!

Янка Купала клаўся спаць са спецыяльным прыстасаваннем, у якім вусы за ноч не гублялі формы і закручваліся. Цяпер такога ў барбершопах і не ведаюць. Усё паводле тагачаснай моды!

Мяркуючы па фота, ён быў самым сапраўдным віленскім дэндзі. Ды і ў савецкія часы імкнуўся выглядаць шляхетна, нават з савецкім ордэнам на грудзях. Ды і не толькі ён, але і іншыя літаратары. Паэты з сялянаў таксама трымаліся годна ды выкшталцона – згадаць хаця б таго ж Цішку Гартнага з ягоным мятлікам або маладога Алеся Дудара з візітоўкай, якая была аформлена па-французку.

Мне ж пакуль застаецца толькі верыць у байку, якую некалі пачуў ад кагосьці са сваіх знаёмых. Маўляў, даўнейшыя беларусы барады і вусоў не насілі, бо гэта была прэрагатыва толькі дзядоў. Шкада, а так хацелася б пабыць хаця б крыху ў вобразе класіка...

## Надвор’е

Адкрыць файлік, напісаць нешта, запосціць у інстаграм. Тэма – неістотна. Ды любая! Глянуць хаця б у вакно, што там, за бортам. З тых ранейшых часоў, калі людзі шмат гаварылі пра надвор’е, не змянілася насамрэч нічога. Мы ж заўжды размаўляем пра яго, калі болей няма чаго абмеркаваць. Потым дадаць прыгожы здымак, і *voilà* – допіс гатовы.

Тыя пасты, дзе ёсць людзі, будуць збіраць болей лайкаў. Бо ўсім цікава, як ты цяпер выглядаеш і чым жывеш. Прыгожая ілюзія! Але і краявіды могуць быць добра аблайканымі, калі здымак сапраўды таленавіты. Я ў гэтым плане ўсё ж старасвецкі – мне падабаецца пісаць. Для мяне гэта

цэлы рытуал: люблю запарыць зялёнай гарбаты, узяць аловак, прыгожы нататнік, пару хвілінаў на роздум.

Назіраючы за развіццём сацыяльных сетак і месенджэраў, я спакойны за будучыню літаратуры. У той ці іншай форме яна будзе жыць – людзі могуць кінуць чытаць кніжкі, але ж будуць па-ранейшаму многа пісаць. Не так важна што, бо гэта ўжо справа прыватная. Раней у тым жа інстаграме проста посцілі фотачкі, цяпер жа прынята змяшчаць пад імі хаця б нейкі тэкст. Каб потым было што абмяркоўваць у каментарах.

Галоўнае –наяўнасць жадання.

## Паштэт

Стаяў у чарзе ў краме ды сустрэў Паштэта. Калісьці мы хадзілі ў адзін дзіцячы садок, былі ў адной групе. Ніколі не сябравалі асабліва, але запомнілі адзін аднаго на ўсё жыццё.

Сустракаемся мы сімвалічна – я скончыў школу, а ў Паштэта першая ходка. Потым я давучваўся ва ўніверсітэце, быў ужо практыкантам, дыплом дапісваў – а Паштэт рыхтаваўся да другой.

Цяпер вось сустрэліся, дык ён ужо трэці раз пабываць “за забором” паспеў. Падышоў, павітаўся, стаў у іншую чаргу па цыгарэты. Глядзіць то на мяне, то на касірку, аж пакуль не падышоў нейкі стары з двума батламі чарніла. Тады Паштэт па-гаспадарску ўзяў сабе пачак “Самца” ды пайшоў да дзвярэй чакаць субутэльніка.

Мы з ім аднаго ўзросту, але ж якія розныя лёсы...

## Свабода

Адчуванне свабоды дорага каштуе. Свабодны – гэта заўжды адзінокі чалавек. Вакол можа быць вялікая маса знаёмых, але насамрэч ты адзін.

Прыходзячы дадому, ты кладзешся адзін спаць, адзін устаеш, адзін вырашаеш свае праблемы. Часам здараецца, што цэлымі днямі можа маўчаць тэлефон.

Калі вырашаеш абраць шлях свабоды, трэба разумець, якія наступствы гэта можа мець.

## Алена

Сваё першае апавяданне, а можа быць аповесць, я напісаў яшчэ ў школе. Сюжэт – даволі банальны і просты. Дзеці ў закінутым доме знаходзяць сшытак, у якім падрабязна запісаная гісторыя кахання. Нашага кахання. Галоўная гераіня ў той аповесці – Алена. Як звалі героя, ужо не ўзгадаю, таму хай будзе Кастусь. У сапраўднасці дзяўчыну звалі, вядома, іначай.

Зафіксавана ў тэксце ўсё было да драбніц. Як я вучыўся цалавацца, як заляцаўся да дзяўчат, як потым зразумеў, што закахаўся ў тую, з якой сядзелі за адной партай. Як заваяваў яе сэрца, як мы пачалі сустракацца. А потым былі іспыты, да якіх мы рыхтаваліся ўжо разам. Ну і, вядома, выпускны.

Гісторыя тая са шчаслівай канцоўкай засталася толькі на паперы. А

вось у памяці адклалася слаба, як бы і не было яе ніколі. Нібыта гэта не я і не яна, а нейкія іншыя людзі. Калі мы разышліся, то я спаліў той сшытак на вогнішчы, разам з ейнымі лістамі і паштоўкамі. Мне так хацелася рэваншу, так карцела адпомсціць за сыход, што я не прыдумаў нічога лепшага, каб знішчыць усё, што хаця б неяк нагадвала пра яе. Вогнішча атрымалася высокім.

Праз шмат гадоў я ўзяўся пісаць раман. Пра тое, як хлапец з нашых краёў выправіўся ў Данію, бо тут яго ўжо нічога не трымала. І пачынаўся раман са сваркі героя з дзяўчынаю, якую таксама звалі Алена. Яго я так і не скончыў, аб чым ні кроплі цяпер не шкадую. Забаўна, што ўсім, хто чытаў напісанае, была цікавай менавіта вось гэтая лінія кахання, а не тыя прыгоды, якіх шукаў галоўны герой. А яна была цалкам прыдуманай...

Бывае, мне сніцца сон, у ім невядомая дзяўчына. Дэкарацыі розныя, але яна нязменна вельмі прыгожая. Бо яна не старэе, не хварэе, зусім не змяняецца. Мы з ёй ніколі не гаворым, але я ведаю, што зваць яе – Алена. Дык вось што мне вярэдзіць душу – хто яна такая. Адкуль узялася ў маёй свядомасці і для чаго прыходзіць. Загадка, якую мне хочацца разгадаць, але я не спяшаюся з гэтым.

## Рыцар Шчасця

Перачытаў днямі «Афрыканскі дзённік» Мікалая Гумілёва. Люблю гэты твор яшчэ з юнацкіх гадоў. У школьнай праграме, вядома, Гумілёва было вельмі мала. Магчыма, наогул не было. Можа, памыляюся, але, здаецца, ягоныя творы агулам былі рэкамендаваныя для чытання летам. Чым я і займаўся.

Памятаю, найбольш мяне ўразіў яго верш, які быў напісаны летам 1917 года, то бок паміж дзвюма рэвалюцыямі. Называецца ён “Рыцар шчасця”. У ім выключна сонечная, пазітыўная энергія ды вера ў светлую будучыню. Пры гэтым нескладана ўявіць, што было *ў рэале* вакол аўтара – вайна, галеча і няшчасці.

У складаныя моманты я ў думках вяртаюся да яго. І не толькі таму, што гэты верш цудоўны, але і таму, што разумею кантэкст, у якім ён быў напісаны. Мяне шчыра ўражваюць аўтары з падобным складам характару.

## Кантакт

У згаданым дзённіку Гумілёва ёсць і такія радкі: “Толькі што прыйшла вестка пра падзенне Скутары. Турцыя прыняла яго з тым жа спакоем, з якім зацкаваны і паранены звер прымае новы ўдар”. З такім жа спакоем прыняў і я вестку аб тым, што я – “кантакт першага ўзроўню”.

Каранавірусам захварэла маці. Было ў яе ўсё, як па падручніку – тэмпература, дзіўныя адчуванні, а ўжо ў бальніцы кампутарнай тамаграфіяй выявілі двухбаковую пнеўманію. У мяне сімптомаў не было, таму і шпіталізацыя не патрабавалася. Дастаткова было ўсяго толькі адбыць два тыдні самаізаляцыі. Але ж медыкі папярэдзілі – калі што якое, адразу ж выклікайце хуткую.

Яшчэ з сакавіка працаваў з дома. Імкнуўся асабліва і не камунікаваць

ні з кім, каб і самому не набрацца і каго-небудзь выпадкова не заразіць. А выйшла, як і бывае ў жыцці, іначай – з дастаўкай на дом. Зусім абмінуць малавывучаную хваробу не атрымалася.

## Санаторый

Маці атрымала доўгачаканую пуцёўку ў санаторый. І, нягледзячы на тое, што паціху першыя каранавірусныя хворыя пачалі з'яўляцца ў нашай краіне, вырашыла ўсё ж паехаць.

Праз тыдзень заезду я вырашыў адведаць маці, але праз ляноту так і не сабраўся. Праспаў. Запланаваў на наступныя выхадныя. Адмяніў усе магчымыя і немагчымыя планы, накруціў будзільнік. Сонечным ранкам выбраўся да яе.

Шлях просты і нядоўгі: тралейбус, метро, маршрутка. І мо якой паўгадзіны паездка. Потым крыху пехам, і вось мы ўжо сустракаемся на нейтральнай тэрыторыі. Абдымаемся ды ідзем гуляць па беразе Мінскага мора. Маці дзеліцца навінамі, распавядае, як ёй адпачываецца. Я таксама нешта распавядаю пра сваё жыццё.

Абед. Маці ідзе ў корпус, я чакаю на вуліцы, палю. Праз якіх хвілінаў пятнаццаць-дваццаць яна вяртаецца і з сумам мне кажа:

– У нас каранавірус знайшлі!

– У каго ў нас? – перапытваю.

– У нашым санаторыі ў мінулым заедзе ў некалькіх жанчын.

– Бяда! – задуменна адказваю я.

Па іроніі лёсу адна з жанчын таго заезду жыла ў нумары, дзе жыве цяпер маці. Яшчэ большага трэшу дадае тое, што акурат у той момант, як маці мне гэта кажа, ахова санаторыя блакуе ўсе магчымыя і немагчымыя ўезды і выезды.

– Хадзем далей гуляць! – кажу маці і бяру пад руку.

– А як жа ты дамоў трапіш? – пытае яна мяне.

– Праз плот пералезу, гэткая справа! – з пафасам адказваю.

І сапраўды, як надакучыла гуляць, мы абняліся і развіталіся. Я ў імгненне перабраўся праз плот і пайшоў сабе лесам у бок горада. Некалькі кіламетраў прайшоў пешкі, дамоў вяртаўся аўтобусам. Збярог пару рублёў, якія меўся выдаткаваць на маршрутку.

Вясновае сонца прыемна свяціла ўвесь дзень.

## Самаізаляцыя

На наступны дзень пасля таго, як маці трапіла ў бальніцу, выйшла ўрадавая пастанова пра абавязковую самаізаляцыю для персанажаў кшталту мяне. Бальнічны мне не давалі, хаця я і не прасіў – усё адно ж працую з дома.

Вырашыў паставіць на сабе эксперымент – які і прадугледжвае гэты від абмежаванняў, рэальна два тыдні не выходзіць з дому.

## Джорджа дэ Кірыка

Адзін з маіх любімых мастакоў – італьянец Джорджа дэ Кірыка.

Метафізіка, сюррэалізм і ўсё такое. Яго серыя карцін з пустымі гарадамі і плошчамі – абсалютна геніяльная. Бо ўсе яны выдатна перадаюць атмасферу трывожнасці, страху, а часам і вусцішы. Хаця на саміх палотнах нічога "такога" мы і не бачым.

Вельмі актуальна. Прынамсі для мяне цяпер...

## Алхімія

Існуе памылковае меркаванне, што вялікія алхімікі Сярэднявечча спрабавалі пераtварыць галубіны памёт у золата. Насамрэч золата ў алхіміі фігуруе найперш як метафара, сакральны сімвал царскай улады.

Каб пераtвараць гной у золата, трэба спачатку самому ўдасканаліцца да пэўнай ступені.

Беларуская культура, літаратура ў прыватнасці – гэта алхімія ў чыстым выглядзе. Пасля прачытання многіх кніг, адкрыцця невядомых (схаваных) фактаў, разумення некаторых падзеяў ты ўжо ніколі не будзеш ранейшым. Літаратура і гісторыя матывуюць, цягнуць, даюць арыенціры.

*Per aspera ad astra!*

## Сонца

Самае лепшае сонца – ранкам. Найбольш яснае, цёплае, вясновае. Яно нагадвае мне пра гады дзяцінства, калі я малым часта хварэў на ларынгіты і не вылазіў з бальніц.

Калі крыху падрос, то ўжо рэдка там бываў, але ж замест школы і сяброўскай кампаніі сядзеў тыднямі дома з хворым горлам ды глядзеў у вакно. Было невыносна самотна – маці на працы, сябры ў двары, а я сяджу ля вакна і назіраю за тым, як яны забаўляюцца з мячом, гуляюць у "вайнушку" ці хованкі. Не цешыла нават прыстаўка, у якую мог гуляць цэлымі днямі. Гэтак тады хацелася да іх!

Але я быў паслухмяным дзіцём і строга выконваў загады маці – на вуліцу не выходзіць, каб яшчэ болей не захварэць. І вось праз больш чым дваццаць гадоў гэтае адчуванне вярнулася. Толькі цяпер – я дарослы чалавек, ды і загадвае мне не маці. А кажуць яшчэ, што двойчы ў адну раку нельга ўвайсці.

Можна! Лёгка! Як з куста!

## Калідорны футбол

У школе ў нас была такая забава – "калідорны футбол" называлася. Абсалютна дурнаватая, але для школьнікаў-пачаткоўцаў – сама тое. Сэнс гульні быў просты – на перапынку трэба было пільна сачыць за сваімі рэчамі, найперш заплечнікам.

Калі хто не ўсачыў за ім – нехта з аднакласнікаў мог схапіць заплечнік, выкінуць у калідор, і ўся дзятва прымалася радасна штурхаць яго нагамі. А дзяцей было шмат. У адной маёй паралелі было 4 класы па трыццаць чалавек у кожным. І ўвесь перапынак заплечнік бязлітасна лётаў па ўсіх паверхах.

Аднаго разу ў такі замес трапіў і мой. Усё б нічога, але пасля гэтай гульні дзённік, які ляжаў у заплечніку, займеў зусім нетаварны выгляд. Вокладка цалкам адарвалася, старонкі былі памятыя. Класная скарысталася гэтым, каб пакараць мяне.

– Набудзь сабе новы дзённік і перапішы яго!

– За выходныя?

– Вядома, за выходныя! – адказала яна і пайшла.

Два дні я сядзеў над дзённікам, карпатліва перапісваючы са старога ў новы расклад, адзнакі, хатнія заданні і нават заўвагі настаўнікаў. Рукі балелі страшэнна, але мне хацелася хаця б самому сабе даказаць, што я магу не толькі забаўляцца. У панядзелак класная была вельмі здзіўлена, калі ўбачыла, што ў мяне новы дзённік, цалкам перапісаны.

– Я думала ты нават рабіць не возьмешся! – сказала яна з усмешкай, падпісваючы адзнакі. Я быў неверагодна задаволены сабой, але ж гуляць у калідорны футбол кінуў. Хіба што сачыў, каб раптам мой заплечнік не стаў зноўку ахвярай гэтай забавы. Вельмі не хацелася па-новай даказваць свае здольнасці.

## Задышка

Вычытаў, што адзін з сімптомаў каранавіруса – задышка. Прачытаў і сам сабе ўсміхнуўся. Яшчэ адна старая знаёмая, з далёкіх дзіцячых гадоў. Так і захацелася павітацца, спытаць – ну як ты? Даўно не бачыліся, праўда?

Пра задышку я ведаю болей, чым многія. Для мяне гэта быў сапраўдны кашмар, страшнейшы за Фрэдзі Кругера. Яна заўжды прыходзіла павольна, пад вечар. Пяшчотна, ледзь адчувальна брала мяне за шыю сваёй нябачнай рукою і пачынала душыць.

Спачатку было проста няўтульна, потым цяжка дыхаць, а ў фінале я пачынаў задыхацца. Памятаю гэтае адчуванне як цяпер: цябе душаць, а ты не разумееш, хто і за што, і самае страшнае – не можаш вырвацца. Маці выклікала хуткую, медыкі рабілі ўкол, а ў крытычных выпадках забіралі з сабою. Але ж гэтым разам задышка ўсё не прыходзіла, хаця я і чакаў яе.

Думаю, што мая звычка не спаць па начах пачала фармавацца менавіта тады. Калі можна было не раз развітацца з жыццём. Бо некаторыя з родзічаў на поўным сур'ёзе думалі, што я не пражыву доўга.

## Фотаздымак з Місімам

На чорна-белым фотаздымку два вядомыя пісьменнікі – Юкіа Місіма і Сінтара Ісіхара. Апошні жывы і цяпер. Не так даўно адкрыў для сябе ягоную творчасць дзякуючы менавіта гэтаму фота з 1956 года.

Кніга апавяданняў «Соль жыцця» проста неверагодная рэч! Назва рэальна адпавядае зместу. Аўтар у невялікіх апавяданнях апісвае, як чалавек не скараецца перад ударамі лёсу і сам выбудоўвае ўласнае жыццё. Лепей за любыя матывацыйныя кнігі! Бо калі яе чытаеш, то і самому хочацца сабрацца ды выправіцца на пошукі прыгодаў.

## Беларуская справа

Неяк адзін досыць вядомы блогер напісаў, што беларуская справа – гэта спроба запаліць ваду. Так яно ў прынцыпе і ёсць, бо пасля гэтага ён перайшоў на рускую мову, выракся спачатку свайго нацыяналізму, а потым і агулам ідэнтычнасці.

У адрозненне ад іншых народаў – беларусамі не нараджаюцца, імі робяцца. Прычым праца гэтая нудная, штодзённая і не вельмі прыемная. Таму і беларушчына для многіх – гэта такая прыкольная цацка, з якой добра пагуляцца, пакуль не надакучыць. А калі захапленне праходзіць, то можна і адкінуць у бок, як плюшавага Мішку, з якім болей нецікава.

## Знайсці Форэстэра

Мне вельмі імпануе вобраз Уільяма Форэстэра са стужкі «Знайсці Форэстэра», я б хацеў убачыць сябе такім гадоў праз трыццаць-сорак.

Пісьменнік-пустэльнік, які напісаў адзін удалы твор, атрымаў узнагароды і прэміі, падняўся на літаратурны Алімп ды замоўк. І нічога болей так і не апублікаваў.

Ганс Ван Сэнт зняў даволі цікавую карціну пра чалавека, які добраахвотна адмовіўся ад усіх дабротаў гэтага жыцця, але ж пры гэтым не кінуў іх на сто адсоткаў. Ён жа яўна жыве за аўтарскія, на якія наняў сабе шафёра на добрай машыне.

## Эльфійскі свет

Неафіта бачна здалёк! Лёгка распазнаць таго, хто толькі нядаўна захапіўся беларушчынай. Бывае, слухаеш песні, чытаеш вершы ці апавяданні і адразу бачыш – аўтары касплэяць даўнейшых беларусаў. Косяць пад Караткевіча, Коласа, Купалу ці простага вусатага дзядзьку з касой у саламяным брылі, які на досвітку выйшаў на сваю ніву.

Карацей, цяпер не задаюць нейкія новыя трэнды, не распрацоўваюць новыя тэмы, не ідуць нязведанымі сцяжынамі – наадварот, абіраюць найменшы шлях супраціву. Ну, тыпу “невясёлая старонка”, “жыву ў Беларусі – тым і ганаруся”, “дзе мой край?” і гэтак далей. “Глянь у вакно, ды ўбачыш яго!” – жартуе мой сябар, які крытычна настроены да ўсёй гэтай лубачнай беларушчыны.

Насамрэч, праблема не ў мове. Прынамсі развівацца яна можа без праблем гэтак жа, як і ўсе іншыя. Здаецца, ні ў кога цяпер не выклікае сумневу той факт, што беларуская мова можа быць якасным сродкам камунікацыі. Праблема ў разуменні і падыходзе, калі беларушчына ўспрымаецца як нейкае хобі або ідэнтычнасць выходнага дня.

## Споведзь маскі

Сядзеў, гартаў кніжкі, і вось што мне падумалася: а першы раман Місімы “Споведзь маскі” ў прынцыпе таксама пра самаізаляцыю. Прычым самаізаляцыю жорсткую і шматгадовую.

Рэч у тым, што яго, зусім малога, забрала ў свой пакой бабуля. Далей ад шчаслівых бацькоў. Хворая і неўрастэнічная Натсу шмат у чым руліла ў сям'і, а бацька Місімы не пярэчыў старой. Маці і наогул не мела такога права. З ёй будучы пісьменнік бачыўся вельмі мала і вельмі рэдка. Бо ён увесь час павінен быў знаходзіцца побач з бабуляй.

Гульні з аднагодкамі, свежае паветра і ўсё падобнае – адмяталася. Так старая нібыта "клапацілася" пра хлопчыка. І працягвалася гэта да дванаццаці гадоў, пакуль ён не вярнуўся да нармальнага жыцця, ўз'яднаўшыся з сям'ёй.

Дык вось, па сутнасці гэты раман (прынамсі, першая яго палова дакладна) пра тое, што адбываецца з чалавекам, калі ён мае буйную фантазію і ўвесь час знаходзіцца ў ізаляцыі ад іншых.

## Сухар

Сухара я ведаў даўно, гадоў з дзесяць. Сухар быў хлопцам крутым, сапраўдным мужчынам – высокі, дужы, светлавалосы. Волат. І хто прыдумаў яго зваць сухаром? Мянушка зусім не ў тэму!

Ён быў першы, хто пазнаёміў мяне з выдатным нямецкім напоем – шнапсам. Накідаліся ім у той дзень, памятаю, як скаты. Але галава на раніцу не балела. Пасля перыядычна бачыліся яшчэ, некалькі разоў выпівалі ў агульнай кампаніі. Але цеснага сяброўства не было. Пра Сухара я болей чуў, чым бачыў.

Мясцовыя раённікі распавядалі, што адным півам ці шнапсам не абмежавалася, і Сухар пачаў "ставіцца" – падсеў на бубкі і стаў самым сапраўдным наркаманам. Бубкі – гэта звычайны кандытарскі мак, які насычаецца алкалоідамі опіўму. Падчас апрацоўкі з дапамогай хімічных рэчываў, кшталту звычайнага раствуральніка, бубкі ператвараюцца ў наркотык з уздзеяннем, падобным да гераіну. Цяпер гэта самы папулярны наркотык у беларускіх наркаманаў, бо каштуе няшмат і набыць яго вельмі лёгка. Звычайна нарыкі набываюць "ляпку" на некалькі чалавек і "варацца" ў якім-небудзь прытоне. Выхадзец з добрай сям'і Сухар па прытонах ніколі не цягаўся, а варыўся і ставіўся заўжды ў сябе дома.

Ад таго моманту, калі я пачуў пра ягоную залежнасць ад наркотыкаў, было зразумела, чым скончыцца ўся гэта гісторыя. Але Сухар спрабаваў неяк вырвацца з багны, у якую патрапіў. Спачатку ён спрабаваў зняцца з бубак трамадолам, які даюць вельмі хворым людзям, каб заглушыць боль. Пасля добраахвотна стаў на метадонавую замяняльную тэрапію. Але і яна не дапамагла.

У дзень свайго вяселля я даведаўся, што Сухар памёр. Менавіта тады я і зразумеў, чаму ў яго была такая дзіўная мянушка – за нейкі час да гэтага я мімаходзь бачыў яго на Нямізе. Сухар быў ужо не тым Сухаром, якога я некалі ведаў: высокі, сухі, як трыснёг, чалавек з пустымі вачыма пазіраў на мяне і нават не пазнаў. Я кіўнуў яму, вітаючыся на адлегласці, але Сухар ніяк не зрэагаваў – яму было ўсё роўна.

Смерць высушыла яго перад тым, як забіць, забрала ўсё чалавечае, пакінуўшы адно жывы шкілет.

## Ігнор

Цікава атрымліваецца. Доўгі час я ігнараваў соцыум. Не хадзіў на канцэрты, пазбягаў многіх знаёмых, рэдка бачыўся з сябрамі, мала вандраваў. Вёў даволі-такі замкнёны і аднастайны лад жыцця. Праца-дом-праца. З выключэнняў хіба што зала ды футбол.

А цяпер, калі адно за адным адмяняюцца мерапрыемствы, мо куды б і выбраўся. Захацелася паслухаць музыку жыўцом, пад піва і ў шумнай кампаніі. Як было некалі даўно, у юнацкія гады. Але наўрад ці нешта такое адбудзецца бліжэйшым часам.

Думаў паехаць куды, убачыць нешта новае – але ж межы перакрылі. Добра, што візу не рабіў – толькі выкінуў бы грошы на вецер, бо цяпер невядома, калі ўсё гэта скончыцца.

Цешыць, што нейкае ўнутранае адчуванне, мой унутраны компас гэтым разам мяне не падвёў. Бо калі мая віза скончылася, з’явілася нейкае цвёрдае разуменне таго, што бегчы адразу ж абнаўляць патрэбы няма. І я не памыліўся.

## Стражнікі

Раз на дзень пачалі прыходзіць міліцыянты – правяраць, ці дома я. Першымі былі амапаўцы – ветлівыя, але ж без масак. Жартам я пачаў называць іх стражнікамі, нібыта яны вартуюць мяне. А я, такі важны кекс, сяджу ў сваёй вежы. Бывала ж такое, што розных там князёў ды іншых замыкалі.

Спачатку прыходзілі, потым званілі ў дамафон, а пад канец наогул на мабільны набіраць пачалі. Відаць, таму, што я законапаслухмяны грамадзянін. Нават і не думаў без асаблівай патрэбы пакідаць сваю ўтульную келлю.

Без іх нават сумна неяк стала. Я ўжо прывык да таго, што ў мяне далікатна пытаюцца, як самаадчуванне, ці ўсё са мной у парадку і гэтак далей.

## Сустрэча

У кагосьці з сучасных беларускіх літаратараў вычытаў, што, маўляў, калі пішаш нейкія аўтабіяграфічныя нататкі, то можна смела друкаваць як ёсць, не змяняючы імёнаў з прозвішчамі герояў, бо ўсё адно ніхто гэта не чытае і ніколі чытаць не будзе. Ага, не чытаюць!

Неяк напісаў я невялічкае апавяданне, у якім вялося пра гісторыю знаёмства з дзяўчынай і пачатак адносінаў. Тэкст той атрымаўся ні пра што. Такіх гісторыяў можна сотні назбіраць, калі апытаць людзей.

Пісаць я тады не вельмі добра ўмеў, таму галоўная гераіня выйшла змазаная, вобраз абсалютна незапамінальны. Ні рысаў твару, ні вопраткі, ні колеру валасоў ці вачэй. Такую калі сустрэнеш, то праз хвіліну забудзеш. Цяпер я зрабіў бы тое апавяданне на парадак лепшым, а галоўную гераіню ярчэйшай, каб узнікала жаданне азірнуцца, калі раптам убачыш на вуліцы.

І вось маё апавяданне выходзіць у адным моладзевым часопісе. Я радуюся і шукаю ў горадзе па крамах, дзе можна купіць асобнік са сваім тэкстам. А яны нібы пад зямлю праваліліся! Таварышы смяюцца – маўляў, апублікавалі, стаў знакаміты, вось і размялі ўвесь наклад.

Праз нейкі час піша мне адна знаёмая з настойлівым патрабаваннем сустрэцца. Я не стаў адмаўляцца, “забіліся” ў парку Янкі Купалы ля фантана. Стаю, чакаю, прыходзіць смс – “я спазняюся”. Праз дзесяць хвілін бачу – ідзе павольным крокам у мой бок. Кароткая чорная сукенка, абцасікі, карэ. Усё па пунктах. У руках трымае часопіс. Падыходзіць. Вітаемся.

– Нашто ты вывеў мяне такой “ніякай” у сваім апавяданні? – кажа мне са старту.

– З чаго ты ўзяла, што цябе? – перапытваю.

– Хіба я такая шэрая і пустая? – амаль крычыць, не слухаючы, яна і трасе часопісам. Я ў разгубленасці. “Во папаў!” – думаю.

– Слухай, ды я зусім не цябе меў на ўвазе! – спрабую неяк патлумачыць.

– А каго? Алену? Ты ж пішаш толькі пра сваіх былых! – не сунімаецца чытачка.

– Ды і не Алена гэта. Якая табе розніца? Няўжо ты думаеш, што ў мяне было толькі дзве дзяўчыны, і адна з іх – гэта ты?

– Не, не думаю! Але мне падаецца, што гэта ўсё ж ты напісаў пра мяне. А калі так, то мог бы ўжо і пастарацца, бо я ж не лялька нейкая там аўтазаўская!

– Слухай, я сапраўды пішу толькі пра сваіх былых, але з табой мы не сустракаліся. Ніколі! Таму, натуральна, маёй былой ты быць ну ніяк не можаш! Разумееш?

– Але ж гэта Я! Я! – крыўдуе і не сунімаецца малая.

Паходу, нашу мімалётную інтрыжку яна залічвае ў сур’ёзныя адносіны. Дык і інтрыжкі ніякай не было – пахадзілі за ручку пару разоў па гэтым самым парку, пацалаваліся пад дрэвам ля Скарыны ды разбегліся. Якая тут рамантыка?

– А мне так хацелася, каб хто-небудзь напісаў бы пра мяне хоць радок! – сказала яна на развітанне ды сышла. Часопіс пакінула.

Так адной сяброўкай у мяне стала меней, а адным часопісам у хаце болей.

## Другі тэст

Ранкам на трынаццаты дзень самаізаляцыі пачуўся званок. Размова кароткая:

– Сёння да вас прыйдуць браць паўторны тэст, будзьце, калі ласка дома.

– Вядома, буду, куды ж я падзенуся!

– Усялякае бывае! – засмяяліся на тым канцы.

Праз колькі гадзінаў да мяне прыйшла дзяўчына браць мазок. Першым разам яна была з напарнікам, які ўласна і ўручыў мне пастанову пра самаізаляцыю. Працэдура хуткая і зусім не балючая. Здаваць кроў з пальца куды больш непрыемна.

– Вы хаця б пазваніце, паведамце вынік, – сказаў я ёй на развітанне.

– Калі нешта будзе, вам адразу ж пазвоняць! – адрэзала яна.

– А калі будзе вядома?

– Тэст робіцца цягам двух-трох дзён, як і ў мінулы раз.

– Нават калі і не будзе. Хацелася б ведаць свой лёс.

– Добрага дня! – развіталася яна і, не сказаўшы нічога болей, пайшла.

З яе сыходам пачалася доўгая эпапея чакання. Самакапанне і самааналіз.

“Так можна ў сябе не толькі каранавірус знайсці, а штосьці нашмат горшае”, – думаў я і спрабаваў пераключыцца.

Але тэма не адпускала, хацелася як мага хутчэй даведацца. Як нецярпліваму малому хочацца салодкага тут і цяпер, не выходзячы з крамы. Інačай скандал! І разгубленыя бацькі вымушаны ісці на кампраміс, каб той не падняў гвалту.

## Класікі

Паразітаваць на класіках заўжды добра. Фактalагічнага матэрыялу багата, бяры сабе, корпайся ва ўсім гэтым, пішы, займайся дэканструкцыяй. Але не крыўдуй у такім разе, што ты заўжды будзеш другім. Так ужо закладзена, бо другараднасць, здаецца, – гэта лёс. І я не здзекуюся тут, не падкалваю, проста канстатую.

Калі ты дэканструктар, то табе проста неабходна з чымсьці працаваць. Тое, што ты будзеш дэканструяваць, разбіраць па частках, перамываць косткі, ашчадна іх абсмоктваць – і ёсць першым. Яно было да цябе, калі цябе яшчэ не было нават у планах. А я так не хачу.

Я хачу быць акурат сярод першых, стаяць у first line беларускай літаратуры.

## Дзень смерці Маякоўскага

Роўна 90 гадоў таму абарвалася жыццё паэта, які ў свой час адыграў значную ролю ў станаўленні маёй асобы. Пазнаёміўся з яго творчасцю як і ўсе – у школе. Тады мне былі найперш цікавыя тыя, хто выпадаў са школьнай праграмы або стаяў там асобна.

Мая ўласная троіца русліту той пары – Гумілёў, Маякоўскі, Хлебнікаў. Пра Мікалая Сцяпанавіча я ўжо раней пісаў. Цяпер можна і пра Уладзіміра Уладзіміравіча. Высокі, стрыжаны “пад нуль”, крэпкі, рэзкі – ясная справа, што нельга было абмінуць увагай гэтага “гарлапана” і “главаря”. Тым больш, калі дома было поўна ягоных кніжак. Вершы Маякоўскага – сапраўдны панк у параўнанні з прэснай паэзіяй іншых. Рэальны бунт і пратэст – тое, што шукае малады чалавек у свае 15-16 гадоў.

За яго плакатнымі агіткамі пра Леніна і партыю часцяком не бачаць сапраўднай лірыкі, якой у творчасці Маякоўскага насамрэч поўна. Футурызм футурызмам, але ж і гэтага не адняць. Ён быў вельмі таленавітым і пладавітым. Прычым з часам я палюбіў і ягоную прозу – кніга “Маё адкрыццё Амерыкі”, спехам напісаная ў 1926 годзе, і цяпер адзін з маіх любімых травелогаў.

Дарэчы, у 1925 годзе заязджаў ён з выступам і да нас у Менск. Крытык Адам Бабарэка азваўся тады гнеўным артыкулам “Маякоўскі зьдзекуецца”, у якім пляжыў і Маякоўскага, і ягоны футурызм. Вось што ён пісаў пра гэты рух: “Футурызм – гэта зьдзек над сапраўдным мастацтвам, якое футурыстамі замяняецца рамяством рэклямаваньня і наогул рамяством. Замест бота футурызм падносіць пралетарыяту падпраўленыя буржуазныя атопкі”.

Праз пэўны час нападкі на футурызм ішлі ўжо з усіх бакоў. У савецкай дзяржаве пачаўся лагічны адыход ад рэвалюцыйнай эстэтыкі і паварот да рэакцыі, пад сцягам якой і прайшлі ўсе 1930-я.

Паглядзіце фільмы таго часу, напрыклад, стужку «Строгі юнак» – і ўсё зразумееце самі. Мінулае вярталася і брала сваё. У такой сістэме Маякоўскаму ўжо не было месца – ягоная рэвалюцыя скончылася. Думаю, гэта ён пачаў разумець ужо ў другой палове вірлівых 1920-х. Таму і застрэліўся.

Як па мне, то ўсё правільна зрабіў.

## Ордэн

Мала хто ведае, што ў ранняй БССР існавала ўласная ўзнагарода – Ордэн Працоўнага Чырвонага Штандару, якім адзначалі не толькі за працоўныя, але і за вайсковыя дасягненні. Аўтар эскізу – Генадзь Змудзінскі, тутэйшы чалавек цікавага лёсу. Ён таксама распрацаваў адзін з варыянтаў герба БССР.

Малюнак і апісанне да ордэна захаваліся да нашых дзён. Каляровая графічная выява ордэнскага знака сведчыць не толькі пра бездакорны густ і высокае майстэрства аўтара, але і пра веданне ім гісторыі свайго краю, разуменне важнасці выкарыстання ў такой узнагародзе характэрнай для краіны сімволікі.

І вось вельмі цікавы факт: на ордэне замест сярпа з молатам, якія з'яўляюцца сімвалам савецкага ладу, змешчаны скрыжаваныя серп з сякерай. Менавіта гэтыя рэчы клалі нябожчыку разам з ваярскім рыштункам на тэрыторыі сучаснай Беларусі старажытныя балты, якія адыгралі важную ролю ў этнагенэзе беларускай нацыі і стварэнні Вялікага княства Літоўскага.

## Фаталізм

Бліжэй да вечара я супакоіўся, спарадкаваў думкі і змірыўся.

Прыгадаўся "Фаталіст" Лермантава, з якім пазнаёміўся ў свой час па настойлівай рэкамендацыі бабулі. Моцна запаў у душу тады вобраз серба Вуліча, ён адзіны, хто сапраўды зацікавіў з усяго рамана. Вырашыў яго перачытаць.

Вера ў свой лёс – цікавая штука. Але мне падаецца, што ісціна недзе пасярэдзіне.

## Званок

На наступны дзень пасля другога тэсту мне патэлефанавала доктарка і радасна абвесціла – тэст адмоўны. "Можаце падыхаць свежым паветрам, але ж не забывайцеся пра меры перасцярогі і беражыце сябе!" – сказала яна на развітанне.

Тут можна было б напісаць пра тое, што я адчуў эйфарыю, свабоду і радасна пабег на вуліцу. Але ўсяго гэтага не было. Адзінае, аб чым я падумаў – што не хацеў бы, каб усё гэтае кола паўтаралася наноў. Вельмі б не хацелася губляць час на пустое, аднаго эксперыменту было болей чым дастаткова. Я даказаў самому сабе ўсё, што хацеў.

Галоўная выснова – асцерагацца трэба, нават калі не баішся хваробы, каб абмінуць як мінімум гэтую самую самаізаляцыю.

## Лёс і кон

Беларуская мова мне падабаецца за сваю разнастайнасць. Багатая на словы і сэнсы. Вось ёсць у нас лёс і ёсць кон. Я веру ў абедзве рэчы адначасова, хаця яны і ў нечым супрацьлеглыя, як мне падаецца.

Лёс – стварае і абірае сам чалавек. Яго ў выпадку чаго можна змяніць, перафарматаваць пад патрэбы, хіба што трэба прыкладаць тытанічныя высілкі. Адсюль і слова – лёсаванне. То бок у цябе заўжды ёсць хай сабе і невялікі, але ўсё ж шанец выцягнуць шчаслівы квіток.

А вось з конам складаней – гэта ўжо тое, чаго ніяк не абмінеш. Бо так было наканавана. Іншая справа, як прыняць гэты выклік. З ганарліва ўзнятай галавой, як ваяр або герой, ці проста скарыцца перад невырашальнай сітуацыяй. Трапіць пад уладу абставінаў і вонкавых працэсаў, калі ад цябе нічога ў прынцыпе ўжо і не залежыць.

## Яйка

Пайшоў на вечаровы шпацыр. У горадзе было зусім пуста. Сустрэў на праспекце таварыша. Павітаўшыся, ён працягвае мне нейкі скрутак ды кажа:

– Трымай яйка, апошняе!

– Што мне з ім рабіць?

– Можаш з’есці. Яно нармальнае. Заўтра ж Вялікдзень!

Самыя лепшыя сустрэчы – выпадковыя. Усё лепшае і светлае, што з намі адбываецца – гэта тое, што незапланавана.

## Дзень пошукаў сэнсу жыцця

Сённяшні дзень мае такую нетрывіяльную назву. Яго адмыслова прыдумалі для таго, каб чалавецтва хаця б зрэдку задумвалася над сваім існаваннем.

Мы жывем у надзвычай вірлівы час, калі трэба паспяваць болей, чым можаш зрабіць. І не заўжды за ўсімі побытавымі рэчамі знаходзіцца хвілінка, каб задумацца – а ці туды я рухаюся. Ці ўсё правільна раблю? Навошта мне гэта?

Памятаеце, у школе былі папулярнымі “анкеты”? Звычайны сшытак са спісам пытанняў, які пускалі па класе, і кожны ахвочы пісаў нешта цікавае пра сябе. Любімая музыка, любімыя стравы, любімыя фільмы і ўсё такое. Адно з пытанняў, якое пераходзіла са сшытка ў сшытак – кім ты хочаш стаць/быць?

І з кожным годам жыцця ты ўсё менш думаеш пра гэта, але ўсё болей надаеш ўвагі надзённым пытанням. “Не да херні!” – як кажа адзін мой сябар.

Дык вось цяпер, у эпоху пандэміі, каранцінаў і самаізаляцыі самы час занурыцца ў сябе ды заняцца рэфлексіяй. Эксперты кажуць, што калі ўсё скончыцца, свет будзе іншым. Так гэта ці не – праверым эмпірычным шляхам. Але ў кожнага з нас ёсць мажлівасць змяніць свет да лепшага, прынамсі свой унутраны.

## Літоўскія курганы

Вы калі-небудзь бачылі магілы сваіх продкаў? Не блізкіх, кшталту дзядулі з бабуляй, а больш далёкіх, занесеных часам і сівой даўнінай. Я – так!

Мяркуючы па допісах у сацыяльных сетках, многія ў нас любяць "рубіцца" за гістарычную спадчыну ВКЛ. Ведаюць, дзе хто і каго перамог, заснаваў ці напісаў нешта важнае. А тымі, хто гэтае самае Вялікае княства ствараў, цікавіцца не спяшаюцца.

Асабіста мне вельмі падабаецца культура ўсходнелітоўскіх курганоў. Даведаўся я ўпершыню пра яе ад сяброў, з якімі вучыўся разам на гістарычным факультэце. Менавіта ў іх, распаўсюджаных на беларуска-літоўскім памежжы пахаваннях, ляжыць попел і зброя тых людзей, якія ў 13 стагоддзі пачалі ствараць вялікую дзяржаву.

Візуальна курганы цяжка знайсці на мясцовасці – прыродны ландшафт хутка змяняецца. Але ёсць шэраг фактараў, па якіх іх можна адшукаць – даўнейшыя літоўцы хавалі сваіх памерлых, спальваючы іх на вогнішчы. Як правіла, на крутым беразе ракі, з якога адкрываўся маляўнічы краявід.

Далей справа за старадрукамі, а таксама працамі папярэднікаў – сто гадоў таму навука, археалогія ў прыватнасці, была куды больш сціплай, таму часцяком нават знакамітыя навукоўцы, займаючыся распрацоўкай могільнікаў, маглі ўпусціць важныя дэталі. Цяпер жа адшукаць такія месцы нашмат лягчэй.

***

Курганы маюць пах сырой зямлі, вільгаці і гнілля. І ўсё гэта асацыюецца са смерцю...

Капаць раскоп, у якім ляжыць даўнейшы чалавек, не страшна. Хаця пэўная няёмкасць, вядома, адчуваецца. І робіцца гэта вельмі акуратна, рукамі, каб не парушыць культурны слой. Знайсці чалавечыя косці наўрад ці ўдасца – літоўцы і ў 14 стагоддзі палілі людзей на вогнішчах, упарта трымаючыся веры продкаў. Невялікая жменька попелу – вось і ўсё, што заставалася ад ваяра, ягонай жонкі, дзіцяці ці старога.

Затое захаванасць пахавальнага інвентару (праўда, толькі жалезнага), як правіла, выдатная. Можна сваімі рукамі памацаць сякеру, піку, меч, нож, якімі карысталіся калісьці літоўскія дружыннікі.

Князі той пары рабавалі варожыя цэрквы, вывозілі багацці, па некалькі разоў за жыццё прымалі хрост, але сканчвалі жыццё згодна з традыцыяй. Найлепшы прыклад – бацька Ягайлы, вялікі літоўскі князь Альгерд, якога ў 1377 годзе спалілі на вогнішчы разам з 12 баявымі канямі, срэбным поясам і іншымі рэчамі, якімі ён карыстаўся пры жыцці.

Наяўнасць пахаванняў з коньмі і асобных конскіх пахаванняў сведчыць пра вельмі паважлівае стаўленне да гэтых жывёлаў. І зразумела чаму: хутарское мысленне і імкненне да асабістай свабоды ў той час выдатна спалучалася з надзвычай высокай пасіянарнасцю. Чытаеш летапісы – бясконцыя войны, выправы, набегі. Цяжка ўзброенае войска пад чырвонай харугвай з белымі Калюмнамі з неверагоднай хуткасцю перасоўвалася па сваёй і варожай тэрыторыі.

Пахаваныя ў тых курганах былі даволі аскетычнымі, ваяўнічымі, мелі высокую ступень мілітарызаванасці. Зусім не дзіва, што менавіта ім належыць выключная роля ў стварэнні ВКЛ.

У звычая паліць нябожчыка ёсць адзін вялікі мінус – немагчыма рэканструяваць знешні выгляд спаленых. Здавалася б, хрысціянізацыя павінна была выправіць становішча, паўплываўшы на пераход ад крэмацыі да інгумацыі, але ж затое знікае большая частка пахавальнага інвентару. Вось і атрымліваецца, што ў адным месцы могуць быць два могільнікі: адзін, ранейшы, з вялікай колькасцю зброі, уладальнікі якой назаўжды зніклі ў глыбіні стагоддзяў, а другі, пазнейшы, амаль без інвентару, але затое з парэшткамі.

Учарашнія язычнікі, яны хрысціліся, але пры гэтым заставаліся ў душы чымсьці сярэднім паміж хрысціянінам, які не да канца верыць у Бога, і язычнікам, які яшчэ да канца не выракся старой веры. І ўсё гэта за некалькі пакаленняў вельмі арганічна пераплялося і дайшло да нас.

## Зямля

Класна было нашым продкам: чытаеш летапіс, а літоўцы пад Ноўгарадам, раз – і яны пад Смаленскам, захацелі – і пайшлі ў Крым. Ну і нармальна ж так збольшага прабівалі «выправы», кажучы сучаснай моваЙ.

Не тое, што зараз: працуй цэлы год, збірай, адкладвай, каб аплаціць сабе вандроўку на два тыдні з жонкай і дзецьмі, або без іх, на які курорт. Там быў сапраўдны драйв!

Адзінае, чаго я пакуль не разумею, дык гэта чаму, калі нашыя продкі былі такімі сапраўды важнымі ды крутымі, яны не захапілі зямлю з якім-небудзь больш трывалым кліматам. А маглі б! І было б усё ў шакаладзе!

А так заблытацца можна ад таго, якое надвор'е за вакном: то цёпла, то холадна, то дождж, то снег, то яшчэ якая трасца. А калі б прыхапілі сабе якое месца, дзе сонца, пальмы, цёпла, прыгожыя дзяўчаты ў купальніках танчаць.

Вось гэта было б свята!

## Кола агляду

Для таго, каб зразумець, наколькі змяніўся горад за апошнія 30 гадоў, дастаткова ўсяго толькі набыць квіток на кола агляду ў сталічным парку Горкага. Наш атракцыён, канечне ж, не такая славутасць, як, напрыклад, кола аглядаў у Вене, яго няма на постэрах і магнітах, але з яго ўжо зараз можна добра разглядзець сучасныя абрысы Менска.

Калі быў малы, горад здаваўся адной вялікай закінутай будоўляй. Пасярод яе на Кастрычніцкай плошчы стаяў недабудаваны палац Рэспублікі, каля агароджы якога было першае месца дыслакацыі сцяны Цоя. Гэта ўжо пазней яна пачала качаваць па горадзе. А недабудаваныя гмахі трапляліся то тут, то там, яны тырчэлі сваімі іржавымі арматурамі з бетону і нагадвалі пра вялікую дзяржаву, якая нядаўна скончыла сваё існаванне.

У той час я не любіў атракцыёны. Сямейны бюджэт быў надзвычай сціплы, таму катаўся на іх я вельмі рэдка. Звычайна проста гуляў з матуляй па парку, глядзеў, як іншыя дзеці весяляцца на каруселях, і думаў аб тым, што месца, дзе я жыву, мне зусім не падабаецца. Яно тады падавалася надта змрочным і бесперспектыўным.

Седзячы ў кабінцы на коле агляду, міжволі вачыма шукаю знаёмыя і

родныя месцы, вяртаюць у памяці імгненні мінулага. Погляд спыняеца на ТЭЦ-3. Побач Дражня, Партызанскі праспект, Велаз, Аўтаз, Шарыкі і легендарныя Шабаны. Заводскі раён. А недзе на ўскрайку, ля кальцавой, прытаілася Ангарская, на прасторах якой і прайшло маё дзяцінства. Ніколі б не падумаў, што вазьмуся калі-небудзь пісаць нешта пра яе.

Постсавецкая рэчаіснасць не самы лепшы стымул для творчасці. Але разам з тым менавіта дзякуючы гэтаму раёну я стаў тым, кім ёсць цяпер.

## Раёнчык

Нягледзячы на кепскую славу, наш раёнчык быў даволі спакойным і больш нагадваў утульнае мястэчка, чым адно з самых крымінальных месцаў сталіцы. Дом, дзе я жыў, стаяў на самым яго ўскрайку, далей быў толькі школьны стадыён, лес і кальцавая дарога. У лесе мы прагульвалі ўрокі, а летам збіралі грыбы і ягады, якія паспяхова “ўпульвалі” каля ўніверсама мінакам.

У лесе, асабліва за кальцавой дарогай, было шмат цікавых месцаў: акопы часоў вайны, закінуты танкавы палігон, аэрадром і вузкакалейка. Менавіта па ёй ішоў цягнік, на якім ехалі героі “Шабаноў” Альгерда Бахарэвіча.

Гадзінамі, замест урокаў, мы сядзелі каля гэтай закінутай чыгункі і чакалі, калі ж нарэшце з’явіцца цягнік. Здавалася, што мы нават чулі яго і вось-вось ён павінен быў з’явіцца, нехта з маіх сяброў нават сцвярджаў, што бачыў на ўласныя вочы эшалон. Але дзень праходзіў, трэба было вяртацца дамоў, а цягнік так і не з’яўляўся. Як ён выглядае, я даведаўся праз шмат гадоў, адкрыўшы раман пісьменніка.

Забавы ў нас былі болей чым сур’ёзныя. Акрамя чыгункі мы хадзілі на закінуты палігон і аэрадром. Шукалі што-небудзь цікавае. Каму шэнціла – вярталіся дамоў з гільзамі, гузікамі з зоркамі ці яшчэ якімі артэфактамі савецкага мінулага.

Хлопец з суседняга двара неяк знайшоў міну і прыцягнуў яе ва ўласны двор, а потым паклаў у пясочніцу. Пільныя бабулькі патэлефанавалі куды трэба, і вельмі хутка ў двары з’явіліся сапёры з сабакам. Усё абышлося: міна аказалася муляжом, а хлапцу таму бацькі добра потым накруцілі вушы.

## Сталіца

Гартаў не так даўно кніжкі пра Парыж і Берлін 1920-х, дык вось што падумалася...

Цяперашняму Менску вельмі не хапае кавярняў, бараў і пабаў, дзе збіраліся б розныя пасіянарыі. Пісьменнікі, мастакі, авантурысты, фанаты ну і розныя іншыя дзівакі.

Не проста буржуазных забягалавак, а месцаў, пра якія потым будуць пісаць у кнігах ды здымаць фільмы. Якія трапяць у гісторыю праз сваіх незвычайных і неўтаймаваных наведнікаў.

Мне б агулам хацелася, каб Менск калі-небудзь у будучыні стаў сусветнаю сталіцай. Як некалі, у пачатку мінулага стагоддзя, ёй быў Парыж. Гэта было б прыкольна, каб мы нарэшце перасталі быць на падхопе ў іншых. Бо і нам жа ёсць што паказаць.

Напэўна...

## Менск даваенны

Ёсць стары, яшчэ даваенны фотаздымак.

На ім зроблены рукой подпіс: “Ленінская вул., Менск”. У далечыні бачны пляц Волі, на пярэднім плане дарога, на ёй аўто. Па двух баках жылыя будынкі, у якіх на першых паверхах крамы. Малако, сыр, БелКамунБанк. Менск адразу так і не пазнаеш. Яго можна з лёгкасцю паблытаць з якім Львовам або Вільняй.

Мне той даваенны Менск вельмі падабаецца. Цікава, якім быў тагачасны горад? Як бавіла свой час моладзь?

## Літаратары 1920-х

Калі чытаю хаця б нешта пра “Маладняк” або “Узвышша”, то дзіўлюся, наколькі актыўнае жыццё было ў літаратараў той пары. Надзвычай вірлівая эпоха, неверагодна дынамічная. Тагачасныя людзі паспявалі рабіць за пяцігодку тое, што іншыя часам робяць цягам усяго жыцця.

Яны ж не проста творы пісалі і публікаваліся, але крытыкавалі, дыскутавалі, выкладалі і вучыліся. А многія да ўсяго яшчэ і працавалі! Акрамя гэтага, яшчэ змагацца за Беларусь, хай сабе і пад чырвоным сцягам, паспявалі. І на ўсё гэтае ім хапала сілаў. Неяк не бачыў роспачы ў іхніх творах той пары. Наадварот! Толькі наперад! Толькі перамога! Толькі хардкор!

Самота і расчараванне прыйдуць пазней, калі пачнецца лагічнае з гістарычнага пункту гледжання закручванне гаек. Так заўжды бывае ў гісторыі – на змену рэвалюцыі прыходзіць рэакцыя. І яна можа быць не абавязкова варожай, хутчэй нават адных з табою колераў.

Рэакцыя – гэта заўжды гільяціна. Спачатку абсякаюць усе магчымасці, а потым абнуляюць і цябе самога.

## Першы дзень зімы

Часам бачу адзін і той жа сон. Першы дзень зімы. Ноч. Нас, разутых і сонных, гоняць на двор. Вакол снег. “Школа замініравана!” – кажуць выхавацелі. Усе разам чакаем сапёраў. Малым побач весела, хоць і крыху страшна. Неспакойны час на двары – сканчваецца 2002 год. Мой дзявяты клас.

Абдымаю сваю дзяўчыну, грэю яе. Сам гляджу на малую, здаецца, з сёмага класа, з якой колькі гадзін таму танчыў на школьнай дыскатэцы. Мая дзяўчына гэта заўважае, але нічога не кажа. Усё, як у дарослых...

У мяне на галаве іракез. Не так даўно жартам мне выстрыглі яго на раёне. У нас там свая тусоўка, называецца проста – сем. Гэта ад сёмага паверха, на якім мы збіраемся. Прыходзяць туды, здаецца, усе актыўныя нашага ўскрайку: панкі, нефармалы, металісты, фанаты.

Я адзін смелы – не кожны адважваецца хадзіць па раёне з такою фрызураю. Лёгка можна атрымаць дзе-небудзь у твар ад мясцовых або залётных гопнікаў. Неяк яшчэ летам мы паехалі на Калгасны рынак па цішоткі. Арыя, Кароль і Шут і гэтак далей. Старэйшыя мне сказалі, каб хаця не дадумаўся набыць з Летавым – “грабы” гэтыя, маўляў, самыя адмарожаныя. Іх усе ненавідзяць! І свае, і чужыя. Пасля такі словаў я,

канечне ж набыў сабе цішотку з Ягорам. Не мог не набыць. Мне падабаецца выклікаць агонь на сябе.

...Прыехалі сапёры з сабакам. Нямецкая аўчарка, як у серыяле “Камісар Рэкс”. Ходзяць па школе з ліхтарамі і вакол яе, нешта шукаюць, відаць, бомбу. Мы ўсе моўчкіназіраем. У натоўпе нехта бесперапынна расказвае вершы пра “маленькага мальчыка”, які нешта там знайшоў, націснуў, зрабіў. Рагочуць. Мне нясмешна. Пад вопраткай адчуваю пот, які вельмі хутка астывае і робіцца халодным. Неяк зусім не па сабе.

Праверылі. “Ложная трывога!” Звычайны тэлефонны тэрарызм! Нехта няўдала пажартаваў. Адбой! Ідзем класціся спаць. Усе думаюць на майго сябра, якога няма і ў якога сёння дзень народзінаў. Але я ведаю, што гэта не ён. Бо ён бы так ніколі не зрабіў.

## Маякоўскі

Люблю пераглядаць старыя фотаздымкі. Вось адзін з іх, які мне найбольш падабаецца. На ім, сярод шэрых хрушчовак, стаіць юнак у чорным гарнітуры. Твар сур’ёзны, вочы злыя, галава голеная. У ягоных руках атэстат аб сярэдняй адукацыі. Гэта – я.

У той час Маякоўскі быў для мяне іконаю стылю. Не толькі паэтычнага, але і знешняга. Таму і вырашыў на ўручэнне атэстата аб сярэдняй адукацыі пагаліць галаву “пад нуль”

– З табою ўсё нармальна? – нервова спытала класная, калі ўбачыла мяне.

– Нармальна! – са смехам адказаў я.

– Ты што, пад крыміынальніка косіш?

– Пад Маякоўскага!

– Тады добра!

– Можна?

– Вядома, можна, калі, канешне, не падманваеш мяне! – сказала яна і цёпла ўсміхнулася.

## Дарослае жыццё

Позні вечар. Звоніць сябар.

– Здароў! Як сам? Як здароўе?

– Усё нармальна, пацыху. Ты як?

– Таксама жывы.

Раней я ставіўся абыякава да ўсіх гэтых неабавязковых удакладненняў. Але ў адно імгненне ўсё перамянілася. Цяпер пытаюць пра здароўе не для галачкі, каб проста спытаць, а ўсур’ёз. Бо кожны можа падчапіць малавывучаную заразу.

– Мо сустрэнемся сёння? Піва вып’ем! – працягвае сябар.

– Не магу, не выпадае ніяк.

– Што так? Няўжо баішся? – цікавіцца ён.

– Ды многа ўсяго трэба зрабіць, не паспяваю, як заўжды.

– І як заўжды дынаміш! – кажа ён з лёгкай крыўдай, развітваецца і сканчвае размову.

Цяпер мы бачымся ўсё радзей. А былі часы, калі ці не кожны дзень сустракаліся. Дарослае жыццё – яно такое.

## Неба

Па абедзе неба было ўжо не такім шэрым, як з раніцы, а чорным. Такое неба ўласцівае для скандынаўскіх краінаў. Я ведаю, бо некаторы час, літаральна імгненне, паспеў там пажыць.

У горадзе амаль не было людзей, і таму я адчуваў сябе вольна. Гадзінамі швэндаўся ў поўнай адзіноце па вуліцах і парках горада. Патрапіў пад дождж. Бадзяцца па вуліцах, як сабаку, не хацелася, але вяртацца дамоў таксама не было ніякага жадання.

У такі дзень я з радасцю завітаў бы да якой паненкі, залез да яе ў ложак ды як след пагрэўся б, але падыходзячай кандыдатуры так і не здолеў прыгадаць.

## Асмалоўка

Гэты невялічкі квартальчык быў і застаецца ў маім сэрцы, бо там жывуць мае сябры. Для мне гэта не толькі месца, якое звязана з прыемнымі ўспамінамі юнацтва. Гэта такі сабе ідэал.

Невялікі раён з двухпавярховымі дамкамі, якія маюць сваю гісторыю. Усе ўсіх ведаюць, нічога не схаваеш. Бо я, напрыклад, нават не ўяўляю, з кім жыву ў адным пад'ездзе. Вядома, асобных суседзяў я ведаю і нават вітаюся з імі, але ж не большасць.

Я такія пасёлкі бачыў, калі быў у Даніі. І мне падабаюцца гэтыя кампактныя анклавы, дзе ўсе свае і ўсё сваё. Такое адчуванне, што там спыніўся час. Праходзіш, бывае, вечарам і бачыш сябе самога ўзору пятнаццацігадовай даўніны ў кампаніі таварышаў.

## Караткевіч

Караткевіч не ўваходзіць у мой асабісты топ беларускіх пісьменнікаў. Я не прыйшоў праз яго да беларускай мовы, гісторыі і культуры.

Не захапляўся я ні Алесем Загорскім, ні Гервасіем Вылівахам, ні іншымі персанажамі. Хутчэй наадварот – ягоныя творы ўжо ў школе падаваліся мне занадта рамантычнымі і ідэалістычнымі. І ўжо тады ў жыцці здараліся пэўныя падзеі, якія прыносілі з сабою разуменне таго, што жыццё – гэта не толькі чорнае або белае, але хутчэй шэрае. Адпаведна, і героі ў мяне былі іншыя.

Мяне вабіў рэалізм, хай сабе часам і даволі брудны. Хацелася вучыцца сапраўднаму жыццю, а не бегчы ад яго ў ілюзорны свет. Тым не менш кожны раз, калі я праходжу праз Асмалоўку, заўжды затрымліваюся каля гарадской скульптуры, якая падобная на Караткевіча.

Каб мне было зараз гадоў пятнаццаць, то я б абавязкова тусіў бы менавіта каля яе. Дзіўна, што яе яшчэ не аблюбавалі якія-небудзь нефармальныя маладзёны ў расцягнутых байках.

## Капенгаген

Гарачы глінтвейн мне нагадвае пра Капенгаген. Пра тыя дзянькі, калі

я жыў у старасвецкім гатэлі, удзень вучыўся, а па вечарах бадзяўся ў адзіноце па дацкай сталіцы. Было хораша, і надвор'е спрыяла. Вельмі люблю Скандынавію!

Памятаю, як на калядным кірмашы трапіўся мне мужчына, які бываў у Беларусі. Спачатку ў 1980-х, праездам, а потым ужо і як турыст у незалежнай краіне. Пра Беларусь ён ведаў мала, але веды ягоныя былі нетыповымі – ён чуў пра тое, што ў нас дзве дзяржаўныя мовы, некалькі правапісаў беларускай, і разумеў, што мы не частка Расіі.

Як толькі мужчына гэты пачуў, што я з Менска, то рашуча адмовіўся браць хоць бы якую аплату за свой глінтвейн. Наліваў проста так! Прычым не раз і не два. Ну а я, як сапраўдны беларус, гэтым карыстаўся. Добра, калі твая нацыянальнасць прыносіць табе хаця б нейкія выгоды, а не толькі пакуты.

## Сяброўства

Быць добрым сябрам – гэта трымацца таго, хто побач. Каб было сапраўднае адчуванне локця. Не толькі на словах, але і на справах. Здавалася б, вельмі простая рэч. Але насамрэч усё складаней.

Мы лёгка, асабліва пад алкаголем, даем клятвы і абяцанні. Але ж пры гэтым выконваць іх не спяшаемся. Ці наадварот – клянемся ў вернасці, а самі за спінамі пляткарым, паліваем брудам і робім не самыя прыемныя рэчы. Не скажу, што я ў гэтым плане белы і пухнаты. Такі ж як усе, не лепшы дакладна.

Але мяне шчыра злуе, калі ўсё гэта апраўдваецца чалавечым фактарам. Маўляў, я схлусіў ці падвёў не таму, што я хрэновы, а таму што чалавек. Добрая аргументацыя! Так і алкаголік можа сказаць, што п'е не таму, што ён залежны, а таму, што яму падабаецца гэта рабіць.

Каб быць добрым сябрам, як мне падаецца, трэба проста імкнуцца выконваць свае абяцанні і быць заўжды верным. Няма большага шчасця ў жыцці, чым разуменне – яны заўжды побач, што б ні здарылася. Калі маеш хаця б пару такіх чалавек, любую бяду можна адолець.

## Юля

Канчатковае разуменне таго, што нашая літаратура нечага вартая, прыйшло ва ўніверсітэце. У мяне была лёгкая інтрыжка з дзяўчынай па імені Юлія.

Калі яе звалі Юляй, яна вар'яцела, настолькі ненавідзела гэтае імя. Толькі Юлія! Яна была літаральна зачаравана старажытным Рымам! Відаць, яе любімым персанажам быў Гай Юлій Цэзар.

Я не разглядаў яе як нейкі сур'ёзны варыянт. Выключна пагуляць разам, схадзіць у кіно, выпіць піўка, пацалавацца на начным праспекце. Сур'ёзныя адносіны ў той час былі не для мяне. Навошта? Каб пасля праз год яна мне сказала "жаніся!", праз два пайшлі дзеці, а там далей крэдыты, машыны, дачы... Не! Гэта было занадта рана. Але ж пагуляць можна! Зрэшты, Юлія і сама не надта імкнулася да сямейнага жыцця. Яе таксама задавальняў наш фармат адносінаў. Цяжка паверыць, але мы

амаль не размаўлялі па тэлефоне. Хіба толькі дамаўляліся аб сустрэчы. Па факце ў яе было сваё жыццё, а ў мяне сваё. Ніхто з нас не пераходзіў асабістых межаў.

І вось аднойчы, цёплым вясновым днём, яна запрасіла мяне да сябе. Бацькі з'ехалі на лецішча, кватэра была пустая ўсе выходныя, адмаўляцца не было ніякага сэнсу. Разлічваючы на тое, што мы будзем не толькі абмяркоўваць гісторыю рымлянаў, я ўзяў бутэльку неблагога італьянскага віна ды выправіўся да яе. Юлія вельмі любіла ўсё італьянскае, нават збіралася вывучыць мову ды перабрацца ў Рым. Казала, што там нібыта добрыя ўмовы для тых, хто вырашыў вучыцца.

Сустрэла яна мяне шыкоўна: вегетарыянская піцца, зробленая ўласнымі рукамі, паста, чэшскае піва. Усё як мае быць! Мы сядзелі на кухні, елі, размаўлялі і глядзелі "Малену" – мой любімы фільм. Я распавядаў ёй показкі, яна смяялася. Усё ішло да лагічнага фіналу і было добра, пакуль я не зайшоў у яе пакой.

Вялікі і прасторны, з мінімумам мэблі. Я і не быў да гэтага ў такіх сучасных дамах з арыгінальнай планіроўкай. Гэта не мая прамакутная панэлька. Стол, крэсла, канапа, кветкі, статуэткі, шафа для вопраткі, шафа для кніг.

Вось кнігі мяне і здзівілі найбольш! Столькі антычнай ды рознай іншай гістарычнай літаратуры я нідзе не бачыў. Але яшчэ больш мяне здзівіла тая аграменная колькасць беларускіх кніг, якая прысутнічала на паліцах. Здаецца, тут было ўсё: пачынаючы ад "Слова пра паход Ігараў", "Песні пра зубра" Міколы Гусоўскага і Статута ВКЛ ды заканчваючы Уладзімірам Арловым і Юрыем Станкевічам.

Як дзіцё, якое ніколі не бачыла да гэтага кніг, я хадзіў, кранаў, даставаў, гартаў, вяртаў на месца. Мне было цікава, ці чытала яна іх усе? Канечне ж, чытала! Вось і пазнакі на палях, як у старажытных летапісах – маргіналіі. Акуратны, амаль каліграфічны почырк, толькі алоўкам, пяшчотна так выведзены, відаць, каб пасля можна было сцерці.

– Тебе что-то подсказать? – яна стаяла ў дзвярах, ва ўсім чорным: прамыя валасы, кароткая сукенка і нават бранзалет-гадзіннік. Марціша Адамс у маладыя гады, не іначай.

– Ты ўсё гэта чытала?

– Да, представь себе, могу и тебе дать! – яна падышла да мяне.

– І на мове таксама?

– Таксама. Няўжо ты думаеш, што я не ведаю роднай мовы?

– Ды не, проста цікава. І хто табе найбольш падабаецца?

– Адам Глобус, моя любимая его книга "Толькі не гавары маёй маме". Слышал про такую? Садись, я расскажу!

Я паслухмяна, як школьнік, вярнуў кнігу на месца ды сеў на канапу. Яна, падабраўшы рукамі сукенку, села на мяне. Закінуўшы за маю шыю абедзве рукі, крэпка абняла ды пацалавала ў вусны. Ёсць! Але як толькі я абняў яе ў адказ і прытуліў да сябе, недзе ўнізе раздаўся трэск. Юлія адскочыла ад мяне так хутка, нібы апяклася.

– Затяжка, б***ь! – яна, крыху схіліўшыся, шукала нешта на сваіх нагах.

– Што здарылася? – не разумеючы, перапытаў я.

– Да это итальянские чулки! Я же их первый раз одела! Ради тебя! И о тебя же их испортила!

– А я тут пры чым?

– Да липучки твои эти ненужные наделали затяжек! Да ты вообще понимаешь, что они дороже твоих штанов стоят?

– Мы ўсё паправім! Хадзі сюды!

– Ничего я уже не хочу! Лучше уйди...

Усё папсаваў камуфляж “Белая ноч”, у які я быў апрануты. Справа ў тым, што спераду, але чамусьці не па баках, былі дзве кішэні на ліпучках, якія я забыўся закрыць. Сеўшы на мяне, Юлія папсавала імі свае панчохі. Мы разышліся. Гэта быў апошні раз, калі я яе бачыў. Потым толькі праз смс канчаткова развіталіся.

Доўгі час мне было сорамна. Але не за ліпучкі на маіх недарэчных штанах, якія нарабілі ёй зацяжак і пакінулі мяне без сэксу. Мяне вельмі ўразілі ейныя кнігі, а сорамна было за тое, што большасці з іх я не чытаў.

Гэта было проста смешна – у культурным плане гэтая манерная аматарка італьянскіх панчохаў выглядала куды большай нацыяналісткай, чым я. Пры гэтым нацыяналістам, правым кансерватарам, пазіцыянаваў сябе менавіта я, а не яна. Яна наогул ніколі нічога не казала пра гэта.

Калі ўявіць, што яе ўцягнулі б у які палітычны рух, то яна хаця б ведала, за што яна змагаецца. У яе было разуменне таго, чаго вартыя ўсе гэтыя кнігі і іхнія аўтары – я заўважыў гэта па тым, як акуратна яны былі расстаўлены. Відавочна, што цёмнымі вечарамі, мо захутаўшыся ў які плед, яна сядзела з кубкам капучына ды пяшчотна гартала іх. У яе, рускамоўнай дзяўчыны, зачараванай рымлянамі, было натуральнае адчуванне беларушчыны.

## Дзень Перамогі

У вайну майго дзеда ставілі да сцяны немцы, бо ён быў з партызанскай сям’і. Не расстралялі разам з малодшым братам толькі таму, што суседскія жанчыны нарабілі гвалту. Немцы тады нікога не расстралялі, толькі папужалі. Ён пасля гэтага доўга яшчэ не хацеў ісці дадому, спаў дзе прыйдзецца – баяўся. Каб ні сабе, ні радні не нарабіць праблемаў. Гэта, відаць, сур’ёзна надламала ягоную псіхіку.

Родны брат бабулі пайшоў на фронт добраахвотнікам, дайшоў да Берліна – пакінуў аўтограф на Рэйхстагу. Жончын дзед таксама быў на вайне, таксама быў паранены, таксама дайшоў да Берліна. У сяброў дзяды таксам былі на вайне, таксама вярнуліся з яе пераможцамі.

Таму калі мяне пытаюць, чаму я святкую Дзень Перамогі – мой адказ даволі просты, пазбаўлены ўсякай ідэалогіі і канцыляршчыны: бо я заўжды буду за сваю каманду. Тым больш, калі прыйшлі не мы, а да нас, а мы і не звалі нікога. І да ўсяго, калі твая каманда аказалася мацнейшая, грэх за яе не заўзець.

*(Заканчэнне будзе.)*

Яўген Скібскі




...Я ж не хлапчук,
а як закарцела!
Ціха едзе страха.
Я хачу кахаць яе, вочы, цела...
Хачу кахаць!..

# Аўтобус

***Паэмка***

*Нейкай італьянскай дзяўчыне*

Аўтобус ад’ехаў у сем гадзін.
Навокал людзі,
людзям весела.
Кондзік будзе мяне студзіць –
горача
ў горадзе Есала.

Вечар,
а льецца мора цяпла.
Навокал ціша й спакой.
Сяджу, прыціснуўшыся да шкла
няголенаю шчакой.

За акном
вінаградніказы дыван,
маісавыя астрогі...
У галаве тужлівы цёк акіян
размаітага пустога.

Ехаць нам прыкладна 30 хвілін.
Маўчу,
няма чаго церці.
А вакол вінаградніказ
ружы цвілі –
іх індыкатары смерці.

*1*

Яна ўвайшла,
стала каля дзвярэй.
Іх зачынілі.
Яна ўвайшла –
кропля з лёдавых стрэх
у вясновыя дні.

Яна ўвайшла –
паветра апошні глыток
для канаючага ў нябыт.
Яна ўвайшла –
крыштальны выток
з жывою вадой нібы.

Яна ўвайшла...
Як узняўся лік
на трон найвышэйшай айчыны...
Я да яе, як пустэльнік, прынік
высахлымі вачыма.

*2*

Вочы мае,
спаленыя самотай,
яны бліжэй да цябе, чым я.
Хто ты?
Мо з тых,
для мяне бессмяротных?

Хто ты?
Адкуль?
Чыя?

Можа ты –
гэта рэінкарнацыя,
нябёсная з’ява?
Колькіх няма, у каго закахацца
мог бы я.

*3*

Думка падкралася, як драпежнік.
Ганю, а сам у адчаі:
мая італьянская мова ў межах
ад чао да чао.

Я ж не хлапчук,
а як закарцела!
Ціха едзе страха.
Я хачу кахаць яе,
вочы,
цела...
Хачу кахаць!

*4*

Раптам бачу – мяне заўважыла,
глядзіць на мяне,
глядзіць асцярожна,
глядзіць уважліва...
Я слупянею.

Усё, што з сэрца майго раней
па венах штурхалася крывёю,
у яе таксама ж, як і ў мяне.
Яна адчувае тое ж!

Калі б не ўбачыў – навек бы зачах:
пад яе павекамі-хмарамі
такое плавае ў вачах,
аб чым я нават не марыў!

Нешта сказаць?
Але палец яна
на вусны мае: маўчы.
Ёю выйграна вайна,
але абодва – уцекачы.

Спыніся, кіроўца,
пусці з аўтобуса.
Бяжым не тоячыся.
Я нават з нябёснага скочыў бы глобуса
не тое што...

Прэч з аўтобуса,
прэч сумневы
(хутка ж “нішто-нідзе”),
каб разам глядзець на неба з неба,
на мора скрозь мора глядзець.

Гляджу я,
але куды б ні глядзеў –
хачу глядзець на яе!
Куды б ні плыў я,
куды б ні ляцеў –
плыву і лячу да яе!

“Жэня! –
даносіцца праз туман. –
ЖЭНЯ!”...
Прытомнасць страчана...
Дзе я?
На месцы.
Яе няма.
Галава гарачая.

## Мойшэ Кульбак



...у свеце віруе вясна,
і ў табе чарадзейства яе...

# Райсн (Беларусь)

***Паэма***

***1. БЕЛАРУСЬ***

Мой дзед з Кабыльніка быў чалавек тутэйшы,
З сякерай і канём мужык у кажусе,
Маіх дзядзькоў шаснаццаць і мой тата –
Тутэйшыя, як соль зямлі, усе
Плыты па рэках гоняць, дровы цягнуць,
У поце робячы, што лёс дае скупы,
Вячэру даядаюць з адной місы
І падаюць у ложкі, як снапы.
Дзядуля мой залазіць ледзь на печку,
Спіць за сталом, бо ўжо не малады.
А ногі – самі завядуць на печку,
Бо верна служаць доўгія гады.

*Вершаваны пераклад Андрэя ХАДАНОВІЧА.*

*Даслоўны пераклад з ідыш Вольфа РУБІНЧЫКА і Сяргея ШУПЫ.*

## 2. КОСЯЦЬ СЕНА

У полі ўжо цягне туманамі восеньскімі на дасвецці.
Выходзіць касіць на балота мой дзед і ягоныя дзеці.
Па чарачцы з раніцы ўзяць, нібы клезмеры нашы, паспелі,
І ўсе васямнаццаць – за працу, і дзед на чале, як скрыпач у капэле:
І – крок, і – направа плячыма, і – жжжых! – нібы танец
маланкі вядуць на балоце.
"Бо хлеба кавалак, сыны, – кажа дзед ім, – заўжды
здабываецца ў поце..."
І свішчуць бліскучыя косы, мільгаюць зарослыя рукі –
капоты далоў! –
Нібыта яліны калматыя, тата старэнькі і дзеці,
сямнаццаць курчавых галоў...
Успыхваюць косы і пырскаюць росы, і падаюць травы далоў.
А птушка спявае ў ляшчыне, ды так, што сляза на вачах у дзядулі:
"Ну, кенар, ну, кантар! І дзе навучыўся? Вы гэткае чулі?!"

Закураць ды квасу глынуць са збана, ды навостраць мянташкамі косы,
Пасля *Памагай*, – крэкнуць, – Бог! І наноў загудзе
сенакос шматгалосы,
І, як васямнаццаць люстэркаў, пабліскваюць косы на сонцы яскрава,
І спраўна згінаюцца рукі, і лыткі працуюць, і плечы
адводзяцца ўправа.
А потым заход пазалоціць ім косы, бо вечар нарэшце настане,
І хеўра ўсміхнецца: чакае бабуля даўно з селядцамі,
з бліндамі ў смятане.
І ўсе апранаюць капоты і крочаць дадому з касой на плячы,
І, слухаючы перапёлак, як рыба маўчаць, ідучы.

## 3. БАБУЛЯ

Мая бабулечка была жанчынаю пабожнай,
Майстрыхай дзетак нараджаць, штогод, вясною кожнай.
Без болю, быццам яйкі, на радасць ёй, квактусе,
Браты, за двойняй двойня, выходзілі з бабусі.
Траіх дзядзькоў радзіла, залезшы на паддашак,
Дваіх дзядзькоў шукала – згубіліся ў траве,
На печцы – адзінаццаць, як адзінаццаць пташак,
І ўрэшце быў мой тата, народжаны ў хляве...
А потым яе ўлонне замкнулася нявінна:
Дарыць пялюшкі бедным – ёсць занятак.
Зрабіўшы ўсё, што ты была, бабулечка, павінна, –
Хадзіць па хаце
Качкаю між любых качанятак.

### 4. ГОНЯЦЬ ПЛЫТЫ

Туманам замазала вёскі, дарогі, зацерла імжой без мяжы,
Твар цёплага поля намацваюць золлю навіслыя з неба дажджы...
Сям-там праглядаюцца дрэвы, асвер над калодзежам,
зрэдчасу хата, якая
Пасля расплываецца, і ўсё бялее ўваччу, і сусвет у тумане знікае.
Сухая галінка ўпадзе. Цішыня. Толькі птушачка плачацца дзесьці:
“У гэтым жыцці давядзецца так шмат перанесці,
Так шмат перанесці...”
Дзясяткі крынічак між градкамі плешчуцца, шэпчуць,
мармычуць, галосяць,
І толькі далёка-далёка з туману над Нёманам дзедавы крыкі даносіць:
“Шмуля, гэй, Шмуля,
Давай паварочвай зад на Скарулю[1]!..”

То дзед, бараду прамачыўшы, намацаў швартовы,
Дзядзькі на плытах з бусакамі[2] працуюць, знікаюць раптоўна
ў тумане, ды чуюцца крыкі і ўрыўкі размовы,
І плёск апачынаў[3], што плынь рассякаюць... Зацягвае бераг туман,
і нічога няма – дзе зямля, дзе вада пад вяслом?
І ўсё, што наўкола, існуе няісна – і дыхае мяккім цяплом...
Вось нешта віецца нябачнае... Вось праплываюць лясы і даліны,
Стаяць, быццам мэбля ў багатых дамах, абабітыя дымкай хаціны.
А потым прарвецца зялёная яснасць... І неяк душа праясніцца...
І вызірне сонца, і вербы ў слязах над вадою нахіляцца ніца.
Абмыты сінечаю лес галавой ззяе мокрай, над лугам
Высока-высока ліецца зіхценне... А ўнізе вясковец за плугам...

Раскоша лугоў травяных, што іскрыцца і пахне, і плача ў расе,
І пасмы туману, як мары палёў і далінаў, над ёю плывуць пакрысе...
Павольна, павольна плыты разам з рэчкай плывуць пакрыёма.
На сонцы блішчаць буданы, калі дождж і расу выпарае салома.
Дзядуля ж разлёгся ды вочы прымружыў, пацягвае з люлькі
тытунь з асалодай:
Наўкола зямля расцягнулася гэткім цяплом і лагодай,
Красуе ў палях і балотах, зялёных і жоўтых далінах –
Празрыстай ракой разліваецца лён на бурштынавых тонкіх сцяблінах,
Бульбянае поле застыла ў халоднай зялёнай красе
Ды кветкі ружовае грэчкі смяюцца, у крапінках белых усе, –
Зямля жыццядайнымі сокамі, хмелем салодкім цячэ,
Нямое жыццё прарываецца травамі, цягне карэнне, галіны...
І дзед, агаломшаны радасцю гэтай шчаслівай хвіліны,
Не можа маўчаць і раве: “Трасца вашаму бацьку!” А потым яшчэ,
Яшчэ: “Трасца вашае маці!” Аж дзеці ўстаюць і вачыма
Ўпіваюцца ў поле, што ўсё аж кіпіць і пякучыя фарбы ліе.

У свеце віруе вясна, і ў табе чарадзейства яе...
О Госпадзе мой! У палях пачалося такое,
што й словам назваць немагчыма!
------------------------------------------------------
Вось так мой нябожчык дзядуля плыты гнаў у Прусы нястомна.
Пад вечар блакітнай Вяллёю даходзіў да белага Нёмана.
Шырыгу[4] ўкапаўшы ў пясок ды швартоў завязаўшы цяжкі,
Цяпельца на кожным плыце раскладалі дзядзькі.
Па двое ля вогнішча моўчкі сядзелі ўначы,
Хлеб жытні ламаючы, боршчык з гаршка едучы.

І ціха наўкола было, толькі сінія хвалі спявалі
Ды з трэскам агонь распускаўся ад кветкі чырвонай чароўней,
І толькі раз-пораз паплёсквала рыба па хвалі,
А з сіняга-сіняга неба звісала чырвоная поўня.

### *5. ВЯЛЛЯ І НЁМАН*

У ноч, калі месяц з нябёсаў — як срэбная зліва,
З’яўляецца з Нёмана постаць літоўскага воя,
А побач з Вяллі выплывае дзяўчына шчаслівая —
Вейкі даўгія, а кудзеры зблытаны з мокрай травою.
Крочыць нясмела, ды больш не хаваецца ў хвалі...
І Нёман імкне напярэймы — абняць яе цела тугое,
Цалуе ў зялёныя вочы, што шчасцем блішчаць і тугою,
А потым адносіць на дно ў крышталёвыя сінія залі...

### *6. ДЗЯДЗЬКА АЎРОМ ПАСВІЦЬ КОНІ*

На варту начную адправіўся дзядзька Аўром,
Узяў кажушок і дарожную кайстру з харчамі.
Сядзеў каля вогнішча шэрым вялікім карчом,
І толькі магутныя косці няроўна тарчалі...
Бо дзядзька Аўром на лугах пасвіў коні ўначы,
Што фыркалі цяжка, ступаючы крокам звязаным.
На спінах кабыліных месяц зіхцеў, дрыжучы.
Над полем туман быў, і Нёман звінеў за туманам.
Сухое цяпельца амаль дагарэла датла,
Аўрома гайдалі дрымотна-пяшчотныя хвалі –
І дрэва злівалася з дрэвам у рэштках святла,
Ды чутна было, як скубалі траву і жавалі...
Ды чутна было, як варушацца ў небе агні,
Як цёплым напевам туманяцца зорныя далі,
Бы срэбная сетка дрыжала ў начной глыбіні
І ў ёй калыхаліся рыбы й міргалі, міргалі...

Аўром лёг на спіну і зорыў на зорак святло –
І месяц вадзіў карагоды ў касмічным суквецці,
І танчылі зоркі, і зорак сямнаццаць было,
А тая, зялёная – найпрыгажэйшая ў свеце...
І тут задрыжала. І падае, быццам знарок
Збіваецца з такту ў сатканым з блакіту паветры,
Як іскра з блакітнае зрэнкі, зрываецца ў змрок
І знічкай ляціць у лясныя замшэлыя нетры, –
Як сон абараваны, што ён разгадаў праз гады...
Іскрыстая сінь ахінула начное прадонне,
І дзядзька ўздыхнуў і падняўся, і крочыў туды,
Дзе ў цемры стаялі, драмаючы, цёплыя коні...
І ён завіхаўся ля коней, і чутна было,
Як дыхаюць, шыя пры шыі, глыбока й няспынна.
Раз-пораз на нейкага падала збоку святло,
І ў змроку відаць была толькі стамлёная спіна...
Змарыўшыся, у саламяным прылёг будане.
Зліваліся коні, бы грыва да грывы прышыта.
Заснула таполя і ззяла лістотай у сне,
І ў месячным срэбры драмала далёкае жыта.
Аўром паляжаў ды ўсміхнуўся самому сабе,
Згадаўшы пра вёску і ўсё, што было дарагое, –
І раптам пачулася песня з такою тугою,
Бо выйшла душа з берагоў і пяяла ў журбе:

“Ты найпрыгажэйшая ў вёсцы, Настасся,
Глядзі,
Як наліўся ячмень, як гадуе бародку авёс,
Балоты ў тумане аж ззяюць ад рос...
Паслухай!
Паслухай!
Як ходзіць між елак, бы вязень вясны,
Размораны поўняй, раструшчаны скрухай,
Замшэлы і босы нячысцік лясны...
Выходзь у палі, бо ўсе птушкі паснулі,
І толькі крынічка – усё яшчэ не,
Твой стомлены бацька храпе на гумне, –
І толькі старая рабіна пачуе ў падворку
Ды ветрык з аеру падслухае нашу гаворку.
“Ты найпрыгажэйшая ў вёсцы, Настасся!”

Аўром выцірае слязу, што цішком пралілася,
Прыслухваецца, ды наўкола ні гуку, ні кроку:
З душою душа развіталася ў змроку...

### *7. БАБУЛЯ СЫШЛА Ў ЦАРСТВА НЯБЕСНАЕ*

Спявалі птушкі ўсе, калі не стала
Старэнькае бабулі,
Бо праведнасць і ласку ў ейным сэрцы
Усе на свеце чулі.

Калі бабулечку спускалі з ложка,
Маўчалі ўсе наўкола,
І не было ні ляманту, ні стогну,
Калі паклалі долу[5].

Хадзіў па доме дзед, ушчэнт разбіты,
Не бачыў анікога,
Бо сам ён першым жоначцы памерці
Паабяцаў, нябога.

Калі бабулю неслі па мястэчку,
Тужылі жыхары ўсе:
*"Няма, няма ўжо Шлёміхі старое!",*
І поп Васіль журыўся.

І толькі калі шамасаў[6] сцізорык
Надрэзаў апранахі[7],
Мае дзядзькі загаласілі, быццам
Разбойнікі ля плахі.

### *8. НАСТАССЯ*

Настасся збірала зялёнае шчаўе ля сцежкі –
Хацела абед згатаваць свайму тату, Антошу.
Хвала Беларусі за свежага шчаўя раскошу,
За футра ялінаў, за чорных division галавешкі...
Узяўшы фартух, да зямлі нахіляецца Насця,
Ступаючы качкай, не ведае клопату з ліхам,
Ідзе па расе, удыхаючы кожным удыхам
Жыццёвыя сілы зямлі, яе п'янае шчасце.
А з лесу хтосьці крочыць, хамут начапіўшы на плечы.
Прыклала далонь да вачэй: што за дзіўнае дзіва?
А ён гэткі зух, бы ў лясной нарадзіўся гушчэчы.
Настасся з высокага шчаўя глядзіць сарамліва.
А гэта Аўром пасля варты вяртаўся дахаты:
"Дабрыдзень Настасечцы, любай цялушцы рахманай!"
Яна стрымгалоў праз лістоту ў таемныя спраты –
Туды, дзе сілкамі асілка не будзе спайманай.

Аўром – у пагоню праз лес, па слядах сваёй мэты,
Далёка чуваць яго крыкі і смех у кустоўі:
“Цялушка мая! Маё золатка любае, дзе ты?!
Настасся!..” Яна ж уцякае й цікуе з любоўю.
“Бо ён гэткі зух, бы ў лясной нарадзіўся гушчэчы!”
Шалёныя вочы гарэць, валасы як папала, –
Дагнаў, а яна ўся надзеяй і страхам трапеча...
Нібы куранятка пад сонечны дожджык папала...
Абняў шырачэзнымі лапамі ўсё яе цела,
Цалуючы ў смуглую шыю пяшчотна і чула.
Яна ж толькі ціхенька ўсхліпнула і затрымцела,
А потым мацней і мацней да грудзей яго льнула...

### *9. ДЗЯДЗЬКА ІЦА*

Навучыўся на краўца
Ўмелы дзядзька Іца,
Каб старэнькім лахманам
Новымі зрабіцца.
Каб старэнькім лахманам
Новымі зрабіцца.

Толькі прыйдзе ў вёсачку,
Нітку ў голку ўдзене,
Шыльду вешае: “Каму
Перашыць адзенне?”
Шыльду вешае: “Каму
Перашыць адзенне?”

Па-турэцку на стале
Сеўшы блазнавата,
Шые, пора ды кладзе
Ён за латай лату.
Шые, пора ды кладзе
Ён за латай лату.

Вёску аблатаў сваю –
Крочыць у чужыя,
Хутка край на новы крой
Цалкам перашые.
Хутка край на новы крой
Цалкам перашые.

Навучыўся на краўца
Ўмелы дзядзька Іца,

Каб старэнькім лахманам
Новымі зрабіцца.
Каб старэнькім лахманам
Новымі зрабіцца.

### *10. ЗІМОВАЯ НОЧ У СТАРЭНЬКАЙ ХАЦЕ*

У хаце старэнькай сям'я спачывала ўначы,
Дзядзькі пазіралі бяздумна, бо змучыла праца,
Вялікія люлькі палілі, праз дым сапучы,
А хтосьці захроп за сталом, не паспеўшы падняцца.
Трашчала лучына й давала скупое святло,
Каб дзядзька Рахміэл зашыў нагавіцам каленкі.
Гудзела завея і плюхала снегам аб шкло,
У коміне скрэблася люшка, як мышка ля сценкі...
На печцы гарачай, сцягнуўшы кашулю амаль,
Круціўся дзядуля, бо сон не прыходзіў здаровы.
Біў вецер па нёманскім беразе поўхамі хваль,
З хлява далятала рыканне старое каровы.
Пакаліся ў ложкі, у кожным па двое, дзядзькі,
Маўчалі і ў цёмную столь пазіралі бяздумна –––
Дзядуля круціўся, а потым прамовіў-такі:
"Аўромчык, сынок, заспявай, каб зрабілася сумна!"

І дзядзька Аўром падхапіўся з ляжанкі ўначы,
Ялінаю шэрай магутныя выпрастаў плечы –––
Як восеньскі вецер у лісці сухім, пеючы,
Завыў, застагнаў сярод хаты ў зімовай цямрэчы.
На цёмных дарогах у сцюжу так выюць ваўкі,
На светлых ад поўні раўнінах так выюць на зоры – – –
Як тыя калоды, без гуку ляжалі дзядзькі,
І раптам дзядуля заплакаў, завыў, як у горы,
На печы варочаўся, біў у цагліны, хрыпеў:
"О Божухна, дапамажы, столькі цемры і злосці..."

А ў дзядзькі Аўрома трымцелі цяглiцы і косці,
Ды быў ад люстэрка чысцейшы ягоны напеў.
Той спеў разліваўся вадою ў сівых туман*а*х,
А дзядзька Аўром рос у цемры вялізарным дубам,
Раз-пораз угору і ўніз патрасаў сваім чубам
(Бо гойка Настасся яму паказалася ў снах).
Устаў на дыбкі і заржаў – так у поце і мыле
Распалены конь па гарачай сумуе кабыле, –
Падскочыў, расправіўшы плечы, і стаў рукі ў бокі,
І кожны ўсміхнуўся, і бліснула шчасце з вачэй,

І кепскія думкі, як шэрыя птушкі-сарокі,
З той хаты старой разляцеліся як найхутчэй...
Спяваў ён і танчыў, а потым упрысядкі ў скокі,
Гарачы парыў запаліў у вачніцах зару,
І дзед адчуваў, быццам хата ляціць угару,
Па хісткіх прыступках караскаўся проста ў аблокі...

Аўром дапяяў і ў здзіўленні наўкол паглядзеў.
Агеньчык амаль дагарэў на апошняй лучыне.
Дзядуля маўчаў, а пасля запытаў неўспадзеў:
"А скуль у цябе гэты кантарскі голас, мой сыне?"

Блакітны світанак зайшоў у нагрэтую хату,
Салома пры дрэвах камлям не давала цяпла,
Вятры з кажуховай падкладкі вышчыпвалі вату,
Старая карова замоўкла і больш не раўла.

### *11. АНТОША ГРАЕ НА БАНДУРЫ*

Гэй, гэй,
Грай, Антоша-салавей,
Нам гучней,
Не шкадуй сваёй бандуры,
Шуры-буры-муры-туры,
Весялей,
Гэй, гэй!

Князь у Крэве быў сівенькі,
Быццам лунь,
Быццам лунь,
Дзвюх дачок расціў у замку,
Дзвюх красунь,
Дзвюх красунь.
Ды служыў на стайні чмут,
Ветрагон Змітрок Бядуля
Па мянушцы Шалапут.

Гэй, гэй,
Грай, Антоша-салавей,
Нам гучней,
Не шкадуй сваёй бандуры,
Шуры-буры-муры-туры,
Весялей,
Гэй, гэй!

Тут вясна прыйшла ў адведкі,
Родзіць кветкі і лісткі,
Завяліся ў птушкі дзеткі
І ў сабачкі шчанюкі,
У хляве – цяля вясновае,
Ёсць і ў замку нешта новае:
Тая ж доля – дзякуй ёй!
Хутка прынясе ў падоле
Князю кожная дачка –
Байстручка...
Аёй-аёй...

Гэй, гэй,
Грай, Антоша-салавей,
Нам гучней,
Не шкадуй сваёй бандуры,
Шуры-буры-муры-туры,
Весялей,
Гэй, гэй!

Князь камандуе: “Па конях!”,
Цягне з похваў меч стары,
І ў Вялейцы ды Смургонях,
Дзятлаве і Мазыры –
Вершнікі яго, карэты,
Пасланцы ды эстафеты
Абшукалі кожны кут,
Толькі цуд –
Знік няўлоўны Шалапут!..

Гэй, гэй,
Грай, Антоша-салавей,
Нам гучней,
Не шкадуй сваёй бандуры,
Шуры-буры-муры-туры,
Весялей,
Гэй, гэй!

У лясах пад Крывічамі
Затаіўся Шалапут,
А сівенькі князь начамі –
Там і тут,
Там і тут.
Конь і вершнік, нібы здані,
Мчаць у рыцарскай красе,

І ад рэха палявання
Ўсіх трасе,
Ўсіх трасе...

Гэй, гэй,
Грай, Антоша-салавей,
Нам гучней,
Не шкадуй сваёй бандуры,
Шуры-буры-муры-туры,
Весялей,
Гэй, гэй!

## 12. ДЗЯДУЛЯ ПРЫХОДЗІЦЬ ПАМІРАЦЬ

Увечары шэры, як голуб, прыйшоў з поля дзед,
Паправіў пасцель і пакаяўся на развітанне,
Падзякаваў свету і дабраславіў гэты свет,
І стомлена вочы заплюшчыў на самым змярканні...
Сабраліся над узгалоўем дзядулі сыны,
Глядзелі на бацьку, галовы панурыўшы ціха,
І так зашчаміла ім сэрцы, што моўчкі яны
Стаялі, не здольныя выдаць ні слова, ні ўздыху.
Ды бацька пачуў іх і вочы адплюшчыў ізноў,
І цёплая ўсмешка старое аблічча кранула,
Усеўся на ложку, каб лепей разгледзець сыноў,
І так развітаўся з усімі, прамовіўшы чула:
“Ты, Орча, мой першынец, нашага роду аснова!
Ты браўся апошні за лыжку і першы за плуг...
Што сеяў ты, цёплая глеба прымала вяснова –
Хай семя тваё будзе плодным, як поле і луг!..
Рахміэл, хто можа на лузе з табой пацягацца?
Каса твая – быццам імклівы агонь у траве,
І птушка ў гняздзе, і змяя тваю ведаюць працу –
Хай неба пашле табе плён і ў гумне, і ў хляве!..
Рачны чалавек, хто з табой параўнаецца, Шмуля,
Хто снасці трымае, як ты, і плыты так вядзе?
Ты пахнеш лускою, ты ў водары ціны і ў муле –
Дай Божа табе на зямлі і на любай вадзе!..”

У ноч пазірала чырвонымі шыбамі хата,
Што кідалі водбліск на дзеда калі-нікалі.
Маўчалі дзядзькі, і маўчаў з імі разам мой тата,
Бо з дзедавых словаў нічога ўпусціць не маглі.
Тады й развітаўся... І перш чым душа адляцела,
Склаў рукі і вочы заплюшчыў, ужо на вякі.

І кожны знямела глядзеў на знямелае цела,
І слёз не лілося, нібыта аслеплі дзядзькі...
Заплакала птушка і ўсхліпнула іншая следам,
Апошні агеньчык патрэскаў лучынай і счах.
Стаялі дзядзькі ля ўзгалоўя, схіліўшы над дзедам
Цяжкія галовы на згорбленых горам плячах...

---

[1] Скаруля — літ. *Skaruliai*, мясцовасць на Вяллі ў Літве (цяпер — частка горада Ёнава), дзе рака робіць рэзкі паварот.

[2] Бусак — доўгі шост з металічным вастрыём і крукам на канцы, багор.

[3] Апачына — доўгае вясло для кіравання плытом.

[4] Шырыга або шырка — доўгі завостраны кол для тармажэння плыта.

[5] Паводле традыцыі, цела нябожчыка адразу пасля смерці спускаюць з ложка і кладуць на падлогу.

[6] Шамас — сінагагальны служка.

[7] Жалобны рытуал на пахаванні — надрыванне каўняра або лацкана вопраткі.

Эліза Ажэшка



...я ведала, што ніхто не хлусіць,
а сказанае з'яўляецца праўдай,
але не ўсёй...

# Дзіўная гісторыя

***Навела***

*Пераклаў з польскай мовы Анатоль БУТЭВІЧ.*

*Паводле Eliza Orzeszkowa, Pisma zebrane, pod red. J. Krzyżanowskiego, t. 36 (Gloria victis; Dziwna historia), Warszawa, Książka i Wiedza, 1951.*

**Не апошняя дзіўная гісторыя Элізы Ажэшкі**

Вось яшчэ адна навела Элізы Ажэшкі, якую выдаўцы далучылі да вядомага паўстанцкага цыкла "Gloria victis" – Слава пераможаным (усе ранейшыя друкаваліся ў "Дзеяслове" – гл. №№35, 90, 94, 103, 106, 110). Хоць сама Ажэшка ў тую кнігу, што выйшла ў 1910 годзе, апошнім годзе яе зямнога жыцця, з назвай "Gloria victis", гэтую, як і яшчэ дзве, – "Смерць дома" і "Панна Ружа", – не ўключыла. Але даследчыкі яе творчасці палічылі неабходным прымножыць гэты паўстанцкі цыкл. І таму ў адным з пазнейшых выданняў твораў Ажэшкі гэты цыкл складаецца не з пяці, а з васьмі навел.

У друкаванай ніжэй навеле "Дзіўная гісторыя" прысутнічае той дух, які мо не так выразна, як у папярэдніх, і менш прадметна малюе абставіны паўстання 1863 года, не расказвае пра яго ўдзельнікаў, не цешыць нас успамінамі сведкаў, ды ўсё ж

нешта істотнае дадае да шматаблічнай памяці пра тое, што адбывалася, бо галоўныя героі акурат і выступаюць сведкамі.

Аднак у гэтай навеле зусім іншы настрой, іншыя выяўленчыя сродкі, іншы набор дзеянняў і людзей... Варта задацца пытаннем: а калі і ў выніку чаго адбывалася тое, аб чым піша Ажэшка? І тады можна пагадзіцца – вядома ж, на ўсё, пра што апавядаецца ў навеле, зрабіла ўплыў паўстанне, хоць пра яго няма ніводнага слова. Нездарма адзін з герояў навелы – нямы пільшчык дрэў, аказваецца, не ад прыроды нямко: ён стаў такім па сваёй уласнай ахвоце, каб многае схаваць за гэтым хібам. Яго змусілі да гэтага пэўныя неспрыяльныя абставіны.

"Я не нямы. Ніякае здарэнне не пазбавіла мяне мовы; адняў яе ў сябе сам. Неўзабаве пасля таго, як мовай загубіў сябе і іншых, пачаў рваць валасы на галаве, крычаць да Бога: чаму раней не адабраў у мяне мовы? Пасля прыйшла думка, што зараз я магу сам у сябе адабраць... за пакуты!"

А хто ж на самай справе гэты нямы пільшчык? Ды ўсяго толькі – Стэфан Нягірыч, адзін з трох галоўных герояў, толькі ён мае сваё імя. Другі, а па-сутнасці, найпершы, – сама апавядальніца, без імені. Аказваецца, яна была закаханая ў Нягірыча. І трэці – яе брат, які аказаўся ў сварцы з Нягірычам, а праз яго і з сястрой, якой забараніў шлюбавацца са сваім ворагам. У адказ гераіня "не перастала яго любіць, але замкнула перад ім сваё сэрца. Не выбухнулі мы, – прызнаецца яна, – бачнымі прыкметамі сваркі, але аслабела ў нас тая найважнейшая ў арфе прыязнасці струна, якой з'яўляецца давер".

Тады каму ж з траіх адрасаваны эпіграф да навелы – вершаваныя радкі Генрыка Скірмунта? І не проста радкі, а прызнанне некага з іх чалавекам, душа якога бязгрэшная – *anima immaculata*. Чытайце, разважайце, адгадвайце.

**Анатоль БУТЭВІЧ**

Туга па жыцці недарэмным,
Што чэзне, як іней слатой,
З'яўляецца патаемнай
Тугой па душы святой.
(*Anima immaculata!*)[1]

**Генрык Скірмунт**

За вокнамі стаяла чорная лістападаўская ноч, якая стагнала то ўздымным, то ападаючым шумам ветру.

У прасторным пакоі, поўным кніг і карцін, панавала цішыня, закранутыя далёкім святлом лямпы цьмяна паблісквала пазалота на кніжках і рамы карцін на сценах.

Наша размова, усё больш ціхая, пераходзіла ад рэчаў звычайных і паўсядзённых да тых, якія звычайна спачываюць на дне памяці бяссонна, але маўкліва, і прамаўляюць іх толькі ў святы даверлівай расчуленасці.

Высокая, танклявая, сівеючая, са слядамі яшчэ нядаўняй прыгажосці на аплаткавым твары, яна сядзела каля мяне з апушчанай галавой. У яе глыбокіх вачах назаўсёды адбіўся водбліск вялікай журбы. Калі гаварыла, яе тонкія губы станавіліся падобнымі на дрыготкія пялёсткі бляклай ад спякоты ружы.

– Ты наракаеш, што сёння не відно на свеце вялікіх учынкаў, якія маюць здольнасць абуджаць вялікія думкі. Скардзішся, што, на твой погляд, пасрэднасць сэрцаў і лёсаў людскіх рассыпае зерне закалыхвання, што, як

[1] *Пераклад вершаў у навеле Святланы ВОЦІНАВАЙ.*

кінуць вокам, нічога не робіцца добрага альбо страшнага, а таксама вялікага і дзіўнага.

Можа, ты не маеш рацыі; мо гэта віна не толькі свету, але і твайго погляду. Мо побач з табой дзеюцца рэчы страшныя альбо добрыя, якіх ты не ўмееш заўважыць у імгле пасрэднасці. А пасрэднасць, ці ўпэўнена ты, што пасрэднасць праяўляецца ажно да дна і хавае на сваім дне не першародкаў, а хоць бы такіх зачаткаў, што, калі б ты патрафіла іх заўважыць, вочы твае шырока расплюшчыліся б ад здзіўлення.

Асабліва аб душах людскіх ніколі не судзі паспешна і пагардліва, бо дыяменты дабрыні, каралі болю, вуголле пажараў, якія дрэмлюць у іхняй таемнай сутнасці, часам нельга заўважыць пад моцнай заслонай паўсядзённых спраў і будняў. Трэба ўмець зняць тую заслону, праўда, часам яе адхінае віхор падзей.

Прагнеш гісторыі дзіўнай... За вокнамі стаіць чорная бязвокая ноч і ўздыхае. Такая цішыня ў гэтым пакоі, і там, у глыбіні, гэтае няяркае мігценне пазалоты на кніжных пераплётах... Паслухай!..

Было мне гадоў дваццаць. З-за адсутнасці бацькоў, заўчасна памерлых, выхоўваў мяне і вывучыў брат. Ты добра ведаеш, кім і якім быў мой брат. Розум незвычайны, але стакроць больш незвычайны характар. Народжаны быць правадыром, ён праз невялікі адрэзак свайго жыцця і стаў знакамітым правадыром. Але да гэтага з амаль мацярынскай ласкавасцю і цалкам з бацькоўскай адданасцю падрыхтаваў да жыцця мяне. Няма такіх слоў, якімі магла б патлумачыць, як моцна была да яго прывязана, як была яму ўдзячна за тое, што даў маёй галаве больш святла, а сэрцу больш цяпла, чым іх звычайна маюць дзяўчаты майго веку і майго стану. Бо пра тое, каб калі-небудзь была змушана знарок ператварыць сваё святло ў хлеб надзённы, ніхто і падумаць не мог. Былі мы багатыя.

Аднак, мела дваццаць гадоў, калі паміж мной і самым дарагім братам, апекуном маім і настаўнікам, упаў камень крыўды. Я не перастала яго любіць, але замкнула перад ім сваё сэрца. Не выбухнулі мы бачнымі прыкметамі сваркі, але аслабела ў нас тая найважнейшая ў арфе прыязнасці струна, якой з'яўляецца давер.

Перастае быць нашым прыяцелем той, перад кім перастаем расчыняць насцеж сэрца і паказваць усё-ўсё, што ў ім ёсць. Я перастала раскрываць сэрца перад братам, паколькі ён пагардліва і непрыязна зірнуў аднойчы на тое, што пачынала напаўняць усю маю істоту і станавілася вельмі дарагім. Толькі аднойчы паказаў сваю непрыязнасць і пагарду, але гэтага хапіла мне, каб шчыльна замкнуць вусны. А ён, нягледзячы на мае замкнёныя вусны, здагадваўся, што было ў маім сэрцы, і, абражаны, засмучаны, маўчаў таксама.

Размаўлялі мы з ім аб усім, акрамя той рэчы, якая закранала нас найболей, бо апроч знаходжання ў сценах аднаго дома і апрача мінулага, якое яднала нас мноствам дарагіх успамінаў, пачуваліся мы далёкімі між сабой, раз'яднанымі.

Абое насілі ў сабе тую крыўду, якая не выліваецца словамі, але вядома, што, правальваючыся ў маўчанне, набіраецца з яго моцы і горычы.

Прычынай маёй крыўды было пагардлівае непрыманне ім таго, што абудзіла ў мяне такія непераможныя захапленні, якія адрэзаць можа толькі таксама непераможны нож лёсу.

Акурат у той самы час пачалі разносіцца па свеце лозунгі і заклікі, што

звычайна папярэднічаюць таму грамавому грукату, з якім падаюць на чалавецтва трагічныя моманты яго гісторыі.

Да трагічнага моманту нашага жыцця і агульных падзей гісторыі, да аднаго з тых момантаў, якія на ніту індывідуальнага існавання спадаюць, як нажы няўмольных прадвызначэнняў, я і брат мой, той самы дарагі брат, імя якога мела неўзабаве стацца...

О, слаўны і дарагі!

Збліжаліся ж мы з раз'яднанымі душамі. І зірні толькі, зірні, як імкліва становіцца пякучым тое пачуццё, якое ад краю да краю свету і ад мяжы да мяжы вякоў ходзіць па кветках, па матылях, па птушках, па людзях і, хто ведае, мо па зорках, калі на зорках што-небудзь дыхае раскошай і пакутамі жыцця! Гэта аслабіла наш саюз, да таго такі цесны...

А з чаго ў нас пачалося? Пачалося з маладога суседа...

На самой справе быў гэта меншы брат аднаго з нашых суседзяў, які не жыў у гэтай мясцовасці і быў дагэтуль мне незнаёмы, а прыехаў, каб праведаць брата. Неяк аднойчы вясёлай кампаніяй зайшлі мы ў той дом, і, ледзь увайшоўшы, выскачылі адтуль, каб пабегчы ў лес. Тады я ўпершыню сустрэла яго...

Ці чуеш, як глыбока ўздыхнула за вокнамі тая чорная ноч? І зараз яшчэ чуецца гэты стогн, усё цішэйшы, усё больш глухі, усё больш аддалены, а тут, паблізу, пачынае ўздымацца новы...

Зялёны майскі дзень. Лес напоўнены шэптам зефіраў, маладыя сасновыя парасткі, як пучкі свечак у кандэлябрах, прамыя і светлыя, у сонечнай пазалоце, а на мураве, усеянай дажджом люцікаў і браткаў, высокі куст дзікай ружы ў поўным цвіценні.

Ішлі мы па мураве, размаўлялі, зрывалі люцікі і браткі, калі ён, убачыўшы нас, здзіўлены і зацікаўлены нечаканай сустрэчай, спыніўся каля высокага куста дзікай ружы. А ў мяне з першага позірку нарадзілася думка, што ружа яму вельмі пасуе.

Калі на наша прывітанне агаліў галаву, то з праблісками цёмнага золата ў валасах, з белым ілбом, з вачыма і вуснамі, вясёлымі ад усмешкі, здаваўся сярод светлага вобліку вясны ўвасобленай радасцю і самім жыццём. Здаваўся бажком гэтага лесу, прыгожым і не ведаючым у жыцці нічога, апроч радасці.

Ішло нас тым разам некалькі равесніц, але неяк так сталася, што праз кароткі час размаўлялі з ім ля куста ружы толькі мы двое.

Назваўшы мне сваё імя, дадаў, што ў адведзіны да брата прыехаў на кароткі час, але зараз убачыў, што гэтыя ваколіцы не пазбаўлены чароўнасці, таму застанецца, відаць, надоўга.

Некаторыя кветкі ружы адцвіталі і, закранутыя павевамі ветру, ссыпалі мне крышку пялёсткаў на рукі і сукню. Адзін упаў на ягоныя залацістыя валасы і трапятаўся там, як ружовы матыль.

Затым ішлі мы ўжо ўсе разам. Са свабодай і абаяльнасцю ўлюбёнца лёсу і свету аказваў нам гонар, паказваючы ў гэтым лесе самыя кароткія сцежкі, якія вялі да найбольш цяністых прыхаваных мясцін, самыя высокія дрэвы, залітыя сонцам самыя шыкоўныя паляны, багатыя на кветкі. Кветак, якія зрываў для нас, мелі мы поўныя рукі, а сцежкі, прыхаваныя мясціны і паляны былі поўныя нашых светлых сукняў і вясёлых галасоў.

Што ж да мяне, то я амаль не бачыла сцежак, палян і прыхаваных мясцін, бо вочы мае запаўняў толькі ён адзін, і сорамна прызнацца, але скажу праўду, што падчас яшчэ таго першага спаткання я закахалася ў яго...

Паглядзі, як там, у глыбіні пакоя, у слабым дотыку далекаватага святла

лямпы цьмяна маячыць на карціне вялікая белая пляма, а над ёй вісяць белыя плямкі – як вочы без зрэнак, што пазіраюць з пустой прасторы...

Ведаю! Гэта малюнак зімы. На раўніне снег, а на галінах дрэў снежныя кветкі...

Снег, мармурова цвёрды, пад змрочным небам матава белы, засцілаў шырокую раўніну, калі шумныя, звонкія і поўныя смеху сані выскачылі з брамы нашага вясковага двара, вялікага, прыгожага двара. Без канкрэтнай мэты, без плана, на некалькі гадзін у шырокую прастору, у шпаркі бег па гладкім мармуры пад бадзёрыя пацалункі лёгкага, марознага паветра!

Было гэта прадвызначэннем выпадку альбо ягонай спрытнасцю, не памятаю, а мо не ведала ніколі, але ехалі мы разам толькі ўдваіх. Яго коні, чатыры стэпавыя рысакі, напаўдзікія, пачалі несці сані з такой незвычайнай хуткасцю, што, здавалася, не датыкаюцца да зямлі, ляцяць у паветры. Ці была ў гэткай шалёнай яздзе нейкая небяспека, нават не прыходзіла мне ў галаву, так захапіла мяне змаганне чалавека з тымі магутнымі жывёлінамі, якія ў пагоні з віхорам маглі б, здаецца, перагнаць яго, бо самі, як чатыры агністыя віхоры, імчаліся, ляцелі з выцягнутымі целамі, з палымянымі грывамі, растрапанымі ветрам, выдаючы радаснае альбо грознае храпенне, выкідваючы з-пад капытоў кавалкі разбітага мармуру ці мо іскры, выкрасаныя з задрамалага пад мармурам крэменю.

Магчыма, ён не спадзяваўся, што давядзецца браць удзел у гэткай бітве, а мо хацеў даць яе перад маімі вачыма, не ведаю, але з самага пачатку павярнуў да мяне твар, зусім спакойны, і папрасіў, каб не палохалася. Толькі некалькі слоў, але ў позірку, які на імгненне прыліп да майго твару, бліснула такая пераканаўчая сіла, што я адчула слодыч поўнага даверу.

Стоячы побач са мной, у далонях, якія выглядалі жалезнымі, сціскаў доўгія лейцы, так напятыя, што былі падобныя на чорныя струны, нацягнутыя на белую арфу паветра, востры свіст якога здаваўся іхнім гукам.

Нягледзячы на шалёны бег саней, ягоная пастава ні на імгненне не губляла непахіснай манументальнасці, ні адно трымценне не прабягала па збялелым твары, і толькі пад футравым атачэннем шапкі залацістыя бровы сыходзіліся над вачыма, у якіх асела і свяцілася бліскавіца напружанай волі. На чырвоных вуснах была тая грэблівая ўсмешка, з якой усвядомленая і сканцэнтраваная сіла ўтаймоўвае сілу неўсвядомленую і разбэшчаную.

Прыйшла мне ў галаву думка, што не інакай, відаць, грэкі ўяўлялі сабе Фаэтона* , калі сонечных коней гнаў ён па нябесным скляпенні.

У свісце паветра, у пякучых пацалунках марозу, у стуку мармуровых снежных ашмёткаў, што вылятвалі з-пад капытоў коней, у бліскавічным мільгаценні дрэў, людзей, снежных гурбаў, далёкіх лясоў, птушак, што ляцелі высока, з разгарачаным тварам і грудзямі, поўнымі дзівоснай асалоды, я не адрывала позірку ад яго збялелага твару, насупленых броваў, вуснаў, што ўсміхаліся са спакойнай пагардай, дужых, аднак спакойных рук, і – мае вочы кахалі яго, кахалі.

Неўзабаве ехалі мы ўжо звычайным чынам, размаўлялі пра рэчы, пра людзей, аж раптам ён задумаўся, доўга пазіраў на небасхіл, які салатавасрэбным абадком аддзяляў шэрыя хмары ад белай зямлі, і ў ягоных вачах з'явілася бязмежная туга. Паказаў мне на бліскучы абадок.

* Герой старажытнагрэцкай міфалогіі, які атрымаў дазвол бацькі кіраваць сонечнай калясніцай, што і пагубіла яго – *А.Б.*

– Як там светла!..

Павярнуўся да мяне і дадаў:

– І пані такая светлая... светлая!

Пасля зноў занурыў позірк у прасветлую даль і ціха прамовіў:

– Ёсць на свеце людзі пацямнелыя, якія прагнуць светласці... так прагнуць!

І адразу пачаў казаць пра нешта звычайнае, будзённае, але ўжо не быў увасабленнем радасці жыцця. Быццам жалем альбо сумам павеяла на яго ад светласці нябеснай і – маёй.

Менавіта тады, пасля вяртання з той працяглай зімовай паездкі, кінулася я на шыю брату і хацела расказаць яму пра ўсё, але з першымі маімі словамі ён грозна насупіў бровы і амаль гнеўна закрычаў:

– Як гэта? Гэты ветранік, марнатраўца, гультай!

Рукі мае аслабелі і зваліліся з шыі брата. Я змоўкла, і з той пары мы абое маўчалі пра гэта.

Пазіцыю майго брата цалкам падзяляла так званая грамадская думка. Усе бачылі ў ім чалавека са звычайным розумам, з характарам простым і слабым. Лічыўся адным з тых, каго ў звычайнай мове называюць людзьмі без характару. Верагодна, ні ў адной школе і ў ніякай навуцы не давучыўся да канца. Будучы родам з заможнай сям'і, з адзіным братам падзяліўся значным багаццем такім чынам, што пакінуў яму зямлю з усёй цяжкасцю працы і высакароднасцю абавязкаў, звязаных з валоданнем ёй, а для сябе захацеў і атрымаў тую рэч, якая давала свабоду ўсім жаданням і нежаданням, празе, капрызам чалавека, і той рэччу былі грошы. Аднак значную іх частку патраціў даволі хутка і ў далёкіх мясцінах.

Сваіх родных мясцін дагэтуль не наведваў ніколі, а зараз праводзіў тут цэлыя месяцы, як усе здагадваліся, з нагоды таго спаткання ў маі месяцы каля куста дзікай ружы.

Усе пра гэта здагадваліся і намагаліся, паводле звычайнага выразу, адкрыць мне вочы. У адных ён лічыўся знаўцам коней – з нагоды моцнага захаплення гадаваннем іх і аб'ездкай. Іншыя нагадвалі пра шматлікія сардэчныя захапленні і – яшчэ горай...

А я? Я ведала, што ніхто не хлусіць, а сказанае з'яўляецца праўдай, але не ўсёй. Ведала, што недахопы і заганы, якія прыпісвалі яму, сапраўды істотныя, але маецца нешта больш высакароднае за гэта, чаго ніхто, акрамя мяне, не заўважае.

Чым было тое, што толькі я адна заўважала ў ім? Акрэсліць коратка немагчыма. Хутчэй домыслы і гіпотэзы, чым назіранні.

Часам у яготных вачах, звычайна вясёлых, нараджаўся хвілёвы позірк удалечыню, і ў гэтым позірку бачылася праява бязмежнай тугі. Быццам пад бліскучым пылам пустога жыцця ў сэрцы загараўся крывавы рубін і пёк сэрца так, што ажно вочы скіроўваліся ўдалечыню ў пошуку паратунку.

То зноў падчас звычайнай альбо легкадумнай размовы некалькі слоў дзіўна адскоквалі ад яе, толькі некалькі слоў, але гучала ў іх нотка павагі альбо міласэрнасці, ці мо ўзрушэння, ад якога зрываўся і прападаў ягоны голас.

Нейкае ператварэнне смеху ва ўздых, нейкае цяпло ва ўчынку ці ў слове, падобнае да схаванай пяшчоты... Хіба я ведаю? Хвілінкі лятучыя, праменьчыкі дробныя, адразу сціхлыя званкі, адны прадчуванні, адны домыслы, якія, аднак, іскрамі сыпаліся ў сэрца.

Я лічыла, што мусіць, мусіць раней альбо пазней абсыпацца з яго нядобры

пыл жыцця; што мусіць, мусіць ён раней ці пазней стаць перада мной і перад светам вышэйшым, чысцейшым за сваё ўласнае жыццё.

Неўзабаве пасля гэтага прачытала ў нейкай кніжцы фразу, што людзі бываюць часам горшыя, а часам лепшыя за свае ўласныя ўчынкі, якія часта, насуперак іхняй самай глыбокай прыродзе, прадвызначаны рознымі абставінамі і ўплывамі. Не ўмела яшчэ тады разважаць лагічна, але фраза тая жыла ўва мне, больш у пачуццях, чым у думках. Адчувала, што ў гэтага легкадумнага чалавека з марнатраўным і пустым жыццём прысутнічае нейкае імкненне ўдалеч і ўвышыню, што існуе ў ім нейкая маркота і туга.

Аб чым маркота? Па чым туга?

Наступіў момант, калі ён сам расказаў мне пра гэта. Праз нейкі час пасля таго шалёнага катання на санях наступіла прыемная хвіліна брыльянтавага інею на дрэвах і залатых сноў у захопленых шчасцем нашых сэрцах.

– Дай мне той верш маладога паэта, які чыталі мы сёння разам:

Па спешчаных сонцам нябёсах
Крадуцца блакітныя цені,
Вякуе над долам бялёсым
Галінак шкляное цвіценне...

Блакіныя цені клаліся на белы пух, што засцілаў лес, на нерухомыя елкі, кожная галінка якіх іскрылася шклом, калі мы спаткалі ў дзвярах абсаджанага елкамі доміка лесніка.

Ці выпадкова? Так здавалася, але на самай справе і тут ляжалі на дне домыслы альбо прадчуванні мае і яго. Мо незразумелым, але, верагодна, праўдзівым фактам з'яўляецца тое, што на аддаленні, без паразумення галасам ці вачыма, адгадвалі мы наўзаем свае думкі і намеры. Ужо не першы раз кіраваны гэткім адгадваннем маіх намераў і прыхільнасцяў ён знаходзіўся там, дзе была я, і не першы раз я са свайго боку адгадвала, што ён з'явіцца...

Таму хоць і не чакала, аднак не здзівілася, калі на белай лясной алеі...

Ехаў па снежнай алеі, ствараючы разам са сваім прыгожым канём і лясной беллю вобраз з зімовай ці рыцарскай казкі.

Праз хвіліну я змагла даведацца, як вельмі, як наогул ён не быў ганарыстым; пазней у вопратцы з кашмару і роспачы мела прыйсці да мяне разуменне, як моцна, як невымерна быў ён слабы. Але ў той час, калі сярод ціхага шклянога інею і снежнага мармуру набліжаўся да ляснога доміка, струменіла з яго сіла і гордасць сына рыцарскага роду. Мусіў мець гэта ў крыві разам з рыцарскай вабнасцю; я спадзявалася, што павінен таксама мець гэта ў душы. Пазіраючы на конніка, які набліжаўся, я разлічвала, што адразу ж, адразу ён працягне дужыя рукі і зробіць вялікі ўчынак альбо, як пераможца ў рыцарскім турніры, на вастрыё мяча прыме вянок славы.

Былі гэта толькі намеры, ілюзіі? Так!.. Не!.. І так, і не.

Саскочыў з каня і ў імгненне вока апынуўся ля маіх ног, на каленях. Я ўскрыкнула ад здзіўлення, бо да гэтага не было між намі нічога... Заручаліся дагэтуль між сабой выключна прамяністасць нашых вачэй, усмешкі вуснаў, гучанне галасоў, але спадзяванага не было нічога...

Цяпер мае рукі былі сціснуты яго далонямі, а з вуснаў палымяным патокам ліліся словы закаханасці і – роспачы.

Роспачы? Гэты малады чалавек, прыгожы, багаты, які там, каля куста ружы, здаваўся мне ўвасабленнем толькі самой, выключна адзінай радасці жыцця, быў у роспачы.

Збялелы больш, чым тады, калі змагаўся з шалам сваіх стэпавых коней, з балесна насупленымі залацістымі бровамі і вачыма, падобнымі на цёмныя бездані, казаў, як моцна, як глыбока кахае мяне, і як глыбока, роспачна адчувае, што не варты майго кахання.

Домік лесніка быў часова пусты; мы былі адны. Былі адны ў белай хаціне, за невялікімі вокнамі якой на галінах елкі цяжка звешваліся вялікія кветкі снегу, і толькі нябачная, у цёмным кутку яго душы схаваная, была з намі – наша страшная доля.

Але якім бы ні быў і што ў будучыні не мусіў бы зрабіць гэты чалавек, тады бачыла яго шчырым ажно да донца. Прызнаваўся перада мной ва ўсім, што ў ім і ў мінулых ягоных днях было слабасцю і віной, а ўціхамірванне гэтых прызнанняў выклікала пранізлівыя крыкі пакуты.

Пакутаваў. Гэтыя няўлоўныя дрыжыкі ягонай душы, якія з усіх людзей адна я заўважала ці прадчувала, былі гарачым жалем, бязмежнай тугой.

– Ці памятаеш апошнюю страфу таго верша маладога паэта?

Туга па жыцці недарэмным,
Што чэзне, як іней слатой,
З'яўляецца патаемнай
Тугой па душы святой.
*(Anima immaculata!)*

Чалавечую праўду, глыбокую, хоць і рэдкую, выказаў у гэтай страфе малады паэт.

Я была тады сведкай пякучай тугі чалавека па страчанай чысціні сваёй душы, нязмернага смутку па тым, што ў дні пустыя і нядобрыя гублялася ягоная *anima immaculata* (душа бязгрэшная – *А.Б.*).

Тая прага чысціні і тыя палкія праявы духу да падняцця з нізінаў на вышыні былі самай глыбокай прычынай ягонай закаханасці ў дзяўчыну, так дасканала чыстую і здольную трымаць свае думкі на вышынях, якой я ў той час была. Ягонае сэрца зачапілася за мяне, як за нітку, па якой магло ўзняцца да прамяністых вяршыняў. З просьбамі аб шчасці мяшаліся на ягоных вуснах просьбы аб падтрымцы, аб такой падтрымцы, якую кропля расы перадае расліне, пакрытай прыдарожным пылам. Разлічваў, што калі я падам яму руку, ён збавіцца ад пылу. Пра добрыя ўчынкі, пра нястомную працу, пра чыстую добразычлівасць марыў амаль гэтак жа, як і пра рай узаемнага кахання.

Перада мной адкрывалася ў ім вялікае, эмацыйнае разуменне цёмнага і светлага бакоў жыцця, а таксама моцнае жаданне знаходзіцца на светлым баку. Чаму ж гэтулькі разоў сыходзіў ён са светлага ў цёмны?

З якой разумнай і якой добрай пакорай прызнаваў перада мной тыя недахопы характару і тыя ўплывы свету, якія ў выніку разнастайных спакусаў і прынад рабілі яго слабым! Бо не быў з ліку тых слабых, якія не маюць у сабе сілы, а з тых, у якіх разам з сілай жыве і слабасць.

І менавіта гэтая ягоная сіла, атручаная, паралізаваная, пераможаная слабасцю, ператваралася ў пякучы смутак па вечна чаканых і вечна недасяжных сферах святла, у жаль па скрадзеным з далоні, за зніклае ў бездані жыцця, за таго страчанага нябеснага птаха з блакітнымі і крышталёвымі крыламі, назва якога: *anima immaculata!*

Слухала яго, і гэтыя словы грукалі ў самае высокае неба майго сэрца.

Я думала, што толькі чалавек вялікай душы можа так добраахвотна і ажно

да дна паказваць сваю нікчэмнасць перад асобай, якая яму дарагая і якую ён жадае; лічыла, што гэткая ягоная гаворка, што рвала душу, з'яўляецца цудоўным учынкам і што непахіснай здольнасцю да прыгожага жыцця мусіць валодаць той, хто мае такую эмацыйную прагу яго.

Таму адказвала яму спачатку толькі слязамі, але пасля адчула, што мая думка набывае крылы, і, падхопленая гарачым натхненнем, я пачала казаць яму ўсе тыя словы чалавечай мовы, якія суцяшаюць, супакойваюць, песцяць, кахаюць, рухаюць... усе добрыя, прыгожыя, светлыя, гарачыя словы чалавечай мовы...

І акурат тады, падчас гэтай размовы, закахалася ў яго мая душа...

А змрок, збялелы ад вісячых за вокнамі снежных кветак, заспеў нас на лаве ляснога доміка, мы сядзелі поруч, са злучанымі рукамі і атуленыя блакітам такіх мрояў, якія бязвоблачна слухаць мог бы купал неба.

Без аглядкі на людскія памкненні і меркаванні, на жаданне альбо нежаданне самага дарагога мне на той час чалавека намерваліся мы ціха і сціпла пабрацца шлюбам у маі, месяцы першага нашага спаткання і цвіцення ў лесе дзікай ружы.

А пасля гэтулькі надзей, даверу, слодычы, рашэнняў вялікіх і амаль што гераічных – ах! – ледзь не святых намераў!

Ноту гераізму, амаль што святасці, ён першы ўліў у нашыя мроі. Лічыў, што яго злое мінулае адабрала ў яго права на шчасце, на такое вялікае шчасце, якое атрымаў разам з маім каханнем, і што тое злое мінулае яму трэба выкупіць нейкім адрачэннем, нейкай працай, ажыццяўленнем нейкага ўчынку альбо задання.

Думка гэтая была такой сырой, што я не магла адразу зразумець яе глыбіні. Выкуп зла дабром? Пакаянне? Добраахвотнае прыманне пакут у лона шчасця? Але калі зразумела, мы разам узляцелі да тых найвышэйшых сфер, у якія вельмі рэдка трапляюць людскія мроі.

Павінны мы сваю маёмасць раздаць на справы кахання і міласэрнасці, а самі жыць ледзь не ў беднасці, не жадаючы і не шукаючы ўцех іншых, акрамя той невымоўнай, што належым сабе, што мы разам, што трымаемся за рукі, і што душы нашы трымаюцца за крылы...

Павінны мы ўзносіць нашы думкі да самых высокіх вяршыняў ведаў, а сэрцы кідаць у вогнішча пачуццяў, найбольш шырока распаўсюджаных па зямлі. Павінны агульнымі намаганнямі рабіць тое, чаго ніхто не зрабіў, зайсці туды, куды ніхто не зайшоў, не праз высакамернасць, а праз уласную лагоднасць і ўдзячнасць за гэтае невымоўнае шчасце, што мы адно дзеля аднаго знаходзімся на зямлі...

О, маладосць! О, вера і сіла маладосці! Рай сэрцаў! Палёт душаў! О, вочы снежных кветак, якія праз маленькія шыбкі пазіралі ў разгарачаныя святым агнём нашы вочы! О, шум лесу, які ў змроку паціху пачаў падтакваць нашаму салодкаму шэпту. Хіба ж усё гэта было толькі ілюзіямі, толькі марай, марным падманам бясплодных чалавечых душ?

– Так! Не!.. І так, і не!

Домік лесніка я пакінула з заручальным пацалункам на вуснах і з душой у экстазе.

Але...

Дай хвілінку адпачыць перад пазіраннем у бездань!

Але ў маі я не ўзяла шлюбу...

Дамовіліся, што неўзабаве ён прыйдзе да майго брата, каб пазнаёміць

яго з нашымі намерамі і папрасіць згоды на іх. Гэтага патрабаваў не толькі паўсюдны звычай; гэтага вымагала маё сэрца, не могучы пазбавіцца ад пачуццяў удзячнасці, прывязанасці і абавязку.

Думка пра тое іхняе спатканне і пра тую размову напаўняла мяне невымоўным страхам. Паміж тымі двума чалавекамі склалася нешта накшталт нянавісці. Паводле суровых маральных і грамадзянскіх прынцыпаў майго брата, паводле яго дасканала чыстага і вельмі прыстойнага мінулага, мінулае чалавека, які дагэтуль марна альбо і амаральна транжырыў гады, сілы і багацце, было толькі прыстойнымі лахманамі пагарды. Той жа другі зайздросціў, страшна зайздросціў гэтаму ў бездакорнасці, павазе, яшчэ не здзейсненых, але ўжо прадугледжаных прадвызначэннях, з якіх праглядваў бледны і мо крывавы, але каранаваны, воблік гераізму.

Гэтая пагарда з аднаго боку і гэтая зайздрасць з другога, якія ляжалі на самым дне ўзаемных пачуццяў гэтых двух людзей, напэўна, засталіся б пасіўнымі і не выказанымі ніколі, калі б іх не падахвочваў, не падграваў і ўрэшце не давёў да крыку выпадак, прычынай якога была я.

Ах, не думай, што гэта быў разгневаны грубы крык! Яны абодва былі людзьмі добра выхаванымі, і ні самае злоснае павышэнне голасу, ні абразлівае альбо зневажальнае слова з-за зачыненых дзвярэй майстэрні майго брата не дасягала суседняга пакоя. Дзіўна коратка доўжылася за дзвярыма размова; і я не ведаю, на якой секундзе тых некалькіх хвілін прагрымеў гром, народжаны замыканнем гэтых дзвюх хмар...

Але калі дзверы адчыніліся, на твары каханага чалавека я заўважыла паражэнне громам. Нешта аслупянелае і адначасова моцна абражанае, нешта злоснае і разам з тым трагічнае разлівалася па ягоным смяротна збялелым твары і блішчала ў вачах, балесных і вострых, як кінжал.

Я кінулася да яго, але ён жэстам рукі затрымаў мяне і збялелымі вуснамі прашаптаў:

– Тут... не! Пад дахам гэтага чалавека... ніколі! Калі выцерпіш, калі захочаш, то дзе-небудзь у іншым месцы...

Ягоныя грудзі ледзь дыхалі. Амаль непрытомна сціснуў абедзве мае рукі, здаецца, без слёз заплакаў і выбег з дома.

Я стала перад братам спалымнелая, усю мяне калаціла, дрыготкім голасам пыталася, што ён яму сказаў.

Як і той, збялелы, з полымем у вачах, але які заўсёды валодае сабой, заўсёды моцны і рашучы, нічога не сказаў мне, нічога не патлумачыў, толькі з поўным спакоем у паставе і голасе прамовіў, што хутчэй памёр бы, чым згадзіўся б на тое, каб я стала жонкай таго – шэльмы.

Я не прамовіла ні слова ў адказ, але назаўтра ўжо не была пад дахам свайго роднага дома. Апынулася пад дахам сваёй блізкай крэўнай, кабеты беззаганнай, памяркоўнай і лагоднай, якая любіць мяне. Было гэта тое самае “дзе-небудзь”, пра якое нагадваў ён у тую страшную хвіліну і за якое праз некалькі дзён з невымоўнай радасцю, з бязмежнай удзячнасцю, на каленях дзякаваў мне.

Я трывала. Насуперак таму, што кожная згадка брата раздзірала маё сэрца, я трывала ў сваіх пачуццях і намерах, і о, Божа!, ты ж ведаў, што, акрамя ўсяго, трывала ў жаданні, у гарачым і захопленым жаданні паратунку, уздыму, суцяшэння гэтай закаханай душы, такой слабай і адначасова такой моцнай, такой заплямленай і такой маркотнай па чысціні, якая ўсе свае слабасці, сілы, планы, смутак так проста і шчыра, пакорліва і ўздымна даверыла майму сэрцу, і далоням маім паверыла, дапамогі іхняй просячы.

Але ў маі шлюбу не ўзяла, бо менавіта тады, калі ў лесе расцвілі дзікія ружы, мой брат і ён зніклі з маіх вачэй. Схапіў іх і некуды знёс выпадковы вецер. Тады акурат імя брата майго загучала па свеце славай кароткай, але гучнай і святой...

Не сказала табе яшчэ, як называўся тамтой. Адвядзі вочы! Не пазірай на мяне, калі буду прамаўляць яго імя... А калі прамоўлю, май літасць!..

Стэфан Нягірыч...

...Не мела літасці і выгукнула:

– Здраднік!..

А яна быццам ведала, што ўдар гэтага слова мусіць упасці на яе, таму не здрыганулася, толькі на доўгую хвіліну замоўкла, пасля чаго з дыханнем чорнай ночы зноў злучыўся яе ціхі голас.

– Што ў будучым павінен стаць яшчэ нечым іншым, пра тое ведаем мы дваіх, я і мой брат, а ты даведаешся зараз. Але праўдай ёсць тое, што расказала. Здрадзіў таварышу і правадыру свайму, якім быў мой брат. Стаў прычынай ягоных суровых пакут і смяротнай для яго небяспекі. Сваё імя ад першай да апошняй літары пакрыў ганьбай.

Што прымусіла яго ў тую фатальную хвіліну стаць такім гаварлівым перад людзьмі, якія павінны вырашыць лёсы іх абодвух? Цяжка разабрацца і страшна дабівацца.

Верагодна, у гэтых тоўстых сценах, дзе яны знаходзіліся разам, штохвілінна выбухалі між імі кароткія, але смяротныя, як моцна атручаныя, спрэчкі, гучалі словы, якія ранілі мацней за кулі і мячы... Хіба ж я ведаю ўсё? Здагадалася толькі аб велічыні абразы па жахлівасці помсты. Здагадалася таксама аб расстройстве нерваў і мазгоў, раптоўна перакінутых з келіха шампанскага ў цыкуту трывог і пакут. Ніхто дакладна не расказваў мне пра гэта. Адны вусны ўсяго адзін раз мелі адвагу частку віны прыпісаць ахвяры злачынства... Мо і не памыляліся. Не ведаю. Няхай Бог рассудзіць.

Вярнуўшы магчымасць распараджацца сваёй асобай і сваім багаццем, ён пакінуў родныя мясціны і знік. Напачатку сёй-той тут альбо недзе яшчэ бачыў альбо чуў пра яго, але праз некалькі гадоў усялякія весткі зніклі. Мо з'ехаў на другі край свету, а мо памёр. Ніхто не ведаў і ніхто не даведваўся. Лягчэй становіцца на зямлі і ў грудзях людзей са зьнікненнем такога чалавека.

Калі мой брат, праз надзвычайны збег абставінаў, пазбег страшнай смерці і ад'язджаў на абсяг іншай часткі свету, зямлю каля ягоных ног я падмяла сваімі валасамі, з плачам просячы, каб прабачыў мне маю крывавую памылку...

У глыбіні пакоя, закранутыя далёкім святлом лямпы, невыразна бачыліся на карціне смуглыя рукі, выцягнутыя з сякерай над бялеючым целам каля каменнага алтара.

– Каін! – прашаптала я.

Што павінен у далёкай будучыні стаць яшчэ нечым іншым, ведаем дагэтуль толькі мы дваіх, я і мой брат, а ты даведаешся зараз...

Як жыла я першыя гады, якія наступілі пасля таго, зразумее толькі той, хто сам працяглы час штодзённа засынаў і прачынаўся са слязамі.

Бываюць часам перыяды з такім нагрувашчваннем няшчасцяў, што дбайна вымалёўваць гэтую гару няма патрэбы, бо калі нехта ўбачыць першыя абрысы, мусіць адчуць на сабе яе цень.

З зялёнага гнязда, што вісела над прасторнымі палямі, над празрыстымі струменямі, над аксамітным мурагом і алеямі адвечных дрэў, я выпала на гарадскі брук, у асяроддзе гарадскіх муроў, у шум, у таўкатню, у пыл, у задуху, у частыя небяспекі голаду цела, у пастаянны голад сэрца.

Ніхто з маіх самых блізкіх каля мяне не застаўся; самы блізкі, а цяпер двойчы, тройчы даражэйшы, мой брат пакутаваў у неверагоднай далечы. Ён знік са свету – і каб жа знік з маёй памяці! Але не.

Кожнай бяссоннай ноччу і ў кожную бяздзейную хвіліну я кідалася, як у цёмны вір, у незразумелую, страшную загадку яго душы і яго прадвызначэнняў...

Ці ўпэўнена ты, што пасля забіцця Авеля Каін, сыходзячы на ўскраіны свету, ад сораму не падаў тварам на зямлю перад сонцам і са скрыгатам зубоўным не грыз зямлю ад роспачы, што яшчэ бачыць сонца? Ці не дапускаеш, што па начах за Каінам хадзіў прывід Авеля і сваім дыханнем ускудлачваў яму валасы на галаве, накшталт полымя, якое мітусіцца ў пакутах?

Калі ты лічыш, што вядомыя вінаватыя заўсёды з'яўляюцца апошнімі сярод чалавецтва, ты памыляешся. Той з іх, чыё сэрца хоць раз у жыцці сніла сон аб дабрачыннасці, гэта кароль бедных.

Незлічоную колькасць разоў вачыма ўяўлення бачыла яго на нейкіх далёкіх дарогах, калі ён ад сораму падаў тварам на зямлю і грыз яе ад роспачы. Незлічоную колькасць разоў наведваў мяне прывід вінаватага, які цёмнай ноччу ідзе з ускудлачанымі, як полымя, валасамі над галавой, а адразу за ім цягнуцца неверагодна бледныя прывіды яго ахвяр.

Часам з пагардай я адштурхоўвала гэтых прывідаў, адчуваючы агіду да сябе самой за тое, што яны могуць знаходзіць мяне і што – о, цяжкае прызнанне! – выкрасаюць у маім сэрцы міласэрнасць. Часам жа я выбівалася з сіл і, будучы няздольнай да барацьбы, давала волю спачуванню і нейкаму балеснаму тахканню сэрца, якім яно заяўляла, што хоча дзяліць з вінаватым цяжар яго ганьбы і разам з імісці адной цёмнай дарогай, пад адным плашчом страшнага каралявання над усеагульнай беднасцю зямлі – ісці і душу ягоную абмываць ад ганебных плямаў, акрамя ўсяго, верным каханнем, а мо з абмытай і ачышчанай душы зноў здабываць тое цудоўнае святло, якое, ведала, было там.

Верыла, што святло было, і нішто не магло забіць ува мне гэтай веры, таму не раз у кутках спальні, пазбаўленай сну і цалкам цёмнай, рагатала самая страшная спадарожніца бяссонных начэй чалавека – іронія.

Мо ў нейкай далёкай сталіцы, замест таго, каб курчыцца ў пакутах, патанае ён у раскошы, мо не самотны плашч караля беднасці, а выдатны фрак балю мае на сваіх плячах, мо з залацістым бляскам у валасах, у тых прыгожых валасах, на якія там, у лясным доміку, ускладала я далоні супакаення і блаславлення, трымае каля чырвоных вуснаў келіх асалоды і зноў мае падабенства да бажка радасці жыцця, агіднай зараз радасці?

Слухаючы гэткі рогат іроніі, я танула тварам у мокрай ад слёз падушцы і ўсю сябе кідала ў далёкую далеч, пад ногі брата-героя, гімнамі сэрца ўсхваляючы чыстую дабрадзейнасць, абмываючы пацалункамі раны святых пакут.

Але пасля зноў...

О, павер! Былі гэта вялікія пакуты!

Але штодзённае жыццё, асабліва штодзённае жыццё людзей бедных, гэта шэры, манатонны дожджык, малюткія, але незлічоныя кроплі якога падаюць, падаюць, падаюць на думкі і сэрца, ажно прыбіваюць да зямлі крылы разваг і гасяць рубіны душы.

З заможнай дачкі вясковага двара стала я беднай дзяўчынай, якая ў цесных пакойчыках доміка, што стаяў над сцёкавай канавай гарадскога завулка, штодзённай працай зарабляла на кавалак хлеба.

У гарадах і мястэчках тым часам было шмат нас, такіх галубак, што выпалі з гнёздаў, высланых пухам, на вострае каменне бруку. І трэба было

на гэтым каменні віць гнёзды з асоту і палыну. Галубкі вілі іх, як умелі, спачатку трымцівыя ад страху, болю, гневу, але неўзабаве, падтрыманыя Божай рукой, усё больш мужныя і ўрэшце супакоеныя тым спакоем, які пануе ў дні аднастайных, шэрых дожджыкаў.

Сонца няма, на вяршынях вежачак залатыя шпілі патухлі, свет шэры, крылы душы апалі, і толькі недзе на дне памяці палымнее жар згадак аб надзеях, вясёлках, палётах да зор.

Жытло гэтых прышэльцаў з палёў, лугоў, лясоў і расквечаных садоў у самых недарагіх мясцінах места і самых танных доміках тых мясцін можна было пазнаць па мноству вазонаў, што квітнелі за невялікімі вокнамі, па чутнай з-за вокнаў фартэпіяннай музыцы, па выбяганню з дзвярэй домікаў альбо з варот кабечых постацей, часта годных і зграбных, заўсёды ў цёмнае і недарагое ўбраных, якія спяшаліся на працу.

Працавалі як маглі: шылі, вучылі і яшчэ шмат розных заняткаў... хіба я ведаю? Толькі б, жывучы, маглі пазіраць на свет чыстымі вачыма, хоць занадта хутка і заўчасна гублялі бляск маладосці.

Я вучыла. Шматлікімі з'яўляюцца тыя падзякі, якія ў думках і лістах пасылала брату за тое, што сама ўмела так шмат і добра. Разам са мной жылі ў трох маленькіх пакойчыках дзве мае далёкія крэўныя, з якімі ў пераломны момант мы моцна ўзяліся за рукі, каб агульнымі намаганнямі вытрымаць жыццё. Бо не было ўжо ў нас ні гаворкі, ні думкі аб нечым іншым, як толькі аб тым, каб вытрымліваць жыццё.

Напачатку было нам вельмі цяжка, голадна і холадна, але пасля справы нашы неяк наладзіліся, сталі ідавочна паспяховымі. Я і Цэсія бегалі з лекцыі на лекцыю, Рузя сядзела за вышывальнымі кроснамі і даглядала невялікую гаспадарку. Гадзіны, падобныя на кроплі манатоннага дожджыку, складаліся ў дні, з дзён атрымліваліся гады, якія трывалі дзясяткамі...

Аднак на тыя нашы доўгія гады апрача кропелек шэрага дожджыку сыпаліся і драбнюткія кветкі ўцех. Так ужо створаны чалавек, што хоць бы з палыну, але мусіць здабываць кроплю мёду; мы ж здабывалі яго з тых прыхільнасцяў, што жылі ў нашай крыві, і з сэрцаў, якія не маглі ні стаць зацвярдзелымі, ні замерзнуць.

Такім чынам, слабое рэха з нашых родных садоў, тыя расліны каля вокнаў, якія вачыма ўсё новых кветак пазіралі ў нашы стомленыя вочы, крыху музыкі шарай гадзінай, трохі чытання святочным днём, бедныя дзеці, бедныя старыя...

Гэтых апошніх увялі ў наша жыццё залатое сэрца і практычная рука Рузі. Была яна сярод нас Мартай, якая валодае здольнасцю выпякаць дзесяць боханаў хлеба з адной жмені мукі, і адначасова Марыяй, якая вылівае алей міласэрнасці пад ногі чалавечай беднасці.

Усё гэта разам надавала жыццю, кажучы праўду, барвы не лепшыя, аднак тыя, што ахоўваюць жыццё ад бледнасці памерлых. З усяго гэтага таксама вынікала, што прыйшоў да нас той нямы пільшчык...

Той нямы пільшчык, якога Рузя аднойчы прывяла з вуліцы, каб пагрэўся і паеў, спачатку здаўся нам чалавекам дзіўным і мяне нават крыху напалохаў.

Трымаючы ў руках атрыманы хвіліну таму ліст ад брата, я ўвайшла ў сталовы пакойчык і, не заўважаючы прысутнасці чужога чалавека, пачала гучна дзяліцца з таварышкамі зместам ліста, калі раптам яны закрычалі ад здзіўлення, а я са страхам адскочыла, бо нехта ўпаў мне пад ногі.

Не ведала ні хто, ні што, ні чаго, бачыла толькі звычайную рабочую сяр-

мягу, падперазаную папругай, нейкую ссівелую галаву і нечыя пасінелыя, жылістыя, пакрытыя шрамамі і гузамі рукі, што намагаліся ўхапіць край маёй сукні, якая адсоўвалася. Па меры таго, як адступалася я, сярмяга паўзла да мяне па падлозе, ягоныя рукі лcraталі ў паветры, як лісце пад ветрам, лоб, нейкі зморшчаны, наліты крывёю, некалькі разоў стукнуўся аб дошкі падлогі. Пры гэтым чуваць быў плач, ці выкрыкі, ці мо хрыплівы і перарывісты енк, быццам нехта рассякаў рык мардаванага звера на дробныя кавалкі.

Мае таварышкі, даволі дужыя фізічна, хутка паднялі гэтага чалавека з падлогі і адсунулі крыху ўбок, а калі ён, раптам прыціхлы і пакорлівы, стаў каля акна, я ўбачыла зусім звычайнага, прыціхлага бедака ў штодзённай сярмязе, у вялікім і заснежаным абутку, з тварам, так густа зарослым, што відаць былі толькі крывава-чырвоныя павекі і над кусцістымі бровамі зжаўцелы лоб, усеяны маршчынамі. Пераблытаныя валасы густа пакрывалі галаву, моцна зарослы твар і кусты броваў, што звісалі на павекі, мелі колер цёмнага попелу.

Бядняк! Тым больш бядняк, што нямы.

Рузя, спачувальны позірк якой ужо даўно сягаў да гарадской беднаты, паведаміла нам, што чалавек гэты мае слых, але мову з прычыны нейкага здарэння, відаць, страціў ужо даўно, што яна бачыла яго раней, калі пілаваў дрэвы на знаёмых ёй падворках, але зараз ён хворы, працаваць не можа, таму...

Але ж, натуральна, павінен разумець, няхай прыходзіць як мага часцей! Толькі што азначала тая дзіўная сцэна? Хоць і быў нямым, але ж не глухім, таму мы ціхенька шапнулі самі сабе, што, напэўна... крыху звар'яцелы.

Тым больш бядак.

А калі мы шапталіся між сабой, ён дастаў з-пад сярмягі белую таблічку, нешта накрэсліў на ёй алоўкам і падаў Рузі. Мы ўбачылі толькі адно слова: "Перапрашаю". Літары былі няўдалыя і крываватыя. Што ж дзіўнага? Звычайны пільшчык! І ў дадатак меў пасінелыя ад холаду рукі, пакрытыя шрамамі і гузакамі ад пілы, ці мо ад іншых прылад цяжкай працы.

Тым днём снег ляжаў на зямлі, на дахах, сыпаўся ў паветры, залепліваў шыбы вокнаў, напаўняў нутро дома белым матавым святлом.

Памятаю!.. У белым паветры пакоя нямы пільшчык сядзеў каля невялікага століка перад пастаўленым яму харчам і доўга не еў. Ягоная нізка апушчаная галава і твар, густа зарослы, выглядалі так, быццам іх пакрываў тоўсты слой попелу, а згорбленая постаць, таўсматая ад грубай сярмягі, выдзялялася на снежным фоне акна цёмнай, цяжкай, тужлівай плямай...

Памятаю, што ў тую хвіліну невядома адкуль, мо ад снежнай белізны дня, пачалі далятаць да мяне водгукі далёкага мінулага, ранняй маладосці!

Лес, засланы мармурам падсіненага снегу, шкляныя кветкі інею на дрэвах, на белай алеі наезнік на ладным кані... за малымі вокнамі вялікія вочы снегу на яловых галінах, а каля маіх каленяў залатая галава маладога чалавека:

Туга па жыцці недарэмным,
Што чэзне, як іней слатой...

Ах, дазволь змоўкнуць на хвілю, адпачыць.

Змоўкла. Цішыня, што напаўняла пакой, скончыла:

З'яўляецца патаемнай
Тугой па душы святой.
(*Anima immaculata!*)

Ліст, атрыманы тым днём, прынёс мне бясконца радасную вестку, што праз некалькі месяцаў убачу брата. Праз дваццаць з нечым гадоў адсутнасці меў намер з'явіцца, каб ужо назаўсёды застацца непадалёк ад мяне. Сям'я ягоная – бо там, удалечыні, пашлюбіў адну з далёкіх нашых крэўных і меў, відаць, прыгожых дзяцей – прыедзе крыху пазней, а ён апераджае яе з мэтай уладкавання выгоднага сямейнага гнязда. Выгоднае, добрае гняздо для сваёй сям'і зладзіць можа, бо вяртаецца са значным багаццем.

Першы пачатак таго новага багацця заўсёды напаўняў мяне ўдзячнасцю нейкаму безыменнаму, вялікаму сэрцу. Бо шмат гадоў таму нехта прыслаў майму брату значную грашовую суму, так удала хаваючы сваё імя, што, нягледзячы на старанні ягоныя і мае, адкрыць яго было немагчыма. Вярнуць гэты дар ніхто не мог, паколькі ніхто не ведаў, дзе знаходзіўся і якая была ягоная крыніца. Зрэшты, гэты факт хоць і быў нязвыклы, па-сутнасці не з'яўляўся надта дзіўным і сведчыў толькі пра тое, што бываюць на зямлі сэрцы вялікія, здольныя горача любіць, суперажываць і годна дапамагаць аб'ектам тых пачуццяў.

У разумных і энергічных руках майго брата з той першай цэглы вырас вялізны гмах. Меншы за тое, што будаваў, але паколькі ў працу ўкладваў адну са сваіх асаблівасцяў, найбольш значных, якой было да ўпартасці даведзенае пастаянства пачуццяў і памкненняў, увянчала яго ўдача. А пры гэтым меў і сямейнае шчасце...

Віхор няшчасця даволі доўга хвастаў па гэтай адважнай галаве і вогненным бізуном апякаў дужыя плечы, але пад Божай рукой пасля заціх, і галава, поўная сваіх непахісных думак, узнялася зноў, а плечы выпрасталіся да працы і да ўцех жыцця, поўныя сваёй незвычайнай сілы.

З часу атрымання гэтага ліста мінула шмат месяцаў, перш чым у нашых пакойчыках пачуўся крык шалёнай радасці, з якой я ўпала ў шырока распасцёртыя перада мной абдымкі брата.

Струмень часу праплыў па нас і абаім пасыпаў валасы серабром, у мяне заўчасна, яму ж так хораша, што здаваліся прамяністай каронай, якая ўвянчала толькі крыху змэнчаны лоб. Я ўбачыла яго здаровым, дужым, поўным ранейшых непахісных думак і пачуццяў, амаль што маладым.

Бываюць такія калоны, якія з віхурнай буры выходзяць прамымі, не папсаванымі, з галовамі, як і перад бурай, разважнымі і высока ўзнятымі да неба; бо калоны гэтыя высечаны з аднай глыбы каштоўнага каменя. Бяда ад віхураў і маланак тым, сарцавіну якіх высякаюць з абломкаў прыгожай руды ў горнай даліне дрэннай гліны!

З шумнымі запытамі, аповедамі, смехам, змяшаным з плачам, выкрыкамі радасці, якія прыцьмяваліся ўздыхамі, правялі мы дарагога госця ў нашу малую сталовую і разам з ім уселіся каля таго стала, ля якога многія гады незлічоную колькасць разоў самотныя нашыя вусны вымаўлялі ягонае імя з нецярплівым чаканнем і гарачай любоўю.

Быў гэта адзін з тых абедаў, якіх ніхто не хоча есці, бо ўсе насычаныя радасцю, абедаць жа ніхто не мае часу, бо вусны занятыя размовамі. Здаецца, напачатку ўсе чацвёра гаварылі разам, ледзьве разумеючы адно аднаго, і хоць пасля размова стала крыху больш акуратнай, гарачага пульсу не губляла доўга.

З палымяным румянцам на шчоках я слухала брата, які распавядаў пра свае намеры асесці ў вялікім месце і распачаць там якую-небудзь складаную і карысную для грамадства справу, калі Рузя, што бегала вакол стала, дакранулася да майго пляча з ціхім шэптам:

– Паглядзі! Нямы!

Я зірнула ў паказаным напрамку, і вочы мае, з якіх няспынна струменіла радасць, убачылі карцінку, насычаную бязмежным, цяжкім смуткам.

Каля малога століка пад акном сядзеў нямы пільшчык, прысутнасці якога ніхто з нас, акрамя Рузі, у завірусе хвалявання не заўважыў. Зрэшты, была гэта ў нашым жыцці істота настолькі значная, колькі для чалавека можа значыць галодны і змерзлы верабей, якому ён праз акно сыпне з літасці жменю зярнятак альбо крошак. Ужо амаль год прыходзіў ён сюды даволі часта, а мы не ведалі нават ягонага імя, кажучы звыкла: нямы пільшчык, альбо проста – нямко. Часам я сустракала яго на вуліцах горада, але ён ніколі нічога не прасіў у мяне. А вось Рузю прасіў даволі незвычайным чынам, які дзівіў яе, бо ніколі не працягваў рукі, не выдаваў таго прыкрага скуголення, якое звычайна вылятае з горла людзей, пазбаўленых мовы, а толькі худое цела яго ў грубай сярмязе і галава, абсыпаная попелам, схіляліся ў паклоне, маўклівым, як магіла, у якім Рузя вычытвала глыбокую і балесную пакору. Здавалася, што за гэты год ён упаў на апошняе дно беднасці. Зарабляць на хлеб яму не дазваляла даўняя хвароба, якую запрошаны намі лекар прызнаў невылечнай. Мы ведалі, што калі не дні, то месяцы альбо тыдні жыцця таго жабрака былі злічаны.

Зараз жа каля малога століка...

Гэты невялікі столік быў месцам, на якім Рузя звычайна карміла нашых бедных гасцей. Шмат іх, самых розных: кабет і мужчын, старых і дзяцей перасядзела за доўгія гады там, каля акна, завешанага звонку летам зяленівам цеснага надворка і ягонай беллю ўзімку!

Зараз была восень, і клён, які рос за акном, занавешваў яго фіранкай пажоўклага лісця, на фоне якой цёмнай, цяжкай плямай выдзялялася постаць нямога пільшчыка, дзіўная ў гэтую хвіліну постаць!

Сядзеў такі згорблены і з так нізка апушчанай галавой, што ягонага твару наогул не было бачна; толькі ападаў на грудзі гушчар валасоў, таму і галава, і грудзі здаваліся моцна абсыпанымі попелам. Слабыя рукі, сінія, апухлыя, пакрытыя шрамамі і гузакамі, ляжалі на сярмязе, што накрывала калені, а з-пад абвіслых кусцістых броваў капалі на сярмягу, на калені і рукі буйныя і частыя слёзы. Падалі яны ў каменнай цішыні. Увесь гэты чалавек здаваўся ў тую хвіліну выбітым з цёмнага каменя, і можна было падумаць, што ў гэтай каменнай постаці нешта расце і выцякае з яе цяжкімі, ціхімі кроплямі.

Ні плачу, ні ўздыхаў, ні нават самага малога варушэння. Толькі са згорбленых плячэй звісала галава, абсыпаная попелам, а з абвіслых броваў падаў на пакалечаныя рукі дождж цяжкіх, ціхіх слёз...

Рузя хуценька падышла да яго і пачала ціхенька пытацца ці мо суцяшаць, а ён, не падымаючы галавы, дастаў з-пад сярмягі сваю белую таблічку і рукой, якая калацілася, як лісце пад ветрам, ледзь чытэльнымі знакамі напісаў зноў адно толькі слова: "Перапрашаю!" Праз некалькі хвілін яго ўжо не было ў пакоі. Рузя хацела выйсці за ім, спытацца ці мо суцешыць, але да яе звярнуўся з нечым наш дарагі госць, таму падбегла да яго з адказам, забыўшыся...

Праз некалькі хвілін усе мы забыліся пра нямога пільшчыка, прыпісваючы ягоны плач таму болю, які ў чалавека, ва ўсіх адносінах нешчаслівага, мусіць абуджаць выгляд людзей шчаслівых. А мы тым днём былі такія вясёлыя і шчаслівыя, што не заўважылі нават, як сведкам гэткай весялосці і гэткага шчасця нашага стаў той жабрак.

Зусім хутка забыліся мы аб яго існаванні, і калі дні сплывалі, а ён не прыходзіў, адна толькі Рузя непакоілася часам аб тым, што з ім робіцца, але і яна, патурбаваўшыся хвіліну, забывалася.

У размовах з братам, ва ўзаемных споведзях і прызнаннях, у супольных успамінах аб мінулым, у выказванні намераў на вельмі працяглую будучыню хутка праміналі для мяне тыдні, а праўдзівей, месяцы, калі ў гэтай светлай абстаноўцы, такой для мяне новай, жыццё зноў страшна заскрыгатала.

Час хіліўся да вечара, у доме былі мы адны з братам, калі нехта з дамовых падаў мне ліст, верагодна, прынесены нейкай беднай дзяўчынкай з прадмесця, з таго самага беднага прадмесця, якое па надбярэжным схіле апускае да ракі шэры рой хацінаў, мазанак. Ліст бясформенны, шурпаты, з маім прозвішчам на канверце, напісаным нядбала, зігзагавата.

Гэткі почырк я ўжо недзе бачыла... не памятаю! Ага! На таблічцы нямога пільшчыка. Відаць, гэта ён, альбо нехта, вельмі да яго падобны, піша з просьбай...

Разарвала канверт, разгарнула аркуш тоўстай паперы, позірк мой выпадкова ўпаў найперш на подпіс і – быццам нехта стукнуў мне абухом у плечы, так падскочыла я з сядзення. Мусіла моцна змяніцца тварам, бо брат падбег да мяне, трывожна пытаючыся:

– Што гэта? Што з табой сталася?

Я здолела толькі паказаць яму подпіс у пісьме і крыкнуць:

– Зірні! Зірні!

Тады і ён крыкнуў таксама:

– Стэфан Нягірыч! Хто? Адкуль? Дзе?

А я з выкрыкам, што душыла маё горла:

– Дзе? Дзе? Дзе? – бегла на кухню, дзе, верагодна, была тая дзяўчынка.

Брат ішоў за мной.

Невысокая дзяўчынка, худы і бледны, як голад, падлетак, сушыла ля кухоннай печы свае змоклыя ад дажджу лахманы. З вялікім галасам спытаная адразу двума людзьмі, спалоханая, ледзьве змагла адказаць.

– Нямы пільшчык прасіў... занясці... перад смерцю...

– Памёр?

– Хіба ж я ведаю? Казалі, што зараз памрэ...

– Значыць, яшчэ жыве?

– Ці ж я ведаю? Мо памёр ужо...

– Ляцім! Што ёсць духу, ляцім! Мо яшчэ... мо яшчэ...

Я закружылася на месцы, хапаючы і выпускаючы з рук розную вопратку, падыходзячы да дзвярэй ужо ў адной сукні...

Але брат, сказаўшы дзяўчынцы, каб не адыходзіла без нас, абняў мяне і правёў у пакой, дзе падаў мне ліст.

– Трэба прачытаць... – прамовіў.

Праўда! Трэба прачытаць. Мо ёсць тут нейкае пажаданне, тлумачэнне... Штохвілінна ў маіх вачах станавілася цёмна, аднак чытала, а брат стаяў каля мяне са спачувальным тварам, усё яшчэ абдымаючы рукой.

“Я не нямы. Ніякае здарэнне не пазбавіла мяне мовы; адняў яе сабе сам. Неўзабаве пасля таго, як мовай загубіў сябе і іншых, пачаў рваць валасы на галаве, крычаць да Бога: чаму раней не адабраў у мяне мовы? Пасля прыйшла думка, што зараз я магу сам у сябе адабраць... за пакуты!

Так і зрабіў. Вырашыў, што ніколі ў жыцці не прамоўлю ніводнага слова да ніводнага чалавека, і вытрымаў. Мінула ўжо больш за дваццаць гадоў, і з той пары да ніводнага чалавека ніводнага слова...

Нямому чалавеку жыць цяжка, але для мяне ў той цяжкасці было адно суцяшэнне, бо думаў сабе, што гэта такая купель, якая адмывае мае ганебныя плямы, не перад людзьмі, але перад маім уласным болем. Чым цяжэйшым было жыццё, тым меншым станавіўся боль. Без гэтага я не здолеў бы яго стрываць...

Мо я дрэнна выказваюся і пані мяне не зразумее, але забыўся ўжо шмат слоў і як неабходна імі карыстацца... Перапрашаю, што так дрэнна і незразумела пішу, але развучыўся пісаць...”

– Вялікі Божа! – прастагнаў мой брат і мацней абняў мяне, бо адчуваў, што ногі мае дрыжаць і я магу ўпасці.

“Усё багацце сваё я аддаў таму, хто пакутаваў з маёй віны. Што ж мог яшчэ? Раздаў бы, пакроіўшы, самога сябе, калі б гэта было на нешта патрэбна, але паколькі не, аддаў багацце. Не адразу зрабіў гэта. Спачатку думаў, што змагу жыць так, як і раней. Аж не. Спрабаваў рознае, і ўсё станавілася штораз горшай труцізнай...

А тая труцізна лілася на ўсё з мяне самога, з тых плямаў, якія былі на мне, асабліва з гэтай апошняй. Быў сярод людзей, якія пра іх не ведалі, і, зрэшты, людзі хутка забываюць... але ведаў я сам і забыць не мог...

Касцельная споведзь не ўратавала. Тое пакаянне, якое ксёндз вызначыў пасля маёй споведзі, зусім не было пакутай, а я жадаў цярпець, як чалавек, абліты нечыстотамі, жадае струменя чыстай вады. Таму без мовы і без багацця пусціўся ў далёкія землі... за тыя правіны і за ўсе іншыя... і за тое, што не выканаў таго, што табе, пані!, абяцаў у тым лясным доміку...”

Тут пачыналася нешта вельмі цяжкае для чытання, бо рука, ад слабасці трымцівая, адвыклая ад пісання, ад інструментаў цяжкай працы пакрытая гузакамі, скруціла літары ў заблытаны вузел крэсак і зігзагаў. Аднак праз хвіліну я вычытала:

“Ці памятаеш?..”

Падымаючы да галавы амаль бязвольныя рукі, я выпусціла ліст, але брат мой падняў яго і, прытуляючы маю галаву да сваіх грудзей, чытаў далей:

“Як чалавек убогі і нямы, паехаў я ў далёкія землі і шукаў працу. Пан Бог мяне не пакінуў. На кавалак хлеба зарабляў заўсёды, найчасцей як работнік на фабрыках альбо грузчык, альбо нешта іншае, для чаго мова патрэбна найменш...

Бедны чалавек без мовы мусіць шмат выцерпець, асабліва, калі раней быў багаты і незаняты; але я ўжо мог жыць толькі пакутуючы! Без гэтага я раструшчыў бы сабе галаву куляй з рэвальвера альбо аб які-небудзь мур. Напачатку я сур’ёзна думаў зрабіць гэта, але пасля пачаў саромецца такой думкі, як новай ганебнай плямы. Уцёк бы такім чынам ад самога сябе, але апынуўся б у магіле такім самым, як быў: заплямленым.

Некалькі гадоў таму пачаў слабець, і апанавала мяне тая хвароба, ад якой зараз паміраю. Тады страшна пажадаў яшчэ раз у жыцці ўбачыць сваю родную старонку. Не меў грошай на дарогу, таму крышку пешкі, крышку галодным, крышку з нажабраваным хлебам апынуўся тут і пачаў наймацца на пілаванне дрэва. Але ўжо не здолеў доўга займацца гэтым. Я не такі стары, я маладзейшы за твайго брата, пані, але часам адно жыццё значыць столькі, колькі дзесяць.

Бог даў мне тое шчасце, што ўбачыў цябе. Не здолеў перажыць гэтае шчасце паціху, бо было яно поўнае болю... За тое, што ўпаў тады перад табой на зямлю і што крычаў ад страшнай цяжкасці ўстрымацца ад мовы, якой меў поўныя грудзі і поўныя вусны... перапрашаю!

І за тое перапрашаю, што пішу гэты ліст. Шмат дзён пішу яго, бо так мне цяжка... але адашлю перад самай смерцю. Меў намер, каб ты ніколі не даведалася, што са мной сталася, і кім быў нямы пільшчык. Але не хапіла ў мяне сілы назаўсёды заставацца чорным у тваёй памяці... Не мог! Божа

мой! Ты сведка, што аднаго гэтага не змог! Няхай яна не думае, што пасля ўсяго, што сталася, і калі страціў яе, піў шампанскае і рознае там іншае... Пакажы гэты ліст брату і заступіся за мяне, каб прабачыў!..

І ты прабач мне! Гэтулькі гадоў мінула, я зараз такі самы, як тыя простыя людзі, якія амаль не ўмеюць пісаць... Усё стаіць перад маімі вачыма, быццам было ўчора... Тое катанне на санях, мае стэпавыя коні, такі светлы краёчак неба над снегам... лясны домік...”

Яшчэ два радкі ў пісьме, ужо зусім амаль нечытэльныя. Некалькі слоў толькі напалову вынырвае з хаосу знакаў.

“Бог... можа... да магілы... з чыстай душой...”

Быццам праз імглу ўбачыла я збялелы твар брата. Гэты моцны чалавек абедзвюма рукамі сціскаў галаву, збялелымі вуснамі шаптаў:

– Божа! Божа! Божа вялікі!

А пасля закрычаў:

– Пайшлі! Не! Паехалі! Хутчэй!

Едучы, я трымала на каленях худую дзяўчынку, якая паказвала дарогу. Неўзабаве прыехалі мы да месца, з якога ехаць стала немагчыма, таму пусціліся пешкі, спешным бегам, у густым ужо змроку, праз лабірынт вулічак, надворкаў, напаўразваленых дамоў, платоў, сметнікаў, аж праваднічка наша закрычала:

– Тут! Тут! – і ўнутры нізкай халупы знікла.

Невялічкая хаціна з цёмнымі сценамі, у святле слабой лямпы ледзь бачна маячаць людскія постаці, адна з іх, убачыўшы нас, калі ўваходзілі, здаўленым голасам прамовіла:

– Ужо! Ужо!

У гэтым седліску бядоты можна было па прыціхлых постацях і галасах зразумець, што смерць ужо тут; нехта маўклівым жэстам паказаў на зачыненыя нізкія дзверцы.

Папрасіла брата, каб на хвіліну застаўся тут, бо хачу быць адна...

Адчыніла нізкія дзверцы і ціха зачыніла іх за сабой.

Там была ўжо не хата, а нара без вокнаў, з вільготнай зямлёй замест падлогі. І не лямпа, хай сабе слабая, а гліняны каганок з жоўтым полымем над драбінкай тлушчу. Дым каганка ішоў у цемру, а ягонае полымка чырвонай плямай падсвечвала спарахнелыя сцены.

Пад плямай чырвонага святла, прыкрытыя нечым грубым, на нізкай пасцелі відны былі абрысы чалавека. Цяжкія, каменныя абрысы, з тварам, схаваным у валасах, пасыпаных попелам.

Я абаперлася на нізкія дзверы і стаяла нежывая, як той труп...

Некалі быў зялёны майскі дзень... Лес, маладыя парасткі соснаў, як пучкі свечак у кандэлябрах, светлыя ў сонечнай пазалоце, дождж люцікаў на мурагу, высокі куст дзікай ружы... Пялёсткі ружы падаюць мне на рукі і сукню – адзін упаў на ягоныя залацістыя валасы і трапечацца, як ружовы матыль...

Наша першае спатканне.

І вось як спаткаліся мы ў апошні раз.

Я змоўкла. У глыбіні пакоя, закранутыя далёкім святлом лямпы, цьмяна паблісквалі іскры пазалоты на кніжках і рамы карцін на сценах. За вокнамі стаіць бязвокая лістападаўская ноч, і ў яе чорным лоне чуюцца стогны ўсё больш глыбокія, усё больш глухія, усё больш далёкія...

*1903*

Уладзімір Караткевіч



...цэлы месяц быў у Рагачове,
лавіў там «рабуш» і «кляпцоў», спаў у чаўне
на сене, прыкрыты месячным небам,
і пляваў на ўсё былое...

# “Наш літаратурны прызыў павінен быць моцным

### *Невядомыя лісты да Генадзя і Юліі Бураўкіных*

*Падрыхтоўка, каментары і ўступнае слова Сяргея ШАПРАНА.*

Гэта, вядома, рэдкая, унікальная знаходка – амаль праз сорак гадоў пасля смерці Уладзіміра Караткевіча адшукаць яго невядомыя лісты, якія не тое што ніколі дагэтуль не друкаваліся, – пра іх да апошняга моманту наогул нічога не было вядома. Дый лісты не абы да каго – да Генадзя Бураўкіна, які хоць і пісаў пра Караткевіча, але нідзе і ніколі не згадваў пра тыя лісты – ні ў інтэрв'ю, ні ў сваіх успамінах.

Аднак пра ўсё па парадку.

Паэт Генадзь Бураўкін належаў да таго пакалення пісьменнікаў, якое, нарадзіўшыся напярэдадні Другой сусветнай вайны і атрымаўшы ў 1950-я гады вышэйшую філалагічную адукацыю, прынята называць філалагічным. «Філалагічнае пакаленне» – гэта Вячаслаў Адамчык, Рыгор Барадулін, Сымон Блатун, Анатоль Вярцінскі, Сцяпан Гаўрусёў, Ніл Гілевіч, Васіль Зуёнак, Анатоль Клышка, Уладзіслаў Нядзведскі, Іван Пташнікаў,



*1955 (?) г. Удзельнікі нарады маладых пісьменнікаў у Каралішчавічах. Злева направа: Уладзімір Караткевіч, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Мікола Сіскевіч, Юрась Свірка, Анатоль Канапелька.*

Юрась Свірка, Міхась Стральцоў, Кастусь Цвірка, Іван Чыгрынаў і – Уладзімір Караткевіч.

Генадзь Мікалаевіч прыгадваў, што пазнаёміўся з Караткевічам у часе рэспубліканскай нарады маладых пісьменнікаў, восенню 1955-га. Але бліжэй лёс звёў маладых літаратараў ужо летам 1957-га, калі, будучы студэнтам 3-га курса БДУ, Бураўкін, па прапанове сябра, прыехаў на журналісцкую практыку ў аршанскую газету «Ленінскі прызыў» і пэўны час жыў у бацькоўскай хаце Караткевіча. Пра тое лета ён напісаў эсэ, назваўшы яго элегічна-немудрагеліста і разам з тым таямніча – «На беразе Дняпра». Гэтаксама таямніча яно й пачыналася:

«Я люблю ўглядацца ў гэты аматарскі здымак, зроблены паўвека назад пад Мінскам, у славутым Доме творчасці ў Каралішчавічах. Божа, якія мы ўсе былі маладыя – вастраносы Рыгор Барадулін, “акулярык” Юрась Свірка, Мікола Сіскевіч у вайсковай форме, усмешлівы Анатоль Канапелька і танклявы, інтэлігентны Валодзя Караткевіч з універсітэцкім “ромбікам” на правым лацкане пінжака!..

Шчыра скажу, не памятаю, аб чым мы тады – на нарадзе маладых пісьменнікаў – гаварылі, якія вершы чыталі адзін аднаму, што збіраліся разам несці ў жыццё. Відаць, хапала ўсяго: смелых спадзяванняў і наіўных спрэчак, і сяброўскіх споведзяў на яшчэ не разбуджаных галасістымі птушкамі вясновых лясных сцежках. Добра ведаю адно: тады пачалося нашае літаратурнае і чалавечае сяброўства, якое ўсе мы зберагл праз гады, якія – каму больш, каму менш – адвёў літасцівы Бог...

Бліжэй з Уладзімірам Караткевічам я пазнаёміўся летам 1957 года, калі па ягонай прапанове прыехаў студэнтам трэцяга курсу Белдзяржуніверсітэта на журналісцкую практыку ў аршанскую газету “Ленінскі прызыў”. Валодзя сустрэў мяне на вакзале і прывёў у бацькоўскую хату непадалёку ад цэнтра горада, блізка ад паўнаводнага, спакойнага Дняпра».

Не буду далей цытаваць, тым больш што эсэ гэтае друкавалася, у тым ліку на старонках «Дзеяслова»[1], – лепш прывесці іншую рэдакцыю, якая публікавалася толькі аднойчы і даўно належыць выключна бібліятэчным архівам:

«Як даўно засведчана, час – справядлівы і разумны суддзя, які ўсё ставіць на сваё месца і нават, бывае, робіць гэта дастаткова хутка. Уладзімір Караткевіч у гэтым сэнсе – чалавек шчаслівы: хай і не паспеў ён пры жыцці атрымаць дзяржаўнае прызнанне і афіцыйныя адзнакі народнай любові, але творамі сваімі ўпісаў сваё імя ў залаты фонд беларускай літаратуры і на доўгія гады, калі не навечна, стаў у людской памяці побач з самымі таленавітымі і адданымі сынамі роднага краю. А колькі ж давялося яму перажыць!..

Добра памятаю цёплае лета 1957 года, калі па прапанове маладога Уладзіміра Караткевіча, які толькі што вярнуўся на радзіму з Украіны, дзе пасля заканчэння Кіеўскага ўніверсітэта настаўнічаў, я прыехаў на студэнцкую практыку ў газету “Ленінскі прызыў” у ягоную любую Оршу. Амаль два месяцы пражыў

я ў цеснаватай, але вельмі ўтульнай хаце ягоных бацькоў на вуліцы Варашылава, якая пасля стала называцца вуліцай Касманаўтаў, а цяпер заслужана носіць імя свайго знанага жыхара. Начавалі мы з ім у пуньцы ў двары на духмяным сене і нагаварыліся па-сяброўску аб усім-усім – і аб вершах, і аб таямніцах, і аб палітыцы. Тады ўжо я падзівіўся надзвычайнай дасведчанасці і інтэлігентнасці свайго старэйшага таварыша, ягонай абазнанасці ў гісторыі і ўзнёслай рамантычнай фантазіі. Як ён натхнёна "чытаў" для мяне зорнае начное неба, як зачароўваў паэтычнымі легендамі пра туманны Млечны шлях і трагічных загадкавых Леанідаў!..



*17 снежня 1966 г. На мяжы Мядзельскага раёна. Злева направа: Генадзь Бураўкін, ?, Вячаслаў Рагойша, Алег Лойка, Язэп Семяжон з жонкай Людмілай, Уладзімір Караткевіч, Леанід Акаловіч.*

Шчаслівыя былі тыя дні нашых споведзяў і летуценняў, шчаслівая была Валодзева радасць ад першых публікацый у салідных мінскіх выданнях. І тады ўжо на ягоную трапяткую, светлую душу абрынулася тупая разносная крытыка.

Пад канец таго лета рэдактар "Ленінскага прызыву" Васіль Каліберaў, "увекавечаны" Андрэем Макаёнкам у ягонай нашумелай камедыі "Выбачайце, калі ласка!", і загадчык аддзела, былы партызан Леанід Высоцкі вырашылі заняцца і літаратурай і "па-партыйнаму" павыхоўваць мясцовую паэтычную "зорку". Не ведаю, ці то была іхняя ўласная ініцыятыва, ці мудра падказаў нехта "зверху", але ў газеце з'явіўся вялізны, як па мерках раёнкі, непрывычна дырэктыўны для перыферыйных выданняў артыкул пра апублікаваныя ў старэйшым, найаўтарытэтнейшым нашым часопісе "Полымя" вершы земляка. Караткевічу ставіліся ў віну ўпадніцкія настроі, адыход ад гераічных будняў сучаснасці, залішняя ўвага да далёкай мінуўшчыны. Тон быў абразліва грубы, як казалі тады, "праработачны", без ніякага ўліку законаў мастацкай творчасці і павагі да несумненнага таленту...

Я быў разгублены, не ведаў, што рабіць, – бегчы суцяшаць Валодзю, кінуцца яго бараніць (куды? да каго? як?), пайсці да рэдактара са шчырай размовай? Вершы ж былі напісаны па-майстэрску, ніякай "антысаветчыны" ў іх я не бачыў. Але не паспеў я разабрацца з сумятнёю балючых, супярэчлівых думак, як да мяне ў пакой зайшоў мажны, лысы Леанід Канстанцінавіч Высоцкі і запатрабаваў тэрмінова, "у нумар", напісаць "ад імя літаратурнай моладзі" матэрыял у падтрымку крытыкі. Я, вядома, не мог "прадаць" сябра і, не адшукаўшы нічога мудрэйшага, збег з Оршы...

Колькі нерваў каштавала тая правінцыйная, бесцырымонная, несправядлівая палітычная "лупцоўка" міламу, інтэлігентнаму, рамантычнаму Уладзіміру Караткевічу, ведаў толькі ён сам. Але, на шчасце, маладога паэта абараніла тады ў "Звяздзе" цэлая група выдатных беларускіх пісьменнікаў.

Аднак аказалася, гэта быў толькі пачатак "выхавання" выдатнага таленту, асабліва горкай і жорсткай праявай якога стала гісторыя з ягоным знакамітым раманам пра паўстанне Каліноўскага "Каласы пад сярпом тваім". Месяцы і нават гады ўсемагчымых абмеркаванняў, рэцэнзаванняў, рэдагаванняў, зласлівых прыдзірак і відавочных фальсіфікацый. На пасяджэнні пашыранага сакратарыяту Беларусі ў лютым 1967 года даведзены да адчаю Караткевіч выгукнуў апанентам

проста ў вочы: “На абман вы мяне не штурхнеце!”. За свой, можа, самы вынашаны ў душы твор ён змагаўся рашуча і непахісна, як за галоўнае ў жыцці. Добра, што поплеч былі сябры і аднадумцы. Янка Брыль, напрыклад, сказаў тады: “...Гэтай кнігай будзе прыпаднесен урок, як трэба любіць народ, як трэба разбірацца ў сваёй гісторыі, як аслабаняцца ад зусім непатрэбнага комплексу ніжэйшасці...”.

Сёння Уладзімір Караткевіч – прызнаны ўсімі (і ўладамі ў тым ліку) класік роднай літаратуры, а “Каласы пад сярпом тваім” – афіцыйны ўзор беларускага гістарычнага рамана...

Не так ужо і многа па мерках вечнасці, да якой прыдзірлівыя акадэмікі далучылі ўжо і нашага самабытнага творцу, прайшло з таго часу, калі некаторыя з адкрытай нянавісцю, а іншыя з пагардлівай грэблівасцю гарталі старонкі ягоных шматлікіх кніг. Чытачы ж, асабліва маладыя, даўно залічылі яго ў свае куміры – і славутая хваля нацыянальнага адраджэння 80-90-х гадоў мінулага стагоддзя была падрыхтавана і ўзнесена на грэбень усенароднага ўздыму якраз ягонымі вершамі, драмамі, аповесцямі, ягонай палымянай і ўзнёслай публіцыстыкай.

Добра памятаю, як мой сын-студэнт, так бы мовіць, і клаўся спаць, і прачынаўся з томікам Уладзіміра Сямёнавіча, як шаптаў ён, нібы малітву ці клятву, многія ягоныя радкі, такія, напрыклад, як у баладзе пра Машэку:

Край сагнуўся ў спіне,
Край баіцца размовы пра волю,
Край згубіў сваю мову
І матчынай песні напеў...
Нельга верыць у бога,
Калі ён такое дазволіў.
Цяжка верыць у люд свой,
Калі ён такое сцярпеў...

Высокі патрыятызм, які, як ні дзіўна, той-сёй з замшэлых “інтэрнацыяналістаў-сталінцаў” усё яшчэ называе буржуазным нацыяналізмам, адчуванне жывой, непарыўнай повязі з гістарычнымі каранямі роднай зямлі, непаўторная шчырая ўзнёсласць, самабытны шматгранны талент і сёння, праз два дзясяткі гадоў пасля смерці на самым творчым узлёце, робяць Уладзіміра Караткевіча нашым паважаным сучаснікам, адным з тых прапаведнікаў і духоўнікаў, да якіх усё ідуць і ідуць беларусы, самаахвярна закаханыя ў сваю Бацькаўшчыну, нярэдка знясіленыя і зняверaныя ў бясконцым змаганні за сваю лепшую долю...

Зямлёю пад белымі крыламі назваў Караткевіч Беларусь у сваёй славутай кнізе, перакладзенай на многія мовы свету. Сам ён жыў, увесь час адчуваючы над галавою высокі, лагодны пошум святых бусловых крылаў, верачы, што ніякім груганам не ўдасца прагнаць іх з небасхілу і засланіць сонца нашых надзей і летуценняў. І сам ён быў і застанецца адным з яркіх і цёплых промняў нязгаснага беларускага сонца, адной з самых шчымлівых песняў спаконвечнай зямлі пад белымі крыламі, наш дарагі, наш незабыўны Уладзімір Караткевіч»[2].

На вялікі жаль, гэтае эсэ – адзінае пісьмовае сведчанне, якое пакінуў Генадзь Мікалаевіч і якое можа распавесці пра стасункі двух літаратараў. Хоць, па словах жонкі Юліі Якаўлеўны (працуючы ў выдавецтве «Народная асвета», яна неаднойчы звярталася з просьбай да Караткевіча, каб ён напісаў падручнік па беларускай гісторыі для школы, і пасля настойлівых угавораў ён нарэшце згадзіўся, але было ўжо позна), яны былі ў сяброўскіх адносінах практычна ўсё жыццё. Праўда, калі й сустракаліся, то звычайна ў часе нейкіх мерапрыемстваў, як, напрыклад, падчас наведвання ў снежні 1966-га Караткевічам, Бураўкіным, а таксама Вячаславам Рагойшам і Язэпам Семяжонам па запрашэнні настаўніка і краязнаўцы Міколы Пашкевіча вёскі Сваткі Мядзельскага раёна Мінскай вобласці, а затым і бацькоў Максіма Танка ў вёсцы Пількаўшчына, пра што ёсць запіс прафесара В. Рагойшы.

Так, у прыватнасці, Вячаслаў Пятровіч згадваў, што калі бацькі класіка беларускай літаратуры ўбачылі, у што быў адзеты і абуты ў той снежаньскі дзень Караткевіч, тут жа знайшлі для яго валёнкі і вялікі сялянскі кажух, у якія ён улез, не разуваючыся і не распранаючыся, што выклікала кепікі на працягу ўсёй далейшай дарогі дадому. Дарэчы, танкаўскія валёнкі і кажух гэтак прыйшліся даспадобы Караткевічу (ён іх трымаў, нібы музейныя экспанаты, у сваёй кватэры на відным месцы), што доўга яшчэ не хацеў вяртаць гаспадарам – толькі ўлетку наступнага года здолеў Язэп Семяжон забраць іх і адвезці ў Пількаўшчыну[3].

Апроч таго згадваецца яшчэ адна даўнішняя гісторыя, нават не гісторыя, а так, камічны эпізод. Тым разам Уладзімір Някляеў напісаў у «Знаках прыпынку», як адпачывалі разам у зімовых Каралішчавічах маладыя Караткевіч, Барадулін і Бураўкін. Адпачывалі весела – выпіваючы дый закусваючы, а калі першага і другога бракавала, тады хтосьці з троіцы накіроўваўся ў краму па дабаўку. І вось калі надышла чарга выпраўляцца ў дарогу Барадуліну, а будучы народны паэт заўпарціўся, Караткевіч аддаў яму свае унты, якія нібыта падараваў яму камандзір самалёта, двойчы Герой Савецкага Саюза, калі Караткевіч вяртаўся з Далёкага Усходу. І вось ідзе Барадулін у тых унтах і сустракае... таго самага камандзіра самалёта... «Навошта ты гэта прыдумаў?!» – уз'еўся на Някляева Бураўкін, калі прачытаў тое, чаго насамрэч не было, – не было унтаў разам з выпадкова сустрэтым камандзірам самалёта. «А што? – смяяўся ў адказ Някляеў. – Прыгожа ж – двойчы герой!..»[4]

Варта таксама дадаць, што, будучы галоўным рэдактарам «Маладосці», Бураўкін не раз друкаваў Караткевіча – пад вокладкай з фірмовай валошкай былі апублікаваныя яго аповесць «Лісце каштанаў» і два эсэ: «Тысячу стагоддзяў табе» і «І наш Фаўст», а таксама віншаванне Р. Шырму і «Слова пра Шолахава». Распавядаючы пазней пра працу ў «Маладосці», Бураўкін так згадваў няўрымслівага калегу: «Зачароўваў сваімі фантазіямі добразычлівы і гаваркі Уладзімір Караткевіч»[5].

Ужо ў фатальным 1984-м ён прысвяціў заўчасна спачыламу таварышу верш:

*Памяці Уладзіміра Караткевіча*

Зноў жалобных званоў ускалых,
Як пятлёю, сціскае горла.
Усё меней сяброў жывых.
Усё болей сяброў памёрлых.

Асядае ўспамінаў дым.
Не сустрэнемся, не пагаворым...
Давярайце ж сябрам жывым,
А тым болей – сябрам памёрлым.

Беражыце іх кожны міг,
Разумейце, маўклівых і гордых...
Не мяняйце сяброў жывых.
А тым болей – сяброў памёрлых.

І калі на шляхах крыжавых
Раптам вочы засцеле морак,
Успамінайце сяброў жывых,
Памінайце сяброў памёрлых...[6]

А ў маі 2014-га, знаходзячыся на смяротным ложы і падводзячы рысу пад жыццём, якое было пражыта ўжо дарэшты, Генадзь Мікалаевіч казаў: «Першае, пра што думаецца, гэта гонар за сваё пакаленне. Гонар за тое, што мы рабілі для Беларушчыны, што мы рабілі для беларускай літаратуры. Гэта ж, божа мой, і Васіль Быкаў, і Уладзімір Караткевіч, і Міхась Стральцоў, і Рыгор Барадулін.

І ўсё гэта адбывалася, як кажуць, на маіх вачах, а часам, можа, і з маім нейкім удзелам. І, канечне, я ганаруся гэтым»[7].

У сваю чаргу Караткевіч, гаворачы ў нарысе «Зямля пад белымі крыламі» пра новае пакаленне пісьменнікаў («А за імі ішлі ўсё новыя і новыя прылівы ў літаратуру вельмі таленавітых паэтаў і празаікаў. Хваля за хваляй, няспынна, яны рабілі нашу літаратуру больш багатай, яскравай, шматграннай»), вылучаў у тым ліку Бураўкіна – як паэта «з яго грамадзянскасцю»[8].

Апроч таго, пра стасункі двух пісьменнікаў можна даведацца з дарчых аўтографаў Уладзіміра Сямёнавіча. Так, да прыкладу, яго апошні надпіс Бураўкіну, які быў зроблены на кнізе «Чорны замак Альшанскі» менш чым за паўгода да смерці, з'яўляецца, па сутнасці, своеасаблівай рэвізіяй пражытага жыцця: «Міламу Генадзю Бураўкіну на ўспамін аб днях не заўсёды залатой (і ўсё ж залатой) нашай маладосці, калі былі мы здаровыя (і са здаровым апетытам), аптымістычныя і вясёлыя, не гледзячы ні на што, моцныя як скалы. Ад усяго сэрца. *Ул. Караткевіч. Лютага 84 г.*».

У дадатак сведкамі стаўлення Караткевіча да сябра з'яўляюцца яго лісты, якія нядаўна былі адшуканыя намі разам з Юліяй Якаўлеўнай Бураўкінай і якія ўпершыню прадстаўлены толькі сёлета ў чарговым, 20-м томе Збору твораў Уладзіміра Сямёнавіча. Яшчэ адно пасланне – ужо да Юліі Бураўкінай – падаецца паводле чарнавога аўтографа, што захоўваецца ў Аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі.

Зрэшты, немагчыма сказаць, наколькі вялікім было гэтае ліставанне – у архіве У. Караткевіча з нейкай прычыны не захавалася ніводнага ліста Г. Бураўкіна, у той час як у хатнім архіве Генадзя Мікалаевіча зберагліся чатыры караткевічавы лісты. Хоць нельга выключаць, што іх магло быць насамрэч больш, аднак частка эпісталярыя аказалася, на жаль, страчанай.

**Сяргей Шапран**

**1.**

*[Другая палова 1950-х гг.]*[9]

Гена!

Заходзіў, але ты, д'ябал, бадзяешся недзе, як Марка па пеклу[10].
Паеду ў Оршу, і няхай цябе мучае сумленне, лясун ты беспяты.
Хаця пішы мне, не забывай, пшэклента халера[11]. Адрас ты памятаеш.
Цалую ў плечыка[12].

*Ул. Караткевіч,*
роданачальнік зайчынага
напрамку ў беларускай паэзіі[13].

P.S. Цябе няма, Рыгора няма[14], пайду хаця [б] да Свірко[15].

---

*Рукапісны тэкст без даты.*

**2.**

*10 чэрвеня 59 г.*

Добры дзень, дарагі Генадзь!

Ты прабач мне, што я так доўга не адказваў табе і так па-свінску паставіўся да твайго шчырага і цёплага запрашэння. Справа ў тым, што на вяселлі тваім я аніяк не мог быць, таму што і вызваліўся ад курсаў толькі дзесятага чэрвеня[16]. Таму даруй і не трымай злосці ў сэрцы.

Жадаю вам з Юляй[17] бязмежнага, цёплага шчасця, радасці, кахання аж да апошняй бярозы, дзвюхсот год жыцця на дваіх і ўдваіх, весялосці, дзесяці дзяцей,

сотні ўнукаў і праўнукаў. Цалую цябе, браце, а пані Юльцы цалую рукі. Я вельмі рады за вас, сябры мае добрыя.

Ну вось, я ж казаў, што я лабідуда. Затрымаўся з адказам, з інтэрната ты выехаў, не ведаю зараз нават куды пісаць. Напішу на «Чырвонку»[18], і адтуль перашлюць табе.

Я нічога не ведаў пра тваю хваробу, братка, а даведаўшыся – проста за галаву схапіўся[19]. Як жа ты так давёў сябе? А ўрэшце нічога дзіўнага няма: студэнцкія харчы, інтэрнат, незабяспечанасць. Я дзівуюся толькі, як гэта я са сваёй фіцілепадобнай паставай вытрымаў Alma Mater[20] і не здохнуў недзе пад плотам. Ты зараз сцеражыся, дружа, каці на свежае паветра, у лес. Многа еж, каб аж за вушамі пішчэла. Наш літаратурны прызыў павінен быць моцным, нам яшчэ многа трэба будзе біцца, а таленавітых людзей у нас не так ужо і многа.

Рад за цябе, што ты паздаравеў, што жэнішся, што паплываюць з-пад твайго пяра вершы. Юрась[21] малайчына – перадавай яму мае найлепшыя прывітанні. А ты – даруй мне – свінтух. Мог і раней напісаць, што хворы. Я б табе з Масквы даслаў, што трэба было. Я ж нічога не ведаў.

Адносна Рыгора[22] – што ж табе сказаць. Дрэнна ён зрабіў, вельмі дрэнна. Трэба было б разабрацца ў гэтым. Скажу адно: калі нават гэта звычайная легкаважнасць, дык яна скача на мяжы свінства.

А Юльцы падзякуй ад майго імя за добрыя адносіны да цябе, за шчырае і яснае пачуццё.

Відаць, пашанцавала табе, браток.

Пішы, як працуецца.

А я за гэты час пісаў многа, а друкаваўся мала. Ці абставіны змяніліся, ці здольнасці зніклі і стаў горш пісаць – не ведаю.

Напісаў некалькі апавяданняў, многа вершаў, рыхтую на 1960 [год] новы зборнік. Вось табе адзін верш з яго[23].

* * *

Месяц заснуў на коміне хаты,
У рэчцы плывуць лускавінкі слюды,
Дрэвы начныя ў бліскучых латах,
Як вартавыя, вартуюць сады.
У цьмянае поле гляджу з-пад далоні.
Полымя бухае, нібы ў трубу.
Коні начлегу, ружовыя коні
Месяца іскры з травою скубуць.
Добра ўсім, а мая беласнежка
Полем не пройдзе каля лазняка,
Не прабяжыць гэтай цёплай сцежкай,
Бульбіну не пакачае ў руках,
Позіркам ясным мяне не падорыць,
Поруч з агнём не ляжа ў мурог,
І не папросіць, каб сеў я поруч
І ад бяды невядомай бярог.
І не прыкрыюць вачэй яе сонных
Цёплыя пальцы маёй рукі...
Вельмі далёкія перагоны.
Вельмі марудныя цягнікі.

———

Ну вось, браток. Бывай здароў.

Цалую.

*Уладзімір.*

---

*Рукапісны тэкст.*

**3.**

*21 жнiўня 59 г.*

Добры дзень, дарагi Генадзь!

Цэлы месяц быў у Рагачове, лавiў там «рабуш» i «кляпцоў»[24], спаў у чаўне на сене, прыкрыты месячным небам, i пляваў на ўсё былое. Жыццё iшло няспешна: сёння як учора. Напiсаў там некалькi нядрэнных, здаецца, вершаў, але ўсё доўгiя i таму перапiсваць iх – гэта азначае з пупа скрануцца, нi больш, нi менш.

Рад, што ты застаўся ў Мiнску. Табе нельга ўязджаць. Твая стыхiя – вялiкiя газеты i вялiкi горад, у якiм жыве самае малое сто паэтаў. А ў Вiцебску ты адразу зачахнуў бы. Там добры паэт адзiн толькi Додзiк Сiмановiч, ды й той па-руску пiша[25].

Наконт таго, што кватэра малая – плюнь. Усё гэта глупства. Усё ж на сваiм месцы i пачынаеш ужо пускаць карэннi. А я вось боўтаюся недзе памiж небам i зямлёй i не ведаю нават: куды мне пасля курсаў галаву сваю пакласцi[26]. У Оршы не хацелася б[27]. У Мiнску мяне нiхто не чакае. Ды й дзе я там працаваць буду? У часопiсе – храпа не такая, у газеце – не хачу, карэктарам у выдавецтве – на другi ж дзень пагоняць адтуль за непiсьменнасць, абураючае галавацяпства i памылкi.

Вiдаць, толькi i застаецца што прасiць цёцю Уладзю, каб уладкавала ў музей начным вартаўнiком[28]. Або ў аспiрантуру акзамiнты здаваць?[29] – Дык колькi можна вучыцца? Да сiвых валасоў? Во-ох, цёмная вада ва аблацэх!!![30]

Цiкава будзе, якая атрымаецца кнiжка ў цябе. Што ты туды ўключыў?[31]

Чытаў я «Палескую баладу»[32]. Зусiм добра, i стыль адпаведны. Толькi мне здаецца, што апошнiя чатыры радкi не зусiм пасуюць да агульнага настрою. Ты падумай i, калi згадзiшся са мною, можа ў кнiгу iх i не варта соваць. Яны знiжаюць трывожнае гучанне[33].

Хлопцаў «чэшуць», i мяне добра «прычасалi» ў «Литературной газете»[34]. А каб iм каб!

Але д'ябал з iмi. Не звяртай увагi i ты. Не намi сказана, што трусяць толькi тое дрэва, на якiм ёсць плады. Значна горш было б, каб не казалi нiчога. Так што para bellum[35], i на ўсё жыццё. Я гэтую iсцiну пасля блажэннай памяцi артадоксаў з «Прызыва» добра на носе зарубiў[36].

А паэма ў мяне даўно зроблена i пойдзе ў кнiжцы, калi не забракуюць рэдактары[37].

Буду брацца i за другую. Трэба. Iначай сядзеш на адным, дык так i застанешся.

Шчырае вялiкае прывiтанне Юлi. Жадаю вам усяго найлепшага. У Мiнск пастараюся выбрацца ўвосень. Зараз я парваўся на рамонце хаты, ды й грошай, адверта кажучы, няма, не ведаю як i да стыпендыi першай дажыць. Давядзецца што-небудзь рабiць у Маскве, падрабляць.

Бацькi мае шлюць вам прывiтанне. Бацька зусiм дрэнны, а мацi патроху тупае.

Пiшы. Цiсну лапу.

Твой *Уладзiмiр*.

---

*Рукапiсны тэкст.*

**4.**

*21–22 лютага 74 г.*

Даражэнькi Генадзь!

Дасылаю рукапiс абяцанага эсэ аб Вiцебску[38]. Баюся толькi, цi не позна будзе. Але, па-першае, я хварэў, а па-другое, на мяне тут так населi, што нi ўздыхнуць, нi вохнуць.

I прабач, што рукапiс. Машынкi беларускай тут няма. Калi падыйдзе – пера-

друкуйце 4 экзэмпляры (1 пакіньце мне, можа, жонцы спатрэбіцца, зойдзе і забярэ), а я па прыездзе заплачу.

Рад быў бы, каб падышло. Выканаў бы слова, дадзенае Віцьбічам[39].

Ну, а як там справы ў вас? Пытанне рытарычнае, бо ўсё адно ж не адкажаш.

Таму абдымаю цябе і цалую, а ўсю рэдакцыю ляпаю па-сяброўску па плячы.

Твой *Уладзімір.*

Ялта. 1 гадзіна ночы.
Пасля дня дажджу –
сабачы холад.

P.S. Ага, і яшчэ што. Калі гэта пойдзе – трэба знайсці нейкую гравюру старога Віцебска і план яго, скажам, Кунцэвічаўскіх часоў[40]. Найлепшы ў Сапунова ў «Витебской старине»[41] (ёсць у Ленінцы[42], у беларускім аддзеле). Даслаць туды мастака, і хай сабе перавядзе на кальку, а пасля ўпрыгожыць. Гэта павінна здорава ажывіць матар'ял. Я сам прызнаюся, што ён крыху можа і сухаваты ў параўнанні са «Званамі ў прадоннях...»[43] Але там было падарожжа і мае асабістыя ўражанні, а тут... Каму патрэбныя мае лірычныя ізліянні, які гэта ладны ды гожы горад, і мае апавяданні аб віцебскіх сустрэчах? Гэта ж свята, юбілей, ці як гэта там назваць? Так? Значыць, і мэта ясная. Так што лепей ажывіць. Але што я... Што ты сам не ведаеш, як лепей?

Назва, можа, не тая? Тады мяняйце. Скажам: «Тысячу стагоддзяў зычым табе». Ці яшчэ як.

---

*Рукапісны тэкст. Ліст напісаны чорным атрамантам, за выключэннем апошняга абзаца, напісанага сінім.*

**5.**

Мілай Юленьцы Якубаўне Бураўкінай, Вельцэшаноўнай, Асьвечанай, – гэтага пяшч[отнага] «Кала»[44], улюбёнага ім і знявечанага горай, чым сеньёр Фільбер з Кенсі[45] знявечыў бедныя стварэнні рук Кала жывога, – дорыць ад шчырага сэрца гаротны Уладзімір Караткевіч, у якога няма «Кала» цэлага, з рукамі і нагамі і ўсім іншым, неабходным і бургундцу[46], і беларусу «Кала[»], а цяпер не будзе і такога, які двойчы перахварэў чумой (а дзе імунітэт?), двойчы пахаваў адзіную жонку[47], але затое быў законапаслушны і аніразу не паўстаў.

Застаюся
законапаслушны
*Ул. Караткевіч.*

*29 сакавіка 82 г.*

---

*Чарнавы рукапісны тэкст*[48]. *АРКіР ЦНБ НАН Беларусі. Ф. 11, воп. 2, адз. зах. 74, арк. 7.*

---

[1] У хатнім архіве Г. Бураўкіна захоўваецца чарнавы рукапіс з пазнакай напрыканцы: *17.VI.2005 г., Крыжоўка.* Упершыню: Бураўкін Г. На беразе Дняпра // Дзеяслоў, 2005, № 5 (18); Уладзімір Караткевіч. Быў. Ёсць. Буду!: успаміны, інтэрв'ю, эсэ / уклад. Г. Шаблінскай. – Мінск: Маст. літ., 2005.

[2] Бураўкін Г. Пад белымі крыламі // Салідарнасць, 2005, 25 лістап.

[3] Паводле: Рагойша В. Дзесяць саг пра Караткевіча. – Мінск: Маст. літ., 2020, с. 53–54.

[4] Перадусім Беларусь: згадваючы Генадзя Бураўкіна: гутаркі, успаміны, эсэ, дзённікі, прысвячэнні / укл. С. Шапрана. – Смаленск: Інбелкульт, 2016, с. 462.

[5] Аўтарызаваны машынапіс пад назвай «Родная, незабыўная...». БДАМЛМ, ф. 520, воп. 1, адз. зах. 42, арк. 48.

[6] Бураўкін Г. Выбраныя творы / уклад., камент. Г. Бураўкіна; прадм. У. Някляева. – Мінск: Кнігазбор, 2009, с. 180.

[7] Перадусім Беларусь, с. 482.

[8] Караткевіч У. Збор тв. У 25 т. Т. 12. Публіцыстыка. Эсэ-нарысы: 1952–1982 / падрыхт. тэкстаў і камент. П. Жаўняровіча; рэд. тома В. Іўчанкаў. – Мінск: Маст. літ, 2016, с. 379.

[9] Размова ідзе пра запіску, на адвароце якой пазначана: *Гене Бураўкіну* і якую Караткевіч пакінуў, мабыць, не заспеўшы Бураўкіна ў студэнцкім інтэрнаце. Імаверна датаваць другой паловай 1950-х гг. з-за адсылкі да верша «Заяц варыць піва» (першапублікацыя адбылася ў 1956 г.), і, па-другое, калі запіска сапраўды была пакінута Караткевічам у студэнцкім інтэрнаце, значыцца, размова можа ісці сапраўды пра другую палову 1950-х, бо менавіта ў гэты час вучыліся разам у БДУ Г. Бураўкін і названыя ў запісцы Р. Барадулін і Ю. Свірка.

[10] Прымаўка пра чалавека, які мусіць шмат рухацца, блукаць, рабіць розную працу, часам без толку. Выраз склаўся на падставе легенды пра сялянскага хлопца Марка, які многа дзён ездзіў на кані па пекле і ўвесь час са шкадаваннем і болем назіраў, як грэшнікі церпяць пакуты, але нічым дапамагчы ім не мог .

[11] Жартаўлівая лаянка. Przeklęta – пракляты (*польск.*).

[12] Пацалунак у абодва плячы ў алтары прыняты ў духавенства на Усходзе. У старажытнай Русі пацалаваць у плячо чалавека вышэйшага саслоўя мог прадстаўнік ніжэйшага саслоўя. *Цалую ў плечыка* – такім чынам Караткевіч у жартаўлівай форме выказваў павагу да адрасата.

[13] Караткевіч, відаць, мае на ўвазе свой верш «Заяц варыць піва» (1955; упершыню: Полымя, 1956, № 3).

[14] Мусіць, Рыгора Барадуліна.

[15] Мусіць, маецца на ўвазе Свірка Юрась (Юрый Мікалаевіч; 1933-2010) – беларускі паэт і перакладчык, які гэтаксама, як і Бураўкін, быў паходжаннем з Віцебшчыны і вучыўся на факультэце журналістыкі БДУ. Аўтар верша «Уладзімір Караткевіч».

[16] У 1958–1960-х гг. Караткевіч вучыўся на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве.

[17] Бураўкіна Юлія Якаўлеўна (у дзявоц. Жадан; нар. у 1940) – жонка Г. Бураўкіна. Распісаўшыся 9 мая 1959 г., неўзабаве Юлія і Генадзь Бураўкін наладзілі сціплае студэнцкае вяселле.

[18] Газета «Чырвоная змена», дзе ў гэты час (1959–1961) працаваў зямляк Г. Бураўкіна паэт Ю. Свірка.

[19] Падчас вучобы на пятым курсе Г. Бураўкін узімку захварэў на грып, які даў ускладненне, у выніку Бураўкін патрапіў у бальніцу з сухотамі.

[20] Літаральна «маці-карміцелька» (*лацін.*). Старадаўняя студэнцкая назва ўніверсітэта, які дае духоўны пажытак. Звычайна ўжываецца не толькі да ўніверсітэта, але і да іншых навучальных установ.

[21] Юрась Свірка.

[22] Мусіць, Рыгора Барадуліна.

[23] Верш «Месяц заснуў на коміне хаты...» (упершыню: Маладосць, 1960, №6) быў уключаны ў зборнік Караткевіча «Вячэрнія ветразі» (1960). У пазнейшай рэдакцыі другі радок выглядае іначай: «Кінуў адбіткі на люстра вады», у трэцім радку: «Дрэвы густыя».

[24] Дакладней – рапушка, ці рыпус, ці кілец – від праснаводных рыб роду сігаў. Кляпец – мясцовая назва белавочкі, ці сапы – рыбы сям'і карпавых.

[25] Сімановіч Давід Рыгоравіч (1932–2014) – беларускі паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Пісаў на рускай мове. Працаваў настаўнікам рускай мовы і літаратуры (1955–1959); літсупрацоўнікам газеты «Віцебскі рабочы» (1960–1961); рэдактарам, старшым рэдактарам, загадчыкам аддзела мастацкіх перадач Камітэта па тэлебачанні і радыёвяшчанні Віцебскага аблвыканкама (1961–1994). Узначальваў Віцебскае абласное літаратурнае аб'яднанне і абласное аб'яднанне маладой творчай інтэлігенцыі «Веснянка». Аўтар праекта «Дні літаратуры, прысвечаныя Уладзіміру Караткевічу» (1986). Заснавальнік і аўтар міжнародных праектаў «Шагалаўскія дні», «Шагалаўскія чытанні», «У гасцях у Марка і Бэлы». Старшыня Пушкінскага (1989) і Шагалаўскага камітэтаў (1991). Лаўрэат І прэміі Рэспубліканскага конкурса, прысвечанага 150-годдзю з дня нараджэння А. Пушкіна (1940), Шагалаўскай прэміі (1992), абласной прэміі імя У. Караткевіча (2001). Прысвяціў Караткевічу верш «Опять на планете ночами бессонными...».

[26] Размова ідзе пра Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве.

[27] Караткевіч не толькі нарадзіўся і скончыў школу ў Оршы, але і жыў тут пазней, у 1956–1958 гг., калі настаўнічаў у школе.

[28] Луцэвіч Уладзіслава Францаўна (1891–1960) – жонка Янкі Купалы. У 1944–1960 – дырэктар Літаратурнага музея Янкі Купалы ў Мінску. Наведаўшы ў 1952 г. родныя мясціны Я. Купалы, Караткевіч напісаў нарыс «Вязынка», які даслаў Уладзіславе Луцэвіч

і які быў змешчаны ёю ў зборніку «Янка Купала: зборнік матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці паэта» (1955). Караткевіч дзякаваў потым Уладзіславе Францаўне: «Вы цяпер нешта накшталт маёй хроснай маці: першы мой выступ у вялікай прэсе быў зроблены дзякуючы Вам (гэта самая “Вязынка”)».

[29] Так Караткевіч у жартаўлівай форме піша пра экзамены. «Акзамінт» сустракаецца ў апавяданні К. Крапівы «Здаў “акзамінт”» (1923), а таксама ў апавяданні Л. Калюгі «Баркаўцы – добрая вёска, і баркаўчане – вясёлыя людзі»: «Тады толькі акзамінт на сабачую мову здасі» (1927–1928).

[30] З Бібліі. Звычайна так кажуць у іранічным значэнні пра штосьці незразумелае, невядомае.

[31] Відаць, маецца на ўвазе першая кніга Г. Бураўкіна «Майская просінь» (Мінск: Дзяржвыд БССР, 1960).

[32] Бураўкін Г. Палеская балада // Беларусь, 1959, №8, с. 2.

[33] Размова ідзе пра наступныя чатыры радкі: «Ля знаёмых дубоў і ліп, / Каля мірных заснуўшых сяліб, / Дзе нямала сяброў-партызан, / Дзе спакойная рэчка Лань...». У часе кніжнай публікацыі «Палескай балады» гэтыя радкі Бураўкіным былі скарочаны, відаць, паводле парады Караткевіча (гл.: Бураўкін Г. Майская просінь: лірыка. – Мінск: Дзяржвыд БССР, 1960, с. 41–42).

[34] У 1959 г. публікацый У. Караткевіча ў «Литературной газете» не было, таму імаверна выказаць здагадку, што размова ідзе пра газету «Літаратура і мастацтва» і, у прыватнасці, пра артыкул Караткевіча «Якім шляхам ісці?» (ЛіМ, 1959, 26 жн.), які ў арыгінале меў назву «Загібель або росквіт» і выйшаў у значна адрэдагаваным выглядзе.

[35] Лацінскі крылаты выраз, які цалкам гучыць так: *si vis pacem, para bellum* (хочаш міра – рыхтуйся да вайны).

[35] Маецца на ўвазе гісторыя з крытычнымі артыкуламі ў аршанскай газеце «Ленінскі прызыў». Караткевіч так апісваў гэтыя падзеі ў лісце да паэта А. Куляшова: «Тут адбылася немаведама з якой прычыны сапраўдная вайна. Купка таварышаў засела ў нашай газеце “Ленінскі прызыў” і вядзе беглы агонь па тых пазіцыях, дзе, па іхніх меркаваннях, павінен знаходзіцца я. [...]

Прычын я не ведаю. [...] Узначальвае гэту “баталію” (як сказаў бы лынькоўскі дзед Астап) нейкі Л. Высоцкі – загадчык сельскагаспадарчага аддзела нашай газеты. Па роду сваіх заняткаў ён, вядома, павінен разбірацца не толькі ў тым, на якім дрэве расце бручка, але і ў паэзіі. І вось ён выступіў з артыкулам, у якім меча громкія словы, б’е кулакамі ў грудзі і прадракае маю грамадзянскую смерць [...].

Вылаяў мяне, зачапіў «Орган СП “Полымя”», якое змясціла мае “нізкапробныя практыкаванні”, больш за ўсё апалчыўся на “Вадарод”, які спадабаўся Вам, пра што Вы сказалі Вялюгіну і той вырашыў надрукаваць гэты верш. [...]

Такое брыдкае падтасоўванне карт, Вы самі пабачыце. Перакруцілі маю ідэю, мае словы і г. д.

Я смяяўся. Гэта, уласна кажучы, для мяне як рэклама, бо зараз мяне чытаюць у Оршы як ніколі, у бібліятэцы нумар “Полымя” нельга дастаць» (З ліста ад 18 жн. 1957 г. Куляшова, В. Лясному рэху праўду раскажу...: літаратуразнаўч. эсэ. – Мінск: Маст. літ., 1989, с. 221–222). Больш за тое, Л. Высоцкім у дадатак былі арганізаваны «водгукі» чытачоў – як пісаў Караткевіч у тым жа лісце да А. Куляшова, «толькі адмоўныя водгукі» патрабавалі ад супрацоўнікаў і чытачоў гарадской бібліятэкі, але паколькі тыя адмовіліся, «адшукалі іншых», прычым іх водгукі былі падазрона спрэс дрэнныя (тамсама, с. 223). Артыкул Л. Высоцкага «Не ў нагу з жыццём» быў надрукаваны 31 ліпеня 1957 г., а ўжо 16 жніўня ў «Ленінскім прызыве» з’явіліся лісты чытачоў, дзе да шальмавання Караткевіча далучыліся інструктар райкома камсамола В. Кавалькоў, інжынер-тэхнолаг машынабудаўнічага завода С. Дзятлава, прапагандыст райкома КПБ В. Бабічаў, загадчык навучальнай часткі індустрыяльна-педагагічнага вучылішча І. Смарыга, сакратар райкома камсамола В. Чэйкіна, загадчык кафедры гісторыі КПСС Мінскага педінстытута А. Жураў, вучань адной са школ горада А. Окаракаў, галоўны ўрач супрацьтуберкулёзнага дыспансера Р. Васкрэсенская.

[37] Мабыць, маецца на ўвазе паэма «Бацькава сэрца», што ўвайшла ў кнігу «Вячэрнія ветразі».

[38] Размова ідзе пра эсэ «Тысячу стагоддзяў табе!», якое ў тым жа годзе было апублікавана ў часопісе «Маладосць» (№8, с. 156-167), галоўным рэдактарам якога быў Г. Бураўкін. Эсэ напісана да тысячагоддзя Віцебска.

[39] Віцьбічамі Караткевіч называў жыхароў Віцебска.

[40] Кунцэвіч Іасафат (Язафат, свецкае імя Іван Кунцэвіч; 1580-1623) – грэка-каталіцкі царкоўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, царкоўны пісьменнік, прылічаны каталіцкай царквой да ліку святамучанікаў. Будучы полацкім архібіскупам (з 1618), настойліва па-

шыраў уніяцтва, у тым ліку прымусовымі сродкамі, што выклікала супраціў гараджанаў. Забіты ў 1623 г. у Віцебску. Быў абвешчаны пакутнікам і ў 1867 г. быў прылічаны да ліку святых каталіцкай царквы. Іасафат Кунцэвіч – адзін з галоўных персанажаў п'есы Караткевіча «Званы Віцебска».

[41] «Витебская старина» – зборнік дакументаў па гісторыі Віцебскага краю XI–XIX ст., якія былі сабраны і выдадзены ў 1883–1888 гг. гісторыкам і краязнаўцам Аляксеем Сапуновым.

[42] Так ў савецкі час было прынята нефармальна называць Дзяржаўную бібліятэку БССР імя У. І. Леніна (з 1992 – Нацыянальная бібліятэка Беларусі). Эсэ Караткевіча «Тысячу стагоддзяў табе!» было праілюстравана фота берасцяной граматы, знойдзенай пры раскопках у Віцебску, гравюрай С. Юдовіна «Стары Віцебск», а таксама фотаздымкамі – сучасным і чэрвеньскім 1944 г.

[43] «Званы ў прадоннях азёр» – эсэ Караткевіча, якое ўпершыню было апублікавана ў часопісе «Маладосць», 1969, № 12.

[44] Размова ідзе пра кнігу «Кала Бруньён» Рамэна Ралана (1866-1944), французскага пісьменніка, лаўрэата Нобелеўскай прэміі (1915), якую У. Караткевіч падараваў Юліі Бураўкінай.

[45] Герой аповесці «Кала Бруньён» Р. Ралана.

[46] Бургундзія – гістарычная вобласць і рэгіён на ўсходзе Францыі.

[47] Падзеі ў аповесці Р. Ралана адбываюцца падчас эпідэміі чумы. Ад чумы гіне жонка галоўнага героя Фільбера дэ Во.

[48] Чарнавы аўтограф з буйнымі праўкамі, які першапачаткова пачынаўся наступным чынам: *Юлі Як. Бур*, але потым У. Караткевічам уверсе было напісана: Мілай Юленьцы Якубаўне Бураўкінай, Вельцэшаноўнай, Асьвечанай. Тое, што ніжэй падаецца ў квадратных дужках і курсівам, было закрэслена У. Караткевічам і перапісана (заўважым, што імя па бацьку жонкі Г. Бураўкіна жартаўліва зыначана, а «Народная асвета» прыгадваецца таму, што Юлія Якаўлеўна працавала ў гэтым выдавецтве):

«Мілай Юленьцы Якубаўне Бураўкінай, Вельцэшаноўнай, Асьвечанай, – гэтага пяшч[отнага] "Кала" [першапачаткова далей ішло: *якога ў выд[авецтве] "Народная асвета"]* улюбёнага ім і зьнявечанага горай [першапачаткова: *зьнявечылі горш*], чым сеньёр Фільбер з Кенсі зьнявечыў бедныя [першапачаткова: *няшчасныя*] стварэнні рук Кала жывога – дорыць ад шчырага сэрца [першапачаткова: *гэтую кніжку бедны*] гаротны Уладзімір Караткевіч, у якога няма "Кала" цэлага, з рукамі і нагамі і ўсім іншым, неабходным і бургундцу, і беларусу "Кала["], [першапачаткова: *"Кала Бруньёна", а ёсць*] а цяпер не будзе і такога [першапачаткова: *гэтага няма, бо дару "Кала"*)], які двойчы перахварэў чумой [першапачаткова: (*немагчыма*)] (а дзе імунітэт?), двойчы пахаваў адзіную жонку [першапачаткова: *жонку*], але [першапачаткова: *ні разу не паўстаў*] затое быў законапаслушны і аніразу не паўстаў.

Застаюся
законапаслушны
Ул. Караткевіч.

29 сакавіка 82 г.».

Таццяна Барысюк



...шчасце – гэта ўнутрана-суб'ектыўная, а не нацыянальная характарыстыка...

# Сучасная Вялікабрытанія: міфы і рэальнасць

***Гутарка з Арнольдам Макмілінам***

*– Спадар Арнольд, у апошнія гадоў трыццаць навідавоку вялікая ўвага літаратуразнаўства ўсходнеславянскіх краін да імагалогіі, у рамках якой вывучаецца мастацкае ўспрыманне "сваіх" і "чужых" аб'ектаў, краін і іх жыхароў, у тым ліку стэрэатыпнае. Не сакрэт, што пра прадстаўнікоў розных краін у кожнага народа ёсць свае ўяўленні, якія могуць быць памылковымі (міфы), а могуць адпавядаць рэчаіснасці. Беларусы ведаюць Вялікабрытанію (і Англію ў прыватнасці) і паводле яе літаратуры, і праз падарожжы дзеля азнаямлення з яе прыродай і культурай. Я назаву некалькі шаблонных сцвярджэнняў пра побыт, звычкі і нацыянальны характар англічан, а Вы, калі ласка, распавядзіце, ці мае гэта месца ў сённяшняй англійскай рэчаіснасці, ці не, або, магчыма, такое было, але з часам знікла. Калі Вы ўспомніце, што згаданая мной характарыстыка была адлюстравана ў якім-небудзь брытанскім літаратурным творы, сучасным ці ранейшым, гэта будзе вельмі дарэчы. І, само сабой, усім будзе цікава даведацца пра Ваша асабістае стаўленне да тэм, закранутых у гэтых пытаннях.*



Арнольд МАКМІЛІН.

– Калі ласка...

*– Пачнём з гастранамічных прыярытэтаў англічан. Ці праўда, што яны на сняданак ядуць аўсянку, а 17-й п'юць гарбату, а на Каляды ядуць пудынг?*

– Пасля Другой сусветнай вайны Брытанія паступова станавілася ўсё больш і больш полікультурнай краінай у прыватнасці не толькі ў выніку іміграцыі з былых калоній і з іншых месцаў. Што я магу сказаць напэўна, гэта тое, што больш людзей п'юць каву, чым гарбату, хаця я сам п'ю як фруктовую гарбату, так і каву. Каляды многія людзі святкуюць адпаведна з традыцыямі віктарыянскіх часоў (Дыкенс), з індычкай і соусамі, нарэзкай (каўбасы, бульбы, брусельскай капусты). Традыцыйны пудынг мае форму шарыка, надзвычай густы, з галінкай падуба зверху, а часам і са схаванай унутры шасціпенсавай манетай для дзяцей, усё з вялікай колькасцю тлустых вяршкоў. Залішне казаць, што ў нашыя дні шмат вегетарыянцаў і што многія з іх заклапочаны ўзроўнем халестэрыну, таму не кожны наесца ў такое свята.

*– Англійскі лексікограф XVIII стагоддзя Сэмюэл Джонсан з гумарам заўважаў, што "калі сустракаюцца два англічаніны, яны заводзяць размову пра надвор'е", а вядомы празаік і афарыст Оскар Ўайльд выказаў меркаванне, што "лонданскія туманы не існавалі, пакуль іх не адкрыла мастацтва". Ці з'яўляюцца туманы часта ўжывальным у літаратуры вобразам англійскага нацыянальнага ландшафту? Ці сапраўды клімат у Англіі такі "невясёлы", што, як пісаў Сэмюэл Батлер, "англічане падарожнічаюць не дзеля таго, каб пабачыць чужыя краі, а каб пабачыць сонца"?*

– Надвор'е сапраўды з'яўляецца тэмай размовы для многіх, паколькі, жывучы на востраве, можна заўважыць, што надвор'е тут даволі часта змяняецца. Доктар Джонсан (як яго тут называюць) быў вельмі дасціпным, і многія з яго афарызмаў вядомыя дзякуючы "Жыццю", напісанаму яго сябрам Босуэлам. Я не ведаю пра туманы часоў Оскара Ўайльда, але ў 1950-я гады быў уведзены "акт на чыстае паветра", і, наколькі я ведаю, туманы сышлі ў мінулае, я час ад часу бачыў іх у Лідсе, вялікім горадзе непадалёку ад курортнага горада Харагейта, дзе я жыў у дзяцінстве.

Доктар Джонсан адносна звычкі англічан вандроўнічаць перабольшваў, кажучы, што любы наведвальнік паўднёвай Еўропы апынецца ў атачэнні немцаў, скандынаваў і рускіх, а таксама англічан. Многія англічане жывуць пастаянна або часцей за ўсё на поўдні Еўропы (прынамсі, адзін з іх стаў мэрам у французскім горадзе). Любыя думкі пра тое, што я мог бы знайсці месца пад сонцам (як сумна быць адрэзаным ад усяго) і пра наяўнасць натоўпаў экспатаў у рэстаранах на поўдні Партугаліі (калі мы там штосьці святкавалі) былі разагнаны думкай пра тое, што гэтых людзей як адзінай маёй кампаніі было дастаткова, каб развеяць любыя думкі аб тым, каб там жыць. З іншага боку, я часта кажу, што калі б мяне цікавіла надвор'е, я павінен быў бы жыць у іншай краіне.

*– Марк Твэн успрымаў адрозненне суайчыннікаў ад англічан так: "Амерыканец – гэта той, хто робіць што-небудзь таму, што так не рабілі раней. Англічанін – таму, што так рабілі раней", супрацьпастаўляючы прагу амерыканцаў да наваўвядзенняў – кансерватызму (традыцыяналізму) англічан. Ці меў ён рацыю так казаць? Якія нацыянальныя традыцыі шануюць англічане?*

– Марк Твэн памёр у 1910 годзе, і амерыканскі хуткі прагрэс у тэхналогіях толькі пачаўся прыкладна ў той самы час, таму ён, зразумела, ведаў, што першая чыгунка

знаходзіцца ў Вялікабрытаніі і першы падземны цягнік быў запушчаны ў Лондане. Пасля вайны менавіта англічанін вынайшаў першы паспяховы рэактыўны рухавік для самалётаў. Але англічане сапраўды атрымліваюць задавальненне ад некаторых са сваіх традыцый, напрыклад, ад каралеўскай сям'і – значна лепш мець каралеву (або караля) у праблемным свеце, чым дыктатара або, скажам, місіс Тэтчар. Ёсць разнастайныя традыцыйныя і спартыўныя гульні (але няма такіх, якія існуюць толькі ў Вялікабрытаніі). У нашым парламенце было больш кансерватараў, чым лібералаў (так званых прагрэсіўных), але, безумоўна, вельмі цяжка ведаць будучыню.

*– Ці згодны Вы з меркаваннем Джорджа Бернарда Шоу пра тое, што "нязменны дэвіз англічаніна – абавязак; і ён заўсёды помніць, што нацыя, якая дапусціла, каб яе абавязак разышоўся з яе інтарэсамі, загінула"?*

– Абавязак – вельмі складанае паняцце, і гэта слова нячаста выкарыстоўваецца ў нашы дні, хаця, несумненна, большасць людзей у Вялікабрытаніі і ў Беларусі падсвядома выконваюць свой абавязак так ці іначай. Жахлівы лідар, такі, як Гітлер, мог пераканаць сваіх паслядоўнікаў у тым, што яны выконваюць свой абавязак, пераследуючы яўрэяў і славян у цэлым. У Савецкім Саюзе ў пэўны час людзі, якія пасылалі ананімныя лісты ўладам пра сваіх суседзяў, верагодна, думалі, што яны выконваюць свой абавязак.

*– Нямецкаму рамантыку Навалісу належаць наступныя словы: "Не толькі Англія, але і кожны англічанін – востраў", маючы на ўвазе ўнутрана-псіхалагічную замкнёнасць англічанаў, адасобленасць, неабходнасць у наяўнасці асабістай прасторы. Можа, якраз такім месцам і з'яўляецца для брытанцаў "мой дом – мая фартэцыя"? Вобразам англійскага дома ў маёй беларускай свядомасці ўяўляецца замак і сад ля яго. Ці гэта так?*

– Вельмі нямногія брытанцы жывуць у замках, хаця многія жывуць у дамах з садамі, вялікімі і маленькімі, і ім падабаецца працаваць у іх. Мне цяжка каментаваць назіранні нямецкага рамантыка, у прыватнасці таму, што немцы дэманструюць тэндэнцыю да падпарадкавання калектыву, падобнага авечкам, з тых часоў, як краіна была "вынайдзена". Усе абагульненні па сваёй прыродзе недакладныя, калі не зусім памылковыя. Фраза "дом англічаніна – яго замак" нарадзілася ў віктарыянскія часы, калі класавыя супярэчнасці былі значна вастрэйшымі, чым сёння. Я сам не адчуваю сябе асабліва замкнутым і, хаця я не экстраверт, атрымліваю задавальненне ад размоў з маімі сябрамі. Ідэю неабходнасці сваёй уласнай прасторы выказваюць не толькі брытанцы, хаця ў многіх краінах яе можа быць цяжка знайсці.

*– Блізкай да папярэдняй характарыстыкі ўспрымаецца эмацыянальная нераскрытасць брытанцаў напаказ. Так, паводле Мітчала Уілсана, "стрыманасць – якасць, характэрная для англічаніна", і Рычард Олдынгтан казаў: "Англічане ўяўляюць, што здольнасць адчуваць – прыкмета маладушнасці". Натхняльна гучыць выслоўе: "той, хто валодае сабой, валодае светам" Джорджа Савіла, маркіза Галіфакса. Якое Вашае меркаванне пра англійскую стрыманасць?*

– Наступнае можа быць зусім недарэчным, але нямецкія зняволеныя ў Вялікабрытаніі пасля Другой сусветнай вайны выявілі, што жыхары паўднёвай яе часткі былі значна больш адкрытымі для іх, але павярхоўнымі, тады як на поўначы Англіі людзі не спяшаліся пазнаёміцца з імі, а пасля паказалі больш паслядоўнай дабрыні. Асабіста мне падабаецца памяншэнне праблем і не падабаецца выказванне абагульненняў аб краінах, у тым ліку і аб маёй уласнай, хоць у цяперашніх дыскусіях з Еўрапейскім Звязам цяжка застацца ў баку ад каментароў некаторых з нашых суседзяў, таксама як і землякоў. Экстравагантныя жэсты і гучныя галасы не характэрны для большасці брытанцаў, але зараз часта можна пачуць, як людзі крычаць у свае мабільныя тэлефоны. Крык абсалютна супраць маёй прыроды. У гады майго юнацтва стрыманасць не лічылася дрэннай, і я выхоўваўся па прынцыпе "казаць толькі тады, калі гавораць табе". Зразумела, як і большасць прынцыпаў, яго не варта ўспрымаць літаральна або празмерна.

*– Паводле назіранняў Гілберта Кіта Чэстэртана, яго "...заўсёды да глыбіні душы*

*ўражвае дзіўная ўласцівасць маіх суайчыннікаў: неапраўданая саманадзейнасць у спалучэнні з яшчэ больш неапраўданай сціпласцю". На Вашу думку, сінтэз такіх рысаў у характары сучасных англічан сустракаецца?*

– Чэстэртан быў вельмі ўпартым парадаксалістам. Мне не падабаюцца вельмі самаўпэўненыя людзі (іх шмат у Францыі, Германіі і Расіі, але гэта толькі некаторыя іншыя краіны, а таксама ў Вялікабрытаніі), хоць ёсць больш мяккая форма гэтага слова: упэўненыя ў сабе. Сціпласць часта звязана з простай сарамлівасцю і ў любым выпадку заўсёды рызыкуе быць ілжывай сціпласцю. Я мог бы прапанаваць Вам цытату з маёй калекцыі: калі хтосьці сказаў Чэрчылю, што яго знаёмы палітычны дзеяч Клемент Аці быў вельмі сціплым чалавекам, Чэрчыль адказаў: "У яго ёсць шмат, каб быць сціплым".

*– Для беларусаў, на маю думку, характэрны жыццёвы выбар паводле прынцыпу "лепш верабей у руцэ, чым жораў пад небам", бо яны асцярожныя і "заземленыя" рэалісты. Хоць Алесь Разанаў і раіў суайчыннікам "ускрыльваць духам". Згадаю, што і ў англічан ёсць падобная прыказка: "Лепш яйка сёння, чым курыца заўтра". Тым не менш аўтар дысертацыі "Англійскі нацыянальны характар як культурны канструкт (на матэрыяле англійскай мастацкай літаратуры)" Алена Сяргееўна Коршунава падкрэслівала "максімальную настойлівасць у дасягненні сваіх мэтаў" у прадстаўнікоў названай нацыі. Рэдзьярд Кіплінг раіў суайчыннікам: "Вер сам у сябе, насуперак Сусвету", Роберт Браўнінг казаў: "Мяжа магчымасцяў чалавека павінна быць пераўзыдзена, інакш для чаго патрэбны нябёсы?" Ці сапраўды англічане такія самаўпэўненыя і мэтанакіраваныя "дасягатары"?*

– Англічане таксама гавораць: "Птушка ў руцэ лепш, чым дзве ў кусце". Я не ведаў гэтую параду Разанава беларусам, але я лічу, што рэалізм – гэта станоўчая з'ява. Я таксама лічу, што рашучасць дасягнуць мэты вартая таго, нават калі расчараванні непазбежныя (напрыклад, у спартыўных спаборніцтвах). Кіплінг быў шмат у чым чалавекам свайго часу, і Браўнінг, на мой погляд, меў здольнасці пісаць вершы. Я не думаю, что сучасныя англічане больш самаўпэўненыя, чым прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў.

*– Хацелася б спытацца пра англійскае каханне. Яно такое ж эмацыянальна-стрыманае, як і яго носьбіты? І такое ж рацыянальна-прадуманае – як у выслоўі Сэмюэла Джонсана: "калі хочаш кахаць доўга, кахай розумам, а не сэрцам"? А брытанскае сямейнае каханне – такое ж ненатхняльнае, як у словах Д.Г. Байрана: "Вы думаеце, калі б Лаура была жонкай Петраркі, ён пісаў бы ёй санеты ўсё сваё жыццё"? Ці ўсё вышэйпералічанае – гіпербала? Можаце распавесці, калі не сакрэт, як Вы ўспрымаеце каханне?*

– Існуе шмат міфаў пра мілосць праз прызму нацыянальных асаблівасцяў. І тут, як і паўсюль, англічане любяць афарызмы і жарты. Я не думаю, што доктар Джонсан быў вялікім аўтарытэтам у гэтым пытанні, прытрымліваючыся, наколькі я помню, толькі мужчынскай кампаніі. Што датычыцца лорда Байрана, ён быў знакаміты як "вар'ят, дрэнны і небяспечны, каб яго ведаць". Як і многія падлеткі мужчынскага полу, ён любіў казаць і пісаць пра каханне, аднак яго ўласнае любоўнае жыццё было далёкім ад ідэалу, з вельмі вялікай колькасцю прастытутак, і памёр ён у Грэцыі, але не ад барацьбы з туркамі, а ад венерычнай хваробы. Французы распаўсюджваюць міф, што Францыя – краіна кахання, а французы –найлепшыя палюбоўнікі; аднак некалькі французскіх дзяўчын былі перакана290ы, што гэта няпраўда.

*– Што Вы можаце сказаць пра справядлівасць наступнага меркавання Агаты Крысці: "Англічанін перш за ўсё думае пра сваю працу – службу, як ён гэта называе, – пасля пра спорт і, нарэшце (у лепшым выпадку нарэшце), пра сваю жонку"? Якія прыярытэты (калі не сакрэт) у Вашым жыцці?*

– Метады напісання дэтэктыўных гісторый у Конана Дойля і Агаты Крысці былі падобнымі: яны заключаліся ў тым, каб стварыць абагульненую мірную сітуацыю, у якую можна было б увесці некаторыя злачынствы. Я здзівіўся б, калі б

большасць маіх сучаснікаў не думала найперш пра свайго партнёра, хоць часы, пра якія пісала Крысці, былі да вызвалення жанчын. Дома асабіста я спрабую пачуць вынікі спартыўных гульняў, перш чым турбавацца аб навінах або палітыцы.

*– Оскар Ўайльд лічыў, што “мэта мастацтва – не простая праўда, а складаная прыгажосць”, якая павінна быць кіруючым прынцыпам у дзеяннях чалавека. Як Вы мяркуеце, якой павінна быць сапраўдная паэзія? Што ў ёй павінна быць, акрамя прыгажосці? Што Вы можаце сказаць пра адзінства ісціны, дабра і прыгажосці ў жыцці і творчасці?*

– Гэта самае абстрактнае з многіх абстрактных пытанняў. Многія спасылаюцца на ідэю Оскара Ўайльда, але, напрыклад, кітсаўскае “«прыгажосць – гэта ісціна, прыгажосць ісцінна», – гэта ўсё, што вы ведаеце на зямлі, і ўсё, што вам трэба ведаць”. Асабіста я лічу, што паэзія (і, калі на тое пайшло, музыка – думаючы пра Баха і Вагнера) можа прымаць любую колькасць формаў, і адзінае, што мае значэнне, гэта тое, што паэт можа ўтрымліваць увагу інтэлігенцыі. У беларускім кантэксце Разанаў і Барадулін вельмі розныя, але абодва вялікія паэты. У апошнія гады я звярнуў асаблівую ўвагу на Вальжыну Морт і Вольгу Гапееву як на вельмі таленавітых і цікавых маладых паэтак, але, зразумела, няма рэцэпта або формулы для добрай паэзіі. Разнастайнасць – гэта ўсё.

*– Скажыце, калі ласка, пунктуальнасць англічан – гэта міф ці яна сапраўды мае месца ў сучаснай рэчаіснасці? Пра гэта ёсць фраза з “Віндзарскіх насмешніц” Ўільяма Шэкспіра: “Лепш тры гадзіны прачакаць, чым на адну хвіліну спазніцца”.*

– Я лічу, што пунктуальнасць з’яўляецца сарцавінай добрых манер, і я стараюся быць пунктуальным. І мне сімпатычна гіпербалічная лінія Шэкспіра. На сённяшні дзень я, аднак, стараюся чакаць людзей, якія не могуць быць пунктуальнымі, у месцы, дзе я магу сесці і расслабіцца.

*– Блізка да пытання пра пунктуальнасць стаіць пытанне ўспрымання часу і працы рознымі нацыямі. На маю думку, калі змяніць рускую прыказку “будзе дзень – будзе ежа” на “будзе дзень – будзе праца”, то атрымаецца беларускае ўспрыманне апошняй, бо мае суайчыннікі ў пераважнай большасці не вельмі практычныя, спрытныя і прадуманыя ў бізнес-стратэгіях і тайм-менеджменце. Яшчэ беларусам блізкая па духу руская прыказка “праца не воўк, у лес не ўцячэ”. Працытую таксама думку Пятра Вяземскага: “Англічане кажуць: час – грошы. Рускія кажуць: жыццё – капейка”. Фраза “час – грошы” з вышэй згаданага выслоўя сэнсава блізка судакранаецца з “дэвізам брытанцаў – бізнес нягледзячы ні на што!” Уінстана Чэрчыля на вайне. Што Вы думаеце пра ўспрыманне часу і працы англічанамі і беларусамі?*

– Мне б не хацелася параўноўваць беларускія і брытанскія звычкі. “Час – гэта грошы” – гэта выказванне, відавочна, выкарыстоўваецца бізнесменамі, а не вучонымі або акадэмікамі. Напалеон назваў Брытанію краінай лавачнікаў, і крамы павінны былі адчыняцца своечасова. Я заўсёды думаў, што нельга прабачаць настаўнікам, якія спазняюцца на заняткі і лекцыі. Што датычыцца ваўкоў і лясоў, я лічу, што адным з найкаштоўных унёскаў амерыканцаў у агульначалавечую думку з’яўляецца фраза «Зрабі гэта цяпер!».

*– Ветлівасць і добрыя манеры часта сустракаюцца на вуліцах і ў дамах Англіі і Беларусі?*

– Многія іншаземныя госці Брытаніі заўважаюць добрыя норавы людзей на вуліцы ў Лондане і ў іншых месцах. З майго ўласнага вопыту, беларусы больш ветлівыя, чым, напрыклад, рускія, на вуліцах і ў грамадскім транспарце.

*– Англічане называюць сябе “лэдзі” і “джэнтльмены”, беларусы – “спадар” і “спадарыня”. Першыя падкрэсліваюць свецкасць, эстэтыку паводзін, манеры, другія – гаспадарлівасць, здольнасць зрабіць дом функцыянальна-прадуманым і ўтульным. Якія асноўныя правілы паводзінаў лэдзі і джэнтльменаў захаваліся дагэтуль у англійскім грамадстве?*

– Асабіста мне не падабаюцца словы “дамы” і “джэнтльмены”, якія гучаць як

“грамадскія прыбіральні”. Я заўсёды кажу “мужчыны і жанчыны”, хоць пралетарыі ўсё яшчэ чуюць “дамы і джэнтльмены”! Словы “дамы і джэнтльмены” таксама выкарыстоўваюцца на пачатку лекцыі або схода, каб прыцягнуць увагу аўдыторыі. Я не думаю, што гэтыя словы маюць якое-небудзь дачыненне да паводзінаў англічан або беларусаў. У Савецкім Саюзе слова “таварыш” не паўплывала на тое, як людзі ставіліся адно да аднаго.

*– Мікалай Гогаль казаў: “Сэрцазнаўствам і мудрым пазнаннем жыцця адзавецца слова брытанца; лёгкім франтам бліснe і разляціцца недаўгавечнае слова француза; вынаходліва прыдумае сваё, не ўсякаму даступнае разумна-хударлявае слова немец, але няма слова, якое было б так замашыста, жвава, так вырывалася б з-пад самога сэрца, так бы кіпела і жыва трапятала, як трапна сказанае рускае слова”. Вальтэр Скот пісаў наступнае: “Англічане могуць выказаць сваю думку толькі адным спосабам, але затое самыя вынаходлівыя ў свеце людзі не ў сілах вылучыць іншы сэнс з іх слоў”. Спадар Арнольд, якія асацыяцыі ў Вас выклікае англійская лексіка? А які спектр пачуццяў гучыць у Вашай душы ад беларускіх слоў?*

– У англійскай мове больш слоў, чым у любой іншай еўрапейскай краіне, і многія з іх блізкія, але не дакладныя сінонімы і амонімы. На гэтай мове лёгка размаўляць на элементарным узроўні (як у краме), але надзвычай цяжка гаварыць дакладна і добра. Ад Чосера і Шэкспіра да нашых дзён пісьменнікі і іншыя людзі карысталіся жартамі, якія паходзяць ад семантычна або фанетычна падобных слоў. Добры сказ збалансаваны і не паўтарае адно і тое ж слова ў непасрэднай блізкасці. Паколькі па-англійску гавораць па ўсім свеце, ёсць не толькі слоўнікі шатландскай і ірландскай англійскай мовы, але і аўстралійскі, амерыканскі і многія іншыя варыянты гэтай мовы.

*– Рускі кампазітар Антон Рубінштэйн казаў, што “літара I (я) – адзіная, якую англічане пішуць вялікай, – я знаходжу, што гэта лепшае выяўленне іх характару”. Ці сапраўды англічане такія індывідуалісты, настолькі паважаюць сябе і свае інтарэсы?*

– Я думаю, Антон Рубінштэйн хапаўся за саломінку. Што, напрыклад, ён думаў пра тое, што немцы пішуць з вялікай літары ўсе ўласныя назоўнікі? Я не думаю, што арфаграфічныя ўмоўнасці паказваюць нацыянальны характар; але брытанцы цэняць незалежнасць і самавызначэнне, хаця вы можаце сустрэць калектыўныя паводзіны: крыкі на футбольных матчах і левых палітычных мітынгах. Эксцэнтрычныя паводзіны цяпер больш рэдкія, чым раней, але гумар вельмі падабаецца. Фразы, такія як “яго ўласны чалавек” і “незалежная жанчына”, рэдка выкарыстоўваюцца. Хаця місіс Тэтчар заявіла, што не існуе такой рэчы, як грамадства (яна думала, што людзі павінны быць менш залежнымі ад дзяржавы), большасць людзей дапамагаюць адно аднаму, калі гэта неабходна і магчыма.

*– “Усё лепшае, што ёсць у любым народзе, ...з’яўляецца ў героі...”, – сцвярджаў Ўільям Шэкспір. Назавіце, калі ласка, якіх рэальных гістарычных асоб Вы лічыце героямі – брытанскімі і беларускімі.*

– Нямногія героі прызнаюць сябе такімі, але я разглядаю Васіля Быкава як беларускага героя за его смеласць у тым, каб процістаяць Савецкай дзяржаве, і за спробу распавесці праўду пра вайну, а не ідэалізаванае і эксплуататарскае стаўленне да яе з боку ўлады. Як добра вядома, ён спрабаваў выявіць некаторыя беларускія праблемы ў сваіх прыпавесцях. Што датычыцца Брытаніі, я лічу Уінстана Чэрчыля героем за тое, што ён аказваў супраціў тым, хто хацеў супакоіць Гітлера (не кажучы ўжо пра тое, каб заключыць з ім дамову), і за тое, што ён натхняў брытанскі народ у той час, калі здавалася, што нацысцкі лідар захапіў свет.

*– Украінскі даследчык Вячаслаў Паўлавіч Шастакоў у кнізе “Англійская літаратура і англійскі нацыянальны характар” лічыў, што з пункту гледжання нацыянальнага характара найбольш “англійскімі жанрамі з’яўляюцца пейзаж, партрэт і карыкатура”. Ці можаце Вы дапоўніць гэты спіс выразна англійскіх літаратурных (паэтычных) жанраў?*

– Я не ведаю, ці варта казаць пра “англійскія літаратурныя жанры”, але, канечне ж, ёсць вялікая пейзажная паэзія 19 стагоддзя, да таго ж і карыкатура, і сатыра (А. Поўп)

заўсёды былі папулярнымі, як і абсурдная паэзія і лімэрыкі (Э. Лір); Андрэй Хадановіч таксама зрабіў свой унёсак у апошні жанр у Беларусі. Паняцце партрэтнай паэзіі мне незразумела, але дзіўным было б не згадаць рэлігійную паэзію (Мільтан). Я лічу, што "Кентэрберыйскія апавяданні" Чосера – бліскучы ранні прыклад апавядальнага верша, а санеты Шэкспіра – сярод лепшых прыкладаў лірыкі на англійскай мове. Яго імя таксама звязваюць з канцэпцыяй драматычнай паэзіі, вядома, праз яго п'есы. У дваццатым стагоддзі Т. Эліёт стварыў свае ўласныя жанры; ён таксама напісаў каштоўныя кнігі пра паэзію (напрыклад, "Паэзія і паэты"). Занадта шмат жанраў ёсць для пералічэння, нават калі магчыма было б назваць іх усе. Але раздзелы кнігарняў з паэзіяй працягваюць прываблівaць пакупнікоў, а фестывалі паэзіі працягваюць працвітаць. Брытанская паэзія значна ўзбагацілася ірландскай паэзіяй на англійскай мове, у першую чаргу гэта У.Б. Ейтс, але ёсць яшчэ і маладзейшыя паэты, такія як Шэймус Хіні.

*– Працытую словы Томаса Стэрнза Эліёта: "Прыхільнасць англічан да здаровага сэнсу спалучаецца з сумнай англійскай звычкай усё пераварочваць з ног на галаву ў імя здаровага сэнсу". Гэтая думка выклікала ў мяне асацыяцыю з ірландскім жанрам лімэрыкам, пяцірадкоўем абсурднага зместу, у якім высмейваюцца нацыянальныя норавы... Як Вы разумееце канцэпт "здаровы сэнс", у чым ён выяўляецца ў сучасным англійскім грамадстве? "Пераварочванне здаровага сэнсу" для мяне асацыятыўна блізкае да парадокса, жанра, якім бліскуча валодаў Оскар Ўайльд. Як Вы лічыце, ці можа парадокс дапамагчы знайсці ісціну, як пра гэта пісаў Оскар Ўайльд?*

– Я лічу добры сэнс ці, як яго звычайна называюць, здаровы сэнс самай каштоўнай якасцю. Парадоксы Ўайльда цэняцца за іх талент і гумар, але яны абапіраюцца на стабільны фон для адскоку. "Ісціна" – вельмі складанае паняцце ў штодзённым жыцці. Хлусню і выдумкі значна лягчэй вызначыць.

*– Ці згодны Вы з выслоўямі Томаса Стэрнза Эліёта "без паэтаў няма вялікага народа" і "немагчыма аддзяліць паэзію ад гісторыі народа"? Якія англійскія, ірландскія, шатландскія, валійскія паэты, на Вашу думку, паспрыялі ўзнікненню Вялікабрытаніі і развіццю яе духу?*

– Вялікабрытанія была сфарміравана войнамі, а не паэзіяй. Эліёт меў рацыю, што ўсе еўрапейскія краіны маюць багатыя паэтычныя традыцыі. Аднак, як ужо стала зразумела, мне не падабаюцца абагульненні. Немцы казалі, што Англія была краінай без музыкі, але ў Лондане значна больш канцэртных залаў, чым у Берліне або Парыжы, і ў нас шмат музычных фестываляў, як у любой краіне супастаўляльнага памеру (адзін з самых вядомых – летні сезон канцэртаў Promenade ў Альберт-Холе). Валійцы праводзяць штогадовы фестываль валійскай паэзіі і музыкі (Eisteddfod), які прываблівае міжнародную аўдыторыю. Эдынбургскі фестываль вельмі шырокі (дазваляе выступленні як аматарскім, так і прафесійным гуртам). Шатландскія паэты пішуць па-ангельску або па-шатландску (іх не так шмат).

*– Вы, народжаны ў Вялікабрытаніі, у дасканаласці валодаеце беларускай мовай, лепш, чым многія беларусы. Ці згодны Вы з выказваннем Томаса Стэрнза Эліёта пра тое, што "думаць на замежнай мове лягчэй, чым на гэтай мове адчуваць"? Ці Вы ўжо ўмееце адчуваць рэчаіснасць і людзей па-беларуску?*

– Гэта складанае пытанне. Аднойчы прафесар Алег Лойка напісаў штосьці накшталт "толькі беларусы могуць зразумець Барадуліна". Я напісаў пра паэзію Барадуліна і ў поўнай меры атрымаў ад яе асалоду, але не сцвярджаў, што я ацаніў кожны яе нюанс. Аднак у мяне быў прывілей лічыць яго маім сябрам. (Я ведаў Васіля Быкава значна даўжэй, але ён, нягледзячы на словы аднаго чалавека пасля яго смерці, не пісаў вершаў). Выклікае вялікі смутак тое, што большасць беларусаў, падобна, не цэняць сваю багатую літаратуру і лічаць рускую мову больш "культурнай" ці нават "правільнай", чым беларуская. Эліёт быў, безумоўна, геніем (калі гэта слова мае які-небудзь сэнс), і, магчыма, ён мог бы думаць на іншых мовах. Я ўпэўнены, што думаю па-ангельску, хаця ў Беларусі я час ад часу думаю беларускімі словамі. Кантэкст – гэта ўсё. У Англіі, з рускай жонкай, я часам думаю на нейкай англа-рускай трасянцы.

Перш чым я пачаў гаварыць па-беларуску, я вольна гаварыў па-руску і часам крыху думаў на гэтай мове. Рускай (савецкай) рэальнасці было вельмі шмат, і патрэбна было выкарыстанне гэтай мовы для таго, што раней іранічна называлася "савецкай рэчаіснасцю", і гэта непазбежна "ўмешвалася" ў працэсы мыслення англічан. Цяпер, калі ў Менску паўсюль чутна руская мова, і, маючы магчымасць пачуць беларускую мову толькі з маімі сябрамі і на пэўных канферэнцыях, мне цяжка сказаць, якая мова павінна быць універсальнай мовай Вашай краіны.

*– Жорж Санд пісала, што "толькі адны англічане і ўмеюць вандроўнічаць. Яны прадбачлівыя, таму паўсюль як дома. Іх не палохае небяспека, перамены, надвор'е, хваробы, упадак духу – гэтыя няшчасці вандроўнікаў іншых нацыянальнасцяў". Якія краіны свету Вы наведалі? Што новага і цікавага для сябе Вы адкрываеце ў падарожжах па свеце? Што для сябе Вы адкрылі пра Беларусь?*

– Жорж Санд у дажджлівай Маёрцы з бедным хворым Шапэнам маглі бачыць у асноўным англійскіх вандроўнікаў дзевятнаццатага стагоддзя, калі быў рост і працвітанне Брытанскай імперыі. Акрамя Беларусі, я быў у некалькіх, але далёка не ва ўсіх краінах. Я быў у Расіі, Украіне, Узбекістане, Азербайджане, Літве, Польшчы, Венгрыі, Югаславіі, Чэхаславакіі, Балгарыі, Францыі, Германіі, Аўстрыі, Італіі, Іспаніі і Партугаліі. Быў і яшчэ далей, у Канадзе, ЗША і Японіі (як запрошаны навуковец). Амаль ва ўсіх з іх я чытаў лекцыі, а таксама сустракаўся з сябрамі, адпачываў і глядзеў на цікавыя мясціны. Упершыню я прыехаў у Беларусь на месяц на працягу свайго дзесяцімесячнага знаходжання ў Маскоўскім Дзяржаўным універсітэце. Я хутка адкрыў, што ежа ў Менску была лепшай, чым у Маскве, што беларусы былі вельмі гасціннымі, добрымі да мяне і больш шчодрымі на дапамогу (апошняе я ўжо заўважыў сярод беларусаў – жыхароў Лондана). Менск быў вельмі расслабляльным, хаця кожны дзень мне даводзілася шпацыраваць з гатэля ў Акадэмію навук, таму што аўтобусы і тралейбусы былі перапоўненымі, каб на іх ехаць. На працягу многіх гадоў я штогадова наведваў Расію працягласцю па шэсць тыдняў, з выпадковымі больш кароткімі і менш частымі візітамі ў Менск, падчас якіх я выпадкова пазнаёміўся з Быкавым і яго жонкай. Пасля чаго прайшло шмат гадоў, і цяпер я ніколі не езджу ў Расію, але штогод прыязджаю ў Беларусь на тыдзень або часам на два тыдні. Мне падабаецца выступаць на канферэнцыях. Але калі я прыязджаю ў вашу краіну, то засяроджваюся на візітах, бо галоўная мая мэта – пабачыць маіх шматлікіх сяброў.

*– Як Вы лічыце, якія рысы нацыянальнага характару ўласцівы і англічанам, і беларусам? Чым яны адрозніваюцца? Як Вы думаеце, чаго не хапае беларусам, каб быць шчаслівай нацыяй?*

– Як я ўжо казаў раней, цяжка абагульняць такія тэмы, як нацыянальныя асаблівасці і шчасце. Я цаню сціпласць і ветлівасць жыхароў абедзвюх краін. Шчасце (нягледзячы на тое, што сказаў Талстой) прымае мноства форм, і я лічу, што ўрады і кіраўнікі дзяржаў адыгрываюць некаторую дабраякасную або злаякасную ролю (у апошнім выпадку гэта больш адчувальна). Калі я размаўляў з некаторымі нарвежскімі вучонымі пасля маёй лекцыі ў Тромсе (іх арктычны ўніверсітэт), я згадаў, што Нарвегія была аб'яўлена самай шчаслівай краінай у свеце (гэтыя словы з'яўляюцца доказам нікчэмнасці большасці статыстычных звестак). І тады нарвежскія калегі хутка адказалі: "Калі гэта так, то гэта не дзякуючы нашаму ўраду!" І ў Брытаніі, і ў Беларусі вялікія і больш моцныя суседзі (Расія і ЗША), але нашы адносіны значна менш закрытыя, чым вашы, у палітычным і практычным плане. Гэта не проста грошы: мала хто скажа, што швейцарцы "шчаслівейшыя" дзякуючы ўсёй іх стабільнасці і багаццю ў параўнанні з італьянцамі. Асабіста я лічу, што шчасце – гэта ўнутрана-суб'ектыўная, а не нацыянальная характарыстыка. Яшчэ цяжэй змяніць свой урад, чым змяніць сябе.

*– Вялікі дзякуй, спадар Арнольд, за цікавую размову. Прыязджайце яшчэ ў Мінск! Беларусы Вас любяць!*

Сяргей Дубавец



...Ты беларус, а чаму не гаворыш па-беларуску?
– Цікавае пытанне. Мне яго яшчэ ніхто
не задаваў... Часцей пытайцеся...

# Усё, як ты хацела, Грэта

***З фэйсбучных запісаў***

* * *

Пахаваў сёння роднага дзядзьку Гену. 80 яму было. Як сказаў распарадчык у крэматорыі, «...и прекрасного дядю». Для мяне ён такім і быў, дзядзька з майго дзяцінства – вобраз, наскрозь пранізаны сляпучым сонцам. У 1960-я ён быў першым жывым антыкамуністам, якога я сустрэў у жыцці. Я проста даведаўся, што такія бываюць. Чалавек па-за сістэмай, які жыве так, як хоча. У той час усё маё дарослае асяроддзе амаль спрэс былі камуністы. І вось аказваецца, што можна жыць так, каб не дзьмуць у адну дудку з усімі. Гэта было адкрыццё! Толькі цяпер да мяне даходзіць, адкуль я сам такі. З тых першых дзіцячых уражанняў ад дзядзькі-антыкамуніста. І яшчэ ведаеце, што я зразумеў? Што ён і там, наверсе, будзе па-за сістэмай, якой мы намагаемся ўяўляць сабе той свет. І там ёсць свае несістэмныя персанажы, антыкамуністы тагасвету. То бок, дзядзька сваёй смерцю паставіў мне ў свядомасці другі маячок – дакладна так, як 50 гадоў таму паставіў першы. Думаю, распарадчык у крэматорыі крыху перагнуў з трагізмам сітуацыі. Дзядзька Гена і трагізм??? Ён жыў, як хацеў, сышоў, калі хацеў, і наперадзе ў яго ўсё, як ён захоча. Не адчуваю нічога, акрамя ўдзячнасці.

* * *

Вясна. А за вакном снегапад і канец глабальнага пацяплення. Усё, як ты хацела, Грэта.

* * *

Парабіўшы справы, амаль дзве гадзіны кружляў па цэнтры Менска. Не мог спыніцца. Суперская цеплыня, людзі сям-там, і мой горад! Помню, як на Цэнтральнай была залева, і дарослая дзеўка разбулася і бегала па лужынах з гучным смехам. Столькі шчасця! 1960-я, між іншым. Але такое магло ўставіць мне, малому, мазгі на ўсё жыццё. Поўная свабода! Я пасля выпускнога прынёс туды на руках аднакласніцу, не памятаю, каторую. Але быў закаханы, гэта памятаю. А выпускны быў на рагу Купалы і Маркса, дом злева. Напіліся, вядома. Раней я хадзіў туды ў памяшканне ў старэйшую групу садка і танчыў там «Бульбу»... Столькі ўсяго з усім звязана! Люблю цябе, Менск! Як бы там ні было, я праз цябе і ў табе палюбіў цывілізацыю, урбаністыку, Амерыку, рок-музыку... Ішоў да свайго сябра Вячоркі на Карламарла, а ў галаве гучала «Pamięć w kamień wrasta» SBB. Гойсаю па Менску, а песня гучыць ізноў...

* * *

Крыху статыстыкі. Беларусь – 40-я краіна, якая мае літаратурнага Нобеля. У свеце каля 200 краін (193 чальцы ААН). Сярод суседзяў літаратурнага Нобеля маюць толькі Польшча і Расея. З 15-ці краін, што былі ў складзе СССР, літаратурны Нобель ёсць толькі ў Расеі і ў нас. Калі Святлана Алексіевіч напіша кнігу па-беларуску, наша мова стане 26-й мовай у спісе нобелеўскіх моваў.

* * *

Перш быў здзівіўся, што настаўніца ў першым класе напісала на дошцы «пластелин». Але пачытаў міністра адукацыі, і здзіўленне само сабою прайшло. «Вопросы молодежной политики очень важны, – подчеркнул он. – В последнее время идет эта неспокойная обстановка везде в мире, и у нас в стране, к сожалению, это сказывается».

* * *

Насамрэч мы ўсе вельмі розныя і падзяляемся на тых, хто гэта прыняў, і тых, хто не прыняў. Другія яднаюцца ў групу, але толькі ў першых ёсць шанец аб'яднацца ў народ. Прабачце за пафас.

* * *

Нацыяналістам я стаў даўно, а патрыётам перастаў быць адносна нядаўна. У чым розніца? Сёння недзе адкрываюць чарговы «помнік невядомаму салдату», кажа радыё Культура. Патрыёты адкрываюць. Для нацыяналіста гэта падзея ганебная, недапушчальная, дзікая нават. Бо нацыяналізм заўсёды пра цябе, канкрэтнага чалавека. А патрыятызм – пра абстракцыі і пустату. З гледзішча нацыяналіста патрыёты адкрываюць «помнік гарматнаму мясу». Так нельга. Чалавек не можа быць «невядомым» праз тое, што мы не далі сабе рупнасці даведацца ды яшчэ й адкрылі помнік уласнай абыякавасці. Колькі гадоў таму мы з бацькам паставілі помнік дзеду Каленіку, які загінуў у 1942-м пад Смаленскам.

Перад тым мой бацька шмат гадоў шукаў свайго бацьку па архівах, шмат перапісваўся, знайшоў. Помнік паставілі на могілках у Мялешкавічах побач з бабай. Напэўна, тады я і перастаў быць патрыётам.

* * *

Гісторыя гэтых дзён. У мястэчку два маладзёны забілі дзядзьку крыху за сорак. Напіліся на беразе ракі і пачалі біць. І забілі. На трэці дзень Вялікадня. Прыехаў следчы камітэт, *із'ялі* тэлефон забітага. Больш нічога дзядзька і не меў. Стаў камітэт вывучаць тэлефон, а там – відэа. Акурат на Вялікдзень. Два маладзёны збіваюць бамжа і спрабуюць увапхнуць яго ў смеццевы кантэйнер. Накрыўкай гасяць па галаве. Лютасць на тварах і адначасова – радасць. Дзядзька, які гэта здымае, падахвочвае маладзёнаў: «Давай, давай, на ютубе будзе мільён лайкаў!» Размясціў ці не, невядома. Але ж лёс блогера, халера.

* * *

Проста расіяне хочуць жыць, як у КНДР. Ім падабаюцца парады, ракеты, отец народов, недаядаць і пагражаць Захаду. Ёсць і беларусы, якія хочуць таго самага. Але і яны насамрэч расіяне.

* * *

Увесь Занзібар, як Готланд у снезе, патанае ў жывапісе. На Готландзе я быў у лютым роўна год таму. Занзібар удвая меншы за Готланд, і тут дзверы ў дзверы з намі жыве шведка. Ёй з выгляду гадоў 70. На Готландзе яна ні разу ў жыцці не была, а на Занзібары – восьмы раз.

* * *

Усё, нібыта, арыентаванае на Расею, а ў рэкламе – «настоящее европейское (немецкое, итальянское, французское) качество». Хоць бы раз «настоящее российское качество» прагучала, дык не. Гэта як рукі цягнуцца па тое, што на Захадзе, пры тым галава на 180 градусаў павернутая на Усход.

* * *

Загаловак: «Кіраўнік БПЦ даручыў сфармуляваць пазіцыю па Курапатах». То бок хрысціянская пазіцыя яму не пасуе? «У попа была собака...»

* * *

Сябра распавёў, што на 9 траўня яму проста ў вокны грымела з рэпрадуктара песня. І пачаў падпяваць: «Всем миром, всем народом, всей землей / Помолимся за тот великий бой» – і запнуўся. Ну, вядома ж, «поклони»мся, а не «помоли»мся. Песня Пахмутавай сама выкінула з сябе гэты дысананс. Савецкае працівіцца эрпэцэшнаму. І наадварот. Як тая капліца на «лініі Сталіна». Але гэты дысананс ва ўсім. У тым, як правіцелі з савецкімі мазгамі жагнаюцца ў царкве. І ў тым, як галоўны ў нас эрпэцэшны поп будзе «фармуляваць пазіцыю па Курапатах». І ў тых святых абразах, на якіх малююць Сталіна. Дый у тым, што слова «каштоўнасці» ў нас вымаўляе той, для каго каштоўнасць – НКВД. І вось тут увага! У Расеі гэта ўсё ніякі не дысананс. Там гэта ўсё сваё, роднае, хоць, нібыта, і螺 рознае. Дысананс – у нас, ад таго, што і галоўны эрпэцэшны

поп, і грошы на новыя цыбуліны, і абразы святога Сталіна, і каштоўнасць НКВД, і тая песня Пахмутавай таксама – гэта ўсё рэчы імпартаваныя. Уся гэтая ядзерная сумесь РПЦ з камунізмам ператвараецца ў Беларусі ў настойлівы, але дысананс. Дзякуючы ўжо толькі таму, што мы шматканфесійная нацыя, у большасці беларусаў гэтая сумесь не сумяшчаецца і не ўзрываецца ў мазгах. Адно паветра псуе і настрой.

* * *

Вярхоўны суд адмовіў «Несмяротнаму палку» ў рэгістрацыі... Для мяне тут прычына не палітычная, а ментальная. Мой дзед Каленік загінуў у 1942-м пад Смаленскам, баба засталася пад акупацыяй з васьмю малымі дзецьмі адна. Можаце сабе ўявіць, што гэта такое. Таму гібель дзеда перажывалася ў сям'і і перажываецца мною праз усё жыццё. Але што прымусіла б мяне ўзяць дзедаў партрэт і выйсці з ім на ўрачыстую масоўку? Неяк гэта зусім не пра тое. Бо што я тым партрэтам хачу сказаць? Глядзіце, я помню? І што? Дзеда я, натуральна, не ведаў, але ўся радня, перакананы, майго параду не ўхваліла б. І гэта было б вельмі па-беларуску, інтымна. Памяць у нас не на парадах жыве. А ў расіян інакш прынята. «На миру и смерть красна». Нічога не ацэньваю, канстатую розніцу менталітэтаў.

* * *

Цяжка сабе ўявіць два больш розныя паводле гістарычнага лёсу народы, чым беларусы і расіяне. Мы 500 гадоў у еўрапейскіх працэсах, яны – па-за эпохай Адраджэння і з галавой у тыраніі. 19 стагоддзе: яны – імперыя, мы – адно суцэльнае паўстанне супраць іх. Нават у часы СССР, татальнай, здавалася б, уніфікацыі, гэта была ўніфікацыя нас пад іх, а не наадварот. У сярэднявеччы яны ўвесь час спрабавалі захапіць нашу краіну, у 19 ст. – перарабіць нас на рускіх, у СССР – аб'яднаць у ГУЛАГу, а ўсё для таго, каб сёння сказаць, што мы адзін народ. Я ў такія хвіліны згадваю сваю вясковую бабулю Хвядору з-пад Мазыра, непісьменную і не ідэйную, для мяне – вобраз беларускага лёсу і беларускай вечнасці, і думаю, што ж у ёй такога было «русского»? Беларуская мова з прасодыяй (казала, як спявала), казкі пра князя на аўтамабілі, песні пра Дунай? Неверагодная засяроджанасць на дзецях, працы і нуль свавольства? Колькі ні думаю пра гэта, бачу больш агульнага ў беларусаў з в'етнамцамі ці кубінцамі ці занзібарцамі (а я і там думаў пра гэта), чым з рускімі. Мы хоць і побач, але два розныя космасы і ні разу не адзін народ.

* * *

Ты беларус, а чаму не гаворыш па-беларуску? – Цікавае пытанне. Мне яго яшчэ ніхто не задаваў... Часцей пытайцеся.

* * *

«Мы панясем ягоныя косткі ад літоўскай граніцы да Менску на руках...» Запомнілася з ток-шоў пра пахаванне Каліноўскага. Быць пахаванымі ў Вільні на Росах прасілі ў сваіх вершах вялікія паэты Арсеннева, Жылка, Танк. А ўдалося гэта толькі Казімеру Сваяку, міма ягонай волі, бо ён ужо і месца сабе нагледзеў на могілках у Клюшчанах. Быць пахаваным на Росах для беларуса – значыць, патрапіць у Вечную Беларусь. Застацца сярод сваіх. Тут прафесар Лялевель, які натхніў студэнтаў-філаматаў прыдумаць Беларусь. Тут – мноства паўстанцаў Каліноўскага. Тут над магілай Сыракомлі пісаў свае вершы Янка Купала. Тут Іван Басановіч, бацька літоўскай нацыі, а заадно кіраўнік музычнай камісіі ў беларускім музычна-драматычным гуртку (1910). Тут шматпакутны аўтар першага беларускага рамана Ядвігін Ш. Раман называўся

«Золата». Тут геніяльны Лявон Вітан-Дубейкаўскі, вынаходнік беларускага стылю ў архітэктуры. Тут, мабыць, адзіная ў свеце Літарацкая горка. І месца Каліноўскага на гары. Бо як сам Кастусь кажа ў Караткевіча: «Кожны раз чалавецтва бліжэй да шчасця на вышыню нашых магіл». Мой старэйшы сябра і настаўнік Лявон Луцкевіч таксама ляжыць на Росах. Прыязджаючы, я пачуваюся тут дома.

* * *

Прачытаў «выбары» наадварот. Атрымалася прыблізна «рабы вы».

* * *

У Вільні на пахаванні паўстанцаў фізічна адчулася, што Каліноўскі і ёсць нацыянальная ідэя беларусаў, выкладзеная ў ягоных «Лістах з-пад шыбеніцы». Яна проста працяла адзіным срэбным промнем усіх прысутных. Іншай такой ідэі няма. Прыдумляць іншую гэтаксама марна, як шукаць нацыянальную ідэю якой-небудзь Варонежскай губерні.

* * *

Едзем учора з Жэнем. Я разважаю ўголас: тэхналогіі спрашчаюць жыццё, але адвучваюць думаць. Усе гэтыя навігатары-калькулятары адбіраюць работу ў мазгоў, а мазгі, калі не працуюць, пачынаюць патроху адміраць. (Распаляюся.) Людзі перасталі чытаць кнігі, вакол адны гаджэты! Жэня, падумаўшы: кнігі цяпер чытаюць у турмах, там няма гаджэтаў.

* * *

Толькі замовіш сабе гарбаты, як адразу знойдзецца нехта, хто скажа: «по-белорусски правильно чай».

* * *

Анджэй Струміла... Мы разам рабілі «Вялікую кнігу Вялікага Княства Літоўскага», разам прэзентавалі яе на сцэне Купалаўскага тэатра. Кніга атрымалася вартай самога Княства і самога Майстра – сапраўды Вялікай. Вага 6 кіляў. Перафразуючы Караткевіча, кожны чалавек носіць сваё ВКЛ з сабой. Гэта дакладна пра Анджэя Струмілу. Светлая памяць.

* * *

А я веру ў цуды. Бо вялікія змены ў палітыцы і грамадстве, якія я бачыў на сваім вяку, адбываліся заўсёды цудоўным чынам. Ніхто і ўявіць сабе не мог, што пачнецца гарбачоўская галоснасць, развалiцца СССР, Беларусь стане незалежнай краінай. Усё гэта не было і не магло быць прагматычна прадуманым дзеяннем канкрэтных людзей, але было марай, якая авалодвала калектыўным несвядомым.

* * *

Драма амбітных беларускіх канфармістаў ад культуры ў тым, што яны ўяўляюць сябе міхалковымі-гаварухінымі, для якіх канфармізм з часоў Пушкіна і Дастаеўскага – гэта ліфт у падручнікі і вечнасць, куды нашых ніхто не пусціць, а свайго такога ліфта ў Беларусі няма і не было ніколі.

* * *

Калі мне споўнілася 26, я выразна адчуваў, што камунізм канае. Сёння падобнае адчуванне.

* * *

Усё найлепшае, што стварылі беларусы, было або да захопу Расейскай імперыяй, або насуперак ёй. Адзін з многіх тысяч доказаў гэтага – радзіма канцлера Льва Сапегі, магдэбурскае мястэчка Астроўна – з ратушай, рыцарскім замкам, касцёлам і кляштарам, царквой, сінагогай... Сёння гэта «аграгарадок», адзіная прыкметнасць якога – руіны касцёла на балансе Маскоўскага патрыярхату.

* * *

Паслухаў актора Яфрэмава, які п'яны збіў на машыне чалавека, пачытаў рэакцыі – шквал абразаў і рэзюмэ Арлушы, выразніка народных настрояў: не страшнае-страшнае здарылася, а звычайнае рускае страшнае. Зноў падумаў пра «адзін народ»: якая ж прорва аддзяляе іх і нас, у якіх страшнае можа быць таксама штодзённае, але ніколі не будзённае, не звычайнае.

* * *

Каб ацаніць глыбіню і маштаб таго, што адбываецца, трэба ўспомніць прынцып адзінства беларускай гісторыі. Гэта працяг таго самага паўстання, якому ўжо больш за 200 гадоў. І гэта станаўленне беларускай нацыі, якой на 26 гадоў гвалтам перапынілі гэты працэс.

* * *

Калі так імкліва ўчорашнія ворагі кажуць ва ўнісон, а ўчорашнія сябры становяцца ворагамі, значыць, мяняецца эпоха. У вялікім і ў малым. Яшчэ не заўсёды зразумела, хто адмірае, а каму жыць. Але тут дапаможа французская прыказка «мёртвы хапае жывога». Хто хапае, таму капцы. Не наадварот.

* * *

Упершыню з такім сустрэўся. Маладая сям'я назвала дзяўчынку Монікай – каб на Захадзе не было праблем з напісаннем лацінкай. Але, натуральна, хочуць, каб ёй добра было і тут, у Беларусі.

* * *

Пайшоў у лепшы свет Анатоль Лягуцкі, доктар, майстровец. Сядзеў на вуліцы на лаўцы, толькі ачомаўся ад нядаўняга інфаркту, і вось інсульт. Дасціпны, жыццярадасны, знаўца моваў з вельмі няпростым лёсам. Граў доктара-лекара з-пад Нізкага рынка, аптэкара ў народнай драме «Цар Максімілян», ездзіў у Менск да нас са сваіх Асіповічаў. Калі мы запісвалі ўспаміны для кнігі «Майстроўня», ён унікаў і ўрэшце ўнікнуў сустрэчы. Пасля я дазнаўся – чаму. Не хацеў свяціцца. У самым пачатку 2000-х была кампанія «оборотней в белых халатах». А ён доктар. І да яго прыйшла цётка, маўляў, мужык запіў, не выйшаў на завод, дай бальнічны, бо звольняць, а мужык сям'ю корміць. Ён даў. Яна сунула яму ў халат 10 даляраў. А пасля на нейкім застоллі гэта расказала. А гэта ж Асіповічы, усе адзін аднаго ведаюць. І там быў нейкі сваяк абэпавец. Назаўтра

Лягуцкага паказальна вывелі з паліклінікі ў кайданках. Ну і далі тры гады хіміі. Пасля гэтага ён стаіўся. Як казала мая бабуля, памяні, Божа, душачку.

* * *

Свет падзяліўся на абсалютнае дабро і абсалютнае зло. Таго «астраўка бяспекі» паміж імі, дзе краіна жыла 26 гадоў, больш няма, толькі мяжа. Ты або там, або тут.

* * *

Далібог, як у савецкія часы на калгасным вяселлі адзін мужык чапляецца да ўсіх: давайця біцца! А ніхто не хоча, бо і часы іншыя, і не калгас, і вяселля няма. А ён хапае ўсіх за рукі, тузае, крычыць: давайця біцца! давайця біцца!

* * *

Менскія карцінкі. Каля ўвахода ў былы ЦК камсамола (насупраць танка і Дома афіцэраў) – расчыненыя дзверы рэстарана «Кухмістар», адкуль на ўсю прастору пяе Данчык: «Чаму ж цяпер, крыніцы, вы наўсцяж такія чорныя?» Прыпякае сонца. І ні душы.

* * *

Менскія карцінкі. Акуратны такі пенсіянер на Пуліхава (колішні «андатравы гарадок», дзе жыла наменклатура) папрасіў 20 капеек ці «колькі можаце».

* * *

Генерал-губернатар Паўночна-Заходняга краю Мураўёў-вешальнік атрымаў ад свайго расейскага цэзара карт-бланш на «усмирение» нацыі беларусаў. Турмы забітыя людзьмі, ёсць замучаныя да смерці. XIX стагоддзе – рэаліі. XXI стагоддзе – рэаліі. «Усё па-ранейшаму, толькі імёны змяніліся» (Ул. Арлоў).

* * *

Як цяжка памірае СССР у сваёй найлепшай рэспубліцы.

* * *

Верш Янкі Купалы «А хто там ідзе?» дакладна тлумачыць, што ў нас адбываецца сёння. Між іншым, ён перакладзены больш чым на 80 моваў свету і гэта ўсё выдадзена адной кнігай. Я да таго, што калі замежнікі пытаюцца пра сітуацыю ў Беларусі, вы можаце паказаць ім гэты верш на іхняй мове. Даходліва і вычарпальна.

* * *

Дзе мне найлепей чытаўся Караткевіч... Гэта было ў 1979 годзе на верхніх вайсковых «нарах» у Менскім палку (туды што набор завозілі 50 чалавек з Менска), які месціўся ў былым жаночым кляштары адразу за саборам Пятра і Паўла ў Вільні... А пазнаёміў нас Анатоль Сідарэвіч у пачатку 1980-х на вуліцы каля Купалаўскага тэатра ў Менску. Адбілася ў памяці ўражанне – чалавек-руіна. У пазітыўным сэнсе руіна, бо мы тады проста хворыя былі на руіны беларускіх замкаў ды сабораў... У 1984-м на вайсковых зборах у Слоніме я атрымаў ад Сідарэвіча тэлеграму. І, здаецца, мы ўсе там плакалі.

* * *

Наконт гадавіны расстрэлу Тарашкевіча трэба ведаць вось што. Сведкі бачылі яго ў «амерыканцы» і пасля гэтай даты. Рэч у тым, што Тарашкевіча ведалі тады ўсе ўвогуле беларусы. Хто як стваральніка класічнага правапісу, хто як перакладчыка Гамера, але найперш – як лідара найбуйнейшай у гісторыі Беларусі грамадскай арганізацыі – стотысячнай Грамады. НКВД закатавала яго да стану «куска мяса» і ў такім выглядзе цягала па камерах, прыводзячы ў жах інтэлігенцыю і студэнтаў, якія там сядзелі як ворагі народу. То бок, гэта было такое спісанае расстрэлам «наглядное пособие» для застрашэння. Калі нават з самім Тарашкевічам можна так, уяві, што будзе з табой. Таму падпісвай усё, што скажуць. Калісьці я пачуў гэтую гісторыю ад старога Янкі Багдановіча, колішняга рэдактара «Шляху моладзі». І, прызнацца, да канца паверыць не мог. Але цяпер не толькі паверыў, але ведаю, што такое можа адбывацца ў Беларусі...

* * *

Феномен расейскай літаратуры – разгледзець у прастытутцы чалавека! Але ж каб такі феномен адбыўся, трэба ад пачатку ў прастытутцы чалавека не бачыць.

* * *

У аўторак пахаваў дзядзьку. Неяк усё маё жыццё мы былі блізка, побач, разам. Дзядзя Сярожа – так я называў яго з маленства, іншыя – па бацьку, Васілевіч. Адзін з найлепшых людзей, чалавек без злосці. Ён быў руплівым будаўніком. У гмаху тэлевізіі на вуліцы Камуністычнай яго ведалі і любілі ўсе. Ды ўвогуле ўсе, хто ведаў. Калі ў 1970-х я ўпершыню пабачыў на здымку Элтана Джона, я проста ўскрыкнуў: О, дзядзя Сярожа! Элтан быў за раялем у шэрай бухматай кепцы. Але што агульнага? Паваенны дзетдомавец, бясколерная савецкая рэчаіснасць, нішчымніца... Не памятаю, каб ён насіў кепку. Хіба моцнае знешняе падабенства, тэмбр голасу... На жаль, мы дрэнна ведаем свае радаводы. І наша «простае паходжанне» – не такое простае. Хто мог падумаць, што ў Машэрава, напрыклад, – французскія карані (сам Машэраў не ведаў). А колькі тут стаяла італьянцаў і ўсякіх іншых. Пра брытанцаў я, праўда, не чуў, і гэта інтрыгавала. З тых часоў я заўсёды прыглядаўся да дзядзькі, а чарговы ўбачаны брытанскі твар – як бы падкрэслена не рымскі – кожны раз наводзіў на думку пра дзядзьку Сярожу... Загадка засталася загадкай. У развітальні на Альшэўскага пад «вечную памяць» я мусіў прызнаць, што Элтан Джон сышоў. Рысы твару завастрыліся, не тое што на здымку жывога блакітнавокага Васілевіча, які стаяў побач. Але вось што ўразіла і, бадай, надоўга. У труне каля галавы ляжала шэрая бухматая кепка.

ВЫТОКІ

Наталля Русецкая



…у людзей, дрэваў і карцін розныя лёсы –
у кожнага свой, адметны і непаўторны…

# Людзі не птушкі – ім патрэбная свая зямля…

З малых гадоў мяне захаплялі беларускія мястэчкі. Найперш сваёй зусім іншай прасторай, адрознай ад той, больш прывычнай, дзе даводзілася мне жыць. У дзяцінстве я ўспрымала Мінск (і гэтае адчуванне мала змянілася) як лабірынт заблытаных вуліц з нагрувашчанымі будынкамі жылых дамоў, крамаў, садочкаў і мамінай працай дзесьці за вялікім паркам. Вёска, у якой жылі бацькі маёй маці і куды мы рэгулярна наведваліся, складалася з дзвюх вуліц. На галоўнай была нашая хата, школа, крама, клуб з бібліятэкай і сельсавет. Ад скрыжавання адзін канец адыходзіў «на бор», другі – у бок суседняй вёскі.

А ў мястэчках, асабліва на захад і паўночны захад ад Мінска, заўсёды быў невялікі пляц, на ім стаялі касцёл і царква, ад цэнтра ў розныя бакі разыходзіліся вуліцы з жылымі дамамі. Будынкі царквы і касцёла нібыта трымалі над мястэчкам незвычайна высокае неба, якое ў Мінску засланялі дамы, а ў вёсцы яно апускалася ніжэй і, здавалася, ляжала на дрэвах і хатах. На ўсходзе ад Мінска ў мястэчках часта не было гэтых

чароўных будынін, што трымалі высокае неба, але заставаўся пляц з паркам, па перыметры – крамы, школы, а часам і карчомкі, хоць называліся яны ў савецкія часы крыху інакш. Яшчэ ў мястэчках надараліся палацы і замкі (ці хаця б іх руіны), і гэта рабіла прастору цалкам казачнай: уяўляліся рыцары, князі, князёўны ў доўгіх сукенках...



*Смілавічы. Палацава-паркавы ансамбль Манюшкаў. Фота К. ШАСТОЎСКАГА.*

Дарогі маіх ранніх вандровак па Беларусі пралягалі праз Заслаўе, Ракаў, Валожын, Шчучын, Ліду, Навагрудак, Мядзел, Клічаў, Бярэзань, Чэрвень. Запісалася на мапе майго дзяцінства і мястэчка Смілавічы. Праз яго мы праязджалі кожны раз, калі ехалі на выходныя ў вёску. Назва мястэчка ўваходзіла ў сістэму самых блізкіх і добра вядомых каардынатаў: Мінск, Смілавічы, Чэрвень (даўнейшая назва – Ігумен) і вёска Вайнілава. У Смілавічы дзед з бацькам вазілі гарбарам скуры, адтуль прывозілі новыя валёнкі. Створаная сто гадоў таму лямцавая арцель з часамператварылася ў фабрыку, якая працуе па сённяшні дзень. Але мае першыя валёначкі былі самаробныя, не фабрычныя, я і цяпер іх добра помню. Лёгкія, цёплыя і неверагодна мяккія, яны былі да ўсяго яшчэ і незвычайнага шэра-карычневага колеру, з падшытымі пяткамі. Мне здавалася, што такі абутак мусіў зрабіць нейкі добры чараўнік, бо ўсе іншыя валёнкі былі чорныя і дужа каляныя. Аднойчы мы ехалі з мамай у перапоўненым мінскім аўтобусе, з якога яна выносіла мяне, малую, на руках. Калі мы прасоўваліся да дзвярэй, адзін валёначак саслізнуў у мяне з нагі, заціснуты ў шчыльным натоўпе. Пакуль я спрабавала патлумачыць гэта маме, мы выйшлі на прыпынак, я пачала плакаць. Але нехта з пасажыраў паспеў заўважыць маю страту і выкінуць яе з аўтобуса. Якое гэта было шчасце!..



*Ванс. Фрагмент гарадскіх муроў.*

Перад самымі Смілавічамі мы пераязджалі рэчку Волму. Толькі ў школе я, напэўна, зразумела, што гэта не тая самая рэчка, што Волга. І ў песні, якую чула ў маленстве, для мяне адназначна гучала: «течет река-Волма...» У старэйшых класах для мяне пачала адкрывацца іншая гісторыя мястэчка: тут, аказваецца, жылі ў сваіх палацах Агінскія, Манюшкі, Ваньковічы. Амаль казачныя персанажы князёў, намаляваныя дзіцячай фантазіяй, ператвараліся ў рэальных людзей, якія жылі тут, на маёй зямлі, і не толькі жылі, але і стваралі –

музыку, жывапіс, архітэктуру. Я пачынала бачыць родныя ваколіцы ў новым святле, іхняя гісторыя паступова злучаліся ў маёй свядомасці з агульна-еўрапейскай.

Любоў да мястэчак засталася ўва мне, здаецца, назаўсёды. І калі мае шляхі пабеглі далей на захад, я заўсёды з вялікім задавальненнем знаёмілася з невялікімі мясцовасцямі ў Польшчы, Славаччыне, іншых краінах.



*Магіла В. Гамбровіча.*

* * *

У кастрычніку 2019 г. мне пашчасціла ўзяць удзел у Міжнародным кангрэсе перакладчыкаў Гамбровіча, які часткова праходзіў у французскім мястэчку Ванс (*Vence*) непадалёк ад Ніццы. Выпадковы эмігрант, Вітальд Гамбровіч выплыў у ліпені 1939 г. з Польшчы ў якасці журналіста на першым рэйсе міжатлантычнага пасажырскага лайнера Chrobry. Неўзабаве пачалася II сусветная вайна, якую ён цалкам слушна вырашыў перачакаць у Аргенціне. Але пасляваенная рэальнасць, тыя навіны, якія даходзілі з радзімы, не выклікалі жадання вярнуцца. Толькі ў 1963 г. пісьменнік перабраўся з Паўднёвай Амерыкі ў Еўропу, спачатку ў Нямеччыну, потым у Францыю, але так і не вярнуўся ў Польшчу. Пры гэтым усё жыццё Гамбровіч пісаў свае літаратурныя творы выключна па-польску, у эміграцыі супрацоўнічаў з Ежы Гедройцем, друкаваўся ў парыжскай «Культуры». Апошнія гады свайго жыцця правёў у Вансе, тут ён і пахаваны на гарадскіх могілках. З 2017 г. ў віле «Александрын», дзе нейкі час жыў польскі пісьменнік, знаходзіцца музей.


*Катэдра ў Вансе.*

Маляўнічае мястэчка прытулілася паміж Міжземным морам і Альпамі. Уласна мора мне давялося пабачыць толькі здалёк: калі самалёт заходзіў на пасадку і калі мы паехалі ў горы, на тое месца, дзе любіў пікнікаваць Гамбровіч. Адсюль адкрываліся ва ўсе бакі жывапісныя горныя краявіды, а на даляглядзе ў паўднёвым кірунку сінела мора. Ваколіцы Ніцы з канца XIX ст. сталі папулярнымі курортнымі мясцінамі, сюды пачалі часта наведвацца пісьменнікі і мастакі: хтосьці прыязджаў на кароткі адпачынак, іншыя заставаліся даўжэй. Тут жылі і працавалі такія славутасці, як Анры Маціс, Пабла Пікасо, Антон Чэхаў, Іван Бунін, Марк Шагал, Уладзімір Набокаў. Нядзіўна, што і папулярная назва рэгіёну – «Лазурковы бераг» (*Côte d'Azur*) – мае літаратурныя карані. У 1887 г. народжаны ў Ніцы пісьменнік Стэфан Льежар выдаў у Парыжы кнігу падарожных нататак пра свае родныя ваколіцы «La côte d'azur», і



*Ваколіцы Ванса.*

хоць кніга асаблівай папулярнасці не мела, то назва прыжылася і пашырылася ў перакладах на іншыя мовы.

Ванс прывітаў нас зусім летняй залевай, за сцяной дажджу ледзь угадваліся абрысы дамкоў і пальмаў, але ўжо на другі дзень было сонечна і даволі цёпла. Стары горад, з брукаванымі вулачкамі, будынкамі са светлага каменю, вымытымі і свежымі пасля дажджу, быў такі чысты, што хацелася ісці басанож. Жаданне ўзмацняла непрывычная для мяне цеплыня паветра і насычаныя колеры экзатычнай паўднёвай расліннасці, пышная і жывая зяляніна – не вельмі пасавала ўсё гэта да сярэдзіны кастрычніка. Асобныя вулкі сярэднявечнага горада, па якіх даводзілася ісці, былі настолькі вузкія, што аўтамабілі там не маглі праехаць. Дрэвы на іх таксама не раслі, хіба што ў адмысловых бочках і цэбрах. Стваралася ўражанне, што ты блукаеш не па вуліцах, а па калідорах каменнага замка, назіраеш за прыватным жыццём ягоных жыхароў зблізку, нібыта завітаў у госці. То тут, то там сцены калідораў расступаюцца, і ты апынаешся ва ўтульных залах – на маленечкіх пляцах: з фантанам, касцёлам ці вежай. Такія невялікія мясцовасці, абнесеныя магутнымі абарончымі мурамі, невыпадкова называлі «арлінымі гнёздамі». Утульнае, схаванае ад вятроў і непрыяцеляў мястэчка ў гарах зачароўвае сваёй мініяцюрнасцю.

У «гняздзечку» Ванс нават катэдра Нараджэння Божай Маці мініяцюрная. Яна хоць і знаходзіцца на цэнтральным пляцы Клемансо (*Place Clemenceau*), але, каб не яскрава-жоўты колер і пазалочаная фігурка Божай Маці на фронце, якая свяцілася ў прамянях нізкага асенняга сонца, то я і зусім бы яе не заўважыла. А было б вельмі шкада не наведаць адзін з самых старых касцёлаў, пабудаваны на месцы былога храма Марса ў IV стагоддзі. Пра часы Рымскай імперыі нагадваюць лацінскія надпісы, што захаваліся на камянях у аснове пілястраў паабапал увахода. Вонкавы выгляд святыні не змяняўся з XII ст., а вось усярэдзіне дэкарацыі час ад часу абнаўляліся. Нечаканай была для мяне сустрэча з працай нашага земляка: у баптыстэрыі катэдры знаходзіцца мазаіка Марка Шагала 1979 г., якая адлюстроўвае біблейскі сюжэт пра тое, як у трыснягу на беразе Ніла дачка фараона знайшла кошык з маленькім Маісеем, будучым прарокам.

Матывы вандровак, заблытаных сцежак мігрантаў, якія праляглі з сучасных беларускіх земляў на поўдзень Францыі, спадарожнічаў мне ўвесь час. Наша гру-



Пляц Фрэн.

па ішла за гідам па вузкіх вулках Ванса, з пляца Клемансо мы трапілі на пляц Пэйра з фантанам (*Place du Peyra*), паглядзелі выставу, прысвечаную Гамбровічу, а потым праз браму выйшлі за гарадскія сцены на пляц Фрэн (*Place du Frêne*). Пляц Ясеня сваю назву атрымаў ад дрэва, якое паводле легенды пасадзіў тут французскі кароль Францыск I у 1538 г. Ці той самы гэта ясень расце сёння пасярод плошчы? На жаль, ён нам не раскажа. Яшчэ здалёк я заўважыла пад дрэвам нейкі плакат, падышла бліжэй, разгледзела. Гэта быў здымак карціны ўласна таго дрэва, пад якім ён і стаяў. Успомнілася, як бачыла на Кракаўскім прадмесці ў Варшаве карціну з панарамай у бок калоны Жыгімонта. Прыдворны мастак караля Станіслава Аўгуста, італьянец Бернарда Белота, захаваў на сваіх палотнах дакладны выгляд польскай сталіцы XVIII ст., і пасля II сусветнай вайны яны выкарыстоўваліся пры адбудове горада. Сёння можна параўнаць панараму таго часу з сучасным выглядам Варшавы. А ў Вансе можна паглядзець на ясень, перанесены рукой геніяльнага мастака на палатно амаль сто гадоў таму. Уважліва чытаю метрыку: Хаім Суцін, «Дрэва ў Вансе», 1929. Нічога сабе!

* * *

Хаім Суцін нарадзіўся ў Смілавічах Ігуменскага павета Мінскай губерні ў 1893 г. Упершыню Смілавічы згадваюцца ў пісьмовых крыніцах у 1582 г., калі каралеўскаму ясеню ў Вансе было ўжо крыху болей за сорак гадоў. Натуральна, што паселішча ўзнікла раней, бо згадваецца ўжо як сяло, а значыць, даволі буйное пасяленне з царквой альбо касцёлам, а, магчыма, і мячэццю, бо з канца XVI ст. тут пачалі абжывацца татары. Пазней у мястэчку з'явіцца і сінагога, бо ў 1736 г. Крыштаф Завіша падпіша прывілей, які дазволіць сяліцца туды габрэям. На мяжы XIX і XX ст. большую частку насельнікаў Смілавіч складалі менавіта габрэі: больш за дзве тысячы з амаль трох з паловай тысяч чалавек. На той час у мястэчку дзейнічалі народныя вучылішчы, прыходскія школы, паштовая станцыя, суконная фабрыка, некалькі гарбарняў, дзевяць корчмаў, каля шасцідзесяці дробных лавак, была свая пажарная каманда, вінакурня, два заезныя дамы, два вадзяныя млыны, кузня. Актыўна развіваліся рамёствы: ганчарнае, лямцавае, бандарнае, шавецкае, кравецкае.



*Смілавічы. Палацава-паркавы ансамбль Манюшкаў. Агароджа. Фота К. ШАСТОЎСКАГА.*


*Рака Волма. Фота К. ШАСТОЎСКАГА.*

У сям'і смілавіцкага краўца і гадаваўся будучы славуты мастак, якога добра ведаюць за мяжой, а нядаўна пачалі ўспамінаць і ў Беларусі. Хаім Суцін выехаў з роднага мястэчка спачатку ў Менск, дзе першыя ўрокі малюнка атрымаў у Янкеля Кругера, потым перабраўся ў Вільню, дзе вучыўся ў мастацкай школе Івана Трутнева, і нарэшце разам Міхаілам Кікоіным, таксама будучым жывапісцам, які нарадзіўся ў Гомелі, прыехаў у Парыж. У французскай сталіцы юнакі пасяліліся ў творчым цэнтры «Вулей» (*La Ruche*), дзе сустрэліся са сваімі землякамі Маркам Шагалам і Восіпам Цадкіным. Усе яны стануць вядомымі ў свеце мастакамі, але ніхто з іх ужо ніколі не вернецца на радзіму.

На пачатку XX стагоддзя ў пошуку лепшага жыцця па навуку і ў заробкі людзі актыўна выязджалі за мяжу. Хадзілі чуткі, што адзін з жыхароў Смілавіч нават трапіў на «Тытанік». Трое з дзесяці братоў і сясцёр Суціна выехалі на заробкі ў ЗША. Ураджэнцы Беларусі разляталіся па ўсім свеце, а трагічныя падзеі XX стагоддзя, якія адбыліся пазней, назаўсёды змянілі непаўторны культурны і рэлігійны ландшафт беларускіх земляў. Кастрычніцкая рэвалюцыя, грамадзянская вайна, чырвоны тэрор, сталінскія рэпрэсіі вынішчылі магнатаў і шляхту, святароў, навукоўцаў і творчую інтэлігенцыю, незваротныя страты прынеслі І і ІІ сусветныя войны. 14 кастрычніка 1941 года было ліквідавана смілавіцкае гета. Сёння на месцы расстрэлу мясцовых габрэяў стаіць помнік, надпіс на якім паведамляе пра гібель 2000 «савецкіх грамадзянаў». Бацькі Хаіма Суціна памерлі яшчэ да вайны і былі пахаваныя на мясцовым кіркуце (паводле звестак, размешчаных на старонцы музея «Прастора Хаіма Суціна» ў Смілавічах, іх магілы адшукаць не ўдалося). Частка сям'і, якая заставалася ў мястэчку, паспела эвакуявацца перад самым прыходам нацысцкіх войскаў, дзякуючы чуйнасці і клопатам швагра Суціна – Шолама Цукермана.

У пасляваенны час габрэяў у мястэчку засталося вельмі мала, большасць працавала настаўнікамі, але былі і прадстаўнікі іншых прафесій – краўцы, гарбары, шаўцы. Летам у нашу вёску прыязджаў жыд Фэба, які скупляў старое рыззё і прадаваў розныя неабходныя ў гаспадарцы рэчы. Менавіта дзякуючы яму трапіла ў нашую хату аршанская швейная машынка. «Прыдасца ў сям'і з дзвюма дочкамі», – пераконваў Фэба маю бабулю. Пазней у дзеда з бабай нарадзілася яшчэ адна дачушка, усе тры ўмелі шыць. Машынка была вельмі добрая, сшывала і тонкую тканіну, і грубую, і нават скуру. Я таксама навучылася на ёй шыць: пачынала з самых простых начных сарочак, потым былі спадніцы, блузкі, а ў студэнцкія гады – курткі, пінжакі і нават паліто.

* * *

Блукаю па вулках Ванса, і думаецца мне пра тое, як выразна адчуваецца тут повязь часоў і народаў (хай і гучыць гэта так патэтычна). Час не спыняецца, а гісторыя існуе ў сваім адвечным кантынууме. Усё, што было, тое ёсць і будзе. Рымскія падваліны храма і брукаванка, катэдра з мазаікай Шагала, каралеўскі ясень і карціна Суціна пад ім, замак Вільнёў (*Villeneuve*) XVII ст., ружанцовая

капліца пры жаночым дамініканскім кляштары, створаная Анры Мацісам, пляц Гадо (*Place Godeau* названы ў гонар Антуана Гадо, мясцовага епіскапа, пісьменніка і паэта) з калонай Марса і часовай выставай, прысвечанай Гамбровічу, віла «Александрын», у якой жыў і працаваў польскі пісьменнік. Улетку на пляцы Гранд Жардэн (*Place du Grand Jardin*) адбываецца музычны фестываль NUITS DU SUD (Летнія ночы).



*Хаім СУЦІН. «Ева». 1928 г.*

А як выглядаюць сёння Смілавічы? Што нагадвае пра слаўнае мінулае мястэчка? Ці шмат захавалася з тых даўнейшых часоў? Нешта амаль выпадкова ацалела, яшчэ болей было страчана. Барочны касцёл святога Вінцэнта і кляштарныя будынкі XVIII ст. засталіся адно на малюнку Напалеона Орды, інтэр'ер сінагогі можна пабачыць на старым фотаздымку, незваротна зніклі царква Багародзіцы XIX ст. і старая мячэць. Падчас апошняй вайны было знішчана і шмат жылых дамоў, у тым ліку дом сястры Хаіма, у якім засталіся працы мастака: паводле ўспамінаў пляменніцы Суціна гэта былі партрэты ягоных сясцёр Этэль і Мэры, а таксама партрэт невядомага мужчыны. Лёс гэтых карцін невядомы.

Часткова захаваўся палацава-паркавы комплекс. Маёнтак у Смілавічах у розныя часы належаў Завішам, Агінскім, Манюшкам і Ваньковічам. Два палацы – стары, будова якога была распачатая яшчэ Станіславам Манюшкам, і новы, дабудаваны Лявонцiем Ваньковічам, – былі злучаныя аранжарэяй. Сёння новы палац займае сельскагаспадарчы каледж, будынак аранжарэі не захаваўся, а стары замак знаходзіцца ў вельмі занядбаным стане. Шляхецкая сядзіба была аточаная шыкоўным паркам з экзатычнымі дрэвамі, яшчэ і цяпер тут можна ўбачыць лістоўніцы, белыя морвы, чорныя хвоі, піхты, блакітныя елкі.

Маляўнічы парк хараством незвычайных для Беларусі дрэваў (кажуць, да рэвалюцыі тут раслі нават пальмы!) і вытанчанымі абрысамі палацаў мог натхняць Хаіма Суціна на стварэнне шэдэўраў не горш за краявіды Ванса ці Шартра. Магчыма, менавіта жывапіснасць смілавіцкіх ваколіц і паўплывала на лёс хлопчыка, які захапляўся імі, тонка адчуваў прыгажосць і заўважаў яе ва ўсім, а потым старанна пераносіў на палотны. А на беразе Волмы, можа, яшчэ расце тая вярба, што помніць, як маленькі Хаім сядзеў пад ёю і натхнёна маляваў, але яна нічога нам не раскажа. Не раскажа нічога і бераг рэчкі, з якога ступалі на тонкі лёд мальцы Хаім і Шрага-Файбіш Царфін. Як не раскажа ніводная карціна мастака пра ягонае роднае мястэчка, якога ён сам саромеўся і часам казаў, што паходзіць з Вільні. Так было, напэўна, і прасцей, і больш прэстыжна. Пра вярбу і здарэнне на рэчцы мы ведаем са словаў унука Царфіна – Сэма і пляменніцы Суціна – Ніны (Наумы Ферапонтавай, дачкі Шолама Цукермана і сястры Хаіма Этэль), якія ў сваю чаргу пераказваюць успаміны дзеда і бацькі. Крупінкі гэтай вуснай гісторыі пра дзяцінства славутага мастака пачалі збіраць у Смілавічах, дзе пры падтрымцы ЮНЭСКА ў 2008 г. быў створаны музей «Прастора Хаіма Суціна».



Хаім СУЦІН. «Вялікія лугі ў Шартры ля віядука». Каля 1934 г.

Амаль праз сто гадоў пасля таго, як мастак выехаў у Францыю, у Беларусь упершыню трапілі ягоныя палотны. У 2011 г. «Белгазпрамбанк» набыў на аўкцыёне ў Лондане першую працу Хаіма Суціна «Вялікія лугі ў Шартры ля віядука» (каля 1934 г.). На карціне імкнуць у неба высокія дрэвы, глядзіш на іх і чуеш пошум летняга ветру ў галінах. Ад гэтага робіцца яшчэ больш шкада, што нашчадкам не дадзена ўбачыць на палотнах мастака той смілавіцкай вярбы над Волмай.

Праз два гады банк «вярнуў» беларусам яшчэ адну карціну Хаіма Суціна, якая зусім нечакана ўвайшла ў сучасную гісторыю Беларусі сімвалам народнага супраціву. «Ева» набыла незвычайную папулярнасць пасля таго, як была арыштаваная карпаратыўная калекцыя «Белгазпрамбанка» з галерэі «Арт-Беларусь» улетку 2020 г. Ева апынулася «за кратамі». Ейны арышт перажывалі так, быццам яна была цалкам рэальнай, жывой асобай, удзельніцай пратэстаў. У адзіным парыве – *je suis Eva* – фб-карыстальнікі ставілі партрэт Евы на свае аватаркі, арганізоўвалі флэш-мобы, стваралі мемы з Евай у паласатым адзенні лагерных вязняў, актыўна выкарыстоўваўся хэштэг #evaлюцыя, якім пазначаліся тэксты, прысвечаныя культпратэсту. Супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея Мікіта Моніч напісаў верш, у якім апошнімі словамі былі: «оставьте Еву». Прынт з выявай Евы з'явіўся на кубках, вопратцы, торбачках. Адусюль пазірала на беларусаў Ева, сцяўшы вусны і склаўшы рукі на грудзях, яна нібыта ўсім сваім выглядам гаварыла: наша возьме! Суцінская «Ева» адбыла свой тэрмін і выйшла на волю, у той час як многія беларусы застаюцца за кратамі.

* * *

У людзей, дрэваў і карцін розныя лёсы – у кожнага свой, адметны і непаўторны. Дзесьці ў Вансе расце высачэзны ясень на пляцы свайго імя. Сам, як кароль, ён крыху абыякава назірае за тым, што адбываецца вакол. Дрэва пражыве сваё доўгае жыццё на тым самым месцы, дзе яго пасадзілі і дзе яно ўзрасло. Іншае наканавана неспакойнай духам «Еве»: яна вандруе па свеце, бярэ ўдзел у гістарычных падзеях далёкай краіны, адкуль быў родам яе аўтар. Яе арыштоўваюць, але яна вяртаецца на свабоду. Людзі ж, тысячы беларусаў, якія былі шчыра прывязаныя да сваёй зямлі, хацелі б, як той ясень, спакойна і годна жыць там, дзе яны раслі. Але іх «выкарчоўваюць» і змушаюць да пошуку іншага, больш бяспечнага месца. Разлятаюцца ва ўсе бакі свету здольныя таленавітыя творчыя дзеці зямлі беларускай. Яны звіюць сабе «гняздзечкі», узгадуюць дзяцей, але людзі не птушкі – ім патрэбная свая зямля, на якой яны б маглі годна ўзрастаць, моцна трымаючыся карэннем, на якой маглі б гадаваць наступныя пакаленні і ствараць сваё.

*Фота Ванса і ваколіцаў Наталлі РУСЕЦКАЙ.*

Анатоль Трафімчык



…“Адкуль свет пайшоў? –
З Дзяніскавіч”…

# “Znam was wszystkie po nazwisku”:

## *Тапанімія роднага кута Артура Бартэльса ў яго творчасці*

*Публікацыя падрыхтавана і ажыццёўлена ў рамках праекта БРФФД № Г20-082 «Эвалюцыя мастацкага вобраза Бацькаўшчыны ў шматмоўнай літаратуры Беларусі XIX ст.».*

Беларуская літаратура характарызуецца асаблівай любоўю да Бацькаўшчыны ў яе вузкім разуменні – куточка, дзе той ці іншы чалавек убачыў свет. Традыцыя апявання лапіка зямлі, з якога чалавек пайшоў у жыццё, вузкай палоскі, дзе закапана пупавіна, з'явілася даўно – фактычна з нараджэннем аўтарскай літаратуры. У беларускім прыгожым пісьменстве гэта запачаткоўваецца славутым Францыскам Скарынам: «Понеже от прирождения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; птици, летающие по возъдуху, ведають гнезда своя; рибы, плывающие по морю и в реках, чують виры своя; пчелы и тым подобная боронять ульев своих, – тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають»[1].

Мадэрны час нарадзіў новыя фармулёўкі, хаця і са старымі сэнсамі. Словы, прамоўленыя ў 1910 г. Якубам Коласам, неўзабаве зрабіліся болей чым словамі – парафразай-дэвізам-квінтэсенцыяй любові да зямнога сусвету дзяцінства кожнага з роду чалавечага: “Мой родны кут, як ты мне мілы!”

Паміж Скарынавым і Коласавым азначэннямі – каля чатырох

стагоддзяў. Прорва. Але калі б яна сапраўды існавала, ці ўзнік бы выраз пра родны кут? Ці нарадзіўся б геній Коласа, яго сучаснікаў і наступнікаў? Ці ўрэшце адбыўся б народ беларускі наогул? На гэтае пытанне адказаць немагчыма. Хаця б таму, што пэўнае перарыванне (лепей сказаць, затуханне) беларускамоўнай літаратурнай традыцыі змянілася яе аднаўленнем у XIX ст. Што праўда, для гэтага спатрэбіўся час, творчыя пошукі і нават блуканні па абсягах суседнямоўных ніў. Аднак ні пальшчызна, ні расейшчына не прымусілі зрачыся Бацькаўшчыны. Яе значэнне каторы раз у гісторыі абвастрылася. Многія пісьменнікі XIX ст. несвядома для іх саміх сталі свайго роду гумусам для будучых усходаў класічнай беларускай літаратуры. Як сказаў слынны даследчык гэтага часу Генадзь Кісялёў – «сейбітамі вечнага». Ад Адама Міцкевіча, нараджэннем якога адзначылася завяршэнне XVIII ст. і пачатак новага, да Францішка Багушэвіча, век якога скончыўся разам з XIX ст. Канцэптуальную ролю ў такім гістарычным развіцці адыграў менавіта родны кут. Для кожнага свой. Разам з тым цесна звязаны, нацыянальна знітаваны з іншымі лапікамі, якія з часу XIX ст. не проста становяцца адным цэлым (так склалася яшчэ раней), але і трывала пачынаюць звацца Беларуссю.

Для народжанага больш чым 200 гадоў таму Артура Бартэльса (1818–1885) малая радзіма таксама стала паняццем, блізкім да святога. Болей за тое, менавіта праз адносіны да яе сёння мы можам вылучыць гіпотэзу аб найбольш верагодным месцы нараджэння пісьменніка:

| | |
|---|---|
| Witaj wiosko ty poleska,<br>Gwiazdko dni dziecinnych,<br>Gdzie spłonęła pierwsza łezka,<br>Z oczu mych niewinnych. | Вітаю, палеская вёска,<br>Дзе зоры мне ззялі ярчэй.<br>Сплыла тут і першая слёзка<br>З дзіцячых нявінных вачэй. |

*(Тут і далей пераклад Віктара Гардзея.)*[2]

Паводле паэмы (“Deniskowicze”, 1862), лірычны герой пасля пэўнага расстання прыязджае ў родны кут, дзе ён сорак гадоў таму распачаў знаёмства са светам. Яго душа трымціць ад замілавання царквой, курнымі хаткамі, калодзежамі, гумнамі. Асаблівая ўвага надаецца дому, дзе былі праведзены першыя гады. Далей герой выходзіць за межы сяла – на сустрэчу з грэбляй, мілымі для слыху ўрочышчамі – Градкамі, Ізбіскам, Лясішчам, Дзераміншчам, Крэмцамі, вартаўнікамі лясоў – леснікамі Сойкамі і Кавальчукамі, дакладней – іх нашчадкамі. Прычым аўтар, як этнограф, дэталізуе многія карціны. Зразумела, найперш тыя, якія звязаны з асабістымі ўспамінамі. У апошняй частцы паэт раскрывае прычыну такіх цёплых адносін да Дзяніскавіч ды іх наваколля: там ён душою парадніўся ледзь не з кожным дрэвам. Менавіта дзякуючы такім аўтарскім прызнанням версія аб нараджэнні А. Бартэльса ў Дзяніскавічах набывае перавагу над іншымі.

У кагосьці любоў да роднага кута можа быць абстрактнай. Аднак у А. Бартэльса яна ўрэчаісніваецца праз непасрэдны кантакт з роднай зямлёй і яе мастацкія і дакументальныя апісанні, праз перадачу сваіх перажыванняў да той ці іншай мясціны, пабудовы, дзейства, якое мела месца, і, натуральна, да пэўнага чалавека. З гэтай прычыны назвы многіх мясцінаў пісьменнік уводзіць у мастацкі тэкст. Прычым аўтар не перажывае, што яны будуць незразумелымі для магчымага чытача. Лепшыя творы А. Бартэльс пісаў для сябе, для душы. Таму іх залішняй індывідуалізацыяй не пераймаўся (звернем увагу на апошнія словы наступнай цытаты): “Паэмка тая (маецца на ўвазе “Палескі тыдзень”. – *А.Т.*), што адпачывала гадоў 20 у маёй тэчцы, ёсць найпэўнейшым увасабленнем літоўскага вясновага палявання на токах, асабліва глушцовых. Не мае яна іншых пераваг, апроч вялікай праўды, таму што пісалася ў лесе і ёсць толькі з натуры знятым апісаннем аднаго з тых нашых паляванняў, пра якія хацеў я для сябе захаваць успамін”[3].

Адметна, што паэт заўсёды вяртаўся ў родны кут. Спярша родныя мясціны А. Бартэльс наведваў, відаць, у сувязі са сваім хобі – паляваннем. Адзін з лепшых паляўнічых-ліцвінаў, ён задавольваў свой інтарэс у шыкоўных дзяніскаўскіх лясах:

| | |
|---|---|
| Wszak podobno na Izbisku | Мядзведзя чартоўскае сілы |
| Niedźwiedzia zabiłem... | Я тут, на Ізбіску, забіў[4]. |

Пасля паўстання 1863 г. бываў там толькі ў думках. І – пісаў, зыходзячы з настальгіі. А. Бартэльс, будучы сам заўзятым паляўнічым, па-мастацку апісаў гадавы цыкл паляванняў у беларускім лесе: паэмы "Палескі тыдзень" ("Tydzień poleski", каля 1860), "Зімовыя паляванні на Літве" ("Zimowe łowy na Litwie", 1879), "Летнія і асеннія паляванні" ("Polowania letnie i jesienne", 1880). Як заключае расійска-польскі пісьменнік Іосіф Корвін-Кучынскі, "в былые времена один из лучших охотников на Литве, он создал мало известную, но ценную и, пожалуй, единственную в славянской литературе – охотничью эпопею"[5]. Тым самым цыкл з некалькіх паэмаў робіцца адным з самых каштоўных у тагачасным кантэксце, для якога падобныя па выбары аб'екта ўвагі творы былі на працягу XIX ст. досыць распаўсюджаныя ў польскай літаратуры[6].

Раскіданыя па ўсёй Беларусі Радзівілавы лясы, балоты, лугі, дарогі, урочышчы становяцца фонам для разгортвання таго ці іншага сюжэта. Аднак геаграфія аповедаў у паэмах А. Бартэльса мае вузкую лакалізацыю. Яны засяроджваюцца галоўным чынам на лясах Клецкай ардынацыі Радзівілаў. Асаблівую канцэнтрацыю аўтарскай увагі да мясцовасці варта канстатаваць у сувязі з Дзяніскавічамі: менавіта іх наваколле стала галоўнай крыніцай для паляўнічых паэм і нарысаў А. Бартэльса. Вёска Дзяніскавічы знаходзіцца на поўдзень ад Клецка за кіламетраў 40. Размешчаны ў некранутых лясах, акружаны з трох бакоў балотамі населены пункт не мог быць вядомы шырокаму свету. Аднак гэта не стала перашкодай апаэтызаваць родны кут.

Адразу ўзнікае жаданне правесці паралель з Міцкевічавай крыніцай паэзіі, пра якую Віктар Каваленка пісаў: "Запрашэнне глянуць на звыклы як быццам краявід, але ўжо і нязвыклы, бо ён непазнавальна змяніўся пад поглядам паэта, было па сутнасці запрашэннем глянуць у сваю душу, адкрыць яе для роднага краю. Свае "дамашнія", правінцыяльныя, нічым як быццам не знакамітыя лес і возера заслугоўвалі, аказваецца, самай натхнёнай паэтычнай увагі, бо яны, як увесь край, раўнапраўныя, над імі тое ж самае неба, што і над іншымі краінамі"[7]. Адпаведна, і ў творчасці А. Бартэльса такі падыход прасочваецца праз частотнасць ужывання ў іх мясцовых мікратапонімаў: назовы дзяніскаўскай зямлі, відавочна, пераважаюць.

## Роднае сяло як пачатак і канец свету

Галоўным і храналагічна першым сярод намі зафіксаваных найменняў з'яўляецца назва роднай вёскі паэта – **Дзяніскавічы**. Што праўда, гэта не мікратапонім – айконім, ці, дакладней, камонім – назва сельскага пасялення. Ёю названа паэма, створаная ў лютым 1862 г. Гэтай вёскай пазначана месца напісання аднаго з вершаў – "Skutki cywilizacji" (15 красавіка 1856 г.)[8]. Здавалася б, усяго дзве згадкі. Але першая з названых (асабліва сваім зместам, пра што казалася вышэй) становіцца канцэптуальным локусам у творчасці А. Бартэльса – закрытым прасторавым вобразам. Звернемся да ўдалага для нашага выпадку азначэння: "Локус — это *место*-имение тотальности. *Место*-имение необходимо здесь понимать как уникальный и локализированный в космологическом отношении топос, *вне* которого тотальность *таким* способом нигде и никогда не сбудется"[9]. Прычым значэнне локуса заключаецца толькі ў назве твора. Па змесце яна нідзе не фігуруе (за выключэннем адной спасыкі ў іншай паэме) і, дзякуючы гэтаму, трансфармуецца ў топас – вёску наогул, вёску, якая можа быць (павінна быць?) у кожнага з прадстаўнікоў рода чалавечага – родную зямлю, Бацькаўшчыну, цэлы свет.

Witaj domu, gdzie dzieciątkiem
Pierwsze spędził lata,
Tyś się zdawał mi początkiem
Razem koncem świata.

Вітаю свой дом, дзе дзіцяткам
Няўцямна шалеў, – гэты дом
Здаваўся мне свету пачаткам
І разам з тым свету канцом[10].

Назіраем перарастанне не проста закрытай, але прыватнай мясціны ў адкрыты прасторавы вобраз. Зрэшты, гэта трансфармацыя з'яўляецца ў аўтара на ўзроўні метафары. Значыць, і топаснасць вобразу Дзяніскавіч адносная, дакладней, пераносная. Так робіцца паэтам, канечне, міжволі, і працуе на пафаснае ўзвышэнне мясцовасці. Кожны матыў паэмы і кожны элемент дзяніскаўскай прасторы прасякнуты філасафічнасцю, анталагічнай па сваёй сутнасці.

Z sosny zgniłej, co służyła
Dziś nam do ogniska,
Może kiedyś moja była
Sieroca kołyska!

З сасны, што ўзрасла на Ізбіску,
Скуль вызнаў сірочыя дні,
Шкада, не зрабілі калыску,
А так і згарыць у агні.

Już z tej sosny być nie może
Do trumny mej deska,
Żegnam cię więc w imię Boże,
Rodzino poleska!!

Ужо з тае хвоі нічога
Не ўзяць для магілкі маёй,
Развітваюся ў імя Бога
З палескаю крэўнай сям'ёй[11]...

Дапусцім не зусім літаратуразнаўчы пасаж. Неверагодна, але сярод жыхароў названай вёскі ўзнікла прымаўка: “Адкуль свет пайшоў? – З Дзяніскавіч”. Няма ўпэўненасці, што выслоўе бытавала ў сярэдзіне XIX ст., у часы А. Бартэльса. Недалёкія вёскі Вялікія Круговічы і Агарэвічы лічацца старэйшымі – першыя згадкі адносяцца да 1440-х гг. Тым не менш ганаровую прымаўку займелі менавіта Дзяніскавічы, якія ўпершыню з'яўляюцца ў дакументах трохі пазней – у 1473 г. Несумненна, што ў выпадку з А. Бартэльсам спрацавала творчая інтуіцыя.

Ізноў-такі гэты аўтарскі свет уяўляецца не ўсеагульным космасам, – гэта матэрыяльная прастора, сістэма каардынат з пэўнымі ў ёй пунктамі, у цэнтры якіх канкрэтная вёска. З іншага боку, паколькі ці не ў кожнага будуць *свае* Дзяніскавічы, яны разам з наваколлем адначасна становяцца і агульным космасам, толькі адкрываюцца нам свайго роду паралельным вымярэннем. Яно мае свае, асаблівыя восі каардынатаў. Адпаведна і пункты на іх будуць непаўторныя (пры гэтым не адмаўляецца іх тыповасць). Прывядзём іх назвы і па магчымасці лакалізуем, наколькі дазволіць інфармацыя, якая захавалася да XXI ст.

## Навакольныя населеныя пункты – каардынаты дзеяння

Ці не кожная вялікая беларуская вёска ў XIX ст. уяўляла сабой цэлае гняздо паселішчаў – з падарожнымі больш дробнымі і вёскамі, і фальваркамі, і хутарамі і да т. п. Дзяніскавічы не былі выключэннем. Іх адлюстраванне на мапах часоў А. Бартэльса захавалася (*іл. 1*), і сёння можна ўявіць, якая па памеры была вёска ў сярэдзіне XIX ст. (калі там бываў паэт), можна параўнаць з бліжэйшымі да нас часамі, у тым ліку сучаснасцю. Побач з Дзяніскавічамі – на паўднёвы захад – размясцілася з даўняга часу вёска **Еськавічы**, у польскім варыянце будзе трохі начай – Jaśkiewicze. У Беларусі існуе некалькі вёсак з такой ці падобнай назвай. Дзяніскаўская суседка ўлілася ў склад большай вёскі ў 1965 г. Тым не менш мясцовы люд адносіцца да яе па-ранейшаму як да асобнага паселішча са сваёй арыгінальнай назвай.

А. Бартэльс не называе Еськавічы наўпрост, у якасці камоніма. Іх назва фігуруе аднойчы (у паэме “Летнія і асеннія паляванні”) як прыналежны прыметнік – для абазначэння мясціны, зарослай вербамі:

Nieraz ci pokazując trop lisa lub kozy
Twierdzą, że wyjść musiała z Maryanowskiej łozy,
Pójdzie zaś w Jaśkiewickie...[12]

Тут жа, як бачым, аналагічным чынам – праз азначэнне – успамінаецца фальварак **Мар'янава** (па-мясцоваму – Мар'яноў), які знаходзіўся яшчэ далей на поўдзень, у глыбіні лесу і балотаў (*гл. іл. 1-2*).




*Іл. 1. Мапа вёскі Дзяніскавічы і найбліжэйшага наваколля на ваенна-тапаграфічнай мапе («трохвярстоўцы») Расійскай імперыі 1866 г. Крыніца: Военно-топографическая карта Минской губернии. – 1869. – С. 12.*

Відавочна, назвы – Дзяніскавічы, Еськавічы, Мар'янава – утвораны ад аднакарэнных імёнаў. Мясцовыя жыхары (Карпеня Андрэй Міронавіч – жыхар вёскі Дзяніскавічы (нар. у 1927 г.); Швайка Хрысціна Феадосьеўна – жыхарка вёскі Дзяніскавічы (нар. у 1931 г.); зборы Т. І. Дзенісеня, 2018 г.) мяркуюць, што такія імёны насілі заснавальнікі[13].

Яшчэ адзін мікратапонім з твораў А. Бартэльса (у паэме "Зімовыя паляванні на Літве") – **Ліпавецкі двор** – таксама азначаў населенае месца:

...Muszą nas dawno z obiadem czekać,
A już i widać dwór Lipowiecki,
    Jaśnieją światła i dym z komina,
    Ważniejsze rzeczy mi przypomina[14].

Паводле ўспамінаў тых жа рэспандэнтаў, мікратапонім адносіцца да мясціны ў цэнтры вёскі, дзе цяпер знаходзіцца школа. Там да прыходу савецкай улады жыў памешчык. Увесь вялікі двор быў абсажаны высокімі ліпамі. Разам з тым у дадзеным выпадку вусныя крыніцы не выказваюць пэўнасці. Тым не менш апісанне ў паэме і ўспаміны старажылаў як мінімум не разыходзяцца. Да таго ж ва ўказанай людзьмі мясцовасці здаўна і па сённяшні дзень растуць ліпы. Таму лічым слушным лакалізацыю Ліпавага двара бачыць на тэрыторыі сучаснай Дзяніскавіцкай школы.

У той жа час на апошнім прыкладзе відаць, што ў адрозненне ад вёскі Еськавічы, якая па-ранейшаму ўспрымаецца як такая, і фальварка Мар'янава, які ў першай

палове XX ст. пабываў леснічоўкай і застаўся ўрочышчам, некаторыя мікратапонімы да XXI ст. пачалі забывацца і страчвацца.

Так, практычна згубілася памяць пра **Ліпаўку** – нейкае хутчэй за ўсё невялікае пасяленне дробнай шляхты. Гэтакі сэнс вынікае з кантэксту паэм А. Бартэльса. У “Палескім тыдні” гаворыцца, што з таго населенага пункта адзін дзяцюк, самы маладзейшы ў кампаніі – Ясь. Ён закахаўся ў Зосю – дачку аднаго з таварышаў па паляванні Ігната. Прычым і яна “trocha gabnięta” (правапіс захаваны). Як тлумачыць у зносцы сам аўтар, гэта “wyrażenie czysto litewskie” і азначае пачатак закаханасці[15]. Герой, аднак, перасцерагаўся, што бацькі, заможныя, не аддадуць дачку за яго – небагатага, хаця і прыстойнага шляхціча. У “Зімовых паляваннях на Літве” гэты мікратапонім фігуруе двойчы:

W tem me marzenie przrwało szczekanie,
Do okna! patrzę, ktoś z sanek wysiada,
Dusza przeczuła, że to polowanie,
I zaprosiny któregoś sąsiada.
Chwałaż ci Boże! – Co to tam za wrzawa?
– Z Lipowki, panie, Siemko strzelec z listem.
– Dawaj – czytam: na jutro obława[16].

Poznałem, jak marzenie moje, żem kochany
Przez wszystkie zgromadzone w Lipowce kobiety,
Były marne![17]

Указаныя вышэй рэспандэнты дапускалі, што маецца на ўвазе ўрочышча Падліпка. Яно знаходзіцца за 8 км на паўднёвы ўсход ад Дзяніскавіч, “за балотам”. Этымалогія тлумачыцца тым, што ў лесе было мала ліп, а там яны раслі. У дадзеным выпадку інфармацыя не суадносіцца. На даўніх мапах Ліпаўка таксама адсутнічае. Думаецца, гэта якраз выпадак знікнення тапоніма з культурнай і гаспадарчай прасторы Дзяніскавіч.

Падобная сітуацыя са **Слабудкай** (Слабодкай?). Тапонім сустракаецца ў кантэксце палявання на цецярукоў:

– Rzecze do mnie – pódziemy sobie na cietrzewie,
Widziałem dziś z pół kopy, siedzących na drzewie
Blisko polanki tamtej, jadąc do Słobudki...[18]

Мясціна адназначна належыць да дзяніскаўскага наваколля. Менавіта на яго лясных прасторах адбывалася паляванне, пра якое гаворыцца ў працытаваных радках.

Згаданыя рэспандэнты дапускаюць, што **Слабудкай** называлася месца, на якім стаяла сядзіба сям’і па мянушцы “Слабадзіны” (іх нашчадкі ўжо не жывуць у Дзяніскавічах). Яшчэ ў XX ст. тое месца стала часткай вёскі.

Гэтае суаднясенне выглядае нацягнутым: і ў сэнсе ўтварэння тапоніма ад названай мянушкі, і ў сэнсе арыентацыі паляўнічых: яны знаходзіліся ў глыбокім лесе, і з яго кіравацца на пэўную сядзібу, магчыма, хутар, недалёкі ад вёскі, было б як мінімум нязручна і нават бессэнсоўна (у такім выпадку больш лагічнай выглядала б арыентацыя на саму вёску). Самы бліжэйшы, пазначаны на мапах населены пункт з такой назвай (дакладней, блізкай: Слабодка) знаходзіцца за пару кіламетраў на ўсход ад Сіняўкі. Гэта – фальварак. Але ў нашым выпадку гутарка вялася пра падзеі ў кантэксце дзяніскаўскіх лясоў. Таму пытанне лакалізацыі тапоніма застаецца адкрытым.

У цэлым наяўнасць некалькіх назваў ваколдзяніскаўскіх паселішчаў у паэмах А. Бартэльса гаворыць пра добрую абазнанасць аўтара як у мясцовых населеных пунктах, так і мясцовых лясах.

## Мікратапонімы – старыя прыяцелі

Яшчэ болей падкрэслівае веданне паэтам азначанай геаграфіі фігураванне ў творах драбнейшых мясцін – урочышчаў:

> ...Lasy, błota, kępy,
> Przyjaciele moi starzy...[19]

Па ступені цеплыні адносіны да іх не саступаюць любові да роднага сяла Дзяніскавічы. Прычым для лірычнага героя яны адушаўлёныя: у польскай мове множны лік дазваляе выказацца менавіта ў такой форме (“przyjaciele moi starzy”). Гэтаксама, як і да сяла – “пачатку свету”, схіляецца А. Бартэльс у вітанні найбольш улюбёных мясцін:

| | |
|---|---|
| Teraz witam was ostępy,<br>Uroczyszcza stare,<br>Wszak wzrok mój nie całkiem tępy,<br>I słuchu jest w miarę... | Цяпер я вітаю вас, пушчы,<br>Урочышчы, нетры свае.<br>Напраўду, то зрок мой відушчы<br>І слых мой яшчэ не здае...[20] |

Паэт радуецца за іх – за сваіх сяброў – з той прычыны, што да іх яшчэ не дабраліся “хцівыя сякеры” і “злавеснае шыпенне лакаматыва”. Ён прызнаецца, што помніць усіх (“znam was wszystkie po nazwisku”). Асабліва родных А. Бартэльс называе пайменна. Самыя цёплыя ўспаміны і пачуцці да пэўных урочышчаў звязаны з паляваннямі. А. Бартэльсу было мала роўных у гэтай справе. Яго асноўныя поспехі адбыліся менавіта на азначанай мясцовасці:

| | |
|---|---|
| Też u ciebie bór, starzyna,<br>Ostępie ty Hradki,<br>I ten mech, to nie nowina,<br>I te na mchu kładki. | Таксама згадаліся Градкі –<br>Глухі, сівы бор-старына.<br>У мох паўрастаныя кладкі,<br>Дый мох сам – хіба навіна! |
| Znam was wszystkie po nazwisku,<br>Dla ucha tak miłem,<br>Wszak podobno na Izbisku<br>Niedźwiedzia zabiłem, | Па назвах, з дзяцінства мне мілых,<br>Згадаў я і вас – не забыў.<br>Мядзведзя чартоўскае сілы<br>Я тут, на Ізбіску, забіў. |
| I znajome mi Lesiszcze,<br>Głuszców jak słowików,<br>I sławne Dziereminiszcze<br>Z niedźwiedzi i dzików. | Знаёмае надта Лясішча,<br>Глушцоў там – нібы салаўёў.<br>Ды помнае Дзерамінішча –<br>Ого кацалапых, дзікоў! |
| W Kremcach sławny tok cietrzewi,<br>Oj tok to nie lada:<br>Jak się zlecą, sam człek nie wie,<br>Jaka z niemi rada... | У Крэмцах жа цецеруковы<br>Адвеку нялічаны ток.<br>Зляцяцца, а лоўчы талковы<br>Не ступіць ні ўперад, ні ўбок. |
| Par trzydzieści tego najmniej,<br>Pal tylko, nabijaj,<br>I pal znowu, lecz przynajmniej<br>Samice omijaj.... | Пар трыццаць... Заквохчуць цяцеры –<br>Тут стрэльбу трымаць адно знай.<br>Страляй, ды, па меншае меры,<br>Цяцеру не забівай[21]. |

Як бачым, пяць мікратапонімаў – **Градкі, Ізбіск, Лясішча, Дзерамінішча, Крэмцы** – у паэму трапляюць менавіта з кантэксту ці не самай папулярнай шляхецкай забавы. Між тым аўтар нават у хвіліны светлага суму па даўно мінулых

днях дзяцінства і маладосці і свае колішнія зухаватыя поспехі не забываецца пра культуру палявання, калі трэ было шкадаваць самак, наогул берагчы прыроду.

Адметна, што названыя мікратапонімы канцэнтруюцца ў паэме “Дзяніскавічы”. Па-за ёю ў вершаваных творах вялікай формы А. Бартэльса намі адшукана толькі дзве новыя дзяніскаўскія назвы – **Нівішча** (“Палескі тыдзень”) і **Лісішча** (“Летнія і асеннія паляванні”).

Разам з тым, акрамя **Ізбіска**, тыя самыя, што і ў “Дзяніскавічах”, урочышчы фігуруюць у “Летніх і асенніх паляваннях”. Апошняя паэма пісалася ўжо ў Кракаве. Але, па ўсёй бачнасці, сэрца аўтара моцна настальгіравала, тужыла па родным куточку.

Дзеля лакалізацыі названых мясцовасцей намі выкарыстаны комплекс крыніц: самі тэксты твораў, даўнія мапы і ўспаміны дзяніскаўскіх старажылаў. У адным выпадку дапамагло асабістае веданне.

Апошняе спрычынілася да ўрочышча **Ізбіск**. Яно знаходзіцца кіламетраў за пяць на паўночны ўсход ад Дзяніскавіч (*іл. 2*). Сёння яно шырока вядомае і ў народзе называецца ў мінімальна змененым варыянце – Ізбійск або Ізбійскі Бор. Рэч у тым, што мясціна здаўна лічылася святой. Туды прыходзілі маліцца, часта пасля пакідаючы стужкі на дрэвах. У XXI ст. там узвялі праваслаўную Свята-Успенскую царкву (прычым навабудам, дарэчы, сапсавалі аўтэнтычнасць векапомнай святыні). Назва магла ўзнікнуць у сувязі з нейкімі адносінамі да невялікага, ці не ў адзін двор пасялення за які кіламетр на ўсход ад Дзяніскавіч з найменнем “Ізба” (*іл. 2*).

Лёгка таксама было вызначыць месцазнаходжанне так мілых сэрцу аўтара **Градак**. І паводле згадак, і на мапах (*іл. 2*) яны, існуючы па дзень сённяшні, размясціліся кіламетры за чатыры на поўдзень ад Дзяніскавіч. Ва ўспамінах нават робяцца спробы этымалогіі назвы ўрочышча: “Месца “гарыстае”, нагадвае грады, што робяць сяляне ў агародах”[22]. Урочышча дзеліцца на дзве часткі – Дальнія і Бліжнія Градкі. З кантэксту паэмы А. Бартэльса вынікае, што там ляжала грэбля (вяла ў бок Чучавіч). Аўтар заўважае змены, хаця і са шкадаваннем: няма колішніх кладак – замест іх больш надзейныя бярвенні.




*Іл. 2. Фрагмент мапы Вайсковага геаграфічнага інстытута 1924 г. (Варшава) з наваколлем вёскі Дзяніскавічы – урочышчамі Мар’янава, Ізбіскі бор, Лісішча, Градкі, Лясішча (усе вылучаны намі).*

*Крыніца: Index of /m/WIG_maps/series/100K_300dpi [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://maps.mapywig.org/m/WIG_maps/series/100K_300dpi/. Дата доступу: 27.12.2020.*

Складаней было з іншымі мясцінамі.

Як аказалася, урочышчы **Лясішча** і **Дзерамінішча,** а таксама **Лісішча** не займелі гонару (у адрозненне ад Мар'янава, Ізбіскага бора ці нават Градак) часта трапляць пад увагу картографаў. Не ўсе захаваліся яны і ў памяці мясцовага люду. Аднак на той жа мапе (*іл. 2*) відаць, што **Лісішча** знаходзіцца за **Ізбіскім борам**, адразу на ўсход за ім. Відавочна, што назва ўзыходзіць да ліс, якіх там было нямала. Гэта пацвярджаецца і А. Бартэльсам. Паэт расказвае пра магчымыя планы аблавы аднаго з таварышаў па паляванні на таго беларускага пушнога звера:

...Na miejscu Sojki on z samego ranka
Takby się rozporządził, ażeby naganka
Poszła na sam początek już nie od Lisiszcza,
Ale przez Kremce, Hradki do Dziereminiszcza...[23]

Акрамя ліс у тым паляўнічым кантэксце фігуруюць і рабчыкі, а таксама большыя аб'екты панскай забавы – дзікі і мядзведзі. Значыць, мясцовасць урочышча ўвогуле славілася дзічынай.

Яшчэ адна мясціна з паэмных твораў А. Бартэльса мае сугучную, але этымалагічна адрозную назву – адметнае глушцамі Лясішча (пра гэта гаворыцца ў адной з вышэйпрыведзеных цытат). Урочышча знаходзіцца на дыяметральна супрацьлеглым баку вёскі Дзяніскавічы ад **Лісішча** (*іл. 2*) – паводле інфарматараў, кіламетраў за восем на поўдзень. Насамрэч – трохі на паўднёвы ўсход ад Дзяніскавіч, абапал дарогі з Еськавіч на Макава бліжэй да апошняга. Этымалогія відавочная: "Там калісьці быў высокі хваёвы лес"[24].

У двух творах А. Бартэльса – паэмах "Дзяніскавічы" і "Летнія і асеннія паляванні" – фігуруе ўрочышча **Дзерамінішча** (абодва пасажы цытаваліся вышэй). Больш таго, яно, паводле аўтара, не абы-якое, а даволі вядомае. Чым? Найперш мядзведзямі і дзікамі. Назва "Дзерамінішча", як тлумачыць сам А. Бартэльс, утварылася «ад "дзярэ міня, дзярэ мяне" – крык, якім мужык дае знак, што яго мядзведзь пачаў дзерці, інакш – покліч на падмогу»[25].

Аднак у памяці дзяніскаўцаў слядоў пра мясціну адшукаць не ўдалося. Дапамагла тая ж польская мапа (*іл. 2*). На ёй прысутнічае ўрочышча **Дзеравянішча** (калі быць больш дакладным і пакінуць назву без адаптацыі да беларускай мовы, а так, як яна гучыць у транслітэрацыі, – Дэрэвінішчэ; на рускамоўнай мапе мяжы XIX і XX ст. – "Деревенище"). Выказваем наша меркаванне, што гэта і ёсць мясціна з паэмаў А. Бартэльса. Але ў працэсе чалавечай камунікацыі этымалогія назвы сцерлася – і, крыху трансфармаваўшы слова, набыла іншы, болей зразумелы (ад слова "дзерава") сэнс. Якія аргументы, акрамя сугучнасці назваў? Па-першае, мясцовасць, як і Дзяніскавічы, належала вядомаму магнацкаму роду Радзівілаў. Па-другое, там сапраўды вадзілася шмат мядзведзяў. Пра гэта ўспаміналі люсінцы яшчэ на самым пачатку XX ст., што стала мастацкім матэрыялам для Якуба Коласа:

"– О, лесу ў нас многа! – пацвердзіў паляшук і павярнуў твар да настаўніка. – Гэта вось цяпер, як правялі тут чыгунку, яго пачалі зводзіць, а даўней лес зусім не такі быў. І звяр'я было многа. Каля нашай вёскі мядзведзі вадзіліся. Яшчэ бацька нашага старасты, ведаеш, можа? – стары Грыгор, даўнейшага закалу чалавек! – жывога медзвядзёнка з лесу прынёс, ад мядзведзіцы адабраў!

– Як жа гэта ён?

– А бог яго ведае. Смелы. Дый здаровы, як дуб. Дарма што яму цяпер семдзесят год, а як забушуе часам у хаце Раман, яго сын, стараста наш, то стары, бывае, не вытрымае, возьме яго на рукі, як хлапчанё, і зараз жа ўціхамірыцца, хоць Раман і не ўломак. Вось як! І завезлі таго медзвядзёнка графу Патоцкаму. Дазвол далі Грыгору паляваць у графскіх лясах, яшчэ і пораху і шроту выдалі.

– А цяпер мядзведзяў тут няма?

– Не, няма: перавяліся. Туды далей, пад Татарку, сышлі, дзе месца глушэй і лесу болей і дзе меней заглядае вока людское... Забараняць пачалі па лесе са стрэльбаю хадзіць, леснікоў паставілі, законы строгія пайшлі. Але і лес нішчыцца, і звер зводзіцца.

– А я чуў, што тут яшчэ многа зверыны.

– Ёсць, праўда, але хіба столькі, як даўней? Бабры тут калісь вадзіліся. Яшчэ і цяпер дзе-нідзе можна бачыць сляды іх будынін... На ўсё пайшоў звод, – з нейкай маркотай заключыў паляшук і змоўк, аб чымсі задумаўшыся”[26].

Назва Дзеравянішча ўказваецца ў міжваенны час сярод паселішчаў Круговіцкай гміны. Там жыў нехта Баляслаў Чарноцкі. Відавочна, шляхецкага паходжання. Сядзіба яго была абсталявана тэлефонам[27], што было надзвычайнай рэдкасцю па тым часе.

На мапах не аказалася такога ўрочышча, як **Нівішча**. Пра яго А. Бартэльс пісаў:

...W uroczyscszu,
Na Niwiszczu
        Głuszec grał...[28]

Прычым гэты мікратапонім суправаджаецца спасылкай, што мясціна знаходзіцца ў дзяніскаўскіх лясах і славіцца праз паляванні на глушцоў.

Дапамаглі памяць мясцовых вяскоўцаў: “Ніўнае – зараз гэта поле былога калгаса. У ваколіцах вёскі на ўсходзе. Знаходзіцца недалёка ад Мар’янова, дзе быў маёнтак пана Шумскага. Там было поле пана, дзе каласіла ніва”, – паведамляе адзін з інфарматараў[29].

Назва, як бачым, не зусім супадае – толькі па сэнсе. Але цалкам дапускаем, што гэта адна і тая ж мясціна. Таму што найменні ў часавай прасторы нярэдка перажывалі некаторыя скажэнні і трансфармацыі. Праўда, існуе яшчэ адзін варыянт лакалізацыі – урочышча, якое на мапах называецца “Ніўка” (*іл. 2*). Яно ляжала за пару кіламетраў на поўдзень ад **Градак**. Калі меркаваць па тым, што ці не кожны мікратапонім у творах А. Бартэльса цесна звязаны з тэматыкай палявання, дык апошні варыянт больш верагодны: наўрад ці паблізу вёскі маглі вадзіцца глушцы, пра наяўнасць якіх у тым урочышчы пісаў паэт, у той жа час іх масавасць удалечыні ад вёскі была б натуральнай.

Тым не менш акрэсліць участак “Дзяніскавіцкай пушчы” (словы А. Бартэльса) з усімі названымі ў творы тапонімамі пакуль не ўдалося хаця б на гіпатэтычным узроўні. Так, месцазнаходжанне ўрочышча **Крэмцы** аказалася не ўстаноўленым. Дзе яно магло быць? Арыенцірам тут служаць лакалізаваныя **Градкі** і верагодна лакалізаванае **Дзераміншча**. Яны стаяць у адным шэрагу з **Крэмцамі**, дакладней – пасля апошніх. Адпаведна ўрочышча Крэмцы можа знаходзіцца прынамсі ў адным баку з Градкамі і не павінна быць вельмі далёка ад іх, недзе перад імі з іншага боку, па логіцы, ад **Дзераміншча**. Канечне, такая раскладка будзе пры ўмове, што аўтарам той шэраг складзены ў паслядоўнасці размяшчэння ўрочышчаў. Этымалогія назвы “Крэмцы” намі не прасочана.

Яшчэ шэраг мікратапонімаў адносяцца да недалёкіх лясоў пад Клецкам (Далматоўшчына, Грыцавіцкі бор, Цэпэршчына, Брыгада, Раёўка, Быстрыца, Дзямідавіцкі лес, Краснастаў). Там, у Радзівілімонтах, знаходзілася летняя рэзідэнцыя Радзівілаў і ў наваколлі таксама часам ладзіліся паляванні, хаця і не такія маштабныя ў параўнанні з ловамі ў дзяніскаўскіх лясах.

Аднак тое, што дзяніскаўскія мікратапонімы ў творчасці А. Бартэльса пераважаюць, – гэта яшчэ адно сведчанне, якую зямлю паэт лічыў сваёй малой радзімай, і яшчэ адно сведчанне таго, дзе, па прызнанні самога аўтара, ён прыйшоў на свет белы. Як слушна мяркуе Жанна Шаладонава, “прастора навакольнага

свету з'яўляецца важнейшым модусам існавання, найбольш відавочным спосабам праяўлення феномена чалавека ў адзінстве яго духоўна-ментальных, сацыяльных, псіхалагічных і фізічных характарыстык"[30], – тэзіс, які арганічна стасуецца і з творчасцю разгледжанага паэта.

***

Такім чынам, лакалізавана большасць згаданых у творчасці тапонімаў малой радзімы А. Бартэльса – ад пасяленняў да ўрочышчаў. Сёння гэта – тэрыторыя Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Канцэнтруюцца яны вакол галоўнай для паэта вёскі – Дзяніскавічы. Часцей за ўсё тыя назвы ўводзяцца ў творы або ў сувязі з успамінамі пра дзяцінства, або ў сувязі з паляваннямі ў багатых на дзічыну лясах.

Ужыванне А. Бартэльсам рэчаіснай тапанімікі роднай для аўтара глыбінкі, з аднаго боку, ажыццяўляецца згодна з трэндам рамантычнай паэтыкі, якая на той момант яшчэ не страціла сваіх уплываў, але з іншага боку, выяўляецца і ўздзеянне новай для мастацтва пазітывісцкай тэндэнцыі (асабліва ў творах пазнейшага перыяду паэта)[31]. Таму атрымліваецца, што прастора дзеяння ў названых паэмах канкрэтная і прыземленая. Разам з тым апаэтызаваная і такім чынам узнесеная да ўзроўню духоўнай каштоўнасці. Хаця, заўважым, што ўжыванне мікратапонімаў саміх па сабе робіцца без прэтэнзій на сімвалізм, універсалізм і анталагічнасць (у адрозненне ад камоніма "Дзяніскавічы"). Мікратапонімы маюць характар прыватны, індывідуальны, часам з ухілам да інтымнасці. Яны вартасцёвыя, канечне, і паасобку. Але галоўная іх роля – дапамагаць раскрыццю аўтарскага свету, які пачынаецца з Дзяніскавіч і ў далейшым рассоўвае свае межы да этнічных маштабаў пры захаванні памяці пра вытокі. Гэтак свет эксклюзіўны становіцца інклюзіўна анталагічным. Ля вытокаў такога разгортвання прасторы знаходзяцца якраз дробныя, нікому не вядомыя мясціны, не раўнуючы як маленькія часцінкі ў бяскрайнім космасе.

У XXI ст. назвы згаданых паэтам мясцін выпетрываюцца з памяці тутэйшых жыхароў. Няма столькі, як раней, дзічыны. Дый лес высякаецца няшчадна сучаснікамі. Гэтага баяўся А. Бартэльс, які ў сваіх творах выступаў за падтрымку, сёння сказалі б, экалагічнага балансу і за перадачу ў спадчыну наступным пакаленням прыроднага багацця таго часу. Відавочна, паэт прадчуваў, што нашчадкі не будуць так дбайна адносіцца да свайго асяроддзя. XXI ст. пацвердзіла недарэмнасць творчай інтуіцыі. Са знішчэннем прыроды знікаюць і назвы ўрочышчаў. На павестцы дня – існаванне вёскі. Тым не менш дзякуючы такім патрыётам роднага кута, як дзяніскавец А. Бартэльс, на аснове ў тым ліку яго творчай спадчыны ў будучыні магчыма адраджэнне і вёскі, і навакольнай прыроды, і вяртанне на свае гістарычныя месцы мікратапонімаў.

---

1 Францыск Скарына і яго час : энцыкл. давед. / Бел.. сав. энцыкл. ; рэдкал. І. П. Шамякін (гал. рэд.) інш. – Мінск : БелСЭ, 1988. – С. 94.

2 Бартэльс, А. Дзяніскавічы / А. Бартэльс. – Мінск: Энцыклапедыкс, 2018. – С. 14.

3 Barthels A. [b. n.] // Łowiec. – 1878. – 4 lut. – Nr 2. – S. 29.

4 Бартэльс, А. Дзяніскавічы / А. Бартэльс. – Мінск: Энцыклапедыкс, 2018. – С. 19.

5 Корвин-Кучинский, І. И. С моего прошлого / И. И. Корвин-Кучинский // Исторический вестник. – СПб. – 1903. –Т. 94. – №11. – С. 526.

6 Гл., напрыклад, агляд паэтычных твораў на тэму палявання: Dynak, W. Łowiectwo w poezji polskiej W. Dynak // Pamiętnik Literacki : czasopismo kwartalne poświęcone historii i krytyce. – 1991. – Z. 1. – S. 3–22. А таксама рэестр твораў, у якім толькі колькасць паэтычных, створаных на працягу XIX ст., ідзе на сотні: Daszkiewicz, K. Biblioteka poezji myśliwskiej w Internecie / K. Daszkiewicz // Digital Library of Wielkopolska [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу : http://www.wbc.poznan.pl/dlibra/docmetadata?id=161723&from=publication. – Дата доступу : 13.11.2019.

7 Каваленка В. А. Вытокі. Уплывы. Паскоранасць. Развіццё беларускай літаратуры XIX – XX стагоддзяў / рэд. П. К. Дзюбайла. Мінск: Навука і тэхніка, 1975. 336 с. – С. 69.

[8] Bartels A. Piosnki i satyry. Kraków: Wydawnictwo K. Bartoszewicza, w drukarni A. Koziańskiego, 1888. – S. 81.

[9] Океанский, В. П. Локус Идиота: введение в культурофонию равнины // Роман Достоевского «Идиот»: раздумья, проблемы. Иваново, 1999. – С. 179.

[10] Бартэльс, А. Дзяніскавічы / А. Бартэльс. – Мінск: Энцыклапедыкс, 2018. – С. 15.

[11] Бартэльс, А. Дзяніскавічы / А. Бартэльс. – Мінск: Энцыклапедыкс, 2018. – С. 24.

[12] Barthels A. Polowania letnie i jesienne // Łowiec. – 1880. – 1 września. – Nr. 9. – S. 137.

[13] Трафімчык А., Дзенісеня Т. Тапонімы роднага кута Артура Бартэльса ў яго паэмах // Савецкае Палессе. – 2020. – 17 кастр. – С. 6.

[14] Barthels A. Zimowe łowy na Litwie // Łowiec. – 1879. – 1 kwietnia. – Nr. 4. – S. 54.

[15] Bartels A. Tydzień Poleski. Ustęp z życia myśliwskiego na Litwie. – Kraków Druk. A. Koziański, 1883. S. 48.

[16] Barthels A. Zimowe łowy na Litwie // Łowiec. – 1879. – 1 stycznia. – Nr. 1. – S. 5.

[17] Barthels A. Zimowe łowy na Litwie // Łowiec. – 1879. – 1 czerwca. – Nr. 6. – S. 86.

[18] Bartels A. Tydzień Poleski. Ustęp z życia myśliwskiego na Litwie. – Kraków Druk. A. Koziański, 1883. S. 29.

[19] Бартэльс, А. Дзяніскавічы / А. Бартэльс. – Мінск: Энцыклапедыкс, 2018. – С. 19.

[20] Бартэльс, А. Дзяніскавічы / А. Бартэльс. – Мінск: Энцыклапедыкс, 2018. – С. 19.

[21] Бартэльс, А. Дзяніскавічы / А. Бартэльс. – Мінск: Энцыклапедыкс, 2018. – С. 19.

[22] Трафімчык А., Дзенісеня Т. Тапонімы роднага кута Артура Бартэльса ў яго паэмах // Савецкае Палессе. – 2020. – 17 кастр. – С. 6.

[23] Barthels A. Polowania letnie i jesienne // Łowiec. – 1880. – 1 września. – Nr. 9. – S. 137.

[24] Трафімчык А., Дзенісеня Т. Тапонімы роднага кута Артура Бартэльса ў яго паэмах // Савецкае Палессе. – 2020. – 17 кастр. – С. 6.

[25] Бартэльс, А. Дзяніскавічы / А. Бартэльс. – Мінск: Энцыклапедыкс, 2018. – С. 19.

[26] Колас Я. Збор твораў : у 20 т. / Якуб Колас ; [рэдкалегія: М. У. Мясніковіч і інш. ; прадмова М. Мушынскага] ; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы. — Т. 13: Трылогія «На ростанях» : кн. 1–2 / [рэдактар тома: Т. С. Голуб ; падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі С. В. Забродскай]. — Мінск : Беларус. навука, 2011. — 429 с. – С. 17.

[27] Напрыклад: Księga Adresowa Polski (wraz z w. m. Gdańskiem ) dla handlu, rzemiosł i rolnictwa; Annuaire de la Pologne ( y Compris la V. I. de Dantzig ) pour le Commerce, L'Industrie.les Metiers et L'Agriculture. Warszawa: Towarzystwo Reklamy Międzynarodowej Sp. z o.o. Jener Reprez. Rudolf Mosse; Bydgoszcz: Zakłady Graficzne «Bibljoteka Polska», 1927. S. 1738; Księga Adresowa Polski (wraz z w. m. Gdańskiem) dla handlu, przemysłu, rzemiosł i rolnictwa; Annuaire da la Pologne (y Compris la V.L. de Dantzig). Warszawa; Towarzystwo Reklamy Międzynarodowej Sp. z o.o. Jener. Reprez. Rudolf Mosse; Zakłady Graficzne «Bibljoteka Polska» , Bydgoszcz, 1930. – S. 1091.

[28] Bartels A. Tydzień Poleski. Ustęp z życia myśliwskiego na Litwie. – Kraków Druk. A. Koziański, 1883. – S. 1.

[29] Трафімчык А., Дзенісеня Т. Тапонімы роднага кута Артура Бартэльса ў яго паэмах // Савецкае Палессе. – 2020. – 17 кастр. – С. 6.

[30] Шаладонава, Ж. С. Катэгорыя прасторы ў гуманітарным дыскурсе / Ж. С. Шаладонава // Вес. Нац. акад. навук Беларусі. Сер. гуманіт. навук. – 2020. – Т. 65, № 4. – С.486–492. С. 486.

[31] Трафімчык, А. Творчасць Артура Бартэльса ў кантэксце беларускай і польскай літаратур (ідэйна-тэматычны аспект) А. Трафімчык // Мовазнаўства. Літаратуразнаўства. Фалькларыстыка: XVI Міжнародны з'езд славістаў (Бялград, 19–27 жніўня 2018 г.): даклады беларускай дэлегацыі / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Беларускі камітэт славістаў. – Мінск: Беларуская навука, 2018. – С. 368–383. С. 370-372.

Леанід Левановіч



...мне хацелася расказаць пра маё захапленне "Краёвым слоўнікам", любоў да яго...

# Навуковы подзвіг моваазнаўца

## *Янка Бялькевіч і яго "Краёвы слоўнік Усходняй Магілёўшчыны"*

Аднойчы ў рэдакцыю тыднёвіка "Літаратура і Мастацтва", дзе я тады працаваў, завітаў малады навуковец Арсень Ліс. Як заўсёды акуратна апрануты, пры гальштуку, прыйшоў не з пустымі рукамі – прынёс свае нататкі. Пісаў ён цікава, правіць не трэба было: прачытаў, падпісаў і здаў у сакратарыят. Адказны сакратар "ЛіМа" Уладзімір Мехаў паважаў дасведчанага аўтара і ставіў допісы Арсеня адразу ў нумар.

Звычайна Ліс доўга не затрымліваўся: шанаваў свой час і час "лімаўцаў", але на гэты раз ён не спяшаўся.

– Ці набылі вы слоўнік Бялькевіча?

– Ды не. Чуў, што ён выйшаў. Пакуль што не купіў, – прызнаўся я.

– Там вы знойдзеце шмат прыкладаў з гаворак Касцюкоўшчыны. Пэўна, і са сваёй роднай вёскі. Слоўнік ёсць у кнігарні на Карла Маркса. Я туды іду. Адна мая каляжанка папрасіла набыць гэтую кніжку. Дарэчы, у нарысе ў "ЛіМе" вы напісалі, што была позняя восень, але зямля ляжала галашчокам. Хораша сказана, вобразна. Адкуль гэта ў вас?

– Мусіць, ад бацькоў. Мая маці не ўмее ні чытаць, ні пісаць. Мова ейная вельмі каларытная...

Працоўны дзень канчаўся, то я меў поўнае права далучыцца да Арсеня.

Дарогаю ён распавёў пра жыццёвы трагічны лёс Івана Бялькевіча і канчаткова мяне заінтрыгаваў. Раптам Арсень спыніўся, павярнуўся да мяне:

– Не ведаю, ці пагодзіцеся са мной, лічу вялікай недарэчнасцю, што ў Мінску дзіцячы парк носіць імя Максіма Горкага. Ён выдатны пісьменнік, але ягоная нага ніколі не ступала ў гэтым кутку нашай сталіцы. І не пісаў Аляксей Максімавіч для дзяцей. А чаму не – Парк імя Янкі Маўра? Знакамітага дзіцячага пісьменніка.

– Арсень Сяргеевіч, я цалкам згодны. Парк імя Янкі Маўра – гэта гучыць выдатна, адпавядае значэнню гэтага пісьменніка. Трэба выхоўваць малых беларусаў на творах нашых літаратараў, распавядаць пра іх жыццё, – падтрымаў я суразмоўцу.

– Мяне радуе, калі хоць нешта робіцца дзеля Беларусі. Вось адкрылі памятны знак Сымону Рак-Міхайлоўскаму – выдатна. Убачыў свет слоўнік Бялькевіча – таксама радасць...

Тут я павінен патлумачыць чытачу. Памятны знак Сымону Рак-Міхайлоўскаму ўсталявалі ў яго роднай вёсцы Максімаўка Маладзечанскага раёна. Тры магутныя валуны відаць здалёку. На сярэднім – мемарыяльная дошка, на якой напісана, што Сымон Рак-Міхайлоўскі – грамадскі і палітычны дзеяч, таленавіты кампазітар, аўтар музыкі да Багдановічавай “Зоркі Венеры”, педагог. Помнік усталяваны дзякуючы высілкам апантанага гісторыка Генадзя Каханоўскага. На адкрыццё помніка прыехалі Янка Брыль, Фёдар Янкоўскі, які партызаніў у гэтых месцах. Быў і Арсень Ліс, запрасілі і мяне, я часта гасцяваў у цешчы ў суседняй вёсцы Кліманты. Генадзь Каханоўскі літаральна свяціўся ад радасці, што яму ўдалося прабіць райкамаўскую сцяну, даказаць, што Сымон Рак-Міхайлоўскі варты нашай памяці, помнік заслужыў толькі за музыку да шэдэўра Максіма Багдановіча “Зорка Венера”. Пра гэта гаварылі знакамітыя госці, выступаў і Арсень Ліс, далі слова і мне. Пасля той сустрэчы мы з Арсенем амаль што пасябравалі...

І вось трымаю самавітую, важкую кніжку ладнага фармату ў светла-ружовай вокладцы. Буйнымі літарамі напісана: “Краёвы Слоўнік Усходняй Магілёўшчыны”. Здзівіў кошт – усяго 2 рублі 2 капейкі.

Сямідзясятыя-васьмідзясятыя гады мінулага стагоддзя сталіся росквітам, так бы мовіць, савецкага кнігавыдання. “Мастацкая літаратура” выпускала кнігі на ўвесь неабсяжны Саюз накладам дзвесце, трыста тысяч, а то і паўмільённым... Мабыць, такое ніколі ўжо не паўторыцца. На жаль, беларускамоўная літаратура такіх накладаў не ведала. Праўда, творы Быкава, Шамякіна часам мелі па 90 тысяч асобнікаў. Невялікім накладам, 1000 асобнікаў, убачыў свет і слоўнік Бялькевіча.

Увечары з хваляваннем разгарнуў яго. Прыклады з гаворак, якія асабліва зацікавілі, адзначаў – ставіў алоўкам птушачку. Неўзабаве такіх птушачак назбіраўся цалюткі вырай. Заінтрыгавала слова – АББОРЫШ. Пласт сена, перабраны граблямі, пярэчышак. *На лугу сена ў абборышах засталося, нада яго ці прывезці, ці ў копы пакласьць.* Журбін. Бялынкав.

Адразу дыхнула вясковымі клопатамі. Узгадалася, як з бацькам вазілі сена. Я наверсе з граблямі, бацька падаваў віламі, спярша ўкладвалі па вуглах мажары, потым у сярэдзіну. Ён падаваў бярэмя і казаў: “Ета пад жэрдзь. Прытапчы. Потым прыціснем. Будзе ляжаць”. А прыціскалі тоўстай жэрдкай, якая называлася *рубель.* Калі наклалі воз, бацька абскуб сена па баках, бо яно можа адваліцца дрогкаю дарогаю, падаваў мне. Апошняе бярэмца здавалася самым духмяным.

Укладальнік падае гэтае слова з адным Б; АБОРЫШ. Пярэчышчак, пласт сена. І вось якая ілюстрацыя: *Янка пазьбіваў сухое сена ў аборышы, а тады пачаў кідаць*

*на воз.* Так натуральна гучыць у фраза з мяккімі знакамі Міжволі думаецца: і як скалечылі нашу мову зламыснаю рэформаю трыццатых гадоў.

Яшчэ ўзгадалася, як надвячоркам завітаў да нас брыгадзір, звярнуўся да бацькі:

– Кірэй Васілевіч, выручайце – будзьце адказным за стагоўку. Лепей за вас ніхто стог не складзе, не завяршыць. А ета ж дужа важна, каб вецер чупрыну стога не задраў. Тады дождж залье – сена кату пад хвост.

Бацьку спадабалася пахвала, але для прыліку пачаў адмаўляцца.

– Ой, братка, еты ж ціск мяне мучае. А на стагоўцы трэба галаву задзіраць часцяком...

Брыгадзір угаворваў, паабяцаў лепшую палоску сена на працэнты. Гэты аргумент падзейнічаў: бацька пагадзіўся. Узрадаваны брыгадзір паціснуў яму руку, бацька запрасіў яго за стол.

Заманулася зірнуць, ці ёсць у слоўніку слова стог. Адшукаў, чытаю: *пыклалі стог сена. Пад стог на адонішча трэба класць хвырасту.*

Усё праўда. Назаўтра бацька прывязаў граблі да доўгага шастка. А потым і кажа мне:

– Лёнік, давай сходзім да Бесядзі. Там у раўчуку багата алешніку. Трэба насячы пад ніз стога.

Я прыехаў на канікулы, час меў, было і жаданне памагчы бацьку. Тое стагаванне помніцца як вясёлае свята калектыўнай працы. Сонца абнізілася да заходу, калі бацька канчаткова завяршыў высозны стог. Памагала апошняй маладая кабета Ганна. Перш чым злезці з палка на зямлю, яна крыкнула:

– Мужчынкі, нут-ка адвярніцеся. А то схватаграхвую...

Здаровы мужчынскі рогат быў адказам яе словы.

Калі перачытваў уступны артыкул, у якім крытыкавалі Бялькевіча за тое, што літару "Ф" лічыў не ўласцівай беларускай мове, я падумаў: мае рацыю Іван Кандратавіч. У вёсках Усходняй Бларусі, дый, мабыць, і Заходняй, не пачуеш: фортка, футбол, форма. Герой маіх раманаў участковы Бравусаў заўсёды кажа: ета хвакт, або – хвакцічаскі.

Чытаю далей. Вось слоўка: АБЛІГАЦЦА. Не, аблігацыі тут ні пры чым. Гэта – аблягацца, абапірацца локцямі. *Як сталі на стол аблігацца, дык датуль аблягалісь, пакуль пулумалі.* Што ж, усё жыццёва, і такое здараецца.

Калі спытаць у сучаснага гараджаніна, сярэдняга веку вяскоўца, то рэдка хто адкажа, што значыць слова КРЫНДЖАЛЫ. Гэта: крывалы, прылада да калёс вазіць бярвенні. *На крынджалах возюць бярвеньні з лесу.* Як дарэчы тут мяккі знак! Перадаецца сапраўдная мяккасць нашай мовы. Вялікі мовазнаўца Бялькевіч гэта выдатна адчуваў. Чалавек, які нарадзіўся на Слонімшчыне, гэтак рассмакаваў гаворкі Усходняй Магілёўчшыны і прысвяціў вывучэнню іх усё жыццё.

Не магу не працытаваць прыгожае слоўка: НАЧОЦІСТА. Хоць азначае яно нядужа добрыя паняткі: Накладна, стратна. *Па столькі браўшы – будзіць начоціста..* Мабыць, слоўкі КРЫНДЖАЛЫ і НАЧОЦІСТА здзіўлялі мовазнаўцу.

Разумею, што вынятак са слоўніка я зрабіў зашмат, але хочацца цытаваць яшчэ. Нездарма кажуць людзі: добрага заўсёды мала. Тут хачу адзначыць, слушную думку ўкладальніка Уладзіміра Кажамякі, што моўныя ілюстрацыі амаль усе шэдэўры. І далей ён сцвярджае: "Слоўнік – гэта раман, у якім паказана рэльнае жыццё насельніцтва Усходняй Магілёўшчыны ў перашай палове XX стагоддзя". Цалкам згодны.

Дык вось, яшчэ адну, вясёлую, вынятку, не магу не зрабіць.

Ці ведаеш ты, мой дарагі чытач, што азначе слова: СЕСЛА. Тлумачэнне: Мытня ў штанах. Ілюстрацыі дзве, прывяду абедзве: *Дзямід бегаіць, аж сесла трасецца.* Запісана ў вёсцы Гібалы Касцюковіцкага раёна. Другая: *Пірылазіўшы праз плот*

*вырваў у штанах сесла.* Таму, хто няўдала пералез цераз плот, не да смеху. Запісана ў вёсцы Палуж Краснапольскага раёна, недалёка ад роднай вёскі знакамітага паэта Аляксея Пысіна. Гэта слова я чуў з дзяцінства. Яно вымаўлялася заўсёды са смехам. Дарэчы, гэтага каларытнага слова няма ў Слоўніку беларускай мовы, знайшоў яго ў слоўніку прафесара Паўла Растаргуева "Северско-белорусский говор". Гэтую цікавую кніжку пазычыў пачытаць у Арсеня Ліса.

Я ўжо згадваў Аляксея Пысіна. Вось ягоныя радкі пра слоўнік Бялькевіча:

...Была радня аж дзесьці ў Саматэвічах,
За Бесяддзю, за полем і барамі.
У вёсках тут прыгадваюць Бялькевіча:
"Краёвы слоўнік" разам мы збіралі...

Не магу не працытаваць і празаічныя радкі Пысіна з артыкула; "Першароднасць матчынага слова": "Краёвы слоўнік Усходняй Магілёўшчыны – не толькі помнік матчынай мове, апрача ўсяго добрага, што можна сказаць пра гэты том, ён яшчэ і каштоўнейшы дапаможнік для пісьменніка і журналіста, для філолага і гісторыка, для кожнага, хто шануе народнае слова... На кожнай старонцы слоўніка рассыпаны самацветы жывой гаворкі. І старонку за старонкаю можна чытаць слоўнік, як самабытную кнігу народа, у якой яго гісторыя, праца розум, радасць і гора, усе пачуцці. Толькі відавочна, што ніколі і нікому не ўдасца поўнасцю сабраць усе словы народа, усе фарбы і адценні жывой мовы, бо яна ўвесь час развіваецца і ўдасканальваецца... За дзесяцігоддзі, якія мінулі пасля збірання слоўніка, мова ў чымсьці змянілася, стала больш адшліфаванай. Гэта і зразумела. Сваё ўздзеянне акзаалі ўсеагульны рост культуры, кніга, газеты, радыё, тэлебачанне. Ды засталіся глыбінныя мацярынскія пласты моўнай глебы – наша дарагое багацце. Жывое, неўміручае народнае слова: вобразнае, рухомае, эмацыянальнае..."

Хай даруе мне чытач даўжэзную вынятку, але думкі вялікага паэта ўражваюць сваёй глыбінёй. актуальнасцю і сёння, хоць напісаны артыкул болей як паўстагоддзя таму – у 1970 годзе.

Янка Бялькевіч працаваў над Слоўнікам амаль усё сваё жыццё. Пачынаў, калі быў дырэктарам Мсціслаўскага педтэхнікума. Заахвоціў зборам дыялектных выразаў студэнтаў, сам начамі сядзеў – сістэматызаваў. Працу нахабна перыпынілі бальшавікі – арышт у 1930, высылка ў Йашкар-Алу, дзе працаваў на лесазаводзе. Праз пяць гадоў пераводзяць у тагачасны Жданаў (Марыупаль), выкладаў рускую мову і літаратуру. А ў душы жыла Беларусь, распачатая праца пра гаворкі Магілёўшчыны. За што чалавека пазбавілі любімай працы? Ворагі Беларушчыны падразалі крылы самым таленавітым, працалюбівым, такім, як Максім і Гаўрыла Гарэцкія, Уладзімір Дубоўка, Ян Скрыган і шмат якім ішым патрыётам маладой Беларусі. Можна лічыць, што Бялькевічу пашанцавала: ён апынуўся не на Калыме на лесапавале, ён жыў на свабодзе, у вольную хвілінку працаваў над слоўнікам і ў 1959 годзе завяршыў яго. Каля 20 000 слоў змяшчае кніга.

Вядома, што Уладзімір Дубоўка, надзвычай таленавіты, шырока адукаваны, за 28 гадоў не напісаў ні радка, затое асвоіў цалюткі тузін рабочых прафесій. Вось вам прыклад жыццястойкасці, таленавітасці, працалюбства беларусаў.

Сям'я Янкі Бялькевіча з дапамогаю бібліёграфаў Дзяржаўнай бібліятэкі БССР давялі справу да выдання. Але ўбачыць сваю шматгадовую працу надрукаванаю кнігаю Івану Кандратавічу не давялося: 18 кастрычніка 1960 года спынілася сэрца Вялікага Беларуса, апантанага мовазнаўцы.

Клопатамі па выданні слоўніка занялася жонка Бялькевіча Ніна Мікалаеўна. Дапамагалі ёй сын Усяслаў і дачка Людміла. Гэта таксама прыклад любові да Беларусі. Нездарма людзі кажуць: у добрых бацькоў – добрыя дзеці. Не заўсёды

сямейнікі нашых творцаў глядзяць у адным кірунку. Часта дзеці, унукі нашых літаратараў не валодаюць роднай моваю.

Дык вось, сям'я Бялькевіча шчыра працавала над слоўнікам каля дзесяці гадоў, у 1970 годзе "Краёвы Слоўнік Усходняй Магілёўшчыны" пабачыў свет. Кніга вельмі хутка разышлася, я прыйшоў у кнігарню назаўтра, каб набыць яшчэ асобнік для хлопцаў з Касцюковіцкай раёнкі, слоўніка ўжо не было.

Паэт-зямляк Алесь Пісьмянкоў таксама захапляўся "Краёвым слоўнікам". Мы сустракаліся даволі часта. Ён вельмі шкадаваў, што не мае кнігі Бялькевіча. Неяк папрасіў пазычыць слоўнік на пару тыдняў.

– Пару тыдняў – ета малавата, як у нас кажуць. Даю на месяц, – з усмешкаю адказаў я.

Праз месяц тэлефануе Алесь:

– Чытаю слоўнік і не магу начытацца. Быццам гасцюю ў радні, чую іхнія галасы. Чую словы, якія яны кажуць. Наша мяккае "р", наша – ідзець, пяець, нясець... Столькі прыкладаў запісана ў маіх Бялынкавічах! Карацей, наколькі можаце даць яшчэ?

Канечне, я не адмовіў паэту-земляку, пазычыў яшчэ на месяц. А потым – і яшчэ...

У выніку ў яго нарадзіліся выдатныя, ёмістыя радкі:

Я зноў аб галоўным,
Аб кроўным,
Я зноў пра свае карані:
Гартаю Бялькевічаў "Слоўнік",
Нібыта гасцюю
Ў радні.

Так, у Алесевы Бялынкавічы, якія ў трыццатыя гады былі райцэнтрам, памагатыя Бялькевіча наведваліся часцяком. А ў маіх Клеявічах, аддаленых ад Касцюковічаў, у Саматэвічах – радзіма Аркадзя Куляшова, у чыгрынаўскім Вялікім Бары бывалі рэдка. Таму слова галашчокам, якое ўпадабаў Арсень Ліс, у "Краёвым слоўніку" я не знайшоў.

На маю думку, "Краёвы слоўнік Усходняй Магілёўшчыны" даўно пара перавыдаць. Цікавасць да яго ёсць. Пра гэта яскрава сведчыць інтэрнэт: нейкая спадарыня Людміла прадае слоўнік за 40 рублёў. Сума не малая. Зямляк, пісьменнік Віктар Патапенка спампаваў "Краёвы слоўнік" з "Беларускай палічкі" ў сеціве, але хацеў бы яго мець кніжкаю, каб чытаць у альтанцы на лецішчы, смакаваць кожнае слоўка, удыхаць таямнічы водар друкарскай фарбы.

Што ж, на гэтым можна паставіць кропку. Я не пісаў пра плённую дзейнасць Янкі Бялькевіча ў Інбелкульце, пра яго грунтоўныя, прынцыповыя выступы на мовазнаўчых канферэнцыях, гэта факты вядомыя. Мне хацелася расказаць пра маё захапленне "Краёвым слоўнікам", любоў да яго. Калі мне гэта не зусім удалося, то ёсць на Мсціслаўшчыне такое слоўка: ФАРНАБІКС. Гэта – праборка, пагроза: *Дай яму за ета фарнабіксу, штоб ён памітываў.*

Хачу спадзявацца, што фарнабіксу я не заслужыў.

*Ліпень 2020, люты 2021,*
*Вёска Пятрылава, што на Вілейшчыне*

# Анкета «Дзеяслова»

*1. Чым бачыцца Вам літаратурная творчасць: нябесным прызваннем, грамадзянскім абавязкам, прафесіяй, хобі, звычкаю? Што падштурхнула Вас да пісьменніцкай дзейнасці. Ці памятаеце свой творчы дэбют? Каго Вы лічыце сваім літаратурным "хросным бацькам"?*

*2. У чым адметнасць Вашай творчай працы? Які час сутак найбольш плённы? Да якіх "тэхнічных прыладаў" Вы найбольш звыклі: аловак, пяро, шарыкавая ручка, кампутар, дыктафон, інш.? Ці выкарыстоўваеце Вы "творчыя стымулятары": кава, цыгарэты, віно, музыка, інш.? Што для Вас натхненне і ці чакаеце Вы яго, каб пачаць пісаць?*

*3. Якія цяжкасці паўстаюць перад Вамі падчас напісання твора? Якое значэнне Вы надаеце слову, фразе, рытму твора? Ці звяртаецеся падчас пісання да даведачнай літаратуры, слоўнікаў, энцыклапедыяў?*

*4. Што/хто найбольш спрыяе ў рэалізацыі Вашых літаратурных задумаў? Што/хто найбольш перашкаджае Вам у гэтым? Ці ўплывае на Вашую творчасць ацэнка сяброў, рэдактараў, чытачоў? Ці вяртаецеся Вы да напісаных твораў, каб перапісаць іх, перарабіць, удасканаліць?*

*5. Ці задаволеныя Вы сваімі творамі? Што ў Вас не атрымалася ў творчасці? Чым Вы найбольш задаволены? Якія эпізоды сваёй біяграфіі Вы хацелі б перажыць наноў? Наколькі Вашая біяграфія паўплывала на творчасць і адбітая ў творчасці?*

*6. Ці вядзеце Вы дзённікі? Як ставіцеся да правіла: "Ні дня без радка"? Ці знаёмае Вам пачуццё ляноты, ці змагаецеся Вы з ім (і як)? Калі "не пішацца", што вы робіце, дзе/у чым шукаеце натхненне?*

*7. Ці чытаеце Вы творы сваіх маладзейшых і старэйшых калегаў? Хто з творцаў Вам найбольш блізкі – з беларускіх і сусветных аўтараў? Назавіце творы, якія Вы любіце чытаць і перачытваць? Ці ёсць такія ў сучаснай беларускай літаратуры?*

*8. Чаго, на Вашую думку, не хапае сучаснай беларускай літаратуры і што чакае яе ў будучыні? Што пажадалі б Вы тым, хто робіць першыя крокі ў літаратуры?*

# Сяргей Кавалёў



***1.*** Для сучаснага пісьменніка літаратурная творчасць – гэта перадусім практыкаванне ў свабодзе. Крыху гульня, крыху – дыялог з чытачом, крыху – самапазнанне... Паяняцці “нябеснае прызванне”, “грамадзянскі абавязак” засталіся ў мінулых эпохах. Хаця ў кантэксце трагічнай сітуацыі з беларускай мовай само пісанне твораў па-беларуску можна ўспрымаць як місію. Ну, а паколькі я займаюся драматургіяй – гэта яшчэ і прафесія, бо часта пішаш п’есы і інсцэніроўкі на замову тэатраў, атрымліваеш, як бы там ні было, ганарары і аўтарскія адлічэнні. Але гэта не асноўная прафесія, бо як драматург я не хачу быць залежным ад кан’юнктуры, ад рынку і таму з задавальненнем працую выкладчыкам ва ўніверсітэтце, а прафесію драматурга ўспрымаю як хобі.

У літаратуру мяне прывяла любоў да гэтай самай літаратуры, спачатку чытацкая, а потым пісьменніцкая і даследчыцкая. Школьнікам-дзевяцікласнікам я ўдзельнічаў у семінары маладых творцаў горада Магілёва, чытаў там верш “Волк” (на рускай мове), які пасля апублікавалі ў “Магілёўскай праўдзе”. Гэта і быў мой літаратурны дэбют, а кіраўнік семінара – празаік Аркадзь Кандрусевіч – стаўся “хросным бацькам”. Памятаю, пасля публікацыі верша “Волк” адзін з настаўнікаў сказаў мне, што трэба пісаць не пра ваўкоў, а пра людзей, пажадана камсамольцаў... Падчас вучобы на філфаку БДУ, на мяне, безумоўна, паўплывалі нашы выкладчыкі: Алег Лойка, Вячаслаў Рагойша, Дзмітры Бугаёў; у рэдакцыі “Літаратуры і мастацтва” я пазнаёміўся з Анатолем Сідарэвічам, які замовіў мне першыя рэцэнзіі і артыкулы, а калі я напісаў першую п’есу і аддаў яе ў Рэпертуарную калегію Міністэрства культуры – пазнаёміўся з ВацлавамВаладзько, які падтрымліваў мае, і не толькі мае, першыя крокі ў драматургіі. Менавіта Валадзько пазнаёміў мяне з рэжысёрам Рыдам Таліпавым, з якім мы зрабілі такія скандальна-эпатажныя спектаклі, як “Саламея і амараты” і “Стомлены д’ябал”. Пасля разносу “Саламеі...” і поспеху “Стомленага д’ябла” пачалося па-сапраўднаму маё жыццё драматурга.

***2.*** Калі мне задаюць пытанне, чаму я выбраў драматургію, а не паэзію ці прозу, я адказваю – з-за свайго спакойнага характару і ляноты. Паэт мусіць весці бурлівае эмацыянальнае жыццё “з чаркай і каханкай”, чакаючы натхнення для складання вершаў, празаік – як той катаржнік – пісаць кожны дзень хаця б некалькі старонак рамана, а драматург напіша п’есу – і потым некалькі гадоў чакае, калі яе паставяць у тэатры. Мне такі расклад пасуе, хаця, насамрэч, у чаканні прэм’еры ранейшай п’есы пішаш новую...

У маладосці я найчасцей пісаў вечарам і ноччу, цяпер – днём, ніколі – раніцай, а найлепей п’есы пішуцца “запоем”, калі застаешся сам-насам з тэкстам і час сутак ужо не мае значэння. Калі з’явіліся кампутары, я ахвотна стаў пісаць з дапамогай клавіятуры і манітора: адразу можна правіць тэкст, і гэтыя праўкі нябачныя, не перашкаджаюць, у адрозненне ад правак на паперы. Ані кава, ані цыгарэты (зрэшты, ніколі не паліў), ані алкаголь падчас працы, абавязкова – музыка (класічная альбо саундтрэкі з фільмаў), пасля напісання п’есы альбо асобнай

сцэны можна ўзнагародзіць сябе келіхам добрага віна, а пасля прэм’еры спектаклю з задавальненнем выпіць з рэжысёрам, мастаком, акцёрамі (даўняя тэатральная традыцыя адзначаць прэм’еры).

Натхненне – гэта пачуццё рытму, інтанацыі, атмасферы твора. Некалькі разоў даводзілася пісаць без натхнення (пільная замова) ці, дакладней, без натхнення распачынаць працу, пакуль уцягнешся – не спадабалася. Памятаю, калі я быў студэнтам, да нас на філфак прыходзіў Міхась Стральцоў, і я спытаў у майстра: “Чаму Вы больш не пішаце прозу?” “Бо я яе не чую”, – проста адказаў ён.

***3.*** Мая праблема як пісьменніка заключаецца ў тым, што я не люблю пісаць, як ні парадаксальна гэта гучыць. Я люблю прыдумляць: п’есу, герояў, сюжэт, сцэны. І калі ўсё гэта ўжо ёсць у галаве ці ў схематычным выглядзе на паперы – трэба яшчэ сядаць і падрабязна апісваць прыдуманае, ведаючы, што канчатковы варыянт атрымаецца ўсё роўна горш, чым той першапачатковы твор у маім уяўленні.

У драматургіі слова, фраза, рытм маюць іншую вартасць, чым у паэзіі і прозе (меншую? большую?), бо потым гэтае слова і фразу мусіць вымавіць на сцэне акцёр у зададзеным рэжысёрам рытме, а паўзы на сцэне адыгрываюць не меншую ролю, чым слова.

Мая драматургія – гэта падарожжа па краінах, эпохах, культурах. Без папярэдніх штудый навуковай літаратуры і прачытання мастацкіх тэкстаў той ці іншай эпохі немагчыма напісаць такія п’есы, як “Камедыя Юдзіфі”, “Сёстры Псіхеі”, “Шлях да Батлеему”, “Трышчан&Ізота”, “Чатыры гісторыі Саламеі”, “Францішка, або Навука кахання”, “Лабірынты Власта”...

***4.*** У рэалізацыі творчых задумаў драматургу найбольш спрыяюць рэжысёр, мастак, акцёры і іншыя стваральнікі спектакля, якія шмат у гэты спектакль прыўносяць. Яны ж, бывае, і перашкаджаюць найбольш, калі не разумеюць тваёй задумы. Я лічу, мне пашанцавала на рэжысёраў: Таліпаў, Баркоўскі, Пінігін, Гарцуеў, Ляляўскі, Жугжда, Башава, Карбаўнічая, Казакоў, Ганум і многія іншыя. Супрацоўніцтва з Алегам Жугждам можна назваць сутворчасцю: мы разам, як драматург і рэжысёр, зрабілі больш за дзесяць спектакляў у розных краінах.

Ацэнка сяброў, рэдактараў, крытыкаў мяне цікавіць, але на творчасць не ўплывае. На творчасць уплывае ацэнка гледачоў – калі спектакль нікому не цікавы, яго здымуць з рэпертуару пасля двух-трох праглядаў (асабліва калі гэта спектакль на беларускай мове). Я пішу п’есы ў першую чаргу для сябе і такія, якіх мне як гледачу бракуе ў беларускім тэатры. Але вельмі рады, што мае творы знаходзяць водгук у гледачоў – часам меншы, часам большы. Некаторыя спектаклі па маіх п’есах ішлі на сцэне больш за дзесяць гадоў, іншыя непрыкметна зніклі з рэпертуару праз год-другі (гэта залежыць не толькі ад драматурга, але таксама ад рэжысёра і акцёраў). Ёсць спектаклі, якія акцёры шчыра любяць, а ёсць – у якіх толькі працуюць.

Вельмі істотнае пытанне пра перапрацоўку твораў. Мне здаецца, пісьменнік робіцца сапраўдным пісьменнікам толькі тады, калі навучыцца перапрацоўваць і ўдасканальваць свае творы. Дастаткова параўнаць першы варыянт “Майстра і Маргарыты” Булгакава з канчатковым. У мяне быў эстэтычны шок, калі я пабачыў, як выглядаў спачатку гэты шэдэўр. У тэатры тваю п’есу (а таксама п’есы Шэкспіра, Чэхава, Купалы) часта перарабляюць, адаптуюць для сцэны. Часам драматург гэта робіць сам у згодзе з рэжысёрам. У мінулым годзе я зрабіў па просьбе Алега Жугжды адаптацыю для лялечнага тэатра сваёй даўняй п’есы “Трышчан&Ізота” (1994), якая да гэтага ставілася толькі ў драматычных тэатрах. Папросту акуратна скараціў тэкст на адну чвэрць (15 старонак). І п’еса ад гэтага толькі выйграла. У маладосці чалавек, у тым ліку пісьменнік, празмерна шматслоўны... Памятаю,

прачытаў у дзённіках Стэфана Цвейга, што вяршыняй пісьменніцкага майстэрства з'яўляецца ўменне скарачаць. Калі жонка пыталася ў Цвейга, як шмат ён зрабіў за дзень, той з гонарам адказваў: "Скараціў два сказы!"

***5.*** Напэўна, цалкам задаволеныя сваімі творамі толькі графаманы. Кожны твор хацелася напісаць лепш, чым атрымалася. Адны п'есы мне больш падабаюцца, іншыя – менш, і мая ўласная ацэнка не заўсёды супадае з ацэнкамі рэжысёраў і сцэнічным лёсам гэтых п'ес. Мне вельмі дарагія п'есы "Інтымны дзённік" і "Пясчаны замак", а ставіліся яны толькі раз. А вось п'есу "Шлях да Батлеему" я пісаў спачатку неахвотна, з "супрацiўленнем матэрыялу", а ў выніку ў яе аказаўся самы шчаслівы сцэнічны лёс у розных краінах (часам я называю сябе аўтарам аднаго твора).

Многае не атрымалася і атрымалася многае, што тут лічыць і ўзважваць? Неяк я спытаўся ў старэйшага сябра-прафесара, які выпадкова згадаў у размове сваю чарговую каханку з чарговай краіны: "Колькі ж іх у цябе было?" І атрымаў адказ: "Я філолаг, а не бухгалтар!"

У мяне няма біяграфічных твораў, але ў кожным з твораў ёсць часцінка мяне як чалавека (і ў "адмоўных" героях таксама). Памятаю, Рыд Таліпаў любіў паўтараць: "Я стаўлю толькі тыя спектаклі, якія пра мяне самога!"

***6.*** Дзённік не вяду, ні на паперы, ні ў інтэрнэце. Вёў калісьці ў юнацтве як "спосаб самаарганізацыі асобы" (вычытаў такое мудрае азначэнне ў кнізе па псіхалогіі). Яшчэ адно мудрае азначэнне дзённіка (а паводле Эдзічкі Лімонава і літаратуры ўвогуле) – "спосаб навязаць сваю асобу свету". Хаця я разумею каштоўнасць дзённікаў як выяўлення душы чалавека і сведчання эпохі і нават люблю часам чытаць апублікаваныя дзённікі. На жаль, дзённікі большасці беларускіх пісьменнікаў шматслоўныя і папросту нецікавыя.

Да правіла "ні дня без радка" я стаўлюся адмоўна. Адразу згадваюцца радкі Мандэльштама: *Есть блуд труда, и он у нас в крови...* Навошта прымушаць сябе пісаць, калі не хочацца? Жыццё такое цікавае: сябры, каханне, падарожжы, тэатр, спорт (калісьці я з задавальненнем гуляў у тэніс, цяпер гляджу па тэлебачанні альбо ўжываю на турнірах, калі атрымліваецца). Напэўна, у мяне не было дылемы, як у лірычнага героя Алега Мінкіна: *Абрыдла мне гадзінамі / Над словам варажыць – / Мне б вырашыць адзінае / Адно: пісаць ці жыць?*

***7.*** Вядома, чытаю і нават пішу пра іх як крытык ці літаратуразнаўца. Як і на ўсё наша пакаленне «тутэйшых», на мяне ў юнацтве вельмі паўплывала проза Уладзіміра Караткевіча: папросту зрабіла беларусам. У студэнцтве я адкрыў для сябе Уладзіміра Жылку, Анатоля Сербантовіча, Алеся Разанава. У аспірантуры – тых паэтаў, пра каго я напісаў у кнізе "Як пакахаць ружу? Маладая беларуская паэзія 80-х гг." (1989). І, канечне, на мяне паўплывала – але ў адмоўным сэнсе – беларуская савецкая драматургія (пераважна сацыяльна-бытавыя камедыі альбо ваенна-гераічныя драмы). Спрацаваў эфект эстэтычнага непрымання. Хацелася пісаць інакш і пра іншае. З расійскай драматургіі мне з маленства падабаўся Яўгені Шварц (у дзіцячай тэатральнай студыі мы гралі ягоную п'есу "Два клёны" – мая адзіная тэатральная адукацыя), пазней, дзякуючы літоўскаму тэатру, я "дарос" да ўспрымання і, спадзяюся (хоць не да канца перакананы), да разумення Антона Чэхава, а прыехаўшы ў Польшчу, адкрыў для сябе парадаксальны тэатр Вітальда Гамбровіча і Тадэвуша Ружэвіча. З сучаснай расійскай драматургіі мне найбольш цікавы Іван Вырыпаеў (захапляюся яго здольнасцю змяняцца з кожнай п'есай і знаходзіць арыгінальную мастацкую форму для сваіх неадназначных ідэяў), з сучаснай літоўскай – Марус Івашкявічус (дарэчы, па паходжанні ён напалову

беларус), з сучаснай беларускай (на жаль, спрэс рускамоўнай) – Андрэй Іваноў, аўтар выдатных п'ес "Это все она" і "С училища". Рэдка чытаю беларускую прозу (за выключэннем таго года, калі я быў у журы прэміі Гедройца), але з цікавасцю прачытаў усе тры раманы Артура Клінава, тры кнігі эсэістыкі Альгерда Бахарэвіча і з найвялікшым задавальненнем – раман-эсэ Ганны Севярынец "Гасцініца «Бельгія»". З сучаснай беларускай паэзіі мяне не пакідае абыякавым жанр пад назваю "паэзія пратэсту", для душы чытаю вершы Алега Мінкіна, а нядаўна адкрыў для сябе ранняга Алега Бембеля (інтымную лірыку, дарэчы). Калі б з усёй сусветнай літаратуры прымусілі вылучыць трох аўтараў, якія найбольш на мяне паўплывалі – гэта беларус Уладзімір Караткевіч, англічанін Клайв Стэйплз Льюіс (у польскіх перакладах) і канадзец Гай Гэврыэл Кей (у рускіх перакладах).

***8.*** Хтосьці з маіх папярэднікаў (здаецца, Уладзімір Арлоў), адказваючы на гэтае пытанне анкеты, слушна зазначыў: сучаснай беларускай літаратуры не хапае чытача. З пункту гледжання драматурга скажу – не хапае гледача, які б разумеў беларускую мову. Сёння рэпертуар нашых абласных і большасці сталічных тэатраў спрэс рускамоўны. Калі ў такім тэатры раптам ставіцца спектакль па-беларуску, рэжысёр на першай рэпетыцыі папярэджвае акцёраў: граем спектакль на замежнай мове, усё павінна быць зразумела без слоў! У мяне такое адчуванне, што за выключэннем выпадкаў супрацоўніцтва з Купалаўскім тэатрам і РТБД я трыццаць гадоў пісаў п'есы для замежнага гледача. Таму драматургам, якія робяць першыя творчыя крокі, я пажадаў бы дажыць да часоў, калі ў Беларусі будзе не пяць, а трыццаць пяць беларускамоўных тэатраў і ім не трэба будзе рэалізоўваць свой творчы патэнцыял у суседніх краінах.



# Віктар Казько

### ЧАСУ І ЛЁСУ ВЫКЛІК

Усім адразу, што можна назваць працай, літаратурная творчасць мне і бачыцца, якой бы ні была – гэта сутнасць нашай існасці. Толькі тут я пазбягаў бы аднаго: грамадзянскі абавязак. Хто з нас думае, калі садзіцца за стол і бярэ ў руку лыжку, коле дровы ці косіць траву, аб грамадзянскім абавязку. Ці не прыдумка гэта розных, вынаходліва гуляючых словам, часам і станам чалавека ідэалогій і ідэолагаў, што імкнуцца апраўдаць свой хлеб: узвялі прыстойнае існаванне чалавека ў дабрачыннасць і доблесць. Жыццё ж пазбягае мудрагельства, высакалобага балабольства на пустым месцы.

Ці не таму ўвогуле мы страцілі давер да ўсіх узнёсла высокіх слоў. Забыліся, што пад прыгожым рознакаляровым хвастом у кожнага паўліна. У нашым звычайным бытаванні і абыходку ўсё куды прасцей, больш разумна і грунтоўна: хочацца есці. А каб есці штодзень – трэба нешта рабіць, тапіць печ, чысціць прыбіральні ці складаць песні і казкі – апраўдваць свае месца і званне чалавека. Гэта перш-наперш апраўдваецца ў працы і працай, каб гульбішчы зноў не загналі нас на пальмы.

Чаму і пачынаў шахтавым электраслесарам, праходчыкам, забойшчыкам на шахтах Кузбаса, журналістам. Каб потым,

калі ўсытыч заняўся літаратурным рамяством, увайшоў у сённяшні дзень не-не ды і пытацца ў сябе: а навошта гэта мне было трэба? Навошта сённяшні непраходны боль галавы... Рабіў бы і рабіў у шахце, галава балела б толькі пасля выходных, па панядзелках. І ў пяцьдзесят пяць гадоў пайшоў, мо і ардэнаносна, на заслужаны адпачынак, ганаровую пенсію. А так трубіць і трубіць, як меднаму кацялку, гарбець і гарбець над белым аркушам паперы да скону сваіх дзён.

І тут толькі што моўленаму не трэба даваць веры: гэта якраз адтуль – ад грамадскага абавязку, нябеснага прызвання. Нашае прызванне і наш абавязак на гэтым свеце – быць чалавекам і годна спраўляць любую працу. Чым без падману, «сопляў і вопляў» бачыцца мне літаратурная творчасць. Тут зноў я канчаткова ўжо адкінуў бы пазначэнне «літаратурная творчасць». Між іншым і таму, што я і сам сёння не спасціг, не ведаю, што гэта такое: творчасць, а тым болей літаратурная, мастацкая. Яшчэ ўчора, маладзей быў, ведаў, а сёння, забі мяне, не ведаю. Не выключана таму, што да чвэрці свайго веку ці не кожны чалавек геній, а пасля – Навінкі, псіхіятрыя і дыягназ. Такая самагубная здаецца адметнасць нашага цяпер жыцця. Такія спусташальныя кулянні, такая спатыкальна непрадказальная няўпэўненасць нашага, як цяпер лічыцца, узорна дастаткова самаўпэўненага дваццаць першага стагоддзя: дасканалае ўмельства пераліваць з пустога ў парожняе – калі трэба, дык трэба – чорнае лічыць белым, голаму гвалціць голага і галасіць: сарочку не парві, пакутаваць калі не ад паносу, то залатухі з нябачнымі над намі карагодамі каранавірусаў часу.

Ці не таму стаміўся, амаль страціў сёння здольнасць штохвілінна здзіўляцца і бласлаўляць надзённы хлеб, час, бачыць сябе ў ім тое, што завецца творчасцю. Мяне цяпер больш дзівяць, займаюць зусім не як усталявана, пазначана прыгожае пісьменства, а нешта ці не надта істотнае, пабочнае, яго складнікі. Адкуль у яго ногі дый рукі раслі і ці растуць сёння, хаця месца іх росту куды як пабольшала. Чаму плавіліся і ці не сплавіліся ад яго цяпер ужо мазгі: як літара пераўтвараецца ў слова і слова тое ківае нам пальцам ці не з пячор яшчэ. І ці праўда што і на пачатку было менавіта слова. Слова пераўтваралася, як крынічка, у ручай, у сказ, рэч, казань.

Пытанне старое і, на маю думку, больш хвалюе таго, хто ўжо ці не страціў, згубіў у сабе гэта, дараванае яму, яшчэ пячорнымі продкамі слова. зведзенае да немачы прыслугоўваючымі часу мова- і літаратуразнаўцамі. Варта толькі ўзгадаць: “Товарішч Сталін, вы большой учёный і в языкознаніі знаете вы толк...” Такіх талковых тлумачальнікаў мовы сёння хоць касой касі. А яны самі косяць і косяць: беларускай мовы няма, украінская – дыялект расійскай (рускай). Нічога апроч грэблівасці выклікаць гэта не можа. А між тым іх шэрагі растуць і растуць, павялічваюцца і павялічваюцца, нараджаючы самазабыццё і разгубленасць. На жаль, не толькі ў літаратуры. Вымушаючы амаль усіх і кожнага на кожным кроку, кожнай думкай спатыкацца. І нічога не папішаш. Такі самаспатыкальны наш да абсурду фантасмагарычны век, што паспяхова выпальвае і нішчыць, затоптвае культуру, інтэлект, абвальвае час, насяляючы яго жывёльным статкам, быдлам, пераўтварае гісторыю ў памыйна-выграбную яму сучаснасці. Зводзіць чалавека да дэбільна-зданевага, інтэрнэтна-віртуальнага існавання Элачкі людажэркі Ільфа і Пятрова. Хаця тая Элачка была нуль нулём, але нулём усё ж будучым, сёння дык і даляравым, круглым і агрэсіўным, падобным цяпер у нас паўсюдна пануючаму атрутнаму баршчавіку – пустазеллю не толькі літаратурнаму.

Што ж такая сёння жыццёвая прыкмета часу, яскрава паказальная, як колісь паказальным было мастацтва. У прыватнасці, літаратура: класічна старажытная, сярэднявечная, крытычна-

рэалістычная і нават сацрэалістычная, якую я прагнуў зведаць усю да кроплі ў дзіцячым памкненні спазнаць праўду і сэнс жыцця, каб ні менш ні больш змагацца са смерцю. Даравацьсвaім роднымсваёймаці, якая пакінула мяне аднаго на гэтым свеце, загінула ў вайне ў дваццаць пяць гадоў. І таму я накінуўся на кнігі, што галодны воўк на авечак у аўчарні... Чытаў і чытаў, глытаў кніжку за кніжкай. Па пяцьсот старонак кожны дзень, такую я паставіў сабе задачу. Чакаў адкрыцця вечнасці. Не адбылося, не знайшоў і не дачакаўся. Горш за тое, ад расчаравання, а мо і ад кніжнага пераядання савецкай літаратуры, сацрэалізму тае пары, у сталасці ўжо не засталося і следу. Асыпалася, як сплыло вадой, канула ў нябыт. Дарэчы, у памяці добра захаваліся ўсё ж казачныя творы, самі казкі. З-за такой прыхамаці памяці я зрэзаўся на экзаменах у літінстытуце: аніяк не мог успомніць імя героя твора выбітнага савецкага аўтара. А чытаў жа, чытаў яго і нават, помню, захапляўся.

Але гэта спадарожна. Між тым, трэба адзначыць, што тая літаратура сацрэалізму ўсё ж была прывязаная да жыццёвых рэалій тае пары, хаця і цалкам прыпнутая да патрэбаў ідэалогіі свайго часу і ў нейкай меры і да чалавека ў гэтым часе, яго планетарнай сутнасці ды існасці... Таму што тады гэта быў яшчэ нязжыты да рэшты спадкаемна адзіна жывы і непарыўна аб'яднаны арганізм. А мастацтва, літаратура нябачнай метафізічнай повяззю гэтага арганізма – са светам і сусветам. Космасам, што ў кожным з нас і над намі, прымушаючы і надаючы нам зямную і планетарную свядомасць, упадабляючыся своеасаблівым камертонам, метраномам і барометрам культуры – інтэлекту, інтэлектуальнага здароўя культуры, стану грамадства.

Літаратура тады яшчэ не збыла адчуванне часу і гісторыі. Творца, мастак, літаратар яшчэ верыў і спадзяваўся. У яго тунэлі яшчэ не згасла святло. Ён бачыў сэнс у сваім існаванні і сваёй працы. Тое, што сёння ўжо пад цяжкім пяском і травой небыцця, незапатрабаванымі кладамі раскідана па ўсёй нашай краіне пад спарахнелымі і каменнымі крыжамі і без. І мы маем тое, што маем. На могілках мінуўшчыны і свежых яшчэ магілах час правіць баль. Замест культуры – бясконцы бессаромны культ неабмежаваных сэксу, шоу, забойстваў, гвалту. Разліванае мора чалавечай, мо і тагасветнай крыві, што прапаноўвае нам спажывецка-ненажэрны век-ваўкадаў. Усё здабытае продкамі і асвечанае стагоддзямі дагнівае на сметніках, як макулатурных, так і адыходна-пластыкавых, што захапілі ўжо і акіяны, ці не па-д'ябальскім наказе і хаценні рэвалюцыйна здадзены нажу, сякеры, ядрава распылены – і не толькі па Зямлі. Планета, а разам з ёй і чалавек, яго інтэлект і культура, іх вымяральнікі – на сметніку апакаліптычнага стагоддзя пачынаюць смярдзець сатвораным, у тым ліку і самой творчасцю, калісь прыгожым пісьменствам. Пляваць у вочы сабе, космасу, сусвету. Ледзь-ледзь ліпіць душа ў целе. Як ні дзіўна, прабіваецца скрозь тэхналагічна дараваны чалавецтву асфальт і бетон цывілізацыі. І ці не таму, што нашымі ж продкамі надта моцны быў закладзены яшчэ ў глыбінях часу падмурак: сусветны ўзор і шэдэўр: "Слова аб палку Ігаравым". Янка Купала перакладаў яго са старажытнай царкоўна-беларускай. Той самай беларускай, будзем шчырымі, якой у народзе сёння амаль няма, у лепшым выпадку – трасянка, жывёльная мякіна ад намалоту збожжа, з'едзенай, сточанай жорнамі і мышамі былой велічы, што сёння толькі праблісквае надзеяй і абяцаннем рана ці позна адрадзіцца зноў зернем. Але мы перад усім светам узорна цярплівыя, і што нам значыць наша беларускае рана ці позна. Ці не ў гэтай узаемнай супярэчлівасці, гуляючы ў "паддаўкі" і "дурня", хаваецца зноў тая ж самая містычная неспазнанасць творчасці.

Калі танчаць уваччу літаркі, калі рэжацца словам горла, калі іскра божая не падманна засціць вока, як ты ні

адбівайся – не хочаш, ды мусіш рана ці позна здацца. Прыгавораны здацца. Здацца таму, што ў табе і над табой, таму, што ўжо было і чаму няўсцерп быць. А наконт айчынна нашага рана ці позна, на маю думку, мы ўвогуле запознена былыя людзі з непраходнай жарсцю няздзейсненасці, неадбытасці ад усведамлення сваёй страчанасці. Страчанасці вялікай і магутнай краіны, народу, матчынай мовы.

Вялікі сум ад незапатрабаванасці нават праху страчанай радзімы: Вялікага Княства Літоўскага, узорным прыкладам творцы якога, прабачце, але, на маю думку, можна лічыць генія сусветнай літаратуры Фёдара Міхайлавіча Дастаеўскага. Перапрашаю – расійскі пісьменнік і чалавек? А ўчытайцеся, удумайцеся, чый там дух, якой там Руссю пахне: "дышит почва и судьба". Родавае кублішча Дастаеўскіх – Дастоева, нашым Палессем збудаванае і звітае. А ад свайго, няхай і збытага колішняга кубла не адхрысцішся. Гэта ўжо ў генетычнай памяці, у крыві. А родная кроў акажа сябе і на тым свеце. Маці-Радзіма гоніцца за кожным з нас, як бы мы і ў каго б ні перахрышчваліся. Адна толькі прыкрая акалічнасць: нашы адносіны да дару нам божага. Я шукаў у Дастоева слядоў генія. Мне сказалі: нешта было, нешта было. Пайшло на падмурак свінарніка. Што ж, з'ява адметная і тыповая у нас: у вёсцы Дудзічы помнік цару вызваліцелю ад прыгоннага права Аляксандру Другому таксама пайшоў на падмурак свінарніка. Нічога не скажаш, свінарнікі ў нашай айчыне сёння ў пашане.

А між іншым насуперак усяму неабвержнае сведчанне нас у сусвеце – беларускія галасы ў той жа расійскай літаратуры Віктара Астаф'ева і нават нобелеўскага лаўрэата Івана Буніна і невынішчальнасць беларускага акцэнту ў гаворцы Аляксандра Твардоўскага. На такі ж беларускі акцэнт паўсюдна кульгаюць і шмат іншых творцаў па ўсім свеце. Тое ж можна сказаць і аб лепшых нашых колішніх і сённяшніх творцах, што захавалі сябе ў нашым культава-людажэрным стагоддзі. У часе нашага выбару, ахвотна прымусовага лёсу, што скручвае нам галаву і збівае нас з тропу. Вымушае захоўваць калі ўжо не мову, то хаця б акцэнт.

Мяне з гэтага акцэнту збіў, выкруціў з будзённасці існавання на першы погляд мо і нязначны выпадак. У адну з майскіх навальніц ад маланкі загарэлася невялічкая вясковая хатка непадалёку ад школы, дзе мы, дзетдомаўцы, у той вясновы дзень адбывалі чарговы ўрок. Зарыва таго маёвага пажару палыхнула ў вокны школы і нашы вочы. І мы, як пераспелыя гарошыны са стручкоў гароху, радасна пасыпаліся з дзвярэй і вокан класа. Пагода каторы тыдзень стаяла сухая, зямля і хаты высмяглі ад спёкі. І вяскоўцы, пэўна, ужо не спадзяваліся адстаяць ад агню хатку, як і свае хаты, у большасці крытыя чаротам і саломай. Кінулі яе тушыць і, як могілкавыя гракі ці вароны на могілкавай капліцы, заселі на дахах сваіх хатаў, час ад часу па магчымасці палiваючы іх вадой. А мы, весела набеглыя дзетдомаўцы, адбілі ад агню амаль ужо прыгавораную хатку: па кружачцы вады, па жменьцы пяску прыдушылі агонь, хаця асабіста мне было і шкада яго: прыгожа, магутна, відовішчна – на ўсё дзетдомаўскае навучанне гарэла і ўражвала. Пра гэты агонь я напісаў у рэспубліканскую дзіцячую газету "Зорька", хаця і беларускага навучання, але на рускай мове. Атрымаў адказ: пра агонь вы напісалі захапляльна. Але чым ён скончыўся, што сталася з хаткай. Ці ўратавалі яе?

Я зазлаваў на сябе: як жа так упусціць галоўнае... Гэта і сталася маім творчым дэбютам, лёсавым на ўсё жыццё з усімі бачнымі і нябачнымі наступствамі. Я выйшаў з таго пажару, агню, як саламандра. Недарэмна кажуць, на свеце ёсць тры рэчы, якімі зачароўваюцца: тое, як гарыць агонь, цячэ вада і робіць сусед. Я ўпэўніўся у гэтым на сваёй скуры, набыў у вясковым пажары. Трохі пазней, калі ўжо добра паездзіў і пахадзіў па свеце, купіў

выратаваную ў дзяцінстве ад спалення хатку. Выратаваную ў нейкім родзе і мной. Вось і мяркуйце пра выпадак гульні лёсу, наканаванне. Такая побытавая містыка, такое творчае сатварэнне сябе і грамадскага абавязку. Пішам не мы, жыццё стваральна піша за нас.

Памяць аб вясковым звычайным пажары, маёвым агні, утварыўшым яго, пайшла за мной праз час і адлегласць, назаўжды засталася ўва мне зачараванасцю стыхіі агню, і не толькі назірання за ім, але і дзейнасці разбурэння і ўтаймавання, уратавальнай стыхіі – побач былі дзве ракі, магутная маці Прыпяць і яе маленькая дачушка Случ. А вакол мяне – бясконцасць вяскова-сялянскай працы. Удзень я ў склянь насычаўся гэтым на ўсе вочы і вушы, а ўначы ў сненнях зноў і зноў праходзіў, пракручваў і калярова занатоўваў дзённай памяццю перажытае, удзячнасцю жывога дыхання ўратаванай хаткі, бягучай вады, вясковай працы, ходзячы па гасцінцы пражытага і перажытага, што і было маім хросным бацькам і хроснай маці. Іншых не мелася. А мо іх было столькі, што і пералічыць немагчыма: ад Якуба Коласа, Янкі Маўра да Джанатана Свіфта, Вальтэра Скота, Фенімора Купера і Жуль Верна. У дзетдоме ў вёсцы Вільча на Жыткаўшчыне я быў запісаны ў тры бібліятэкі: сваю, дзетдомаўскую, школьную і сельсавецкую. Да апошняй было дзевяць кіламетраў туды і столькі ж назад, дзве вёскі і дванаццаць масткоў з рабымі чарапахамі, якія грэліся на сівых бёрнах у сонечны дзень, выбухова падалі ў ваду пры маім набліжэнні да іх. А гэта адбывалася два-тры разы на тыдзень. І было звычайнасцю. Нічога прадказальна адметнага. Хаця ці не ўсе мы, амаль усе мае равеснікі таго часу галечы і нішчымніцы ў пошуках долі прыпалі да кніжак, увогуле, як бы сёння сказалі: пакаленне жыло творча – чытала, малявала, спявала, пераказвала вусна сябрам прачытанае, складала казкі для сябе і пра сябе, і пра невядомае. Мо нават трохі перагнаў свой час, здзяйсняючы некім усё ж нарачонае будучае, якому, на жаль, тым жа некім было забаронена адбыцца.

Творцам жа сябе ніколі не лічыў. Творцам для мяне і маіх сяброў быў Іван Мележ, калі мяне перавялі ўжо ў Хойніцкі дзетдом. Ён хадзіў па мястэчку, сёння здаецца ў чорных акулярах і накульгваючы, з кавенькай – наступствы франтавога ранення, – а мы, стаіўшы дых, чарадой бегалі за ім і наглядалі: жывы, жывы пісьменнік. І побач, побач, непадалёку ад дзетдома.

Паверыў трохі ў сябе не толькі як у дзетдомаўца і пэтэвушніка пасля высокай адзнакі, ухвалення майго дыпломнага праекта ў літінстытуце выбітным крытыкам і філосафам з асяроддзя “Нашего Современника” Міхаілам Лабанавым, а найбольш – пасля добрых слоў навамiраўскага пісьменніка пары А.Т. Твардоўскага Віталія Сёміна і крытыка часопіса Ганны Сямёнаўны Берзер, якая шмат і шмат каго блаславіла ў літаратуру і ў свой час адкрыла аповесць Аляксандра Салжаніцына “Адзін дзень Івана Дзянісавіча”.

Пра адметнасць сваёй, так бы мовіць, творчай працы сказаць мне няма чаго. Нават словамі А.С. Пушкіна: ай ды сукін сын ты, Віцька. Увогуле ад таго, чым я жыву і што раблю, адварочваюць словы “творчая праца”. Ці варта пра самога сябе марна раскідвацца такімі азначэннямі. Я далучыў бы да іх яшчэ і шмат іншых, накшталт: наш брат пісьменнік – ага, у цябе яшчэ ёсць такі ж, як і ты, брат? І таму ці гожа смецiць і злоўжываць словамі творчасць, натхненне і падобнымі да іх. Ці вядома гэта, ці прыме гэта араты, што ранкам бярэцца за плуг, альбо рабочыя, токар ці слесар, якія ў прыцемках яшчэ спяшаюцца на працу. Не вельмі сціпла ўзносіць, уздымаць самога сябе на п’едэстал – патыхае надта ж распаўсюджанымі сёння хваробамі. Свядомае жаданне неабходнасці працаваць прыходзіць ужо ў працы, калі ты паяднаны з ёй. Яе пачаткам і нараджэннем – гэта адначасова пачатак і нараджэнне цябе,

хай так яно ўжо і – творчага – калі праца ладзіцца, сведчыць аб тваім умельстве і здольнасці вырабіць нешта людскае. І не толькі за пісьмовым сталом, падпарадкаваннем табе белага і чыстага аркуша паперы, як і такарнага станка, зямлі – майстэрскі вытачанай дэталі, удала пракладзенай разоры. І тут пачынаецца зваротная сувязь цябе са справай. І ты, як у народзе кажуць, ужо мо нават і не хочаш, але мусіш.

У гэтым нашым зрэбным мусіш рабіць шмат чаго, на першы погляд, пабочнага, але ўсё ж край неабходна вызначальнага, накшталт таго, з якой нагі ты, калі прачнешся, устанеш. Напрыклад, адзін звык, каб яго ў працы суправаджаў пах гнілых яблык, другі – трымаць ногі ў гарачай вадзе і г.д. Прыхамаці, зразумела. Але ў іх, у дробязях, прыхавана палягае нашае існаванне, крыецца стваральная ці разбуральная дзейснасць нашага характару. Пра сябе я сказаў бы: шкаляр, які адвяргае чыстапісанне без кляксаў пяра, амаль двоечнік, але з закідамі і прыхамацямі, таму з цыгарэтай і кавай. Але ніколі ўсё ж пад час пісання – чаркай... З дыктафонам і кампутарам разышоўся, як і з векам: пазбягаю чужога вока на сабе, тэхнічнага падганятага і паганятага, што, на маю думку, прымушае да паспешлівай механічнай канвеернасці, абмежаванасці ўласнай волі, што адбіваецца на інтанацыі слова і сказа. Разумею, што тут у кожнага сваё, і я трымаюся свайго. Па палескім вясковым звычаі, каб не сурочыць, не трапіць на зайздраснае вока да заканчэння працы ні з кім не дзялюся, што раблю.

Як віталіся Серапіёнавы браты – расійскае літаб'яднанне пачатку дваццатага стагоддзя – крыху перайначыў словы М. Горкага: дзень добры, брат, пісаць заўсёды цяжка. Кожны раз зноў і зноў напружанне, адчай, уздым і слодыч чагосьці непраясненатумановага, бражным хваляваннем абуджанага табой у табе ж думкай, душой, сэрцам, што не падпарадкуюцца табе і не ўладна над табой. А табе трэба саўладаць з гэтым, зацугляць яго і сябе – нармальны працэс, нармальная праца прыватніка-аднаасобніка: быць працаўніком на гэтым свеце заўсёды цяжка. Затое потым, потым...

За адчаем і акрыленасцю пачатку – наплыў спакою выспявання таго, што ты насіў і носіш у сабе: карпенне, цярпенне, каб праз іх напрыканцы першапачатковы зварот няпэўнасці з усплёскам слодычы: зрабіў, дамогся, але... усё не так, як хацеў і задумваў. Добрыя намеры і здзяйсненні ідуць не толькі хадой голуба, але і спапяляльным агнём нездавальнення. На тым стаім і стаяць будзем, пакуль не згасне і не адамрэ жаданне і разуменне, што ўсё трэба рабіць як упершыню і як для сябе. Галоўная ж мэта працы не толькі каб не памыліцца і не схібіць – не схлусіць самому сабе. Таму пазней, пасля зробленага, слухаю кожнага. Але, як гаворыцца, веру не кожнаму зверу: усіх не наслухаешся. Гэта своеасаблівая пастка, пастка, з якой і не выблытаешся. Прымаю толькі сугучнае з тым, што ўва мне, што падавала голас, а не ўвасобілася на паперы

Нягледзячы на ўнутраную напружанасць, адвяржэнне ўсяго пабочнага падчас працы шмат чытаю і сур'ёзнага, і макулатурнага. Шукаю, лаўлю слова і нерв іншых і іншы, адрозныя ад маіх, лаўлю водгук на сваё. Тут, пэўна, варта прыгадаць Ганну Ахматаву: "Когда б вы знали, из какога сора растут стихи..."

Зусім не вежа са слановай косткі, а іменна акаляючае жыццё, сваё і чужое смецце найбольш спрыяюць і пасоўваюць да здзяйснення задуманага. Апальваючая рэальнасць наваколля, пазбавіцца якой нармальнаму чалавеку нават у шале і вар'яцтве немагчыма. Больш плёну паддацца і зліцца з ёй. І тут ужо аказвае сябе ступень зруху, сыходу, прабачце, у так званую бажавільнасць ці блюзнерства, якія усё ж таксама павінны быць нармальнымі для таго свету, у якім, зноў жа, мы мусім знаходзіцца. Праўдзівая адлюстраванасць найбольш сакрытага ў сабе – лепшае сведчанне шчырасці тва-

рэння, яго запатрабаванасці чытачамі. Адсюль і адвечная незадаволенасць, жаданне перайначыць сваё жыццё, перапісаць наноў. Толькі яно, на жаль, кароткае і толькі адно.

Вынік – расчараванне ў самім сабе і зробленым табой. Каб пазбавіцца гэтага, патрэбна ні болей ні меней як памерці. Асэнсаванае тваё жыццё на гэтым свеце – адзіны судны дзень з жорсткім прысудам. І то, калі сам-насам уначы. Апраўданнем на світанні, таму што неабходна жыць усё ж паўсядзённа, каб не змарнець, не зачэзнуць у прывіднасці вечнага спачыну яшчэ на гэтым свеце. Ад чаго і перачытванне ў сненнях самога сябе, перабіранне ўласнага жыцця. Ганенні і гоны за сваёй жа біяграфіяй, з чаго і вынікае створанае табой, адначасова з адсутнасцю яе – толькі цьмяная здань і прывід твайго мроення сябе. Набліжэнне да пражытага і ўцёкі ад яго. Гэта больш адлюстраванне, адбітак і памяць часу, у якім ты па сваёй ахвоце ці змушана павінен знаходзіцца. І таму такія пакручастыя павароты, паяднанне, зліццё і разбурэнне сутнага. Трызненне ў сненнях і на яве. Пакора і бунтоўнасць ад жадання і немагчымасці пераменаў. Такое ўжо наканаванне нам і нашай натуры, мяцежнай нашай памяці кожнага на зямлі, што надыктоўвае спіральнасць нашага існавання, і нязбыўнасць добрых намераў, няўлоўную імгненнасць не толькі думкі, але і нечага больш значнага, што ценем зводзіць нас да невымяральнасці.

Таму, пэўна я не давяраю і не вяду дзённікаў. Зноў жа, паводле крыху перайначанага Цютчава: слова не толькі моўленае, але і напісанае – хлусня. Сам працэс пісання, як гэта ні здаецца дзікім, ужо таксама хлусня. Імкненне самападмануцца і падмануць іншых, каб выглядаць у вачах гэтых іншых і самога сябе хоць трошкі ды лепшым. Я не прыхільнік ні дня без радка, пісьмовага, а таго ж радка ў памяці, свядомасці свайго звычайна-побытавага, мітуслівага існавання. І тут, каб хто ведаў, колькі ўва мне напісанага. Не на паперы, а ў паветры, непакою і няўрымслівасці нададзенай мне памяці. Гэта пакрокавая фотакартка хвіліна за хвілінай маёй хуткасна-прабеглай сутнасці. Толькі я надта ж гультаяваты, каб псаваць паперу і марнаваць час, дзённікава занатоўваючы ўсё гэта. Лепш схаджу ў грыбы ці на рыбалку, вазьму чарку з сябрамі. Хаця варта адзначыць, раней я ўсё ж наракаў на сябе і змагаўся са сваёй лянотай.

Цяпер жа здаўся ёй. І шчаслівы: вышэй сябе, сваёй натуры і канстытуцыі куцай не скочыш. Дый ці варта скакаць, выдзыгацца і пацяшаць некага, таму што, як некалі сказаў Стэйнбек, амерыканскі пісьменнік, у амерыканскім грамадстве яго роля нешта накшталт сярэдняга паміж акрабатам і цюленем. На маё разуменне – малпай. Асабліва сыходзячы з нашай рэальнасці і ў адносінах да нас, нашага часу, гэтае меркаванне куды як слушнае, калі нашая роля, роля слова, значнасць асобы літаратара і літаратуры апушчаная да экспанатаў музеяў васковых фігур. Слова больш марыянетачна-трыбуннае бетанаванымі блокамі панельнай будовы. Балаганна-цыркавога куляння ў хвалях пустой балбатні, натхнёнага шалупіння хлусні, ад якой немагчыма ні адбіцца, ні выплыць – толькі сцяцца і падмануцца.

І таму я часцяком заказваю сабе будзённую штодзённасць, прымушаю сябе да сыходу з яе туды і ў тое, што мне даспадобы. Часам вельмі і вельмі далёка, у нікуды, а часам – толькі за парог уласнага пакоя: у мінулае і будучае, іншыя светы і нават тагасветнасць. Дзе я вольны, дзе мяне не гвалтуюць, аголена не раскрыжоўваюць шалам дэкларавання майго дабрабыту, дзе толькі я і маё слова. І я смакую яго, кручу і перакручваю ў сабе, умываю і абгладжваю, чышчу, як гэта прарабляе ў вечнасці з каменем рака. Сам уцякаю з паўсядзённага ў вечнасць: у лес, дуброву і бор, да вады, ракі, возера, ручая – да рыбалкі ці грыбалкі, з чым у мяне сёння больш даверу і паразумення.

Калі ж адварочвае белы аркуш

паперы, калі зусім не пішацца – пішу. Пішу немасцю, немым словам у трызненні бяссоння да знямогі. Усё ж сверб пісання, калі яно ачулася ў кім бы то ні было – нязбыўны і непраходны. Вечны. Кожны з пакараных ці параднёных са словам, у большай ці меншай ступені графаман, а ў дадатак яшчэ трохі і шызафрэнік. Вылечаных, былых пісьменнікаў, як і кадэбэшнікаў, не бывае.

І зноў жа, напісанае мной уначы ў пакутах бяссонніцы магло б скласці тамы і тамы. Такім чынам, відавочна, што творчасць параднёная з цемрай, пакутлівым азарэннем вынікае з яе і ў ёй жа хаваецца. Спакушае і пацвельвае кожнага з нас, нават неадукаваных, як некалі абмовіўся аб адной паэтцы І.П. Шамякін: яна не вельмі адукаваная, але пісьменніцай можа быць. Ці не сыходзячы з гэтага і прысуд, што належыць, як лічаць, А.Т. Твардоўскаму: коцікаў трэба тапіць, пакуль яны сляпыя. Казаў так Аляксандр Трыфанафіч ці не – пытанне. Але гэта крыважэрнае *ці не* з пячорнай глыбіні і цемры нашага існавання, калі тых коцікаў яшчэ, пэўна, і не ахатнілі, але ўжо здагадваліся, што занадта багата іх – лішак. Гэта надзённа і слушна і сёння, калі відавочна, што стварае дваццаць першае стагоддзе са сваімі сляпымі яшчэ ці відушчымі ўжо коцікамі. І не толькі літаратурнымі, увогуле з мастацтвам, культурай. Сапраўды, такі час, такая эпоха. Надта ж пранікліўыя і разумныя сённяшнія коцікі: страшна нават толькі паглядзець ім у вочы, у якіх кожны з нас – адлюстраванне і партрэт часу і эпохі, чалавека, які ён ёсць, а не пнецца быць.

Ці не адсюль, з выкрывальна кацінага розуму, бярэ пачатак наша гора. Што так горка спазнаў і ўведаў А. Грыбаедаў: гора ад розуму, на які пакутуе сённяшні чалавек. Вядома, шмат і шмат хуткіх думкай так званых вундэркіндаў яшчэ да сталасці заканчваюць у псіхушках, лякарнях ад алкалізму і наркаманіі. Прыгадваю вучобу ў літінстытуце: ці не таму нашы выкладчыкі скептычна ставіліся да ранніх студэнцкіх публікацый у часопісах і выдавецтвах. Не ўхвалялі жадання выйсці на сцэну ці кінаэкран да завяршэння вучобы і ў акторскіх вузах: галоўка яшчэ слабенькая, а мніцца, што ўжо самога Бога за бараду ўхапілі. Генетычна-мадыфікаваныя арганізмы, прабіркава, лабараторна ўзгадаваныя, выпеставаныя так званай навукай будучага, падобна, усё ж не надта жыццёва-трывалыя.

У паранаідальнай, з першагу кроку штучнай узбуджанасці творчым натхненнем губляецца ці не ўсё сапраўднае, натуральнае, падманна падмяняецца і апраўдваецца сурагатамі. Сёння, на маю думку, надта мадняцкім і распаўсюджаным у паўсядзённасці, як усякае пустазелле, псіхааналізам паводле Фрэйда і іншых вытворных ад яго мазгаправаў – пошасць, захапіўшая ўся і ўсё. Гэта ці не самы вялікі зараз пласт шызафрэнічнай і графаманскай літаратуры. Найбольш практыкуюцца сёння ў ёй калялітаратурныя дамачкі, і завецца гэта *жаночай літаратурай*. Попытава і накладова пануе ў мастацтве з падзёншчынай, махлярствам, спекуляцыяй нашага спажывецкага часу, падобна каранавірусу, каросце фальшывых творцаў падробак і вытворчых ад іх мыльных тэлесерыялаў, хваробай пакарання веку чалавецтву, што страціла вартасць і годнасць, здольнасць самастойна, без спадзяванняў на Бога і д'ябла, без мыліц, ісці ў будучыню, доўжыць і працягваць сябе.

І сёння ужо ёсць ахвяры ад страты саміх сябе, жыць на падпорках, хадзіць на мыліцах, на повадзе: не паспеўшы нарадзіцца, адразу ж і сканала тэлебачанне, усклаўшы на сябе ролю месіі, ролю найноўшага і найвышэйшага мастацтва. А таму адразу ж прыбранае, прыдушанае дыктатам улады, прыстасаванствам і гатоўнасцю ўслугоўваць ёй. Прывіднасць, прытворная здольнасць мімікрыраваць з аднаго боку – адметнасць мастацтва, але з другога – гэта і магільшчыкі творчасці, культуры. І ў першую чаргу, самога творцы. Калі

ў яго такая гнуткая на ўсе ветры і ўсе бакі свету спіна. І тут мімаволі ўзгадваецца: трэба дапамагаць таленавітым, а бездары праб'юцца самі. Варта пашкадаваць недалёкае яшчэ мінулае, як партызанскае пакаленне адносілася да творчасці маладых, рыхтавала сабе змену, хаця і наракала, што не бачыць яе. Бачылі. Бачылі Янка Брыль, які чытаў кожную кніжку маладых. Бачыў Васіль Быкаў і заклапочана гаварыў аб гэтым. Тое ж можна сказаць і пра Івана Шамякіна, калі пісьменніцкі саюз на чале з ім, апроч іншага, займаўся яшчэ і клопатам аб творчасці, літаратуры. Тым, што з цягам часу і на сённяшні дзень пайшло ў тартарары: творчыя пытанні былі падменены гаспадарчымі, а найбольш – ідэалагічнымі. Пра сёння ж гаворкі няма і не можа быць, калі ў нас, як у тым анекдоце пра паветраныя шары, якія пакупнік прынёс здаваць назад у лаўку. Чаму? Не радуюць. Ці не тое ж самае, не кажу ўжо з літаратурай, з кніжкай: кнігарні не бяруць, не прымаюць нават дарэмна кніжак. І не выключана, сёння, заўтра запалаюць кніжныя вогнішчы. Парадуемся.

Але вяртаючыся да вышэй моўленага, аддаючы належнае партызанскай плеядзе творцаў з бароў ды зямлянак, ці не як з гогалеўскага шыняля выйшла ўжо наступнае пакаленне пісьменнікаў, якое, на маю думку, перабрала бацькоўскіх клопатаў апекавання. У нейкай ступені пазбавіла самастойнасці. А разам з гэтым і бунтоўнасці, прывучыла да паслухмянасці, чаго павінна перасцерагацца сапраўднае мастацтва: не баяцца боязі і не страшыцца страху, што садзейнічае сацыяльнаму замбаванню. Ці не менавіта ў гэтым якраз і ёсць наша беларуская хвароба і бяда. Паўсюль ідзе забыццё саміх сябе, вынішчэнне, вытоптванне думкі і культуры. Мы немачна губляем сувязь з сусветам. Надышоў такі дзень, калі можна праспаць саміх сябе, увогуле – заснуць і не прачнуцца. І таму ў нашых творах адасабленне ад творчасці мінулай, дый сённяшняй, у лепшых яе праявах. Мы местачковыя, правінцыяльныя творцы, надоўга, калі не назаўсёды, дэпрэсіўныя, амаль згодныя быць і не быць: абы чарка і шкварка, ды не было б вайны.

Уражанне, якое боязна і агучваць: здаецца, што ў сённяшніх маладых творцаў няма біяграфіі. У значнай большасці яе хапае на адзін-адзіны твор, які, па сведчанні знаўцаў, здольны напісаць кожны. Адзін твор, і ўсё, працягу няма, што наводзіць на сумны роздум: а ці ёсць увогуле працяг у нашай мастацкай літаратуры? Горкае пытанне. Але хоць у пятлю, хоць у пельку, з ім трэба звяртацца да сённяшняга дня. Хацелася б заставацца аптымістам, які яшчэ чытае старыя папяровыя кніжкі. Хацелася б верыць. Хацелася б верыць, што яны яшчэ вернуцца да нас, як вяртаюцца з выраю птушкі, якіх, дарэчы, бацькаўшчына пазбавіла грамадзянства, забараніўшы таварыства аховы птушак. Цяпер яны па-за законам. Каб сарокі-белабокі не спарваліся з чырвонагаловымі дзятламі, белых чаек не згвалцілі стракатыя і чубатыя вырадкі ўдоды, а вясковыя наркоты канаплянікі-вераб'і не збіраліся ў сваіх каноплях больш за тры і не чырыкалі.

А я адтуль, дзе птушкі яшчэ былі роўнымі з намі, вольнымі. Параднёныя са мной і маімі бацькамі і дзядамі, якія ладзілі ім буслянкі, шпакоўні і дуплянкі. Я адтуль, дзе яшчэ вучыліся матчынай мове ў беларускай школе. Дзяўчаты не саромеліся чырванець, і калі яны смяяліся, на іх шчоках гулялі ямачкі. І я меў свае слова, слова, мову маёй бабулі, на якой яна гаварыла ўсе сто дванаццаць гадоў свайго жыцця. І прозвішча яе было Говар. І яе говар ува мне.

# Нашыя аўтары

**Адам Мікола** – празаік, паэт, перакладчык. Аўтар кніг вершаў «Калыханка для каханай», «Вайна, прыдуманая мною» ды інш., кніг прозы «Шоўк», «...І прыдбаў гэты дом», «Сёстры». Перакладае з украінскай мовы. Нарадзіўся ў 1978 годзе ў вёсцы Мікалаеўшчына на Стаўпеччыне, дзе і жыве.

**Ажэшка Эліза** – польская пісьменніца беларускага паходжання. Аўтарка раманаў «Пампалінскія», «Сям'я Брохвічаў», «Над Нёманам», «Арганаўты», аповесцяў «Апошняе каханне», «Нізіны», «Марта», «Дзюрдзі», «Хам» і інш. Нарадзілася ў 1841 годзе ў маёнтку Мількаўшчына на Гарадзеншчыне. Памерла ў 1910 годзе ў Гародні.

**Барысюк Таццяна** – паэтка, празаік, літаратуразнаўца, перакладчыца. Аўтарка кнігі вершаў «Аўтапартрэт», кампаратывістычных прац «Сон у беларускай і польскай паэзіі 80-90-х гадоў XX стагоддзя», «Традыцыі англійскага і польскага рамантызму ў сучаснай беларускай паэзіі», «Пошукі бессмяротнасці ў сучаснай беларускай і рускай паэзіі» ды інш. Нарадзілася ў 1971 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Бутэвіч Анатоль** – празаік, перакладчык, эсэіст. Аўтар кніг «Прыгоды лісціка-карунчыка», «Прыгоды памаўзлівай Рыскі», «Прыгоды віруса Шкодзі», серыі кніг «Сем цудаў Беларусі», рамана «Каралева не здраджвала каралю», гістарычных эсэ «На далонях вечнасці». Перакладаў творы С. Лема, Э. Ажэшкі, Э. Хемінгуэя, Д. Олдрыджа, Р. Курыльчыка і інш. Нарадзіўся ў 1948 годзе на хутары Язавец на Нясвіжчыне. Жыве ў Мінску.

**Гіль (Гілевіч) Мікола** – празаік, перакладчык, публіцыст. Аўтар кніг прозы і публіцыстыкі «Ранішнія сны», «Пуд жыта», «Ёсць на зямлі крыніца», «Тэлеграма з Кавалевіч», «Пасеянае – узыдзе», «Камандзіроўка ў Вішанькі», «Кім і Валерыя» і інш. Нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Слабада на Лагойшчыне. Памёр у 2022 годзе.

**Дубавец Сяргей** – празаік, крытык, публіцыст, выдавец. Аўтар кніг «Практыкаванні», «Дзённік прыватнага чалавека», «Русская книга», «Вострая Брама», «Вершы», «Як? Азбука паводзінаў», «Сіні карабель у блакітным моры плыве» ды інш. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2015). Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Мазыры. Жыве ў Вільні.

**Кавалёў Сяргей** – драматург, паэт, крытык, літаратуразнаўца. Доктар філалагічных навук. Аўтар кніг «Мэва», «Як пакахаць ружу», «Партрэт шкла», а таксама зборнікаў п'ес «Хохлік», «Стомлены д'ябал», «Навука кахання», «Сёстры Псіхеі» ды інш. П'есы ставіліся ў Беларусі, Украіне, Расіі, Польшчы, Славакіі. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Магілёве. Жыве ў Любліне (Польшча).

**Казько Віктар** – празаік, публіцыст, кінасцэнарыст. Аўтар кніг прозы «Добры дзень і бывай», «Суд у Слабадзе», «Высакосны год», «Цвіце на Палессі груша», «Выратуй і памілуй нас, Чорны бусел», «Неруш», «Дзікае паляванне ліхалецця», «Час збіраць збіраць косці» ды інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1982), прэміі «Залаты Апостраф» (2013), прэміі імя Ежы Гедройца (2014). Нарадзіўся ў 1940 годзе ў Калінкавічах на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Караткевіч Уладзімір** – празаік, паэт, драматург, публіцыст, перакладчык, кінасцэнарыст. Аўтар кніг «Матчына душа», «Блакіт і золата дня», «Мая Іліяда», «Каласы пад сярпом тваім», «Чазенія», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Зямля пад белымі крыламі», «Нельга забыць», «Чорны замак Альшанскі», «Быў. Ёсць. Буду.» і інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1984). Нарадзіўся ў 1930 годзе ў Оршы. Памёр у 1984 годзе.

**Касяк Канстанцін** – празаік, гісторык. Тэксты друкаваліся ў газетах «Літаратура і мастацтва», «Звязда» і «Літаратурная Беларусь»; часопісах «Маладосць», «Бярозка», «Дзеяслоў», «Сівер» і «Макулатура», а таксама на сайце кампаніі «Будзьма беларусамі!». Нарадзіўся ў 1987 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Кульбак Мойшэ** – паэт, раманіст, драматург. Пісаў на ідыш. Быў абраны старшынёй Сусветнага габрэйскага ПЭН-клуба (заснаваны ў 1927 годзе). Быў сябрам Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР.

Аўтар кніг «Шырым» (вершы), «Горад» (паэма),«Беларусь» (паэма), «Янкеў Франк» (драма), «Панядзелак» (раман), «Буня і Бера» (гумарыстычная паэма) і інш. Нарадзіўся ў 1896 годзе ў Смаргоні Віленскай губерні (цяпер Гродзенская вобласць). Расстраляны ў 1937 годзе.

**Леванові́ч Леанід** – празаік, драматург. Аўтар кніг нарысаў «Гаспадар зямлі», «Зялёны трохкутнік», «Вяртанне ў радыяцыю», прозы «Мадонна з кветкаю», «Якар надзеі», «Шчыглы», «Дзікая ружа», «Сіняе лета», публіцыстыкі «Хлеб і мужнасць» і інш. Нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Клеявічы на Магілёўшчыне. Памёр у 2021 годзе.

**Макмілін Арнольд** – брытанскі філолаг-славіст, прафесар, папулярызатар беларускай літаратуры. Доктар славянскай філалогіі. Прафесар рускай літаратуры Лонданскага ўніверсітэта. Даследаваў навуковую дзейнасць Я. Карскага, Я. Чачота, творчасць Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, З. Бядулі, В. Быкава і інш. Аўтар кніг «Напісанае ў халодным клімаце: беларуская літаратура ад 1970-х гадоў да нашых дзён», «Рунь», «Паэзія і пародыя ў Беларусі і Брытаніі: дзве культурныя традыцыі» ды інш. Нарадзіўся ў 1941 годзе ў Ньюкасле (Англія). Жыве ў Лондане.

**Паўлікава-Хейдарава Людміла** – паэтка, перакладчыца. Аўтарка кніг вершаў «Адведзіны рамонкавай паляны», «Тваё святло», «Купанне ў росах», «Плач па Анёлу», драматычнай паэмы «Можна і Нельга», зборніка прозы «Дарт». Лаўрэатка літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча (1996). Нарадзілася ў пасёлку Ялізава. Жыве ў Мінску.

**Русецкая Наталля** – паэтка, перакладчыца. Перакладае паэзію і драматургію з польскай мовы. Аўтарка кніг паэзіі «Два бяссонні» і «Каштаны ў кішэнях», манаграфіі «Сямейная муза», прысвечанай паэтычнай творчасці Ф.У. Радзівіл. Нарадзілася ў 1974 годзе ў горадзе Новы Урэнь (Расія). Жыве ў Любліне.

**Сідарук Ігар** – паэт, драматург, празаік. Аўтар кніг «Чарнабел», «Моўкнасць», «Павучальныя гісторыі дзядзечкі Сіда Рука», «Квадратная варона» ды інш. Нарадзіўся ў 1964 годзе ў Кобрыне, дзе і жыве.

**Скібскі Яўген** – паэт, перакладчык, публіцыст. Тэксты друкаваліся ў часопісах і газетах «Верасень», «Маладосць», «Тэрмапілы», «ЛіМ», «Новы час» («Літаратурная Беларусь») ды інш. Укладальнік калектыўнага зборніка вершаў «Страшна не пачуць голас твой». Нарадзіўся ў 1974 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Сцепанюк Андрэй** – паэт. Творы друкаваліся ў газеце «Ніва», часопісе «Дзеяслоў», альманахах «Белавежа» і «Тэрмапілы». Аўтар кнігі вершаў «Расісаны квадрат». Дырэктар ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Бельску-Падляшскім, дзе і жыве.

**Сыс Сяржук** – паэт, журналіст. Аўтар кніг вершаў «Стрэмка» і «Павук». Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2008). Нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Заспа на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Трафімчык Анатоль** – паэт, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Пасведчанне аб нараджэнні», «Ноты цноты», «Лірыка Лірыка», «Вобраз Тадэвуша Касцюшкі ў беларускім мастацкім слове», «1939 год і Беларусь» і інш. Нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Вялікія Круговічы на Ганцавіччыне. Жыве ў Мінску.

**Хадановіч Андрэй** – паэт, перакладчык. Аўтар кніг паэзіі «Лісты з-пад коўдры», «Старыя вершы», «From Belarus with love», «Сто лі100ў на tut.by», «Бэрлібры», «Несымэтрычныя сны», «Нататкі таткі», «Цягнік Чыкага-Токіё», «Школа травы» ды інш. Перакладае з ангельскай, французскай, польскай, украінскай і інш. моваў. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2007), прэміі імя Карласа Шэрмана (2017), прэміі імя Наталлі Арсенневай (2020). Нарадзіўся ў 1973 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Шапран Сяргей** – журналіст, публіцыст. Аўтар шматлікіх інтэрв'ю з дзеячамі беларускай культуры, літаратуры, мастацтва, якія друкаваліся ў газетах «Знамя юности», «Советская молодежь» (Рыга), «Белорусская деловая газета» і інш. Аўтар кніг: «Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах», «Тры мяхі дзядзькі Рыгора, альбо Сам-насам з Барадуліным» ды інш. Нарадзіўся ў 1968 годзе ў Рызе. Жыве ў Мінску.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**

**Лаўрэаты літаратурнай прэміі
«Залаты апостраф» —
за лепшыя публікацыі ў часопісе «Дзеяслоў» у 2021 годзе:**

***«Паэзія».*** **Аксана ДАНІЛЬЧЫК. За нізку вершаў
«Другая чвэрць», №113.**

***«Проза».*** **Людміла ХЕЙДАРАВА. За раман-фэнтэзі
«Княгіня Дарута, або Чалавечая кроў ліпучая», №113-114.**

***«Дэбют».*** **Дзяніс МАЦЕША. За нізку вершаў
«Прымі маё цяпло», №114.**





**«Дзеяслоўцы» шчыра віншуюць новых лаўрэатаў!**

Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры передруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Міраслава Адамчыка, Анатоля Клешчука, Уладзіміра Крука, Джона Кунстадтэра, Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.